НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ІМЯ К. КРАПІВЫ

# Беларусы

## ГІСТОРЫЯ ЭТНАЛАГІЧНАГА ВЫВУЧЭННЯ

## 3

МІНСК
"БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА"
1999



# УВОДЗІНЫ

ЭТНАЛОГІЯ (ад грэч. ethnos — народ + logos — вывучэнне) як спецыялізаваная галіна гістарычнай навукі вывучае этнасы-народы, іх культуру і быт ад старажытных часоў да нашых дзён. Асноўная ўвага надаецца вывучэнню спецыфічных асаблівасцей этнічнай культуры і быту, а таксама рыс, агульных з іншымі этнасамі. Побач з аналізам агульнага і асаблівага (спецыфічнага) этналагічная навука разглядае адзінкавае, пасобнае, на базе якога пазнаецца спецыфічна-асаблівае, характэрнае для дадзенага этнасу.

На сучасным этапе ў этналогіі вызначыўся пэўны комплекс праблем: этнагенез і этнічная гісторыя, матэрыяльная (прылады працы, жыллё, адзенне, ежа і інш.) і духоўная культура (народная творчасць, светапогляд, норавы, традыцыі, абрады, вераванні, народныя веды ў галіне медыцыны, метэаралогіі, метралогіі і інш.), сямейны, грамадскі і вытворчы быт народаў. Найбольш актуальныя задачы этналогіі — вывучэнне сучасных этнічных працэсаў (узаемадзеяння, узаемасувязей этнічных культур) і змяненняў у быце і культуры народаў. Новыя задачы па ўсебаковаму вывучэнню працэсаў, што адбываюцца ў быце і культуры народа на сучасным этапе, выклікалі неабходнасць прымянення ў этналагічных даследаваннях сацыялагічных метадаў.

Этналогія як навука па сваіх метадалагічных пазіцыях і тэарэтычнаму зместу цесна змыкаецца з усімі іншымі грамадскімі навукамі, а ў залежнасці ад характару і спецыфікі аб'ектаў вывучэння — з некаторымі прыродазнаўчымі навукамі. Пры вывучэнні этнагенезу, этнічнай гісторыі і асабліва першабытнага грамадства этналогія стыкуецца з гісторыяй, археалогіяй і антрапалогіяй. Роднымі сёстрамі этналогіі з'яўляюцца навукі, якія вывучаюць фальклор і народнае мастацтва. Без геаграфіі немагчыма сабе ўявіць вывучэнне такіх пытанняў, як рассяленне і міграцыя насельніцтва, этнічная тэрыторыя і межы розных этнасаў, распаўсюджванне і ўзаемаўплыў у розных з'явах быту і культуры. На глебе вывучэння сучасных этнічных і культурна-бытавых працэсаў этналогія цесна змыкаецца з сацыялогіяй і этнапсіхалогіяй.

Этналогіі належыць немалаважная роля ў развіцці нацыянальнай культуры беларускага народа. У дарэвалюцыйны час ва ўмовах шматвяковай барацьбы народа за сваё нацыянальнае і культурнае

развіццё супраць польскіх нацыяналістаў і рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў, якія праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў, этналогія садзейнічала ўстанаўленню гістарычна справядлівых поглядаў на гэты народ і яго культуру. Прынамсі, этналогія з'явілася той навукай, якая даказвала, што беларусы ў братняй сям'і ўсходнеславянскіх народаў складаюць асобную нацыю са сваёй гісторыяй, мовай, спецыфічнымі рысамі культуры і быту, што адрозніваюць яе ад іншых народаў свету.

Пры вызначэнні месца этналогіі ў нацыянальным і культурным развіцці дарэвалюцыйнай Беларусі неабходна мець на ўвазе тую акалічнасць, што гэтая навука была афіцыйна дазволенай, у той час як беларуская літаратура і іншыя галіны нацыянальнай культуры царызм імкнуўся душыць у самым зародку. Таму этналагічная літаратура была самай шматлікай. Аб'ядноўваючы сабою ў той час уласна этналогію, фалькларыстыку, мовазнаўства і этнічную гісторыю народа, беларуская этналогія шырока адлюстроўвала не толькі важнейшыя асаблівасці культурнага развіцця народа, але разам з тым садзейнічала далейшаму прагрэсу і іншых галін нацыянальнай культуры. Этналагічная літаратура, напісаная з дэмакратычных і прагрэсіўных пазіцый, паказвала багацце культурнай спадчыны народа, абуджала пачуцці нацыянальнай самасвядомасці, дапамагала кансалідацыі сіл народа. Дзякуючы этналагічным ведам культурная спадчына беларусаў улілася ў скарбонку сусветнай навукі.

Гістарыяграфічныя нататкі па беларускай этнаграфіі пачалі з'яўляцца ў другой палове XIX ст. Як правіла, яны ўключаліся ў прадмовы публікацый фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў (П. А. Гільтэбрант, П. А. Бяссонаў, Е. Р. Раманаў, М. В. Доўнар-Запольскі).

У 1866 г. П. А. Гільтэбрант у "Зборніку помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі"[1] называе некалькі фальклорных зборнікаў і артыкулаў сваіх папярэднікаў (Р. Зянькевіча, артыкулы ў "Этнаграфічным зборніку") і спрабуе даць ім сваю ацэнку. Гэты агляд, калі яго можна так назваць, Гільтэбрантам зроблены з пазіцый вялікадзяржаўнага шавінізму. У прыватнасці, ён ганьбуе ўсю этнаграфічную літаратуру аб беларусах польскіх вучоных.

Першы грунтоўны агляд беларускіх фальклорна-этнаграфічных зборнікаў і артыкулаў быў зроблены П. А. Бяссонавым у прадмове да зборніка "Беларускія песні"[2]. П. Бяссонаву былі вядомы важнейшыя працы польскіх, рускіх і мясцовых збіральнікаў беларускага фальклору і бытавых матэрыялаў, дзейнасць якіх праходзіла ў 1800—1870 гг. Бяссонаў называе зборнікі П. Кірэеўскага (рукапіс), Л. Галамбёўскага, Я. Чачота, Р. Зянькевіча, А. Рыпінскага, Я. Тышкевіча, П. Шпілеўскага, выданні Рускага геаграфічнага таварыства (працы І. Юркевіча, М. Анімеле, А. Кіркора), працы афіцэраў Генеральнага штаба, зборнікі П. Гільтэбранта, М. Без-Карніловіча, І. Эрэміча, І. Насовіча, М. Рубяроўскага, М. Дзмітрыева і інш. Ён спрабуе высветліць тэндэнцыі некаторых аўтараў гэтых прац, аднак пры гэтым выказвае непаразуменне асноўных напрамкаў у этнаграфічнай навуцы таго часу. Заўважаючы антырускую тэндэнцыйнасць некаторых прац польскіх аўтараў (напрыклад, Рыпінскага), Бяссонаў да гэтага напрамку адносіць і рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. "Наогул, — пісаў ён, — гэты напрамак, звязаны, гаварылі мы, з выхаваннем і справай польскіх паэтаў,

[1] Гильтебрант П. А. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вильна, 1866.

[2] Бессонов П. Белорусские песни. М., 1871.

паўтарыўся і ў нас: пачынаючы з ранейшага "Современника"[3]. Як славянафілу і абаронцу вялікадзяржаўнай палітыкі, Бяссонаву аднолькава быў чужы і рускі рэвалюцыйна-дэмакратычны, і польскі нацыяналістычны рух.

Разам з тым у аглядзе Бяссонава, калі гэта датычыцца разгляду асобных работ з пункту гледжання іх значнасці і дакладнасці фактычнага матэрыялу, маюць месца і аб'ектыўныя выказванні. Ён правамерна дае высокую ацэнку працам П. Баброўскага, крытыкуе зборнікі Е. П., П. Гільтэбранта і А. Рыпінскага.

У 80-я гады кароткія гістарыяграфічныя агляды змяшчаюцца ў працах Е. Р. Раманава[4], М. В. Доўнар-Запольскага[5].

У канцы 80-х гадоў XIX ст. з'явіліся першыя артыкулы па гісторыі беларускай этнаграфіі А. М. Пыпіна (Вестник Европы. 1887. Кн. 4—7). Некалькі дапоўненыя, яны ў 1892 г. увайшлі ў яго чатырохтомную працу "Гісторыя рускай этнаграфіі" (Беларусь і Сібір. Т. 4). Гэта праца з'явілася першай сур'ёзнай спробай распрацоўкі гістарыяграфіі беларускай этналогіі. Нягледзячы на тое што яна была напісана пасля таго як ён адышоў ад рэвалюцыйных дэмакратаў і стаў на ліберальныя пазіцыі, у гэтай працы адлюстраваліся і прагрэсіўныя ідэі аўтара. А. М. Пыпін, у прыватнасці, паказвае, што этналогія шырока выкарыстоўвалася ў палітычных мэтах (руска-польская барацьба за Беларусь). Прагрэсіўным у працы Пыпіна было і тое, што ў ёй беларуская этналогія выдзелена ў самастойны раздзел.

Асноўная заслуга Пыпіна перад этнаграфічнай навукай нашай краіны — яго чатырохтомная праца "Гісторыя рус-



1. А. М. Пыпін (1833—1904)

кай этнаграфіі". Першы і другі тамы прысвечаны агляду этнаграфічных прац рускіх, трэці — украінцаў, чацвёрты — беларусаў і народаў Сібіры. Частка чацвёртага тома, прысвечаная Беларусі, складаецца з сямі раздзелаў, у якіх на агульным гістарычным фоне даецца агляд важнейшых прац польскіх, рускіх і беларускіх этнографаў па быту і культуры беларускага народа.

Агляд гісторыі этналагічнага вывучэння Беларусі Пыпін робіць у цеснай сувязі з аглядам развіцця яе культуры. Этналагічную навуку і літаратуру ён разглядае як форму выяўлення самасвядомасці народа. У процівагу вялікадзяржаўнай нацыянальнай палітыцы царызму, які адмаўляў права беларускага народа на нацыянальнае існаванне, Пыпін

[3] Бессонов П. Белорусские песни. С. XXIII.
[4] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Киев, 1886. Вып. 1—2.
[5] Довнар-Запольский М. В. Новости белорусской науки // Виленский вестник. 1889. № 81.

даказвае, што "існаванне такога "племя" не падлягае сумненню"[6]. Ён правільна тлумачыць працэс складвання рускай, украінскай і беларускай народнасцей, падкрэсліваючы, што агульным коранем іх з'яўляецца старажытнаруская народнасць.

Даючы кароткую характарыстыку гістарычнага і культурнага развіцця Беларусі як пад уладай Польшчы, так і пасля ўз'яднання з Расіяй, Пыпін паказвае цяжкі панска-каталіцкі прыгнёт і ролю праваслаўных брацтваў у барацьбе супраць дэнацыяналізацыі беларускага народа, бічуе нацыянальную палітыку царызму, якую той праводзіў у Беларусі пасля ўз'яднання і асабліва пасля падаўлення паўстання 1863 г. У гэты апошні перыяд царызм інтэнсіўна праводзіў палітыку русіфікацыі краю. "Вядома, — пісаў Пыпін, — што для гэтай справы на месцы выкарыстаны былі людзі, выкліканыя з Пецярбурга і ўнутраных губерняў, звычайна раней незнаёмыя з краем, непадрыхтаваныя зразумець яго асаблівасці і якія, нарэшце, знішчаючы польскае, жадалі знішчыць і мясцовае рускае, дзе яно было не падобна на рускі быт унутранай Расіі — тая ж старая рыса ўзаемнага неразумення і няўвага да этнаграфічных асаблівасцей Заходняга краю"[7].

Характарызуючы працы польскіх этнолагаў па быту і культуры беларусаў, ён адзначае, што аўтарамі іх з'яўляюцца прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, пераважна выхадцы з апалячанага беларускага дваранства і інтэлігенцыі, ці тыя прадстаўнікі польскай шляхты, якія ўжо даўно жывуць у Беларусі. Пыпін слушна падмеціў, што аўтары многіх прац нярэдка выказваюць спачуванне працоўнаму чалавеку, даюць яму парады, як можна палепшыць становішча, і нават звяртаюцца да паноў, каб яны клапаціліся аб народзе. Гэтыя тэндэнцыі ў вывучэнні быту беларусаў польскімі этнографамі ён тлумачыў наступным чынам: "Была любоў да сваёй мясцовай радзімы, да яе гістарычнай і бытавой абстаноўкі, да народнага звычаю, знаёмага з дзяцінства і ў панскім асяроддзі; у гэтым асяроддзі не чужой была народная (у дадзеным выпадку беларуская) мова, да якой прывыклі ад нянек, хатняй прыслугі і ад вясковых рабочых; многія з паноў самі беларусы, здаецца, да даволі позняга часу не былі канчаткова паланізаваны, і мова беларуская часткова трымалася і ў гэтым асяроддзі як родная; у мясцовай "засцянковай", "ваколічнай" шляхты — тым больш. Народна-рамантычны напрамак літаратуры супадаў і з прыхільнасцю да яго ў самім жыцці"[8].

Аднак усю літаратуру першай паловы XIX ст. аб Беларусі на польскай мове Пыпін абвінавачваў у нацыяналізме. Ён аднолькава падыходзіў да прац ліберальнага і прагрэсіўнага напрамку (Чачот, Зянькевіч, Тышкевіч) і да прац рэакцыйна-нацыяналістычнага напрамку (Галамбёўскі, Рыпінскі), і да літаратурнай дзейнасці Дуніна-Марцінкевіча. Такім чынам, Пыпін не змог глыбока разгледзець розныя плыні і напрамкі ў культурным развіцці Беларусі ў першай палове XIX ст.

Значную частку чацвёртага тома "Гісторыі рускай этнаграфіі" Пыпін прысвячае працам рускіх вучоных па беларускай этналогіі і агляду этнаграфічных прац мясцовых даследчыкаў. Ён адзначае, што да 60-х гадоў рускія даследчыкі быту народа не звярталі патрэбнай увагі на вывучэнне Беларусі. Першыя этнаграфічныя звесткі былі

[6] Пыпин А. Н. История русской этнографии. СПб., 1892. Т. IV. С. 4.

[7] Там жа. Т. IV. С. 23.

[8] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 59.

выпадковымі і не заўсёды адлюстроўвалі сапраўдны малюнак жыцця беларусаў.

Пыпін дае высокую ацэнку працам мясцовых даследчыкаў І. Грыгаровіча, П. Шпілеўскага, П. Баброўскага і І. Насовіча, а таксама коратка характарызуе працы Рускага геаграфічнага таварыства і афіцэраў Генеральнага штаба, якія друкаваліся ці рыхтаваліся да друку ў 50-х гадах.

Перыяд да 60-х гадоў для этналогіі Беларусі Пыпін характарызуе як першапачатковы. Беднасць этналагічнай літаратуры аб Беларусі на рускай мове ён тлумачыць шэрагам прычын, адной з якіх лічыць вялікадзяржаўную палітыку царскага ўрада да гэтага краю. "Цікавасць грамадства, — пісаў Пыпін, — да заходнерусскага пытання не была і не магла быць поўнай: па сутнасці, яно было пастаўлена толькі з вузкапалітычнага пункту погляду, амаль выключна ў сэнсе антыпольскіх рэпрэсій, і ўласна народна-грамадскі бок справы не знайшоў у той час, ды і пасля, адлюстравання..."[9]

Другой важнейшай прычынай, якая стрымлівала развіццё этналогіі ў дарэформенны перыяд, было прыгонніцтва. Пыпін вельмі ўдала паказвае гэту залежнасць: "Гаварыць аб "народзе" ў колькі-небудзь шырокім і сур'ёзным сэнсе слова не было магчымасці да таго часу, пакуль нельга было закрануць грамадскі бок яго быту — прыгоннае права... Пытанне заставалася недаступным для грамадскай думкі, а разам і для літаратуры: гаварыць аб беларускім народзе, як і прымаць надта блізка да сэрца інтарэсы народа рускага (велікарускага), азначала б перш за ўсё гаварыць аб вызваленні, аб праве народа на лепшае грамадскае становішча, на школу і г.д."[10]

Пачаткам новага этапа ў этналагічным вывучэнні Беларусі Пыпін лічыць 60-я гады XIX ст., звязваючы гэта з рэформай 1861 г. і з палітычнымі падзеямі 1863 г. Даследчык паказвае, што амаль уся руская літаратура аб Беларусі ў гэты перыяд мела антыпольскую накіраванасць. З вялікадзяржаўным русіфікатарскім падыходам былі выдадзены атласы Беларусі Эркертам і Рыціхам, працы Каяловіча і фальклорны зборнік Гільтэбранта. З гэтай жа мэтай планавалася этнаграфічная экспедыцыя РГТ у Беларусь.

Разам з тым Пыпін адзначае, што ў гэты час пачынаюць паяўляцца і этнаграфічныя працы, у якіх у першую чаргу ставіліся навуковыя мэты. Да такіх прац ён правамерна адносіць зборнікі Рубяроўскага, Дзмітрыева і Крачкоўскага (артыкулы 60-х гадоў).

70-я гады характарызуюцца Пыпіным як перыяд далейшага развіцця апошняй тэндэнцыі ў вывучэнні народа, хоць яшчэ і працягвалася ганенне "элементаў краю нярускіх і нават элементаў мясцова беларускіх, калі яны былі не зусім падобнымі да чыноўніцкага ўяўлення аб рускай народнасці"[11].

70—80-я гады XIX ст. у этналагічнай навуцы Беларусі Пыпін называе "навейшым часам". Яго радуе, што ў гэты час колькасць літаратуры па быту і культуры беларусаў значна павялічылася, і асабліва тое, што навуковыя мэты ў ёй ставіліся на першы план. "Навука, — пісаў ён, — не мае месца ў ваяўнічых, поўных нецярплівасці і варожасці настроях грамадства, і сапраўды, наколькі мізэрныя былі фальшыва-навуковыя даследаванні папярэдняга перыяду, настолькі багатыя вынікі даследаванняў, што былі задуманы з непасрэд-

---

[9] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 65.

[10] Там жа. Т. IV. С. 66.

[11] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 124.

най любоўю да народа і з адным імкненнем знайсці гістарычную ісціну"[12].

З этнолагаў, якія працавалі ў 70—80-х гадах, Пыпін характарызуе толькі найбольш значных — Насовіча, Шэйна, Раманава, Дамбавецкага, Крачкоўскага, крыху закранае Нікіфароўскага і Доўнар-Запольскага. Некаторае месца адводзіцца разгляду зборніка песень П. Бяссонава і характарыстыцы этнаграфічнага выдання "Жывапісная Расія". Пыпін паказвае, што дзейнасць пералічаных этнографаў адкрыла новы этап у развіцці этналагічнай навукі Беларусі. Асабліва высока ацэньвае ён зборнікі Шэйна і Раманава. Раманава ён вылучае асобна, паколькі той у адрозненне ад іншых збіраў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы сам. Пыпін называе яго "руплівым дзеячам беларускай этнаграфіі"[13].

Крытычныя заўвагі Пыпіна ў адносінах да этналагічных прац 70—80-х гадоў носяць ужо больш прадметны характар, чым раней. Ён займаецца пытаннямі методыкі збірання і класіфікацыі сабраных матэрыялаў. Так, зборнікі Насовіча і Бяссонава крытыкуе за адсутнасць ці недастатковасць пашпартызацыі сабраных матэрыялаў, ставіць пад сумненне тлумачэнні беларускіх абрадаў Бяссонава, "дзе аўтар не ўтрымаўся ад сваіх звычайных "навуковых" дзівацтваў"[14]. Раманава, напрыклад, крытыкуе за недакладную класіфікацыю фальклорных матэрыялаў і за адсутнасць у яго зборніках 80-х гадоў апісанняў звычаяў і абрадаў.

Звяртаючыся да агульнай характарыстыкі працы Пыпіна па гісторыі беларускай этналогіі, трэба адзначыць, што яна мела для свайго часу вялікае значэнне як першы вопыт абагульнення тых дасягненняў, якія былі зроблены ў этнаграфічным вывучэнні беларускага народа. Гэта праца адыграла вялікую ролю ў папулярызацыі этналагічнай навукі і ў актывізацыі новых сіл на высакародную справу вывучэння быту і культуры народа.

Новая спроба агляду прац па беларускай мове, фальклору і этнаграфіі была зроблена ў пачатку XX ст. Я. Ф. Карскім. У сувязі з тым што галоўнай задачай агляду беларусазнаўчай літаратуры для Карскага з'яўляўся паказ верагоднасці яе як крыніцы для вывучэння беларускай мовы, у яго працу не маглі ўвайсці многія чыста этналагічныя працы, прысвечаныя матэрыяльнай культуры беларусаў. Я. Ф. Карскі ў сваім аглядзе асноўную ўвагу ўдзяліў аналізу методыкі запісу і публікацыі фальклорна-этналагічных матэрыялаў, іх пашпартызацыі, дакладнасці перадачы на пісьме фанетычных асаблівасцей мясцовых гаворак.

Гістарыяграфіі пытанняў беларусазнаўства прысвечаны сёмы раздзел першага тома "Беларусы" (1903) — "Нарыс вывучэння жывой беларускай мовы і народнай паэзіі". У ім Карскі абагульніў усё тое, што было зроблена ў вывучэнні мовы, фальклору і быту беларусаў рускімі, беларускімі і польскімі вучонымі на працягу XIX — пачатку XX ст. (да 1903 г.).

Агляд прац па этналогіі Беларусі Карскі пачынае з характарыстыкі "Апісання Крычаўскага графства 1786 г." Андрэя Меера, а далей у храналагічнай паслядоўнасці закранае публікацыі Ігнація Шыдлоўскага, Марыі Чарноўскай, Лукаша Галамбёўскага, Аляксандра Рыпінскага, Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Рамуальда Падбярэскага, Яўстафія Тышкевіча.

---

[12] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 125.

[13] Там жа.Т. IV. С. 162.

[14] Там жа.



2. Я. Ф. Карскі (1860—1931)

Найбольш каштоўнымі Карскі лічыў зборнікі Я. Чачота, асабліва выдадзеныя ў 1844 і 1846 гг., а таксама працу Я. Тышкевіча "Апісанне Барысаўскага павета" (1847). Разглядаюцца і шматлікія артыкулы, апублікаваныя ў рускім і польскім перыядычным друку. Неправамерна недаацэньвае публікацыі Р. Зянькевіча, аб якіх ён упамінае толькі "для паслядоўнасці" выкладання.

Сярод публікацый 50-х гадоў Карскі звяртае асаблівую ўвагу на шматлікія працы П. М. Шпілеўскага, а таксама на артыкулы Разуміхіна, І. Юркевіча, М. Анімеле, Куклінскага, А. Кіркора, апублікаваныя ў 1—2-м выпусках "Этнографического сборника", які быў выдадзены ў 1853—1855 гг. Рускім геаграфічным таварыствам.

60-я гады XIX ст. далі вялікую колькасць прац па этналогіі беларусаў. Гэта Карскі тлумачыць павышэннем цікавасці да Беларусі ў сувязі з паўстаннем 1863 г. Аднак многія з капітальных публікацый гэтага дзесяцігоддзя былі вынікам папярэдніх гадоў. Так, Карскі адзначае, што ў 1857—1859 гг. Генеральным штабам былі разасланы інструкцыі і праграмы для вывучэння Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі. Пачынаючы з 1861 г. пачалі выходзіць з друку тамы, прысвечаныя асобным губерням, пад агульнай назвай "Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба." Сярод іх найбольш каштоўнымі Карскі справядліва лічыць два тамы, прысвечаныя Гродзенскай губерні (1863), якія былі складзены П. Баброўскім.

Першым буйным зборнікам беларускіх песень 60-х гадоў Карскі лічыць "Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі" (1866), складзены П. Гільтэбрантам. Аднак ён быў падвергнуты рэзкай крытыцы з боку многіх вучоных, з чым Карскі, відаць, згадзіўся, прыводзячы вытрымкі з некаторых рэцэнзій. Даволі высокую ацэнку дае Карскі фальклорна-этнаграфічным працам М. Дзмітрыева, М. Рубяроўскага, крытыкуе зборнікі Дз. Булгакоўскага. Як і ў характарыстыцы папярэдніх дзесяцігоддзяў, Карскі прыводзіць пералік шмат якіх публікацый у перыядычным друку.

Пераходзячы да характарыстыкі этналагічных, фалькларыстычных і мовазнаўчых прац 70-х гадоў, Карскі адносна шмат увагі ўдзяліў публікацыям П. Бяссонава, у прыватнасці яго зборніку "Беларускія песні..." (1871). Аднак ён крытыкуе гэты зборнік як недасканалы з пункту погляду яго вартасці для вывучэння беларускай мовы. Станоўча Карскі ацэньвае працы І. Бермана, П. Чубінскага, Ю. Крачкоўскага.

Шмат увагі ўдзяліў Карскі навуковай дзейнасці І. Насовіча. Побач са станоўчай ацэнкай ён адзначае і недахопы, якія ў асноўным адносяцца да "Слоўніка беларускай мовы" (1870).

"На мяжы 70—80-х гг., — піша Карскі, — паставім работы двух даволі пладавітых этнографаў — Семянтоўскага і Васільевай"[15] і пералічвае іх працы.

Сярод публікацый 80-х гадоў як найбольш буйныя Карскі называе "Вопыт апісання Магілёўскай губерні..." — трохтомнік пад рэдакцыяй А. С. Дамбавецкага, трэці том "Жывапіснай Расіі" (1882), аднак са значнымі крытычнымі заўвагамі ў адрас Кіркора, які механічна перанёс матэрыялы сваіх прац 60-х гадоў з усімі іх недахопамі і запазычаннямі ў іншых даследчыкаў без спасылкі на іх. Значным лічыць ён і зборнік з уступным артыкулам Зінаіды Радчанка "Гомельскія народныя песні" (1888). Коратка спыняецца на публікацыях М. Янчука, Яна Карловіча, Уладзіслава Вярыгі, пералічвае артыкулы С. І. Карскага, Э. Ажэшкі і інш.

"З канца 80-х гадоў і да апошняга часу на ніве вывучэння беларускага быту і мовы нямала папрацаваў М. В. Доўнар-Запольскі"[16], — піша Карскі і далей уважліва разглядае яго публікацыі 80—90-х гадоў.

Агляд прац 90-х гадоў XIX — пачатку XX ст. Карскі пачынае з пераліку артыкулаў у перыядычнай прэсе і навуковых часопісах. Далей коратка спыняецца на працах Я. А. Ляцкага, які "грунтоўна азнаёміўся з прадметам"[17] даследавання. Крыху больш закранае дзейнасць У. М. Дабравольскага.

Самае вялікае месца адводзіцца характарыстыцы прац найбольш выдатных беларускіх этнографаў П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага. Шэйну, напрыклад, адведзена 27, Раманаву — 13, Нікіфароўскаму — 5 старонак тэксту сёмага раздзела І тома "Беларусаў".

[15] Карский Е. Ф. Белорусы. Варшава, 1903. Т. 1. С. 256.

[16] Там жа. С. 266.

[17] Там жа. С. 269.

Я. Ф. Карскі высока ацэньвае дзейнасць П. В. Шэйна не толькі за яго капітальныя публікацыі, але і за тое, што ён змог прыцягнуць для збірання фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў вялікую колькасць супрацоўнікаў-карэспандэнтаў. Гэта было дасягнута дзякуючы распрацаванай ім праграме з падрабязнай інструкцыяй, якая распаўсюджвалася як самім Шэйнам, так і шляхам публікацыі яе ў перыядычным друку і асобным выданнем на працягу 1867—1889 гг. Асноўную ўвагу Карскі надае разгляду трохтомнага (4 кнігі) выдання Шэйна "Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю" (1887—1902).

"За Шэйнам, — піша Карскі, — натуральна весці размову аб этнографе, які быў пэўны час самым выдатным яго супрацоўнікам, М. Я. Нікіфароўскім"[18]. Карскі адзначае, што для першых трох кніг "Матэрыялаў" Шэйна Нікіфароўскі даслаў 60 даволі ёмістых запісаў, а ў чацвёртай кніжцы (III том) амаль што пятая частка належыць запісам Нікіфароўскага. Карскі разглядае 7 прац Нікіфароўскага, у тым ліку "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі" (1895) — першую грунтоўную працу па матэрыяльнай культуры беларусаў; "Простанародныя прыкметы і павер'і..." (1897), "Нарысы Віцебскай Беларусі" (1892—1891), якія друкаваліся ў часопісе "Этнографическое обозрение".

"Адным з найбольш пладавітых сучасных беларускіх этнографаў, — піша Карскі, — які ўжо больш за 25 гадоў працуе на гэтай ніве, з'яўляецца нястомны Е. Р. Раманаў"[19]. З дзевяці тамоў "Беларускага зборніка" Раманава к часу выхаду ў свет першага тома

[18] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1. С. 298.

[19] Там жа. С. 308.

"Беларусаў" Карскага выйшла шэсць выпускаў, якія і разглядаюцца даследчыкам. Акрамя іх Карскі прааналізаваў яшчэ 11 публікацый Раманава. Адметнай асаблівасцю прац Раманава, падкрэслівае Карскі, з'яўлялася тое, што большасць матэрыялаў для іх сабрана ім самім. Разам з тым Раманаў прыцягваў да гэтай справы і многіх сваіх карэспандэнтаў.

Высокую ацэнку Карскі дае і працам М. Федароўскага. Ён разглядае тры тамы "Люду беларускага на Русі Літоўскай", якія былі надрукаваны ў Кракаве ў 1897—1902 гг.

Пасля характарыстыкі прац Федароўскага Карскі пералічвае іншыя публікацыі 90-х гадоў XIX — пачатку XX ст. у храналагічным парадку. Завяршаецца "Нарыс..." Карскага кароткім аглядам яго прац. Да нарыса прыкладаецца "Этнаграфічная карта беларускага племені: Беларускія гаворкі" (складзена ў 1903 г.).

Нягледзячы на тое што "Нарыс..." Карскага ў значнай ступені носіць бібліяграфічны характар, гэтая праца з'яўлялася значным дапаўненнем да чацвёртага тома "Гісторыі рускай этнаграфіі" А. М. Пыпіна. "Нарыс..." Карскага адыграў вялікую ролю ў прыцягненні да работы мясцовых збіральнікаў. Кожны з беларускіх этнолагаў і фалькларыстаў атрымаў пэўную ацэнку сваёй дзейнасці. Крытыка ж недахопаў у дзейнасці асобных даследчыкаў дапамагала больш плённаму вывучэнню розных бакоў жыцця народа.

Я. Ф. Карскі наогул праводзіў вялікую арганізацыйную работу па этналагічнаму вывучэнню Беларусі. Ён падкрэсліваў і развіваў лепшыя бакі ў навуковай дзейнасці беларускіх этнолагаў, і рабіў гэта ўмела. Амаль ніводная больш-менш значная праца па беларускай этналогіі не прайшла не заўважанай Карскім. Так, працы М. Я. Нікіфароўскага ён называе "выдатнай з'явай у беларускай этналагічнай літаратуры"[20]. Аб яго кнізе "Нарысы простанароднага жыцця-быцця..." Карскі пісаў, што ў ёй паказана жыццё народа дакладна і падрабязна, з любоўю да апісваемых прадметаў і з'яў[21]. "Колькі тут цікавага матэрыялу для разумення розных абрадавых песень, напрыклад вясельных, калядных, купальскіх, зажыначных... У зборніку ёсць нават матэрыялы, якія сведчаць аб наяўнасці слядоў былін у беларусаў"[22]. Для Раманава, як і для іншых этнолагаў Беларусі, Карскі быў адным з самых аўтарытэтных знаўцаў і дарадчыкаў. Калі працы Раманава былі аддадзены Акадэміяй навук Карскаму на водгук для прысуджэння прэміі, то ў 1902 г. ён пісаў: "Які б водгук ні быў, я ведаю, што гэта водгук роднага чалавека"[23]. Е. Р. Раманаў пастаянна звяртаўся за парадамі да Карскага. Так, у пісьме ад 15 лютага 1917 г. Раманаў просіць Карскага дапамагчы яму вырашыць "незразумелае" пытанне: ці ўключаць у 10-ы выпуск "Беларускага зборніка" казкі "аб разбойніках, якія раскаяліся"[24], а 30 жніўня 1921 г. звяртаецца да Карскага з пытаннем, што рабіць з казкамі, якія запісаны самімі сялянамі-грамацеямі. "Пажадана даведацца аб Вашым меркаванні, якім я і буду кіравацца пры канчатковым вырашэнні гэтага пытання"[25].

Цесныя творчыя сувязі ўстанавіў Карскі з Е. Р. Раманавым. У сваю чаргу Раманаў стараўся дапамагчы Карскаму ў яго працы над "Беларусамі". Так, у пісьме ад 15 снежня 1901 г. Раманаў пісаў: "Карыстаючыся некалькімі вольнымі мінутамі, спяшаюся Вам паве-

[20] РФВ. 1897. Т. 38. № 3—4. С. 347—348.
[21] Гл.: ЖМНП. 1896. Май. С. 153—155.
[22] РФВ. 1897. Т. 38. № 3—4. С. 348.
[23] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 124, л. 9—10.
[24] Там жа, л. 23.
[25] Там жа, л. 24—25.

даміць, што і сябе і "Могилевские ведомости" аддаю ў поўнае Ваша распараджэнне, калі гэта будзе патрэбна для поспеху Вашай капітальнай працы. Даўно нам трэба было ўзяцца за яе". Раманаў раіць Карскаму перад вызначэннем этнаграфічных межаў Беларусі правесці экспедыцыю, "наведаць нашы краі, асабліва пагранічныя месцы, і скласці аб іх перакананне на аснове асабістых назіранняў"[26].

Пасля выхаду ў свет першага тома "Беларусаў" Раманаў 21 снежня 1903 г. пісаў Карскаму: "Я ўвесь знаходжуся пад уплывам Вашай цудоўнай кніжкі, недахоп якой даўно ўсімі намі адчуваўся. Колькі экземпляраў у Вас ёсць? Я хачу распаўсюдзіць іх па ўсіх народных вучылішчах пакуль што свайго ўчастка, а потым усёй губерні. Яна па ўсёй справядлівасці павінна быць настольнай кніжкай у кожнай пісьменнай беларускай сям'і. Рэцэнзіі я пастараюся ў хуткім часе змясціць у некалькіх выданнях, каб абвясціць беларусаў аб яе выхадзе і пазнаёміць з яе багатым зместам"[27].

Цеснымі былі творчыя сувязі Карскага з беларускім этнолагам П. В. Шэйнам. Пэўны час Я. Карскі з'яўляўся карэспандэнтам П. Шэйна. Паміж імі была наладжана сістэматычная і ажыўленая перапіска. Частка гэтай перапіскі захоўваецца ў Архіве АН у Пецярбурзе.

Ужо ў першым сваім пісьме да Шэйна, адпраўленым з Вільні 19 верасня 1887 г., Карскі пісаў: "Выконваючы сваё абяцанне, спяшаюся выслаць Вам абяцаныя беларускія песні... наогул з дастаўленымі мною матэрыяламі рабіце, што хочаце"[28]. З гэтага часу і да апошніх дзён жыцця Шэйн звяртаўся да Карскага за дапамогай і парадамі. Пад рэдакцыяй Карскага выйшаў III том беларускага зборніка П. В. Шэйна "Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю" (1903).

Карскі становуча ўспрыняў рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа ў гады першай рускай рэвалюцыі. Ён, напрыклад, дапамагаў газеце "Наша ніва", хоць і не быў цалкам згодны з яе напрамкам.

Надзвычай уважліва Карскі ставіўся да дзейнасці Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Ён прапанаваў ім праграму, у якой указваў на неабходнасць абагульнення ўжо зробленага ў галіне этналогіі, фальклору і мовы, на неабходнасць складання беларускага слоўніка. Асаблівую ўвагу звяртаў на вывучэнне народнага быту. Карскі аказваў гуртку арганізацыйную і матэрыяльную дапамогу.

Карскі наладзіў цесную сувязь з беларускай выдавецкай суполкай "Загляне сонца і ў наша аконца".

Дзейнасць Я. Ф. Карскага па вывучэнню быту і культуры беларускага народа і яго арганізатарская работа ў гэтай галіне мелі вялікае значэнне для развіцця беларускай этналогіі.

Я. Ф. Карскі заслужана лічыцца заснавальнікам беларускай філалогіі. Ён заклаў асновы беларускага мовазнаўства, літаратуразнаўства і фалькларыстыкі. З такім жа правам Карскага можна прызнаць піянерам у навуковым аналізе этналагічных матэрыялаў.

Працы Карскага побач з навуковым мелі і вялікае грамадска-палітычнае значэнне. На аснове абагульнення вялікага фактычнага матэрыялу Карскі навукова абгрунтаваў, што беларускі народ існуе як нацыянальная адзінка і мае сваю арыгінальную культуру, родную мову, багатыя традыцыі і невычэрпную скарбніцу твораў вуснай паэтычнай

[26] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 124, л. 6—7.
[27] Там жа, л. 14—15.
[28] Там жа, ф. 104, воп. 2, № 81, л. 2.

народнай творчасці, поўных маляўнічай паэзіі, меладычнасці і народнай мудрасці.

Разам з тым, разглядаючы дарэвалюцыйную гістарыяграфічную літаратуру па беларускай этнаграфіі, трэба мець на ўвазе, што аўтары яе ў сваёй большасці стаялі на пазіцыях ліберальнага асветніцтва. Этнаграфія дарэвалюцыйнага часу ў асноўным была звернута ў мінулае, у вывучэнне традыцыйных форм быту і пераважна абрадавага боку жыцця народа.

У самой жа этнаграфічнай літаратуры розныя бакі быту і культуры народа асвятляліся не ў аднолькавай ступені. Галоўная ўвага надавалася апісанню духоўнай культуры народа і збіранню фальклору. Дэталёваму вывучэнню былі падвергнуты вераванні і абрады, асабліва перажыткі дахрысціянскіх (язычніцкіх) вераванняў і абрадаў, што бытавалі ў XIX — пачатку XX ст.

Актыўна абмяркоўваліся этнографамі і пытанні этнагенезу, этнічнай тэрыторыі і межаў рассялення беларусаў. Вялікая цікавасць да гэтых пытанняў выклікалася тым, што ў пэўныя перыяды яны набывалі вострую палітычную накіраванасць. Некалькі ў меншай ступені асвятляўся сямейны быт і грамадскае жыццё народа. Нарэшце, самай малалікай была літаратура па матэрыяльнаму быту беларусаў.

Такая нераўнамернасць у асвятленні розных бакоў быту і культуры народа тлумачыцца шэрагам прычын, і ў першую чаргу тым, што этналогія мела ідэалістычную накіраванасць. Акрамя таго, у дарэвалюцыйны час матэрыяльны быт народа быў бедным і ён мала цікавіў этнографаў. Нацыянальныя асаблівасці культуры розных народаў найбольш каларытна праяўляліся ў іх духоўным жыцці. Таму, натуральна, гэта галіна народнай культуры і займала вучоных у большай ступені.

Вялікая цікавасць да быту, вуснапаэтычнай творчасці і абрадаў народа выклікала да жыцця шматлікія школы і напрамкі ў этнаграфічнай навуцы. У 40—60-я гады этнаграфічная літаратура ў значнай ступені адлюстроўвала палажэнні міфалагічнай школы. Уплыў гэтай школы ў этнаграфіі і фалькларыстыцы, хаця і ў меншай ступені, чым у 40—60-я гады, захаваўся да пачатку XX ст. Паралельна з гэтай школай значную ролю ў розныя перыяды ігралі гісторыка-юрыдычная, антрапалагічная, кампаратывісцкая і эвалюцыянісцкая школы. Апошняя заняла вядучае месца ў канцы XIX — пачатку XX ст. Зацвярджэнне яе ў этнаграфіі, а таксама развіццё буржуазнай сацыялогіі і распаўсюджанне матэрыялістычнага светапогляду прывялі ў адзначаны перыяд да актывізацыі ў вывучэнні матэрыяльнай культуры. Кожная з пералічаных школ, зразумела, не ўяўляла адзінага цэлага. Унутры іх былі прагрэсіўныя і рэакцыйныя напрамкі, якія адлюстроўвалі сабою рознае разуменне задач і праблем этнаграфічных і фалькларыстычных даследаванняў. А гэта ў рэшце рэшт абумоўлівалася тым, на якіх класавых і грамадска-палітычных пазіцыях знаходзіліся розныя групы этнографаў.

У савецкай навуцы існавалі розныя думкі наконт сутнасці і ролі тых або іншых школ, тэорый і плыняў у дарэвалюцыйнай этнаграфіі і фалькларыстыцы. На наш погляд, найбольш слушнае меркаванне выказана М. К. Азадоўскім у першым томе “Гісторыі рускай фалькларыстыкі”. Ён падвергнуў крытыцы існаваўшую схему змены школ. М. Азадоўскі паказаў, што на самай справе не было механічнай паслядоўнасці ў змене школ: міфалагічнай, запазычання, антрапалагічнай і гістарычнай, а мела месца адначасовасць гэтых навуковых тэорый. Аднак, зразу-

мела, гэта не азначае, што іх роля ў розныя перыяды была аднолькавай. Насупраць, ідэі той ці іншай навуковай канцэпцыі ў пэўных гістарычных умовах станавіліся пануючымі ў навуцы.

М. Азадоўскі падкрэслівае, што ўнутры кожнай школы ішла барацьба прагрэсіўных і рэакцыйных плыняў. Грунтоўным, на яго думку, трэба лічыць не столькі прыналежнасць даследчыка да той ці іншай "школы", колькі вельмі рознае, часта супярэчлівае тлумачэнне яе палажэнняў у святле барацьбы паміж рэакцыйнымі і прагрэсіўнымі плынямі грамадскай думкі з іх розным разуменнем ідэі народа і яго ролі ў гістарычным працэсе[29].

Гэта ў сваю чаргу трэба дапоўніць тым, што і самі школы перажылі пэўную эвалюцыю. Напрыклад, міфалагічная школа прагрэсіравала ад прымітыўных і спрошчаных тэорый у сярэдзіне XIX ст. да больш навуковых пабудоў к канцу яго. Гістарычная ж школа другой паловы XIX ст., наадварот, была больш прагрэсіўнай, чым у пачатку XX ст., калі ва ўмовах імперыялізму наступіў крызіс буржуазнай навукі.

Дарэвалюцыйная гістарыяграфія беларускай этнаграфіі менавіта і не адлюстроўвае гэтых працэсаў у развіцці навукі. Гістарыёграфаў гэтага перыяду цікавіў галоўным чынам фактычны бок пытання, нават не тое, наколькі праўдзівым было апісанне культуры і быту народа, а хутчэй спосабы збірання і фіксацыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў.

[29] Гл.: Азадовский М. О построении истории русской фольклористики // Труды Восточно-сибирского государственного университета. Иркутск, 1944. Т. 2, вып. 4. С. 113—135; Ён жа. История русской фольклористики. М., 1958. Т. 1: Введение; В. Жирмунский. М. К. Азадовский (Биографический очерк) // Азадовский М. К. История русской фольклористики. Т. 1. С. 16.

Зусім зразумела, што такі падыход да вывучэння гісторыі беларускай этнаграфіі не мог прывесці да стварэння ў дарэвалюцыйны час сапраўды навуковай гістарыяграфіі гэтай галіны ведаў.

Першыя спробы ў гэтым напрамку былі распачаты ў гады савецкай улады. У 20-я гады Інстытутам беларускай культуры зроблены толькі падрыхтоўчыя крокі да стварэння гісторыі беларускай этнаграфічнай навукі. Але праца была спынена. Беларускія этнографы таго часу паспелі толькі скласці пярвічную бібліяграфію этнаграфічнай літаратуры і апублікаваць літаральна некалькі артыкулаў.

Спроба агульнага агляду краязнаўчага руху дарэвалюцыйнага часу зроблена ў артыкуле Д. Васілеўскага "Стагоддзе краязнаўчай працы ў Беларусі"[30]. У другім яго артыкуле — "Арганізаванае вывучэнне Беларусі ў XIX — пачатку XX ст."[31] зроблены кароткі агляд вывучэння Беларусі навуковымі таварыствамі і ўстановамі.

Агляды этналагічнай і фальклорнай работы 20-х — пачатку 30-х гадоў XX ст. былі зроблены Ю. М. Сакаловым і Д. К. Зяленіным ("Этнография". 1926, 1927). У сваіх артыкулах яны разгледзелі асноўныя напрамкі і тэндэнцыі ў развіцці навукі гэтага часу і ахарактарызавалі важнейшыя працы па ўсходнеславянскай этналогіі і фальклору. Непасрэдна пытанням вывучэння быту і культуры беларусаў у 20-я гады быў прысвечаны артыкул К. В. Весялоўскай "Агляд этнаграфічнай работы ў Беларусі за перыяд 1917—1925 гг.", у якім аўтар разглядае галоўным чынам збіральніцкую дзейнасць і экспедыцыйную работу, пералічвае тыя матэрыялы (пераважна экспанаты для музеяў), якія былі сабраны ў Беларусі.

[30] Наш край. Мн., 1926. № 2—3. С. 3—14.

[31] Полымя. Мн., 1928. № 1. С. 140—155; № 2. С. 159—177.

Асобныя пытанні развіцця беларускай этналогіі закрануты ў працах М. І. Гарэцкага "Гісторыя беларускай літаратуры" (1920), П. Любецкага "Беларуская народная літаратура (Гісторыя збірання)", М. Каспяровіча "Беларуская навука да Кастрычніка і пасля яго" і "Арганізаванае вывучэнне Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.", а таксама ў нарысах, прысвечаных дзейнасці Інстытута беларускай культуры.

Спроба грунтоўнай распрацоўкі гісторыі беларускай этнаграфіі ў 20-х гадах была зроблена А. Шлюбскім. У адным з пісем Я. Ф. Карскаму ён пісаў пра сабраныя матэрыялы па гісторыі беларускай этнаграфіі, якія меркаваў выдаць у 3—4 кніжках[32]. Аб вялікай і напружанай працы А. Шлюбскага па гэтай праблеме сведчаць яго публікацыі. У 1925—1928 гг. А. Шлюбскі апублікаваў артыкулы аб этнаграфічнай дзейнасці Змітрака Бядулі[33], П. В. Шэйна[34], У. М. Дабравольскага[35], Е. Р. Раманава[36]. У 1927 г. выйшла з друку яго кніга "Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі" (т. IV, "Этнаграфія"), а ў 1928 г. ім быў падрыхтаваны да друку артыкул "Беларуская этнаграфія мінулага дзесяцігоддзя (1919—1928)", у якім даецца бібліяграфічны агляд прац па беларускай этнаграфіі і фальклору адзначанага перыяду (рукапіс захоўваецца ў Інстытуце мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі імя. М. Т. Рыльскага АН Украіны).

У 20-я гады з'явілася некалькі артыкулаў іншых аўтараў аб дзейнасці і навуковай спадчыне М. А. Янчука, Д. М. Анучына, Е. Р. Раманава, П. В. Шэйна, М. Федароўскага і іншых беларускіх этнографаў[37].

Выкананая ў 20—30-я гады праца па пытаннях гістарыяграфіі беларускай этналогіі і асабліва бібліяграфія, складзеная А. Шлюбскім, у значнай ступені аблегчыла распрацоўку гэтага пытання наступнаму пакаленню вучоных.

У пасляваенны перыяд пытанням гісторыі беларускай савецкай этнаграфіі было прысвечана некалькі юбілейных артыкулаў. Гэта артыкулы М. Я. Грынблата "Беларуская савецкая этнаграфія за 30 год", М. Я. Грынблата і А. І. Залескага "Беларуская савецкая этнаграфія" (да 40-годдзя савецкай улады), В. К. Бандарчыка "50 год беларускай савецкай этнаграфіі і фалькларыстыкі", "Беларуская савецкая этнаграфія за 50 год". У пачатку 60-х гадоў былі апублікаваны

---

[32] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, спр. 158, л. 10—11.

[33] Шлюбскі А. Бядуля як этнограф // Полымя. 1925. № 5. С. 188—195.

[34] Ён жа. Матэрыялы да гісторыі крыўскай этнаграфіі; Ён жа. П. В. Шэйн (1826—1900) // Крывіч. № 10. С. 19—26.

[35] Ён жа. Этнаграфічная дзейнасць Дабравольскага // Запіскі Аддзела гуманітарных навук Інстытута беларускай культуры, кн. 4: Працы кафедры этнаграфіі. Т. 1, сш. 1. 1928.

[36] Ён жа. Этнаграфічная дзейнасць Е. Р. Раманава // Запіскі Аддзела гуманітарных навук, кн. 2: Працы класа філалогіі. Т. 1. 1928; Ён жа. Бібліяграфія этнаграфічных, археалагічных, гістарычных, літаратурных, педагагічных, публіцыстычных прац Е. Р. Раманава // Там жа.

[37] Сумцов. Акад. Микола Андрієвич Янчук // Наука на Украïне. Харків, 1922. № 3; Шаров Н. В. Николай Андреевич Янчук. 1859—1921 // Труды Белорусского государственного университета в Минске. 1922. № 2—3; Соколов Б. М. Собиратели народных песен. М., 1923; Ён жа. Спадчына Федароўскага // Савецкая Беларусь, 4 чэрвеня 1923 г.; Сакалоў П. Беларусавед Е. Р. Раманаў // Там жа. 16—17 ліпеня 1923 г.; Барашка Іллары. Е. Р. Раманаў (публіцыстычны нарыс) // Там жа. 14 ліпеня 1925 г; Karski E. Pamiacie E. R. Romanowa // Narodopisny Vesnik Českoslowensky. Praha, 1926. Ročn. XIX, č. 1; Штернберг Л. Я. Д. Н. Анучин как этнограф // Этнография. 1926. № 1—2; Карский Е. Ф. П. В. Шейн як білоруській етнограф // Юбілейний збірнік на пашану акад. И. Багалія. Київ, 1927.

кнігі аб М. Я. Нікіфароўскім, Е. Р. Раманаве і А. К. Сержпутоўскім[38].

Сістэматычнае вывучэнне гісторыі беларускай этнаграфіі было распачата ў Акадэміі навук Беларусі. На працягу 60-х — пачатку 70-х гадоў В. К. Бандарчыкам была распрацавана гісторыя беларускай этнаграфіі ад узнікнення гэтай навукі да 70-х гадоў XX ст.[39]

Беларуская этнаграфія прайшла доўгі і складаны шлях свайго развіцця. У яе гісторыі дарэвалюцыйнага часу храналагічна вызначаюцца два буйныя перыяды: першы — да пачатку 60-х гадоў XIX ст. — этнаграфія эпохі феадалізму, другі — з 60-х гадоў XIX ст. да Кастрычніцкай рэвалюцыі (1917) — этнаграфія эпохі капіталізму.



3. В. К. Бандарчык

Гісторыю этнаграфіі эпохі феадалізму ў сваю чаргу можна падзяліць на два перыяды: час першапачатковага назапашвання этнаграфічных звестак (прыкладна да канца XVIII ст.) і фарміравання і станаўлення беларускай этнаграфіі як навукі (пачатак XIX ст. — да рэформы 1861 г.).

У гісторыі этнаграфіі эпохі капіталізму таксама выдзяляюцца два перыяды: 60—90-я гады XIX ст. і пачатак XX ст. (1900—1917). Пры больш дэталёвым разглядзе перыяду 60—90-х гадоў у ім можна выявіць два этапы — 60—70-я і 80—90-я гады. У пачатку 60-х і ў 70-х гадах адбывалася ажыўленне этнаграфічнай дзейнасці ў Беларусі ў сувязі з агульным уздымам грамадска-палітычнага руху пасля рэформы 1861 г. і паўстання 1863 г. З канца 70-х гадоў і ў пачатку 80-х назіраецца спад у этнаграфічным вывучэнні Беларусі, выкліканы ўзмацненнем рэакцыі (гады жорсткай барацьбы царызму з рэвалюцыйным народніцтвам). Апошнія 15 год XIX ст. і пачатак XX ст. у сувязі з новай хваляй грамадскага і культурнага ажыўлення, выкліканага ўзмацненнем працэсаў фарміравання беларускай нацыі, адзначаюцца шырокім размахам этнаграфічнай дзейнасці ў Беларусі. У гэтыя гады з'яўляюцца найбольш буйныя працы па быту і культуры беларусаў.

У паслярэвалюцыйны перыяд выдзяляюцца 20—30-я гады і 40—90-я гады XX ст., калі этналагічная навука ў Беларусі ў сваім развіцці выходзіць на новы, больш высокі навуковы ўзровень.

Крыніцазнаўчай базай для напісання гэтага тома паслужылі этнаграфічныя працы рускіх, беларускіх і польскіх вучоных, пратаколы і справаздачы Акадэміі навук, Рускага геаграфічнага таварыства, Таварыства аматараў прырода-

[38] Бандарчык В. К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961; Бондарчик В. К., Чигринов И. Г. Николай Яковлевич Никифоровский. Мн., 1960; Бондарчик В., Федосик А. А. К. Сержпутовский. Мн., 1966.

[39] Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; Ён жа. Гісторыя беларускай этнаграфіі — пачатак XX ст. Мн., 1970; Ён жа. Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі. Мн., 1973; Ён жа. Развіццё беларускай этнаграфіі за гады савецкай улады. Мн., 1978.

знаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Вывучаны ўсе артыкулы, выяўленыя ў перыядычных выданнях, перыядычнай прэсе, а таксама артыкулы аб жыцці і навуковай дзейнасці беларускіх этнографаў, рэцэнзіі на іх працы. У значнай меры выкарыстаны архіўныя матэрыялы. Было абследавана больш за 20 архіўных і рукапісных фондаў бібліятэк і навуковых устаноў Ленінграда, Масквы, Мінска, Вільнюса, Гродна і іншых гарадоў, а таксама архівы Варшавы, Кракава і Вроцлава Польскай Народнай Рэспублікі.

Архіўныя матэрыялы далі магчымасць больш поўна асэнсаваць як агульныя працэсы развіцця беларускай этнаграфіі, так і высветліць многія канкрэтныя пытанні, якія датычацца да дзейнасці асобных навуковых таварыстваў, беларуска-руска-польскіх навуковых сувязей, а таксама жыцця і дзейнасці многіх даследчыкаў быту і культуры беларускага народа.

Найбольш каштоўныя матэрыялы былі знойдзены ў архіве Геаграфічнага таварыства Саюза ССР, архіве АН СССР (Ленінград), рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР, архіве Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР (Ленінград) і ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украінскай ССР (Кіеў). У іх удалося выявіць шматлікія матэрыялы аб дзейнасці Рускага геаграфічнага таварыства, Акадэміі навук СССР па этнаграфічнаму вывучэнню беларусаў, біяграфічныя звесткі аб многіх беларускіх этнографах і іх навуковай дзейнасці (Е. Ф. Карскім, Е. Р. Раманаве, М. Я. Нікіфароўскім, П. В. Шэйне, А. К. Сержпутоўскім, У. М. Дабравольскім, М. В. Доўнар-Запольскім, І. І. Насовічу і інш.). У пералічаных вышэй і іншых архівах выяўлена нямала рукапісных гісторыка-этнаграфічных прац (рукапісы Е. Р. Раманава, М. В. Доўнар-Запольскага, П. П. Дземідовіча, А. Луніна, М. Федароўскага, А. Кіркора і інш.)

Пераважна з дапамогай архіўных матэрыялаў удалося, напрыклад, даведацца аб дзейнасці Паўночна-Заходняга аддзела РГТ, выніках этнаграфічнай экспедыцыі РГТ у Беларусь (1868—1870 гг.) і іншых пытаннях гістарыяграфіі беларускай этнаграфіі.

Архіўныя матэрыялы паслужылі важнейшай крыніцай для характарыстыкі сувязей беларускіх этнографаў з навуковымі цэнтрамі Расіі, з рускімі вучонымі, а таксама для высвятлення ўзаемных сувязей і адносін паміж беларускімі этнографамі.

Пры напісанні працы, улічваючы тое, што да апошняга часу не было кнігі, у якой былі б адлюстраваны агульныя працэсы развіцця беларускай этнаграфічнай навукі, аўтар вырашыў спыніцца на храналагічным прынцыпе размяшчэння матэрыялу. Пры гэтым у асобных раздзелах, акрэсленых пэўнымі гістарычнымі адрэзкамі часу, прыйшлося весці даследаванне, прымяняючы і крыніцазнаўчы падыход. Гэта дало магчымасць забяспечыць у працы гістарызм і храналагічную паслядоўнасць.

# САЦЫЯЛЬНА-ПАЛІТЫЧНАЕ, ЭКАНАМІЧНАЕ, КУЛЬТУРНАЕ І НАВУКОВАЕ АСЯРОДДЗЕ РАЗВІЦЦЯ ЭТНАЛОГІІ Ў БЕЛАРУСІ Ў XIX — ПАЧАТКУ XX СТ.

Агульнаруская і беларуская этнаграфічная навука была выклікана да жыцця ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. грамадска-палітычным рухам і навуковай думкай, якія ажывіліся ў сувязі з крызісам феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў Расіі. Абвастрэнне рэвалюцыйнага руху народных мас ва ўмовах крызісу старых асноў і развіцця капіталістычных адносін паставіла на поўны рост праблему народа. Народ, які ўсё больш рашуча пагражаў рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі грамадска-эканамічных адносін, прыцягваў да сябе вялікую цікавасць з боку розных колаў грамадства. Ён стаў аб'ектам вывучэння. Вакол ролі народа ў гісторыі, у сучасным жыцці, у стварэнні культурных каштоўнасцей уздымаюцца жорсткія спрэчкі. Праблема народнасці становіцца асноўнай з усіх грамадскіх праблем таго часу.

Аб народзе ў розных колах грамадства гаварылі па-рознаму. Прадстаўнікі перадавой грамадска-палітычнай думкі і грамадскага руху краіны адносіліся да яго з глыбокай павагай, бачылі ў ім магутныя пераўтваральныя і творчыя сілы, станавіліся на бок простага народа і часта ахвяравалі сваім жыццём за яго інтарэсы. Гэта былі рэвалюцыйныя дэмакраты В. Р. Бялінскі, А. І. Герцэн, М. А. Дабралюбаў, М. Г. Чарнышэўскі, М. А. Някрасаў, М. Я. Салтыкоў-Шчадрын і інш. Іншыя глядзелі на народ са страхам і нянавісцю, бачылі ў ім толькі грубую разбуральную сілу. Аднак і яны імкнуліся "зразумець" народ, выдаючы сябе за абаронцаў яго інтарэсаў, прыкрываліся маскай клопатаў аб народзе і нават імя народа выстаўлялі ў пацвярджэнне сваіх грамадска-палітычных ідэй. Да ліку такіх "абаронцаў" інтарэсаў народа належалі, напрыклад, прадстаўнікі афіцыйнай народнасці і рэакцыйнае крыло славянафілаў, а пазней ідэолагі буржуазіі — прадстаўнікі рознага роду рэакцыйных школ у навуцы. У свой час А. М. Пыпін вельмі ўдала выкрыў "клопаты" рэакцыянераў аб народзе. "Пад відам любві да народа, — пісаў ён, — вельмі часта хаваецца поўная абыякавасць да яго самых асноўных інтарэсаў; прытворнымі клопатамі аб яго дабрабыце прыкрываецца высакамернасць да яго або проста прыгонніцкая прага да яго эканамічнага і грамадскага заняволення"[1].

[1] Пыпин А. Н. История русской этнографии. СПб., 1890. Т. 1. С. 1.

Барацьба двух тэндэнцый адбілася і на беларускай этнаграфіі.

Беларуская этнаграфія адасобілася ад агульнарускай этнаграфічнай навукі ў 40—50-х гадах XIX ст. Да гэтага часу руская этнаграфічная навука знаходзілася на высокім узроўні развіцця і выйшла на сусветную арэну[2].

Адставанне беларускай этнаграфіі ад рускай ды і ўкраінскай тлумачылася шэрагам прычын. Амаль да сярэдзіны XIX ст. з-за гістарычных умоў, якія склаліся, некалькі адставала развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, вельмі малалікай была беларуская інтэлігенцыя, акрамя таго, у Беларусі не было ніводнай вышэйшай навуковай установы, якая б канцэнтравала вакол сябе мясцовыя навуковыя сілы, як гэта было, напрыклад, у Расіі і на Украіне.

Аднак адставанне беларускай этнаграфіі працягвалася нядоўга. З другой паловы XIX ст. і асабліва з 60-х гадоў беларуская этнаграфія набірае сілу і нарэшце выходзіць на ўзровень агульнарускай этнаграфіі.

Развіццё беларускай этнаграфіі характарызуецца некаторымі асаблівасцямі, якія праявіліся ўжо ў перыяд яе фарміравання. Пасля далучэння Беларусі да Расіі і асабліва ў сувязі з ажыўленнем нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы (паўстанні 1794, 1831, 1863 гг.) перад рускай і польскай грамадскасцю паўстала праблема беларускай народнасці. Гэта прывяло да таго, што ўжо ў перыяд фарміравання этнаграфіі як навукі яна набыла ў Беларусі вострую палітычную накіраванасць. Пачаліся жорсткія спрэчкі аб тым, што такое Беларусь і беларуская народнасць. Польскія нацыянал-шавіністы вылучылі тэорыю аб тым, што беларусы ўяўляюць сабой адгалінаванне польскай народнасці, а Беларусь з'яўляецца неад'емнай часткай Польшчы. У процівагу гэтай тэорыі вялікадзяржаўныя рускія шавіністы даказвалі, што гэты народ — не што іншае, як адарваная частка рускага народа. Як тыя, так і другія адмаўлялі беларускую народнасць як такую. Спатрэбіліся дзесяцігоддзі, каб паступова выпрацаваўся правільны погляд на пытанні этнічнай гісторыі беларусаў і нарэшце быў усвядомлены той непарушны факт, што беларусы складаюць самастойную народнасць у сям'і ўсходнеславянскіх народаў.

Вострая палітычная барацьба за Беларусь выклікала ажыўленую цікавасць да гістарычных лёсаў, бытавых і культурных асаблівасцей беларускага народа з боку рускай і польскай грамадскасці. Адсюль зусім зразумелым становіцца, чаму спачатку этнаграфічнае вывучэнне Беларусі праводзілася рускімі і польскімі вучонымі. Уласна беларускія сілы ў этнаграфіі з'яўляюцца толькі ў 40—50-я гады.

Аднак ужо ў наступныя дзесяцігоддзі этнаграфічнае вывучэнне Беларусі паступова пераходзіць у рукі мясцовых сіл. У 80 — 90-я гады беларуская этнаграфічная літаратура становіцца адной з багацейшых і займае дастойнае месца ў гісторыі агульнарускай этнаграфічнай навукі.

Схематычна прасочым, у якіх сацыяльна-палітычных умовах адбывалася развіццё беларускай этнаграфіі дарэвалюцыйнага часу.

Працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў Расіі і Беларусі, які

---

[2] Гл.: Косвен М. О. Материалы к истории ранней русской этнографии (XII—XVII стст.) // Очерки истории русской этнографии, фольклористики и антропологии. М., 1956. Т. 1; Соколова В. К. Проблемы этнографии и народного творчества в последней трети XVIII в. // Там жа; Токарев С. А. Вклад русских ученых в мировую этнографическую науку // Там жа; Азадовский М. К. История русской фольклористики. М., 1958. Т. 1; М., 1963. Т. 2 і інш.

ішоў на працягу першай паловы XIX ст., да сярэдзіны яго перарос у стадыю глыбокага крызісу. Капіталістычныя пераўтварэнні ў гаспадарцы адбываліся ў своеасаблівых умовах і выклікалі ўзмацненне сацыяльнага прыгнёту народа. Уцягненне памешчыцкай гаспадаркі ў таварна-грашовыя адносіны (а Беларусь была раёнам буйнога землеўладання) прывяло да рэзкага павелічэння феадальнай рэнты. Імкнучыся павысіць таварнасць сваёй гаспадаркі і разам з тым захаваць яе феадальныя асновы, памешчыкі пайшлі па шляху павелічэння паншчыны (да 4—6 дзён у тыдзень з паўвалокі зямлі), згонаў, або гвалтаў (у час уборкі), дарожных, падводных і іншых павіннасцей. У пошуках новых прыбыткаў памешчыкі ўтваралі мануфактуры, дзе выкарыстоўвалася праца прыгонных сялян.

Для павелічэння вытворчасці таварнага хлеба памешчыкі сталі пашыраць пасевы за кошт абеззямельвання сялян. Нарэшце, адной з распаўсюджаных форм феадальнай эксплуатацыі была аддача памешчыкам сваіх сялян у наём на будаўнічыя і іншыя працы ў другія губерні Расіі.

Усё гэта падрывала прадукцыйныя сілы сельскай гаспадаркі і ставіла сялянства Беларусі ў вельмі цяжкае становішча. Дробныя сялянскія надзелы яшчэ больш скарачаліся, сяляне пераводзіліся на горшыя землі. Для апрацоўкі сваіх надзелаў у сялян не заставалася часу. Сялянскія палі зарасталі пустазеллем.

Напярэдадні адмены прыгоннага права становішча сялян заходніх (беларускіх) губерняў Расіі было надзвычай цяжкім. Гэта добра бачыў і царскі ўрад. У прыпісцы Мікалая I на даклад беларускага генерал-губернатара, напрыклад, гаварылася наступнае: "У Камітэт міністраў з тым, каб усе паны міністры прачыталі і пераканаліся, у якім страшным становішчы губерні знаходзяцца, што аднымі законнымі мерамі край гэты не толькі ніколі не паднімецца, але канчаткова загіне; патрэбны экстранныя і крутыя меры"[3].

У адказ на ўзмацненне эксплуатацыі сяляне паўставалі на барацьбу супраць прыгнятальнікаў. Характэрнай рысай сялянскага руху напярэдадні адмены прыгоннага права (40—50-я гады) было няўхільнае імкненне да свабоды — выйсце з прыгоннай залежнасці. У другой палове 40-х гадоў шырыцца сялянскі рух у сувязі з увядзеннем інвентароў.

Абвастрэнне крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы і рост стыхійнага сялянскага руху ў 40—50-х гадах XIX ст. узмацнілі вызваленчы рэвалюцыйны рух супраць царызму і прыгонніцтва. На развіццё гэтага руху ў Беларусі спрыяльна паўплывала рэвалюцыйна-дэмакратычная думка рускага народа. Многія ўраджэнцы Беларусі ў час вучобы ў Пецярбурзе і Маскве ўступілі ў цесную сувязь з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі. З другога боку, некаторыя прадстаўнікі грамадска-палітычнага руху Расіі знаходзіліся ў Беларусі (у 40-х гадах петрашэўцы Мамбелі і Ястржэмскі) і наладжвалі сувязі з апазіцыйна настроенай мясцовай інтэлігенцыяй.

Да канца 50 — пачатку 60-х гадоў у краіне склалася рэвалюцыйная сітуацыя. Пануючыя класы ўжо не маглі кіраваць сялянамі старымі метадамі, а народ не хацеў жыць па-старому. Аднак рэвалюцыйная сітуацыя гэтых гадоў не перарасла ў рэвалюцыю, яна завяршылася рэформай 1861 г. Тым не менш падзенне прыгоннага права ўскалыхнула ўвесь народ, навучыла яго самога шукаць выхад.

---

[3] История БССР. Мн., 1961. Т. 1. С. 276.

Паслярэформенны перыяд для Беларусі, як і для Расіі, быў перыядам параўнальна хуткага развіцця капіталізму.

Характэрным паказчыкам гэтага з'яўляюцца лічбы росту прамысловасці і павелічэння колькасці рабочага класа. У 1900 г. у параўнанні з 1879-м фабрычная прамысловасць Беларусі вырасла з 664 прадпрыемстваў (з 7799 рабочымі) да 865 прадпрыемстваў (з 24 563 рабочымі). Пры гэтым адбываўся працэс канцэнтрацыі прамысловасці і рабочага класа. Асабліва хутка расла колькасць буйных капіталістычных прадпрыемстваў (з колькасцю рабочых звыш 100). Калі з 1879 па 1900 г. колькасць усіх прадпрыемстваў узрасла на 30,7%, то колькасць буйных прадпрыемстваў павялічылася на 161%, а колькасць рабочых — на 258%[4].

Развіваўся капіталізм і ў сельскай гаспадарцы Беларусі. Вёска ўсё больш цесна звязвалася з рынкам, сельская гаспадарка набывала таварны характар. Развіццё капіталізму ў вёсцы суправаджалася сацыяльнай дыферэнцыяцыяй сялянства.

Ужо адразу пасля рэформы ў Беларусі ўзнялася вялікая хваля сялянскіх выступленняў. Толькі ў сакавіку — чэрвені 1861 г. адбылося 311 сялянскіх хваляванняў, з якіх 108 было падаўлена пры дапамозе войскаў і паліцыі[5].

Асабліва шырокі размах сялянскія выступленні набылі ў 1863 г. у сувязі з нацыянальна-вызваленчым рухам у Польшчы. У рэвалюцыйны рух 1863 г. былі ўцягнуты шырокія і розныя па свайму сацыяльнаму і нацыянальнаму становішчу слаі насельніцтва Беларусі.

Рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло паўстання 1863 г. узначальвалі Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Сіракоўскі, Яраслаў Дамброўскі, Андрэй Патабня, Антанас Мацкевіч і інш. Кіраўніком беларускай групы рэвалюцыйных дэмакратаў быў Кастусь Каліноўскі. Рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі К. Каліноўскага сфарміраваліся пад непасрэдным уплывам Чарнышэўскага, Дабралюбава і Герцэна яшчэ ў час яго вучобы ў Пецярбургскім універсітэце (1856—1860). У Пецярбурзе Каліноўскі быў актыўным удзельнікам зямляцтва — выхадцаў з Беларусі і Літвы.

Побач з распаўсюджаннем нелегальнай літаратуры ("Колокол", "Рух", "Великорус", "К русским войскам в Польше" і інш.) рэвалюцыйная група Каліноўскага ўтварыла і свае органы друку: газеты "Сцяг свабоды", "Мужыцкая праўда". Першая выдавалася на польскай, а другая на беларускай мове.

У "Мужыцкай праўдзе", якую рэдагаваў сам К. Каліноўскі, з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый выкрывалася царскае самадзяржаўе як вораг народа, рабаўніцкі сэнс рэформы 1861 г. і гучаў заклік да сялян рыхтавацца да паўстання супраць царызму. У нумары ж, які выйшаў у час паўстання, "Мужыцкая праўда" заклікала сялян узяцца за зброю і змагацца за сваё вызваленне.

Жорсткая расправа з удзельнікамі паўстання 1863 г. не спыніла сялянскі рух у Беларусі. Барацьба супраць рабаўніцкіх умоў рэформы, супраць памешчыцкага землеўладання і памешчыцкага прыгнёту зноў стала нарастаць з другой паловы 60-х гадоў.

За 17 год (1864—1880) у Беларусі адбыліся 132 сялянскія выступленні, а на

[4] История БССР. Т. 1. С. 381—383.

[5] Там жа. С. 342.

працягу 90-х гадоў — некалькі дзесяткаў сялянскіх бунтаў, многія з якіх падаўляліся ўзброенай сілай[6].

У 70-х гадах у Беларусі ўтвараюцца арганізацыі народніцкага руху. У Мінску, Магілёве, Гродне і іншых гарадах існавалі даволі буйныя арганізацыі, якія вялі актыўную прапаганду народніцкіх ідэй. Членамі гэтых арганізацый былі і некаторыя беларускія этнографы. Так, актыўным членам мінскай арганізацыі быў вядомы беларускі этнограф і публіцыст А. Я. Багдановіч — бацька беларускага паэта Максіма Багдановіча.

Побач з сялянскім і народніцкім рухам у другой палове XIX ст. у Беларусі разгортваўся і рабочы рух, які спачатку меў стыхійны характар. З утварэннем у канцы 90-х гадоў арганізацыі РСДРП рабочы рух набыў арганізаванасць і мэтанакіраванасць.

У працэсе развіцця капіталізму паскорылася пераўтварэнне беларускай народнасці ў нацыю. Ліквідавалася эканамічная замкнёнасць асобных раёнаў Беларусі. Утварэнне супольнасці эканамічнага жыцця беларускай нацыі цягнула за сабой і выпрацоўку супольнасці ў мове, тэрыторыі, нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Усё гэта выклікала ажыўленне грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Беларусі.

У першай палове XIX ст. культурнае развіццё Беларусі ўздымаецца на новы ўзровень. Беларускі народ вылучыў са свайго асяроддзя аўтараў багатай ананімнай літаратуры, таленавітых пісьменнікаў-асветнікаў (Паўлюка Багрыма і інш.), паэтаў-дэмакратаў (Францішка Багушэвіча, Янку Лучыну, Адама Гурыновіча і інш.), пісьменніка і драматурга В. Дуніна-Марцінкевіча, рэвалюцыйнага дэмакрата К. Каліноўскага, мастакоўжывапісцаў І. К. Дабравольскага, Н. А. Астраганава, Д. М. Полазава, С. К. Заранку, І. Ц. Хруцкага і многіх іншых, гісторыкаў, этнографаў і фалькларыстаў І. І. Грыгаровіча, І. І. Насовіча, П. М. Шпілеўскага, П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, А. Я. Багдановіча, М. В. Доўнар-Запольскага і многіх іншых.

Рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь у грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі 60—90-х гадоў узначальвалася К. Каліноўскім, Ф. Багушэвічам, Я. Лучынам, А. Гурыновічам і інш.

Капіталістычныя пераўтварэнні, бурныя рэвалюцыйныя падзеі, якія падрывалі асновы існуючага ў краіне ладу, нарэшце, уздым культурнага жыцця — усё гэта павялічвала цікавасць розных колаў грамадскасці да простага народа, які ўсё больш рашуча праяўляў сваю сілу і волю і выступаў як творца гісторыі, пераўтваральнік грамадства.

Менавіта ў другой палове XIX ст. беларуская этнаграфія абагачаецца серыяй капітальных прац па быту і культуры народа, якія ўвайшлі ў залаты фонд этнаграфічнай літаратуры аб беларусах. Беларуская этнаграфічная літаратура шырокай хваляй уліваецца ў скарбонку агульнарускай этнаграфіі.

На рубяжы XIX—XX стст. у Расіі капіталізм уступіў у сваю вышэйшую і апошнюю фазу развіцця — фазу імперыялізму, пры якім супярэчнасці буржуазнага грамадства даходзяць да крайняй рысы і прыводзяць да рэвалюцыі. Канчатковаму пераўтварэнню даманапалістычнага капіталізму ў манапалістычны садзейнічаў сусветны эканамічны крызіс 1900—1913 гг. У Беларусі ён набыў зацяжны характар і закрануў амаль усе галіны прамысловасці. Крызіс выклікаў рост канцэнтрацыі прамысловасці і

[6] История БССР. Т. 1. С. 391.

цэнтралізацыі капіталу. Пад ударам крызісу знікалі дробныя прадпрыемствы, затое ўзрастала колькасць буйных фабрык і заводаў. Агульная колькасць рабочых на буйных прадпрыемствах з 1900 па 1908 г. павялічылася з 10 тысяч да 15 тысяч чалавек. У прамысловасць Беларусі стаў узмоцнена пранікаць замежны капітал. Узрасла роля банкаў.

Аднак у параўнанні з цэнтральнымі прамысловымі раёнамі краіны Беларусь была аграрнай ускраінай царскай Расіі, у эканоміцы яе доля прамысловасці была нязначнай. Фабрычна-заводскія прадпрыемствы пераважна былі дробнымі і сярэднімі. У сярэднім на адно прадпрыемства ў Беларусі прыпадала ўсяго 27 рабочых[7].

Узмацненне капіталістычнай эксплуатацыі, беспрацоўе і збядненне працоўных паднялі рабочы рух на новы ўзровень. Ад эканамічных стачак рабочыя сталі пераходзіць да палітычных выступленняў. У дзень 1 мая 1901 г. рабочыя шэрагу прадпрыемстваў Мінска пакінулі работу і па ініцыятыве сацыял-дэмакратаў наладзілі палітычную дэманстрацыю. Усяго за 1901—1903 гг. у пяці паўночна-заходніх губернях (Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гродзенскай, Віленскай), па далёка няпоўных даных, на прадпрыемствах, што знаходзіліся пад наглядам фабрычнай інспекцыі, адбылося 116 рэвалюцыйных выступленняў пралетарыяту, якімі было ахоплена больш за 7000 рабочых. Рэвалюцыйная барацьба беларускіх пралетарыяў злівалася з агульнарасійскім рэвалюцыйным рухам.

Следам за рабочым класам на барацьбу ўздымалася сялянства Расіі. За перыяд з 1900 па 1904 г. толькі ў Беларусі адбылося 30 буйных сялянскіх выступленняў. Аднак сялянскі рух быў яшчэ стыхійным.

Расія стаяла на парозе рэвалюцыі, якая была паскорана руска-японскай вайной, што пачалася ў 1904 г.

Першая руская рэвалюцыя 1905—1907 гг. з'явілася аб'ектыўнай неабходнасцю. У пачатку XX ст. царская Расія была вузлавым пунктам усіх супярэчнасцей сусветнага імперыялізму. Тут перапляталіся рэшткі прыгонніцтва з жорсткімі формамі капіталістычнай эксплуатацыі. Глыбокія сацыяльна-эканамічныя супярэчнасці былі характэрны і для Беларусі. Спалучэнне ўсіх відаў прыгнёту — памешчыцкага, капіталістычнага, нацыянальнага — з паліцэйскім дэспатызмам самаўладдзя надавала класавым супярэчнасцям асобую глыбіню і вастрыню. Такім чынам наспела неабходнасць разбурэння існуючага ладу. Выканаць гэту задачу магла толькі пераможная рэвалюцыя.

Першая руская рэвалюцыя 1905—1907 гг. была буржуазна-дэмакратычнай па свайму зместу і характару, а па метадах і сродках палітычнай барацьбы — пралетарскай. Нягледзячы на паражэнне, першая руская рэвалюцыя з'явілася вялікай школай палітычнага выхавання, арганізацыі і згуртавання працоўных мас. Яна ўпершыню так глыбока ўскалыхнула велізарныя масы працоўных.

У Беларусі на пачатку XX ст. рэвалюцыйная барацьба народа перапляталася з нацыянальна-вызваленчым рухам.

"Для ўкраінцаў і беларусаў, напр., — пісаў У. І. Ленін, — толькі чалавек, які ў думках жыве на Марсе, мог бы адмаўляць, што тут няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што абуджэнне мас да валодання роднай мовай і яго літаратурай (а гэта неабходная ўмова і спа-

[7] Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Мн., 1961. С. 44—46.

дарожнік поўнага развіцця капіталізму, поўнага пранікнення абмену да апошняй сялянскай сям'і) — тут яшчэ адбываецца. "Айчына" тут яшчэ не спела ўсёй сваёй гістарычнай песні. "Абарона айчыны" яшчэ можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэдневякоўя..."[8]

У пачатку XX ст. завяршылася фарміраванне беларускай нацыі, таму нацыянальна-вызваленчы рух тут набыў новае істотнае значэнне.

Рэвалюцыя, расслабіўшы нацыянальныя путы, зняўшы забарону на беларускае друкаванае слова, стварала ўмовы для праяўлення народных талентаў у галіне літаратуры, мастацтва і навукі. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі створаныя ў Беларусі і за яе межамі культурна-асветніцкія саюзы, выдавецкія таварыствы, бібліятэкі. У 1906 г. у Пецярбурзе адкрылася беларускае выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца", якое выдавала першыя кнігі для чытання, календары і мастацкія творы на роднай мове. Некалькі пазней у Вільні (1908 г.) утвараецца выдавецтва "Наша хата". Пачынаюць сваю дзейнасць выдавецтвы "Вясёлка", "Палачанін", "Мінчук", "Саха", выдаюцца штомесячнікі і альманахі. З канца 1913 г. для моладзі выдаваўся часопіс "Лучынка".

Для распраўсюджання рэвалюцыйнай ідэалогіі ў 1905 г. шырока выкарыстоўвалася легальная газета "Северо-Западный край".

У верасні 1906 г. была заснавана першая беларуская газета "Наша доля", аднак яна праіснавала нядоўга. На шостым нумары была закрыта. Замест яе стала выходзіць газета "Наша ніва" (праіснавала з 1906 па 1915 г.). "Наша ніва", нягледзячы на яе ліберальную накіраванасць, шырока выкарыстоўвалася дэмакратычнай інтэлігенцыяй для прапаганды перадавых ідэй. У газеце актыўна друкавалі свае творы беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, Цётка, Ц. Гартны і інш.

У гады рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху выраслі маладыя кадры беларускіх прагрэсіўных пісьменнікаў, такія, як Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Максім Багдановіч, Цётка і інш. Дзейнасць Ц. Гартнага і Цёткі адбывалася ў садружнасці з рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыяй. Я. Купала і Я. Колас, хаця і не былі непасрэдна звязаны з сацыял-дэмакратамі, аднак належалі да рэвалюцыйна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, былі цесна знітаваны з вызваленчым рухам беларускага народа. Іх творчасць насіла глыбока народны і інтэрнацыянальны характар. Невыпадкова М. Горкі так высока ацаніў маладых беларускіх паэтаў. "Ці ведаеце Вы беларускіх паэтаў Якуба Коласа і Янку Купалу? — пытаўся ён у А. С. Чарамнова. — Я нядаўна пазнаёміўся з імі — падабаюцца! Проста, задушэўна і, відавочна, сапраўды — народна"[9].

Скразной і галоўнай тэмай беларускай дэмакратычнай літаратуры з'яўлялася сялянская тэма, што было абумоўлена незвычайнай вастрынёй аграрна-сялянскага пытання ў Беларусі. Але побач з сялянскай тэматыкай у пачатку XX ст. беларускія пісьменнікі пачалі распрацоўваць і рабочую тэму. Асабліва вялікае месца яна займае ў творчасці Ц. Гартнага. Адлюстраванне быту рабочага-гарбара, цяжкіх умоў яго працы падаецца ў творах Ц. Гартнага з

[8] Ленин В. И. Соч. Т. 23. С. 27—28.

[9] Горький М. Собр. соч.: В 30 т. М., 1954. Т. 29. С. 144.

вялікім рэалізмам і выклікае пратэст супраць існуючых парадкаў.

Вялікую ролю ў распрацоўцы рабочай тэмы ў беларускай літаратуры адыграла грамадска-палітычная газета "Северо-Западный край", якая ў гады рэвалюцыі была сапраўдным вяшчальнікам рэвалюцыйных ідэй і аб'ядноўвала вакол сябе пачынаючых рабочых паэтаў.

Глыбока народны і інтэрнацыянальны характар насіла і беларускае прагрэсіўнае тэатральнае мастацтва. Тэатральная група "Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў", створанага ў Мінску яшчэ ў 1890 г., у пачатку XX ст. ставіла на сцэне п'есы па творах М. Горкага, А. Астроўскага, А. Чэхава. У гады рэвалюцыі 1905—1907 гг. тэатральныя пастаноўкі ператвараліся ў мітынгі, якія праходзілі пад лозунгамі "Далоў самаўладдзе!", "Няхай жыве рэспубліка!"[10] Зусім зразумела, чаму "Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў" у перыяд наступлення рэакцыі было закрыта царскімі ўладамі (чэрвень 1906 г.). Аднак з закрыццём таварыства тэатральная дзейнасць у Беларусі не спынілася.

У гады рэвалюцыі пачалі ўзнікаць аматарскія калектывы, якія выступалі на беларускай мове. Сярод іх асаблівую папулярнасць мела трупа Ігната Буйніцкага — збіральніка беларускага фальклору, драматурга і артыста. Стваральнік "Першай беларускай трупы" І. Буйніцкі вялікую ўвагу надаваў пастаноўцы п'ес беларускіх пісьменнікаў, выкананню беларускіх песень. Папулярнымі на сцэне былі творы Я. Купалы, Я. Коласа, Я. Лучыны, Цёткі і інш. Аднак, прапагандуючы беларускае мастацтва, ён быў далёкі ад нацыянальнай абмежаванасці. Акрамя беларускіх п'ес, песень і танцаў калектывам Буйніцкага выконваліся творы рускіх, украінскіх і польскіх драматургаў і пісьменнікаў (Чэхава, Ажэшкі, Крапіўніцкага і інш.).

Беларуская прафесійная літаратура і творы драматургіі дарэвалюцыйнага часу ў вышэйшай ступені былі насычаны этнаграфізмам. І гэта зусім заканамерная з'ява. Імкненне паказаць асаблівасці быту і культуры свайго народа, "адкрыць свету душу беларуса" ахапіла не толькі этнографаў, але і пісьменнікаў.

Пісьменнікі і драматургі, якія стаялі на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях або проста былі прагрэсіўнымі, у сваіх творах папулярызавалі станоўчыя высокагуманныя рысы ў быце народа, паказвалі багацце культуры свайго народа. Разам з тым яны крытыкавалі адсталыя традыцыі і звычаі, каб гэтым самым садзейнічаць пераадоленню ў народным быце аджыўшага, рэакцыйнага.

Нацыянальна-вызваленчы рух і рэвалюцыйныя падзеі пачатку XX ст. ажывілі і краязнаўчую працу ў Беларусі. Асноўнае месца ў ёй займала этнаграфічнае вывучэнне.

Пад уплывам руху за вывучэнне роднага краю, які набыў новую сілу, у Беларусі ствараецца шэраг таварыстваў і гурткоў, што ўзмоцнена займаюцца збіраннем фальклору, вывучэннем быту і культуры народа.

Прагрэсіўныя этнографы і фалькларысты пачатку XX ст. (Е. Р. Раманаў, Я. Ф. Карскі, А. К. Сержпутоўскі, М. А. Янчук, І. А. Сербаў і многія іншыя) на першы план сваёй дзейнасці выносілі задачы абароны народа і яго культуры ад нападак рэакцыянераў, змагаліся за нацыянальнае і сацыяльнае раўнапраўе, паказвалі адзінства гістарычных лёсаў усходнеславянскіх народаў. Яны папулярызавалі культуру свайго народа, паказ-

[10] Гл.: Няфёд Ул. Беларускі тэатр. Мн., 1959.

валі яе багацце і самабытнасць, "адкрывалі" свету душу беларускага народа. У гэтым рэчышчы ішла асноўная маса беларускіх этнографаў.

Дзейнасць прагрэсіўных беларускіх этнографаў развівалася ў адзіным рэчышчы дэмакратычнага крыла агульнарускай этнаграфіі, якое адлюстравала ў сабе перадавыя дасягненні сусветнай этнаграфічнай навукі.



# ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ РУСКІХ І БЕЛАРУСКІХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ

Першыя звесткі аб падзеях, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі, сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах Кіеўскай Русі — "Повести временных лет", якая датуецца 1111—1113 гг., а таксама ў Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісах, у "Поучении" Уладзіміра Манамаха і інш.

З беларускіх летапісаў найбольш каштоўнымі з'яўляюцца "Хроніка Быхаўца", "Баркулабаўскі летапіс" і "Хроніка горада Магілёва". Шмат матэрыялаў змяшчае "Хроніка польская, жмудская і усёй Русі" М. Стрыйкоўскага, выдадзеная ў Варшаве ў 1846 г. амаль праз тры стагоддзі пасля смерці аўтара (1586), а таксама кніга яго сучасніка А. Гваньіні, які падарожнічаў па Беларусі ў другой палове XVI ст. ("Хроніка Еўрапейскай Сарматыі...", 1578). Шмат звестак утрымліваюць дзённікі, апісанні падарожжаў і мемуары розных аўтараў XVI — XVIII стст.

Непасрэдна ў Беларусі ў XVI — XVII стст. былі напісаны працы Я. Ласіцкага (1534 — пасля 1599) і С. Рысінскага (1570—1625). Я. Ласіцкі (нарадзіўся ў Мазовіі) пасля 25 гадоў блукання па Еўропе наняўся на службу да мінскага кашталяна Яна Глябовіча ў якасці выхавальніка яго трох сыноў[1]. У 1582 г. у Спіры (Германія) выйшла яго кніга "Пра рэлігію, ахвярапрынашэнні, вясельныя, пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў, татар...", у якой з пазіцый каталіцызму і з пагардай да "варвараў", што жылі на Беларусі, апісвае розныя з'явы быту і культуры беларусаў, якіх называе русінамі. Не ведаючы беларускай мовы, працаваў з перакладчыкам.

Саламон Рысінскі (ураджэнец Беларусі) выдаў у 1612 г. працу "Польскія прымаўкі..." на польскай і лацінскай мове. Значная колькасць іх была запісана на тэрыторыі Беларусі.

Пасля ўз'яднання Беларусі з Расіяй прыкметна ўзрастае цікавасць да этнаграфіі Беларусі як з боку польскіх, так і з боку рускіх грамадскіх колаў. У Беларусь накіроўваецца экспедыцыя І. Ляпёхіна[2]. Бытавыя звесткі па Беларусі даюць матэрыялы генеральнага межавання (1786—1800). Найбольш значнымі працамі гэтага часу, у якіх ёсць звесткі па этнаграфіі Беларусі, трэба лічыць "Апісанне Крычаўскага графства", складзенае ў 1786 г. А. Меерам[3], і апі-

[1] Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989. С. 17.

[2] Вынікі экспедыцыі Ляпёхіна былі апублікаваны пазней: Таранович. В. П. Экспедиция академика И. И. Лепехина в Белоруссию и Лифляндию в 1773 г. // Архив истории науки и техники. М.; Л., 1935. Серия 1. Вып. 5. С. 545—568.

[3] Надрукавана са скарачэннямі Е. Р. Раманавым у "Могилевской старине". (Могилев, 1903. Вып. 3).

санні намесніцтваў, зробленыя ў канцы XVIII ст.[4] Аднак па быту народа ў гэтых крыніцах сустракаюцца толькі асобныя звесткі.

На пачатку XIX ст. з'яўляюцца гісторыка-этнаграфічныя і спецыяльныя этнаграфічныя працы, у якіх пытанні быту беларусаў асвятляюцца больш кваліфікавана (напрыклад, у працах В. Севергіна)[5].

У першай чвэрці XIX ст. тытанічную працу па краязнаўству Беларусі, Украіны, Расіі і Польшчы выканаў Зарыян Даленга-Хадакоўскі (Адам Якаўлевіч Чарноцкі, 1784—1825). Усё сваё свядомае жыццё ён аддаў справе збірання, запісу і сістэматызацыі матэрыялаў для комплекснага вывучэння славянства. Ён упершыню склаў чатырохтомны "Слоўнік назваў гарадзішчаў і ўрочышчаў", які толькі часткова быў апублікаваны ў "Русском историческом сборнике" (т. VII, 1844). Па звестках Г. Каханоўскага, сярод гэтых помнікаў ім зарэгістравана каля 200 гарадзішчаў і ўрочышчаў на тэрыторыі Беларусі[6].



4. Хадакоўскі (А. Я. Чарноцкі) (1784—1825)

Даследчыца фальклорна-этнаграфічнай спадчыны Хадакоўскага Л. А. Малаш сведчыць, што толькі ў першым сшытку было запісана 1017 песень[7]. Спадчына Хадакоўскага раскідана па розных архівах. "Нявыдадзенымі, — піша Л. Малаш, — засталіся запісы славянскіх песень, сшытак славянскай міфалогіі, апісанні абрадаў, звычаяў, замоў розных (пераважна ўсходнеславянскіх) народаў; слоўнікі: чатырохтомны гісторыка-геаграфічны (відаць, той, што Каханоўскі называе "Слоўнік гарадзішчаў і ўрочышчаў". — *В. Б.*), батаніка-заолага-астранамічны і старажытных выразаў; матэрыялы па дыялекталогіі, тапаніміцы, археалогіі; багатая навуковая пера-

[4] Рукапіс адной з такіх прац знойдзены намі ў архіве Вольнага эканамічнага таварыства ў 1963 г.: "Историческое и хозяйственное описание Полоцкого наместничества вообще и частно городов и уездов оного с приложением генеральных геометрических карт всего наместничества и прочих уездных карт особо с городскими планами и гербами, собранное и в порядок приведенное трудами его превосходительства г. генерал-поручика бывшего правителя сего наместничества члена Экономического общества и кавалера Александра Михайловича Лунина, сообщенное от него в дар Вольному экономическому обществу 18 декабря 1792 года" (Дзярж. публ. бібліятэка імя Салтыкова-Шчадрына, ф. Вольнага эканамічнага таварыства, $42\frac{10}{28}$ па архіўнаму вопісу № 405).

[5] Севергин В. Записки путешествия по западным провинциям Российского государства. СПб., 1803.

[6] Каханоўскі Г. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984. С. 32.

[7] Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. С. 96.

піска са шматлікімі вучонымі і карэспандэнтамі"[8].

Вялікую ролю адыграў Хадакоўскі ў арганізацыі навуковых сіл Расіі, Беларусі, Украіны і Польшчы, прадстаўнікі якіх былі яго карэспандэнтамі па збіранню разнастайных матэрыялаў. Хадакоўскі быў знаёмы з буйнейшымі вучонымі гэтых краін. Яго абралі членам-карэспандэнтам "Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці", варшаўскага "Таварыства сяброў навукі" і "Таварыства гісторыі старажытнасцей расійскіх". Аб Хадакоўскім пісалі А. С. Пушкін, М. В. Гогаль і інш.[9]

Сістэматычнае і мэтанакіраванае збіранне этнаграфічных матэрыялаў пачынаецца ў Беларусі з заснаваннем Рускага геаграфічнага таварыства. Праграма этнаграфічнага аддзела РГТ, разасланая ў 1847 г. па ўсёй краіне, у тым ліку і ў беларускія губерні, па сутнасці акрэслівала сабою змест важнейшых этнаграфічных прац таго часу і характарызавала стан этнаграфічнай навукі. Яна аб'ядноўвала ўласна этнаграфію, антрапалогію, фальклярыстыку і мовазнаўства. Непасрэдна да быту народа ў гэтай праграме адносіліся трэці, чацвёрты і часткова пяты раздзелы, якія ў асноўным ахоплівалі важнейшыя бакі быту народа.

У хуткім часе пасля рассылкі праграмы ў таварыства сталі паступаць адказы-паведамленні з месц. У залежнасці ад сацыяльна-палітычных поглядаў, адукацыі і разумення задач этнаграфіі паасобнымі карэспандэнтамі матэрыялы, дасланыя таварыству, насілі разнастайны характар. Частка гэтых звестак была апублікавана ў першых трох выпусках "Этнаграфічнага зборніка" (1853—1858). У першым выпуску змешчаны артыкул прафесара Літоўскай семінарыі І. Юркевіча па этнаграфіі Астрынскага прыхода Лідскага павета Віленскай губерні. Разважанні аўтара аб беларускім селяніне носяць суб"ектыўны характар, таму сялянам часта даецца памылковая характарыстыка. Беднасць сялян Юркевіч, напрыклад, тлумачыць не сацыяльным прыгнётам, а дрэннымі прыроднымі ўмовамі мясцовасці, неўрадлівасцю глебы, адсутнасцю прамысловасці і гандлю. У тым, што тут, асабліва вясною, "лютуюць хваробы", ён абвінавачвае саміх сялян. Прычыну хвароб ён бачыць толькі ў дрэнным санітарным стане жылля селяніна[10]. Беларускую мову аўтар характарызуе як мешаніну рускай і польскай, але больш блізкую да рускай.

У цэлым артыкул І. Юркевіча даволі павярхоўны і сведчыць аб неглыбокім веданні аўтарам жыцця народа, да якога ён адносіцца да таго ж непрыхільна. Але ў яго паведамленнях ёсць цікавыя для этнографа звесткі аб хатнім быце, адзенні, грамадскім быце і асабліва абрадах сялян Астрынскага прыхода Лідскага павета. Больш за ўсё аддаецца ўвагі апісанню вясельных, хрэсьбінных і пахавальных абрадаў. Некалькі заўваг робіцца аб зажынках, дажынках, гульнях, вераваннях і забабонах сялян. Прыводзяцца тры вясельныя і тры жніўныя песні, 12 загадак і 4 прымаўкі.

У другім выпуску "Этнаграфічнага зборніка" была змешчана вялікая праца па этнаграфіі Віцебскай губерні — "Быт беларускіх сялян". Гэта звод матэрыялаў, дасланых з Віцебскай губерні ў 1848—1850 гг. рознымі карэспандэнтамі ў адказ на праграму Геаграфічнага таварыства. Апрацоўка і сістэматызацыя матэрыялаў

---

[8] Беларуская фальклярыстыка: Эпоха феадалізму. С. 93.

[9] Падрабязней аб Хадакоўскім гл. у кн.: Беларуская фальклярыстыка: Эпоха феадалізму. С. 77—106.

[10] Гл.: Юркевич И. Остринский приход Виленской губернии Лидского уезда: Этнографический сборник. СПб., 1853. Вып. 1. С. 286.

зроблена К. Д. Кавеліным. У аснову працы ўзяты апісанні, прысланыя вольнаадпушчаным селянінам М. Анімеле — мясцовым аматарам этнаграфіі і археалогіі. Гэта праца рэзка адрозніваецца ад папярэдняй як па багаццю, так і па зместу сабранага матэрыялу. Аднак з прычыны таго, што па сацыяльнаму становішчу аўтары апісанняў належалі да розных класаў і саслоўяў (памешчыкі, чыноўнікі, свяшчэннікі, настаўнікі, медыкі і сяляне), мелі розныя погляды, яны па-рознаму падыходзілі да справы.

"Быт беларускіх сялян" мае рад супрацьлеглых сцвярджэнняў і супярэчнасцей. Так, памешчык Радзевіч піша аб беларускіх сялянах, што яны "непаваротлівыя, лянівыя, неахайныя ў адзенні і ў жыллі"[11]. Іншыя аўтары прыводзяць адваротнае сцвярджэнне. Яны адзначаюць, што "ахвота да фізічнай працы надзвычай моцная ў сялян сярэдняга дастатку і нават у бедных. У летні час яны спяць не больш чатырох гадзін у суткі і працуюць увесь астатні час"[12]. Беларускія сяляне спрытныя і кемлівыя. З іх "выходзяць выдатныя слесары, кавалі, калёснікі, краўцы, шаўцы і іншыя масцеравыя..., а жонкі іх, пажыўшы гады два-тры па пашпарту ў Пецярбургу, так пераменьваюцца, што калі яны вяртаюцца дамоў, то не хочацца верыць сваім вачам, што гэта тыя ж самыя жанчыны: яны робяцца жвавымі і ў абыходжанні, і ў размовах..."[13]

Што датычыць фактычнага этнаграфічнага матэрыялу, то гэта ў пераважнай большасці каштоўныя звесткі аб жыцці народа ў дарэформенны перыяд. Тут даецца апісанне знешнасці, мовы, жылля, хатняга начыння, гаспадарчых пабудоў, прылад працы, адзення, ежы, звычаяў прывітання, хрэсьбін, вяселля, хаўтур, дзядоў, звычаяў пры розных выпадках жыцця, пастоў, свят, жніва і талакі, прыкладнага бюджэту сярэдняга селяніна, характарызуюцца разумовыя і маральныя якасці і адукацыя, асаблівасці грамадскага быту, публікуюцца прымаўкі, песні, народныя паданні. У гэтай працы пераважнае месца займаюць апісанні духоўнага быту, асабліва апісанні вясельных абрадаў. Парадак заключэння шлюбу і вясельныя абрады разглядаюцца даволі падрабязна, з добрым веданнем жыцця народа і сімпатыямі да яго.

Аўтары "Быту беларускіх сялян" часта падкрэсліваюць класавую і маёмасную дыферэнцыяцыю беларускай вёскі напярэдадні адмены прыгоннага права. Гэта наглядаецца пры апісанні вытворчага быту, адзення, ежы селяніна, сямейных абрадаў і г. д. Так, пры апісанні вяселля аўтар адзначае, што "поўнае вяселле з усімі абрадамі бывае толькі ў заможных сялян; вяселлі сялян сярэдняга дастатку і бедных адрозніваюцца ад апісанага тым, што ў нявесты і жаніха не бывае вечарынак і нявеста пасля шлюбу прама з царквы, не заязджаючы да сваіх бацькоў, едзе разам з мужам да яго ў дом. Прытым у бедных к вяселлю не вараць піва: яго замяняе звычайны квас"[14].

У трэцім выпуску "Этнаграфічнага зборніка" матэрыялы з Беларусі займаюць асноўнае месца. Тут змешчаны дзве вялікія працы — "Этнографічны погляд на Віленскую губерню" А. Кіркора[15] і "Заметкі аб заходняй частцы Гродзенскай губерні"[16]. Апошняя праца, па

[11] Этнографический сборник. СПб., 1854. Вып. 2. С. 112.
[12] Там жа. С. 114.
[13] Там жа. С. 250—251.
[14] Этнографический сборник. Вып. 2. С. 190.
[15] Там жа. Вып. 3. СПб., 1858. С. 115—276.
[16] Там жа. С. 47—114.

сведчанню Я. Ф. Карскага, належыць пяру Куклінскага[17].

У артыкуле Куклінскага этнаграфічнага матэрыялу па сутнасці няма. Артыкул складаецца з дзвюх частак: 1) Гістарычныя заметкі па Гродзенскай губерні да пачатку XIV ст.; 2) Быт сучасны (з боку мовы). Аўтар прыводзіць некалькі фальклорных твораў (тры паданні і 27 песень) і робіць заўвагі аб асаблівасцях мовы Гродзеншчыны.

Большую цікавасць мае праца А. Кіркора, хоць па багаццю матэрыялу яна некалькі ўступае аналагічнай працы, змешчанай у другім выпуску "Этнаграфічнага зборніка". Праца Кіркора, як і праца "Быт беларускіх сялян", паявілася ў адказ на праграму Рускага геаграфічнага таварыства. Яна была напісана на даволі высокім прафесіянальным узроўні.

Адам Ганоры Карлавіч Кіркор (1818—1886) нарадзіўся ў м. Слівін (паблізу ад г. Мсціслава) Магілёўскай губерні ў сям'і дробнага землеўласніка, ці аднадворца. Пасля заканчэння Магілёўскай гімназіі і Віленскай дваранскай гімназіі ён працаваў у Вільні сакратаром губернскага статыстычнага камітэта, удзельнічаў у гуртку, у які побач з лібераламі (браты Тышкевічы, Нарбут і інш.) уваходзілі і прадстаўнікі перадавой грамадска-палітычнай думкі таго часу (Сыракомля).

Кіркор рана пачаў займацца археалагічнымі, гістарычнымі і этнаграфічнымі даследаваннямі. Яго матэрыялы публікаваліся ў выданнях статыстычнага камітэта. З 1843 г. Кіркор быў рэдактарам часопісаў "Radegest", а потым "Pamętnik umysłowe", з 1850 па 1854 г. ён рэдагаваў "Памятные книжки Виленской губернии", пасля чаго выдаваў часопіс "Teka Wileńska" (1857—1858), выпусціў два тамы

[17] Гл.: Карский Е. Ф. Белорусы. Вильна, 1904. Т. 1. С. 228.



5. Адам Кіркор (1818—1886)

"Виленского сборника". З 1860 па 1865 г. рэдагаваў газету "Виленский вестник", пасля закрыцця апошняй Кіркор пераехаў у Пецярбург, дзе стаў рэдактарам газеты "Новое время" (1868—1871).

У пачатку 70-х гадоў Кіркор вымушаны быў пакінуць Пецярбург у сувязі з праследаваннямі царскіх улад. Ён пераязджае ў Кракаў[18].

[18] У Кракаве ў Аддзеле рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі захоўваецца архіў навуковых прац А. Кіркора. Побач з чарнавымі рукапісамі яго апублікаваных прац тут знаходзяцца наступныя яго неапублікаваныя рукапісы па беларускай этнаграфіі: "Скокі простага мужычка (прыпеўкі да танцаў)"; "Падарожныя запіскі"; "Беларускі слоўнік і песні з дадаткам апісанняў абрадаў куцці, Каляд, гульняў і танцаў беларусаў". Акрамя рукапісаў Кіркора, у яго архіве знаходзяцца рукапіс Адама Каставіцкага "Апісанне Вілейскага павета Віленскай губерні", ч. 2; рукапіс невядомага аўтара "Вясельны абрад у Лідскім павеце", а таксама перапіска Кіркора з рознымі асобамі і навуковымі ўстановамі (сігнатура № 4496—4498, 5007, 5099).

Кіркор з'яўляецца аўтарам вялікай колькасці гістарычных, археалагічных і некалькіх этнаграфічных прац.

Акрамя працы "Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню", пазней, у 70—80-х гадах, па матэрыялах, якія былі сабраны яшчэ ў 40—50-х гадах, Кіркор надрукаваў рад прац па этнаграфіі Беларусі. Найбольш каштоўныя з іх увайшлі ў III том "Жывапісная Расіі"[19].

Праца Кіркора "Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню" складаецца з уводзін, шасці раздзелаў, адпаведных раздзелам праграмы РГТ: I. Знешнасць; II. Мова; III. Хатні быт; IV. Асаблівасці грамадскага быту; V. Разумовыя і маральныя якасці; VI. Народныя паданні і помнікі. Да працы прыкладзены слоўнік "беларуска-крывіцкай гаворкі" і тэксты фальклорных твораў. Напісана яна з ліберальных пазіцый, але з вялікай любоўю да простага народа. Яна па сутнасці носіць характар агляду. Тут амаль няма этнаграфічных апісанняў канкрэтных населеных пунктаў. У агульных рысах дадзена і апісанне матэрыяльнай культуры насельніцтва Віленскай губерні (жылля, адзення, ежы). Пры гэтым вельмі мала або зусім нічога не гаворыцца аб спецыфічных асаблівасцях у быце і культуры розных частак губерні, розных этнаграфічных груп. Сваё апісанне Кіркор у аднолькавай меры прысвячае беларусам і літоўцам, хоць ва ўводзінах і адзначае, што, нягледзячы на векавую блізкасць, "літоўцы і беларусы ў многім адрозніваюцца паміж сабою"[20]. Больш удалым з'яўляецца апісанне паасобных элементаў духоўнага жыцця беларусаў, асабліва сямейных абрадаў (вяселля, пахавання, хрэсьбін), некаторых каляндарных абрадаў і вераванняў (купальскіх, калядных і інш.), а таксама гульняў і танцаў з прывядзеннем адпаведных песень.

У агульнай характарыстыцы народа, яго сацыяльнага становішча, маральных і разумовых якасцей Кіркор робіць значны крок у параўнанні са сваімі папярэднікамі. Ён рашуча выступае супраць рэакцыйных тэндэнцый таго часу — паказваць беларусаў і літоўцаў людзьмі, якія пазбаўлены ўсялякіх станоўчых разумовых і маральных якасцей. Кіркор падкрэслівае, што беларусы і літоўцы нікольки не горш за іншых суседніх народаў, хоць ім прыйшлося выцерпець больш цяжкі нацыянальны і сацыяльны прыгнёт: "Іншы раз незнарок выказаная селянінам думка даказвае глыбокую вопытнасць і веданне жыцця; другі раз трапна выкарыстаная прыказка ці прымаўка міжвольна прыводзіць у здзіўленне. Адкуль, здаецца, у гэтым грубым, бедным самаахвярніку столькі простага розуму і спрыту"[21].

Аўтар паказвае вельмі цяжкае становішча селяніна. "Бедныя працаўнікі, якія крывавым потам здабываюць сабе дзённы пражытак, са здзіўляючай энергіяй і мужнасцю пераносяць свой цяжкі лёс, ахвяруючы ўсімі сваімі сіламі з самага малога ўзросту..."[22] Яшчэ з большым смуткам апісвае ён смерць селяніна: "Жаласна і ўрачыста канчына беднага працаўніка, які ўвесь век правёў у цяжкай працы, а на схіле дзён, калі адрахлелыя сілы не далі яму магчымасці працаваць, нярэдка пазбаўлены першых жыццёвых патрэб. Бедны! Ён памірае з засмучаным усведамленнем, што апошнія дні яго былі ў цяжар для сям'і..."[23]

Нават за тое, што селянін калі-нікалі вымушаны глушыць сваё гора ў гарэлцы,

[19] Живописная Россия. СПб.; М., 1882. Т. 3.

[20] Этнографический сборник. Вып. 3. С. 119.

[21] Этнографический сборник. Вып. 3. С. 177, 178.

[22] Там жа. С. 134.

[23] Там жа. С. 150.

Кіркор абвінавачвае сацыяльны строй. Але выхад з цяжкага становішча ён бачыць у клопатах "добрых" паноў аб дабрабыце сваіх сялян і нават імкнецца даказаць, што такія паны ўжо нібыта "звярнулі асаблівую ўвагу на выгады жыцця сваіх сялян, пабудавалі цэлыя вёскі, і ў іх печы ўсюды з комінамі"[24]. Тут адчуваецца класавая абмежаванасць аўтара.

У цэлым праца Кіркора дае правільнае ўяўленне аб жыцці беларусаў Віленскай губерні, хоць фактычны матэрыял тут вельмі абмежаваны. Этнаграфічныя апісанні амаль не могуць быць выкарыстаны сучаснымі даследчыкамі быту беларусаў, паколькі адсутнічае дакладная пашпартызацыя матэрыялаў. Што ж датычыць слоўніка, песень, прыказак і прымавак, то яны ў большасці сваёй, як слушна заўважае Я. Ф. Карскі[25], перадрукаваны са зборнікаў песень Я. Чачота і з працы Я. Тышкевіча "Апісанне Барысаўскага павета". Пры гэтым Кіркор не толькі не спасылаўся на крыніцы, але і механічна перанёс фальклорны матэрыял з Мінскай губерні ў Віленскую.

Некалькі дзесяткаў рукапісаў, атрыманых РГТ у адказ на праграму, засталіся неапублікаванымі[26]. Многія з іх прадстаўляюць вялікую цікавасць як матэрыял для характарыстыкі быту беларусаў розных мясцовасцей. Так, па Віцебскай губерні, акрамя рукапісаў, выкарыстаных для працы "Быт беларускіх сялян", былі атрыманы апісанні Г. Каладніцкага "Этнаграфічныя звесткі аб жыхарах Лепельскага павета, с. Вяжышча"[27], П. П. Пароменскага "Этнаграфічныя звесткі аб жыхарах г. Суража і яго павета"[28], І. Іваноўскага "Этнаграфічныя звесткі аб жыхарах маёнтка Сволна Дрысенскага павета Віцебскай губерні"[29] і інш.

З рукапісаў, дасланых з Гродзенскай губерні, заслугоўваюць увагі адказы на пытанні праграмы К. Брэна "Мясцовае этнаграфічнае апісанне Бельскага павета"[30], І. Калдубоўскага "Бездзежскі прыход Кобрынскага павета"[31] і С. Пашкевіча "Холмскі прыход Кобрынскага павета"[32]. Па Віленскай губерні цікавыя звесткі ёсць у рукапісах з Ашмянскага павета[33].

Ва ўсіх рукапісах даюцца апісанні жылля, гаспадарчых пабудоў, адзення, ежы, прылад працы і інш.

Акрамя этнаграфічных прац, якія з'явіліся ў адказ на праграму Рускага геаграфічнага таварыства напярэдадні адмены прыгоннага права, было апублікавана некалькі бытавых апісанняў беларускіх этнографаў-аматараў. Асаблівай увагі заслугоўваюць артыкулы П. М. Шпілеўскага, якія друкаваліся ў часопісах "Журнал Министерства народного просвещения", "Москвитянин", "Пантеон", "Современник" і інш.

Павел Міхайлавіч Шпілеўскі (Драўлянскі, 1823—1861) нарадзіўся ў Бабруйскім павеце Мінскай губерні. Біяграфічныя звесткі аб ім амаль адсутнічаюць. Відаць, Шпілеўскі працаваў у нейкай навуковай установе, па заданню якой падарожнічаў па Беларусі і збіраў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы.

---

[24] Этнографический сборник. Вып. 3. С. 135.

[25] Карский Е. Ф. Белорусы. 1903. Т. 1. С. 228—230.

[26] Кароткае апісанне гэтых рукапісаў зроблена Д. К. Зяленіным у працы "Апісанне рукапісаў вучонага архіва Рускага геаграфічнага таварыства" (Пг., 1914—1915. Вып. 1—2).

[27] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, разр. 5, воп. 1, № 4, 5.

[28] Там жа, № 6.

[29] Там жа, № 3.

[30] Там жа, разр. 2, воп. 1, № 4.

[31] Там жа. № 6.

[32] Там жа. № 7.

[33] Там жа, разр. 4, воп. 1, № 6, 7.

Любоў да вывучэння родных мясцін праявілася ў яго вельмі рана, яшчэ калі ён быў студэнтам. "Мне, — пісаў Шпілеўскі, — успамінаюцца тыя цудоўныя дні, поўныя радасці, якую нельга апісаць і якая зразумела толькі таму, хто сам гэта адчуў, дні, у якія я спяшаўся на канікулы з губернскага горада ў аддалены павет і мог з поўнай свабодай раз'язджаць па вёсках і сёлах, дзе па якойсьці страснай неўсвядомленай ахвоце да вывучэння народных павер'яў і казак прыслухоўваўся да гукаў гарманічнай пявучай беларускай мовы, запісваў словы і расказы з вуснаў пасялян, дамарослых баянаў і знахароў, прабіраўся ў беларускія хаты і клеці, знаходзіў задавальненне ў гутарцы за сціплай вясковай трапезай з сівымі старымі і маршчыністымі бабулямі"[34].

У 1845 г. юнак выслаў у Аддзяленне рускай мовы Расійскай акадэміі навук складзены ім слоўнік беларускай мовы[35], а ў наступным годзе пачаў друкаваць даследаванне "Беларускія народныя павер'і"[36], якое было часткай яго рукапіснай працы "Слоўнік і караняслоў беларускай гаворкі".

У 1853 г. Шпілеўскі адправіўся ў працяглую экспедыцыю па Беларусі. За тры гады ён аб'ехаў Гродзенскую, Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую губерні. Адначасова свае назіранні ён друкаваў пад назвай "Падарожжа па Палессю і Беларускаму краю"[37]. Гэта праца складаецца за 13 гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысаў. Аўтар дзеліцца сваімі дарожнымі ўражаннямі, дае гістарычныя звесткі аб населеных пунктах, праз якія яму прыйшлося праязджаць, вялікую ўвагу надае іх этнаграфічнаму апісанню, прыводзіць арыгінальныя замалёўкі з быту беларускіх сялян — апісанні адзення, жылля, ежы, абрадаў, кірмашоў і свят, змяшчае рад фальклорных твораў (песень, казак і паданняў). Шпілеўскі ідэалізуе жыццё беларускага селяніна, характарызуе яго з пункту погляду ліберальна настроенага памешчыка, якому не хацелася бачыць класавай нянавісці прыгнечаных да прыгнятальнікаў. Па яго апісаннях, памешчык клапоціцца аб дабрабыце селяніна, і селянін вельмі ўдзячны свайму пану і царскаму ўраду.

Любаванне бытам беларуса, залішняя рамантызацыя яго жылля, ежы, адзення, сямейнага, вытворчага і грамадскага быту — усё гэта скажае сапраўдную карціну жыцця беларускага народа. Нават у тым, што хаткі беларусаў нізенькія, "з маленькімі акенцамі і яшчэ меншымі шыбамі", што нярэдка селянін вымушаны трымаць у сенцах жывёлу, Шпілеўскі бачыць рамантыку. Каштоўным у гэтай працы з'яўляецца толькі фактычны этнаграфічны і фальклорны матэрыял — канкрэтныя апісанні быту селяніна, яго жылля, ежы, адзення, сямейных і каляндарных абрадаў. Але ён патрабуе крытычнага падыходу.

У 1853—1856 гг. П. М. Шпілеўскі друкуе працу пад назвай "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках"[38]. Яна ўключае 16 нарысаў, якія даюць багаты матэрыял

[34] Шпилевский П. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических ее сказках // Пантеон. 1853. Т. X, кн. 7. С. 45, 46.

[35] Рукапісны аддзел Фундаментальнай бібліятэкі РАН у Ленінградзе, рукапіс F1, 2, 49, 50.

[36] Журнал Министерства народного просвещения. СПб., 1846. Прибавления. Кн. I. С. 4—25; Кн. IV. С. 85—125. Заканчэнне работы гл. там жа. 1852. Кн. 3. С. 1—32.

[37] Современник. 1853. Т. XXXIX. № 6. С. 75—98; Т. XL. № 7. С. 1—26; № 8. С. 39—110; 1854. Т. XLVIII. № 11. С. 1—58; 1855. Т. LII. № 7. С. 1—62.

[38] Пантеон. 1853. Т. VIII, кн. 4. С. 71—96; т. IX, кн. 5. С. 1—20; кн. 6. С. 1—34; т. X, кн. 7. С. 15—56; 1854. Т. XV, кн. 5. С. 21—44; кн. 6. С. 47—68; 1856. Т. XXV, кн. 1. С. 1—30; т. XXVI, кн. 3. С. 1—28.

для вывучэння быту і вуснапаэтычнай творчасці беларусаў сярэдзіны XIX ст. Напісаны яны па матэрыялах яго экспедыцыі. "Што цягнула мяне туды, у гэтыя хаціны бедных людзей? — пісаў ён. — Не ведаю... я любіў гэтых добрых людзей, я знаходзіў радасць у іх павольнай, лянівай размове, у іх песнях, прымаўках і прыказках... Колькі новага, невядомага мне за школьнай партай я даведаўся ў гэтым народным вучылішчы, багатым разнароднымі прадметамі і навукамі аб роднай зямлі і мове, аб старажытным жыцці-быцці продкаў, дзядоў..."[39]

Шпілеўскі абураецца тым, што нашы вучоныя праяўляюць большую цікавасць да жыцця людзей за мяжой і вельмі мала звяртаюцца да вывучэння быту свайго народа. Ён пісаў: "Нас цікавяць паданні і вераванні старажытных грэкаў і рымлян, мы пішам аб іх норавах, міфалогіі, мове, нават баляваннях і абедах: чаму ж не напісаць аб роднай Беларусі, якая так багата сваімі самабытнымі норавамі, міфалогіяй, мовай і, нарэшце, ігрышчамі і святамі"[40].

У этнаграфічнай літаратуры аб Беларусі сярэдзіны XIX ст. праца П. М. Шпілеўскага "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках" займае адно з пачэсных месц. Яна ў папулярнай форме ўпершыню пазнаёміла шырокія колы грамадскасці Расіі з бытам беларускага народа, яго багатай вуснапаэтычнай творчасцю. У адрозненне ад вялікадзяржаўных рускіх і польскіх шавіністаў, якія адмаўлялі існаванне самастойнага беларускага народа, Шпілеўскі гаворыць аб беларусах як аб асобным народзе, адначасова падкрэсліваючы адзінства яго паходжання з рускім народам: "Ёсць у нас на Русі вялікі край... яго завуць Беларуссю. Жывуць там людзі беларускія, нашчадкі старажытных крывічоў і дрыгавічоў, родныя браты людзей велікарускіх"[41]. Але пад назвай "Беларусь" Шпілеўскі разумее толькі тэрыторыю паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной (Віцебскую, Мінскую і часткова Смаленскую губерні). Астатнюю тэрыторыю Беларусі (Гродзенскую губерню) ён выдзяляе ў асобны край, называючы яго Палессем.

Усе нарысы гэтай працы можна падзяліць на дзве групы — фальклорныя і этнаграфічныя. У фальклорных нарысах змешчаны перапрацаваныя і перакладзеныя ім на рускую мову беларускія казкі "Сястра-чараўніца", "Мядзведжае вушка", "Чароўная кветка", "Залаты шчупак", "Глебушкіны слёзы". Усе гэтыя казкі маюць міфалагічны змест. Этнаграфічныя нарысы прысвечаны пытанням быту беларускага народа. У іх даецца красамоўнае апісанне сямейнага і грамадскага жыцця сялян Мінскай і Віцебскай губерняў, рознага роду абрадаў, вераванняў і забабонаў.

У працы "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках", як і ў папярэдняй, Шпілеўскі ідэалізуе быт і культуру народа. Ён любуецца старасветчынай, элементы якой захаваліся ў паасобных баках жыцця беларусаў, гаворыць аб задаволенасці селяніна сваім лёсам[42]. Але ў паасобных выпадках, калі гэтага ніяк нельга абысці, Шпілеўскі ўсё ж паказвае і цяжкае жыццё народа, яго нястачы і беднасць, не даючы тлумачэння прычын такога становішча. Ён, напрыклад, гаворыць, што ў Беларусі "часта здараецца, калі парадзіха ў дзень родаў працуе і гатуе дома; мала таго, часта, нарадзіўшы на полі, у час жніва, праз некалькі гадзін

[39] Пантеон. 1853. Т. X, кн. 7. С. 46.
[40] Там жа. Т. VIII, кн. 4. С. 72.
[41] Там жа. С. 71.
[42] Там жа. С. 92.



ПУТЕШЕСТВІЕ

ПО ПОЛѢСЬЮ И БѢЛОРУССКОМУ КРАЮ.

П. М. ШПИЛЕВСКАГО.

С. ПЕТЕРБУРГЪ

1858.

6. Вокладка кнігі П. М. Шпілеўскага

працягвае жаць"[43]. Аб тым, што прымушае жанчыну рызыкаваць сваім здароўем, аўтар не піша.

У адной з сваіх апошніх прац — "Мазыршчыне", у якой таксама багата фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, Шпілеўскі адзначае, што народ Мазыршчыны "пакінуты на волю лёсу і не карыстаецца сімпатыямі сваіх уладальнікаў", што "сялянам няма калі падумаць пра сябе, бо яны жывуць для ўладальнікаў...", сяляне не маюць "сваёй уласнасці, якая б магла забяспечыць будучае сям'і"[44]. Селянін "недружалюбна глядзіць на сваіх паноў-гаспадароў"[45].

Працы Шпілеўскага характарызуюць стан этнаграфічнай навукі таго часу, калі яшчэ не была распрацавана методыка збірання фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў. Замест дакладнай перадачы фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у такім выглядзе, як яны бытавалі ў народзе, даецца іх літаратурная апрацоўка. Толькі песні прыводзяцца на мясцовай мове. Значная колькасць матэрыялаў не мае дакладнай пашпартызацыі. Часам указваецца толькі губерня, у якой сабраны матэрыялы. Асноўнае месца ў працах Шпілеўскага займаюць міфалагічныя казкі і паданні, абрады, вераванні і забабоны беларускага сялянства.

Навуковая і публіцыстычная дзейнасць П. М. Шпілеўскага звярнула на сябе ўвагу М. Г. Чарнышэўскага, які адгукнуўся на яго важнейшыя працы. Крытыкуючы Шпілеўскага за перагрузку нарысаў гістарычнымі звесткамі (чацвёртая частка "Падарожжа па Палессю і Беларускаму краю") і высокі стыль, якім перадаюцца вуснапаэтычныя творы народа (першая частка працы "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных казках"), Чарнышэўскі разам з тым адзначае іх навуковую каштоўнасць. Аб паасобных частках нарысаў Чарнышэўскі, напрыклад, пісаў, што ў іх запісана "даволі многа народных павер'яў, цікавых і для вучонага — даследчыка народнасці"[46].

Сярод гісторыка-геаграфічных апісанняў Беларусі першай паловы XIX ст. вызначаецца праца М. Без-Карніловіча "Гістарычныя звесткі пра выдатныя месцы на Беларусі з дадаткам і іншых звестак, якія да яе ж адносяцца"[47].

[43] Пантеон. 1856. Т. XXV, кн. 1. С. 3.

[44] Архив исторических и практических сведений, относящихся к России. СПб., 1859. Кн. 3. С. 7.

[45] Там жа. С. 12.

[46] Чернышевский Н. Г. Полн. собр. соч.: В 15 т. Т. 16, доп. М., 1953. С. 56.

[47] Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся / Составлены генерал-майором М. О. Без-Карниловичем. СПб., 1855.

Аўтар робіць некалькі заўваг пра быт беларусаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў (дарэчы, гэтымі дзвюма губернямі ён і абмяжоўваў усю тэрыторыю Беларусі). Погляд Без-Карніловіча як на этнагенез беларусаў, так і на тэрыторыю Беларусі памылковы. Беларусамі ён лічыў толькі "нашчадкаў крывічоў", але ён гаворыць аб беларусах як аб асобным племені, ставіць яго ў адзін рад з іншымі суседнімі народамі. Без-Карніловіч дае ў асноўным аб'ектыўную характарыстыку беларускага народа, апісвае цяжкае яго жыццё, але ў паказе шляхоў паляпшэння сялянскай гаспадаркі ён выступае як памешчык-прыгоннік. Без-Карніловіч прапаноўвае ссяляць сялян у вялікія вёскі, захоўваць патрыярхальныя сем'і і нават злучаць у адну сям'ю (адзін двор) невялікія сем'і суседзяў. "Аб'яднаннем некалькіх паўцяглаў у адну сям'ю або двор памешчык у сваім маёнтку зменшыў бы колькасць бедных людзей, якіх на працягу некалькіх месяцаў да новага ўраджаю ён звычайна корміць сваім хлебам, баючыся, каб яны ад голаду не разбегліся"[48]. Асобныя раздзелы сваёй кнігі Без-Карніловіч прысвячае апісанню звычаяў беларусаў, народнай метэаралогіі і вытворчай дзейнасці.

Кніга Без-Карніловіча, па якой чытач мог у агульных рысах пазнаёміцца з асноўнымі асаблівасцямі гісторыі і быту беларускага народа, у свой час была прыкметнай з'явай у літаратурным жыцці Беларусі. М. Г. Чарнышэўскі лічыў яе "не бескарыснай для тых, у каго пад рукамі няма добрага збору кніг па рускай гісторыі"[49].

[48] Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся. С. 244.

[49] Современник. 1856. № 1.

Значнай працай 50-х гадоў па беларускаму фальклору з'яўляецца зборнік "Народныя беларускія песні" Е. П. (СПб., 1853), які атрымаў высокую ацэнку ў "Современнике" і "Отечественных записках"[50]. У ім змешчана звыш 100 беларускіх песень з Быхаўскага павета Магілёўскай губерні.

У першай палове XIX ст. у перыядычным друку Пецярбурга, Масквы, Кіева, а таксама ў мясцовай прэсе з'яўляецца некалькі артыкулаў па этнаграфіі беларусаў[51]. Найбольш значны з іх — артыкул А. Васкоўскага "Беларусь", які быў змешчаны ў газеце "Московские губернские ведомости"[52]. Большая частка яго прысвечана апісанню вясельных абрадаў. Тут таксама коратка характарызуецца сялянскае жыллё, робяцца заўвагі аб адзенні і асаблівасцях беларускай мовы. Пад Беларуссю Васкоўскі, як і Без-Карніловіч, разумее толькі дзве губерні — Віцебскую і Магілёўскую. Апісанні, як відаць з артыкула, зроблены на аснове канкрэтных назіранняў на Віцебшчыне і Магілёўшчыне.

[50] Там жа. 1853. Т. 42. № 11. С. 22—27; Отечественные записки. 1853. Кн. X. С. 77—81.

[51] Мухлинский. Празники, забавы, предрассудки и суеверные обычаи простого народа в Новогрудском уезде Литовско-Гродненской губернии // Вестник Европы. 1830. № 14. С. 147—153; № 15, 16. С. 271—276; Верещагин В. Белорусы // Лучи. 1850. № 2. С. 95—102; Михайлов И. И. Народные предрассудки. Вера в порчу и врачевания: Библиотека для чтения. СПб., 1859. Кн. 8. С. 1—44; Лашкарев С. Путевые заметки от Москвы до Бобруйска // Экономист. 1859. Т. II, кн. 4, аддзел 3. С. 1—14; Свадьба в Полесье // Киевский телеграф. 1859. № 19. С. 79, 80; № 20. С. 82—84; № 25. С. 105, 106; Кнюпфер. Отчет об агрономическом путешествии летом 1854 года по Витебской и Лифляндской губерниям // Журнал Министерства государственных имуществ. 1857. Ч. IXIII. С. 281—301; Ч. LXIV. С. 33—52 і інш.

[52] Васковский А. Белоруссия (Этнографический очерк) // Московские губернские ведомости. 1854. № 148, 149, 152, 153.

# ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ ПОЛЬСКІХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ

Як і ў рускай і мясцовай беларускай этнаграфіі, сярод польскіх даследчыкаў Беларусі існавалі таксама прагрэсіўны і рэакцыйны напрамкі.

Прагрэсіўныя ідэі ў польскай этнаграфіі ідуць ад Калантая і Хадакоўскага (Адама Чарноцкага). Пад уплывам апошняга ў пачатку XIX ст. паяўляецца першая буйная праца па этнаграфіі Беларусі — даследаванне І. Шыдлоўскага аб вясельных абрадах у Барысаўскім павеце[53].

Гуга Калантай (1750—1812) упершыню ў 1802 г. распрацаваў этнаграфічную праграму, якая ахоплівала важнейшыя асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры народаў былой Рэчы Паспалітай. Праграма складалася з 11 пунктаў, пры дапамозе якіх патрэбна высветліць:

"1) розніцу ў іх (жыхароў кожнай мясцовасці) мове або ў дыялектах адной мовы;

2) розніцу ў адзенні — не толькі тое, што датычылася яго крою, але нават колеру, не мінаючы ніводнага віду вопраткі;

3) даць падрабязны разгляд усіх іх абрадаў — вясельных, радзінных, пахавальных, бо хоць гэтыя абрады наша рэлігія зрабіла аднолькавымі, аднак усюды засталося яшчэ нешта з даўнейшых звычаяў, як вясёлых, так і жалобных;

4) аб забавах простых людзей у розную пару года, аб іх музыцы, музычных інструментах, аб каляндарных святах ці сатурналіях нашага люду, аб вакханаліях, аб песнях — вясёлых, пастухоўскіх, жалобных, гістарычных і тых, што дзецям спяваюць над калыскай, аб казках і гісторыях, аб чарах і забабонах, а па сутнасці аб рэштках звычаяў даўняй язычніцкай рэлігіі, напрыклад аб Купаллі ў час летняга сонцастаяння і інш.;

5) аб знешнім выглядзе;

6) аб стравах і спосабах іх прыгатавання, аб жыллі, аб спосабе будаўніцтва, аб прадметах хатняга ўжытку;

7) аб пастухоўстве і земляробстве;

8) аб рукадзеллі простых людзей;

9) аб адмоўных звычаях і недахопах;

10) аб характэрных хваробах і спосабах ратавання хворых у простых людзей"[54].

Гэтая праграма Г. Калантая ўпершыню была надрукавана ў 1810 г. у часопісе "Pamiętnik Warszawski".

Польскія этнографы карысталіся таксама і "Інструкцыяй па арганізацыі ў гімназіях і павятовых школах запісаў у прадмеце розных навук", якая была выслана ў Віленскую вучэбную акругу ў 1812 г. міністрам асветы Расійскай імперыі А. Разумоўскім. У 1816—1817 гг. інструкцый было тры. Яны былі перакладзены на польскую мову ў часопісе "Dziennik Wileński". Інструкцыі ахоплівалі такія галіны ведаў, як гісторыя краю, заалогія, батаніка, мінералогія, статыстыка, тапаграфія, эканоміка, тэхналогія, фізіка. Важна адзначыць, што ў інструкцыях звярталася ўвага на запісванне фальклору, народных паданняў, поглядаў народа на розныя з'явы прыроды. У прыватнасці, рэкаменда-

---

[53] Szydłowski I. Obrzędy weselne ludu wiejskiego w gubernii Mińskiej, w powiecie Borysowskim, w parafii Hajeńskiej, obserwowane w latach 1800, 1-szym i 2-gim z niektóremi piosenkami i ich zwyczajną nótą // Tygodnik Wileński. 1819. T. VII. S. 1—18, 81—104.

[54] Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. С. 39.

валася запісваць астранамічныя ўяўленні і метэаралагічныя назіранні, збіраць матэрыялы аб народных спосабах вымярэння часу, аб асаблівасцях народнага адзення, жылля, мэблі, вераванняў, абрадаў, песень, музыкі, музычных інструментаў і іншых з'яў народнай культуры.

Першым вынікам ажыццяўлення згаданых вышэй інструкцый быў артыкул Марыі Чарноўскай "Рэшткі славянскай міфалогіі, захаваныя ў звычаях вясковага люду на Белай Русі"[55]. М. Чарноўская ў гэтым артыкуле таксама зазначае, што напісала яго пад уплывам інструкцый графа Разумоўскага.

У артыкуле з прыхільнасцю да простага люду Чэрыкаўшчыны Чарноўская апісвае важнейшыя, на яе погляд, абрады беларусаў — Купалля, Радаўніцы і "зялёных святак". Па ходу апісання звяртаецца ўвага на адзенне, ежу, прымаўкі, вераванні. Акрамя таго, апублікаваны чатыры песні, упершыню з нотамі.

Нельга не адзначыць выключную ролю ў актывізацыі краязнаўства ў Беларусі прафесараў Віленскага універсітэта М. К. Баброўскага, І. Даніловіча, І. М. Лабойкі і І. Б. Ярашэвіча, хаця ў сваіх поглядах на Беларусь яны значна разыходзіліся. Так, калі М. К. Баброўскі і І. Даніловіч былі за ўвядзенне ў афіцыйны зварот беларускай мовы і аднаўленне ВКЛ, то І. Б. Ярашэвіч і іншыя лічылі Беларусь неад'емнай часткай Польшчы і праводзілі палітыку апалячвання беларусаў. Пануючымі ў Віленскім універсітэце былі польска-шавіністычныя тэндэнцыі. Таму ў выпускнікоў яго выхоўвалі польска-нацыяналістычную самасвядомасць.

Пры разглядзе прац польскіх даследчыкаў трэба мець на ўвазе, што на землях Беларусі, якія былі далучаны да Расіі, на працягу амаль 50 гадоў (да задушэння паўстання 1831 г.) адбываўся працэс польска-каталіцкай экспансіі, што прывяло да актыўнай паланізацыі вялікай колькасці беларусаў. Гэтаму садзейнічала палітыка заігрывання Кацярыны ІІ і Аляксандра І з феадальнымі вярхамі польскага этнасу. Віленская навучальная акруга была аддадзена ў распараджэнне польскага графа Чартарыйскага. Віленскі універсітэт і Полацкая езуіцкая акадэмія цалкам служылі польскай экспансіі на Беларусі. Беларускі этнограф і фалькларыст Е. Р. Раманаў (пад псеўданімам Е. Беліцкі) у сваёй працы "Пад польскім ігам" (1908) пісаў: "Чаго пад польскім прыгнётам не дазволілі зрабіць Кунцэвічу магілёўцы і віцебляне, нягледзячы на крывавыя расправы, якія чыніліся палякамі, тое з лішкам дарабіла пецярбургская бюракратыя... У гэтых адносінах яна прамая пераемніца Кунцэвіча"[56].

Ахопленыя польскім патрыятызмам, накіраваным на аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г., краязнаўцы з польскай самасвядомасцю актыўна ўзяліся за вывучэнне культуры беларусаў як неад'емнай часткі польскай культуры.

Нават такія прагрэсіўныя краязнаўцы, як Ян Чачот, запісвалі беларускі фальклор і выдавалі яго ў перакладзе на польскую мову. З шасці зборнікаў, што апублікаваў Я. Чачот, толькі апошні быў часткова выдадзены ў арыгінале. Чым жа тлумачыў Я. Чачот пераклад беларускіх песень на польскую мову? Аказваецца, на яго думку, "сялянская (беларуская. — *В. Б.*) мова і наша (польская. — *В. Б.*) пісьмовая не вельмі адрозніваюцца..."[57]

---

[55] Zabytki mitologii sławiańskiej w zwyczajach wiejskiego ludu na Białej Rusi dochowane (gub. Mohilewska) // Dziennik Wileński. 1817. T. VI. C. 396—408.

[56] Белицкий Е. Под польским игом. Вильна, 1908. С. 94.

[57] Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. С. 121.

Вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч, які нарадзіўся ў Беларусі, добра ведаў быт беларусаў, яскрава адлюстраваў яго ў сваёй творчасці. Дзейнасць А. Міцкевіча высока цанілі рэвалюцыйныя дэмакраты. Адносна выдадзенай ім літаграфіі "Славянскі нявольнік" А. І. Герцэн пісаў, што на ёй "са здзіўляючай вернасцю" перададзены заклік "Да сякер, братцы!" "Беларускі мужык без шапкі, які ачумеў ад жаху, нястачы і цяжкай працы, рукі за поясам, стаіць пасярод поля і неяк коса і безнадзейна глядзіць уніз. Дзесяць пакаленняў, замучаных на паншчыне, стварылі такога парыя"[58].

У 30—40-х гадах надзвычай плённай была дзейнасць збіральніка беларускіх народных песень Яна Чачота, аднаго з удзельнікаў польскага руху на Беларусі, члена нелегальных студэнцкіх таварыстваў філарэтаў і філаматаў.

Ян Чачот (1796—1847) нарадзіўся ў в. Малюшычы Навагрудскага павета. Зямляк і блізкі сябра Адама Міцкевіча, Чачот разам з ім вучыўся ў дамініканскіх школах Навагрудка, а потым у Віленскім універсітэце. У Вільні ён быў адным з заснавальнікаў рэвалюцыйна-асветніцкага таварыства філарэтаў. За актыўны ўдзел у гэтым таварыстве Чачот быў арыштаваны і ў канцы 1823 г. высланы ў г. Уфу Арэнбургскай губерні, дзе прабыў да 1831 г. Пасля гэтага ён доўгі час працаваў ва ўпраўленні інжынераў Бярэзінскага канала ў г. Лепелі. У Навагрудак паэт вярнуўся ў 1841 г. Пазней атрымаў у Шчорсах пасаду бібліятэкара ў Адама Храптовіча.

Як і Адам Міцкевіч, Ян Чачот добра ведаў жыццё, мову і культуру беларускага селяніна, уважліва адносіўся да яго вуснапаэтычнай творчасці. Ён прысвяціў сябе збіранню і захаванню беларускіх народных песень. Усяго ім запісана каля 1000 беларускіх народных песень, якія ў 1837—1846 гг. былі надрукаваны ў шасці фальклорных зборніках.



7. Ян Чачот (1796—1847)

Найбольшую каштоўнасць для этнографа прадстаўляе зборнік, апублікаваны ў 1846 г.[59] Да яго Ян Чачот дае вялікую прадмову, у якой ёсць арыгінальныя разважанні аб беларускай мове і цікавыя назіранні за жыццём народа. Аўтар выказвае свае сімпатыі і любоў да простага народа, спачувае яго цяжкай долі. У зборніку надрукавана 100 беларускіх песень, 40 беларускіх прыказак, 130 прымавак і іншых выразаў на беларускай мове. Да песень прыкладаецца беларускі слоўнік (200 слоў) з тлумачэннем іх на польскай мове.

[58] Герцен А. И. Избранные философские произведения. М., 1946. С. 238.

[59] Piosenki wieśniacze z-nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie sławiano-krewickiej z postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846.

У адрозненне ад іншых польскіх даследчыкаў Беларусі Ян Чачот выдзяляе мову беларускага народа ў самастойную, называючы яе то "славянакрывіцкай мовай", то "крывіцкім дыялектам". Ён адзначае, што на гэтай мове "некалі пісаліся ў нас урадавыя дакументы" і "размаўлялі паны і эканомы з сялянамі"[60]. Чачот заклікае "ўзяцца за складанне граматыкі і слоўніка крывіцкага дыялекту"[61]. Ён спадзяецца, што грунтоўнае даследаванне беларускай мовы зробяць не вучоныя аўтарытэты, а просты "здольны селянін, які з дапамогай навукі ўздымецца да больш глыбокага вывучэння дасканала вядомай яму мовы"[62].

Далей Чачот разгортвае перад даследчыкам быту беларусаў цэлую праграму. Ён заклікае апісваць хатні быт, запісваць абрады, паданні, вуснапаэтычныя творы, асабліва казкі[63].

Зборнікі Чачота маюць не толькі чыста фалькларыстычнае значэнне, яны адыгралі значную ролю ў абуджэнні цікавасці да вывучэння быту беларускага народа і таму заваявалі шырокую папулярнасць, асабліва сярод беларускіх этнографаў. Перадрукі з іх рабілі Кіркор, Карэва, Шпілеўскі, Дзмітрыеў, Крачкоўскі, Шэйн і інш.

На такіх жа грамадска-палітычных і навуковых пазіцыях, як і Ян Чачот, стаяў другі даследчык быту і культуры беларусаў — Рамуальд Зянькевіч (1811—1868).

Рамуальд Зянькевіч па прафесіі быў настаўнікам і ўсё жыццё правёў у Беларусі. Пад старасць ён аслеп і знайшоў сабе прытулак у доме князёў Друцкіх — Любецкіх на Піншчыне.

Першы яго збор беларускіх песень у перакладзе на польскую мову быў надрукаваны ў Віленскім часопісе "Athenaeum"[64]. У 1851 г. у Коўне Зянькевіч выдае вялікі зборнік "Народныя песенькі пінскага люду", у якім змешчана 219 беларускіх песень, надрукаваных адначасова на беларускай мове і ў перакладзе на польскую. У паасобных раздзелах песень збіральнік дае апісанне абрадаў (вясельных, калядных, купальскіх, жніўных і інш.), вераванняў, гульняў і працоўных працэсаў. Найбольш падрабязна разглядаецца абрад вяселля.

У прадмове да зборніка Зянькевіч з душэўнай цеплынёй піша аб вясковай песні, "чысты голас якой ідзе з глыбіні сэрца" і ў якой ярка адбіваецца "ўвесь разумовы і маральны быт народа, яго патрэбы"[65].

Каментарыі, якія былі прыкладзены да песень, Зянькевіч у далейшым расшырыў і надрукаваў у 1852—1853 гг. у выглядзе вялікага артыкула аб урочышчах і звычаях пінчукоў[66]. Гэта праца вельмі цікавая для вывучэння быту і культуры беларускага сялянства таго часу. Аўтар выступае супраць сцвярджэння некаторых гісторыкаў аб тым, што быццам бы на тэрыторыі Піншчыны ў VI ст. да н. э. жылі будзіны і што нібыта цяперашнія жыхары паявіліся тут параўнальна нядаўна. Апісаныя ім звычаі, вераванні, прыведзеныя назвы ўрочышчаў сведчаць, на яго думку, аб тым, што тэрыторыя Піншчыны заселена славянамі са старажытных часоў.

Найбольш багаты этнаграфічнымі звесткамі раздзел артыкула, у якім

[60] Piosenki... S. V.

[61] Там жа. С. XXXI—XXXII.

[62] Там жа. С. V.

[63] Там жа. С. XXXI—XXXII.

[64] Pieśni ludu zebrane w Pińszczyżnie i przełożone przez Romualda Zieńkiewicza // Athenaeum. Wilno, 1847. T. IV, zeszyt IV. S. 146—186.

[65] Piosenki gminne ludu pieńskiego. Zbierał i przekładał Romuald Zieńkiewicz. Kowno, 1851. S. IV.

[66] Zieńkiewicz R. O uroczyskach i zwyczajach ludu pińskiego oraz o charakterze jego pieśni // Biblioteka Warszawska. 1852. T. IV. S. 505—527; 1853. T. I. S. 104—133.



8. Ул. Сыракомля (Л. Кандратовіч) (1823—1862)

даюцца апісанні звычаяў, абрадаў і вераванняў беларускіх сялян Піншчыны. Тут Зяцькевіч у асноўным правільна апісвае быт беларускага селяніна, яго цяжкую долю. Так, пры апісанні дажынак даецца наступная замалёўка выхаду на жніво: "Сялянкі бяруцца за сярпы і пакідаюць хаты. Тая з сярпом узяла ў кош маленькае дзіця, якое плача, тая зачыніла дзверы сваёй хаты знутры драўлянай засаўкай, пакінула ў ёй дробных дзяцей і сама вылазіць праз акно святліцы, а другая, менш прадбачлівая, кідае сваю хату з немаўлятамі адчыненай"[67].

Цікавыя нарысы пра быт беларусаў пакінуў пісьменнік і этнограф Уладзіслаў Сыракомля (Л. Кандратовіч, 1823—1862), актыўны ўдзельнік дэмакратычнага грамадска-палітычнага руху на Беларусі. Ён зрабіў некалькі падарожжаў па Беларусі і Літве[68]. У нарысе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах..." побач з геаграфічнымі і гістарычнымі апісаннямі Сыракомля з прагрэсіўных пазіцый характарызуе беларускую вёску, жыллё і адзенне вясковага насельніцтва, яго звычаі і абрады (у наваколлях Міра, Нясвіжа, Стоўбцаў, Койданава, Слуцка). Даючы бытавыя апісанні, ён паказвае адрозненні ў жыллі, адзенні, звычаях і наогул жыцці сялян Случчыны і наваколля Нёмана (каля Стоўбцаў). На Случчыне, дзе больш урадлівая глеба, селянін жыве лепш, прытрымліваецца традыцыйнага адзення (мужчыны носяць світкі старога пакрою, шапку з аўчыны, шырокі пояс; жанчыны — карсет і каптур). На Нёмане ж селянін вымушаны зімою зарабляць сякерай у мястэчках, а летам сплаўляць лес. "Замест старамоднай світкі, аўчыннай высокай шапкі і ліпавых лапцей з шырокімі паясамі, якія з такім хараством апаясваюць нагу селяніна на Случчыне, тут сустрэнеш ва ўбранні абоіх палоў нейкі навамодны капот, у жанчыны нешта накшталт чэпчыка пань-мяшчанак..."[69] Гэтыя змены ў традыцыйным адзенні на Нёмане адбываліся пад уплывам адыходных промыслаў.

Асабліва падрабязна апісваюцца сялянскі двор, яго будова, хатняе ўбранне, гаспадарчыя пабудовы і інш. Усе сімпатыі аўтара на баку бедняка, у хаце якога "цёмна, часта дымна і сыра", а яго гумно, якое стаіць на другім баку вуліцы, "такое ж беднае, як той кусок хлеба, якім харчуецца наш селянін"[70]. А

[67] Biblioteka Warszawska. 1853. T. I. S. 109.

[68] Вынікі падарожжа па Беларусі былі надрукаваны ў працы "Wędrowki po moich niegdyś okolicach: Wspomnienia, studja historyczne i obyczajowe przez Władysława Syrokomlę" (Wilno, 1853).

[69] Там жа. С. 191.

[70] Там жа.

што чакае селяніна ў старасці? "Калі дзед і баба адчуюць сябе ў хаце ўжо лішнімі, яны вешаюць сабе накрыж праз плячо дзве торбы, бяруць дзве палкі і, спяваючы дзедаўскія малітвы, ідуць ад вёскі да вёскі, ад царквы да царквы, просяць у добрых людзей капейку ці кусок хлеба"[71].

На пытанне, чаму селянін жыве без дастатку, "калі з нашай зямлі і з поту працы нашай маглі б па-сапраўднаму паплысці патокі багацця", Сыракомля адказвае: таму што селянін не мае волі, а адсталая тэхніка яго гаспадаркі "мала на што прыгодная"[72].

У 40—60-х гадах XIX ст. на польскай мове паяўляецца некалькі этнаграфічных прац аб Беларусі, якія былі напісаны з ліберальных пазіцый. Самай значнай з іх з'яўляецца кніга "Апісанне Барысаўскага павета", складзеная графам Тышкевічам[73].

Яўстафій Тышкевіч (1814—1873) нарадзіўся ў Лагойску Барысаўскага павета ў спадчынным маёнтку. У 1831 г. ён скончыў Мінскую гімназію, пасля чаго тры гады жыў у Пецярбургу. З 1833 г. Тышкевіч пасяліўся ў Вільні і стаў займацца археалагічнымі даследаваннямі. Ён сабраў багатую калекцыю і стварыў у Вільні музей старажытнасцей. У 1840 г. атрымаў пасаду папячыцеля школ Барысаўскага павета, там жа быў выбраны прадвадзіцелем дваранства (маршалкам). У Барысаве побач з археалагічнымі даследаваннямі ён займаўся этнаграфічным вывучэннем павета. Тут ім задумана і складзена з дапамогай статыстычнага камітэта "Апісанне Барысаўскага павета" (1847). Пасля падаўлення паўстання 1863 г. Тышкевіч праследаваўся царскімі ўладамі. Ён быў вызвалены ад усіх займаемых пасад, у тым ліку і ад пасады папячыцеля Віленскага музея старажытнасцей.

У "Апісанні Барысаўскага павета", акрамя матэрыялаў 40-х гадоў, сабраны і раней апублікаваныя працы аб Барысаўскім павеце. Побач са статыстычнымі, геаграфічнымі, гістарычнымі, археалагічнымі і іншымі звесткамі ў кнізе змешчаны каштоўныя паведамленні аб гаспадарцы павета і асабліва багатыя факты аб быце і культуры беларускага селяніна. Этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы займаюць каля палавіны кнігі. Падрыхтаваны яны да друку супрацоўнікамі і карэспандэнтамі Я. Тышкевіча або ўзяты з іншых польскіх выданняў. Шмат месца адводзіцца тут апісанням абрадаў (сямейных і каляндарных), звычаяў і вераванняў, а таксама запісам фальклорных твораў. Ёсць апісанні і матэрыяльнай культуры беларускага селяніна. Асабліва выдзяляюцца артыкулы аб абрадах сялян з берагоў Бярэзіны (матэрыялы сабраны ў 1846 г. Е. М.) і артыкул І. Шыдлоўскага (друкаваўся ў 1819 г. у часопісе "Tygodnik Wileński", т. VII) аб вясельных абрадах з некаторымі песнямі з Гаенскага прыходу.

"Апісанне Барысаўскага павета", як адзначаў Я. Ф. Карскі, з'явілася выдатнай падзеяй у этнаграфічнай літаратуры таго часу[74].

Па багаццю этнаграфічных матэрыялаў да працы Я. Тышкевіча прымыкае кніга Ю. Крашэўскага "Успаміны з Палесся, Валыні і Літвы"[75].

---

[71] Wędrowki po moich okolicach... S. 226.

[72] Там жа. С. 238.

[73] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim z dodaniem wiadomości o obyczajach, śpiewach, przysłowiach, ubiorach ludu, gustach, zabobonach i t. d. Wilno, 1847.

[74] Карский Е. Ф. Белорусы. Вильна, 1904. Т. 1. С. 217.

[75] Kraszewski J. Wspomnienia Polesia, Wołynia i Litwy. Wilno, 1840. S. 90.



9. Ю. Крашэўскі (1812—1887)

Юзэф Ігнатавіч Крашэўскі (1812—1887), вядомы польскі празаік, публіцыст, гісторык і этнограф, нарадзіўся ў Варшаве (радзіма бацькоў Гродзеншчына). Скончыў Віленскі універсітэт, аднак пасля ўдзелу ў паўстанні 1831 г. не змог атрымаць пасады выкладчыка. Паліцыя забараніла яму выезд з Вільні. Тут ён распачаў літаратурную і навуковую дзейнасць. З 1833 па 1859 г. Крашэўскі жыў на Палессі, а затым пераехаў у Варшаву. З 1863 г. Крашэўскі атрымаў загад аб выездзе з Варшавы, пасля чаго да самай смерці знаходзіўся ў эміграцыі, у Жэневе.

Праца Крашэўскага "Успаміны з Палесся, Валыні і Літвы" носіць белетрыстычны характар. Побач з красамоўнымі апісаннямі прыроды тут прыводзяцца каштоўныя звесткі аб жыцці народа, яго занятках, прыладах працы, жыллі, адзенні і ежы. Напісана яна з ліберальных пазіцый. Польскі пан і беларускі селянін — члены адзінай сям'і, звязанай тысячамі ніцей, і не добры пан, а дрэнны аканом з'яўляецца віноўнікам цяжкага становішча селяніна — вось галоўная ідэя гэтай працы. Пры апісанні селяніна аўтар ставіцца да яго з любоўю, дае яскравыя малюнкі з тагачаснага жыцця беларусаў і спачувае яго цяжкай долі: "А вёскі? — Хаты да паловы ў зямлі, людзі худыя і напаўголыя, жоўтыя, быццам закопчаныя ў дыме, дзеці з пакалмачанымі валасамі, нават сабакі худыя і заезджаныя"[76].

Акрамя названай працы, Крашэўскі прысвяціў Беларусі некалькі артыкулаў, змешчаных у перыядычным друку[77].

З ліберальных пазіцый падыходзіў у сваіх літаратурных працах да апісання быту беларусаў пісьменнік і этнограф Ян Баршчэўскі (1790—1851). У сваіх працах, якія носяць публіцыстычны характар, ён з вялікай любоўю да народа



10. Палеская вёска

апісвае абрады і вераванні беларусаў, прыводзіць пераказ іх паданняў і легенд. "Расказы старцаў, — пісаў Баршчэўскі, — аб розных здарэннях, аб якіх паведам-

[76] Kraszewski J. Wspomnienia Polesia, Wołynia i Litwy. S. 90.

[77] Гл., напрыклад, яго артыкулы ў "Tygodnik Literacki Poznański", 1840, № 18—20 і ў "Muzeum domowy" (1839. Т. 2) і інш.

ляюць народныя аповесці і якія пераходзілі з вуснаў у вусны са спрадвечных часоў, былі для мяне гісторыяй гэтай зямлі, характару і пачуццяў беларусаў"[78]. Асабліва поўна апісаны Баршчэўскім купальскія абрады, абрады Радаўніцы і некаторыя сямейныя звычаі і вераванні. На матэрыяле вуснапаэтычнай творчасці беларусаў Баршчэўскі пабудаваў свае літаратурныя творы "Шляхціц Завальня", "Успаміны з родных месц", "Курганы і русалка" і інш.

Этнаграфічныя матэрыялы аб Беларусі ў 40—50-х гадах змяшчаліся на старонках польскіх перыядычных выданняў "Athenaeum", "Biblioteka Warszawska", "Lud i czas", "Rubon"[79] і інш.

Побач з працамі па беларускай этнаграфіі прагрэсіўнага і ліберальнага напрамкаў у польскім друку паяўляліся і даследаванні нацыяналістычнага зместу. На этнаграфічную літаратуру таго часу значны адбітак наклала палітычная барацьба Расіі і Польшчы з-за Беларусі. Справядлівы гістарычны акт уз'яднання братніх беларускага і рускага народаў у канцы XVIII ст. выклікаў вострую рэакцыю з боку польскіх шавіністаў. Не жадаючы мірыцца са стратай даходаў, якія давала Беларусь магнатам, польскія шавіністы высунулі і заўзята абаранялі тэорыю аб тым, што быццам бы Беларусь з'яўляецца неад'емнай часткай Польшчы, а беларускі народ — гэта адно з адгалінаванняў польскага.

Асабліва паслядоўна гэтыя ідэі праводзіў у сваіх працах польскі этнограф А. Рыпінскі (1811—1886). Самай



11. Ян Баршчэўскі (1790—1851)

значнай яго этнаграфічнай працай з'яўляецца "Беларусь! Некалькі слоў аб паэзіі простых людзей гэтай нашай польскай правінцыі, аб яго музыцы, песнях, танцах і г. д.", якая была напісана ў эміграцыі і надрукавана ў Парыжы ў 1840 г. Кніга пачынаецца наступным прысвячэннем: "Першаму з беларускіх сялян, які спачатку навучыцца чытаць, а потым размаўляць і думаць па-польску". Рыпінскі марыць аб "вялікай Польшчы", якая раскінулася б ад Балтыкі да Чорнага мора і да сцен Смаленска[80]. Беларусь ён лічыць неад'емнай часткай Польшчы, а беларускую мову разглядае

[78] Barszczewski J. Szkic północnej Biało-Rusi // Rocznik Literacki. Petersburg, 1843. S. 194.

[79] Гл: Kilka słów o podaniach gminnych // Lud i czas. Wilno, 1845. T. V; Ign. Chr. Wesele w okolicach Naddzwińskich // Там жа; Ign. Chr. Rzut oka na poezję ludu Białoruskiego // Там жа. С. 35—77; W. R. Piosenki gminne białoruskie // Там жа. Вільня, 1843. T. III.

[80] Białoryś! Kilka słów o poezii prostiego ludu tej naszej polskiej prowincii; o jego muzyce, śpiewie, tańcach, etc. przez Alexandra Rypińskiege... Paryż, 1840. S. 10.

як правінцыяльны дыялект польскай мовы, які ў хуткім часе, на яго думку, перастане існаваць. Для таго каб вытруціць мову народа, Рыпінскі заклікае жанчын-маці, каб яны "першым сваім абавязкам лічылі навучыць дзіця вымаўляць святое імя Польшчы, калі яно яшчэ не гаворыць "мама". Рука маці не павінна даваць дзіцяці "патрэбную ежу да таго часу, пакуль яно не папросіць па-польску"[81].

Разглядаючы гістарычны лёс беларускага народа, яго мову, рэлігію, Рыпінскі хоча даказаць, што гэта тэрыторыя і яе народ цясней звязаны з Польшчай, чым з Расіяй. Ён ігнаруе гістарычныя факты, барацьбу беларускага народа супраць панска-каталіцкага прыгнёту.

Побач з павярхоўна-дылетанцкімі разважаннямі адносна беларусаў і іх культуры ў працы Рыпінскага ёсць рад вартых увагі этнаграфічных замалёвак (апісанні працоўных працэсаў, заўвагі аб беларускім вяселлі, аб гульнях, танцах і музыцы, разгляд працоўных песень — жніўных, пры ўборцы ільну, касавіцы і інш.). Знаходзячыся доўгі час у асяроддзі беларускага сялянства, Рыпінскі меў магчымасць пазнаёміцца з яго бытам. Даследчык неаднаразова падкрэслівае, што беларускі мужык "забіты доўгай нядоляй", але не раскрывае прычыну цяжкага становішча народа.

У нацыяналістычным духу вытрымана і праца аб Беларусі Л. Галамбёўскага (1773—1849) "Люд польскі, яго звычаі, забабоны"[82]. У адрозненне ад Рыпінскага, які, ігнаруючы гісторыю, намагаўся даказаць адзінства быту і культуры палякаў і беларусаў, Галамбёўскі выказвае рэзкія антыпатыі да культуры суседніх з палякамі народаў і разам з тым ідэалізуе ўсё тое, што датычыць палякаў.

Гэта кніга Галамбёўскага была першай спробай этнаграфічнага агляду ўсіх груп насельніцтва (палякаў, літоўцаў, беларусаў, украінцаў і рускіх), якія ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

Сярод прац польскіх даследчыкаў, у якіх змешчаны каштоўныя матэрыялы аб быце і культуры беларусаў (хоць і напісаны яны з некаторай пагардай да ўсяго рускага), трэба адзначыць "Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні: Бельскі павет" І. Ярашэвіча (1793—1860)[83]. У ёй даецца этнаграфічная характарыстыка розных груп насельніцтва Бельскага павета, у якім назіралася надзвычай вялікая стракатасць яго па нацыянальнаму складу. Беларусаў Бельскага павета аўтар называе "рускім племенем". Многа месца адводзіцца параўнанню быту беларусаў і палякаў. Пры гэтым сімпатыі аўтара на баку суайчыннікаў. У нарысе змешчаны каштоўны фактычны матэрыял аб размяшчэнні, занятках, жыллі, адзенні, ежы і фальклоры беларусаў Бельскага павета.

Як відаць з аналізу этнаграфічнай літаратуры перыяду крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы, розныя колы грамадскасці Расіі і Польшчы па-рознаму падыходзілі да вывучэння Беларусі. Этнаграфія ў руках рэакцыйна настроеных даследчыкаў (вялікадзяржаўныя рускія і польскія шавіністы, а таксама ідэолагі памешчыкаў-прыгоннікаў) была зброяй захавання і ўмацавання свайго панавання над працоўнымі масамі, зброяй вырашэння палітычных спрэчак.

---

[81] Białoruś! Kilka słów... S. 10, 11.

[82] Gołębiowski L. Lud polski, jego zwyczaje, zabobony. Warszawa, 1830.

[83] Jaroszewicz I. Materyały do statystyki i etnografii gubernii Grodzieńskiej. Powiat Bielski // Athenaeum. Wilno, 1848. T. VI. S. 168—186.

Прагрэсіўна і дэмакратычна настроеныя даследчыкі быту і культуры беларусаў прысвячалі свае працы справе служэння народу, абароне яго ад цяжкага прыгнёту, ад паклёпаў на яго культурную спадчыну.

Этнаграфічныя звесткі гэтага часу насілі пераважна агульнапазнавальны характар і ў асноўным друкаваліся ў гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысах, таму і навуковая каштоўнасць іх параўнальна невялікая. Гэта тлумачыцца станам і ўзроўнем развіцця тагачаснай этнаграфічнай навукі ў Расіі наогул і ў Беларусі ў прыватнасці.

## ВЫВУЧЭННЕ БЕЛАРУСІ РУСКІМІ ВУЧОНЫМІ І НАВУКОВЫМІ ЎСТАНОВАМІ

Пасля рэформы 1861 г., падаўлення сялянскага руху і паўстання 1863 г. з сярэдзіны 60-х гадоў у краіне зноў устанавілася палітычная рэакцыя. Праследаваліся рэвалюцыйныя дэмакраты. Страх перад рэвалюцыйным рухам прывёў ліберальна настроеную інтэлігенцыю ў лагер рэакцыі. У ідэалагічнай барацьбе адбылося канчатковае размежаванне паміж лібераламі і дэмакратамі.

У Расіі сацыяльны пратэст народных мас пасля рэформы 1861 г. парадзіў утапічныя сацыялістычныя вучэнні. Носьбітамі гэтых ідэй была разначынная інтэлігенцыя.

На этнаграфію і фалькларыстыку да 70-х гадоў значны ўплыў яшчэ мела міфалагічная школа, ідэалогія якой з'яўлялася выражэннем інтарэсаў кансерватыўнай часткі грамадства. Паралельна развівалася і тэорыя запазычанняў ("вандруючых сюжэтаў"), якая ў асноўным не пярэчыла палажэнням міфалагічнай школы ў фалькларыстыцы. З 70-х гадоў паступова ўзмацняецца ўздзеянне эвалюцыйнай школы — найбольш прагрэсіўнай са школ буржуазнай этнаграфіі.

Міфалагічная школа разглядала вераванні, паданні, паэзію і нават абрады і звычаі не як вынік іх развіцця, а як вынік дэградацыі ўзвышанага рэлігійна-міфалагічнага светапогляду продкаў індаеўрапейскіх народаў, які нібыта існаваў у старажытнасці. Прадстаўнікі міфалагічнай школы спрабавалі штучна прыстасаваць паасобныя элементы духоўнай культуры народаў да сваіх тэарэтычных меркаванняў.

Руская міфалагічная школа не мела адзінай, строгай навуковай сістэмы. Яна аб'ядноўвала розных даследчыкаў. Больш абгрунтаванымі былі погляды Буслаева і Патэбні.

Міфалагічная школа пакінула прыкметны след у развіцці рускай і беларускай этнаграфіі. Пад уплывам міфолагаў знаходзіліся збіральнікі і даследчыкі быту і вуснапаэтычнай творчасці народа. Яна адыграла некаторую станоўчую ролю ва ўзняцці цікавасці да духоўнай культуры народа і многае рабіла ў параўнальным вывучэнні фальклору, вераванняў і абрадаў славянскіх народаў. Аднак разам з тым прадстаўнікі міфалагічнай школы сваёй дзейнасцю перашкаджалі публікацыі, папулярызацыі і вывучэнню сацыяльных з'яў у быце і творчасці народа. Яны замоўчвалі антыпрыгонніцкія і антырэлігійныя матывы, ігнаравалі прагрэсіўныя тэндэнцыі ў быце і культуры народа.

Памылковыя сцвярджэнні міфолагаў рэзка крытыкаваліся рэвалюцыйнымі дэмакратамі. У гэты ж час рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак у барацьбе з ліберальна-буржуазным выпрацаваў правільнае разуменне этнаграфіі як навукі. Погляды В. Р. Бялінскага атрымалі сваё далейшае развіццё ў дзейнасці М. Г. Чарнышэўскага і М. А. Дабралюбава. Этнаграфічную навуку яны звязвалі з задачамі рэвалюцыйнай барацьбы таго часу.

Рускім рэвалюцыйным дэмакратам 60—70-х гадоў даводзілася весці барацьбу на два франты: з аднаго боку — супраць рэакцыянераў-прыгоннікаў, а з другога — супраць лібералаў. У першым выпадку гэта быў працяг барацьбы Бялінскага з рэакцыйным славянафільствам і канцэпцыямі прадстаўнікоў афіцыйнай народнасці, у другім — барацьба супраць праяўлення рознага роду нігілістычных адносін да творчых магчымасцей народных мас.

Асноўны ўдар рэвалюцыйных дэмакратаў быў накіраваны супраць ідэалістычных і антынавуковых сцвярджэнняў прадстаўнікоў міфалагічнай школы, а таксама супраць афіцыйнай этнаграфіі.

М. Г. Чарнышэўскі пільна сачыў за дзейнасцю рускіх і беларускіх этнографаў і Рускага геаграфічнага таварыства, радаваўся іх поспехам, але адначасова і крытыкаваў недахопы ў рабоце, патрабаваў расшырэння сферы этнаграфічных даследаванняў. Так, у рэцэнзіі на чацвёрты выпуск "Этнаграфічнага зборніка" ён пісаў: "Галіна этнаграфіі надзвычай шырокая, у яе ўваходзіць не толькі тое, чым уласна і абмяжоўваліся звычайна нашы этнографы: казкі, песні, прымаўкі, вясельныя абрады, павер'і і да т. п., г. зн. не толькі археалагічны і знешні бок народнага быту, але і сучасная грамадская і эканамічная рэчаіснасць, грамадскія і рэлігійныя паняцці і наогул цяперашні змест народнага мыслення, тое, што чакае свайго развіцця ў будучых поспехах нашай цывілізацыі. Этнаграфія наша значна магла б выйграць, калі б дала больш месца ... сучасным бытавым пытанням"[1].

Надзвычай каштоўныя палажэнні аб прынцыпах і метадах этнаграфічных даследаванняў пакінуў і другі выдатны прадстаўнік рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку — М. А. Дабралюбаў. Найбольш ярка яго погляды па гэтаму пытанню выказаны ў рэцэнзіі на зборнік казак Афанасьева. Дабралюбаў разглядаў вуснапаэтычную творчасць як важны матэрыял для вывучэння народа. "Нам казкі больш за ўсё важныя, — пісаў ён, — як матэрыял для характарыстыкі народа. А народа таго і не пазнаеш з казак, выдадзеных п. Афанасьевым". Дабралюбаў патрабаваў, каб навуковая публікацыя паказвала, "у якіх адносінах знаходзіцца народ да расказваемых ім казак і паданняў, ці верыць, напрыклад, у народзе ў тую разумнасць адносін паміж звярамі, якая выказваецца ў многіх казках". Вось чаму, на яго думку, асоба, якая запісвае фальклорныя творы, павінна перадаць "усе абставіны, як чыста знешнія, так і больш унутраныя, духоўныя (маральныя), пры якіх удалося яму пачуць песню ці казку"[2].

Орган рэвалюцыянераў-дэмакратаў часопіс "Современник" надаваў вялікую ўвагу этнаграфічнай навуцы. Так, у трэцім нумары "Современника" за 1865 г. быў надрукаваны свайго роду праграмны артыкул пад назвай "Як разумець этнаграфію". Ён належыць пяру А. М. Пыпіна, які ў гэты час знаходзіўся на пазіцыях рэвалюцыйных дэмакратаў. Этнаграфія, якую прызнаваў "Современник", пісаў Пыпін, "не ёсць этнаграфія

[1] Современник. 1864. № 10. С. 192.

[2] Добролюбов Н. А. Полн. собр. соч.: В 6 т. М., 1934. Т. 1. С. 431—433.

вучоных цытат і спасылак на індыйскую міфалогію п. Буслаева, а этнаграфія жывых сцэн і жывых звычаяў". І далей: "Дзеля археалагічных інтарэсаў этнаграфія не павінна была забываць сучасныя з'явы народнага быту і іх грамадскага інтарэсу ў сучасны момант. Адкладваючы ў бок археалогію, мы знойдзем, аднак, што належнае вывучэнне народнага жыцця ў стане даць мноства ўказанняў, якія маюць непасрэдную важнасць для сучасных практычных дадаткаў. У формах народнага быту, узятых у сучасную хвіліну, народны погляд на рэчы і стан народнага развіцця выражаецца не археалагічна, а непасрэдна жывым вобразам і злавіць гэты погляд ва ўсіх яго разнастайных варыяцыях — склала б надзвычай пачэсную задачу для навейшай этнаграфіі"[3].

Такім чынам, "Современник" не толькі ставіў перад этнаграфіяй задачу вывучаць сучасны народны быт, але і заклікаў яе служыць патрэбам сучаснага жыцця народа, г. зн. задачам рэвалюцыйнага пераўтварэння.

Рэвалюцыйныя дэмакраты звярталіся да этнаграфічнага вывучэння беларускага народа. У афіцыйных колах Расіі ў той час была пашырана антынавуковая характарыстыка беларусаў, якіх параўноўвалі з дзікунамі. Побач з адмаўленнем права на нацыянальнае існаванне беларускага народа не прызнавалася яго самабытная культура. М. А. Дабралюбаў, рэзка крытыкуючы пашыраныя ў той час адмоўныя характарыстыкі беларускага народа, горача выступіў у яго абарону: "Не ведаем, у якой меры ілжывая гэта думка, таму што не вывучалі спецыяльна беларускага краю, але паверыць ёй, зразумела, не можам. Цэлы край так вось узялі ды і забілі, — як бы не так!.. Ва ўсякім разе, пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых пісьменнікаў. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы"[4]. Такім чынам, Дабралюбаў заклікаў беларускіх этнографаў да пільнага вывучэння роднага краю.

Грамадска-палітычная, публіцыстычная і навуковая дзейнасць рэвалюцыйных дэмакратаў аказала значны ўплыў на развіццё этнаграфічнай навукі дарэвалюцыйнай Расіі. Невыпадкова, напрыклад, памочнік старшыні Аддзела этнаграфіі РГТ вядомы гісторык М. Кастамараў на пасяджэнні 10 сакавіка 1863 г. гаварыў, што этнограф павінен быць гісторыкам сучаснасці. Ён указваў, што прадметам этнаграфіі павінен быць быт усіх класаў народа, што яна павінна адлюстроўваць уплыў на народнае жыццё законаў і правоў, якія дзейнічаюць у краіне, суадносіны знешніх з'яў і палітычных падзей з народнымі поглядамі і г. д.[5]

"Заходні край" Расіі звярнуў на сябе асаблівую ўвагу царскага ўрада ў канцы 50 — пачатку 60-х гадоў. Прычынай гэтага было браджэнне мас, якое абвастрылася ў сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем рэформы 1861 г., а таксама ўзмацненне руху за аднаўленне самастойнай Польшчы ў межах 1772 г.

Палітычныя падзеі канца 50-х гадоў і асабліва 1863 г. на Беларусі прывялі да таго, што адной з асноўных задач вывучэння заходніх губерняў Расіі стала вызначэнне этнаграфічных межаў і складу насельніцтва па нацыянальнаму прызнаку. Для вырашэння гэтых задач былі прыцягнуты навуковыя таварыствы і нават афіцэры Генеральнага штаба царскай арміі.

---

[3] Современник. 1865. № 3. С. 180, 181.

[4] Добролюбов Н. А. Избранные философские произведения. Л., 1948. Т. 2. С. 261.

[5] Гл.: Костомаров Н. Об отношении русской истории к географии // Записки Русского географического общества СПб.. 1863. Кн. II. С. 96.

У канцы 50-х гадоў Генеральны штаб вылучыў афіцэраў, якім было даручана збіранне матэрыялаў па геаграфіі, статыстыцы і этнаграфіі заходніх губерняў Расіі. У выніку ў 60-х гадах паявілася шматтомнае выданне "Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба" (матэрыялы аб беларусах змешчаны ў тамах, якія прысвечаны Віленскай, Смаленскай, Гродзенскай, Мінскай і Чарнігаўскай губерням).

Нягледзячы на тое што матэрыялы збіраліся дэпартаментам Генеральнага штаба для ваенных мэт, далёкіх ад навуковых, у гэтыя выданні трапілі параўнальна багатыя матэрыялы аб быце, культуры і вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа сярэдзіны XIX ст.

Том "Матэрыялаў...", які прысвечаны Віленскай губерні, убачыў свет у 1861 г. Збіранне і падрыхтоўка матэрыялаў да друку былі зроблены капітанам Генеральнага штаба А. Карэвай. У аснову этнаграфічных апісанняў Карэва паклаў працу А. Кіркора "Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню". Выкарыстанне матэрыялаў зроблена без належнага крытычнага падыходу. Складальніка не турбуе тое, што ў працу Кіркора аб Віленскай губерні ўключаны фальклорны матэрыял з Мінскай губерні, запазычаны апошнім з кнігі Я. Тышкевіча.

Асноўныя этнаграфічныя матэрыялы змешчаны ў пятым раздзеле — "Прыватны грамадзянскі быт мясцовага насельніцтва"[6]. Акрамя таго, некаторыя звесткі этнаграфічнага характару можна знайсці і ў іншых раздзелах тома, асабліва ў тых, што датычаць вытворчай дзейнасці народа (земляробства, рамёствы) і прылад працы.

Складальнікам тома, прысвечанага Смаленскай губерні, быў штабс-капітан Генеральнага штаба М. Цэбрыкаў[7]. Этнаграфічныя матэрыялы тут займаюць значна большае месца, чым у папярэднім томе. Яны вылучаны ў асобны падраздзел "Норавы і звычаі, народныя святы, мясцовыя прымхі і забабоны"[8].

У аснову характарыстыкі беларускага народа Цэбрыкаў бярэ пашыраныя ў той час тэндэнцыйныя выказванні, рэзка супрацьстаўляе беларусаў рускім. Аднак пад уражаннем уласных назіранняў ён вымушаны быў прызнаць, што "нельга безумоўна адмовіць беларускаму племені ў здольнасці да заняткаў рамёствамі і прамысловасцю і абвінавачваць у поўнай адсутнасці прадпрымальнасці. Нам вядома, што ў многіх памешчыцкіх маёнтках беларускіх паветаў існуюць свае майстэрні: кавальскія, слясарныя, сталярныя, экіпажныя і да т. п., у якіх працуюць памешчыцкія ж сяляне-беларусы, і прытым з такім майстэрствам і дакладнасцю, што заслугоўваюць адабрэння знаўцаў"[9].

Апісанні сямейных і каляндарных абрадаў беларусаў Цэбрыкаў робіць, засноўваючыся на артыкуле Невяровіча, які даў даволі аб'ектыўны малюнак жыцця беларусаў Смаленшчыны. Большая палова гэтага апісання прысвечана вясельным абрадам і песням. Разам з тым значнае месца адведзена характарыстыцы народных прыкмет, вераванняў і забабонаў, каляндарных свят (Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Русальны тыдзень, Купалле і інш.), амаль усе апісанні суправаджаюцца песнямі.

Найбольш багаты этнаграфічнымі матэрыяламі том, прысвечаны Гродзенскай губерні. Складзены ён членам РГТ

[6] Карева А. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 609—645.

[7] Цебриков М. Смоленская губерния. СПб., 1862.

[8] Там жа. С. 258—316.

[9] Там жа. С. 259—260.

падпалкоўнікам Генеральнага штаба і этнографам П. В. Бабpоўскім[10].

Павел Восіпавіч Бабpоўскі нарадзіўся 21 сакавіка 1832 г. у маёнтку Вака недалёка ад г. Вільні. Бацька яго, Восіп Кірылавіч, доктар філасофіі і доктар права, паходзіў са старажытнага дваранскага роду г. Драгічына Бельскага павета Гродзенскай губерні.

Выхоўваўся П. Бабpоўскі пад наглядам свайго дзядзькі М. К. Бабpоўскага — вучонага-славіста, прафесара Віленскага універсітэта.

Пасля заканчэння Пружанскага дваранскага вучылішча (1844) і Полацкага кадэцкага корпуса (1849) П. Бабpоўскі быў пераведзены ў дваранскі полк, дзе і пачалася яго ваенная кар'ера. У 1857 г. ён скончыў Ваенную акадэмію, пасля чаго служыў у розных вайсковых часцях, пры Генеральным штабе і ў ваенных вучылішчах і даслужыўся да чына генерал-маёра.

Паралельна з ваеннай службай П. Бабpоўскі займаўся гісторыяй і этнаграфіяй "роднага яму Паўночна-Заходняга краю"[11], гісторыяй юнкерскіх вучылішчаў і ўставамі Пятра І.

Акрамя названай працы, Бабpоўскаму належыць яшчэ некалькі даследаванняў па этнаграфіі Беларусі. Асаблівую цікавасць прадстаўляюць артыкул "Ці можна адно вераванне прыняць у аснову племяннога размежавання славян Заходняй Расіі"[12] і рэцэнзія на кнігу Рыціха "Матэрыялы для этнаграфіі царства Польскага"[13].

Праца П. Бабpоўскага "Гродзенская губерня" выгадна адрозніваецца ад папярэдніх тамоў "Матэрыялаў..." Гэта арыгінальнае і даволі грунтоўнае навуковае даследаванне. Асноўны этнаграфічны матэрыял змешчаны ў першай частцы, у раздзеле аб насельніцтве. Тут даецца апісанне жылля і гаспадарчых пабудоў [14]. У раздзеле, які прадстаўляе сабою гісторыка-этнаграфічны нарыс, разглядаюцца асаблівасці мовы і прыводзяцца беларускія фальклорныя творы[15], а ў раздзеле аб народным быце даецца характарыстыка становішча сялян (з падзелам на бедных, сярэдніх і заможных), прыводзяцца апісанні ежы і




12. Тытульны ліст кнігі П. Бабpоўскага

[10] Бобровский П. Гродненская губерния. СПб., 1863. Ч. 1—2.

[11] Венгеров С. А. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. СПб., 1895. Т. IV. С. 47.

[12] Русский инвалид. 1864. № 75, 80 і асобна: СПб., 1864.

[13] Там жа. 1864. № 257.

[14] Бобровский П. Гродненская губерния. Ч. 1. С. 492—497.

[15] Там жа. С. 614—648.

адзення, хатняга быту, вераванняў і забабонаў, сямейнага быту (вясельныя і пахавальныя абрады, памінкі), а таксама апісанні дажынак і Купалля[16]. Акрамя таго, матэрыялы аб жыцці і вытворчай дзейнасці народа раскіданы ў іншых раздзелах працы.

Гісторыка-этнаграфічныя нарысы Баброўскага накіраваны на тое, каб даказаць, што Гродзенская губерня па гістарычнаму племяннному паходжанню з'яўляецца неад'емнай часткай Расіі. Пры гэтым "рускае насельніцтва" Гродзенскай губерні ён падзяляе на "чарнарусаў, тых жа беларусаў і маларасіян або лепш палешукоў, ці пінчукоў і бужан"[17]. Да ліку маларускіх Баброўскі адносіў Пружанскі, Кобрынскі, Брэсцкі і Бельскі паветы, да беларускіх — Слонімскі, Ваўкавыскі і часткова Беластоцкі, Сакольскі і Гродзенскі.

Характарызуючы беларускую мову, яе паходжанне, Баброўскі ў адрозненне ад іншых даследчыкаў таго часу не лічыць яе мешанінай польскай і рускай, а выводзіць са старажытнарускай мовы, якая з-за складанага гістарычнага лёсу народа тут нібыта застыла, а таму захавалася нязменнай. Такі падыход да гісторыі беларускай мовы трэба лічыць больш прагрэсіўным і навуковым, хоць Баброўскі дапускае значныя памылкі, вызначаючы шляхі развіцця мовы.

Пры апісанні жылля і гаспадарчых пабудоў Баброўскі дае агульны малюнак размяшчэння і планіроўкі населеных пунктаў, а таксама паасобных сялянскіх двароў. У агульных рысах расказваецца аб будове, знешнім і ўнутраным убранні, мэбліроўцы і планіроўцы сялянскай хаты. Кароткія звесткі даюцца і аб гаспадарчых пабудовах — хлявах, гумнах, калодзежах і інш.

Баброўскі адзначае, што ў пачатку 60-х гадоў сяляне Гродзенскай губерні жылі пераважна ў курных хатах. Толькі ў нямногіх казённых сялян былі хаты з комінамі.

Апісанню ежы і адзення ў кнізе Баброўскага папярэднічае характарыстыка маёмаснага становішча розных груп сялян. Аўтар падзяляе сялян губерні на 5 груп (класаў). Першая група — "самы бедны селянін", які "не мае ні каня, ні нават жывёлы; у яго няма запасаў хлеба, можа ў якога знойдзецца ляданшчая кароўка, дзве ці тры авечкі; пабудовы трухлявыя, адзенне дрэннае, участак дрэнна апрацаваны; ён заўсёды няспраўна плаціць падаткі; дамашнія адчуваюць ва ўсім недахоп, а ў неўраджай у сям'і бедняка бывала нядоля-галеча, з якой без дапамогі выйсці амаль немагчыма. Такіх сялян нямала ў разрадзе памешчыцкіх"[18].

Другая група — "бедныя сяляне", якія "маюць свойскую жывёлу і каня, але не маюць у запасе ні грошай, ні хлеба... У беднага селяніна ёсць сваё поле, але апрацаваць яго ён сам не можа, здох конь, наступіў голад — і ў халупу да яго з'яўляецца галеча"[19]. Самых бедных і бедных сялян Баброўскі налічвае ў Гродзенскай губерні 25%. Пры гэтым аўтар адзначае, што калі ім не дапамагаць, то, "пакінутыя на волю лёсу, яны хутка зусім абяднеюць і апынуцца ў бязвыхадным цяжкім становішчы"[20].

Трэцяя група — "спраўныя сяляне". У іх "у хляве знойдуцца два кані ці адна добрая пара валоў, адна ці дзве каровы з падцёлкам, некалькі (да 10) авечак, 2—3 свінні ды некалькі курэй і нават гусей.

---

[16] Бобровский П. Гродненская губерния. Ч. 1. С. 806—845.

[17] Там жа. С. 621—623.

[18] Бобровский П. Гродненская губерния. Ч. 1. С. 812.

[19] Там жа.

[20] Там жа.

Пабудовы ў парадку, у адзенні няма недахопу"[21]. Аднак у гэтай групе сялян у выніку памешчыцкіх "гвалтаў" і іншых прычын увесь час адбываецца дыферэнцыяцыя. Адзін неўраджай, адно няшчасце робяць "спраўнага" селяніна бедняком. "Звычайна, — піша Баброўскі, — на 100 двароў лічаць 60 спраўных, з іх каля 40 лёгка трапляюць у беднасць"[22].

Чацвёртая група — "заможныя сяляне". Яны маюць "два ці тры кані, тры пары валоў, некалькі кароў, усе земляробчыя прылады і хатняе начынне ў парадку, адзенне і пабудовы ў дастатку. У сямейным быце бачна багацце, запасы хлеба ці грошай ад 50 да 200 рублёў"[23].

Нарэшце, да пятай групы Баброўскі адносіць "багатых сялян", у якіх "...накапіліся значныя капіталы"[24] — ад 300 да 3—6 тысяч рублёў. Такіх сялян ён налічвае на 100 двароў не больш 2—3, а разам з заможнымі яны складаюць каля 15 на 100 сялянскіх двароў.

Такім чынам, Баброўскі прыводзіць вельмі каштоўныя звесткі аб класавай дыферэнцыяцыі беларускай вёскі ў пачатку 60-х гадоў. Даследчык дае аб'ектыўную характарыстыку становішча беларускага сялянства таго часу, падкрэсліваючы, што "сялян Гродзенскай губерні наогул трэба лічыць небагатымі, у быце неўрадлівыя гады робяць страшэнныя катастрофы"[25]. "Галодны год прыносіць у быт усякага селяніна вялікую бяду: няшчасная маці, не маючы магчымасці дастаць ежы, адпраўляецца з малымі дзецьмі і з торбай на плячах прасіць міласціну. Яшчэ больш жахлівае становішча ўдавы, якае мае некалькі дзяцей, галодных і паўголых"[26].



13. Беларуска з Кобрына

Ліберальна настроены прадстаўнік пануючага класа, Баброўскі спачувае селяніну, асуджае цяжкую эксплуатацыю бедняка кулаком і памешчыкам, выступае супраць прыгонніцкай сістэмы: "Аблытаны паншчыннай (прыгонніцкай, баршчыннай) сістэмай, натоўпам арандатараў, селянін запівае сваё гора віном і пад уплывам ап'янення заключае самыя неразумныя здзелкі"[27].

Асноўная частка фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, змешчаных Баброўскім, пашпартызавана, чаго мы не наглядаем у іншых тамах "Матэрыялаў..."

Том, прысвечаны Мінскай губерні, склаў падпалкоўнік Генеральнага штаба

[21] Бобровский П. Гродненская губерния. Ч. 1. С. 812.
[22] Там жа. С. 813.
[23] Там жа.
[24] Там жа.
[25] Там жа. С. 812.
[26] Там жа. С. 814.

[27] Там жа. С. 815.

І. Зяленскі[28]. Звесткі аб быце народа не выдзелены ў томе асобна, як гэта зроблена іншымі складальнікамі. Іх можна знайсці толькі ў раздзеле "Жыхары". Тут жа разглядаюцца некаторыя пытанні паходжання беларускага народа.

Том, прысвечаны Чарнігаўскай губерні, быў складзены падпалкоўнікам Генеральнага штаба М. Дамантовічам. Этнаграфічныя звесткі ў гэтым томе даюцца ў раздзеле "Унутраны і знешні быт мясцовага насельніцтва"[29]. Канкрэтных апісанняў паасобных галін быту і культуры беларусаў няма. Указваецца толькі на некаторыя знешнія адрозненні быту беларусаў ад быту ўкраінцаў (напрыклад, тое, што ў адзенні беларусаў пераважае белы колер). Дамантовіч лічыць, што "чысты тып беларусаў знаходзіцца толькі ў паветах: Мглінскім, Суражскім, Навазыбкаўскім, Старадубскім і часткова ў Гараднянскім"[30].

Як відаць з агляду "Матэрыялаў па геаграфіі і статыстыцы", навуковая каштоўнасць этнаграфічных раздзелаў розных тамоў неаднолькавая. Яна залежыць ад падрыхтоўкі і поглядаў складальнікаў тамоў.

Безумоўна, зварот да вывучэння народнага быту нават такіх афіцыйных устаноў, як Генеральны штаб, аб'ектыўна садзейнічаў развіццю этнаграфічнай навукі.

У 60—70-х гадах XIX ст. вялікую ролю ў этнаграфічным вывучэнні Беларусі адыгралі Рускае геаграфічнае таварыства, Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук.

Найбольшая заслуга належыць Рускаму геаграфічнаму таварыству. Аднак у гэты перыяд і яго дзейнасць у асноўным была накіравана на вырашэнне палітычных задач — даказаць правы Расіі на Беларусь, а таксама падрыхтаваць глебу для хутчэйшага абрусення гэтага краю. Таму невыпадкова, што галоўнай задачай Таварыства было вызначэнне этнаграфічных межаў Беларусі на захадзе і складу насельніцтва ў так званых беларускіх губернях.

На працягу 60-х гадоў РГТ публікуе рад прац, у якіх робяцца спробы вызначыць этнаграфічныя межы беларусаў на захадзе. Да іх у першую чаргу трэба аднесці этнаграфічныя карты. У 1863—1864 гг. выходзяць з друку два выданні (на французскай і рускай мовах) атласа члена РГТ Ф. Р. Эркерта з уступным артыкулам "Погляд на гісторыю і этнаграфію заходніх губерняў Расіі". Па прынцыпу карт Рыціха і Эркерта ў 1864 г. М. Ф. Марковічам была складзена "Карта (царства Польскага) з нанясеннем праваслаўных цэркваў і сельскіх прыходаў Люблінскай губерні, а таксама раскольніцкіх малельняў і вёсак у Аўгустоўскай губерні".

Некалькі іншы падыход вызначэння этнаграфічнай граніцы паміж Польшчай і Расіяй зроблены членам РГТ М. Галкіным у "Этнаграфічнай карце царства Польскага" і тлумачальнай запісцы да яе. Пры вызначэнні межаў Галкін у значнай меры выправіў памылкі Рыціха і Эркерта. Ён зыходзіў з таго, што "этнаграфічным прызнакам дзялення навука лічыць ва ўсякім разе не веру, а племяннное паходжанне ў сувязі з асаблівасцямі мовы і звычаяў"[31]. Нарэшце, даволі значную работу па складанню этнаграфічнай карты выканалі П. Кепен і яго сын Ф. Кепен. Складзеная імі этнаграфічная карта Еўрапейскай Расіі (больш падрабязная, чым выдадзеная

---

[28] Зеленский И. Минская губерния. СПб., 1864.

[29] Домонтович М. Черниговская губерния. СПб., 1865. С. 528—561.

[30] Там жа. С. 533.

[31] Русский инвалид. 1864. № 75. 80. С. 160.

П. Кепенам у 1852 г.) захоўваецца ў архіве РГТ.

Вызначэнню складу насельніцтва Беларусі і яе этнаграфічных межаў прысвечаны і рад прац апісальнага характару. У 1861 г. у Запісках РГТ была надрукавана праца М. Лябёдкіна "Аб складзе насельніцтва Заходняга краю Расійскай імперыі па плямёнах"[32]. Спасылаючыся на гістарычныя факты, статыстычныя і іншыя звесткі, а таксама на ўласныя назіранні, аўтар нарыса прыходзіць да вываду, што "векавая барацьба за рэлігійныя перакананні, да якіх прымешваліся і мэты палітычныя, не магла згладзіць рысы рускай народнасці ў Заходнім краі. Узнікшыя тут княствы, якія потым зліліся ў адно цэлае з Літоўскім, былі рускімі па сваёй аснове, рускімі па складу, па колькасці народа, па веры і мове... Пануючай мовай была руская, яна захавалася да нашых дзён у гэтым краі ў гаворках беларускай і маларасійскай"[33].

Вызначэнню заходніх этнаграфічных межаў і складу насельніцтва Заходняга краю прысвяціў некалькі прац адзін з членаў РГТ М. В. Каяловіч (напісаны яны ў 1863—1864 гг.). Аўтар выступае тут як клерыкал і праваднік вялікадзяржаўнай царскай палітыкі. Да адной са сваіх прац ("Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходне-Рускага краю", 1865) Каяловіч дадаў этнаграфічную карту.

Побач з публікацыямі Рускае геаграфічнае таварыства праводзіць і экспедыцыйныя даследаванні Беларусі. Пачынаючы з 1862 і да 1871 г. адным з галоўных пытанняў на пасяджэннях Аддзялення этнаграфіі і Аддзялення статыстыкі была падрыхтоўка і правядзенне этнаграфічна-статыстычнай экспедыцыі ў заходнія губерні Расіі. Ставілася задача даследаваць народанасельніцтва па народнасцях, веравызнанню, саслоўях і занятках. У першую чаргу экспедыцыя павінна была сабраць статыстычныя звесткі, каб на іх аснове даказаць права Расіі на землі Украіны, Беларусі і Літвы. За адзін год экспедыцыя павінна была ахапіць дзевяць губерняў, якія размяркоўваліся па трох групах — беларускай (Віцебская, Магілёўская, Мінская), літоўскай (Віленская, Ковенская, Гродзенская) і ўкраінскай (Кіеўская, Валынская, Падольская)[34]. Зразумела, што такое размеркаванне губерняў толькі прыблізна вызначала асноўны склад іх насельніцтва. Напрыклад, памылкова аднесена да літоўскай групы Гродзенская губерня, якая ў асноўным была населена беларусамі.

Камісія па падрыхтоўцы экспедыцыі вырашыла размеркаваць работу яе членаў па тэматычнаму прызнаку. Было прапанавана выпрацаваць тры асобныя праграмы. Праграму па статыстыцы ўзначальваў А. Б. Бушан, па этнаграфіі — А. Ф. Гільфердзінг, па веравызнанню — М. В. Каяловіч. Кожны з іх павінен быў кіраваць збіраннем матэрыялаў у час экспедыцыі па сваёй тэматыцы. Праграмы былі падрыхтаваны к канцу 1862 г. і ў студзені 1863 г. ужо абмяркоўваліся на пасяджэнні камісіі. Аднак у ходзе абмеркавання камісія вырашыла змяніць ранейшы план экспедыцыі, а з трох праграм выпрацаваць адну агульную[35].

Бурныя падзеі 1863 г. перашкодзілі падрыхтоўцы экспедыцыі. І толькі праз тры гады пасля падаўлення паўстання 1863 г. РГТ зноў вярнулася да аргані-

[32] Лебедкин М. О племенном составе народонаселения Западного края Российской империи... // Записки Русского географического общества. СПб., 1861. Кн. III. С. 131—160.

[33] Там жа. С. 137.

[34] Записки Русского географического общества. СПб., 1863. Кн. I. С. 26.

[35] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 1—1862, воп. 2, № 26, л. 122—131.

зацыі задуманай экспедыцыі. Пытанні падрыхтоўкі этнаграфічнай часткі экспедыцыі абмяркоўваліся ў Аддзяленні этнаграфіі ў 1866 г. Высветлілася, што планы правядзення экспедыцыі, выпрацаваныя ў 1862 г., аказаліся непрымальнымі. Было вырашана весці даследаванні кожнай народнасці асобна (украінскай, беларускай, літоўскай і латышскай) і іх адносін да палякаў, немцаў і яўрэяў. У сувязі з гэтым мяняўся характар экспедыцыі. Яна набывала пераважна этнаграфічны характар.

Цяжкасці ўзніклі пры падборы членаў. Гільфердзінг, Бушан і Каяловіч адмовіліся ад экспедыцыі. Было вырашана паслаць С. В. Максімава для этнаграфічных даследаванняў Беларусі і М. Я. Дубенскага для збірання статыстычных звестак па ўсім Заходнім краі.

Сяргей Васільевіч Максімаў (1831—1901) к таму часу быў ужо добра вядомым этнографам-белетрыстам. Ён нарадзіўся ў сям'і павятовага паштмайстра ў Парфенцьеўскім пасадзе Кастрамской губерні. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце і Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі.

Нарысы Максімава па народнаму быту сталі паяўляцца ў 1853 г. Кіруючыся парадай І. С. Тургенева, ён у 1855 г. пачаў першае вандраванне па Уладзімірскай, Ніжагародскай, Вяцкай і Кастрамской губернях. У выніку гэтых паездак з'яўляецца рад этнаграфічна-публіцыстычных нарысаў. Максімаў прымае ўдзел у экспедыцыях на Поўнач, Урал, у Сібір, на Далёкі Усход, на берагі Каспійскага мора і, нарэшце, у Беларусь.

Літаратурная дзейнасць даследчыка была надзвычай плённай. Яго працы сабраны і выдадзены ў 19 тамах. Найбольш каштоўныя з іх: "Год на поўначы", "Сібір і катарга", "Лясная глуш", "Брадзячая Русь Хрыста радзі", "Куль хлеба і яго прыгоды", "Крылатыя словы" і інш.

Максімаў выпрацаваў праграму этнаграфічнага даследавання Беларусі, у якой прапанаваў:

"1. Даследаваць і вызначыць рысы, што абумоўліваюць граніцы паміж трыма плямёнамі рускага народа — вялікарускім, маларускім і беларускім.

2. Даследаваць мясцовыя разнавіднасці беларускага племені і той часткі маларускага племені, якая жыве на правым баку Дняпра, прычым вызначыць межы гэтых разнавіднасцей.

3. Вызначыць галоўныя рысы, якія складаюць асаблівасці гаворак гэтых плямёнаў.

4. Даследаваць быт гэтых плямёнаў у рэлігійных, гаспадарчых і іншых адносінах як у яго самастойным выглядзе, так і ў сутыкненні з уплывам польскага, літоўскага і яўрэйскага і блізкага вялікарускага племя"[36].

Максімаў знаходзіўся ў экспедыцыі з сярэдзіны 1867 г. да канца 1868 г. У 1867 г. ён зрабіў дзве паездкі ў Беларусь. Экспедыцыю Максімаў пачаў з Магілёўскай губерні, матывуючы гэта тым, што па суседству з ёй ён вандраваў раней, пры вывучэнні рускага несельніцтва, што, на яго думку, "гэты край належыць да ліку тых, дзе беларускае племя прадстаўляецца ў бяспрымеснай чысціні свайго тыпа"[37].

Другая паездка ў 1867 г. адбылася па Віленскай і Гродзенскай губернях, "спачатку па тых месцах, якія сумежныя з літоўцамі, а потым па тых, што прылягаюць да паселішчаў мазураў"[38]. У будучым ён збіраўся ад Мінска праз Барысаў, Ігумен, Мазыр, Пінск і Кобрын зноў наведаць Гродзенскую губерню (паўднёвую яе частку), "каб канчаткова

[36] Известия Русского географического общества. СПб., 1867. Т. III, кн. 5. С. 129.

[37] Там жа. СПб., 1868. Т. IV, кн. 6. С. 136.

[38] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 1—1862, воп. 1, № 26, л. 188, 189.

вытлумачыць сабе ступень і сродкі ўплыву Польшчы на тую частку беларускага племені, якая называецца чарнарусамі"[39].

У студзені 1868 г. на агульным сходзе РГТ, прысвечаным вынікам экспедыцыі 1867 г., зачытваліся "вельмі цікавыя вытрымкі з пісьмаў... Дубенскага і Максімава"[40]. Першую шырокую справаздачу аб этнаграфічных даследаваннях у Беларусі Максімаў зрабіў 22 сакавіка 1868 г. на пасяджэнні Аддзялення этнаграфіі РГТ. Гэта, мабыць, адзіная за ўвесь час экспедыцыі справаздача дае магчымасць меркаваць аб метадах, умовах і некаторых выніках яго работы. Максімаў паведамляў, што карыстаўся двума метадамі даследаванняў — асабістымі назіраннямі і апытаннямі. Але ён змог глыбока пранікнуць "ва ўнутраны змест мясцовага народнага быту". Мясцовыя жыхары, асабліва старэйшага пакалення, сустракалі яго стрымана і насцярожана. І гэта зусім зразумела. Крывавыя расправы над удзельнікамі сялянскага рэвалюцыйнага руху, рэпрэсіі, што працягваліся яшчэ доўгі час пасля падаўлення паўстання, шырокая сетка даносчыкаў і інш. — усё гэта прымушала селяніна з падазронасцю глядзець на царскага чыноўніка, які імкнуўся даведацца пра яго жыццё.

Згубіўшы надзею пранікнуць такім чынам у душу народа, Максімаў стаў распытваць аб народным быце мясцовых чыноўнікаў, духавенства і настаўнікаў. Прадстаўнікі духавенства, за рэдкім выключэннем, "адказалі няведаннем і выявілі адмежаванне ці адчужанасць ад народнага быту"[41], а з ліку чыноўнікаў карыснымі былі толькі міравыя пасрэднікі, з дапамогай якіх Максімаў сабраў значныя матэрыялы па народных юрыдычных звычаях. Гэтыя звесткі пераважна браліся з кніг валасных судоў. Між іншым, Максімаў паведаміў, што сярод чыноўнікаў, прысланых у Беларусь з цэнтральных губерняў Расіі, ён сустракаў такіх, якія, "кіруючыся няясным разуменнем задачы абрусення Заходняга краю, дазваляюць сабе празмернасці і імкнуцца вынішчыць некаторыя мясцовыя звычаі чыста народнага характару"[42]. Зусім іншыя адносіны Максімаў сустрэў з боку большай часткі настаўнікаў народных школ. Яны перадалі яму некалькі апісанняў народных звычаяў і зборнікі песень. Максімаў не прадставіў у РГТ вынікі гэтых паездак. Аб іх ёсць толькі кароткае паведамленне ў журнале пасяджэнняў РГТ ад 2 кастрычніка 1868 г.

У 1868 г. даследчык зрабіў дзве паездкі па ўскраінах Беларусі. Пачаўшы паездку ад Пскова, Максімаў праехаў праз Апочку, Наваржэў, Усвят, Веліж, далей — па паўночна-заходняй мяжы Беларусі і заходняй частцы Смаленскай губерні. Затым Максімаў накіраваўся ў паўднёвую частку Гродзенскай губерні для вызначэння граніц паміж беларусамі і ўкраінцамі[43].

У лістападзе 1868 г. на пасяджэнні камісіі разглядалася заява Максімава аб тым, што ён закончыў вывучэнне "беларускага племені". Камісія прапанавала яму давесці да канца апрацоўку сабраных матэрыялаў. 14 лютага 1871 г. Максімаў паведаміў Таварыству, што ім вядзецца работа па падрыхтоўцы этнаграфічнай карты Беларусі і тлумачальнай запіскі да яе, а 24 красавіка 1874 г. ён пісаў, што к пачатку зімы гэтага года ён выпусціць у свет кнігу "Беларусь і беларусы" аб'ё-

---

[39] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 1—1862, воп. 1, № 26, л. 188, 189.

[40] Известия Русского географического общества. Т. IV, кн. 6. С. 136.

[41] Там жа.

[42] Известия Русского географического общества. Т. IV, кн. 6. С. 137.

[43] Там жа. С. 158.

мам у 30 друкаваных аркушаў[44]. Аднак кніга так і не ўбачыла свет. Пазней частка матэрыялаў аб Беларусі, сабраных у час экспедыцыі 1867—1868 гг., была апублікавана Максімавым у выглядзе асобных папулярных публіцыстычна-этнаграфічных нарысаў, прысвечаных Беларусі, або раскідана па іншых яго працах.

Беларусам Максімаў прысвяціў нарысы "Абіцель і жыхар (з нарысаў Беларусі)"[45], "Беларуская Смаленшчына з суседзямі"[46], "Кубракі і лабары (з быту беларусаў)"[47].

Нарыс "Абіцель і жыхар" складаецца з дзвюх частак. У першай аўтар намагаецца прасачыць гісторыю засялення славянамі сучаснай яму Беларусі, дае характарыстыку прыродна-геаграфічных умоў і заняткаў насельніцтва і ў сувязі з гэтым выказвае свае думкі аб узнікненні і бытаванні дахрысціянскіх вераванняў і забабонаў. Канстатуючы, што ў народзе бытуюць яшчэ пакланенні вадзе, агню, дрэвам, прошчам і інш., Максімаў тлумачыць іх панаваннем стыхійных сіл прыроды над чалавекам. "У першабытных людзей, — пісаў ён, — схільных да адухаўлення прыроды, нараджалася рэлігійнае пакланенне"[48]. Асабліва многа ў той час у Беларусі было так званых прошчаў ("святых месц"), якім пакланяліся веруючыя. Апісваючы некаторыя з іх, Максімаў паказаў, як з увядзеннем хрысціянства асіміляваліся старыя рэлігійныя ўяўленні. "Хрысціянства вымушана было прыняць іх пад сваю ахову і апеку, асвяціць іх, пабудаваўшы над імі капліцы, робячы сюды царкоўныя хрэсныя хады і пакідаючы за імі непарушанай іх старую назву прошчаў"[49].

Галеча большай часткі насельніцтва Беларусі зрабіла на Максімава цяжкае ўражанне. Замкнутасць і варожасць беларускіх сялян да царскіх чыноўнікаў пасля жорсткага падаўлення царызмам паўстання 1863 г. выклікалі ў даследчыка антыпатыі да насельніцтва Беларусі. Варожасць працоўных Беларусі да сваіх прыгнятальнікаў ён штучна пераносіў на адносіны паміж рускім і беларускім народамі. Адсюль і памылковы вывад Максімава: "Для Вялікай Русі Белая Русь зрабілася краінай чужой, далёкай і невядомай. У сваю чаргу Беларусь... выхавала супрацьлеглыя пачуцці"[50].

Пры характарыстыцы матэрыяльнага быту Максімаў, забываючы аб класавай дыферэнцыяцыі як рускіх, так і беларусаў, супрацьстаўляе беларусу спрытнага і кемлівага рускага, які нібыта жыве ў дастатку. Такім чынам, класавая абмежаванасць аўтара не дала яму магчымасці правільна ўбачыць стан і лёс вывучаемага ім народа.

Другая праца Максімава — "Беларуская Смаленшчына з суседзямі" ў асноўным паўтарае папярэднюю. Аднак яна больш падрабязна асвятляе рад пытанняў з жыцця народа. Найбольш каштоўнай трэба лічыць чацвёртую частку гэтай працы, дзе даецца даволі яркая карціна матэрыяльнага быту беларуса, яго жылля, адзення, ежы. Аўтар паказвае забітасць, беднасць і абяздоленасць народа.

У працы "Беларуская Смаленшчына з суседзямі" даследчык больш прыхільна ставіцца да беларускага народа. Прычыну цяжкага становішча ён ужо шукае не

---

[44] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 1—1870, воп. 1, л. 95, 196.

[45] Древняя и Новая Россия. СПб., 1876. Т. II. № 6—8.

[46] Живописная Россия. С. III.

[47] Максимов С. В. Собр. соч. Т. V.

[48] Древняя и Новая Россия. Т. II. № 6. С. 135.

[49] Там жа. С. 134.

[50] Там жа. № 8. С. 304.

столькі ў адмоўных якасцях характару беларуса, колькі ў гістарычных умовах яго жыцця. Аднак і тут на першы план выстаўляюцца прыродныя ўмовы.

Звесткі аб Беларусі ёсць і ў працах Максімава "Нячыстая, няведамая і хрэсная сіла" (СПб., 1903), "Куль і яго прыгоды" (СПб., 1881) і "Жабрацкая брація" (Зб. тв., т. V).

Працы Максімава аб Беларусі маюць толькі агульнапазнавальную каштоўнасць, навуковая ж іх вартасць параўнальна невялікая ў сувязі з тым, што амаль усе этнаграфічныя звесткі не звязаны з канкрэтнымі пунктамі, не маюць пашпартызацыі і нярэдка падаюцца суб'ектыўна і тэндэнцыйна.

Праграма М. Я. Дубенскага (сакратара Магілёўскага статыстычнага камітэта) прадугледжвала падлік насельніцтва Заходне-Рускага краю па плямёнах і веравызнаннях і вывучэнне эканамічнага жыцця насельніцтва. Для сваіх даследаванняў ён вызначыў наступныя метады работы: "Пасля прыбыцця ў тую ці іншую акругу даследчыкі перш за ўсё звяртаюцца за садзейнічаннем да мясцовых улад з мэтай атрымання ад іх як афіцыйных звестак, так і рэкамендацый да старажылаў і спецыялістаў, служачых і няслужачых". Даследчыкі павінны былі ўваходзіць у самыя блізкія адносіны з усімі слаямі мясцовага насельніцтва, "каб больш дакладна зразумець перакананні, погляды, жаданні і надзеі, якія склаліся і жывуць у народзе"[51].

М. Я. Дубенскі правёў у Заходне-Рускім краі больш чым паўтара года (з чэрвеня 1867 г. да канца 1868 г.). У летнія месяцы 1867 г. ён наведаў Ковенскую, Віцебскую, Магілёўскую, Віленскую і Гродзенскую губерні[52]. 4 мая 1868 г. Дубенскі выслаў у РГТ запіску, у якой на аснове мясцовай тапанімікі выклаў некаторыя меркаванні аб заходніх граніцах рассялення ўсходніх славян, называў раёны пасялення старабрадцаў, намагаўся вызначыць працэнтныя суадносіны насельніцтва па нацыянальнаму прызнаку і г. д.

Аб грамадска-палітычных поглядах Дубенскага можна меркаваць па некаторых месцах запіскі. Так, пры вызначэнні раёнаў пасялення стараабрадцаў аўтар абураецца тым, што царскі ўрад па рэлігійных матывах праводзіў жорсткія рэпрэсіі ў адносінах да сваіх суайчыннікаў, прымушаў іх пакідаць сваю радзіму, хоць у самой Расіі на вялікіх ільготах дазвалялася існаванне нямецкіх калоній, цяжар утрымання якіх быў для карэннага рускага насельніцтва новым ярмом[53]. Часам Дубенскі рэзка выступаў супраць палітыкі царквы і ўрада: "Калі і трэба даць які-небудзь занятак набожным і ненабожным, — пісаў ён, — то ва ўсякім разе такі, які не наносіў бы шкоду натуральнаму эканамічнаму ходу і ладу народа. А для жыцця ёсць, акрамя рэлігіі і фанатызму, навука і грамадзянская ўлада, якія не перашкаджаюць уцехам ніякай рэлігіі, ёсць дзяржава, але не штукары, якія забаўляюць і дураць народ. Забаўляюць, але дрэнна, калі дураць і маральна разбэшчваюць народ, хаваючы пад прывабнай абалонкай набажэнства сваё невуцтва і махлярства, як спрытны аферыст і шарлатан, прыкрываючы сябе то сумленнасцю, то загадкавасцю і наогул агідным фарысействам"[54].

У 1870 г. Дубенскі выслаў у РГТ дзве запіскі аб выніках сваіх нагляданняў

---

[51] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, разр. 54, воп. 1, № 2, л. 1—5.

[52] Там жа, ф. 1—1862, воп. 1, № 26, л. 184—187

[53] Гл.: Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, разр. 54, воп. 1, № 11, л. 1—4.

[54] Там жа.

за размеркаваннем і рухам насельніцтва ў Заходнім краі[55]. У запісцы "Размеркаванне насельніцтва ў Заходнім краі па гушчыні" на аснове статыстычных звестак за 1867 г., сабраных ім у час экспедыцыі, падрабязна разглядаецца шчыльнасць насельніцтва ў паветах і губернях Беларусі і суседніх з ёю губернях. Ставячы шчыльнасць насельніцтва ў залежнасць ад канкрэтных прыроднагеаграфічных умоў, урадлівасці глебы, Дубенскі разам з тым паказвае, што ў аднолькавых прыродных умовах населенасць розных тэрыторый далёка не аднолькавая. Адной з прычын гэтай неадпаведнасці ён лічыць рознасць сацыяльна-бытавых умоў. Так, нізкая шчыльнасць насельніцтва на правым беразе Нёмана тлумачыцца, напрыклад, доўгім панаваннем тут прыгоннага права, большая ж колькасць насельніцтва на левым беразе Нёмана — тым, што прыгонніцтва тут ужо не існавала задоўга да 1861 г.

Залежнасць шчыльнасці і руху насельніцтва ад гістарычных і сацыяльна-бытавых умоў яшчэ больш пераканаўча паказана ў другой запісцы Дубенскага "Рух насельніцтва ў Заходнім краі"[56]. Прыводзячы падрабязныя факты аб прыросце ці змяншэнні насельніцтва розных частак Заходняга краю як у час прыгонніцтва, так і пасля адмены яго і параўноўваючы гэтыя звесткі з прыроднымі ўмовамі, аўтар прыходзіць да наступнага вываду: "Такім чынам, і на Палессі не клімат і не глеба затрымлівалі прырост насельніцтва, а прыгонны быт яго"[57]. У гэтай запісцы Дубенскі выказвае адмоўныя адносіны да рэлігійнай нецярпімасці і нацыянальнай варожасці. Прыводзячы статыстычныя звесткі, ён даказвае, што гэта варожасць рэзка адбіваецца на прыросце насельніцтва на стыках розных рэлігійных і нацыянальных груп.

Аднак вынікі экспедыцыі Максімава і Дубенскага не задаволілі Рускае геаграфічнае таварыства. У сувязі з гэтым у пачатку 1869 г. яно пачало падрыхтоўваць новую экспедыцыю. На гэты раз галоўнымі аб'ектамі даследавання былі Паўднёва-Заходні край (Украіна), літоўцы і латышы Паўночна-Заходняга краю.

6 мая 1869 г. камісія зацвердзіла новы састаў экспедыцыі[58]. Для вывучэння Украіны была падабрана даволі ўдалая кандыдатура — ужо вядомы даследчык, аматар-этнограф П. П. Чубінскі. Вывучэнне літоўцаў і латышоў даручана было Ю. П. Кузняцову.

Павел Платонавіч Чубінскі[59] (1839—1884) нарадзіўся на Украіне паблізу г. Барыспаль. Яшчэ будучы студэнтам, ён займаўся вывучэннем народнага быту. Сваю дысертацыю "Нарыс народных юрыдычных звычаяў і паняццяў у Маларосіі" (1869) напісаў на ўкраінскім этнаграфічным матэрыяле. Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта Чубінскі вярнуўся на радзіму, але за сувязь з рэвалюцыйным рухам у 1862 г. быў высланы ў Архангельскую губерню, дзе працаваў следчым сакратаром статыстычнага камітэта, рэдактарам "Губернских ведомостей". У 1867 г. па даручэнню РГТ і Вольнага эканамічнага таварыства ён узначаліў экспедыцыю ў сем паўночных губерняў па вывучэнню гандлю хлебам, а таксама прымаў удзел у вывучэнні Пячорскага краю.

[55] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, разр. 54, воп. 1, № 16, л. 1—25.

[56] Там жа, № 11, л. 5—21.

[57] Там жа, л. 14.

[58] Гл.: Известия Русского географического общества. СПб., 1869. Т. V, кн. 5. С. 241, 242.

[59] Гл.: Куницкий А. С. Украинский этнограф П. П. Чубинский // Советская этнография. 1956. № 1. С. 77—85.

Такім чынам, П. П. Чубінскі быў к 1869 г. ужо вопытным даследчыкам, таму яму была даручана этнаграфічная экспедыцыя ў Паўднёва-Заходні край Расіі (яна была разлічана на два гады). У задачу Чубінскага ўваходзіла правесці статыстычныя даследаванні толькі на Украіне. Аднак ён расшырыў як межы даследавання, так і тэматыку. Экспедыцыя даследавала таксама паўднёвыя часткі Мінскай і Гродзенскай губерняў і ўсходнія паветы Сядлецкай губерні[60]. Што ж датычыцца тэматыкі, то на першы план высоўваліся задачы этнаграфічнага вывучэння.

Чубінскі вырашыў "збіраць матэрыялы, якія датычаць розных бакоў народнага жыцця, даючы, такім чынам, магчымасць кожнаму бачыць народ незалежна ад ураджанняў назіральніка"[61]. Выбіраючы такі метад, збіральнік кіраваўся не толькі тым, што навука павінна мець аб'ектыўныя звесткі аб жыцці народа (хоць і пры такім метадзе не выключаўся суб'ектыўны ўплыў, асабліва калі мець на ўвазе падбор матэрыялаў), але і жаданнем сабраць як мага больш канкрэтных апісанняў быту, асабліва запісаў вуснапаэтычных твораў, якія хутка дэфармаваліся ці нават знікалі зусім. Каб ажыццявіць сваю задачу, Чубінскі імкнуўся расшырыць сетку карэспандэнтаў з ліку мясцовых даследчыкаў. Яшчэ да пачатку экспедыцыі ён разаслаў праграмы на месцы. Акрамя таго, праграмы былі апублікаваны ў "Губернских ведомостях" Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губерняў і ў "Епархиальных ведомостях" Падольскай губерні[62].

Чубінскі зрабіў тры працяглыя паездкі. Раёны Беларусі ён наведаў у час першай і другой паездак (1869—1870). Даследчык асабіста аб'ехаў Мазырскі і Пінскі паветы Мінскай губерні, Кобрынскі, Слонімскі, Пружанскі і Брэсцкі паветы Гродзенскай губерні. Ён сабраў вялікую колькасць фальклорна-этнаграфічных і іншых матэрыялаў, якія былі згрупаваны ў 7 тамах пад назвай "Працы этнаграфічна-статыстычнай экспедыцыі ў Заходне-Рускі край, падрыхтаванай РГТ. Паўднёва-Заходні аддзел: Матэрыялы і даследаванні, сабраныя сапр. чл. П. П. Чубінскім" (1872—1878). Беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы раскіданы па ўсіх тамах (за выключэннем сёмага). Сярод беларускіх матэрыялаў, змешчаных у "Працах...", большасць фальклорных твораў — каля 400 песень і 25 казак. Пераважная колькасць матэрыялаў у чацвёртым томе. У ім прыведзена звыш 300 вясельных песень і даецца пяць даволі грунтоўных апісанняў вяселля — два з Мінскай губерні (в. Плотніца Пінскага павета, в. Міхалкова Мазырскага павета), два з Гродзенскай (Кобрынскі павет і в. Кульчына Бельскага павета). Каля 50 песень з розных паветаў Мінскай і Гродзенскай губерняў змешчана ў пятым томе і звыш 20— у трэцім. Казкі надрукаваны ў другім томе (запісаны ў в. Дрошчын Кобрынскага павета Гродзенскай губерні). У шостым томе сабраны даволі значныя і цікавыя матэрыялы аб народных юрыдычных

[60] Труды Этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, подготовленной Русским географическим обществом. Юго-Западный отдел: Материалы и исследования, собранные действ. чл. П. П. Чубинским. СПб., 1872. Т. I. С. XII.

[61] Там жа.

[62] Было разаслана пяць праграм: 1. Агульнаэтнаграфічная, складзеная і раней апублікаваная РГТ; 2. Праграма для запісу павер'яў і забабонаў, выдадзеная РГТ; 3. Праграма для збірання матэрыялаў па мове, складзеная Навіцкім; 4. Праграма для збірання эканамічных звестак; 5. Праграма па звычаёваму праву. Апошнія дзве праграмы складзены П. Чубінскім.

звычаях Брэсцкага, Кобрынскага і Пружанскага паветаў Гродзенскай губерні і Мазырскага павета Мінскай губерні.

Аб глыбокім пранікненні даследчыка ў народнае жыццё сведчыць характарыстыка тагачасных народных вераванняў, абрадаў і звычаяў. Чубінскі, напрыклад, адзначае, што ў яго час "некаторыя звычаі і абрады ў некаторых месцах зусім знікаюць, а іншыя захоўваюцца, але народ перастае лічыць іх неабходнымі; яны для яго застаюцца толькі нейкімі мастацкімі абставінамі жыцця. Многія павер'і, хоць і перадаюцца з вуснаў у вусны, перасталі быць прадметам шчырага веравання, так што лёгка можна сустрэць чалавека, які перадае павер'е і ў той жа час гатовы пасмяяцца над ім, калі яго запытаць, ці сапраўды ён так верыць..."[63]

"Працы..." экспедыцыі Чубінскага з'явіліся выдатнай падзеяй у этнаграфічным жыцці таго часу. Па колькасці сабраных матэрыялаў гэта самае буйное выданне для свайго часу. Аднак апублікаваныя ім матэрыялы маюць у асноўным каштоўнасць для характарыстыкі духоўнай культуры народа. Уплыў міфалагічнай школы прывёў да аднабаковага адказу сабраных матэрыялаў: амаль адсутнічаюць канкрэтныя апісанні матэрыяльнага быту народа паасобных частак Украіны, а з Беларусі іх зусім няма.

"Працы..." экспедыцыі Чубінскага маюць вялікае значэнне для параўнальнага вывучэння культуры беларускага і ўкраінскага народаў. Вось чаму яны так высока былі ацэнены рускай і зарубежнай навуковай грамадскасцю. Акадэмія навук прысудзіла Чубінскаму Увараўскую прэмію. РГТ узнагародзіла яго залатым медалём, а на Міжнародным кангрэсе 1875 г. у Парыжы Чубінскі быў узнагароджаны залатым медалём 2-га класа.

Рускаму геаграфічнаму таварыству належыць вялікая заслуга ў актывізацыі мясцовых сіл па вывучэнню роднага краю. Значную ролю ў гэтым адыграў створаны ў 1867 г. Паўночна-Заходні аддзел РГТ у Вільні. Мясцовыя даследчыкі Беларусі падтрымлівалі цесную сувязь з РГТ, карысталіся яго парадамі. Большасць з іх з'яўляліся членамі гэтага Таварыства (напрыклад, М. Дзмітрыеў, П. Шэйн, А. Семянтоўскі, Ю. Крачкоўскі, І. Насовіч, І. Берман і інш.).

У 1866 г. у "Известиях Академии наук" быў змешчаны артыкул І. П. Карнілава[64], у якім паведамлялася, што настаўнікамі народных школ і іншымі асобамі на працягу двух год вяліся этнаграфічныя, археалагічныя і іншыя даследаванні для таго, каб аблегчыць работу этнаграфічнай экспедыцыі, якую рыхтавала РГТ у Беларусь. У выніку былі сабраны значныя фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Частка іх (пераважна песні) апублікавана ў "Зборніку помнікаў народнай творчасці Паўночна-Заходняга краю" (вып. 1, 1866).

На працягу 60—70-х гадоў у РГТ былі дасланы з Беларусі рукапісныя матэрыялы, большасць якіх захоўваецца ў архіве Таварыства[65]. Частка з іх надрукавана ў выданнях Таварыства. Найбольш значныя з апублікаваных прац наступныя: "Аб складзе народанасельніцтва Заходняга краю Расійскай імперыі па плямёнах" М. Лябёдкіна; "Зборнік беларускіх прыказак", "Беларускія прыказкі (дадаткі)", "Беларускія песні",

---

[63] Труды Этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край... СПб., 1872. Т. III. С. II.

[64] Корнилов И. П. Сведения об археологических, этнографических и других исследованиях, предпринятых в Западном крае в течение 1865—1866 гг. // Известия Русского географического общества. СПб., 1866. Т. II, кн. 7. С. 208—210.

[65] Гл.: Зеленин Д. Описание рукописей ученого архива Русского географического общества. Пг., 1914—1915. Вып. I—II.

"Беларускія загадкі" І. Насовіча; "Беларускія песні" П. Шэйна.

Пачынаючы з другой паловы 70-х гадоў XIX ст. цікавасць РГТ да Беларусі ў значнай меры змяншаецца. Спыняе сваю дзейнасць Паўночна-Заходні аддзел. Прычынай гэтага ў першую чаргу было ўзмацненне рэакцыйнай, антынароднай палітыкі царызму ў перыяд барацьбы з рэвалюцыйным народніцтвам. Вывучэннем Беларусі займаюцца галоўным чынам мясцовыя сілы.

Пэўную ролю ў вывучэнні Беларусі, актывізацыі мясцовых сіл адыграла Расійская Акадэмія навук. Значную работу праводзіла Аддзяленне рускай мовы і славеснасці. Яшчэ ў 50-х гадах пад кіраўніцтвам Акадэміі навук актыўную работу па збіранню матэрыялаў для слоўніка беларускай мовы праводзілі мясцовыя ўраджэнцы І. І. Грыгаровіч, С. П. Мікуцкі і І. І. Насовіч.

І. І. Грыгаровіч (1790—1852) у пачатку 50-х гадоў пачаў друкаваць беларускі слоўнік. Пасля яго смерці гэту работу працягвалі Мікуцкі і Насовіч. Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Мікуцкі быў камандзіраваны ў працяглую экспедыцыю па Беларусі і Літве для вывучэння асаблівасцей беларускай і літоўскай мовы і збірання фальклорных матэрыялаў для слоўніка (1853—1856). На працягу 60-х і ў пачатку 70-х гадоў уся работа па падрыхтоўцы да друку беларускага слоўніка праводзілася Насовічам.

У выданнях Акадэміі навук за 1860—1870 гг. аб Беларусі былі надрукаваны дзве працы І. І. Насовіча — "Слоўнік беларускай мовы" і "Зборнік беларускіх прыказак".

Дзейнасць Акадэміі навук па вывучэнню Беларусі некалькі ажыўляецца ў канцы 70-х гадоў. У 1877 г. Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці для збірання фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у Беларусь быў камандзіраваны П. В. Шэйн[66], а ў 1879 г. першыя свае сувязі з Акадэміяй наладжвае Е. Р. Раманаў[67].

У 1864 г. пры Маскоўскім універсітэце было створана Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Яно разгарнула плённую дзейнасць па этнаграфічнаму вывучэнню народаў Расіі.

Выдатнай падзеяй у навуковым жыцці краіны з'явілася арганізаваная Таварыствам у 1867 г. Усерасійская этнаграфічная выстаўка, якая прысвячалася Славянскаму з'езду, што праходзіў у Маскве ў маі 1867 г. Адной з яе мэт было ўзмацненне сувязей і дружбы паміж славянскімі народамі.

Ідэя стварэння Усерасійскай этнаграфічнай выстаўкі належыць прафесару Маскоўскага універсітэта, аднаму з арганізатараў новага Таварыства — А. П. Багданаву. Камітэт па падрыхтоўцы выстаўкі ўзначаліў памочнік папячыцеля Маскоўскай вучэбнай акругі В. А. Дашкоў, вялікі аматар этнаграфіі.

На адкрыцці выстаўкі прэзідэнт Таварыства прафесар Маскоўскага універсітэта Г. Я. Шчуроўскі выступіў з прамовай, якая з'яўляецца яскравым сведчаннем таго павароту да вывучэння народаў сваёй краіны, што адбыўся ў сярэдзіне XIX ст. "У апошні час, — гаварыў ён, — к агульнаму задавальненню мы заўважаем паварот ад Захаду да Усходу, бачым тую жывую цікавасць, якая пачынае праяўляцца ў нас да ўсяго, што датычыць Расіі, ці, што яшчэ лепш, пачынаем разумець, што вывучэнне чужога або іншых краін павінна быць толькі дадаткам да вывучэння свайго ці айчыннага"[68]. Шчуроўскі заклікаў рус-

---

[66] Записки Академии наук. СПб., 1877. Т. XXX. С. 88.

[67] Там жа. СПб., 1879. Т. XXXIV. С. 125.

[68] Всероссийская этнографическая выставка и Славянский съезд в мае 1867 года. М., 1867. С. 613.

кую навуковую грамадскасць да сур'ёзных навуковых даследаванняў быту народаў Расіі.

Усерасійская этнаграфічная выстаўка складалася з трох аддзелаў. Першы ўключаў экспанаты групы плямёнаў, якія насяляюць Расію і суседнія з ёю славянскія землі: "плямёны іншародныя (116 фігур) і плямёны славянскія — усходнія (118 фігур), заходнія і паўднёвыя (66 фігур)"[69]. Другі аддзел агульнаэтнаграфічны. У ім змяшчаліся касцюмы і часткі іх, прадметы хатняга ўжытку: розныя прылады, посуд, музычныя інструменты, мадэлі пабудоў і прылад працы. Тут жа знаходзіліся запісы песень, збор лубачных карцін, альбомы, малюнкі, фотаздымкі (больш дзвюх тысяч)[70]. Трэці аддзел антрапалагічны і археалагічны. Ён уключаў калекцыі чарапоў і шкілетаў, анатамічныя прэпараты, прылады для антрапалагічных вымярэнняў, а таксама прадметы з раскопак[71].

Беларускіх экспанатаў на выстаўцы было параўнальна няшмат. Былі прадстаўлены ў асноўным прадметы адзення, курнай хаты і гаспадарчых пабудоў — пераважна з Магілёўскай і часткова з Гродзенскай, Віцебскай і Мінскай губерняў. Найбольш поўна адлюстраваны быт беларусаў Магілёўскай губерні. Асобна выдзялялася група з шасці манекенаў у беларускім народным адзенні за рознымі відамі заняткаў.

Вось некаторыя з іх:

"Старая сялянка з Магілёўскага павета, якая вяжа панчоху. Адзенне яе складаюць наступныя часткі: намётка (белая палатняная хустка, якая з'яўляецца яе галаўным уборам), світа (верхняе адзенне), сарочка палатняная, спадніца палатняная, анучы палатняныя, лапці з аборамі пяньковымі...

Селянін-рыбак з Чэрыкаўскага павета рыхтуе душагубкі (чаўны) для рыбнай лоўлі восцямі, з сякерай. Касцюм складаюць часткі: магерка (шапка), світа (верхняе адзенне), шырынга (хустка на шыю, вышываная), кушак (пояс), кашуля палатняная, вышываная, порткі палатняныя, анучы, з пяньковымі аборамі лапці. Каля фігуры знаходзяцца душагубкі, якімі карыстаюцца беларусы...

Сялянская дзяўчына з таго ж павета, якая стаіць каля пчаляра. Адзенне яе складаюць часткі: шырынга (белая палатняная хустка, вышываная, якая складае яе галаўны ўбор), сарочка дзявочая, палатняная, вышываная, фартух дзявочы, вышываны, андарак (дзявочая спадніца, сіняя), кабат (карсет, калі ён асобны, і ліф, калі ён прышыты да спадніцы), анучы палатняныя, з пяньковымі аборамі лапці, стужкі (для зашпільвання сарочкі і для касы), каралі (бусы), пярсцёнкі, завушніцы"[72].

Асаблівую цікавасць на выстаўцы выклікала экспазіцыя шасці фігур беларускіх сялян і сялянак, вобразы якіх былі прадстаўлены ў манекенах мастаком Сяўругіным, за рознымі відамі заняткаў (земляробы, рыбакі, пчаляр і інш.). Чатыры фігуры прадстаўлялі сялян Чэрыкаўскага і дзве Магілёўскага паветаў Магілёўскай губерні. "Выбар усяго тут зроблены надзвычай удала, — адзначала "Современная летопись", — узяты прадметы найбольш тыповыя і з лепшых узораў... Беларус у шэрым і бедным адзенні, у вечных лапцях схоплены проста з жыцця і выстаўлены ў цудоўных узорах"[73]. Беларуская экспазі-

---

[69] Всероссийская этнографическая выставка и Славянский съезд в мае 1867 года. С. 607.

[70] Там жа. С. 607, 608.

[71] Там жа. С. 608.

[72] Указатель Русской этнографической выставки, устроенной Обществом любителей естествознания. С. 49—50.

[73] Гл.: Могилевские губернские ведомости. 1867. № 37—38.

цыя з Магілёўшчыны давала магчымасць пазнаёміцца з прыладамі земляробства, з пчалярскім і рыбацкім промысламі, з заняткамі беларускай жанчыны.

Беларусы Гродзенскай губерні былі прадстаўлены ў пяці манекенах (апісанняў няма), з Ваўкавыскага павета — асобна адзін мужчынскі касцюм і адна фатаграфія сялян са Слонімскага павета.

З Віцебскай губерні экспанаваліся чатыры касцюмы панцырных баяр (Себежскі павет) і 37 фотаздымкаў сялян з розных паветаў, а таксама рэчы з раскопак (у археалагічным аддзеле); з Мінскай губерні — толькі некалькі фотаздымкаў сялян, альбом з 25 малюнкаў і значная калекцыя з археалагічных раскопак. На выстаўцы былі таксама рукапісы беларускага фальклору — калекцыя П. Бяссонава.

Беларускія матэрыялы змяшчаў і агульнаэтнаграфічны аддзел. Тут экспанаваліся тры мужчынскія і адзін жаночы касцюм (30 прадметаў), калекцыя прылад працы і хатняга начыння (31 прадмет) — рыбалоўныя прылады, мяліца для пянькі, прасліцы, рыдлёўкі, дзяжа для выпечкі хлеба і інш. У асобную групу былі выдзелены мадэлі будынкаў (хата з комінам і курная, сені, клець, свіран, хлявы, гумно і інш.), а таксама фотаздымкі беларускіх сялян Магілёўскай губерні[74].

Такім чынам, на выстаўцы можна было атрымаць агульнае ўяўленне аб быце беларускага народа і асабліва аб важнейшых галінах матэрыяльнай культуры беларусаў.

Усерасійская этнаграфічная выстаўка адыграла вялікую ролю ў разгортванні вывучэння быту і культуры народаў Расіі, у тым ліку і беларусаў. Дзякуючы выстаўцы была звернута ўвага на вывучэнне матэрыяльнай культуры народа. Аднак, на жаль, вывучэнне матэрыяльнага быту зводзілася Таварыствам толькі да збірання экспанатаў і падрыхтоўкі выстаўкі.

Пасля закрыцця выстаўкі Таварыства прыступіла да вывучэння іншых праблем этнаграфіі. Для кіраўніцтва гэтымі даследаваннямі ў снежні 1867 г. быў створаны этнаграфічны аддзел на чале з вядомым вучоным М. А. Паповым. На першым пасяджэнні была абмеркавана праграма па вывучэнню культуры і быту народаў Расіі ў бліжэйшы час. З гэтай праграмы і далейшай дзейнасці Этнаграфічнага аддзела відаць, што вучоныя Маскоўскага універсітэта ў значнай ступені знаходзіліся пад уплывам міфалагічнай школы — на першы план ставіліся даследаванні абрадаў, звычаяў, вераванняў, міфалогіі.

Пазней галоўная ўвага была звернута на складанне "Народнага этнаграфічнага календара". Змест яго вызначаўся наступным чынам: "Пад такой назвай аддзел разумее па магчымасці поўны і сістэматычны каляндар народных павер'яў, абрадаў і звычаяў, аб'яднаных з сельскагаспадарчымі і прамысловымі заняткамі, як у рускіх і іншых славян, так і іншародных плямён, якія насяляюць Расію"[75].

Акцэнтаванне ўвагі на вывучэнні толькі аднаго народнага быту (абрадавага) прывяло да таго, што Этнаграфічны аддзел амаль спыніў даследаванне матэрыяльнай культуры.

Некаторыя этнаграфічныя матэрыялы былі сабраны Антрапалагічным аддзелам Таварыства. Так, на Маскоўскай антрапалагічнай выстаўцы 1879 г., якая з'явілася своеасаблівым працягам Усерасійскай этнаграфічнай выстаўкі

[74] Указатель Русской этнографической выставки... С. 94. 118. 119. 127. 132. 141.

[75] Известия Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. Т. XIII, вып. 1 // Труды Этнографического отдела. М., 1874. Кн. III. вып. 1. С. 41.

1867 г., побач з антрапалагічнымі экспанатамі былі прадстаўлены і прадметы этнаграфіі. З Мінскай губерні, напрыклад, экспанаваліся разнастайныя прадметы і фотаздымкі адзення, галаўныя ўборы, паясы, узоры тканін, карункавыя вырабы, вырабы з дрэва, кары і лубу, мадэль сахі, плуга і бараны, некалькі музычных інструментаў, кавальскіх вырабаў і вырабаў са скуры. Акрамя таго, на выстаўцы было прадстаўлена 107 прадметаў з археалагічных раскопак у Беларусі. Рэдакцыя "Минских губернских ведомостей" даслала на выстаўку рукапіс, у якім змяшчалася 100 песень з нотамі і некалькі артыкулаў[76].

У 60—70-х гадах на старонках выданняў Таварыства былі змешчаны параўнальна невялікія матэрыялы, галоўным чынам аб вераваннях, абрадах і звычаях. Так, у трэцяй кнізе "Прац Этнаграфічнага аддзела" былі надрукаваны артыкулы селяніна С. А. Дударава "Вясковыя звычаі ў некаторых мясцовасцях Суражскага павета Чарнігаўскай губерні", члена Таварыства М. А. Пакроўскага "З гісторыі народнага двухвер'я" і Я. В. Барсава "Юр'еў дзень"[77].

Найбольш цікавы артыкул С. А. Дударава. У ім даюцца канкрэтныя апісанні абрадаў вяселля, вераванняў, забабонаў, свят і сродкаў народнай медыцыны беларусаў і ўкраінцаў Суражскага павета Чарнігаўскай губерні. У асобным раздзеле, які прысвечаны апісанню занятказ насельніцтва, аўтар яскрава характарызуе метады капіталістычнай эксплуатацыі сялян: "Капіталісты, з нашых жа жыхароў, часта займаюць грамадскія пасады. За некалькі тыдняў да кірмашу, напрыклад, пакроўскага, дзе бывае даволі вялікі збыт канапель, яны так націскаюць на селяніна, што бедны мужык, не дачакаўшыся кірмашу, воляйняволяй ідзе да капіталіста, бярэ грошы і аддае свае каноплі за цану, якую яму дадуць"[78].

У чацвёртай кнізе "Прац..." змешчаны артыкул мясцовых жыхароў Васіля і Аляксея Зяньковічаў "Вераванні і абрады жыхароў Магілёўскай губерні — беларусаў"[79] (напісаны ў 1865 г.). Ён прысвечаны апісанню касмаганічных уяўленняў, некаторых з'яў грамадскага быту, вераванняў і абрадаў сялян Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. Асабліва цікавымі з'яўляюцца апісанні касмаганічных уяўленняў народа. Вось адно з іх: "Зямлю ўяўляюць плоскім кругам, акружаным хмарамі, ляжыць яна на вадзе, змены пор года адбываюцца таму, што неба верціцца вакол зямлі раз у год, а сонца кожны дзень"[80]. У артыкуле змешчаны фальклорныя творы (казкі, песні, загадкі, прыкметы).

З агляду дзейнасці рускіх навуковых устаноў і таварыстваў па этнаграфічнаму вывучэнню Беларусі ў 60—70-х гадах відаць, што ім належыць вялікая роля ў збіранні разнастайных матэрыялаў па быту і культуры беларусаў. Навуковыя цэнтры Пецярбурга і Масквы задавалі тон мясцовым сілам, кіравалі іх дзейнасцю і па сутнасці групавалі вакол сябе пераважную большасць беларускіх этнографаў. Гэтым самым яны садзейнічалі развіццю беларускай этнаграфіі.

---

[76] Гл.: Минские губернские ведомости. 1879. № 18—25.

[77] Известия Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. Т. XIII, вып. 1 // Труды Этнографическаго отдела. Кн. III, вып. 1.

[78] Там жа. С. 74.

[79] Там жа. 1877. Т. XXVIII, кн. 4. С. 26—33.

[80] Там жа. Т. XIII, вып. 1. С. 26.

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТНАГРАФІЯ НА СТАРОНКАХ ПЕРЫЯДЫЧНАГА ДРУКУ

З агульным уздымам грамадска-палітычнай думкі ў Расіі ў другой палове XIX ст. ажывіў сваю дзейнасць перыядычны друк. Старэйшай на беларуска-літоўскіх землях была газета "Виленский вестник". З канца 30-х гадоў у пяці беларускіх губернях пачалі выходзіць "Губернские ведомости" і "Памятные книжки". Усе яны з'яўляліся афіцыйнымі органамі мясцовых царскіх улад і выконвалі ролю "чыноўнікаў рускай службы". Праз мясцовы перыядычны друк у беларускіх губернях царызм праводзіў вялікадзяржаўную палітыку русіфікацыі, змагаўся з рэвалюцыйнымі настроямі народных мас. На старонках газет і часопісаў вялася актыўная антыпольская прапаганда.

"Губернские ведомости" складаліся з дзвюх частак — афіцыйнай і неафіцыйнай. У неафіцыйнай частцы, згодна з урадавай праграмай, вызначанай пры стварэнні газет, маглі змяшчацца паведамленні аб кірмашах, рынычных цэнах, здарэннях, аб курсе золата і серабра, аб стане сельскай гаспадаркі, фабрык і заводаў, аб некаторых падзеях у міжнародным жыцці, аб з'явах прыроды. Нярэдка асноўнае месца ў неафіцыйнай частцы займалі розныя аб'явы аб куплі-продажы, найме, пошуках і г. д. Катэгарычна забаранялася змяшчаць тут крытычныя меркаванні аб фактах грамадскага жыцця, палемічныя, сатырычныя артыкулы, крытычныя заўвагі аб дзейнасці мясцовых улад і г. д. Зразумела, што пры такой праграме цяжка было разлічваць на тое, каб "Губернские ведомости" аб'ектыўна адлюстроўвалі грамадскае жыццё, уносілі ў яго якое-небудзь ажыўленне.

Такім чынам, мясцовы перыядычны друк з-за абмежаванасці сваёй праграмы не мог даследаваць падзеі паўсядзённага грамадскага жыцця. Затое можна было публікаваць звесткі, якія не мелі вострага палітычнага характару, у прыватнасці звесткі па гісторыі, этнаграфіі і фальклору. Але і тут ініцыятыва пераважна ішла ад навуковых таварыстваў Пецярбурга і Масквы. Рускае геаграфічнае таварыства, Вольнае эканамічнае таварыства, Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і іншыя змяшчалі на старонках губернскага друку свае праграмы па збіранню матэрыялаў. Для мясцовага друку і "начальства" гэтыя праграмы з'яўляліся своеасаблівымі візамі і компасам у тым, што магло трапіць на старонкі газет. У тых рэдакцыях, дзе былі аматары вывучэння роднага краю, пункты праграмы таварыстваў выкарыстоўваліся для змяшчэння вялікіх матэрыялаў па этнаграфіі, археалогіі, гісторыі і статыстыцы, якія давалі карціну не толькі мінулага, але і сучаснага жыцця народа.

У 60—70-х гадах рэдакцыі мясцовых перыядычных выданняў ("Гродненские губернские ведомости", "Виленский вестник" і інш.) звяртаюцца да інтэлігенцыі з заклікам вывучаць свой край. Зразумела, усё гэта рабілася галоўным чынам для ажыццяўлення палітычных мэт царызму ў Беларусі.

У газеце "Гродненские губернские ведомости" са зваротам да мясцовых сіл выступаў інспектар Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў Кульжынскі (адзін з чыноўнікаў, якія пасылаліся ў Беларусь з мэтай хутчэйшай русіфікацыі). Ён пісаў: "Шкадуючы аб беднасці этнаграфічных звестак адносна мястэчак, сёл і вёсак заходняй Расіі, на гэты

16 год, з'яўляецца "Слоўнік беларускай мовы" (1870). Ён уключае звыш 30 000 слоў, да якіх дадзена тлумачэнне. Часта ў якасці прыкладаў прыводзяцца прымаўкі, прыказкі і іншыя арыгінальныя народныя выразы і ўрыўкі з песень. У слоўніку ёсць вялікая колькасць этнаграфічных матэрыялаў — каштоўныя звесткі аб жыллі, адзенні, ежы, прыладах працы, аб сямейным і грамадскім быце, абрадах і звычаях і іншых з'явах быту і культуры беларусаў.

Збіраннем фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і навуковым аналізам іх І. І. Насовіч займаўся да канца свайго жыцця. Нягледзячы на ўзрост і на дрэнны стан здароўя, амаль зусім сляпы, Насовіч працягвае нястомна і напружана працаваць. У красавіку 1875 г. у пісьме да акадэміка Я. К. Грота ён паведамляў, што яшчэ "ў 1872 г. узяўся за складанне поўных звестак аб беларускай гаворцы ў наступным парадку: I. Аб характары беларускай гаворкі; II. Аб двух дыялектах яе; III. Аб пабочным ўплыве на гаворку беларускага народа; IV. Погляд на славянскія плямёны, якія насяляюць Беларусь; V. Аб славянізмах у беларускай гаворцы; VI. Аб словах, якія ўваходзяць у склад беларускага слоўніка; VII. Аб фанетычных асаблівасцях крывіцка-дзвінскага дыялекту; VIII. Аб арфаграфічных асаблівасцях беларускай гаворкі ў абодвух дыялектах; IX. Аб этымалагічных і сінтаксічных асаблівасцях у абодвух дыялектах у адрозненне ад рускай мовы; X. Аб вялікай роднасці беларускай гаворкі з маларасійскай; XI. Аб выражэнні думак і аб беларускіх простанародных творах; XII. Аб беларускім старажытным і сучасным вершаскладанні"[156]. Лёс гэтых прац нам невядомы.

Працы Насовіча працягвалі выходзіць і пасля яго смерці. У 1881 г. выйшаў "Зборнік Аддзялення рускай мовы і славеснасці", у якім было змешчана "Дапаўненне да беларускага слоўніка І. І. Насовіча".

Такім чынам, за 30 год навуковай дзейнасці Насовіч сабраў і апублікаваў велізарную колькасць фальклорна-этнаграфічных і мовазнаўчых матэрыялаў. Фальклорна-этнаграфічныя працы Насовіча, яго публікацыі вуснапаэтычных твораў і беларускі слоўнік адыгралі велізарную ролю ў развіцці маладой беларускай навукі. Яны не страцілі свайго значэння і сёння.

Плённай была дзейнасць па вывучэнню Беларусі настаўніка рускай мовы Навагрудскага дваранскага вучылішча, пазней дырэктара Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў Міхаіла Аляксеевіча Дзмітрыева (біяграфічныя звесткі аб ім адшукаць не ўдалося). Вывучэнне Беларусі ён пачаў у сярэдзіне 50-х гадоў. У справаздачы Віленскай вучэбнай акругі за 1858 г. паведамлялася, што "настаўнікам Дзмітрыевым складзены алфавітны паказальнік мясцовых слоў з філалагічным іх тлумачэннем, а таксама апісанне дажынак з песнямі і народнага свята Купалы. Усё гэта было прадстаўлена ў Рускае геаграфічнае таварыства. Акрамя таго, ён падрыхтаваў да друку збор гістарычных звестак аб Навагрудку"[157].

У 1869 г. М. А. Дзмітрыеў выдаў у Вільні "Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю", у які ўвайшлі матэрыялы, што друкаваліся раней у перыядычных выданнях, а таксама і новыя. Найбольшае месца ў зборніку займаюць песні і тлумачэнні да іх (277 песень). У асобны раздзел выдзелены казкі (8 тэкстаў). Прыводзяцца шматлікія апісанні абрадаў

---

[156] Архіў РАН, ф. 137, воп. 3, № 688, л. 4, 5.

[157] ЦДГА Літвы, ф. 733, воп. 95, № 428, л. 32, 33.

(вясельных, пахавальных, калядных, купальскіх, абрадаў памінак, Дзядоў і інш.), розных народных гульняў, забаў і танцаў з дадаткам песень. Часта побач з абрадавым бокам жыцця селяніна аўтар дае і цікавыя заўвагі аб яго сацыяльным становішчы, аб адносінах да прыгнятальнікаў. У адной з прыведзеных песень народ шле праклён панам:

Да ў нашага пана
Да нядобрая слава.
Па месяцу жыта жалі,
Па зорам копы клалі.
Цёмна ў полі цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто да хаты не пушчае,
Да на полі нас трымае.
Да мы позна з поля йдзём,
Да прыгнятальніка клянём.[158]

Матэрыяльнаму быту беларуса Дзмітрыеў прысвяціў артыкул "Некалькі звестак аб хатнім быце сялян паўночна-заходніх губерняў"[159]. Аўтар дае агульную характарыстыку жылля, адзення, ежы, земляробчых і іншых прылад працы, транспартных сродкаў і інш. У артыкуле ёсць даволі поўнае апісанне сахі, плеценай бараны, ярма (па матэрыялах з Мінскай губерні). Цікавым з'яўляецца паведамленне Дзмітрыева аб тым, што ў той час у сялянскіх хатах побач з полам і палацямі нярэдка сустракаліся і ложкі. Тут у параўнанні з папярэдняй працай больш яскрава падкрэсліваецца цяжкае становішча народа. Аўтар прыхільна ставіцца да яго патрэб, спачувае селяніну, аднак, знаходзячыся на ліберальна-асветніцкіх пазіцыях, выхад беднаты з цемры ён бачыў у асвеце. "Уплыў народнай асветы, — пісаў ён, — прынясе яшчэ больш поспехаў, і тады наш паўночна-заходні селянін разгадае сваю загадку: "Маю душу, цела, а не магу хадзіць, маю многа пер'я, а не магу лятаць"[160].

У адрозненне ад шматлікіх тагачасных этнаграфічных прац аб Беларусі, якія былі прасякнуты палітычнай тэндэнцыйнасцю, працы Дзмітрыева прысвечаны аб'ектыўнаму апісанню чыста этнаграфічных з'яў. Не маючы спецыяльнай падрыхтоўкі, але будучы аматарам этнаграфіі, Дзмітрыеў даў адзін з першых узораў апісання быту беларусаў. За этнаграфічныя працы РГТ узнагародзіла яго сярэбраным медалём.

Сярод прац 60—70-х гадоў багатымі этнаграфічнымі звесткамі вызначаліся працы Ю. Ф. Крачкоўскага.

Юліян Фаміч Крачкоўскі (1840—1903) нарадзіўся ў в. Азяты Кобрынскага павета Гродзенскай губерні. Яго бацька быў сынам селяніна і служыў ва уніяцкай царкве арганістам. Пасля заканчэння Літоўскай духоўнай семінарыі і С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Ю. Ф. Крачкоўскі адмовіўся ад духоўнага сану і выбраў пасаду настаўніка рускай мовы. Між іншым, пераход на пасаду настаўніка для яго быў нялёгкім. Яму пагражалі спагнаннем затрат на вучобу ў акадэміі.

Педагагічная дзейнасць Крачкоўскага працягвалася каля 30 год. Ён працаваў выкладчыкам рускай мовы Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, інспектарам народных вучылішчаў Тульскай і Віленскай губерняў, дырэктарам Туркестанскай настаўніцкай семінарыі. У 1888 г. быў прызначаны старшынёй Віленскай камісіі па разбору і выданню старажытных актаў.

Цікавасць да вывучэння народнага быту праявілася ў Крачкоўскага ў самым пачатку яго працоўнай дзейнасці. У 1868 г.

---

[158] Дмитриев М. А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869. С. 117, 118.

[159] Ён жа. Несколько сведений о домашнем быте крестьян северо-западных губерний // Виленский вестник. 1869. № 122.

[160] Там жа.

у перыядычным друку з'яўляюцца яго першыя артыкулы, сярод якіх вылучаюцца апісанне вясельнай абраднасці беларусаў[161].

Асноўнымі этнаграфічнымі працамі Крачкоўскага з'яўляюцца "Нарысы быту заходнерусскага селяніна"[162] і "Быт заходнерускага селяніна"[163]. Абедзве яны складаюць па сутнасці адзіную працу.

У "Нарысах быту заходнерускага селяніна" аўтар апісвае жыццё дзяцей беларускіх сялян. Паказ быту беларускіх дзяцей падаецца на фоне агульнага становішча беларускага селяніна, яго цяжкага лёсу. Беларускі селянін "часта лічыць сябе нешчаслівым ужо толькі таму, што ён жыве, што паявіўся на гэты белы свет на бяду і гора". Яго доля — "спрадвечная фізічная праца без канца і меры, праца, якая працягвалася і днём і ноччу, і ў будні, і ў святы, праца па званку і пад палкай і прытым не для сябе, а для... паноў"[164]. Крачкоўскі падкрэслівае, што вынікам "крывавага поту", "празмернай працы на пана" было тое, што "ў вёсцы заставалася пустой не адна хата... паяўляліся беззямельныя парабкі".

Характарызуючы адносіны бацькоў да дзяцей, Крачкоўскі падкрэслівае, што нараджэнне дзіцяці лічыцца вялікім святам у сям'і. Але калі селянін "нешчаслівы і ў вышэйшай ступені бедны", то ён з вялікім сумам думае аб тым, што і яго дзіцяці прыйдзецца гараваць таксама, як і яму. Журботныя бацькі "з болем у сэрцы гавораць сваім дзецям: "расці, расці, маё дзіцятка, гора гараваць, людзям служыць, работу рабіць"[165].



18. Ю. Ф. Крачкоўскі (1840—1903)

З добрым веданнем народнага быту паказвае Крачкоўскі, як дзіця выхоўваецца ў сям'і, падрабязна апісвае дзіцячыя гульні і нялёгкую працу, да якой дзеці прывучаюцца з малых год. "Самы малы прыбытак сілы ў сялянскім быце ў вышэйшай ступені дзейнічае ўцешна на гаспадароў. Бацькі радуюцца, калі дзіця іх не патрабуе ўжо за сабой дагляду, наадварот, само можа дапамагчы ім у тых ці іншых адносінах"[166].

З 6—7-гадовага ўзросту асноўнымі заняткамі хлапчука, а часам і дзяўчынкі з'яўляецца догляд жывёлы, пасьба яе. Старэйшыя дзеці ганяюць коней на

[161] К. Свадебные обряды западнорусских крестьян // Виленский вестник. 1868. № 134, 136.

[162] Крачковский Ю. Очерки быта западнорусского крестьянина // Виленский вестник. 1869. С. 160—209.

[163] Ён жа. Быт западнорусского селянина // Чтения Общества истории и древностей российских при Московском университете. М., 1873. Кн. IV і асобна: М., 1874.

[164] Ён жа. Очерки быта западнорусского крестьянина. С. 161, 162.

[165] Там жа. С. 181, 182.

[166] Там жа. С. 187.

начлег, прывучаюцца касіць сена і араць поле. Гэтых дзяцей Крачкоўскі вылучае ў асобную групу, называючы іх "падручнымі".

Крок за крокам прасочвае аўтар нялёгкае жыццё дзіцяці ад яго нараджэння да сталасці, да пачатку працоўнай дзейнасці. Апісанні робяцца з вялікай любоўю да простага народа.

Разгледжаная праца Крачкоўскага не пазбаўлена недахопаў. Даследчык не дае пашпартызацыі матэрыялаў, часта не спасылаецца на крыніцы, адкуль яны ўзяты; ён, напрыклад, перадрукоўвае некаторыя песні і вершы са зборніка Гільтэбранта і не дае спасылкі на яго.

Гэтыя недахопы ў значнай ступені ўлічаны Крачкоўскім у наступнай яго працы — "Быт заходнерускага селяніна". Амаль палова яе прысвечана апісанню беларускага вяселля, акрамя таго, даецца характарыстыка абрадаў каляндарнагадавога цыкла, вытворчай дзейнасці і матэрыяльнага быту беларусаў. Тут змешчана звыш 200 песень, некалькі народных паданняў і казак і 90 прыказак.

Ю. Крачкоўскі падрабязна апісвае ўсе этапы вяселля, пачынаючы ад сватання і канчаючы абрадам пераезду нявесты ў дом жаніха. Адначасова ён указвае на адміранне многіх вясельных абрадаў, якія прадстаўлялі сабою рэшткі старасветчыны, і з'яўленне новых рыс у быце беларускага народа; напрыклад, аўтар адзначае, што ў большасці выпадкаў у Беларусі існаваў свабодны выбар жаніха і нявесты, і ў шлюб маладыя людзі ўступалі па ўзаемнай згодзе. Аднак здаралася таксама, што бацькі не лічыліся з інтарэсамі дзяцей, а зыходзілі выключна з патрэб сваёй гаспадаркі. У такім выпадку жаніх і нявеста не ведалі адзін другога да самага шлюбу.

Асноўнымі станоўчымі якасцямі нявесты былі яе працавітасць і сціпласць, яе здольнасць быць добрай памочніцай у сялянскай гаспадарцы. Перад шлюбам бацькі папярэджвалі сына: "Жаніся, сынку, вазьмі сабе жонку, хоць удовіну доньку; толькі сваволніцы не бяры і нашай хаты не разары; а бяры ты работніцу, якая б дом свой шанавала, дом свой аберагала, а не тое што спіной бы вугал падпірала і нас старых з хаты за каўнер на белы свет выштурхала"[167].

На прыкладзе вяселля Крачкоўскі паказвае складанасць узаемаадносін у сям'і беларускага селяніна, які ва ўмовах цяжкага сацыяльнага прыгнёту вымушаны быў нярэдка ахвяраваць інтарэсамі сваіх дзяцей, іх пачуццямі, толькі б не апынуцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Вось чаму да шлюбу сваіх дзяцей бацькі падыходзілі вельмі сур'ёзна.

У працы "Быт заходнерускага селяніна" Крачкоўскі адводзіць вялікае месца апісанню гадавога цыкла аграрнай абраднасці. Пры разглядзе розных працоўных працэсаў (ад пасеву да збору ўраджая) аўтар падрабязна апісвае абрады, прыкметы і забабоны селяніна, якія звязаны як з вытворчай дзейнасцю, так і з гадавым цыклам царкоўных і старажытных язычніцкіх свят.

Некаторае адлюстраванне ў працы атрымаў і матэрыяльны быт селяніна, асабліва ежа. Асноўнае месца ў харчаванні беларуса займаў хлеб. "Без солі, без хлеба худая бяседа", "Хлеб у хаце — гаспадар, на рабоце — сябра, а ў дарозе — таварыш"[168] — такімі прымаўкамі народ характарызуе свой асноўны прадукт харчавання. Усе звесткі аб ежы ўзяты з розных населеных пунктаў Ашмянскага павета Віленскай губерні.

Цікавыя звесткі прыводзяцца аб народнай медыцыне і народным календары беларусаў. У канцы працы даецца апісанне абрадаў пахавання нябожчыкаў,

---

[167] Виленский вестник. 1868. № 134, 136.

[168] Крачковский Ю. Ф. Быт западнорусского селянина. С. 47.

змешчана некалькі фальклорных твораў казачнага характару.

У працы "Быт заходнерускага селяніна" Крачкоўскі спрабуе падагульніць вядомыя ўжо звесткі па быту беларусаў. Побач з уласнымі назіраннямі і паведамленнямі сваіх карэспандэнтаў даследчык шырока выкарыстоўвае друкаваныя крыніцы. Ён спасылаецца амаль на ўсе важнейшыя выданні па беларускай этнаграфіі — працы Тышкевіча, Гільтэбранта, Баброўскага, Дзмітрыева, Чачота і інш. Выкарыстоўваючы іх, Крачкоўскі спрабуе рэканструяваць агульны малюнак быту беларускага селяніна. Асабліва гэта назіраецца пры апісанні вяселля. Яно складаецца з вялікай колькасці фрагментаў, узятых амаль з усёй Беларусі. Такое звядзенне асобных фрагментаў вяселля ў адзіны цыкл нельга лічыць навукова абгрунтаваным, таму што аналагічнага апісанаму Крачкоўскім адзінага цыкла для ўсёй Беларусі не існавала.

Апісанні Крачкоўскага знаёмілі шырокія колы чытачоў з багаццем і разнастайнасцю бытавых рыс беларусаў, іх скарбніцай — вуснапаэтычнай творчасцю і, такім чынам, абвяргалі антынавуковыя тэорыі аб нібыта першабытным узроўні свядомасці беларуса.

У Віцебскай губерні ў першай палове 60-х гадоў разгарнуў дзейнасць па вывучэнню статыстыкі, этнаграфіі і гісторыі Аляксандр Максімавіч Семянтоўскі (1821—1893). Ён быў пасланы ў Беларусь для яе русіфікацыі "ў неспакойны час паўстання". Аднак у адрозненне ад іншых чыноўнікаў, якія паводзілі сябе тут як каланізатары і выкарыстоўвалі сваё знаходжанне ў Беларусі для ўласнай нажывы, Семянтоўскі хутка "асіміляваўся з ёй і з вялікай энергіяй узяўся за даследаванне краю"[169]. Да прыезду ў Беларусь ён займаўся збіраннем украінскага фальклору. У 1851 г. выдаў зборнік "Маларускія і галіцкія загадкі"[170]. У Віцебскай губерні Семянтоўскі быў сакратаром Губернскага статыстычнага камітэта і адначасова рэдактарам неафіцыйнай часткі "Витебских губернских ведомостей", пазней — рэдактарам "Памятной книжки Витебской губернии". Гэтыя пасады давалі магчымасць публікаваць яму свае навуковыя даследаванні.

Ужо ў 1864 г. Семянтоўскі падрыхтаваў працы "Статыстычны нарыс Віцебска" і "Сінільна-набойная вытворчасць у г. Віцебску". У апошняй расказваецца аб гісторыі сінільна-набойнай майстэрні Буланава. Семянтоўскі паказвае, што пасля рэформы 1861 г. майстэрня перарасла ў фабрыку. Калі да рэформы фабрыка давала 10—15 тыс. аршын у год, то ў 60-х гадах яна выпускала да 80—100 тыс. аршын у год. Гэта было выклікана развіццём капіталістычных адносін, зменамі, якія адбываліся ў традыцыйным адзенні беларусаў, у выніку чаго павысіўся попыт на каляровыя тканіны[171].

Асноўнай этнаграфічнай працай А. М. Семянтоўскага па быту і культуры беларусаў з'яўляецца "Этнаграфічны агляд Віцебскай губерні"[172]. Адзначаючы ажыўленне этнаграфічнай навукі, Се-

[169] Виленский вестник. 1893. № 36.

[170] У 1872 г. Семянтоўскі надрукаваў сабраныя ім раней "Малорусские и галицкие загадки" ў "Сборнике в память первого русского статистического съезда 1870 г." (СПб., 1872). У гэтай працы ім робяцца параўнанні ўкраінскіх і беларускіх загадак.

[171] Сементовский А. М. Синильно-набойное производство в г. Витебске // Витебские губернские ведомости. 1864. № 43.

[172] Ён жа. Этнографический обзор Витебской губернии. СПб., 1872. Друкавалася таксама ў газ. "Витебские губернские ведомости". 1872. № 24—35, 41 і ў "Сборнике в память первого русского статистического съезда 1870 г." (СПб., 1872. С. 297—372).

мянтоўскі пісаў у прадмове да яе: “Ніколі этнаграфія як навука не звяртала на сябе столькі ўвагі вучоных і наогул адукаваных людзей, як у другой палове бягучага стагоддзя, калі да спраў дзяржаўнай палітыкі далучалася складанае пытанне аб нацыянальнасці” [173].

У сваёй працы Семянтоўскі рэзка крытыкуе “Погляд на гісторыю і этнаграфію заходніх губерняў Расіі” Эркерта. Ён не згодзен са сцвярджэннем Эркерта, які пісаў, быццам бы веравызнанне найбольш яскрава вызначае рысы, што аддзяляюць адну народнасць ад другой. Абвяргаючы гэта палажэнне, даследчык прыводзіць канкрэтныя лічбы акаталічаных па Віцебскай губерні беларусаў, латышоў, эстонцаў і іншых народнасцей, якія Эркерт залічыў “у лік палякаў насуперак іх жаданню, сімпатыям, паданням, паходжанню, указанням навукі, гісторыі і закона”[174]. Семянтоўскі падкрэслівае, што Эркерт карыстаўся не асабістымі назіраннямі, а паведамленнямі ваенных, якія былі расквартараваны ў Беларусі. Спасылаючыся на расказы “гэтых салдацікаў”, Эркерт у сваёй працы памылкова сцвярджаў, што католікі-беларусы нібыта ўсе носяць польскія касцюмы і “што яны па свайму складу думак, звычаях і спосабах жыцця сапраўдныя палякі”[175].

Семянтоўскі адзначае, што ў быце католікаў і праваслаўных беларусаў не толькі няма адрозненняў, але нават быт так званай шляхты недалёка адышоў ад быту сялян-беларусаў. Аўтар навукова аргументавана падыходзіць да вызначэння этнічнага складу насельніцтва. Ён лічыць, што больш правільна “можна


ЭТНОГРАФИЧЕСКІЙ ОБЗОРЪ
ВИТЕБСКОЙ ГУБЕРНІИ

А. СЕМЕНТОВСКАГО

САНКТПЕТЕРБУРГЪ
Типографія М. Хана, Графскій переулокъ, д. № 5
1872

19. Вокладка кнігі А. Семянтоўскага

вызначыць народнасць па роднай мове, прымаючы пад увагу асабістыя паказанні аб сабе народа, яго мінулы гістарычны лёс і сучасны спосаб жыцця, яго сімпатыі і палітычныя перакананні”[176].

Такім чынам, пры вызначэнні этнічнага складу побач з мовай Семянтоўскі ўлічваў такія важныя акалічнасці, як нацыянальная самасвядомасць народа, асаблівасці яго гістарычнага мінулага і сучаснага быту і культуры. Этнаграфічная карта Віцебскай губерні ім была складзена на аснове “сукупнасці ўсіх гэтых прызнакаў”.

---

[173] Сементовский А. М. Этнографический обзор Витебской губернии. С. 1.

[174] Там жа. С. 2.

[175] Там жа. С. 6.

[176] Сементовский А. М. Этнографический обзор Витебской губернии. С. 2, 3.

Кожнай народнасці Віцебшчыны Семянтоўскі прысвячае ў сваёй працы асобны раздзел. Аднак агляд зроблены даволі бегла, без глыбокай характарыстыкі быту і культуры. Пры гэтым аўтар намагаецца даказаць, што нібыта беларус па сваіх інтэлектуальных і фізічных якасцях стаіць ніжэй, чым рускі. Рускі заўсёды і прыгажэйшы, і вышэйшы ростам, і больш руплівы, і больш разумны, і не такі прыгнечаны і забіты, як беларус. Развaжанні Семянтоўскага аб этнагенезе беларусаў стаяць на ўзроўні навукі таго часу і таму ў многім памылковыя.

На працы Семянтоўскага ляжыць некаторы адбітак вялікадзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да беларусаў. Аднак вучоны ў асноўным прыхільна ставіцца да народа пры апісанні яго быту і культуры, адначасова паказваючы цяжкае матэрыяльнае становішча. У працах Семянтоўскага мы не сустрэнем ідэалізацыі паслярэформеннага быту народа і праслаўлення рэформы, што вельмі часта сустракаецца ў многіх тагачасных этнаграфічных працах аб Беларусі. Вось некаторыя фрагменты з апісання быту беларусаў, дадзенага Семянтоўскім: "Як і стол, непатрабавальнае таксама і жыллё беларуса. Малако, тварог, увосень і зімой — бульба, капуста, буракі, боб, гарох, а летам шчаўе, бацвінне і г. д. пры чорным хлебе, дрэнна выпечаным з непрасеянай жытнёвай мукі, змолатай з дрэнна адвеянага зерня на хатніх ручных жорнах, — вось звычайная, і то ў добры год і прытым у заможнага селяніна, ежа большасці беларусаў"[177]. Хата беларуса "цесная, душная, курная, з бярвення, крытая часам дранкай без цвікоў, часам саломай, хата з адным ці двума маленькімі аконцамі, сяк-так застаўленымі кавалачкамі шкла..."[178]

Падкрэсліваючы "сумнасць" "малюнка быту селяніна-беларуса", Семянтоўскі, аднак, не вінаваціць народ у яго цяжкім лёсе. Наадварот, ён адзначае, што "нельга сказаць, каб беларус быў пазбаўлены дароў духоўных, каб зямля, якую ён неяк апрацоўвае дапатопнай сахой ды смыкам з суччa, не магла дзесяцярыцай адплаціць яму за сапраўды цяжкую працу, каб тапаграфічныя ўмовы вобласці беларусаў і фізічная прырода іх саміх стваралі неаднолькавыя перашкоды"[179].

Арыгінальнай па свайму зместу з'яўляецца праца Семянтоўскага "Аб мерах і вазе, якія ўжываюцца цяпер і ўжываліся ў старыя гады ў Віцебскай губерні"[180]. У кароткай прадмове да яе падкрэсліваецца важнасць вывучэння адзінак народнай метралогіі для даследавання быту народа.

Семянтоўскі дае характарыстыку 53 назваў мер і вагі, размяркоўваючы іх па наступных рубрыках: меры — а) для сыпучых цел, б) для вадкасцей, в) лінейныя меры, г) меры шляху, д) пазямельныя меры, е) кубічныя меры, вага. Адзначаючы вялікі разнабой адзінак мер і вагі, Семянтоўскі гаворыць, што гэта прыводзіць да падману сялян рознымі перакупшчыкамі. Таму ён прапануе, каб мясцовыя ўлады хутчэй увялі адзіныя меры і вагу.

Этнаграфічныя звесткі ёсць і ў працах Семянтоўскага, прысвечаных статыстыцы і археалогіі. Сярод іх

---

[177] Сементовский А. М. Этнографический обзор Витебской губернии. С. 13.

[178] Там жа.

[179] Там жа. С. 14.

[180] Сементовский А. М. О мерах и весе, употребляемых ныне и употреблявшихся в старые годы в Витебской губернии // Памятная книжка Витебской губернии на 1878 г. С. 173—190 і асобна: Витебск, 1878.

адзначым "Беларускія старажытнасці"[181].

Пры апісанні старажытных помнікаў у Беларусі (земляныя валы, насыпы і замкі), а таксама археалагічных знаходак Семянтоўскі прыводзіць вялікую колькасць адпаведных народных паданняў, дае падрабязнае апісанне абрадаў пахавання і памінак і характарызуе абрады Радаўніцы, якія выконваліся ў Себежскім павеце.

Заслугоўваюць увагі таксама і працы Семянтоўскага "Валасныя суды ў Віцебскай губерні"[182], "Аб ярмарках і кірмашах Віцебскай губерні"[183], "Беглы статыстычны нарыс прыроды і насельніцтва Віцебскай губерні"[184] і інш.

У Мазырскім павеце Мінскай губерні ў 70-х гадах этнаграфічнымі даследаваннямі займалася настаўніца А. Я. Васільева. Яна надрукавала звыш дзесяці артыкулаў аб сямейным, грамадскім і матэрыяльным быце[185], вераваннях, абрадах і фальклоры[186] сялян розных населеных пунктаў Мазырскага павета. Гэтыя артыкулы не вызначаюцца глыбокім зместам і асаблівай прыхільнасцю аўтара да народа. Але ў радзе выпадкаў усё ж даецца трапная характарыстыка становішча народа і яго быту. Так, у артыкуле "Заметка, як праводзяць вясну сяляне Мінскай губерні" Васільева піша, што вясна, гэта радасная пара года, прыносіць многа гора селяніну-бедняку. Нярэдкія выпадкі, калі яго лоўка ашукваюць купцы, прымушаюць ісці на промыслы ў той час, калі трэба апрацоўваць свае палі. "Сяляне пазычаюць у купца грошы на выплату падаткаў і іншых павіннасцей, абавязваючыся адрабіць... Кідаючы свае ўласныя палявыя і хатнія работы, цягнецца селянін у лес з торбай за плячыма і сякерай за поясам часам на тыдзень адразу... Цяжкасці і нястачы церпіць селянін на кожным кроку"[187].

Шлях да паляпшэння становішча народа, на яе думку, ляжыць праз асвету[188].

У артыкуле "Вытрымкі з жыцця беларускай жанчыны" Васільева выступае ў абарону сялянкі: "Калі на жыццё сялянкі паглядзець правільна, не праз ружовую прызму, то яна працуе за пецярых; справа мужа пасеяць хлеб, яе ж — хадзіць за пасеяным, прыбраць з

---

[181] Сементовский А. М. Белорусские древности. СПб., 1890.

[182] Ён жа. Волостные суды в Витебской губернии // Витебские губернские ведомости. 1865. № 27.

[183] Ён жа. О ярмарках и кирмашах Витебской губернии // Памятная книжка Витебской губернии на 1867 г. СПб., 1867.

[184] Ён жа. Беглый статистический очерк природы и населения Витебской губернии // Памятная книжка Витебской губернии на 1881 г. С. 94—142.

[185] Васильева А. Я. Свадебные обряды в районе Грабовской волости Мозырского уезда // Минские губернские ведомости. 1877. № 32—34; Яна ж. Крестьянские поминки в Мозырском уезде // Там жа. № 45; Яна ж. Село Беседки Мозырского уезда // Там жа. 1879. № 29, 31; Яна ж. Выдержки из жизни белорусской женщины // Виленский вестник. 1880. № 246; Яна ж. Заметка, как проводят весну крестьяне Минской губернии // Минские губернские ведомости. 1878. № 27; Яна ж. Заметка об общинном земледелии у крестьян Минской губернии // Там жа. 1878. № 9; Яна ж. Заметка об быте крестьян Мозырского уезда // Там жа. 1879. № 17, 18.

[186] Васильева А. Я. Легенды и поверья в Минской губернии // Минские губернские ведомости. 1879. № 9—11; Яна ж. Краткий очерк села Грабова Мозырского уезда // Там жа. 1877. № 35, 37, 39, 41, 43, 44; Яна ж. Рождественские праздники у крестьян Мозырского уезда // Там жа. 1878. № 5; Яна ж. "Князь", или "Жид-озеро" (легенды) // Там жа. 1877. № 52; Яна ж. Весенние песни и обряды в деревнях Мозырского уезда // Там жа. 1878. № 50; Яна ж. Знахари // Виленский вестник. 1880. № 197.

[187] Яна ж. Заметка, как проводят весну крестьяне Минской губернии // Минские губернские ведомости. 1878. № 27.

[188] Гл. яе артыкулы ў "Минских губернских ведомостях" (1877. № 35, 37, 39, 41, 43—45).

поля, дагледзець свойскую жывёлу, дзяцей, апрануць сям'ю і зрабіць сваімі рукамі ўсё патрэбнае для адзення"[189]. Нялёгкая доля і жанчыны-гараджанкі, усё яе жыццё і становішча ў грамадстве залежыць ад поспехаў мужа. Аўтар сцвярджае, што толькі раўнапраўная праца, якая дала б сродкі для жыцця, магла б вызваліць жанчыну ад прыгнёту. Аднак у тагачасных умовах гэта было немагчыма.

У большасці артыкулаў Васільевай прыводзяцца народныя песні. Аўтар робіць цікавыя заўвагі і аб методыцы збірання фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў: "Папрасіце самага спрытнага селяніна пераказаць якую-небудзь песню, казку, павер'е і г. д., ён прыкінецца перад вамі такім дурнем, што падумаеш, ён не ўмее сказаць некалькіх слоў. Станьце ж назіраць за ім непрыкметна для яго і ўбачыце процілеглае: песні, жарты, досціпы так і сыплюцца. Адзіны сродак выклікаць тутэйшага селяніна на шчырую размову — гэта замаскіраваць сапраўдную мэту вашай з ім размовы, апусціцца да ўзроўню яго ўяўлення, нават паказацца, калі магчыма, неразумеючым святасці яго перакананняў, і вось самалюбства прачынаецца ў нашага суб'екта, і ён у якасці настаўніка гатовы ўсё вам расказаць, усё да самых дробязей"[190].

Рад гісторыка-этнаграфічных артыкулаў па Гродзенскай губерні надрукаваў ураджэнец мясцовага краю Фёдар Васільевіч Стаўровіч[191]. У 1870 г. ён выдаў зборнік артыкулаў[192], раней апублікаваных у мясцовым перыядычным друку. У іх даецца агульная характарыстыка розных галін быту і культуры беларусаў. Трэба адзначыць, што навуковая каштоўнасць яго прац вельмі нязначная. Яны носяць белетрыстычны характар.

Быту беларусаў 60—70-х гадоў прысвечаны і артыкулы былога рэдактара "Виленского вестника" В. Сакалова[193], свяшчэнніка С. Бекарэвіча[194] і землеўласніка І. Сердзюкова[195].

Арыгінальныя працы па народнаму календару, народнай метэаралогіі і вераваннях апублікаваў у 1869—1873 гг. І. Берман[196]. У артыкуле "Каляндар па

[189] А. Я. В. Выдержки из жизни белорусской женщины // Виленский вестник. 1880. № 246.

[190] Яна ж. Рождественские праздники у крестьян Мозырского уезда // Минские губернские ведомости. 1878. № 5.

[191] Гл. яго артыкул: Местечко Бездеж (Кобринского уезда Гродненской губернии) // Гродненские губернские ведомости. 1867. № 46, 49; 1868. № 3; Ён жа. Лобари: Этнографический очерк // Виленский сборник. Вильна, 1869. С. 119—145; Ён жа. Село Спорово // Там жа. С. 88—97; Ён жа. Черная весь // Памятная книжка Гродненской губернии на 1869 г. С. 28—55.

[192] Ставрович Ф. В. Опыт исторических и этнографических исследований в Северо-Западном крае. Вильна, 1870.

[193] Соколов В. Очерки нравов Борисовского уезда // Минские губернские ведомости. 1869. № 2 і Вестник Западной России. 1868. Кн. VI. С. 197—203; Ён жа. Полесье. Поездка на озеро "Князь-Жид" // Там жа. 1869. № 35, 36.

[194] Бекаревич С. С. Сельские очерки. Село Нежково // Могилевские губернские ведомости. 1864. № 31, 33, 45; Ён жа. Свадебный обряд у крестьян в приходе с. Нежково Могилевского уезда // Там жа. 1865. № 13; Ён жа. Взгляд на собственность // Там жа. 1867. № 29.

[195] Сердюков И. Крестьянская жизнь и обычаи в Мстиславльском уезде // Могилевские губернские ведомости. 1867. № 50—52; 1868. № 14, 22.

[196] Берман И. Порядок народного времяисчисления и праздничные обычаи в Северо-Западной Руси // Виленский вестник. 1869. № 6, 7, 12, 19, 34, 39 і асобна: Вильна, 1869; Ён жа. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда // Записки Русского географического общества. СПб., 1873. Т. V. С. 1—44; Ён жа. Наблюдения нашего северо-западного крестьянина относительно погоды и урожая // Виленский вестник. 1870. № 130, 132; Ён жа. Чаровники и знахари западнорусского простонародья // Там жа. 1903. № 152, 158, 160, 164. Апошняя праца была надрукавана пасля смерці Бермана.

народных паданнях у Валожынскім прыходзе Віленскай губерні Ашмянскага павета" ён падкрэслівае, што з-за непісьменнасці народ не мог карыстацца друкаваным календаром і таму працягваў лічыць час дзедаўскім спосабам. "Каму не здаралася здзіўляцца, — пісаў Берман, — як мужычок раптам па памяці знаходліва скеміць: колькі часу прайшло ад такога-та дня і колькі застаецца да такога-та дня. Такое арыгінальнае вылічэнне часу народ робіць хутка па тэрмінах дзён святочных"[197].

На аснове вывучэння быту народа (у час, калі служыў святарам у Валожынскім прыходзе Ашмянскага павета Віленскай губерні) Берман прыводзіць у сваёй працы спосабы вылічэння часу, дае падрабязны пералік усіх свят і апісанне іх бытавых абставін. Зразумела, што ўсё гэта падаецца з клерыкальна-рэлігійных пазіцый. Для аўтара галоўная мэта вывучэння быту заключалася ў тым, каб, добра ведаючы народ, умела выкарыстоўваць мясцовыя асаблівасці і глыбей укараняць праваслаўе. Аднак умелае выкарыстанне фактычнага матэрыялу падобных прац прыносіць пэўную карысць для вывучэння быту народа.

Цікавы фактычны матэрыял па народнай метэаралогіі змешчаны ў артыкуле Бермана "Назіранні нашага паўночна-заходняга селяніна адносна надвор'я і ўраджаю". У ім аўтар падкрэслівае, што прадбачанне надвор'я неабходна было народу для таго, "каб мець магчымасць загадзя паклапаціцца аб занятках, якія залежаць ад стану надвор'я, і наогул прыняць меры па аслабленню шкоднага ўплыву яго няўстойлівасці і ліхалецця". У народзе было мноства рацыянальных прыкмет, з дапамогай якіх селянін часта беспамылкова вызначаў надвор'е амаль на ўвесь перыяд года. "Народ знаходзіць нейкую залежнасць летняга стану надвор'я ад зімовага і, мяркуючы па характару зімы, робіць здагадку аб тым, якой трэба чакаць вясны і лета, а разам з тым, на які спадзявацца ўраджай і як рана пачынаць сяўбу збожжавых"[198].

Надзвычай цікавымі з'яўляюцца прыкметы аб надвор'і, якія ўзніклі ў сувязі з назіраннямі за паводзінамі раслін, насякомых, птушак і жывёл: "Вясной, калі бяроза распусціцца раней алешніку, будзе сухое лета... Калі дуб зазелянееў раней ясеня, можна з упэўненасцю чакаць сухога лета... калі ж ясень пасля таго, як распусцяцца ўсе дрэвы, марудна пакрываецца лісцем, то лета будзе вельмі непагоднае. На сушу, як кажуць у народзе (г. зн. калі сухое лета), вылятае з роем пчол адна матка, а на макрыню вылятае некалькі матак"[199]. "Ранні адлёт птушак у вырай, асабліва адлёт бусла каля Спасава дня, азначае хуткае наступленне халоднага часу і суровую зіму, а пасля яе цёплую вясну... Увосень, калі птушкі трывожна хаваюцца пад дахі забудоў ці ў кусты, а мышы-палёўкі бегаюць па снапах, гумнах і свірнах, трэба чакаць ранняга надыходу доўгай і суровай зімы. Таго ж трэба чакаць, калі мураўі збіраюць вялікія кучы"[200]. "Калі ў вячэрнім паўзмроку рыба іграе і плёскаецца на паверхні вады, то будзе добрае надвор'е, калі ж рыба скача над вадой і ловіць камароў і машкару, то быць дажджу"[201].

---

[197] Берман И. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда // Записки Русского географичекого общества. Т. V. С. 3.

[198] Берман И. Наблюдения нашего северо-западного крестьянина относительно погоды и урожая // Виленский вестник. 1870. № 130.

[199] Там жа.

[200] Там жа. № 132.

[201] Там жа.

У народзе склалася вялікая колькасць прыкмет, звязаных і з назіраннямі за рознымі прыроднымі з'явамі: вызначэнне надвор'я па характару хмар, ветру, нябесных свяціл, асабліва ўсходу і заходу сонца і месяца і інш. У артыкуле прыводзіцца рад прыкмет, па якіх прадказвалася будучае ўраджаю розных сельскагаспадарчых культур. Берман адзначае рацыянальнасць і верагоднасць многіх з гэтых прыкмет. Адначасова ён звяртае ўвагу на тое, што да рацыянальных прыкмет дадаецца "мноства бязглудзіцы і нават забабонаў". Тым не менш ён заклікае этнографаў збіраць усе назіранні народа "для навуковай праверкі іх"[202].

У 60—70-х гадах XIX ст. пачынаецца дзейнасць вядомых беларускіх этнографаў П. В. Шэйна, М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава.




20. П. В Шэйн (1826—1900)

Павел Васільевіч Шэйн (1826—1900) нарадзіўся ў сям'і магілёўскага яўрэя-гандляра[203]. Да 17 год кволы і хваравіты хлапчук выхоўваўся дома і ў школе рабінаў у духу старых забабонных правіл талмуда. Знахары-рабіны, якія "лячылі" П. Шэйна, давялі яго да таго, што ён не мог самастойна рухацца. Вельмі дрэнны стан здароўя хлапчука вымушае бацьку звярнуцца за дапамогай да ўрачоў. У 1843 г. яго адпраўляюць для лячэння ў Маскву. У сценах Нова-Екацярыненскай бальніцы П. Шэйн праляжаў тры гады. Гэты перыяд стаў паваротным у жыцці юнака. Перад ім адчыніўся новы свет, зусім не падобны на той, у якім ён знаходзіўся да гэтага часу. Тут Шэйн вывучыў рускую і нямецкую мовы, пазнаёміўся з лепшымі творамі рускай і зарубежнай літаратуры. Асабліва захапляўся ён вершамі Пушкіна і Жукоўскага.

Пад уплывам княгіні Кастровай Шэйн прыняў лютэранства і, такім чынам, парваў адносіны з бацькамі, якія былі фанатыкамі іудаізму. Два гады юнак знаходзіўся ў сіроцкім аддзяленні нямецкай школы пры лютэранскай царкве ў Маскве, дзе і атрымаў званне хатняга настаўніка. На працягу 50-х і ў першай палове 60-х гадоў яго прыватная педагагічная дзейнасць працякала пераважна ў памешчыцкіх сем'ях (Загражскіх, Аленіных, Каратковых, Шэвыровых і ў Ясна-Палянскай школе Л. М. Талстога).

---

[202] Берман И. Наблюдения нашего северозападного крестьянина относительно погоды и урожая // Виленский вестник. 1870. № 130.

[203] Біяграфічныя звесткі аб Шэйне гл. у працах: Миллер В. Ф. П. В. Шейн: Биографический очерк. М., 1901; Соколов Б. М. Собиратели народных песен П. В. Киреевский, П. И. Якушин, П. В. Шейн. М., 1923; Новиков Н. П. В. Шейн как собиратель и издатель русских и белорусских народных песен: Автореф. дис. ...канд. филол. наук. Л., 1953; Новиков Н. В. П. В. Шейн как составитель сборника "Русские народные песни" // Русский фольклор. М.; Л., 1960. Кн. V. С. 391—412.

З 1865 па 1872 г. Шэйн працуе выкладчыкам нямецкай і рускай моў у Віцебскай гімназіі, а з 1872 па 1879 г. — настаўнікам у Шуі, Зарайску і Калузе. Педагагічная дзейнасць мала цікавіла Шэйна. Таму ён пры першай магчымасці пакідае яе і поўнасцю аддаецца збіранню і публікацыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў. П. Шэйн пасяляецца ў Пецярбургу і пад кіраўніцтвам Акадэміі навук вядзе навуковую работу.

Збіральніцкая дзейнасць П. Шэйна пачынаецца з 50-х гадоў пад уплывам славянафілаў. Дзякуючы паэту-перакладчыку Ф. Мілеру, з якім ён пазнаёміўся яшчэ ў сіроцкай нямецкай школе, Шэйн атрымлівае доступ у вузкі літаратурны гурток Масквы, у складзе якога былі вядомыя дзеячы рускай культуры Ф. Глінка, М. Дзмітрыеў, М. Рамазанаў і інш. Амаль адначасова ён наладжвае сувязь і з гуртком братоў Аксакавых.

Знаёмства з дзейнасцю і працамі І. П. Сахарава, П. В. Кірэеўскага, І. М. Снегірова, А. В. Цярэшчанкі і інш., збліжэнне з некаторымі маскоўскімі літаратарамі выклікала ў Шэйна цікавасць да вуснапаэтычнай творчасці народа[204]. Пад кіраўніцтвам А. Аксакава ўжо ў 1859 г. Шэйн друкуе першы свой збор рускіх былін і гістарычных песень, запісаных у Корсунскім павеце Сімбірскай губерні ў сярэдзіне 50-х гадоў[205]. Першыя фальклорныя запісы насілі выпадковы і аматарскі характар.

Пазней у выніку самаадукацыі і вывучэння спецыяльнай літаратуры, а таксама больш блізкага знаёмства з дзейнасцю і навуковымі працамі фалькларыстаў і этнографаў таго часу, пад уздзеяннем перадавых ідэй 60-х гадоў, дзякуючы "Современнику", "Отечественным запискам" і "Русскому слову" Шэйн у некаторай ступені ўспрымае прагрэсіўныя ідэі аб народзе як рухаючай сіле гісторыі. У адным з артыкулаў ён, напрыклад, сцвярджае, што "без глыбокага ведання духу і сэрца народа ўсе нашы самыя высакародныя і чалавекалюбівыя працы і рэформы ў яго карысць разлятаюцца ўшчэнт, не пакінуўшы пасля сябе ніякага следу, што без самастойнай перапрацоўкі ісцін, здабытых ці растлумачаных навукаю, сама навука ніколі не прыўецца к народу, не прынясе яму ніякіх пладоў". Адсюль Шэйн робіць вывад, што для "поўнага разумення жыцця народа неабходна пазнаёміцца з яго біяграфіяй, г. зн. з поглядам яго на самога сябе, з усімі яго пачуццямі і паняццямі, з яго светапоглядам"[206].

Аднак гэта не азначае, што Шэйн поўнасцю стаў на прагрэсіўныя пазіцыі. Далейшая яго дзейнасць сведчыць аб тым, што ў асноўным ён застаўся на ўмераных буржуазна-ліберальных пазіцыях.

П. В. Шэйн прысвячае сваё жыццё свядомаму збіранню і публікацыі народных твораў і матэрыялаў па быту. Збіранне рускага фальклору завяршылася выданнем працы ў двух тамах пад назвай "Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і да т. п." (1898—1900)[207].

Дзейнасць П. Шэйна ў Беларусі пачалася ў сярэдзіне 60-х гадоў пасля атрымання ў 1865 г. пасады настаўніка Віцебскай гімназіі. Першыя два гады ён

---

[204] Гл.: Новиков Н. В. П. В. Шейн как составитель сборника "Русские народные песни". С. 391.

[205] Матэрыялы былі надрукаваны прафесарам Бадзянскім у "Чтениях Общества истории и древностей российских" (1859. Кн. III, ліпень — верасень. С. 121—170).

[206] Новиков Н. В. П. В. Шейн как составитель сборника "Русские народные песни". С. 397.

[207] Раней ім быў выдадзены зборнік "Русские народные песни" (СПб., 1870. Т. I), які спачатку друкаваўся ў "Чтениях Общества истории и древностей российских" (1868. Кн. I, II, IV; 1869. Кн. I, III, IV; 1870. Кн. I).

знаёміцца з асаблівасцямі мовы і быту беларускага народа. Між іншым адзначым, што першай настаўніцай Шэйна ў гэтым была яго служанка — простая беларуская сялянка Мар'я Васільеўна Кашкевіч. Амаль непісьменная, яна ведала напамяць вялікую колькасць фальклорных твораў. Ад яе Шэйн запісаў да 400 песень і абрадаў, з якіх больш за 300 увайшло ў першы яго беларускі зборнік "Беларускія песні" (1873) [208].

У далейшым П. Шэйн стварае шырокую сетку карэспандэнтаў з ліку настаўнікаў, вучняў і іншых асоб [209]. З гэтай мэтай ён у 1867 г. распрацоўвае падрабязную праграму па збіранню фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і рассылае яе ў сотнях экземпляраў па розных месцах Беларусі. Праграма ахоплівае толькі абрадавы бок быту народа. Яна складалася з уводзін (звароту-закліку да мясцовых адукаваных сіл) і трох раздзелаў: І. "Што запісваць?"; ІІ. "Ад каго запісваць?"; ІІІ. "Як запісваць?" У раздзеле "Што запісваць?" на першым месцы сямейныя абрады радзін, вяселля, імянін і пахаванняў, далей — святы каляндарна-гадавога кола. У асобны пункт праграмы вылучаны павер'і, забабоны, прыкметы, паданні, замовы. Сюды ж уключаны і казкі, загадкі, гульні, а таксама розныя абрады і назвы месц і ўрочышчаў. Нарэшце, у апошнім (трэцім) пункце пералічваюцца разрады песень, якія трэба запісваць у першую чаргу. Пры апісанні абрадаў Шэйн прапануе прыводзіць тэксты песень, якія спяваюцца ў той ці іншы момант выканання абраду.

[208] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 1—1874, воп. 1, № 22, л. 3, 4.

[209] У рукі Шэйна трапілі фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы многіх мясцовых даследчыкаў Беларусі, якія яшчэ раней займаліся збіраннем. Сярод іх адзначым збіральнікаў беларускага фальклору М. А. Рубяроўскага, Л. П. Склярэнку, А. Ф. Лісоўскую, С. К. Шымковіча і інш.

У раздзеле "Як запісваць?" даюцца добрыя парады па методыцы запісу песень. Даследчык звяртае ўвагу на захаванне пры запісванні асаблівасцей мясцовых гаворак і абавязковую пашпартызацыю запісанага: "Усякі піша, як ведае і ўмее, тым жа тонам і спосабам, якім бы ён расказваў гэта самае свайму блізкаму сябру; значыць, чым прасцей, тым лепш. Захаванне ж мясцовай гаворкі ва ўсіх яе самых малых адценнях сучаснай навукай лічыцца абавязковай умовай пры запісванні ўсякага роду твораў вуснай народнай славеснасці"[210].

Аднак, якім шляхам у час запісу можна захаваць мясцовыя гаворкі, аўтар праграмы не тлумачыць.

На пытанне "Ад каго запісваць?" Шэйн адказвае: "Пераважна ад вясковых жанчын і старых баб. У іх вуснах гэтыя творы захоўваюцца больш свежымі, недатыкальнымі, таму што яны рэдка ці амаль ніколі не пакідаюць свайго роднага кута, значыць, менш падпадаюць пад уплыў чужых элементаў і шкодных асадкаў напаўпісьменнай цывілізацыі"[211].

Праграма Шэйна была складзена з пазіцый міфалагічнай школы. Міфалогія, абрады, старажытныя вераванні і песні, якія суправаджаюць усю абраднасць, — вось тыя бакі ў жыцці народа, якія цікавілі даследчыка. На вуснапаэтычную творчасць народа ён глядзеў, як на "рэшткі самабытнай творчасці яго фантазіі"[212]. Праграма, зразумела, не магла забяспечыць збіранне такіх матэрыялаў, якія давалі б магчымасць глыбока і ўсебакова вывучаць быт народа. З-пад увагі выпадалі такія важнейшыя аспекты жыцця народа, як яго матэрыяльны быт, вытворчая дзейнасць і сучасны грамадскі быт.

[210] Шейн П. В. Белорусские песни // Записки Русского географического общества. Т. V. С. 827.

[211] Там жа. С. 827, 828.

[212] Там жа. С. 824.

Аднак і такая абмежаваная і аднабаковая праграма ў свой час мела вялікае значэнне для мабілізацыі мясцовых сіл і ўцягнення іх у вывучэнне культуры і быту свайго народа.

Ва ўмовах фарміравання беларускай нацыі, нараджэння кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі праграма Шэйна была прыхільна сустрэта перадавой грамадскасцю. Хутка Шэйн пачаў атрымліваць шматлікія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Са сваімі карэспандэнтамі ён падтрымліваў пастаянную сувязь, зрабіў некалькі паездак па Беларусі. Самай вялікай з іх была экспедыцыя 1877 г., праведзеная на сродкі Акадэміі навук.

Праца П. В. Шэйна "Беларускія песні" была самай буйнай сярод аналагічных зборнікаў 60—70-х гадоў. У ёй сабрана звыш 1000 беларускіх народных песень, 10 казак, легенд і паданняў, некалькі запісаў прыкмет, замоў і забабонаў. У зборніку прыводзіцца два апісанні радзінных абрадаў з м. Якімань Полацкага павета і м. Чашнікі Лепельскага павета, запісаныя Шэйнам ад інфарматараў, шэсць апісанняў (даволі кароткіх, а часта проста фрагментарных) з Віцебскага, Лепельскага і Барысаўскага паветаў, зробленыя яго вучнямі і святарамі, два хаўтурныя абрады і тры апісанні абраду Дзядоў у Віцебскім і Лепельскім паветах (у тым ліку два запісы Нікіфароўскага і адзін Шэйна).

З каляндарных абрадаў запісаны калядныя, велікодныя, юр'еўскія, купальскія, талочныя і жніўныя. Гэтыя запісы зроблены ў Себежскім, Віцебскім і Лепельскім паветах Віцебскай губерні і Аршанскім павеце Магілёўскай губерні. У канцы зборніка прыводзяцца заўвагі да песень і невялічкі слоўнік.

Усе апісанні бытавых з'яў кароткія і прыкметна ўступаюць такім жа апісанням у іншых этнаграфічных працах таго часу. Асноўная каштоўнасць зборніка ў песенным матэрыяле. Тут упершыню так шырока быў прадстаўлены песенны рэпертуар беларусаў Віцебшчыны. Разам з тым трэба адзначыць, што праца Шэйна "Беларускія песні" складзена на больш высокім навуковым узроўні, чым папярэднія. Асноўная частка фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў зборніка мае падрабязную пашпартызацыю, у канцы працы прыводзяцца тлумачэнні незразумелых для рускага чытача беларускіх слоў, заўвагі адносна некаторых абрадаў і песень, а таксама звесткі аб рабоце аўтара па збіранню фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у Беларусі.

Усё гэта дае магчымасць выдзеліць зборнік "Беларускія песні" і паставіць яго вышэй іншых фальклорных зборнікаў.

Сярод даследчыкаў Беларусі 60—70-х гадоў XIX ст. выдзяляецца група этнографаў, гісторыка-этнаграфічныя працы якіх напісаны з вялікадзяржаўных рэакцыйных пазіцый. Цэнтральнае месца займаюць публіцыстычныя і гісторыка-этнаграфічныя працы М. В. Каяловіча.

Міхаіл Восіпавіч Каяловіч (1828—1891) нарадзіўся ў м. Кузніца Гродзенскай губерні ў сям'і святара. Скончыў духоўную семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію. Некаторы час (канец 50-х — пачатак 60-х гадоў) Каяловіч працаваў у Беларусі настаўнікам Кобрынскага духоўнага вучылішча, з'яўляючыся адначасова святаром, а таксама настаўнікам Лідскага павятовага дваранскага вучылішча. Пазней ён выкладаў на багаслоўскіх кафедрах, а з 1869 г. — на кафедры грамадзянскай рускай гісторыі С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. На гэтай пасадзе ён знаходзіўся да канца жыцця.

Па сваіх поглядах Каяловіч прымыкаў да славянафілаў. Ён быў актыўным карэспандэнтам газеты "День", якая, асабліва ў час падзей 1863 г., вяла раз'юшаную вялікадзяржаўную прапаганду. За

два гады работы ў газеце (1863—1864) Каяловіч надрукаваў на яе старонках некалькі дзесяткаў публіцыстычных і гісторыка-этнаграфічных артыкулаў, у якіх выступаў у абарону вялікадзяржаўнай царскай палітыкі, даваў парады царскаму ўраду і рускай грамадскасці, якім шляхам можна хутчэй дасягнуць русіфікацыі Заходняга краю і ўсяляк лаяў палякаў, абвінавачваючы іх ва ўсіх нягодах жыцця гэтага краю. Паўстанне 1863 г. Каяловіч разглядаў як зручны выпадак, каб раз і назаўсёды пакончыць з польскім уплывам на Заходні край. Ён заклікаў да бязлітаснай расправы з паўстанцамі. Сацыяльны рух народа ў час паўстання Каяловіч намагаўся прадставіць, як рух супраць палякаў: "Там адбывалася і адбываецца самародная, непазбежная ва ўсякі час народная барацьба туземнага літоўскага, беларускага і маларускага элементаў з прыйшлым элементам польскім"[213].

Каяловіч папярэджвае "рускіх дзеячаў у Заходнім краі" ад памылак у правядзенні русіфікацыі краю, каб гэтым самым не выклікаць супраціўлення народа. Зразумела, што пад "рускімі дзеячамі" і "рускімі людзьмі ў Заходнім краі" трэба разумець паліцэйска-адміністрацыйны апарат царскага ўрада, які праводзіў вялікадзяржаўную палітыку. Каб не ўскладніць становішча ў краі, ён раіць уважліва адносіцца да нацыянальных асаблівасцей беларусаў, украінцаў і літоўцаў. "У заходнерускім народзе і цяпер ёсць свае гістарычныя асаблівасці, якія патрабуюць тым больш гуманных адносін, што над імі носіцца дух народнай волі"[214]. Для хутчэйшай русіфікацыі краю Каяловіч прапануе шырокае будаўніцтва праваслаўных цэркваў, царкоўна-прыходскіх школ, распаўсюджанне рэлігійнай літаратуры, пашырэнне прапаганды[215]. Дзейсным сродкам русіфікацыі Каяловіч лічыў непасрэдную каланізацыю краю, прапануючы па сутнасці перасяленне сялян з цэнтральных рускіх губерняў у Заходні край.

Не апошняе месца адводзіць Каяловіч і этнаграфічнай навуцы, звесткі якой павінны былі дапамагчы царызму ў правядзенні сваёй палітыкі. "Вельмі карысна было б, — пісаў ён, — калі б нашы газеты згадзіліся на працягу нейкага часу ў кожным нумары або хоць раз надрукаваць статыстычныя і этнаграфічныя звесткі аб Заходняй Расіі"[216].

Адсюль становіцца зразумелым, чаму асноўныя этнаграфічныя працы напісаны Каяловічам у 1863—1864 гг.[217]

У гісторыка-этнаграфічных працах, прысвечаных заходнім абласцям Расіі, Каяловіч канцэнтруе ўвагу галоўным чынам на вызначэнні этнаграфічных межаў на захадзе Расіі. З красавіка 1863 г. на агульным сходзе членаў РГТ ён зрабіў

---

[213] Народное движение в Западной России // День. М., 1863. № 18. С. 4.

[214] Коялович М. Встреча народности в Западной России с русской государственностью и великорусской народностью: По поводу народных караулов в Западной России // День. 1863. № 23. С. 5.

[215] Гл. яго артыкулы: Письмо к редактору // День. 1863. №. 3; Что нужно Западной России // Там жа. № 10; Давайте книг для западнорусского народа или бросьте все заботы об открытии для него школ // Там жа. № 6 і інш.

[216] Коялович М. Об отношении русского общества к Западной России // День. 1863. № 27. С. 4.

[217] Гл.: Коялович М. О расселении племен Западного края России. М., 1863, у газ. "Русский инвалид" (СПб., 1863. № 114. С. 486—488) і ў газ. "День" (М., 1863. № 20); Ён жа. Об этнографическом атласе западных губерний // Русский инвалид. 1863. № 268; Ён жа. Об этнографической границе между Зап. Россией и Польшей // Там жа. 1864. № 78; Ён жа. Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. СПб., 1865 і інш. Частка прац М. Каяловіча надрукавана ў "Сборнике статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России" (Состав. Шолкович. Вильна, 1885. Вып. I; Вильна, 1887. Вып. II).

даклад "Аб этнаграфічнай граніцы паміж Заходняй Расіяй і Польшчай"[218], а 8 мая гэтага ж года — даклад "Аб рассяленні плямён Заходняга краю Расіі"[219]. У гэтых дакладах Каяловіч прапанаваў выправіць мяжу галоўным чынам за кошт далучэння да Расіі часткі тэрыторыі Аўгустоўскай і Люблінскай губерняў, толькі часткова населеных беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі. "Тады — заяўляў Каяловіч, — увесь свет убачыць, што яшчэ не прыйшоў канец падзелу Польшчы"[220].

Рэакцыйнасць поглядаў Каяловіча выявілася і ў тым, што ён за беларусамі, украінцамі і літоўцамі адмаўляў права на нацыянальнае самавызначэнне. Ён пісаў: "Мы не прытрымліваемся такой тэорыі, што кожная народнасць павінна складаць сабою дзяржаву. Такую тэорыю мы лічым вельмі дэспатычнай і вельмі злачыснай. Але, відавочна, мы не паграшым супраць праўды і, у прыватнасці, супраць навукі этнаграфіі, калі скажам, што моцныя народнасці, якія складаюць ужо дзяржавы, могуць і здольны прыцягнуць да сябе родныя часткі, адарваныя ад іх няшчаснымі абставінамі" [221].

У такім жа духу вытрыманы і зборнік "Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходне-Рускага краю". Уступны артыкул да зборніка напісаны на аснове ранейшай яго працы "Лекцыі па гісторыі Заходняй Русі"[222]. Каштоўнымі ў артыкуле з'яўляюцца толькі звесткі аб этнічным складзе насельніцтва, этнаграфічных межах і гісторыі беларускага народа.

Пазней Каяловіч адыходзіць ад этнаграфічнага вывучэння Беларусі і займаецца ў асноўным царкоўнай гісторыяй. Сувязі яго са сваёй радзімай усё больш губляюцца, змяншаецца і цікавасць да вывучэння жыцця беларускага народа. Бяссонаў у пачатку 70-х гадоў пісаў, што падобныя да Каяловіча вучоныя, "жывучы даўно па-за сваім краем, не маюць прамой цікавасці да самых жыццёвых пытанняў мясцовай народнасці, якія асабліва былі ўзняты навукай сучаснай; вось чаму, між іншым, яны ніколі і нічым не аказвалі дапамогі нашай справе (маецца на ўвазе вывучэнне быту і вуснапаэтычнай творчасці беларусаў. — *В. Б.*)"[223].

З пазіцый вялікадзяржаўнага шавінізму выступаў у этнаграфічнай літаратуры 60-х гадоў П. А. Гільтэбрант. Ён быў прадстаўніком якраз той групы царскіх чыноўнікаў, якія пасля падаўлення польскага паўстання былі пасланы ў Беларусь для яе русіфікацыі.

Пётр Андрэевіч Гільтэбрант (1840—1905) вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, але ў 1863 г. быў выключаны з яго. Пасля працаваў малодшым наглядальнікам Віленскага рабінскага вучылішча, а са снежня 1865 г. — пастаянным памочнікам архіварыуса Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актавых кніг. У 1870 г. Гільтэбрант быў вызвалены ад гэтай пасады і назначаны

---

[218] Надрукаваны ў "Сборнике статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России" (Вып. I. С. 94—105), а таксама ў газ. "Русский инвалид" (1864. № 78) і іншых перыядычных выданнях.

[219] Надрукаваны ў газ. "День" (1863. № 21), асобны адбітак: М., 1863 і ў "Сборнике статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России" (Вып. I. С. 142—154).

[220] Коялович М. Об этнографической границе между Западной Россией и Польшей // Сборник статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России. Вып. I. С. 105.

[221] Там жа.

[222] Упершыню была надрукавана ў газ. "День". 1864. № 14—29.

[223] Бессонов П. Белорусские песни. М., 1871. С. XXIX.

членам Археалагічнай камісіі Міністэрства народнай асветы ў Пецярбургу.

У час знаходжання ў Беларусі Гільтэбрант падрыхтаваў "Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі", які быў выдадзены ў 1866 г. рэдакцыяй газеты "Виленский вестник". Зборнік уключае вялікую прадмову, 300 песень, 151 прымаўку і 93 загадкі. Матэрыялы для яго збіраліся пераважна ў Гродзенскай, Віленскай і часткова Мінскай губернях. Большасць песень запісана вучнямі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі пад кіраўніцтвам дырэктара семінарыі А. І. Забеліна, аматара фальклору. Ініцыятыву па збіранню фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў падтрымліваў і нярэдка накіроўваў член РГТ, папячыцель Віленскай вучэбнай акругі І. П. Карнілаў. У зборнік Гільтэбранта ўвайшлі і некаторыя матэрыялы з іншых прац беларускіх этнографаў, у прыватнасці апісанні многіх абрадаў з прац Шпілеўскага.

У прадмове да зборніка Гільтэбрант выказвае даволі цікавую думку аб будучыні вуснапаэтычнай творчасці народа і паасобных яе жанраў. Да гэтай праблемы ён падыходзіць дыялектычна.

Ва ўмовах развіцця капіталізму, калі больш шырока распаўсюджваліся адукацыя, пісьменнасць, літаратура, адміраў рэлігійны фанатызм феадальнай эпохі і адначасова ўзнімаўся культурны ўзровень народа, фальклор паступова мяняў сваю форму, ён нібы зліваўся, пераплятаўся з літаратурай. Пачатак гэтага працэсу і падмеціў Гільтэбрант. Аднак ён не зусім правільна зразумеў яго сэнс. У тым, што аджывалі старыя формы і некаторыя жанры народнай творчасці, ён памылкова бачыў знікненне фальклору наогул, а таму і заклікаў аматараў фальклору збіраць народныя творы: "Не трэба губляць часу, трэба спяшацца з запісваннем вуснай старажытнасці, якая з кожным днём аддаляецца ад нас" [224].

Як відаць з прадмовы, галоўная мэта зборніка палітычная — паказ "тоеснасці беларускай і маларускай гаворак з мовай агульнарускай", каб даказаць, наколькі безгрунтоўныя "дамаганні польскія на тутэйшы народ" [225]. Гільтэбрант прыводзіць варыянты да беларускіх песень са зборнікаў рускага фальклору Якушкіна, Максімовіча і Худзякова. Гэта палітычная тэндэнцыя выкарыстаць вуснапаэтычную творчасць у якасці сродку для антыпольскай прапаганды асабліва яскрава праяўляецца пры разборы даследчыкам гістарычных песень. Нянавісць беларускага народа да польскіх паноў і шляхты ён па сутнасці імкнецца перанесці на ўвесь польскі народ.

Шавіністычныя, антысеміцкія тэндэнцыі асабліва яскрава праявіліся ў Гільтэбранта пры характарыстыцы тых песень, у якіх фігуруе яўрэй.

Песенны матэрыял "Зборніка..." Гільтэбранта меў пэўную каштоўнасць як вопыт збірання фальклору на Беларусі. Аднак пры выкарыстанні для навуковых мэт ён патрабуе крытычнага падыходу. Падбор матэрыялаў тут зроблены тэндэнцыйна, а многія песні, як адзначала крытыка, "перапраўлены, падпраўлены, прыпраўлены" [226].

Гільтэбрант збіраўся выдаць і другі выпуск зборніка. На пасяджэнні Аддзялення этнаграфіі РГТ 29 кастрычніка 1869 г. ён паведамляў: "Колькасць нанава сабраных паўночна-заходнерускіх казак, песень, вершаў і інш. разам з варыянтамі і раней мною выдадзенымі складае каля 2500 нумароў. Увесь гэты матэрыял я думаю размеркаваць пры

---

[224] Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вып. I. С. IV.

[225] Там жа. С. XX.

[226] Вестник Европы. 1866. № 4. С. 19—22; Бессонов П. Белорусские песни. М., 1871. С. XLIX—LII.

выданні так: у I раздзеле пойдуць казкі, загадкі, прыказкі; у II — песні, перш былінныя, потым бытавыя (абрадавыя і паўсядзённыя); у III — духоўныя вершы і казанні. Па мове кожны з раздзелаў будзе падзелены на дзве палавіны, маларускую і беларускую"[227]. Лёс гэтага рукапісу нам невядомы.

Больш плённай па збіранню вуснапаэтычных твораў была дзейнасць вядомага славянафіла П. А. Бяссонава.

Пётр Аляксеевіч Бяссонаў (1828—1898) нарадзіўся ў Маскве ў сям'і свяшчэнніка. Пасля заканчэння Маскоўскай духоўнай семінарыі і гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага універсітэта ён працаваў чыноўнікам камісіі па друкаванню грамат і дагавораў (да жніўня 1857 г.), а потым старшым саветнікам Маскоўскай духоўнай сінадальнай друкарні. У 1864 г. П. Бяссонаў быў накіраваны ў Паўночна-Заходні край, дзе займаў пасады дырэктара Віленскага рабінскага вучылішча і Віленскай гімназіі, загадчыка музея і Публічнай бібліятэкі і старшыні Археаграфічнай камісіі. Служба Бяссонава ў Вільні працягвалася да 1867 г. З 1867 па 1879 г. ён працаваў бібліятэкарам Маскоўскага універсітэта, а апошнія гады жыцця быў прафесарам Харкаўскага універсітэта.

Да прыезду ў Беларусь Бяссонаў быў вядомы ў літаратуры як складальнік зборнікаў "Балгарскія народныя песні" (1855, два тамы), "Калікі перахожыя" (1861—1864, шэсць выпускаў). Пазней ім быў выдадзены фальклорны зборнік "Дзіцячыя песні" (1868) і закончана работа над зборнікам "Песні П. В. Кірэеўскага" (1860—1874, дзесяць выпускаў).

У Беларусі Бяссонаў збіраў і звяраў тэксты беларускіх песень. Цікавасць Бяссонава да беларускага фальклору была выклікана рукапісам Кірэеўскага, у якім было многа запісаў беларускіх песень. 8 кастрычніка 1863 г. на пасяджэнні Таварыства аматараў расійскай славеснасці пры Маскоўскім універсітэце П. А. Бяссонаў выступіў з вялікай прамовай аб неабходнасці збірання і выдання беларускага фальклору[228]. Характарызуючы беларускі архіў Кірэеўскага, ён паведамляў, што ў яго ўваходзіла да пяцісот беларускіх песень, "чыста народных з усіх беларускіх губерняў"[229]. Бяссонаў прапануе хутчэй выдаць гэтыя песні і заняцца далейшым збіраннем беларускага фальклору і вывучэннем быту народа. Гэта, на яго погляд, патрэбна ў першую чаргу для вялікадзяржаўных мэт. Ён лічыць, што факты этнаграфіі маглі б даць для вырашэння так званага польскага пытання ў Беларусі куды больш карысці, "чым самы лепшы, г. зн. большай часткай павярхоўны, палітычны артыкул"[230].

Праз некалькі год пасля выезду з Беларусі Бяссонаў змог за свой кошт выдаць частку ўзятых у Кірэеўскага і звераных у Беларусі, а таксама часткова сабраных ім самім беларускіх песень у першым і адзіным зборніку "Беларускія песні" (1871). У гэтым зборніку, акрамя абрадавых песень, змешчаны падрабязныя апісанні абрадаў. Песням папярэднічае ўступны артыкул, у якім аўтар дае агляд гісторыі вывучэння вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа, выкладае свае погляды на гістарычнае мінулае, сучаснасць і будучае Беларусі, разглядае асаблівасці беларускай мовы, расказвае аб гісторыі з'яўлення зборніка "Беларускія песні" і інш. Да ўсіх гэтых пытанняў Бяссонаў падыходзіць з пазі-

[227] Известия Русского географического общества. СПб., 1870. Т. VI. № 2. С. 49.

[228] Бессонов П. А. Об издании памятников белорусского народного творчества // День. 1863. № 45.

[229] Там жа.

[230] Там жа.

цый славянафілаў. Аднак яго падыход некалькі адрозніваецца ад агульнай накіраванасці славянафільскай ідэалогіі. Бяссонаў аб'яўляе сябе прыхільнікам чыстай навукі, нібы адмяжоўваецца ад палітычнай тэндэнцыйнасці пры вывучэнні Беларусі. На самай жа справе ідэі вялікадзяржаўнага шавінізму, хоць і ў замаскіраванай форме, праводзяцца і ў яго працах. Ён выступае толькі супраць "грубых" мер русіфікацыі: "Мы разумелі "русенне" і "абрусенне" не ў грубым, так хутка апошленым сэнсе ці, лепш, не ў ідавочнай бяссэнсіцы, а ва ўздыме мясцовых сіл, якія гістарычна закліканы рухаць наперад лёс краю"[231]. Для таго "каб кіраваць і распараджацца краем на карысць Расіі і для агульных мэт гісторыі, — пісаў Бяссонаў, — неабходна, меркавалі мы, перш за ўсё пазнаць і ведаць сам край, з кім і з чым маеш справу, у былой гісторыі і ў сучасным становішчы"[232].

З другога боку, пастаўленая Бяссонавым мэта — "пазнаць і ведаць сам край", яго гісторыю, быт, звычаі, абрады, мову і песні была станоўчай.

Як прыхільнік міфалагічнай школы Бяссонаў у першую чаргу цікавіўся абрадавым бокам беларускай песні і быту народа. У сучасным яму быце ён вышукваў толькі элементы старасветчыны. Вось чаму не выпадкова, што ў радзе месц прадмовы ён захапляецца рэшткамі старажытнай міфалогіі і абрадаў, адсталасцю і патрыярхальшчынай, якія захаваліся ў Беларусі з-за цяжкіх гістарычных умоў. Навуковая каштоўнасць зборніка ў значнай меры зніжаецца і тым, што большасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у ім не мае канкрэтнай пашпартызацыі.

[231] Бессонов П. Белорусские песни. С. XVI.
[232] Там жа. С. XVIII.

У зборніку "Беларускія песні" апісанні абрадаў займаюць большае месца, чым тэксты саміх песень. Тут даецца вельмі падрабязнае апісанне калядных, юр'еўскіх, купальскіх, масленічных і іншых абрадаў каляндарна-гадавога цыкла. На аснове вывучэння абраднасці і міфалогіі розных славянскіх народаў ён прыводзіць цікавыя звесткі аб старажытных язычніцкіх вераваннях славян, паказвае, як яны захаваліся ў быце беларусаў, і закранае пытанні ўзаемнага ўплыву абрадаў, вераванняў і міфалогіі язычніцкай і хрысціянскай рэлігій.

Такім чынам, Бяссонаў дае багаты матэрыял для вывучэння дахрысціянскіх рэлігійных вераванняў і абрадаў усходніх славян, у тым ліку для вывучэння старажытнаязычніцкіх вераванняў беларусаў.

У рэакцыйным духу вытрымана і папулярная літаратура аб Беларусі 60—70-х гадоў (сямейныя чытанні, чытанні для войск, народа і школ). Прыкладам могуць служыць нарысы Р. С. Папова[233] і В. Маракуева[234]. Гэтыя аўтары не мелі глыбокага ўяўлення аб жыцці і быце народа, таму іх нарысы аб Беларусі з'яўляюцца павярхоўнымі. Яны ў асноўным адпавядалі экзатычным запатрабаванням чытачоў і былі пабудаваны на аснове раней апублікаваных прац. Сярод папулярных выданняў большую цікавасць прадстаўляюць этнаграфічныя альбомы народаў Расіі, у якіх змешчаны ілюстрацыі, што даюць уяўленне аб адзенні, жыллі і прыладах працы беларускага селяніна 60—70-х гадоў [235].

[233] Попов Р. Очерки Белоруссии. СПб., 1875. Пазней пад рознымі назвамі некалькі разоў перавыдаваліся.
[234] Маракуев В. Полесье и полешуки. СПб., 1879.
[235] Paulu T. Les peupeles de la Russie. СПб., 1862; Народы России (живописный альбом). СПб., 1877; Народы России: Этнографический очерк. СПб., 1878. Т. 1.

# ЭТНАГРАФІЧНАЕ ВЫВУЧЭННЕ БЕЛАРУСІ ПОЛЬСКІМІ ДАСЛЕДЧЫКАМІ

У 60—70-х гадах значна скарачаецца колькасць прац польскіх даследчыкаў па этнаграфіі Беларусі. Гэта тлумачыцца ўзмацненнем рэакцыйнай, вялікадзяржаўнай палітыкі царызму пасля падаўлення паўстання 1863 г. Жорсткія цэнзурныя ўмовы, ганенні і рэпрэсіі супраць прагрэсіўных сіл, ссылкі і эміграцыя прывялі да прыпынення навуковай дзейнасці польскіх вучоных. Аднак нягледзячы на гэта, усё ж з'яўляліся артыкулы і асобныя працы, якія былі поўнасцю ці часткова прысвечаны беларускаму народу і яго культуры.

З рэакцыйных, антынародных і нацыяналістычных пазіцый напісаны этнаграфічныя артыкулы польскага публіцыста Мсціслава Камінскага (1839—1868). У працы "Некалькі слоў аб звычаях люду ў Мінскай губерні" Камінскі наступным чынам характарызуе беларускіх сялян: "Фізіяномія тутэйшага люду цалкам несімпатычная. Яго прывычкі, звычаі, уборы, нават цела — усё гэта носіць на сабе адзнаку занядбання"[236]. Адзінае, што аўтару падабаецца ў беларусаў, — гэта іх вуснапаэтычная творчасць і абрады (асабліва абрады Дзядоў)[237].

Характэрна, што рэакцыйныя погляды на беларускі народ нярэдка ў тым жа польскім друку атрымлівалі рашучы адпор прагрэсіўна настроеных польскіх даследчыкаў. Так, у польскім часопісе "Tygodnik illustrowany" ў 1869 г. быў надрукаваны палемічны артыкул Вацлава "Некалькі слоў аб звычаях і песнях люду губерні Мінскай", у якім аўтар рэзка выступае супраць поглядаў Камінскага на беларусаў. Ён рашуча абараняе беларускі народ. Вацлаў, па яго словах, з маленства жыў сярод беларускіх сялян, добра ведае іх песні, казкі, паданні і валодае іх мовай. "Жаль браў мяне, калі я чытаў яго артыкул , — пісаў Вацлаў, —



21. Паляшук

[236] Kamiński M. Kilka słów o zwyczajach ludu w gubernii Mińskiej // Tygodnik illustrowany. Petersburg, 1867. T. XVI. № 422. S. 195—198.

[237] Kamiński M. Dziady // Kurjer Wileński. 1862. № 91. S. 727.



22. Сяляне з Мінскай губерні

так там мала сапраўднага пранікнення ў дух гэтага народа"[238].

Абвяргаючы довады Камінскага, Вацлаў працягвае: "Камінскі наракае, напрыклад, на адсутнасць маральнасці, на занядбанне, якім адзначаны звычаі, прывычкі, уборы, нават цела гэтага люду. Але чаму, ён не ўказвае прычын, якія выклікалі гэты заняпад. Чаму не расказвае аб нядолі, якая прыгнятае селяніна ад нараджэння да самай смерці і якая не бывае вынікам прыроджанай нядбайнасці або гультайства да работы?"[239]

Паказаўшы, такім чынам, што галоўная прычына прыніжанасці народа — цяжкі сацыяльны прыгнёт, Вацлаў далей падкрэслівае, што непасільная праца выклікае "занядбанне адзення", ад яе "заўчасна вяне малады твар, губляецца плоць, і чалавек набывае нейкі забіты выгляд"[240]. Аўтар глыбока перакананы, што, калі да беларускага селяніна падыходзіць непрадузята, гуманна, можна ўбачыць у ім многа станоўчага. Ён выказвае надзею на тое, што ў будучым беларускі народ высока ўзнімецца ў сваім культурным развіцці: "Суд аб гэтым народзе можна будзе выдаць праз некалькі дзесяцігоддзяў, а можа, і пазней, калі ён... зачэрпне хоць крыху святла"[241].

У артыкуле Вацлава даецца праўдзівы малюнак жыцця селяніна, яго вераванняў, забабонаў. З любоўю гаворыцца аб харастве і багацці вуснапаэтычнай творчасці беларусаў.

---

[238] Tygodnik illustrowany. Warszawa, 1869. T. IV. № 84. S. 66.

[239] Там жа.

[240] Там жа.

[241] Там жа.

Асноўная маса прац польскіх этнографаў па быту і культуры беларусаў 60—70-х гадоў напісана з ліберальных пазіцый. З ліку прац гэтага напрамку адзначым работу Э. Івашкевіч "Вяселле ў Свянцянскім павеце" (Вільня, 1879). Характарызуючы матэрыяльнае становішча народа, яна заяўляе, што нібыта "нястачы ў вузкім сэнсе гэтага слова сёння ўжо не існуе"[242]. Э. Івашкевіч усхваляе рэформу 1861 г. і лічыць, што сяляне не зразумелі "важнасці атрыманага дару"[243]. Як абаронца памешчыцка-буржуазных парадкаў Івашкевіч дакарае беларускіх сялян за тое, што яны ў час паўстання 1863 г. рабілі сапраўдныя ўзброеныя напады на памешчыкаў, але яна лічыць, што ў 70-х гадах нібыта ўжо не існавала класавай нянавісці.

У працы Івашкевіч ёсць вялікі фактычны матэрыял пераважна аб абрадах і вераваннях беларусаў Свянцянскага павета Віленскай губерні. Каля паловы працы прысвечана апісанню вясельных абрадаў, якія аўтар лічыць важнай крыніцай для вывучэння жыцця народа: "Вясельныя абрады лепш, чым усякае апісанне, высвятляюць асаблівасці сямейнага жыцця сялян. Яны паказваюць самаўладства мужа і бацькі, залежнае становішча жанчыны ў сям'і, а таксама адносіны паміж членамі сям'і і інш."[244]

Каштоўны матэрыял па быту і культуры беларускага народа можна знайсці і ў іншых працах польскіх даследчыкаў ліберальнага напрамку. Прыкладам могуць служыць працы Зыгмунта Глогера[245], Канстанціна Тыш-

[242] Iwaszkiewiczowa E. Wesele w Święciańskiem powiacie. Wilno, 1879. S. 34.

[243] Там жа.

[244] Там жа. С. 63.

[245] Gloger Z. Zwyczaje ludu z okolic Tykocina i Bielska // Biblioteka Warszawska. Warszawa, 1868. T. I. S. 141—147.



23. З. Глогер (1845—1910)

кевіча[246], Феліцыяна Сурына[247], Уладзіслава Навіцкага[248] і інш.

У працы У. Навіцкага "Даследаванне аб народных вераваннях і ўяўленнях" даецца апісанне дахрысціянскіх вераванняў і забабонаў народа. Аўтар імкнецца паказаць прычыны ўзнікнення рэлігійных уяўленняў чалавека, пры гэтым ён блізка падыходзіць да матэрыялістычных

[246] Tyszkiewicz K. Wilja i jej brzegi. Pod względem hydrograficznym, historycznym, archeologicznym i etnograficznym. Drezno, 1871.

[247] Suryn F. Słów kilka o tworach fantaziji ludu na Białejrusi // Tygodnik illustrowany. Warszawa, 1873. T. XI. S. 58, 59.

[248] Nowicki Wł. Studyum nad wierzeniami i wyobrażeniami ludu // Biblioteka Warszawska. Warszawa, 1873. T. IV. S. 84—110.

вывадаў: "Чалавек пад націскам сваіх унутраных патрэб заўсёды прыходзіў да пэўных паняццяў, уяўленняў, вераванняў, суджэнняў, ідэалаў, будаваў сабе свет прыгажосці, дабра і праўды; на фарміраванне яго свядомасці адчувальна ўплывала асяроддзе чалавека: людзі і прырода"[249]. Даследчык адзначае, што, імкнучыся зразумець прычыны розных з'яў прыроды, народ стварыў веру ў нейкія звышнатуральныя сілы.

Навіцкі паказвае далей, што з увядзеннем хрысціянства старажытныя народныя вераванні не зніклі, а новую рэлігію народ імкнуўся прыстасаваць да сваіх старажытных вераванняў і абрадаў. Пры гэтым хрысціянскае вучэнне ў разуменні народа набывала іншы сэнс: "Побач з царкоўнай навукай аб раі... народ стварыў у сваім уяўленні другі рай, не такі далёкі, як першы, больш практычны..."[250]

Цікавыя заўвагі робіць Навіцкі і па пытаннях узаемаадносін мастацкай літаратуры і вуснапаэтычнай творчасці народа, якая ўзнікла ў цеснай сувязі з яго вераваннямі.

Матэрыялы аб быце беларусаў і іх вуснапаэтычнай творчасці змешчаны ў працы К. Тышкевіча "Вілія і яе берагі". Побач з геаграфічнымі і гістарычнымі апісаннямі Тышкевіч дае арыгінальныя замалёўкі з жыцця беларускага селяніна і мястэчковых жыхароў. Ён, у прыватнасці, прыводзіць апісанне адзення, жылля і заняткаў[251], асабліва вялікае месца адводзіцца характарыстыцы беларускіх песень і публікацыі песенных тэкстаў[252].

З канца 70-х гадоў XIX ст. значныя фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы Беларусі пачынаюць паяўляцца на старонках часопіса Кракаўскай акадэміі навук "Zbiór wiadomości do antropologii krajowej". Часопіс меў ліберальна-буржуазны напрамак і ў асноўным быў свабодны ад нацыяналістычнай тэндэнцыі. У першых двух тамах часопіса (1877—1878) было змешчана два артыкулы З. Глогера аб вераваннях і абрадах беларусаў[253] і артыкул П. Быкоўскага аб беларускіх абрадавых песнях[254]. Працы польскіх вучоных па быту беларусаў некалькі дапаўнялі сабою этнаграфічную літаратуру аб беларусах. Аднак на змесце гэтых прац у большай ступені адчуваўся прыкметны ўплыў міфалагічнай школы. Таму большая частка іх прысвечана апісанню вераванняў, абрадаў і запісу фальклорных твораў.

* * *

Такім чынам, у 60—70-я гады беларуская этнаграфія ў сваім развіцці робіць значныя крокі наперад. У параўнанні з 40—50-мі гадамі рэзка мяняюцца суадносіны этнаграфічнай літаратуры аб Беларусі на рускай і польскай мовах, што было выклікана як агульным крызісам гістарычнай навукі феадальнай эпохі, так і рэпрэсіямі царызму ў адносінах да польскага грамадска-палітычнага руху і асабліва ў адносінах да друку на польскай мове пасля падзей 1863 г.

---

[249] Nowicki Wł. Studyum nad wierzeniami i wyobrażeniami ludu // Biblioteka Warszawska. Warszawa, 1873. T. IV. S. 84.

[250] Там жа. С. 106.

[251] Tyszkiewicz K. Wilja i jej brzegi. S. 78, 88, 137, 138.

[252] Там жа. С. 292—357.

[253] Gloger Z. Zabobony i mniemania ludu nadnarwianskiego, tyczące ptaków, płazów i owadów. Zebrał w latach 1865—1875 // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1877. T. I, dział III. S. 101—107; Nazwy weselne, wyrazenia i przedmioty, uzywane przy godowych obrzędach ludu naprzestrzeni byłej Rzeczy Pospolitej // Там жа. S. 80—96.

[254] Bykowski P. Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pińska // Там жа. Kraków, 1878. T. II. S. 260—285.

У сувязі з панаваннем міфалагічнай школы ў рускай этнаграфіі і фальклnetwork рыстыцы значная частка даследчыкаў быту беларусаў звяртае асноўную ўвагу на апісанне абрадавага боку жыцця народа. У праграмах навуковых таварыстваў, якія ў асноўным складаліся па прыкладу праграмы РГТ, раздзелы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці народа далей не распрацоўваліся. Затое падрабязна распрацоўваліся раздзелы, якія датычылі духоўнай культуры.

У падыходзе да характарыстыкі быту і культуры беларускага народа этнографы стаялі на розных пазіцыях. Даследчыкі прагрэсіўнага лагера вывучалі быт народа з гуманістычных пазіцый, паказалі яго цяжкі лёс, імкнуліся аблегчыць жыццё простага чалавека і разам з тым паказвалі багацце яго культуры.

Рэакцыйная частка этнографаў у сваіх працах прыніжала чалавечую годнасць беларуса, падкрэслівала адмоўныя бакі яго быту.

Этнаграфічная літаратура 60—70-х гадоў XIX ст. аб Беларусі ў пераважнай большасці насіла агульнапазнавальны характар. Навуковая каштоўнасць яе была абмежавана. Але, нягледзячы на гэта, этнаграфічныя працы гэтага перыяду ў цэлым давалі багатыя звесткі аб стане народнага быту беларусаў.

## АСНОЎНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ РАЗВІЦЦЯ

На развіццё этнаграфіі 80—90-х гадоў значны ўплыў аказалі навуковыя плыні гэтых гадоў у вывучэнні духоўнай культуры народа. Тэорыя запазычанняў (міграцыі, хадзячых сюжэтаў), тэорыя самазараджэння, гістарычная паэтыка А. М. Весялоўскага, нарэшце, гістарычная школа — усе яны былі накіраваны на разгадку паходжання і гістарычнага лёсу народнай вуснапаэтычнай творчасці, вераванняў, абрадаў і звычаяў. Гэтыя тэорыі і школы, безумоўна, мелі свае рацыянальныя зерні, уносілі пэўны ўклад у распрацоўку ўзнятых пытанняў. Аднак кожная з іх па сутнасці канцэнтравала ўвагу на паасобных баках агульнага гістарычнага працэсу ў развіцці культуры народаў, таму ўзятая асобна прыводзіла да аднабаковых, памылковых вывадаў.

У вывучэнні гістарычнага працэсу чалавечага грамадства, форм арганізацыі, сямейна-шлюбных, прававых, культурна-бытавых і эканамічных адносін на розных этапах развіцця грамадства ў 80—90-х гадах усталяваўся эвалюцыяніцкі напрамак. Эвалюцыяністы прызнавалі заканамернасці развіцця грамадства і гістарызм. Прыхільнікамі гэтага напрамку былі М. Кулішэр, Э. Ю. Петры, І. М. Смірноў і інш., а таксама беларускія этнографы М. В. Доўнар-Запольскі, А. Я. Багдановіч і інш.

Значная роля ў развіцці этнаграфіі Расіі гэтага часу належыць віднейшаму рускаму вучонаму Д. М. Анучыну, які для вывучэння народа ўмела спалучаў даныя этнаграфіі, антрапалогіі і археалогіі і прытрымліваўся строга гістарычнага падыходу.

У 80—90-я гады павялічваецца колькасць збіральнікаў і даследчыкаў быту і культуры ўсходнеславянскіх народаў. Этнаграфічныя даследаванні робяцца больш грунтоўнымі. Пачынаюць выходзіць спецыяльныя часопісы — "Этнографическое обозрение" (з 1889 г.) і "Живая старина" (з 1890 г.). Больш дакладна вызначаюцца і падрабязна распрацоўваюцца задачы і метады этнаграфіі як навукі, якія былі сфармуляваны А. М. Пыпіным, Д. М. Анучыным і М. М. Харузіным.

А. М. Пыпін, вызначаючы задачы, метады і спецыфіку этнаграфічнай навукі, пісаў: "Этнаграфія — не кніжная навука; матэрыял, над якім працуе вучоны, павінен быць перш за ўсё сабраны ў народным асяроддзі, у жывым народным быце, не толькі знешнім — у галіне народнага права, звычаю, промыслу, але і ў быце ўнутраным, у задушэўным міры народнай паэзіі, веравання і падання"[1].

---

[1] Пыпин А. О задачах русской этнографии // Вестник Европы. 1885. Т. II. С. 781.

На першы план Пыпін ставіў задачы вывучэння духоўнай культуры народа. Што ж датычыць матэрыяльнай культуры, то, хоць ён і не адмаўляў неабходнасці яе вывучэння, але яна па сутнасці выключалася са сферы даследаванняў этнографа. Адзінае, на чым Пыпін акцэнтуе ўвагу, — гэта вывучэнне абрадаў, звязаных з рознага роду працоўнымі працэсамі. Аб матэрыяльным і вытворчым быце Пыпін толькі мімаходам заўважае, што яны не вывучаюцца.

Такую абмежаванасць праграмы Пыпіна можна вытлумачыць як яго філасофскімі і грамадска-палітычнымі поглядамі, так і агульным станам этнаграфічнай навукі таго часу.

Разам з тым Пыпін ставіць перад этнографамі і новыя задачы — нельга абмяжоўвацца вывучэннем толькі сялянства, а трэба вывучаць норавы розных слаёў насельніцтва, у тым ліку і рабочых. Ён акцэнтуе ўвагу на тым, што пры вывучэнні рабочага быту даследчыкі "прымалі яго ў разлік толькі з адмоўнага боку як крыніцу порчы для вясковага народа ў адносінах маральных і народнапаэтычных"[2].

Вызначаючы такім чынам асноўныя задачы этнаграфіі, даследчык шукае і шляхі іх вырашэння. Ён адзначае, што этнаграфічныя даследаванні павінны ісці ў нагу з развіццём грамадскага жыцця і навукі, "былое этнаграфічнае збіранне, усяго часцей выпадковае, дылетанцкае, частковае, часам проста крыхаборнае, павінна замяніцца арганізаваным даследаваннем, якое распаўсюджваецца на ўсе асноўныя тыпы і мясцовасці насельніцтва і праводзіцца людзьмі, навукова падрыхтаванымі"[3].

Пыпін мяркуе, што падрыхтоўкай такіх кадраў маглі б заняцца спецыяльны інстытут этнаграфіі, кафедры этнаграфіі універсітэтаў і навуковыя ўстановы і таварыствы.

У сваёй аснове праграма этнаграфічных даследаванняў Пыпіна выражала задачы буржуазнай этнаграфіі, якая ўжо к гэтаму часу выразна сфарміравалася.

У адпаведнасці з праграмай Пыпіна ў 80-х гадах этнаграфічныя даследаванні працягвалі ў асноўным развівацца ў напрамку вывучэння вуснапаэтычнай творчасці, вераванняў, абрадаў, юрыдычных звычаяў народаў Расіі, што вызначае ідэалістычную накіраванасць буржуазнай навукі. Матэрыяльная ж аснова, эканамічны быт (жыллё, ежа, адзенне, вытворчая дзейнасць) ігнараваліся. Толькі ў 90-х гадах XIX ст. і пачатку XX ст. у сувязі з шырокім распаўсюджаннем матэрыялістычнага светапогляду сталі з'яўляцца этнаграфічныя працы па гэтай галіне быту народа.

Пэўную ролю ў гэтым адыграла сацыялогія, якая ў апошняй чвэрці XIX ст. у сваім развіцці зрабіла значныя крокі наперад. Намаганні сацыёлагаў вызначыць заканамернасці развіцця чалавечага грамадства паступова прыводзілі да вываду, што ўзровень духоўнай культуры пэўнага грамадства вызначаецца ўзроўнем яго эканамічнага развіцця, што матэрыяльны быт з'яўляецца фактарам, які вызначае духоўны быт чалавека. Развіццё сацыялогіі ўнесла значныя карэктывы ў задачы этнаграфічнай навукі, што адлюстравалі ў сваіх працах Д. М. Анучын і М. М. Харузін.

Д. М. Анучын у сваім артыкуле "Аб задачах рускай этнаграфіі"[4] рэзка крытыкаваў праграму Пыпіна. На першае

[2] Пыпин А. О задачах русской этнографии. Т. II. С. 807.

[3] Там жа. Т. III. С. 171.

[4] Анучин Д. О задачах русской этнографии (несколько справок и общих замечаний) // Этнографическое обозрение. 1889. № 1. С. 1—35.



24. Д. М. Анучын (1843—1923)

ıесца ён выставіў пытанні вывучэння ıатэрыяльнай культуры і эканамічнага ıыту народа, патрабаваў, каб даследчыкі ıры вывучэнні быту выкарыстоўвалі ,аныя не толькі этнаграфіі, але і антра- .алогіі і археалогіі, прапаноўваў таксама ıырока займацца параўнальным выву- эннем народаў свету. Анучын не абмя- коўваў этнаграфію толькі вывучэннем ıінулых перажыткаў старасветчыны, ён ачыў і надзённыя патрэбы ў вывучэнні ародаў Расіі і лічыў, што даныя эт- аграфіі дапамогуць больш правільна ырашаць пытанні дзяржаўнага і грамад- кага жыцця, зразумела, у рамках існую- ага ладу ў Расіі.

Прыкладна на такіх жа пазіцыях пры ызначэнні задач рускай этнаграфіі таяў буржуазны этнограф-эвалюцыя- іст М. М. Харузін. Як і Анучын, даныя гнаграфіі ён лічыў крайне неабходнымі для вывучэння гісторыі народа. У рэ- цэнзіі на кнігу нямецкага вучонага Ганса Гельмальта "Сусветная гісторыя" ён пісаў: "У пастаноўцы пытання на эт- награфічную глебу, у сцвярджэнні, што гісторыя чалавецтва не можа быць вывучана, калі яна прэтэндуе на сур'ёз- насць, па-за этнаграфічнымі звесткамі і ўмовамі абставін, заключаецца галоўны інтарэс кнігі Гельмальта для этно- графа"[5]. І далей, развіваючы гэту думку, ён запэўнівае, што этнаграфічныя даныя трэба пакласці ў аснову гістарычнага вывучэння чалавецтва[6].

Аднак задачы этнаграфіі Харузін абмяжоўвае толькі вывучэннем быту адсталых народаў і перажыткаў мінулага ў сучасным быце цывілізаваных нацый. "Этнаграфія, такім чынам, — пісаў ён, — з'яўляецца навукай, якая, вывучаючы быт асобных плямён і народаў, імкнецца вынайсці законы, адпаведна якім ішло развіццё чалавецтва на ніжэйшых сту- пенях культуры"[7].У гэтым выявілася буржуазная абмежаванасць Харузіна, неразуменне ім важнейшых задач і пра- блем сучаснага жыцця, на якія ў свой час указвалі рэвалюцыйныя дэмакраты.

Прынцыпова новым у вывучэнні быту было тое, што Харузін, як і Ану- чын, на першы план ставіў задачы вы- вучэння матэрыяльнай культуры народа. Ён праводзіць дзяленне культуры народа на "асязаемую", "матэрыяльную куль- туру", і "неасязаемую", "духоўную куль- туру", пры гэтым акцэнтуе ўвагу на вы- вучэнні развіцця прылад працы, зброі, спосабаў палявання, рыбнай лоўлі, земляробства, развіцця жылля і тран- спарту[8].

---

[5] Харузин Н. Этнография и история // Этнографическое обозрение. 1900. № 1. С. 127.
[6] Там жа. С. 128.
[7] Харузин Н. Этнография. СПб., 1901. Вып. I. С. 37.
[8] Там жа. С. 42.

У духоўнай культуры на першае месца Харузін ставіць вывучэнне першабытнага права, далей — вераванняў і паэтычнай творчасці. Звязваючым звяном матэрыяльнай і духоўнай культуры ён лічыць мастацтва і пісьмо.

Такім чынам, з пранікненнем у грамадскія навукі матэрыялістычнага светапогляду, з усталяваннем эвалюцыйнай тэорыі ў тлумачэнні гісторыі чалавечага грамадства этнаграфічная навука ўзнімаецца на новы ўзровень. Аднак новыя прынцыпы этнаграфічных даследаванняў, выкладзеныя Д. Анучыным і М. Харузіным, успрымаліся далёка не ўсімі этнографамі.

## ДЗЕЙНАСЦЬ ВІДНЕЙШЫХ БЕЛАРУСКІХ ЭТНОГРАФАЎ

80—90-я гады даюць шматлікія матэрыялы па этнаграфіі Беларусі. Рэакцыйная палітыка царызму 70—80-х гадоў не змагла спыніць развіццё беларускай культуры, літаратуры і мастацтва, заглушыць узрастаючую цікавасць да быту беларускага народа. У апошнія два дзесяцігоддзі XIX ст. былі сабраны і апублікаваны самыя ёмістыя тамы фальклорных твораў (зборнікі Раманава, Шэйна, Радчанка, Дабравольскага), апісанні сямейнага, грамадскага і вытворчага быту, вераванняў, абрадаў (працы Нікіфароўскага, Доўнар-Запольскага, Шэйна, Багдановіча і многіх іншых), паяўляюцца першыя буйныя апісанні матэрыяльнага быту (працы Нікіфароўскага і асобныя раздзелы ў зборніках Радчанка і інш.). Акрамя таго, публікуецца вялікая колькасць артыкулаў па этнаграфіі і фальклору ў перыядычным друку.

У этнаграфічным вывучэнні робяцца далейшыя крокі ў тым сэнсе, што побач з шырокім размахам збіральніцкай дзейнасці пачынаецца і навуковы аналіз сабраных матэрыялаў, а таксама робяцца спробы вызначэння асноўных заканамернасцей і падвядзення вынікаў у вывучэнні быту і культуры беларусаў.

Элементы даследаванняў мелі месца раней у працах паасобных этнографаў, напрыклад у Ю. Крачкоўскага, І. Бермана, А. Семянтоўскага і некаторых польскіх даследчыкаў. Аднак паасобныя даследчыя моманты губляліся ў масе сырых этнаграфічных матэрыялаў.

З канца 80-х гадоў у беларускай этнаграфіі з'яўляюцца асобы, якія не абмяжоўваюцца збіраннем сырых матэрыялаў, але разам з гэтым больш ўпор робяць на аналіз сабраных да іх і зробленых імі самімі запісаў па быту і вуснапаэтычнай творчасці народа. М. Доўнар-Запольскі канцэнтруе ўвагу на вывучэнні беларускага вяселля, сямейнага звычаёвага права і некаторых іншых бакоў сямейнага быту. А. Багдановіч робіць значныя спробы ў вывучэнні старажытных вераванняў і забабонаў народа. Даследчы характар носяць і многія працы этнографаў-збіральнікаў М. Нікіфароўскага, М. Янчука, У. Дабравольскага і інш. У гэты час разгортваецца дзейнасць выдатнага этнографа-даследчыка Я. Ф. Карскага.

Агляд гісторыі беларускай этнаграфічнай навукі з моманту яе зараджэння да пачатку 90-х гадоў робіць відны рускі этнограф і даследчык гісторыі рускай і зарубежнай літаратуры і фальклору А. Пыпін.

Асобную групу этнографаў-збіральнікаў і даследчыкаў складалі М. Я. Нікі-

фароўскі, Е. Р. Раманаў, М. А. Янчук, У. М. Дабравольскі, М. В. Доўнар-Запольскі і А. Я. Багдановіч. Блізкія па сваіх навуковых і грамадска-палітычных поглядах, яны займалі віднае месца ў беларускай этнаграфіі таго часу і належалі да прагрэсіўнага кола беларускіх этнографаў.

## М. Я. НІКІФАРОЎСКІ

Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі (1845—1910) нарадзіўся ў с. Вымна Веліжскага павета Віцебскай губерні[9]. Яго бацька, Якаў Мікалаевіч, служыў штатным панамаром Вымнянскай царквы, маці, Ксенія Давыдаўна, была хатняй гаспадыняй. Сям'я жыла ў цяжкіх матэрыяльных умовах.

М. Нікіфароўскі навучыўся чытаць ад выпадковага салдата, а ў канцы 1852 г. пасля пераезду бацькоў у в. Веляшковічы сямігадовы хлапчук быў уладкаваны ў школу мясцовага дзячка Пятра Семяновіча. Школа гэта, як і іншыя падобныя школы, налічвала ад 2 да 5 вучняў, ва ўмовах прыгонніцтва існавала на паўлегальным становішчы. Такія прыватныя школы падвяргаліся ганенню з боку мясцовых памешчыкаў. "У ліку абавязкаў былых "дазорцаў" (панскіх шпіёнаў), — пісаў М. Я. Нікіфароўскі, — між іншым, было разведванне — ці не вучаць дзе сялянскіх дзяцей, хто і чаму вучыць? Пры такой умове сціплая школка трапляла ў становішча хаваючагася: вучні тайком прабіраліся ў яе і выходзілі, а ў час вучобы кожны вучань гатовы быў схавацца ў загадзя ўказаным месцы на выпадак непажаданага наведвальніка або разыграць ролю наёмніка-пастуха"[10].

У трох падобных школах М. Я. Нікіфароўскаму давялося вучыцца амаль да канца 1854 г. Акрамя таго, перад паступленнем у Віцебскае духоўнае вучылішча (зіма 1854/55 г.) ён вучыўся ў легальнай "панскай школцы". У верасні 1855 г. Мікалай і яго брат Міхаіл былі ўладкаваны ў Віцебскае духоўнае вучылішча на казённае ўтрыманне (вучоба ў Віцебскім духоўным вучылішчы працягвалася шэсць год).

У верасні 1861 г. Нікіфароўскі як лепшы вучань быў прыняты ў Віцебскую духоўную семінарыю на казённае ўтрыманне. У час вучобы ў семінарыі Нікіфароўскі захапляецца чытаннем самай разнастайнай літаратуры і рознымі грамадска-палітычнымі плынямі гэтага часу ("рух у бок разнастайных "ізмаў")[11]. Чытанне навуковай літаратуры выклікала ў ім цікавасць да быту і культуры свайго народа. Рыхтуючыся стаць святчэннікам, ён пачаў узмоцнена збіраць матэрыял для будучай барацьбы з перажыткамі язычніцтва ў народным светаўспрыманні і, у прыватнасці, матэрыял па старажытных народных вераваннях і забабонах, якія захаваліся ў быце сялянства. З 60-х гадоў пры наведванні родных мясцін малады семінарыст пачынае запісваць песні, прымаўкі, бытавыя казанні.

Пасля паспяховага заканчэння Віцебскай духоўнай семінарыі ў чэрвені

[9] Падрабязней аб ім гл. у кн.: Бондарчик В. К., Чигринов И. Г. Николай Яковлевич Никифоровский. Мн., 1960.

[10] Никифоровский Н. Я. Сельско-школьное обучение в юго-восточной окраине Витебской Белоруссии, каким застает его реформа 19 февраля 1861 года. Витебск, 1893. С. 7, 8.

[11] Архіў бібліятэкі Таварыства даследчыкаў прыроды МДУ імя М. В. Ламаносава. Этнаграфічны аддзел, звязка VII. № 165.

1867 г. Нікіфароўскаму было прапанавана паступіць на свой кошт у С.-Пецярбургскую духоўную акадэмію. Але з-за адсутнасці на гэта сродкаў ён вымушаны быў адмовіцца ад далейшай вучобы і шукаць працу. Запаветным жаданнем яго было стаць настаўнікам. Нікіфароўскі прайшоў паўтарамесячную падрыхтоўку і пасля практычнага азнаямлення з метадамі выкладання 4 кастрычніка 1867 г. быў назначаны настаўнікам народнага вучылішча ў в. Лоўжа.

Жыццё сурова сустрэла пачынаючага педагога. Ужо ў першыя дні працы Мікалай Якаўлевіч сутыкнуўся з вялікімі матэрыяльнымі цяжкасцямі. Лёс вясковай школы і настаўніка поўнасцю залежаў ад самавольства мясцовых улад. У хуткім часе малады настаўнік трапіў у няміласць да мясцовага начальства і таму быў вымушаны пакінуць Лоўжу.

13 верасня 1871 г. ён па конкурсу займае месца законанастаўніка Першага прыходскага вучылішча ў Віцебску і адначасова працуе выкладчыкам рускай мовы і гісторыі ў Віцебскім павятовым вучылішчы. Але, відаць, праца законанастаўніка не задавальняла Нікіфароўскага, і таму ён пачаў старанна рыхтавацца да экзамена на званне настаўніка рускай мовы павятовага вучылішча. Пасля здачы экзамена ў лістападзе 1876 г. папячыцель Віленскай вучэбнай акругі пераводзіць Нікіфароўскага настаўнікам падрыхтоўчага класа Свіслацкай настаўніцкай семінарыі ў Гродзенскую губерню. Аднак у 1882 г. у сувязі з цяжкай хваробай жонкі ён вярнуўся ў Віцебск і атрымаў пасаду выкладчыка падрыхтоўчага класа класічнай мужчынскай гімназіі. У Віцебску, калі не лічыць двухгадовага перапынку (1900—1902 гг. — праца ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі), Нікіфароўскі працаваў да апошніх дзён свайго жыцця.



25. М. Я. Нікіфароўскі (1845—1910)

На педагагічнай ніве М. Я. Нікіфароўскі так і не ўзняўся вышэй настаўніка падрыхтоўчага класа гімназіі ці настаўніцкай семінарыі. Затое ён пакінуў багатую спадчыну па этнаграфічнаму вывучэнню роднай Віцебшчыны.

Паяўленне ў Віцебску вядомага ўжо сваімі працамі па рускай этнаграфіі П. В. Шэйна ўзмацніла цікавасць Нікіфароўскага да вывучэння быту, культуры і творчасці свайго народа. Разасланыя Шэйнам праграмы па збіранню фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў трапілі і ў рукі Нікіфароўскага, які стаў завочным карэспандэнтам Шэйна. Асабістае знаёмства з Шэйнам адбылося ў 1871 г.

Звыш 20 год Нікіфароўскі бескарысліва і самаахвярна працаваў у якасці самага актыўнага карэспандэнта Шэйна

Сваёй папулярнасцю і навуковай каштоўнасцю фальклорна-этнаграфічныя зборнікі Шэйна ў значнай меры абавязаны Нікіфароўскаму, які ўзбагаціў іх высакаякаснымі і багатымі матэрыяламі.

Для зборніка Шэйна "Беларускія песні" Нікіфароўскі, напрыклад, прыслаў артыкулы аб калядках, валачобніках, святе Юр'я, пахавальных і памінальных абрадах, некалькі песень, казак і народных апавяданняў. І гэта садзеянне яго высока цаніў Шэйн. Ён пісаў, што Нікіфароўскі "сваім спелым поглядам на этнаграфічныя пошукі рэзка вылучаўся з цэлага сонму сельскіх і іншых настаўнікаў..."[12]

Трэба адзначыць, што залішне працяглы тэрмін навуковай дзейнасці Нікіфароўскага толькі ў ролі карэспандэнта і супрацоўніка Шэйна ляжыць на сумленні апошняга. Шэйн не жадаў пазбавіцца такога старанага пастаўшчыка матэрыялаў для выдаваемых ім зборнікаў. Спробы Нікіфароўскага выступіць з самастойнымі этнаграфічнымі працамі выклікалі перашкоды з боку Шэйна. У 1891 г., напрыклад, пасля канчатковага рашэння стаць на самастойны навуковы шлях Нікіфароўскі прасіў Шэйна вярнуць яму высланы раней рукапіс ("Ад калыскі да магілы забабонны народ"). У адказ на гэту "дзёрзкасць" Шэйн надоўга спыніў перапіску з Нікіфароўскім.

Канчаткова стаць на самастойны шлях па этнаграфічнаму вывучэнню роднай Віцебшчыны Нікіфароўскаму дапамагае Этнаграфічны аддзел Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, які ў 1892 г. пачынае выдаваць серыю яго нарысаў пад агульнай назвай "Нарысы Віцебскай Беларусі". Паралельна з гэтай працай Нікіфароўскі выдае рад іншых каштоўных этнаграфічных прац.

[12] Шейн П. В. Белорусские песни. СПб., 1874. С. 829.

З сярэдзіны 90-х гадоў пачынаецца цеснае супрацоўніцтва Нікіфароўскага з Я. Ф. Карскім[13]. З гэтага часу Нікіфароўскі становіцца актыўным супрацоўнікам рада таварыстваў, якія праводзілі этнаграфічнае вывучэнне Беларусі[14]. За капітальныя працы па духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў ён неаднаразова ўзнагароджваецца навуковымі таварыствамі. Так, 15 кастрычніка 1893 г. Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі прысудзіла яму сярэбраны медаль, а 15 кастрычніка 1897 г. — прэмію за этнаграфічныя працы па Беларусі.

Асноўныя этнаграфічныя працы Нікіфароўскага былі выдадзены на працягу 1892—1899 гг.

Апошняе дзесяцігоддзе ў жыцці Нікіфароўскага не вызначаецца асаблівай актыўнасцю ў сувязі з дрэнным станам здароўя. Тым не менш за гэты час ён падрыхтаваў да друку рад прац па фальклору Беларусі з матэрыялаў, сабраных раней. Але гэтыя працы Нікіфароўскага былі выдадзены пасля яго смерці.

За дваццацігадовы перыяд самастойнай навуковай дзейнасці (1890—1910) Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі выдаў і падрыхтаваў да друку каля 20 работ па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Віцебшчыны.

Найбольшую каштоўнасць маюць яго этнаграфічныя працы "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку" (1895), "Нарысы Віцебскай Беларусі" (1892—1899), "Простанарод-

[13] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 101.

[14] М. Я. Нікіфароўскі з'яўляўся сапраўдным членам Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (з 1890 г.), Рускага геаграфічнага таварыства (з 1897 г.), Віцебскага царкоўна-археалагічнага старажытнага сховішча (з 1895 г.), Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта (з 1895 г.).

ныя прыкметы і павер'і, забабонныя абрады і звычаі, легендарныя паданні аб асобах і мясцінах" (1897), а таксама фальклорны зборнік "Простанародныя загадкі" (1898)[15].

Грамадскаму быту насельніцтва Віцебшчыны М. Я. Нікіфароўскі прысвяціў серыю нарысаў пад агульнай назвай "Нарысы Віцебскай Беларусі", якія былі надрукаваны ў 1892—1899 гг. у часопісе "Этнографическое обозрение"[16]. Асноўную ўвагу ў "Нарысах..." аўтар удзяляе характарыстыцы становішча працоўных Віцебшчыны ў час прыгонніцтва. Сялян ён характарызуе не як аднародную масу (што характэрна для гісторыкаў і этнографаў таго часу), а сацыяльна дыферэнцыруе іх. Усё сялянства губерні ў залежнасці ад яго эканамічнага становішча Нікіфароўскі падзяляе на дзесяць груп. Першыя дзве групы складаюць заможную частку сялян — кулакі. Серадняцкая група сялян — гэта "жыхар туды і сюды, так сабе, ні то, ні сё", які валодае прыкладна паловай багацця кулака, і "заборысты жыхар", які ідзе ўгару па шляху дабрабыту. Усе астатнія шэсць груп складаюць бядняцкую частку сялянства. Апісанню жыцця бедных слаёў сялянства аўтар пераважна і прысвячае свае "Нарысы..."




26. Вокладка кнігі М. Я. Нікіфароўскага

Дыференцыруючы такім чынам дарэформеннае сялянства, аўтар дае ясна зразумець, што такая маёмасная няроўнасць адносіцца больш да 90-х гадоў XIX ст., г. зн. да часу напісання нарыса.

У адным з нарысаў Нікіфароўскі характарызуе "пасобнікаў жыхара" прыгоннага часу і пасляэформеннага перыяду. Пад "пасобнікамі жыхара" ён мае на ўвазе тую частку насельніцтва, якая знаходзілася на службе ў іншых асоб. Асноўная маса іх ішла з вёскі ў выніку разарэння сялянскай беднаты і ператварэння яе ў пралетарыят. Правільна ўказваючы крыніцы паяўлення свабоднай рабочай сілы, Нікіфароўскі не змог, аднак, даць аналізу гэтага працэсу, бо ён не ведаў законаў развіцця грамадства.

[15] Гл. таксама: Никифоровский Н. Я. Полупословицы, полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии // Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. Вильна, 1910. Кн. I; 1911. Кн. II; 1912. Кн. III; 1913. Кн. IV; Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Кн. 4: Працы кафедры этнаграфіі. Т. I. Мн., 1928; Ён жа. Белорусские песни-частушки. Вильна, 1911.

[16] Никифоровский Н. Я. Старцы // Этнографическое обозрение. 1892. № 1; Ён жа. Дударь и музыка // Там жа. 1892. № 2, 3; Ён жа. Пособники жихара // Там жа. 1893. № 2; Ён жа. Подданные пособники // Там жа. 1894. № 1; Ён жа. Питущие и пропойцы // Там жа. 1896. № 4; Ён жа. Игры и игроки // Там жа. 1897. № 3; Ён жа. Бабы, або жонки // Там жа. 1898. № 2; Ён жа. Сбяги, прочки, вонки, уходалы // Там жа. 1899. № 1, 2.

Заканчваецца нарыс апісаннем свят, якія асабліва ўшаноўваліся пастухамі — "святое Ягор'е", "святы Пятро", "Міколаў дзень".

У асобным нарысе ("Падданыя пасобнікі")[17] Нікіфароўскі характарызуе становішча прыгонных сялян і рознай прыслугі памешчыкаў у дарэформенны час. Ён не шкадуе фарбаў, каб паказаць цяжкае становішча сялян. Галоўнае месца ў нарысе адводзіцца характарыстыцы тых прыгонных сялян, якія мелі мясцовую назву "налле", г. зн. "рабочая хмара".

Аўтар праўдзіва паказвае, як памешчык бязлітасна эксплуатаваў прыгонных сялян, выкарыстоўваючы для работы на паншчыне ўсіх — ад малых дзяцей да старых. У радзе месц баршчына расцягвалася на ўвесь тыдзень, і тады "прыгонны араў, жаў, касіў на сябе толькі ноччу або ў свята"[18].

Даследчык дае маляўнічую этнаграфічную характарыстыку прыгонным сялянам, падзяляючы іх на групы згодна з выконваемай імі працай. Частка прыгонных як бы складала неад'емную долю "хламнай" уласнасці памешчыка і таму насіла назву, аналагічную назве прадметаў і жывёлы, да якіх яны былі прыстаўлены: конюхі, фурманы, гуменнікі, свірнікі, вартаўнікі, мыццёхі, псарнікі і г. д.

Далей Нікіфароўскі характарызуе тыя "прыгонніцкія і паліцэйскія чыны", пры дапамозе якіх памешчык прыгнятаў народ. Гэта — ураднікі, войты, соцкія, дзесяцкія, цівуны, дазорцы і інш. Усе яны ў народзе атрымалі трапную назву — "бізуновыя чыны". Аўтар адзначае, што народ часта "зводзіў крывавыя разлікі" з гэтымі асобамі.

[17] Никифоровский Н. Я. Очерки Витебской Белоруссии. IV: Подданные пособники // Этнографическое обозрение. 1894. № 1. С. 30—88.

[18] Там жа. С. 38.

Асобны артыкул, якім і пачыналася друкаванне "Нарысаў Віцебскай Беларусі", Нікіфароўскі прысвячае паўсядзённаму спадарожніку класавага грамадства — жабрацтву[19]. Нарыс "Жабракі" сведчыць аб глыбокім веданні аўтарам жыцця народа.

Усіх жабракоў Нікіфароўскі падзяляе на дзве вялікія групы: "жабракі выпадковыя", колькасць якіх на працягу года вагаецца і павялічваецца вясной, і "пастаянныя жабракі" — прафесійныя. Крыніцай часовых жабракоў былі перыядычныя галадоўкі, а таксама штогодняя вясна. Прафесійныя жабракі паяўляліся пераважна з ліку асоб, якія страцілі працаздольнасць з-за старасці або фізічных недахопаў, а таксама з ліку асоб, якія страцілі сродкі да існавання. Кожную з гэтых груп жабракоў Нікіфароўскі падрабязна характарызуе, раскрывае іх цяжкі быт, асаблівасці іх жыцця.

У склад "Нарысаў Віцебскай Беларусі" ўваходзяць дзве працы, якія прысвечаны правядзенню вольнага часу і стану музычнага развіцця працоўнага народа Віцебшчыны, — гэта нарысы "Дудар і музыка" і "Гульні і ігракі"[20]. Характэрнай рысай іх з'яўляецца тое, што аўтар выступае з абвяржэннем рэакцыйных тэорый таго часу, якія паказвалі беларусаў як людзей, задаволеных сваім прыніжаным становішчам, як людзей неразвітых, кволых і слабых. На канкрэтных прыкладах Нікіфароўскі паказвае вялікія музычныя здольнасці беларускага народа, багацце народнай музыкальнай культуры[21].

[19] Никифоровский Н. Я. Очерки Витебской Белоруссии. I: Старцы // Этнографическое обозрение. 1892. № 1. С. 70—106.

[20] Ён жа. Очерки Витебской Белоруссии. II: Дударь и музыка // Этнографическое обозрение. 1892. № 2, 3; VI: Игры и игроки // Там жа. 1897. № 3.

[21] Ён жа. Очерки Витебской Белоруссии. VI: Игры и игроки // Там жа. 1897. № 3. С. 21.

Выключную цікавасць мае аналіз Нікіфароўскім у "Нарысах..." гульняў дзяцей, моладзі і дарослых Віцебшчыны. Ён дае апісанне звыш 60 гульняў, падзяляючы іх на "бавы дзяцей", "бавы падлеткаў", "бавы моладзі" і "бавы ўзмужнелых пажылых асоб". Паказвае характэрныя асаблівасці гульняў па ўзростах, а таксама агульныя і спецыфічныя асаблівасці кожнай гульні. Пры гэтым аўтар прыводзіць рад павер'яў, прыкмет і забабонаў, звязаных з рознымі гульнямі, асабліва гульнямі дзяцей. Аўтар адзначае, што большасць гульняў жыхароў Віцебшчыны мае мясцовае паходжанне.

Апошні раздзел, якім завяршаюцца "Нарысы Віцебскай Беларусі", носіць назву "Збягі, прочкі, вонкі, ухадалы"[22]. У ім Нікіфароўскі паказвае, што адной з форм сацыяльнага пратэсту было бегства сялянства. Цяжкі прыгнёт прыводзіў да таго, што сяляне вымушаны былі пакідаць свае родныя мясціны, сям'ю і блізкіх. Асабліва цяжкім быў лёс селяніна, які хаваўся ад праследавання ўлад на чужыне.

"Нарысы Віцебскай Беларусі" М. Я. Нікіфароўскага прадстаўляюць сабою каштоўнае навуковае даследаванне грамадскага быту працоўнага насельніцтва Віцебшчыны. Тут аб'ектыўна апісваецца становішча народа як у перыяд прыгонніцтва, так і пасля адмены яго, даецца глыбокі і правільны аналіз грамадскага быту беларусаў былой Віцебскай губерні.

З іншых работ Нікіфароўскага, у якіх закранаюцца пытанні грамадскага быту, заслугоўвае ўвагі яго праца па гісторыі Віцебска "Старонкі з нядаўняй старыны горада Віцебска" (Віцебск, 1899). У ёй упершыню змяшчаюцца каштоўныя этнаграфічныя звесткі аб жыцці гарадскога насельніцтва.

[22] Никифоровский Н. Я. Очерки Витебской Белоруссии: Сбяги, прочки, вонки, уходалы // Этнографическое обозрение. 1899. № 1, 2.


ОЧЕРКИ
простонароднаго житья-бытья
въ
Витебской Белоруссіи
и
описаніе предметовъ обиходности.
(Этнографическія данныя).
Съ географическимъ видомъ Витебской губерніи и четырьмя чертежами въ текстѣ.
Составилъ
Н. Я. Никифоровскій.

ВИТЕБСКЪ.
Губернская Типографія.
1895.

27. Вокладка кнігі М. Я. Нікіфароўскага

М. Я. Нікіфароўскі з'яўляецца таксама аўтарам буйнейшага даследавання па матэрыяльнай культуры бе-ларусаў XIX ст. Яго праца "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку: Этнаграфічныя звесткі" (Віцебск, 1895) змяшчае падрабязныя этнаграфічныя звесткі па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці сялян Віцебшчыны.

"Нарысы..." складаюцца з чатырох частак. Першая частка прысвечана вывучэнню ежы, другая — адзення, трэцяя — жылля і гаспадарчых пабудоў, чацвёртая — вытворчай дзейнасці беларускага селяніна.

У раздзеле "Ежа, едзіва, паядуха, прорва, жратва, момна" даволі грунтоўна

апісваецца харчаванне беларусаў сярэдзіны XIX ст. Уся ежа беларуса падзяляецца аўтарам на хлебныя прыгатаванні, вадкія стравы (галоўным чынам раслінныя), мясныя стравы, "выпадковыя стравы", г. зн. згатаваныя на хуткую руку, "маканіна", прыправы ("прысмакі"), "ласонікі і паласункі".

Аўтар падрабязна характарызуе 112 страў з мукі, круп, гародніны, мяса, рыбы, садавіны і іншых прадуктаў. Пры гэтым у большасці выпадкаў даецца не толькі апісанне прыгатавання гэтых страў, але і час, парадак і ў якіх выпадках жыцця і кім яны ўжываюцца. Кожная страва абазначана мясцовымі назвамі.

М. Я. Нікіфароўскі называе сем гатункаў хлеба хатняга прыгатавання — чысты, градавы, пушны, палавы, бульбяны, мякінны і выпечаны з раслін. Ён паказвае і тыя змены, якія адбываюцца ў ежы селяніна пад уплывам развіваючагася капіталізму. У вёску пранікаюць такія стравы, як катлеты, пірагі, розныя ласункі, піва, прыгатаванае на заводах, новыя фабрычныя рэчы і посуд. Усё больш адыходзяць у нябыт такія стравы, як саладуха, розныя віды маканіны, цюрні, суслы і інш.

Другая частка працы прысвечана вывучэнню адзення беларускіх сялян Віцебшчыны. Сялянскае адзенне беларусаў Віцебшчыны разглядаецца ў наступным плане: абутак, мужчынскія і жаночыя ўпрыгожанні, дарожныя і выпадковыя прадметы, захаванне адзення, бялізна. Асобныя параграфы прысвечаны вытворчасці адзення, абутку і ўпрыгожання, апрацоўцы лёну, прадзенню, ткацтву і пашыву адзення. Паслядоўна і падрабязна вядзе аўтар апісанне асобных прадметаў адзення беларускага селяніна. Паведамляюцца даныя аб пакроі, памерах, матэрыяле, спосабах нашэння асобных відаў адзення, паказваецца сувязь беларускага традыцыйнага адзення з рускім і іх узаемны ўплыў на Віцебшчыне. У большасці апісанняў указваецца на якасныя адрозненні адзення ў залежнасці ад заможнасці селяніна.

У трэцяй частцы Нікіфароўскі дае грунтоўнае апісанне жылля Віцебшчыны, змяшчае каштоўныя звесткі аб велічыні населеных пунктаў Віцебшчыны, аб планіроўцы вуліц, сядзіб і паасобных пабудоў. Далей ідзе апісанне будаўнічай тэхнікі і парадку ўзвядзення жылога памяшкання, падрабязна характарызуецца ўнутраная планіроўка ў доме, кладка печаў, уладжванне лаў, палацяў, розных паліц і полачак, назначэнне асобных месц дома (вуглоў, бэлек, слупоў), упрыгожанне сцен і г. д. Асобныя параграфы прысвечаны гаспадарчым пабудовам. Усё гэта суправаджаецца ўказаннем размераў, бытавога прызначэння, апісаннем паасобных працоўных і іншых жыццёвых працэсаў. Прыводзяцца планы-чарцяжы жылля і сяліб.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе апошняя, чацвёртая, частка "Нарысаў..." Нікіфароўскага. У ёй разглядаюцца вытворчая дзейнасць, прылады працы і прадметы хатняга ўжытку беларускага селяніна. Бадай ні адзін прадмет хатняга ўжытку, ні адна прылада працы земляроба, цесляра, рыбалова, паляўнічага, пчаляра не выпадае з-пад увагі вопытнага этнографа. Усяму гэтаму з вялікай назіральнасцю даецца ўсебаковая, красамоўная і разам з тым аб'ектыўная характарыстыка.

Якое б пытанне жыцця селяніна ні абмяркоўвалася Нікіфароўскім, ён свядома або міжвольна выклікае пратэст як супраць адышоўшага прыгонніцтва, так і супраць існаваўшай у яго час несправядлівасці. Пры кожным зручным выпадку М. Я. Нікіфароўскі праводзіць рэзкую граніцу паміж бедным пра-

цоўным народам і маёмаснымі слаямі вёскі, спачувае бедняку.

З фальклорных прац Нікіфароўскага заслугоўвае ўвагі першы буйны зборнік беларускіх частушак "Беларускія песні-частушкі", выдадзены пасля смерці збіральніка (1910) Паўночна-Заходнім аддзелам Рускага геаграфічнага таварыства. Зборнік змяшчае 2356 частушак, сабраных Нікіфароўскім і яго карэспандэнтамі (настаўнікамі і вучнямі народных школ) у перыяд з 1860 па 1905 г. У сувязі з тым што матэрыялы зборніка ахопліваюць параўнальна вялікі гістарычны адрэзак часу, у іх атрымалі яркае адлюстраванне бытавыя з'явы, думы і спадзяванні народа і адносіны яго да існаваўшага ладу як у перыяд прыгонніцтва, так і ў эпоху капіталізму. Гэты зборнік дае багаты матэрыял, з дапамогай якога можна прасачыць і працэс развіцця частушачнага жанру вуснапаэтычнай народнай творчасці з сярэдзіны XIX да пачатку XX ст. У частушках перыяду капіталізму вельмі добра адлюстроўваецца працэс пралетарызацыі беларускай вёскі, вымушаныя ўцёкі селяніна ў горад. Многія частушкі паказваюць бяспраўнае становішча жанчыны і яе пратэст супраць такой няроўнасці. Значная колькасць частушак характарызуе адносіны народа да рэлігіі і царкоўных служкаў, паказвае рост стыхійнага народнага атэізму.

Арыгінальным па свайму зместу з'яўляецца зборнік М. Я. Нікіфароўскага "Паўпрыказкі і паўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі" (1870—1904). Друкаванне яго пачалося ў 1910 г. у "Запісках Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства". Поўная публікацыя была закончана ў савецкі час.

Паўпрыказкі і паўпрымаўкі, сабраныя Нікіфароўскім на Віцебшчыне, з'яўляюцца багатым матэрыялам не толькі для лексіколагаў і фалькларыстаў, але і для этнографаў. Многія з іх з'яўляюцца каштоўнымі згусткамі народнай мудрасці, кемлівасці, гумару і сатыры. Трэба адзначыць, што падобныя матэрыялы ў Беларусі Нікіфароўскі пачаў запісваць адным з першых.

М. Я. Нікіфароўскаму належыць і зборнік беларускіх народных загадак, запісаных ім і яго супрацоўнікамі ў Віцебскай губерні[23]. Па колькасці сабраных матэрыялаў ён пераўзыходзіць падобныя зборнікі І. І. Насовіча, Е. Р. Раманава, Д. Г. Булгакоўскага, П. В. Шэйна, А. М. Семянтоўскага.

Заслугоўваюць увагі і капітальныя працы Нікіфароўскага "Простанародныя прыкметы і павер'і, забабоны і звычаі, легендарныя сказы аб асобах і месцах" (1897) і "Нячысцікі: Звод простанародных у Віцебскай Беларусі казанняў аб нячыстай сіле" (1907)[24].

У першай кнізе апублікавана 2307 розных народных прыкмет, павер'яў, забабонаў, абрадаў, звычаяў, сродкаў народнай медыцыны і ветэрынарыі, а таксама некалькі легенд і сказаў аб асілках, аб паходжанні азёр, балот, гор і інш. Увесь гэты велізарны матэрыял збіраўся даследчыкам каля 40 год (з 1860 да 1897). У канцы кнігі дадзены заўвагі і зноскі, у якіх тлумачацца паасобныя словы і тэрміны, а таксама алфавітны паказальнік мясцовасцей, дзе быў сабраны матэрыял.

---

[23] Никифоровский Н. Я. Простонародные загадки. Витебск, 1898.

[24] Акрамя ўказаных работ, М. Я. Нікіфароўскаму належыць і некалькі прац і артыкулаў аб вераваннях беларусаў, напрыклад: Материалы для народного снотолкователя (Витебской губернии) // Этнографическое обозрение. 1898. № 1. С. 131—139; На почве простоты веры. Витебск, 1899; Освященные предметы и отношение к ним простонародья Витебской Белоруссии. Витебск, 1903; Громничные свечки // Полоцкие епархиальные ведомости. 1903. № 10. С. 372—377.

Праца Нікіфароўскага "Нячысцікі: Звод простанародных у Віцебскай Беларусі казанняў аб нячыстай сіле" прысвечана сістэматычнаму пераказу старажытных вераванняў, прымхаў і забабонаў беларусаў. Яна была закончана аўтарам яшчэ ў 1898 г., але надрукавана толькі ў 1907 г. у часопісе "Виленский временник" А. Харузіным.

У прадмове да працы "Нячысцікі" Нікіфароўскі параўноўвае матэрыяльны, эканамічны прыгнёт народа з духоўным прыгнётам. Даследчык адзначае, што ў адрозненне ад першага другі прыгнёт, г. зн. цемра народа, усё хутчэй знікае з быту працоўных. Паказваючы, як свядомасць народа пастунова вызваляецца ад рознага роду вераванняў і забабонаў, Нікіфароўскі падкрэслівае, што ўсіх гэтых "нябачных ворагаў" (чарцей, дамавых, русалак, вядзьмарак і г. д.) ён ужо "не толькі не баіцца", але і "губіць іх канчаткова"[25].

Працы Нікіфароўскага аб перажытках старажытнага светаўспрымання і вераваннях беларусаў даюць багаты матэрыял для даследавання гісторыі развіцця рэлігійных уяўленняў народа. Гісторык, этнограф, фалькларыст, лінгвіст знойдуць у іх каштоўныя звесткі для характарыстыкі розных бакоў быту і культуры беларускага народа.

Такім чынам, навуковая дзейнасць М. Я. Нікіфароўскага была плённай і каларытнай. Ён належаў да той плеяды беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, якая была выклікана да актыўнай дзейнасці пачаўшымся ростам нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа ў перыяд развіцця капіталізму.

Як і многія прадстаўнікі перадавой культуры, напрыклад І. І. Насовіч, Е. Р. Раманаў, Я. Ф. Карскі, М. Я. Нікіфароўскі ўсё сваё жыццё да апошніх дзён аддаў справе вывучэння беларускага народа. Сваімі даследаваннямі па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі ён абараняў свой народ ад розных фальсіфікатараў гісторыі (польскіх нацыяналістаў і рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў), якія адмаўлялі яго права на самастойнае нацыянальнае развіццё.

Працы Мікалая Якаўлевіча Нікіфароўскага па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі, яго слоўнікі жывой народнай мовы прадстаўляюць невычэрпную крыніцу для ўсебаковага вывучэння быту народа, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, вуснапаэтычнай народнай творчасці і гісторыі.

[25] Никифоровский Н. Я. Нечистики: Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907. С. 7. Перавыдадзена пад гэтай назвай: Віцебск. 1995.

## Е. Р. РАМАНАЎ

Еўдакім Раманавіч Раманаў (1855—1922) нарадзіўся ў м. Нова-Беліца Гомельскага павета Магілёўскай губерні ў мяшчанскай сям'і, "якая жыла ў вялікай беднасці, амаль у галечы"[26]. Пазней Раманаў успамінаў, які хлеб яму даводзілася есці ў дзяцінстве: "Да самай нязначнай колькасці мукі дадавалі шмат вотруб'я, мякіны, тоўчаных жалудоў, лісцяў лебяды, ліпы, маладой папараці і інш."[27]

[26] Падрабязней аб жыцці і навуковай дзейнасці Е. Р. Раманава гл. у кн.: Бандарчык В. К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961.

[27] Романов Е. Внешний быт быховского белоруса // Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. Вильна, 1911. Кн. II. С. 109.



28. Е. Р. Раманаў (1855—1922)

Пачатковую адукацыю Раманаў атрымаў у Нова-Беліцы. У 1867 г., нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча сям'і, дванаццацігадовы хлопчык паступае ў Гомельскую прагімназію. У 1869 г. памірае маці. Раманаў застаецца круглым сіратою. Каб мець магчымасць скончыць гімназію, ён наймаецца да багатага купца рэпетытарам[28].

Пасля заканчэння прагімназіі ў 1870 г. Раманаў спрабуе паступіць у Магілёўскую гімназію. Аднак ва ўмовах царскай Расіі яму як выхадцу з народа не ўдалося ажыццявіць сваю мару, нягледзячы на тое што ён паспяхова вытрымаў уступныя экзамены. У гімназіі для яго "не аказалася вакансій"[29]. Няўдача не спыніла Раманава. Ахоплены прагай да ведаў, ён многа працуе самастойна, у кароткі тэрмін здае экзамен на званне настаўніка народнай школы і атрымлівае пасаду настаўніка ў Герасімаўскім народным вучылішчы Хлыстоўскай воласці Аршанскага павета Магілёўскай губерні.

1 верасня 1873 г. Раманаў быў пераведзены на пасаду настаўніка Бобрскага народнага вучылішча Сенненскага павета Магілёўскай губерні, а роўна праз год — у Гомельскае павятовае вучылішча, дзе працаваў да 1 лістапада 1876 г. Пазней педагагічная дзейнасць Е. Р. Раманава праходзіла ў розных школах Магілёўскай, Віленскай і Віцебскай губерняў. Адначасова ён працягвае займацца самаадукацыяй. Вывучае гісторыю (у тым ліку летапіс Нестара), параўнальную і гістарычную граматыку, чытае класікаў рускай літаратуры (Гогаля, Тургенева, Пушкіна і інш.).

Займаючыся вывучэннем гісторыі, літаратуры і мовы, Раманаў пераканаўся ў тым, што руская грамадскасць дрэнна ведала тады Беларусь, яе народ, культуру. Гэта прымусіла яго заняцца збіраннем твораў вуснапаэтычнай творчасці і вывучэннем культуры і быту роднага народа. "Балюча стала беларускаму майму сэрцу такое незнаёмства вучоных з маёй роднай мовай, — пісаў ён пазней, — і, ведаючы беднасць літаратуры беларускай, узяўся я за збіранне"[30].

1886 год адкрывае новы перыяд у жыцці і навуковай дзейнасці Раманава: яго прызначаюць інспектарам народных вучылішч Віцебскай губерні (на гэтай пасадзе Раманаў праслужыў да 1906 г. з перамяшчэннем у 1894 г. у Гродзенскую, а ў 1895 г. у Магілёўскую губерні). Новая пасада дала магчымасць даследчыку

---

[28] Архіў РАН, ф. 134, воп. 3, № 1308, л. 19, 20.

[29] Виленский календарь на 1911 год. Вильна, 1912. С. 138.

[30] Романов Е. Белорусский сборник. Витебск, 1891. Вып. V. С. 111.

больш шырока разгарнуць збіральніцкую і навуковую дзейнасць.

У лістападзе 1906 г. скончыўся пяцігадовы тэрмін, на які Раманаву была адтэрмінавана служба пасля выслугі пенсіі. Гэта было выкарыстана ўладамі для звальнення яго з работы ў сістэме народнай адукацыі. У гэтым годзе Раманаў пераехаў у Вільню і заняў пасаду члена Камісіі па ўладкаванню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея. Аднак гэта пасада не магла яго задаволіць.

Матэрыяльныя цяжкасці прымушаюць Е. Раманава пакінуць Вільню. У верасні 1910 г. ён дабіваецца назначэння на пасаду інспектара народных вучылішчаў у Петракоўскую губерню Варшаўскай вучэбнай акругі. На новым месцы Раманаву доўга працаваць не давялося, ён цяжка захварэў. У верасні 1911 г. ён вярнуўся ў Вільню і заняў сваю ранейшую пасаду члена Камісіі па ўладкаванню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея.

У лістападзе 1914 г. у Е. Раманава адбылося паўторнае кровазліццё ў мозг. Цяжкахворага Раманава перавезлі ў Магілёў. Але ў хуткім часе, крыху паправіўшыся, ён зноў пераехаў у Вільню. Аднак становішча на фронце прымусіла яго разам са штатам Віленскай бібліятэкі эвакуіравацца ў 1915 г. у Магілёў, потым у Адэсу, куды пераехала і кіраўніцтва Таварыства па вывучэнню Магілёўскай губерні.

У Адэсе Раманава спасцігла новая непрыемнасць. У пачатку 1916 г. ён быў звольнены з пасады члена Камісіі па ўладкаванню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея. Апынуўшыся ў выключна цяжкім матэрыяльным становішчы, Е. Раманаў летам 1916 г. пераязджае ў Віцебск і спрабуе знайсці там работу, але дарэмна. У наступным годзе праз акадэміка А. А. Шахматава ён атрымлівае камандзіроўку ад Акадэміі навук на Паўночны Каўказ "для этнаграфічных даследаванняў" і ў кастрычніку 1917 г. пераязджае ў Стаўрапаль, дзе яго і застае Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Е. Раманаў застаўся з боку ад рэвалюцыйных падзей 1917 г. Сваіх адносін да рэвалюцыі ён не выказаў і ў апошніх працах. З урывачных яго заўваг можна бачыць, што ён не зразумеў гэтых падзей.

Апошнія гады жыцця ў Стаўрапалі былі вельмі цяжкімі для Е. Раманава. Ён марыў аб вяртанні ў Беларусь. У канцы ліпеня 1921 г. Раманаў атрымаў запрашэнне аб пераездзе ў Мінск. Аднак здзейсніць сваю мару яму не ўдалося. Праз сем месяцаў ён памёр ад язвы страўніка і быў пахаваны на Данілаўскіх могілках у Стаўрапалі.

Цікавасць да этнаграфічнай навукі ў Е. Р. Раманава праяўляецца ўжо ў першыя гады працоўнай дзейнасці. Ён наладжвае сувязь з Паўночна-Заходнім аддзелам РГТ у Вільні і хутка пасылае туды сабраныя звесткі аб стане сельскай гаспадаркі і саматужных промыслаў у Герасімаўскай абшчыне. Аднак сістэматычнае збіранне фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў ён пачаў толькі з 1876 г. З гэтага часу Раманаў прыступае да работы над беларускім слоўнікам.

У 1877 г. Раманаў паведамляў Расійскай Акадэміі навук, што за пяць год настаўніцкай дзейнасці ім сабрана 2000 беларускіх слоў і з гэтага матэрыялу складзены "Вопыт беларускага слоўніка", а ў якасці ўводзін да слоўніка — кароткая беларуская граматыка[31]. У наступным годзе ён пасылае ў Акадэмію навук частку складзенага ім беларускага слоўніка і просіць камандзіраваць яго ў Магілёўскую або Мінскую губерню для

[31] Архіў РАН, ф. 9, воп. 1, № 532, л. 1, 2.

збірання этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў[32].

"Вопыт беларускага слоўніка" па даручэнню Аддзялення рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук быў разгледжаны акадэмікам А. Ф. Бычковым. Раманаву прапанавалі скласці дапаўненне да слоўніка Насовіча і ілюстраваць тлумачэнне слоў прыкладамі з твораў народнай творчасці. У 1883 г. гэта дапаўненне ў чарнавіку было гатова: словы размешчаны па алфавіту і растлумачаны; заставалася толькі падабраць прыклады з народных твораў[33]. Аднак далейшая работа над слоўнікам была спынена ў сувязі з тым, што Раманаў узмоцнена заняўся падрыхтоўкай да друку свайго "Беларускага зборніка".

Работа над беларускім слоўнікам і беларускай граматыкай навяла Раманава на думку стварыць "Падручнік рускай граматыкі" для беларускіх дзяцей. Адначасова з работай над слоўнікам і граматыкай Раманаў супрацоўнічае ў перыядычным друку і рыхтуе кнігу "Кароткі нарыс ваенных дзеянняў 1877—1878 гг."

У 1880 г. у якасці карэспандэнта з г. Сянно ён супрацоўнічае ў пецярбургскай газеце "Берег". Яго карэспандэнцыі, надрукаваныя ў гэтай газеце, сведчаць аб крытычных адносінах аўтара да існаваўшых парадкаў у Расіі, яны малююць яркую карціну цяжкага жыцця сельскага настаўніка, дробных чыноўнікаў і сялян[34].

Раманаў не перастае збіраць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Да 1884 г. матэрыялаў назбіралася столькі, што ён рашыў выдаць іх шматтомным выданнем у выглядзе "Беларускага зборніка".




29. Вокладка кнігі Е. Р. Раманава

Першы выпуск першага тома "Беларускага зборніка" ў рукапісу быў высланы Раманавым у Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук у 1884 г. з просьбай выдаць яго або аказаць матэрыяльную дапамогу для выдання сваімі сіламі[35]. Рукапіс быў прызнаны Акадэміяй навук "вартым увагі", аднак у выданні яго і ў дапамозе Раманаву было адмоўлена, у сувязі з тым што Акадэміяй ужо выдаваўся падобны зборнік П. В. Шэйна[36]. Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Расійскай Акадэміі навук параіла Раманаву звярнуцца за дапамогай да папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі або ў Магілёўскі статыстычны камітэт. Аднак і тут

[32] Архіў РАН, ф. 9, воп. 1, № 532, л. 1, 2.
[33] Там жа, л. 11, 12.
[34] Берег. СПб., 1880. № 166, 191, 201, 209, 225, 243, 245, 248, 267, 272.

[35] Архіў РАН, ф. 9, воп. 1, № 532, л. 19, 20.
[36] Там жа, л. 23, 24.

яму не аказалі падтрымкі. Толькі ў Кіеве, у друкарні газеты "Заря", карэспандэнтам якой з'яўляўся Раманаў, была знойдзена магчымасць выдаць першы і другі выпускі "Беларускага зборніка" адной кнігай.

Побач з работай над слоўнікам і "Беларускім зборнікам" Раманаў у 1882—1883 гг. займаецца таксама антрапалагічнымі даследаваннямі па даручэнню Таварыства аматараў прыроdaзнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. У 1884 г. яго абіраюць членам гэтага таварыства. У гэтым жа годзе ў газеце "Заря"[37] паяўляюцца нарысы Раманава аб сялянскіх промыслах Гомельскага павета, у якіх выключна праўдзіва адлюстроўваецца жыццё беларускага народа. Характарызуючы сутнасць зямельнай рэформы 1861 г. і развіцця капіталізму ў вёсцы, Раманаў указвае на прычыны, якія прымусілі сялян звярнуцца да адыходных промыслаў. З глыбокім спачуваннем да сялян паказвае ён, як жорстка калечыць людзей капіталістычная эксплуатацыя. Аднак выйсце з цяжкага становішча сялянства аўтар памылкова шукаў у развіцці мясцовай саматужнай прамысловасці. Гэта і прымусіла Раманава вывучаць саматужныя промыслы.

У пошуках сродкаў вызвалення народа ад эксплуатацыі Раманаў не мог знайсці правільных шляхоў, аднак ён горача спачуваў народу і шукаў шляхі для паляпшэння яго становішча. Пад уплывам гэтых акалічнасцей і складаецца галоўны сэнс усёй яго навуковай дзейнасці — служэнне свайму шматпакутнаму народу. Раманаў поўнасцю аддае сябе справе вывучэння быту народа, яго гісторыі, мовы і вуснапаэтычнай творчасці, прыступае да антрапалагічных і археалагічных даследаванняў. Такім чынам, ужо ў пачатку працоўнай дзейнасці ў Раманава вызначаецца шырокі круг навуковых інтарэсаў па вывучэнню роднага краю.

У 1886 г. Е. Раманаў атрымлівае сродкі ад РГТ для этнаграфічнай экспедыцыі ў Магілёўскую губерню. З 1886 па 1891 г. на гэтыя сродкі ён ажыццявіў 5 этнаграфічных экспедыцый, у час якіх шырока вывучаў культуру і быт беларускага народа, запісваў розныя абрады — радзінныя, хрэсьбінныя, вясельныя, пахавальныя, абрады, звязаныя з народным календаром і сельскай працай, а таксама збіраў народныя тлумачэнні сноў, апісваў дзіцячыя гульні, вывучаў беларускія гаворкі і ўмоўныя гаворкі (жаргоны) рамеснікаў, жабракоў і г. д.[38]

У 1887 г. выходзяць з друку трэці, а ў 1891 г. чацвёрты выпускі "Беларускага зборніка", якія змяшчаюць звыш 350 тэкстаў міфалагічных і бытавых беларускіх казак. Услед за чацвёртым выпускам выходзіць у свет і пяты выпуск "Беларускага зборніка" (1891), у якім змешчана 824 замовы, тэксты батлеечнага дзейства, духоўныя вершы і інш.

1886—1894 гг. былі вельмі плённымі ў навуковай дзейнасці Раманава. За гэты перыяд ён надрукаваў каля 60 артыкулаў, нарысаў, рэцэнзій і заметак па беларускай этнаграфіі, археалогіі, гісторыі і філалогіі. З прац па этнаграфіі найбольш цікавымі з'яўляюцца нарысы "Катрушніцкі лемязень", "Любецкі лемязень", "Вопыт беларускага народнага тлумачальніка сноў", рэцэнзія на зборнік З. Радчанка "Гомельскія народныя песні", крытычны артыкул "Спосаб збірання матэрыялаў П. В. Шэйнам", артыкулы "Аб вывучэнні дзіцячых беларускіх гульняў", "Дзіцячыя гульні беларускіх яўрэяў", "Крытычныя заўвагі

[37] Заря. 1884. № 155. 160. 161.

[38] Отчет Русского географического общества за 1888 г. СПб., 1889. С. 22.

на працы па быту беларусаў М. Я. Нікі-фароўскага", рэцэнзія на часопіс "Этнографическое обозрение" і інш.[39]

К гэтаму часу адносіцца і этнаграфічны экскурс Раманава ў гістарычнае мінулае беларускага народа. У 1894 г. выдаецца апрацаваная ім народная легенда "Кара ў сто год", падзеі якой Раманаў адносіць да X—XI стст. Прадмова да легенды, прасякнутая гарачай любоўю аўтара да свайго народа, яго мінулага і сучаснага, адрасавана "інтэлігентнаму чытачу". "Аб народзе не гавару. Ён добра зразумее маю кніжку і без прадмоў"[40], — пісаў Раманаў.

Узяўшы за аснову народныя легенды аб пакаранні Богам злачынцаў і людзей, якія жывуць чужой працай, Раманаў напаўняе іх этнаграфічным матэрыялам, спрабуючы аднавіць карціну старога быту беларусаў, іх звычаяў, абрадаў і песень.

Легенда "Кара ў сто год" была сустрэта чытачамі з вялікай цікавасцю. Таму Раманаў вырашыў паўтарыць вопыт. На гэты раз ён выкарыстаў тэму легенды "Бог у гасцях" і паданні аб каменнях, змешчаныя ў чацвёртым выпуску яго "Беларускага зборніка", і стварыў другую легенду — "Міласцівы Восіп, або міласці хачу, а не ахвяры"[41]. У ёй у большай ступені, чым у першай, выступаюць рэлігійныя матывы. Аднак ад гэтага этнаграфічная каштоўнасць кнігі не зніжаецца, асабліва калі ўлічыць багацце выкарыстаных матэрыялаў пры апісанні быту і абрадаў беларусаў XVI—XVII стст.

У 1886—1894 гг. Раманаў займаецца археалагічнымі раскопкамі як самастойна, так і па даручэнню і на сродкі Маскоўскага археалагічнага таварыства і Археалагічнай камісіі. Яшчэ і цяпер у Эрмітажы, у Музеі антрапалогіі і этнаграфіі імя Пятра I АН Расіі захоўваецца звыш 2000 прадметаў з археалагічных раскопак Раманава (розныя ўпрыгожанні, прылады працы і інш.). Гэтыя раскопкі даюць багацейшыя археалагічныя матэрыялы для вывучэння гісторыі Беларусі, Літвы і Латвіі.

У 1891 г. у сувязі з цяжкай хваробай Раманаў рашыў скласці падрабязнае апісанне свайго жыццёвага шляху на фоне быту беларускага народа. Гэта апісанне засталося ў рукапісу, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Знойдзены рукапіс прадстаўляе сабою этнаграфічны нарыс аўтабіяграфічнага характару. У ім даецца апісанне дзіцячых год аўтара і некаторых бакоў быту насельніцтва Нова-Беліцы і яе ваколіц. Асабліва красамоўна апісана вера ў розныя звышнатуральныя сілы, якімі палохалі дзяцей. Дзе б ні быў чалавек, асабліва дзіця, яго ўсюды праследавалі страх і "небяспека" ад штукарстваў "нячыстай сілы".

Забабонныя жахі яшчэ моцна трымаліся ў свядомасці беларусаў таго часу (сярэдзіна XIX ст.). Дамавікі, вадзяныя, лесавікі, мара, жалезная баба, чэрці, вогненныя змеі, вядзьмаркі, ваўкалакі і іншая нечысць наводзілі страх на палкае ўяўленне дзіцяці.

Характарызуючы розныя ўяўленні народа аб "нячыстай сіле", Раманаў абвінавачвае царкву і царкоўную літаратуру, якія садзейнічалі ўтрыманню гэтых уяўленняў. "У гэтых адносінах, — адзначае ён, — немалую ролю для выпрацоўкі такіх уяўленняў адыгралі ілюстраваныя жыціі айцоў-падзвіжнікаў, якім, як вя-

---

[39] Бібліяграфію прац Е. Р. Раманава гл. у кн.: Бандарчык В. К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. С. 281—295.

[40] Радимич Е. Кара в сто лет. Витебск, 1894. С. 2—4.

[41] Ён жа. Милостивый Осип, или милости хочу, а не жертвы: Быль (По "Белорусскому сборнику" Романова. Витебск, 1896. С. 111).

дома, прыходзілася часта ваяваць з гэтымі прадстаўнікамі царства цемры"[42].

У магілёўскі перыяд (1895—1903) Раманаў апублікаваў каля 100 розных прац. Выдаць такую вялікую колькасць матэрыялаў яму ўдалося дзякуючы таму, што ён з 1897 па 1903 г. быў рэдактарам неафіцыйнай часткі газеты "Могилевские губернские ведомости".

У 1901 г. пасля 10-гадовага перапынку выходзіць VI выпуск "Беларускага зборніка", цалкам прысвечаны казкам.

Другой значнай працай Раманава гэтага часу з'яўляюцца "Матэрыялы па гістарычнай тапаграфіі Віцебскай губерні. Павет Веліжскі" (1898), матэрыялы для якой ён пачаў збіраць яшчэ ў 1886 г. Тут аўтар смела выступае супраць антынавуковых поглядаў дваранскіх і буржуазных гісторыкаў на беларускі народ, супраць русіфікатарскай палітыкі царызму ў Беларусі, да глыбіні душы абураецца тым, што многія айчынныя і зарубежныя "публіцысты" па свайму невуцтву і па "даных нашых невуцкіх падручнікаў геаграфіі" характарызуюць беларускі народ "пазбаўленым усіх добрых якасцей, і фізічных, і маральных, і разумовых"[43].

Ва ўступе да гэтай працы Раманаў дае этнаграфічную характарыстыку беларусаў Віцебскай губерні. Па асаблівасцях мовы ён падзяляе іх на тры групы. Характарызуючы кожную з гэтых груп па моўных прызнаках, Раманаў паказвае адрозненні паміж імі па этнаграфічных асаблівасцях, звяртаючы ўвагу ў першую чаргу на форму, колер і тыпы адзення.

[42] Фундаментальная бібліятэка АН Літвы, рукапісны аддзел, 518-VBF, XXI, л. 1—6.

[43] Романов Е. Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский // Памятная книжка Витебской губернии на 1898 г. Витебск, 1898. С. 119.

На аснове тапанімічных матэрыялаў Віцебскай губерні Раманаў робіць некаторыя вывады. Ён устанаўлівае, напрыклад, што "рух славян сюды адбыўся ў дагістарычную эпоху"[44]. Раманаў адзначае таксама адсутнасць польскай тапанімікі на тэрыторыі Віцебскай губерні. "Падпарадкаванне Польшчы, — пісаў ён, — на мове зямлі не пакінула ніякіх слядоў, акрамя адзінкавых назваў"[45]. Насельніцтва Веліжскага павета, на думку Раманава, менш за ўсё перамешвалася з іншымі народамі. "Павет, — падкрэслівае ён, — з'яўляецца выключным па чысціні аазісам славянскага племені. Найбольш цікавымі пунктамі яго з'яўляюцца: Казакоўская, Будніцкая, Вязьменская і Сяртэйская воласці — з паўднёвых, Усмынская, Баранаўская, Царкоўшчынская і Усвяцкая — з паўночных.

Сюды галоўным чынам і павінны быць накіраваны даследаванні нашых вучоных"[46].

"Матэрыялы па гістарычнай тапаграфіі Віцебскай губерні..." належаць да найбольш буйных даследаванняў Раманава. Асабліва каштоўным з'яўляецца тое, што многія навуковыя вывады ў іх зроблены на аснове асабістага даследавання Беларусі.

Цікавы праграмны артыкул Е. Раманава "Што зроблена па вывучэнню Магілёўскай губерні і што яшчэ трэба зрабіць" надрукаваны ў 1898 г. у "Могилевских губернских ведомостях", у якім побач з аглядам стану вывучанасці Магілёўшчыны ён прапануе шырокую праграму даследавання яе ў гістарычных, этнаграфічных, археалагічных, геаграфічных і эканамічных адносінах.

[44] Романов Е. Материалы... С. 279.

[45] Там жа. С. 280.

[46] Там жа.

Нястомная дзейнасць Раманава па ўсебаковаму вывучэнню Беларусі і выдадзеныя ім працы стварылі яму шырокую вядомасць як вучонаму. У 1886 г. яго абіраюць правадзейным членам РГТ і членам-карэспандэнтам Маскоўскага археалагічнага таварыства, а ў 1890 г. — правадзейным членам гэтага таварыства; у 1888 г. — правадзейным членам Маскоўскага таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і ў 1891 г. — правадзейным членам Віцебскага статыстычнага камітэта[47]. За дасягненні ў этнаграфічным вывучэнні Беларусі Раманаў некалькі разоў узнагароджваецца Маскоўскім таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і Акадэміяй навук.

Аднак трэба адзначыць, што да канца XIX ст. навуковая дзейнасць Е. Раманава мела ў асноўным фалькларыстычную накіраванасць. Асноўная этнаграфічная праца — восьмы выпуск "Беларускага зборніка" — выйшла ў пачатку XX ст. (1912). У гэты перыяд ён выступае як актыўны арганізатар і супрацоўнік Паўночна-Заходняга аддзела РГТ, які праводзіў вялікую работу па этнаграфічнаму вывучэнню Беларусі ў пачатку XX ст. (1910—1914). Ён працягвае друкаваць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы (VII—IX вып. "Беларускага зборніка", I—II вып. "Матэрыялаў па этнаграфіі Гродзенскай губерні") і шматлікія артыкулы. Незадоўга да смерці Раманаў падрыхтаваў да друку X—XIV выпускі "Беларускага зборніка", аднак рукапісы іх былі знішчаны ў час нямецка-фашысцкай акупацыі.

Знаёмства з фальклорна-этнаграфічнымі працамі Е. Р. Раманава паказвае, што амаль ні адна галіна народнага жыцця не выпала з поля зроку выдатнага беларускага этнографа. Быт народа, яго творчасць, матэрыяльная і духоўная культура ва ўсіх яе праяўленнях, абраднасць, вераванні, тлумачэнні сноў, народная медыцына, дзіцячыя гульні — усё гэта знайшло яскравае адлюстраванне ў яго працах. Па сведчанню самога Раманава, ён не займаўся толькі вывучэннем юрыдычнага быту беларуса.

Е. Раманаў адносіцца да той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая выйшла з гушчыні народа і, перажываючы матэрыяльныя нястачы, не змагла атрымаць адукацыі, нягледзячы на багатыя прыродныя дараванні. Не падпаўшы пад непасрэдны ўплыў рэвалюцыйных дэмакратаў, ён у сваім разуменні сацыяльна-гістарычных працэсаў застаўся на пазіцыях ідэолага сялянскай беднаты. Бачачы сацыяльную несправядлівасць існуючага ладу і асуджаючы яго ў сваіх работах, ён, аднак, не здолеў узняцца да разумення неабходнасці звяржэння гэтага ладу рэвалюцыйным шляхам, а шукаў магчымасці паляпшэння яго шляхам рэформ.

Аднак як выхадзец з народа і палымяны патрыёт сваёй радзімы Е. Раманаў да канца свайго жыцця быў прасякнуты гарачай любоўю да свайго шматпакутнага народа і яго гісторыі, з усёй палымянасцю сваёй душы горача выступаў у абарону яго ад нападкаў з боку паклёпнікаў і іншых ворагаў, якія адмаўлялі права беларусаў на нацыянальнае развіццё, апашлялі яго гістарычнае мінулае, мову і народную творчасць. Ён нястомна падкрэсліваў самабытнасць беларускай культуры і яе агульныя з рускай культурай гістарычныя вытокі.

[47] ЦДГА Літвы, ф. 567, воп. 12, № 9403, л. 97—104.

# У. М. ДАБРАВОЛЬСКІ

Уладзімір Мікалаевіч Дабравольскі (1856—1920) нарадзіўся ў с. Красновецкае Прудскай воласці Смаленскага павета ў дробнай дваранскай сям'і[48]. Праводзячы сваё дзяцінства з вясковымі хлапчукамі, ён блізка пазнаёміўся з бытам і культурай простага народа.

У 1876 г. пасля заканчэння Смаленскай гімназіі Дабравольскі паступіў на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта, у якім былі сканцэнтраваны відныя вучоныя-этнографы таго часу — Ф. Буслаеў, М. Кавалеўскі, Д. Анучын, В. Мілер і інш. Яны зрабілі вялікі ўплыў на фарміраванне грамадскіх і навуковых поглядаў Дабравольскага.



30. У. М. Дабравольскі (1856—1920)

Пасля заканчэння Маскоўскага універсітэта (1880) Дабравольскі працаваў выкладчыкам рускай мовы Смаленскай жаночай гімназіі. Але па прычыне хваробы праз два гады ён выходзіць у адстаўку і па парадзе ўрачоў пасяляецца жыць у вёсцы. З гэтага часу ён пачынае вывучаць вуснапаэтычную творчасць і быт народа.

Дабравольскі лічыў, што настаў час, калі трэба прыступаць да стварэння мясцовых фальклорна-этнаграфічных зборнікаў, каб вызначыць, што ў дадзеным канкрэтным этнаграфічным раёне сваё арыгінальнае і што агульнае з іншымі месцамі краіны. Галоўную ўвагу ён звяртаў на вывучэнне беларускай абрадавай вуснапаэтычнай творчасці Смаленшчыны. Аб энтузіязме, з якім Дабравольскі займаўся вывучэннем роднага краю, сведчаць наступныя радкі з пісьма П. В. Шэйна ў РГТ: "Яно (вывучэнне. — *В.Б.*) захапіла ўсяго яго, зрабілася яго культам, яго надзённай патрэбай. Такі энтузіязм яго да збіральніцтва намагніціў і яго маладую жонку і паважаную яго маці... Мала таго, і работнікі і работніцы... як толькі ўспомняць якую-небудзь песню, казку, прыказку, зараз жа нясуць яе да гаспадара..."[49]

На Смаленшчыне жыў музыказнаўца і кампазітар М. Д. Бэр, які праяўляў вялікую цікавасць да народнай музычнай творчасці і займаўся запісам народнага меласу. Разам з Бэрам Дабравольскі аб'ездзіў многія паветы Смаленскай губерні, сабраў вялікую колькасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў[50]. У

---

[48] Гл.: Шлюбскі А. Этнаграфічная дзейнасць Дабравольскага // Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута беларускай культуры. Кн. 4: Працы кафедры этнаграфіі. Мн., 1928. Т. I, сш. 1. С. 117—126

[49] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 1—1866, воп. 1. № 15, 38.

[50] Дабравольскі пісаў, што ў час гэтых паездак Бэру "ўдалося запісаць больш 500 песенных мелодый да сабраных мною тэкстаў" (гл.: Смоленский этнографический сборник. М., 1903. Ч. IV. С. XIII).

доме Бэра Дабравольскі (у сярэдзіне 80-х гадоў) пазнаёміўся са старшынёй Аддзела этнаграфіі РГТ праф. У. І. Ламанскім. Яго прозвішча Дабравольскі называе адным з першых, каму ён выказвае глыбокую падзяку за садзеянне ў этнаграфічных даследаваннях[51]. К гэтаму часу адносіцца і знаёмства Дабравольскага з П. В. Шэйнам. Шэйн настаяў на хутчэйшым накіраванні сабраных Дабравольскім матэрыялаў у РГТ. У 1886 г. Рускае геаграфічнае таварыства пачало рыхтаваць іх да выдання. У гэтым жа годзе таварыства прыняло Дабравольскага членам-супрацоўнікам.

Акрамя вуснапаэтычных твораў і этнаграфічных звестак, Дабравольскі збіраў прадметы быту. За высланыя ў РГТ касцюмы сялян Смаленскай і Арлоўскай губерняў ён быў узнагароджаны таварыствам Малым залатым медалём[52].

Рускае геаграфічнае таварыства ў сваіх "Записках" апублікавала працу Дабравольскага пад назвай "Смаленскі этнаграфічны зборнік", матэрыялы да якой былі сабраны ім у 1882—1892 гг.[53] У наступныя гады ён збіраў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы адначасова для РГТ, Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, а таксама матэрыялы для слоўніка па заданню Акадэміі навук.

У 1902 г. Дабравольскі атрымаў пасаду інспектара народных школ Разанскай губерні, а ў 1906 г. на гэту ж пасаду быў пераведзены ў Ельнінскі павет Смаленскай губерні, дзе яго застала Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Пасля рэвалюцыі Дабравольскі чытаў лекцыі па этнаграфіі і гісторыі тэатра на чырвонаармейскіх курсах у Смаленску, у Беларускім народным універсітэце, Віленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Прафесар В. М. Сідзельнікаў сведчыць, што ў гэтыя гады ён працягваў збіранне рускіх, беларускіх і цыганскіх фальклорных матэрыялаў і вёў вялікую грамадскую работу[54].

Вялікі аматар этнаграфіі і вучоны, Дабравольскі, усё сваё жыццё аддаў вывучэнню роднага краю. Ён аб'ехаў усю Смаленскую губерню і многія мясцовасці Магілёўскай, Калужскай і Арлоўскай губерняў і сабраў багацейшы фальклорна-этнаграфічны і дыялекталагічны матэрыял.

"Смаленскі этнаграфічны зборнік", якому Дабравольскі прысвяціў звыш 10 год свайго жыцця, з'яўляецца асноўнай яго працай. Матэрыялы ў ім размешчаны наступным чынам. У першым томе сабраны расказы сялян аб сваім жыцці, казкі, паданні, легенды, былі, матэрыялы па народнай медыцыне і інш. Змешчаны таксама матэрыялы па мове і ў прыватнасці аб адрозненнях у мясцовых гаворках розных паветаў Смаленшчыны.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе "Расказ Матрошкі Антоненкавай аб сваім жыцці", якім адкрываецца зборнік. Вобразнай мовай сялянка апавядае аб сваёй нядолі. Перад вачыма чытача ўстае цяжкі лёс сялянскай жанчыны, складанасць сямейных адносін, бяссілле простых людзей перад стыхійнымі сіламі (эпідэміяй воспы) і г. д. Расказ сялянкі поўны глыбокага сацыяльнага зместу. У ім гучыць жыццёвы аптымізм, нязлом-

---

[51] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. IV. С. XVI.

[52] Там жа. С. XIV.

[53] Там жа. СПб., 1891. Ч. I; 1893. Ч. II; 1894. Ч. III; 1903. Ч. IV.

[54] Гл.: Народное поэтическое творчество Смоленской области / Под ред. проф. В. М. Сидельникова. Смоленск, 1954. С. 9.


ЗАПИСКИ ИМПЕРАТОРСКАГО РУССКАГО ГЕОГРАФИЧЕСКАГО ОБЩЕСТВА
по отдѣленію этнографіи.
Т. XX.

СМОЛЕНСКІЙ
ЭТНОГРАФИЧЕСКІЙ СБОРНИКЪ.

СОСТАВИЛЪ
В. Н. ДОБРОВОЛЬСКІЙ.

ЧАСТЬ I.

С.-ПЕТЕРБУРГЪ.
Типографія Е. Евдокимова, Б. Итальянская, № 11.
1891.

31. Вокладка кнігі У. М. Дабравольскага

ная воля, а таксама пратэст супраць несправядлівасцей.

Надзвычай багаты раздзел казак першага тома. У ім сабрана вялікая колькасць казак з сацыяльным зместам і антыпапоўскіх. У іх просты селянін заўсёды бярэ верх над панам і папом. Асабліва востра гэтыя ідэі гучаць у казках “Як пан адабраў у мужыка пірог ды гуся, а мужык за гэта тройчы набіў пана”, “Мужык пану шутачкі сшуціў”, “Як поп казлом зрабіўся”, “Як мужык свайго бацюшку паднадуў”, “Як мужык з салдатам папоў губілі” і інш.

Найбольш багаты этнаграфічнымі матэрыяламі другі том “Смаленскага этнаграфічнага зборніка”. Ён поўнасцю прысвечаны сямейнаму быту сялян. Абрадавыя песні пры нараджэнні дзіцяці, апісанне вясельных абрадаў і песні да іх, абрады і галашэнні пры пахаванні і, нарэшце, нарысы аб сямейных звычаях і звычаёвым праве — такі змест гэтага тома. Асабліва вялікае месца ў ім займаюць апісанні вясельных абрадаў і вясельныя песні (673 песні і каля 10 апісанняў абрадаў). Дабравольскі імкнецца паказаць агульныя рысы вясельнага абраду Смаленшчыны і спецыфічныя рысы яго ў паасобных этнаграфічных раёнах губерні. Апошняе асабліва каштоўнае як параўнальны матэрыял для даследчыкаў гэтай галіны быту народа.

Апісанні сямейнага быту яскрава паказваюць, якія змены ў ім адбыліся ў выніку развіцця капіталістычных адносін у вёсцы. Капіталізм разбураў старыя, патрыярхальныя ўстоі сям’і. Гэта прыводзіла да змянення поглядаў на ўзаемаадносіны паміж членамі сям’і, рушыліся граніцы паміж “мужчынскімі” і “жаночымі” работамі, паступова ўсталёўваліся новыя звычаі, абрады і традыцыі.

У тых месцах Смаленскай губерні, дзе бурна развіваліся адыходныя і мясцовыя промыслы, напрыклад у Юхнаўскім павеце, жанчына ў сілу неабходнасці выконвала амаль усе работы па гаспадарцы. Яна касіла, малаціла, арала. Больш таго, жанчыны побач з мужчынамі былі цеслярамі, шаўцамі, краўцамі, печнікамі, пчалярамі і г. д.[55]

У Навасельскай воласці Вяземскага павета жанчыны нават хадзілі на адыходны промысел у Вязьму, дзе наймаліся трапаць лён. Дабравольскі спачувае цяжкай долі жанчыны. Ён, напрыклад, піша аб “пакутах замужняй жанчыны на чужой старане ад чужога роду-племені: ад заловак-калатовак і баламутак, ад кплівых і задзірлівых дзевераў, ад па-

[55] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. II. С. 345.

нурай і карпатлівай свякрухі, ад панурага свёкра. Толькі тады паляпшаецца жыццё нявесткі, калі "прыбяруцца" старыя, калі "залоўкі-мухлёўкі", выданыя замуж, на асабістым вопыце пазнаюць, якое горкае бывае жыццё ў чужой сям'і"[56].

Трэці том уключае прыказкі і прымаўкі. Размеркаванне прыказак і прымавак зроблена не па алфавіту, як было прынята ў той час, а тэматычна, што аблягчае даследчыку адшуканне патрэбных матэрыялаў.

У зборніку ёсць прыказкі з сацыяльным зместам — антыпрыгонніцкія, антыпапоўскія, напрыклад: "У каго карман паўней, таго і суд спраўней"; "Голаму смерць не страшна"; "Войт, пан не бог, а ўваліцца — жыць не дасць"; "Панская ласка не каляска: не сядзеш і не паедзеш"; "Прададзім печ ды палаці, а сабе заставім дым ды копаць, ды нечага лопаць"; "Калі б не была на нас трывога, забылі б мы пра бога"; "Поп з жывога і з мёртвага дзярэць".

Чацвёрты том "Смаленскага этнаграфічнага зборніка" амаль поўнасцю прысвечаны песеннай творчасці народа. У ім змешчана каля 1500 песень, пераважна абрадавых. Да паасобных раздзелаў песень прыводзяцца апісанні абрадаў, гульняў і г. д.

Такім чынам, "Смаленскі этнаграфічны зборнік" змяшчае багаты матэрыял па духоўнай культуры рускіх і беларусаў Смаленшчыны, пераважна па вуснапаэтычнай творчасці.

Акрамя "Смаленскага этнаграфічнага зборніка", пяру Дабравольскага належыць рад артыкулаў аб вераваннях, абрадах, звычаях і па фалькларыстыцы[57]. Некаторыя з іх былі напісаны аўтарам у 90-х гадах. У іх яшчэ ў некаторай ступені адчуваецца ўплыў міфалагічнай школы і міграцыйнай тэорыі.

Большасць артыкулаў адносіцца да пачатку XX ст. Іх змест сведчыць аб тым, што Дабравольскі к гэтаму часу засвоіў палажэнні эвалюцыйнай тэорыі і тэорыі перажыткаў і крытычна ставіўся да тэорыі запазычанняў.

Значную цікавасць уяўляюць артыкулы Дабравольскага па фальклору. У іх выказваюцца адносіны аўтара да вуснапаэтычнай творчасці народа. Асабліва яскрава гэта відаць з артыкула "Прымаўка і загадка". Тут адзначаецца, што вуснапаэтычная творчасць — гэта не прадмет пустой забавы, у ёй адлю-

---

[56] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. II. С. 367.

[57] Ён жа. Народные сказания о самоубийцах // Живая старина. СПб., 1894. Кн. II. С. 204—214; Ён жа. Данные для народного календаря Смоленской губернии в связи с народными верованиями // Там жа. 1898. Кн. III—IV. С. 357—380; Ён жа. О некоторых архаических обычаях, переживаемых народом в Смоленской губернии // Известия Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. Т. XCVII: Труды этнографического отдела. 1900. Т. XIV. С. 280—283; Ён жа. Значение народного праздника "свечи" // Этнографическое обозрение. М., 1900. Кн. 4. С. 35—51; Ён жа. Ветры-духи в сказаниях раскольников Смоленской губернии // Там жа. 1902. Кн. 3. С. 88—93; Ён жа. Насекомые и черви в народной жизни // Этнографическое обозрение 1901. Кн. 2. С. 156—164; Ён жа. Суеверие относительно волков // Там жа. 1901. Кн. 4. С. 135, 136; Ён жа. Различия в верованиях белорусов и великорусов Смоленской губернии // Живая старина. 1903. Кн. IV. С. 470—475; Ён жа. О дорогобужских мещанах и их шубрейском или кубрацком языке // Известия Отделения русского языка и словесности. 1897. Т. II, кн. 2. С. 320—352; Ён жа. Егерьев день в Смоленской губернии // Живая старина. 1908. Кн. II. С. 150—154; Ён жа. Нечистая сила в народных верованиях (по данным Смоленской губ.) // Там жа. 1908. Кн. I. С. 3—16; Ён жа. Обряды и поверья, относящиеся к домашним и полевым работам крестьян Смоленской губернии // Памятная книжка Смоленской губернии на 1909 г. 1908. С. 1—35; Ён жа. Звукоподражания в народном языке и в народной поэзии // Этнографическое обозрение. 1894. Кн. 3. С. 81—96; Ён жа. Пословица и загадка // Живая старина. 1898. Кн. III—IV. С. 494—497; Ён жа. Загадки, записанные в Смоленском уезде // Там жа. 1905. Кн. I—II. С. 77—96.

строўваецца быт народа, яго імкненні, мудрасць, радасць і смутак, правілы жыцця. Загадкі, напрыклад, пісаў Дабравольскі, нярэдка "пры дапамозе паэтычнай фантазіі" "ствараюць цэлыя драматычныя сцэнкі, знаёмячы нас з паўсядзённым жыццём народа і прыродай, якая рассцілаецца перад вачыма селяніна. Праводзячы часам карыкатурныя і парадаксальныя паралелі, параўноўваючы значнае і нязначнае, вялікае і малое, абстрактнае і матэрыяльнае, тонка адшукваючы падабенства паміж самымі рознымі рэчамі... загадка ў сваіх адлюстраваннях дасягнула вялікай рэльефнасці і падкрэслівае, так сказаць, характэрныя і выдатныя якасці рэчаў"[58].

У другім артыкуле, звяртаючыся да разгляду ўзаемасувязі старажытных абрадаў з песеннай творчасцю, Дабравольскі падкрэслівае, што абрадавыя песні ходзяць у народзе да таго часу, пакуль існуе абрад і старажытны звычай[59]. Аднак у радзе сваіх артыкулаў ён як паслядоўнік міфолагаў перабольшвае значэнне рознага роду абрадаў у быце народа. Так, напрыклад, пры апісанні абрадаў "свячы", якія правамерна ім адносяцца да культу хатняга ачага і культу продкаў, ён намагаецца запэўніць, што абрады гэтыя нібыта будуць жыць многія гады[60].

Нарэшце, трэба адзначыць працу Дабравольскага, у якой прыводзіцца надзвычай багаты бытавымі матэрыяламі расказ аб жыцці сялянкі Уліты Епіфанаўны Ізотавай з Жыздрынскага павета[61]. Перад вачыма чытача праходзіць сіроцкае жыццё дзяўчыны, якую потым аддаюць замуж за дурнога мужа і ёй прыходзіцца ўвесь свой век пакутаваць.

Дабравольскі працаваў таксама над складаннем слоўніка мясцовых гаворак — "Смаленскім абласным слоўнікам", які быў выдадзены ў 1916 г.

Працы Дабравольскага былі значнай з'явай у этнаграфіі і фалькларыстыцы дарэвалюцыйнага часу. Яны ўпершыню ў такім поўным выглядзе прадставілі духоўную культуру рускіх і беларусаў Смаленскай губерні. Бытавыя матэрыялы і вуснапаэтычныя творы рускага і беларускага насельніцтва Смаленшчыны, сабраныя і выдадзеныя Дабравольскім, як і працы Раманава па Магілёўшчыне, Нікіфароўскага і Шэйна па Віцебшчыне, прадстаўляюць сабой фундаментальныя фальклорна-этнаграфічныя зборнікі, якія склалі цэлую эпоху ў гісторыі беларускай этнаграфічнай навукі. Асаблівая каштоўнасць навуковых прац і зборнікаў Дабравольскага заключаецца ў тым, што яны далі багатыя матэрыялы для параўнальнага вывучэння быту і культуры рускіх і беларусаў.

[58] Добровольский В. Н. Пословица и загадка // Живая старина. 1898. Кн. III—IV. С. 496.

[59] Ён жа. О некоторых архаических обычаях в Смоленской губернии // Известия Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. Т. XCVII: Труды этнографического отдела. 1900. Т. XIV. С. 280.

[60] Добровольский В. Значение народного праздника "свечи" // Этнографическое обозрение. 1900. Кн. 4. С. 41.

[61] Ён жа. Рассказы из жизни полех Жиздринского Полесья // Живая старина. 1899. Кн. I. С. 3—22; Кн. II. С. 151—166.

# М. А. ЯНЧУК

Мікалай Андрэевіч Янчук (1859—1921) нарадзіўся ў в. Корніца Канстанцінаўскага павета Сядлецкай губерні ў сям'і селяніна (пазней старасты уніяцкай царквы)[62]. Між іншым, трэба адзначыць, што Канстанцінаўскі павет займаў тэрыторыю на стыку Беларусі, Украіны і Польшчы і быў населены прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей. Сам Янчук лічыў вёску, у якой нарадзіўся, украінскай.

Дзіцячыя гады Янчука прайшлі ў вёсцы. Ён быў пастушком, вартаваў сад. Першапачатковую адукацыю атрымаў у мясцовай Корніцкай школе, якую наведваў дзве зімы, а ў 11-гадовым узросце бацька аддаў яго ў Бельскую гімназію. Пасля смерці бацькі апеку над Янчуком узяла сям'я Гарднера, якая была звязана сваяцкімі адносінамі з крытыкам Д. І. Пісаравым. Янчук пераехаў у Маскву, дзе і закончыў курс навучання ў пятай Маскоўскай гімназіі.

Пасля заканчэння гімназіі Янчук паступіў у Маскоўскі універсітэт на філалагічны факультэт. Навуковыя погляды яго як этнографа складаліся пад уплывам такіх вядомых вучоных, як Ф. Буслаеў, М. Ціханраваў, У. Ключэўскі і інш. Пасля паспяховага заканчэння вучобы (1885) Янчук быў пакінуты пры універсітэце для падрыхтоўкі да прафесарскага звання.



32. М. А. Янчук (1859—1921)

Працоўная і навуковая дзейнасць Янчука ў асноўным праходзіла ў маскоўскіх гімназіях і ў Таварыстве аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце, дзе ён з 1889 г. быў адказным сакратаром часопіса "Этнографическое обозрение". Пэўны час Янчук працаваў у Румянцаўскім і Дашкоўскім музеях. Ён быў заснавальнікам і хавальнікам Маскоўскага этнаграфічнага музея. У 1901 г. Янчук узначаліў музычна-этнаграфічную камісію Этнаграфічнага аддзела Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі.

Пасля рэвалюцыі Янчук працаваў выкладчыкам гісторыі беларускай літаратуры і этнаграфіі ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве (1918). Пазней прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у якім быў зацверджаны прафесарам на кафедры беларускай літа-

[62] Біяграфічныя звесткі ўзяты з архіва М. А. Янчука (уласнасць дачкі М. А. Янчука Наталлі Мікалаеўны Янчук, г. Масква), а таксама з наступных прац: Сумцов. Микола Андреевич Янчук // Наука на Украине. Харьков, 1922. № 3. С. 282—285; Шаров Н. В. Н. А. Янчук // Труды Белорусского государственного университета в Минске. 1922. № 2, 3. С. 276—291; Словарь членов Общества любителей российской словесности. М., 1911. С. 337—339.

ратуры і этнаграфіі. У лістападзе 1921 г. Янчук пераехаў у Мінск і пачаў чытаць свой курс лекцый. Аднак заўчасная смерць перапыніла яго бурную грамадскую і навуковую дзейнасць.

Вывучэннем быту і культуры народа Янчук пачаў займацца будучы студэнтам Маскоўскага універсітэта. Прадметам вывучэння ён выбраў сваю радзіму. У 1886 г. выходзіць з друку яго першая буйная этнаграфічная праца "Маларускае вяселле ў Корніцкім прыходзе Канстанцінаўскага павета Сядлецкай губерні"[63]. Ужо ў гэтай працы Янчук выступае як сталы этнограф з пэўнымі навуковымі поглядамі і вялікай эрудыцыяй. Каментарыі да вясельных песень сведчаць аб тым, што Янчук добра ведаў важнейшыя фальклорна-этнаграфічныя зборнікі і навуковыя працы па быту і культуры рускіх, беларусаў і ўкраінцаў.

Матэрыялы для сваёй працы Янчук збіраў на працягу трох год, наведваючы родную вёску пры ўсякім зручным выпадку. Радзіма Янчука прадстаўляла сабою кангламерат бытавых асаблівасцей украінцаў, беларусаў і палякаў з перавагай украінскіх, што вельмі добра відаць з апублікаваных матэрыялаў. Адсюль вынікае і значная каштоўнасць гэтай працы Янчука — яна дае багатыя звесткі для параўнальнага вывучэння быту беларусаў і ўкраінцаў. Янчук падрабязна апісвае вясельны абрад в. Корніца. Апісанні вясельных абрадаў нярэдка суправаджаюцца тлумачэннямі да іх. Так, напрыклад, Янчук прасочвае гісторыю выкупу жаніхом касы нявесты: "Гэты торг уяўляе змяшчэнне трох рыс, якія належаць розным перыядам бытавой гісторыі; пачынаецца ён пакупкай дзяўчыны, далей ідзе продаж касы (замест дзяўчыны), і нарэшце каса застаецца некранутай, так што жаніх, уласна кажучы, выкупляе сабе месца побач з нявестай"[64]. Не менш цікавым з'яўляецца і апісанне абраду "на каравай муку малоці". У апошні чацвер перад вяселлем да жаніха і нявесты збіралася амаль уся моладзь вёскі малоць муку на каравай. Аднак мука, змолатая такім чынам, рэдка бралася для выпечкі каравая, а гэты звычай, піша Янчук, "носіць чыста абрадавы, а не практычны характар"[65].

Большую частку працы займаюць тлумачэнні песень з адсылкамі да іншых варыянтаў у зборніках (рускіх, беларускіх, польскіх і інш.). Каментарыі да песень уяўляюць сабою свайго роду навуковыя даследаванні. Аднак на гэтых каментарыях ляжыць прыкметны адбітак уплыву тэорыі міфолагаў, праўда, са значнай доляй крытычнага падыходу аўтара да іх. Так, у тлумачэнні да адной з песень Янчук крытыкуе Бяссонава за тое, што той усе вясельныя песні па іх паходжанню адносіць да купальскіх. У каментарыях да песень Янчук прыводзіць некаторыя звесткі, хоць і абмежаваныя, па матэрыяльнай культуры жыхароў Корніцы[66].

Да сваёй працы Янчук дадае 35 запісаў мелодый народных песень, з іх 9 вясельных, астатнія — лірычныя, жартоўныя і г. д., якія выконваюцца як у час вяселля, так і ў іншых выпадках.

У 1886 г. на сродкі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі Янчук праводзіць экспе-

[63] Янчук Н. Малорусская свадьба в Корницком приходе Константиновского уезда Седлецкой губернии // Труды этнографического отдела Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. СПб., 1886. Кн. VII. С. 64—178.

[64] Янчук Н. Малорусская свадьба в Корницком приходе Константиновского уезда Седлецкой губернии. С. 85.

[65] Там жа. С. 76.

[66] Там жа. С. 120, 148, 149 і інш.

дыцыю ў Мінскую губерню. У задачу экспедыцыі ўваходзілі этнаграфічныя і антрапалагічныя даследаванні. Нататкі аб сваіх назіраннях Янчук друкаваў у мясцовай газеце "Минский листок"[67] і ў выданнях Таварыства[68].

У працы "Па Мінскай губерні", якая была напісана па матэрыялах экспедыцыі, Янчук заклікае да актыўнага вывучэння Беларусі. Ён абураецца тым, што Беларусь вельмі дрэнна вывучана, а тыя нешматлікія этнаграфічныя звесткі, якія раскіданы па розных выданнях, у значнай ступені тэндэнцыйна адлюстроўваюць быт і культуру беларусаў. Янчук рэзка крытыкуе тых аўтараў, што лічаць беларуса "нейкай вартай жалю адзінкай, якую кожны можа папіхаць, зусім не ведаючы яе". Гэтыя перадузятыя погляды на беларуса Янчук лічыць памылковымі і запэўнівае, што змяніць іх можа "толькі ўважлівае вывучэнне Беларусі"[69].

Янчук дае этнографам метадычныя парады па вывучэнню быту народа. Найбольш мэтазгоднымі ён лічыць працяглыя экспедыцыі стацыянарнага тыпу. Этнограф, на яго думку, павінен сам умець падмячаць асаблівасці быту, а не па расказах апісваць бытавыя з'явы.

У сваёй працы Янчук паведамляе падрабязныя звесткі аб жыцці беларусаў. Малюючы разнастайнасць беларускай прыроды, ён разам з тым заўважае: "І толькі адна рыса ў гэтым малюнку паўтараецца паўсюдна, — гэта беднасць насельніцтва, якая даходзіць да галечы і невуцтва"[70]. Некалькі лепш выглядаюць казённыя вёскі, аднак і там пануе беднасць і беззямелле. "Сямейныя раздзелы, драбленне надзелаў на маленькія ўчасткі паміж сынамі яшчэ больш узмацняюць гэта гаротнае становішча"[71].

Побач з характарыстыкай цяжкага жыцця народа Янчук адлюстроўвае і сацыяльную барацьбу, якая адбывалася ў той час у вёсцы. Ён паказвае адзін з відаў народнага пратэсту — перасяленчы рух. Аўтар адзначае таксама, што "здараюцца часам і бунты сялян у Беларусі"[72]. Селянін адносіцца да пана з недавер'ем, у ім ён бачыць "свайго тайнага ворага"[73]. Адкрыта Янчук піша і аб поглядах сялян на панскую ўласнасць: "Нярэдка сяляне выказваюць тую думку, што ўся зямля павінна належаць народу, і таму яшчэ больш лічаць сябе ў праве прысвоіць сабе ўласнасць пана і казны. Але большай часткай гэта робіцца па неабходнасці"[74].

Асноўную частку сваіх нарысаў Янчук прысвячае апісанню духоўнай культуры народа, пераважна вераванняў, паказваючы пры гэтым цесную сувязь і залежнасць культуры народа ад яго матэрыяльнага становішча. Так, напрыклад, на фактычным матэрыяле ён паказвае, што селянін іншы раз адмаўляецца ад урача і бальніцы не таму, што не разумее іх карысці, а таму, што ўсе гэтыя "благі" для селяніна звязаны з новымі выдаткамі. "Усякі новы падатак,

---

[67] Янчук Н. Из научной поездки в Белоруссию // Минский листок. 1886. № 71, 73; 1887. № 2, 3, 6, 7, 9, 10, 11, 14, 16, 19, 21, 70, 89.

[68] Янчук Н. А. Доклад о поездке в Белоруссию // Известия Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. М., 1887. Т. II, вып. 1. С. 20—24; Ён жа. Этнографическая поездка в Белоруссию (реферат) // Труды этнографического отдела. М., 1888. Кн. VIII. С. 27 (протоколы); Ён жа. По Минской губернии (Заметки из поездки в 1866 г.) // Там жа. М., 1889. Кн. IX, вып. 1. С. 57—112.

[69] Ён жа. По Минской губернии (Заметки из поездки в 1886 г.). С. 57, 58.

[70] Янчук Н. По Минской губернии (Заметки из поездки в 1886 г.) С. 71.

[71] Там жа.

[72] Там жа. С. 76.

[73] Там жа. С. 77.

[74] Там жа. С. 76.

хоць бы і самы мізэрны, з'яўляецца для бяздольнага беларуса лішнім ударам па галаве"[75].

Даследчык падкрэслівае высокія духоўныя якасці беларускага народа. Так, даючы характарыстыку народных мелодый, ён піша: "І якія багатыя ў музычных адносінах трапляюцца №№! Мне б вельмі хацелася пераканаць у адваротным тых, хто ўпэўнены, што беларускія мелодыі сумныя, аднастайныя і не маюць нічога прывабнага"[76].

Пры апісанні вераванняў і забабонаў Янчук асабліва многа спыняецца на вераванні ў "прошчу". Ён паказвае гісторыю ўзнікнення прошчаў і выкарыстанне іх духавенствам для карыслівых мэт, падкрэсліваючы гэтым самым цесную ўзаемасувязь цемнаты і забітасці народа з шарлатанствам духавенства і эксплуататарскай сутнасцю царквы.

Да нарыса Янчук дадае 158 беларускіх народных песень (пераважна абрадавых) і 33 нотныя запісы песенных мелодый. Пазней на аснове сваіх экспедыцый і вывучэння беларускіх фальклорна-этнаграфічных зборнікаў Янчук напісаў некалькі кароткіх нарысаў па быту беларусаў[77].

Адначасова М. А. Янчук праводзіў вялікую арганізацыйную работу па вывучэнню Беларусі, падрыхтоўцы і рассылцы этнаграфічных праграм, дапамозе мясцовым сілам у публікацыі сабраных матэрыялаў, актыўна перапісваўся з многімі беларускімі этнографамі і меў з імі непасрэдныя кантакты. У выніку на старонках часопіса "Этнографическое обозрение" ў 90-х гадах паявілася вялікая колькасць прац беларускіх этнографаў (Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, М. В. Доўнар-Запольскага, Я. А. Ляцкага, П. П. Дземідовіча, П. В. Шэйна, У. М. Дабравольскага і многіх іншых). Дзякуючы Янчуку "Этнографическое обозрение" ў аддзеле крытыкі і бібліяграфіі не прапускала без увагі па сутнасці ніводнай колькі-небудзь значнай працы па этнаграфіі і фальклору Беларусі. Многія рэцэнзіі належаць пяру Янчука. Некаторым даследчыкам, якія вывучалі быт і культуру беларускага народа, Янчук прысвяціў асобныя арыткулы[78], у якіх па-новаму асвятляе навуковую дзейнасць гэтых этнографаў, і ў прыватнасці польскіх, да якіх рускі друк адносіўся тэндэнцыйна.

Свабодны ад вялікадзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму, Янчук дае аб'ектыўную ацэнку такім вучоным, як А. Кіркор, О. Кольберг і інш., і заклікае да цесных сувязей з вучонымі Польшчы і іншых краін. На прыкладах навуковай дзейнасці Кольберга Янчук паказвае, што нельга адрываць паасобныя рысы культуры і быту народа ад агульнай крыніцы гэтага быту. "Народная песня, — пісаў ён, — ёсць неад'емная частка духоўнага жыцця народа, састаўное звяно гэтага жыцця, і як, з аднаго боку, нельга грунтоўна вывучыць песню, не пазнаёміўшыся з народам, які яе стварыў, і яго жыццём, так, з другога боку, нельга вырываць гэту песню з таго асяроддзя, у якім яна нарадзілася і з якім зраслася, будзь гэта

[75] Янчук Н. По Минской губернии (Заметки из поездки в 1886 г.). С. 79.

[76] Ён жа. Доклад о поездке в Белоруссию. С. 23.

[77] Ён жа. Народы России: Краткие объяснительные очерки к художественно-этнографическому альбому. М., 1905; Ён жа. Этнографический очерк Белоруссии: Курс белорусоведения. М., 1918—1920 г. і інш.

[78] Янчук Н. А. А. Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; Ён жа. Оскар Кольберг (по поводу 50-летия его деятельности) // Этнографическое обозрение. 1889. Кн. 2. С. 124—134; Ён жа. С. П. Микуцкий // Этнографическое обозрение. 1890. Кн. 4. С. 166—168.

звычай, абрад, гульня ці які-небудзь іншы бок народнага жыцця"[79].

Гаворачы аб арганізацыйнай дзейнасці Янчука, нельга не адзначыць, што ён быў адным са складальнікаў і рэдактарам разгорнутай "Праграмы для збірання этнаграфічных звестак", выдадзенай Таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі ў 1887 г. Трэба адзначыць, што праграма гэта была для таго часу самай поўнай і шматграннай. Для яе складання былі выкарыстаны ўзоры аналагічных праграм як рускіх, так і замежных аўтараў. "Праграма" закранае важнейшыя галіны быту народа. Яна складаецца з дзесяці раздзелаў. Першыя два раздзелы прысвечаны характарыстыцы геаграфічных і гістарычных умоў дадзенай мясцовасці і антрапалагічным звесткам, трэці—пяты — матэрыяльнай культуры народа, шосты — вытворчаму быту, а астатнія тры раздзелы — духоўнай культуры народа (фальклору, вераванням, абрадам).

Найбольш падрабязна і поўна распрацаваны сёмы і восьмы раздзелы "Праграмы", якія прысвечаны абрадам, вераванням і забабонам. Аднак развіццё іншых галін навук, асабліва эканамічных і сацыялагічных, усё больш і больш патрабавала перабудовы асноў этнаграфіі. Таму невыпадкова аддзелы па матэрыяльнаму і вытворчаму быту ў "Праграме" Янчука былі пастаўлены на першае месца, хоць і распрацаваны яны слабей. Пазней Янчук і сам пачаў звяртацца да матэрыяльнай культуры народа. У 1890 г. ён надрукаваў цікавы артыкул "Этнаграфічныя нарысы Сядлецкай губерні", у якім даюцца паасобныя апісанні жылля, гаспадарчых пабудоў, ежы і асобных элементаў вытворчага быту сялян — украінцаў гэтай мясцовасці.

Імя М. А. Янчука як вучонага-этнографа было вядома Ф. Энгельсу. Свой артыкул "Зноў адкрыты выпадак групавога шлюбу" (1892) Энгельс цалкам пабудаваў на паведамленнях Янчука аб даследаваннях сахалінскіх гілякоў Штэрнбергам[80].

М. А. Янчук быў ініцыятарам стварэння музычна-этнаграфічнай камісіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі.

У пачатку XX ст. у сувязі з узмацненнем нацыянальна-вызваленчага руху і развіццём культуры ў Беларусі Янчук пільна сочыць за яе жыццём і непасрэдна ўключаецца ў дзейнасць па культурнаму адраджэнню краіны. Ён наладжвае цесныя сувязі з беларускімі этнографамі і пісьменнікамі і ў прыватнасці з Янкам Купалам, перакладае яго вершы на рускую мову і піша да іх музыку.

У пачатку XX ст. пад уплывам грамадска-культурнага руху ў Беларусі Янчук ставіць перад Акадэміяй навук задачу перавыдання беларускіх фальклорных твораў і твораў мастацкай літаратуры, якія былі апублікаваны раней і раскіданы па розных выданнях[81].

У гады савецкай улады Янчук апублікаваў лекцыі па беларускай этнаграфіі і літаратуры[82], якія былі першымі паслярэвалюцыйнымі нарысамі па гэтых галінах культуры Беларусі.

---

[79] Янчук Н. Оскар Кольберг (по поводу 50-летия его деятельности). С. 129.

[80] Маркс К. и Энгельс Ф. Полн. собр. соч. 1936. Т. XVI, ч. II. С. 321—324.

[81] Архіў РАН, ф. 134, воп. 3, № 1778.

[82] Янчук Н. А. Этнографический очерк Белоруссии: Курс белорусоведения. С. 152—184; Ён жа. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры старажытнага перыяду. Мн., 1922; Ён жа. Новейшая белорусская литература и ее деятели: Очерки белорусской литературы. М., 1920.

# М. В. ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ

Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі (1867—1934) нарадзіўся ў г. Рэчыцы Мінскай губерні ў сям'і служачага канцылярыі[83]. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Рэчыцкім народным вучылішчы. Пасля заканчэння Мазырскай прагімназіі ён працягваў сваю адукацыю ў 1-й Кіеўскай гімназіі, якую скончыць не ўдалося. З 8-га класа гэтай гімназіі Доўнар-Запольскі быў выключаны з "воўчым білетам" (без права паступлення ў іншыя навуковыя ўстановы) за ўдзел у тайных гуртках і хаванне нелегальнай літаратуры. Аднак здольны і прагны да ведаў юнак у 1889 г. здае экстэрнам экзамен на атэстат сталасці пры 4-й Кіеўскай гімназіі. У гэтым жа годзе ён паступае на гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага універсітэта, які паспяхова заканчвае ў 1894 г. Як адзін з лепшых студэнтаў Доўнар-Запольскі быў пакінуты пры Кіеўскім універсітэце для падрыхтоўкі да прафесарскага звання на кафедры рускай гісторыі. Аднак паліцыя забараніла яму педагагічную дзейнасць у межах Кіеўскай акругі. Доўнар-Запольскі пераязджае ў Маскву і паступае на службу памочнікам архіварыуса Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі і адначасова працуе выкладчыкам у маскоўскіх гімназіях.



33. М. В. Доўнар-Запольскі (1867—1934)

У 1898 г. пасля здачы ў Кіеве магістарскага экзамена Доўнар-Запольскі (у выніку двухгадовых хадайніцтваў гісторыка-філалагічнага факультэта міністр унутраных спраў дазволіў яму рыхтавацца да прафесарскага звання пры Кіеўскім універсітэце, але без права пражывання ў Кіеве) атрымлівае права на чытанне лекцый у якасці прыват-дацэнта Маскоўскага універсітэта. У 1901 г. Доўнар-Запольскі абараняе магістарскую дысертацыю ("Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах") і атрымлівае запрашэнне перайсці на кафедру рускай гісторыі Кіеўскага універсітэта. У 1905 г. Доўнар-Запольскі абараняе доктарскую дысертацыю ("Арганізацыя сельскага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст."). Адначасова з прафесарскай дзейнасцю ў Кіеўскім універсітэце ён з 1906 г. выконвае абавязкі дырэктара створаных ім камерцыйных курсаў, якія былі перайменаваны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Інстытут народнай гаспадаркі.

[83] Біяграфічныя звесткі аб М. В. Доўнар-Запольскім узяты з архіўных матэрыялаў: ЦДГА Украіны, ф. 262, воп. 1, № 1, 2, 17, 20, 31; Архіў РАН, ф. 292, воп. 1, № 4.


14 АПР 1904

Ваше Превосходительство!

По распоряжению Министра Внутренних Дел Довнару-Запольскому воспрещена педагогическая деятельность, о чемъ недавно пришла бумага въ Университетъ. Потому имею честь почтительнѣйше просить Васъ не отказать передать мнѣ его уроки по Исторіи. Адресъ мой: Кіевъ, Владимірская, д 19, кв 2. Кіевъ 14 Апреля 1904 года.

Приватъ-доцентъ Университета по кафедрѣ Всеобщей Исторіи, Алексѣй Николаевичъ Гренъ.

34. Ліст, які пацвярджае забарону педагагічнай дзейнасці М. В. Доўнар-Запольскаму

У Кіеве Доўнар-Запольскі вёў таксама арганізацыйную работу. Ён з'яўляўся старшынёй экспертнай палаты і кіраўніком Таварыства аматараў сацыяльных ведаў, Таварыства Нестара-летапісца, Гісторыка-этнаграфічнага гуртка пры Кіеўскім універсітэце і інш.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Доўнар-Запольскі працуе ў розных навуковых і дзяржаўных установах краіны. У 1920—1922 гг. ён выкладае ў Інстытуце народнай гаспадаркі, у Харкаўскім універсітэце і адначасова з'яўляецца старшынёй тэхніка-эканамічнага савета НК РСІ Украіны. Пазней па запрашэнню Азербайджанскага універсітэта Доўнар-Запольскі пераехаў у Баку (1922), дзе, акрамя прафесарскай дзейнасці, праводзіў вялікую адміністрацыйную і грамадскую работу. Ён быў прарэктарам універсітэта, начальнікам упраўлення прамысловасці і гандлю Наркамата прамысловага гандлю АзССР.

У 1925 г. Доўнар-Запольскі пераязджае ў Мінск і каля двух год працуе ў Беларускім універсітэце і Дзяржплане БССР.

Апошнія гады жыцця Доўнар-Запольскі правёў у Маскве, дзе ён працаваў выкладчыкам Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі, Інстытута народнай гаспадаркі імя Пляханава і адначасова з'яўляўся старшынёй секцыі гісторыі народнай гаспадаркі Усходу Навуковай асацыяцыі ўсходазнаўства пры ЦВК СССР.

Доўнар-Запольскі быў гісторыкам з вельмі шырокім колам інтарэсаў. За 40-гадовы перыяд навуковай дзейнасці ім напісана звыш 150 прац па гісторыі Кіеўскай Русі, Маскоўскай дзяржавы, Расіі XIX ст., Літвы і Беларусі, па грамадска-палітычнаму руху і сялянскаму пытанню і па этнаграфіі Беларусі. Для сваіх прац ён выкарыстаў вялікую кольскасць архіўных матэрыялаў. Доўнар-Запольскі абследаваў звыш 20 архіваў Масквы, Пецярбурга, Кіева, Вільні, Варшавы, Кракава, Львова, а таксама архівы Кастрамы, Яраслаўля, Ноўгарада, Нясвіжа і іншых гарадоў[84].

Пераважна на архіўных матэрыялах пабудаваны яго працы, якія прысвечаны дзекабрысцкаму руху ("Тайнае таварыства дзекабрыстаў". М., 1906; "Мемуары дзекабрыстаў". Кіеў, 1906; "Ідэалы дзекабрыстаў". М., 1907 і інш.). Некалькі прац Доўнар-Запольскі прысвяціў палітычнаму ладу Расіі ("Палітычны лад Старажытнай Русі". М., 1906; "Палітычныя ідэалы М. М. Сперанскага". М., 1906; "Зараджэнне міністэрстваў у

[84] ЦДГА Украіны, ф. 262, воп. 1, № 31, л. 2—4.

Расіі". М., 1906; "З гісторыі грамадскіх плыняў у Расіі": Зборнік артыкулаў. Кіеў, 1905 і інш.).

Аднак для большасці прац Доўнар-Запольскага характэрна гістарычная тэма з тэндэнцыямі эканамізму ў распрацоўцы пытанняў рускай і беларускай гісторыі. Шукаючы адказу на пытанне аб рухаючай сіле гісторыі чалавечага грамадства ў эканамічных адносінах паміж людзьмі, у спосабе вытворчасці, Доўнар-Запольскі пачынае займацца вывучэннем сацыяльна-эканамічнага ладу розных эпох Рускай дзяржавы, Беларусі і Літвы. У выніку з'яўляецца рад яго навуковых прац па гэтых пытаннях ("Нарысы па арганізацыі заходнерускага сялянства". Кіеў, 1906; "Гісторыя рускай народнай гаспадаркі". Кіеў, 1911 і інш.).

У паслярэвалюцыйны час у навуковай дзейнасці Доўнар-Запольскага галоўнай застаецца сацыяльна-эканамічная тэматыка. Ён працягвае займацца гісторыяй, народнай гаспадаркай і статыстыкай Беларусі ("Нарыс сацыяльна-эканамічнай структуры Беларусі ў XVI—XVIII стст." Мн., 1925; "Народная гаспадарка Беларусі 1861—1914 гг." Мн., 1926; "СССР па раёнах. Заходні раён (Беларуская ССР і заходняя вобласць РСФСР)". М.; Л., 1928 і інш.).

Этнаграфічная дзейнасць Доўнар-Запольскага пачынаецца вельмі рана, яшчэ ў юнацкія гады. Ужо ў 1883 г. 16-гадовы гімназіст выступае ў якасці карэспандэнта з г. Мазыра ў кіеўскай газеце "Заря", а з 1884 г. — адначасова і ў пецярбургскім часопісе "Еженедельное обозрение". Пазней ён змяшчае рад артыкулаў па этнаграфіі Беларусі ў мясцовых перыядычных выданнях, а таксама ў часопісах Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і Рускага геаграфічнага таварыства.

Свае навуковыя погляды Доўнар-Запольскі вельмі выразна выкладае ў газетнай заметцы "Навіны беларускай навукі", прысвечанай працы Янчука "Па Мінскай губерні". З яе відаць, што аўтар пільна сачыў за развіццём этнаграфічнага вывучэння Беларусі і добра ведаў этнаграфічную літаратуру таго часу. Ён вітае з'яўленне новых этнаграфічных прац па Беларусі (зборнікі Раманава, Шэйна, Карскага, працы Пыпіна, Янчука і інш.), якія даюць сапраўды навукова аб'ектыўныя звесткі аб Беларусі і беларускім народзе. Гэта, на думку Доўнар-Запольскага, дае магчымасць развянчаць антынавуковыя погляды на беларусаў як на народ, які нібыта не мае сваёй уласнай нацыянальнай прыналежнасці. "Палякі, — пісаў ён, — лічылі яе (Беларусь. — *В. Б.*) амаль што не Польшчаю, велікарусы амаль Велікарасіяй і нават маларусы, у асобе львоўскага праф. О. Аганоўскага (у яго "Гісторыі маларускай літаратуры"), прызналі беларусаў амаль маларусамі"[85].

Доўнар-Запольскі абвяргае гэтыя погляды на Беларусь і радуецца з прычыны таго, што вывучэннем Беларусі займаюцца мясцовыя сілы, у працах якіх "аб сваёй радзіме відаць сімпатычныя, любоўныя адносіны да справы і краіны, што даходзяць іншы раз да ахвяравання", і "адносяцца да пытання з чыста аб'ектыўнага і навуковага пункту погляду"[86]. Аднак, як адзначае аўтар, усё гэта пакуль што толькі пачатак. "Навука беларуская слабая, яшчэ толькі ў зародку, прытым у большай частцы ўрывачная, выпадковая і раскіданая, няма агульнай ідэі, якая б была кіруючай у гэтых работах, няма ядра, каля якога б маглі групавацца дзеячы, нарэшце, нямала перашкаджаюць справе аднабакова-тэндэн-

[85] Виленский вестник. 1889. № 81.
[86] Там жа.

цыйныя погляды на Беларусь, што з'явіліся ў польскай і рускай літаратуры"[87].

Для паспяховага вывучэння Беларусі Доўнар-Запольскі прапануе стварыць мясцовыя навуковыя таварыствы, адкрыць у Беларусі свой універсітэт, які б стаў мясцовым навуковым цэнтрам. Звяртаючыся да даследчыкаў роднага краю, Доўнар-Запольскі пісаў: "Этнографу трэба глыбока вывучаць мясцовае жыццё ва ўсіх яго праяўленнях, бачыць гэтыя праяўленні ў паўсядзённым быце..."[88]

Этнаграфічным даследаванням Доўнар-Запольскі адводзіў асноўнае месца пры вывучэнні гістарычных працэсаў чалавечага грамадства. Ужо ў 1888 г. у адным з артыкулаў ён пісаў: "У вывучэнні быту народаў і заключаецца галоўны інтарэс гісторыі"[89]. Таму даследчык з вялікай радасцю сустракае працу Пыпіна па гісторыі беларускай этнаграфіі.

У 1890—1891 гг. Доўнар-Запольскі па даручэнню Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі праводзіць працяглую экспедыцыю ў Беларусь. Галоўнай задачай гэтай экспедыцыі было этнаграфічнае даследаванне Мінскай і Гродзенскай губерняў. Вынікі сваіх даследаванняў Доўнар-Запольскі апублікаваў у перыядычным друку пад назвай "Заметкі з падарожжа па Беларусі"[90]. У гэтай працы разглядаюцца важнейшыя пытанні быту і культуры беларускага народа. Доўнар-Запольскі яшчэ больш яскрава, чым у папярэдніх артыкулах, выказвае свае прагрэсіўныя погляды на народ, рашуча выступае супраць паклёпнікаў на быт і культуру беларускага народа, поўнасцю салідарызуецца з поглядамі прагрэсіўнай польскай пісьменніцы і этнографа Э. Ажэшкі, якая "абараняе сялян наколькі можа". "Безумоўна, — пісаў ён, — гаварыць аб тым, што ў нашага селяніна "ёсць сэрца" ці "няма сэрца", аб чым спрачаліся польскія этнографы, на нашу думку, нават смешна. Быццам селянін у маральных адносінах не такі ж чалавек, як і ўсе мы"[91].

Доўнар-Запольскі падкрэслівае, што правільныя погляды на народ і яго культуру могуць скласціся ў даследчыкаў толькі пры глыбокім вывучэнні народа і пры пастаянным кантакце з ім. Ён намякае, што не кожны інтэлігент можа пранікнуць у душу селяніна, што народ выкажа свае думкі і пачуцці не з кожным прадстаўніком пануючых класаў. Гэта даступна толькі таму, "хто падыдзе к селяніну не як "пан", а як звычайны смяротны ўступіць з ім у размову"[92].

Прывёўшы некалькі прыкладаў у пацвярджэнне сваіх поглядаў, аўтар абураецца, што ў селяніна "забіраюць лепшую асаблівасць чалавечай істоты — пачуццё любві"[93]. "Сумна, — заключае аўтар, — што ў наш час яшчэ не бескарыснай з'яўляецца абарона селяніна"[94].

Доўнар-Запольскі не толькі сам вывучае быт і культуру беларускага народа, але заклікае да такой ганаровай працы перадавыя сілы краіны. З гэтай мэтай ён распрацоўвае праграмы для збірання этнаграфічных матэрыялаў і рассылае іх у рукапісах народным настаўнікам Мінскай губерні. У 1893 г. выдае праграму-заклік "Значэнне этна-

[87] Виленский вестник. 1889. № 81.

[88] Там жа.

[89] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. I. С. 345.

[90] Виленский вестник. 1890. № 202, 206, 210, 211, 217, 220, 225, 232, 264, 265; 1891. № 9, 18, 22, 23, 25, 27, 28.

[91] Там жа. № 202.

[92] Запольский М. Заметки из путешествия по Белоруссии // Виленский вестник. 1890. № 202.

[93] Там жа.

[94] Там жа.

графічнага вывучэння “Гродзенскай губерні”. З дапамогай праграм была сабрана значная колькасць этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў.

Этнаграфіяй Беларусі Доўнар-Запольскі займаўся больш дваццаці год, да пераходу на выкладчыцкую работу ў Маскоўскі універсітэт. За гэты перыяд ім надрукавана звыш 30 прац па беларускай этнаграфіі і фальклору і некалькі артыкулаў па беларускай мове і літаратуры. Асноўная каштоўнасць этнаграфічных прац Доўнар-Запольскага заключаецца ў тым, што пераважная большасць іх носіць навукова-даследчы характар. Гэтым па сутнасці і адрозніваюцца яны ад прац іншых этнографаў Беларусі таго часу, якія пераважна займаліся збіраннем, сістэматызацыяй і друкаваннем сырых этнаграфічных матэрыялаў.

Найбольшае адлюстраванне ў этнаграфічных працах Доўнар-Запольскага атрымаў сямейны быт беларускіх сялян і асабліва вясельныя абрады. У 1888 г. у Кіеве выходзіць з друку асобным выданнем першая яго праца — “Беларускае вяселле і вясельныя песні”. Гэта тэма становіцца вядучай у этнаграфічных даследаваннях Доўнар-Запольскага. У далейшым гэтаму пытанню ён прысвяціў яшчэ некалькі прац, самай значнай з якіх з’яўляецца “Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках” (“Этнографическое обозрение”, № 1, 2, 4 за 1893 г.).

У аснову даследавання пакладзены апісанні беларускага вяселля з Нікольскай воласці Мінскага павета, дасланыя Доўнар-Запольскаму карэспандэнтамі-этнографамі П. Дземідовічам і Ф. Ермаловічам. Праводзяцца таксама аналогіі з апісанняў беларускага вяселля ў зборніках Шэйна, Насовіча, Дамбавецкага, Кіркора, С. Карскага, Раманава, Янчука, З. Радчанка і інш. Сучасныя яму абрады беларускага вяселля Доўнар-Запольскі параўноўвае з мінулымі, а таксама з аналагічнымі рускімі, украінскімі, заходне- і паўднёваславянскімі і з абрадамі іншых народаў Еўропы неславянскага паходжання.

Карыстаючыся гісторыка-параўнальным метадам, Доўнар-Запольскі намагаецца знайсці агульныя заканамернасці ў гісторыі паасобных абрадаў і рытуалаў шлюбу і вяселля ў розных народаў свету, прасачыць гісторыю некаторых з іх. Ён падкрэслівае, што першапачатковы сэнс большасці абрадаў народ не помніць і не разумее. Многія з іх ператварыліся ў звычайныя ўвесяленні і забавы, і толькі некаторыя мелі магічнае значэнне. Большасць абрадаў сватаўства, заручын і вяселля Доўнар-Запольскі выводзіць з родавага ладу, з матрыярхату, паказвае іх рытуальнае і бытавое значэнне. Так, абрады сватання і запоін ён лічыць перажыткам куплі-продажу нявесты[95]. Значэнне дружыны жаніха і нявесты адносіць да часу, калі нявесту выкрадалі з другога роду. Прыводзіцца ў сувязі з гэтым цікавы абрад ад’езду дружыны жаніха ў беларусаў Цвярской губерні. Перад ад’ездам жаніх становіцца абедзвюма нагамі на скавараду, а члены дружыны (6—8 чалавек) ставяць толькі правыя ногі і даюць клятву: “Стаяць адзін за аднаго, брат за брата, за адзіную кроў-каплю”[96].

Вялікую цікавасць маюць даследаванні Доўнар-Запольскага такіх абрадаў, як пасад жаніха і нявесты. Ён паказвае складаную гісторыю гэтага абраду. У старажытнасці гэта “бытавы акт — прыняцце ў лік членаў роду новага ўзмужнелага члена...” Пазней дадзены абрад перайшоў у цыкл вясельных.

[95] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Т. I. С. 66.

[96] Там жа. С. 68.

Толькі ўзмужнеламу члену роду "...дазваляецца ўвесці ў дом новага члена, будучую жонку яго. Гэтым тлумачыцца сувязь пасаду з вясельнымі абрадамі. Далей пасад абстаўлены пераважна родавым культам, затым аграрным. Ён прыняў канчатковы выгляд, відаць, у той час народнага жыцця, калі народ меў родавы лад і калі галоўным яго заняткам было земляробства"[97].

Пры аналізе вясельных абрадаў Доўнар-Запольскі час ад часу паказвае бытаванне іх у сувязі з сацыяльным становішчам асобных слаёў насельніцтва і ўзаемаадносінамі народна-традыцыйных абрадаў з хрысціянскай рэлігіяй. Так, ён заўважае, што ўвесь цыкл вясельных абрадаў бядняцкая частка насельніцтва не магла правесці ў час вяселля. "Уся гэта працэдура ў бедных скарачаецца, — піша ён, — каб пазбегнуць расходаў"[98]. У другім месцы, паказваючы ролю царкоўнага вянчання, Доўнар-Запольскі адзначае, што яно пры шлюбе "не адыгрывае істотнага значэння"[99]. "Па разуменню беларусаў, — падкрэслівае ён, — без "вяселля", г. зн. усяго рытуалу, поўнасцю законнага шлюбу быць не можа. Часам паміж вянчаннем і вяселлем праходзіць некаторы час, і ўсё ж такі фармальныя муж і жонка лічацца толькі жаніхом і нявестай"[100].

Да гэтай працы Доўнар-Запольскага непасрэдна прымыкаюць і наступныя яго даследаванні: "Сватаўство і дружына жаніха ў беларускім вяселлі"[101], "Рытуальныя значэнні каравайнага абраду ў беларусаў"[102], "Матывы вясельных песень пінчукоў"[103], "Жаночая доля ў песнях пінчукоў"[104], "Сонейка і месяц у беларускай вясельнай паэзіі"[105], а таксама да некаторай ступені і праца "Першабытныя формы шлюбу"[106].

Доўнар-Запольскі вядомы і як даследчык сямейнага звычаёвага права беларусаў. Па гэтай галіне быту асноўнай яго працай з'яўляецца "Звычаёвае сямейнае права сялян Мінскай губерні"[107]. Для гэтай працы М. В. Доўнар-Запольскі выкарыстаў матэрыялы валасных судоў з розных валасцей Рэчыцкага, Бабруйскага і Пінскага паветаў, якія ён наведаў у час экспедыцыі 1890—1891 гг., а таксама асабістыя назіранні ў час экспедыцый і звесткі карэспандэнтаў з Мінскага, Навагрудскага і Мазырскага паветаў. Найбольш верагоднай крыніцай ён памылкова лічыў рашэнні валасных судоў. Ва ўмовах паліцэйска-бюракратычнага рэжыму царскай Расіі валасныя суды ў сваіх рашэннях звычайна ігнаравалі народнае звычаёвае права і мясцовыя традыцыі. Пры этнаграфічных даследаваннях звычаёвага права найбольш верагоднымі былі б непасрэдныя нагляданні даследчыка за жыццём народа.

Доўнар-Запольскі разам з тым слушна заўважае, што заканадаўства царскага ўрада не пранікла ў сямейнае жыццё селяніна таму, відаць, што яно не адпавядала яго ўнутраным заканамернасцям і насіла антынародны характар. Ён прыводзіць прыклад, у якім "нават сустракаем цікавую барацьбу мясцовага

---

[97] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Т. I. С. 121.

[98] Там жа. С. 70.

[99] Там жа. С. 62.

[100] Там жа.

[101] Минский листок. 1892. № 57.

[102] Труды этнографического отдела Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. М., 1900. Т. XIV. С. 284—292.

[103] Довнар-Запольский М. В. Мотивы свадебных песен пинчуков. Гродна, 1893.

[104] Этнографическое обозрение. 1891. Кн. 1.

[105] Минский листок. 1894. № 84.

[106] Упершыню надрукавана ў 1892 г. Гэта і большасць астатніх этнаграфічных прац Доўнар-Запольскага змешчаны ў яго зборніку "Исследования и статьи".

[107] Виленский вестник. 1892. № 174, 186; Этнографическое обозрение. 1897. Кн. 1, 2.

звычаю з уладай установы па сялянскіх справах"[108], і адзначае, што "асновы звычаёва-прававых поглядаў так ці інакш падрываюцца"[109], асабліва ў практыцы вырашэння крымінальных спраў.

Паслядоўна адно з другім Доўнар-Запольскі разглядае праяўленне народнага звычаёвага права ў розных формах сям'і, ва ўзаемаадносінах, правах, становішчы паасобных членаў сям'і, у шлюбе і вяселлі, становішчы нявесткі і прымака, адносінах да сям'і і працы, у пытаннях сямейных падзелаў, права спадчыны і г. д. У радзе выпадкаў ён паказвае змены ў сямейным быце сялян і прававых нормах, што адбыліся ў перыяд капіталізму, і падкрэслівае, што ў глухіх кутках Палесся "распад вялікай сям'і і сямейнай абшчыны ідзе найбольш хутка"[110]. Доўнар-Запольскі вылучае як новую з'яву з'яўленне на месцы патрыярхальнай сям'і "штучнай абшчыны", якая стваралася не на сваяцкіх адносінах, а на эканамічных сувязях.

Вядома, што капіталізм бесперапынна выштурхоўваў масы сялян у лік пралетарыяў. Пазбаўленыя зямлі і сродкаў вытворчасці такія сяляне ішлі ў горад ці наймаліся парабкамі, а ў радзе выпадкаў прымаліся ў сем'і, якія не мелі дастатковых сіл, у якасці здольнікаў. Часта здольнік пасля шматгадовай працы згодна звычаёваму праву станавіўся паўнапраўным членам сям'і. На прыкладзе "штучнай сям'і" можна прасачыць як новыя ўзаемаадносіны, так і традыцыйныя — зямля павінна належаць таму, хто яе апрацоўвае. "Недастаткова, — пісаў Доўнар-Запольскі — быць фармальна прынятым у сям'ю — трэба яшчэ на яе папрацаваць. Звычаёвае права адносіцца з глыбокай павагай да шматгадовай працы, якая прыкладаецца да яе: прызнае права на валоданне зямлёй і пабочных асоб, якія доўгі час працавалі на ёй і набылі такім чынам права на самую зямлю"[111].

Не ўскрываючы прычыны рассяляньвання вёскі, Доўнар-Запольскі добра заўважаў гэту тэндэнцыю. Ён паказвае, што ў малодшага пакалення ўжо няма той цягі да зямлі, якая была раней. Усведамленне таго, што на невялікіх зямельных надзелах пры далейшым іх драбленні "ўнукам есці не будзе чаго", сялянская сям'я вымушана "звяртаць больш увагі на пабочныя заробкі, адсылаць лішнія рабочыя рукі шукаць шчасця ў горадзе"[112].

Пераходзячы да характарыстыкі звычаёвага права пры сямейных падзелах, Доўнар-Запольскі бачыць асноўную прычыну ўзмацніўшыхся сямейных раздзелаў "у заняпадзе агульнага эканамічнага ладу"[113]. "Збядненне сям'і, — адзначае ён, — малазямельнасць, неўраджаі, якія часта бываюць у апошні час, цяжкасць знайсці заробкі і між тым дастаткова значныя падаткі, якія абцяжарваюць гаспадарчы бюджэт селяніна, — вось агульныя прычыны, што выклікаюць раздзелы"[114].

Такім чынам, Доўнар-Запольскі надзвычай добра паказваў знешнія фактары заняпаду асноўнай масы сялянскіх гаспадарак, але не змог убачыць іх прычыну ў існаваўшым сацыяльна-палітычным ладзе царскай Расіі. Класавыя супярэчнасці ім па сутнасці ігнаруюцца.

Акрамя навукова-даследчых прац, Доўнар-Запольскаму належыць і рад даследаванняў апісальнага характару, у

---

[108] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Т. I. С. 2.

[109] Там жа.

[110] Там жа. С. 4.

[111] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Т. I. С. 8.

[112] Там жа. С. 44.

[113] Там жа. С. 48.

[114] Там жа.

якіх ён дае каштоўныя звесткі па быту, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. Гэта перш за ўсё яго "Заметкі з падарожжа па Беларусі"[115], якія друкаваліся ў ходзе яго экспедыцыі 1890—1891 гг. У гэтай працы Доўнар-Запольскі змясціў рад каштоўных і надзвычай цікавых бытавых замалёвак, апісанні эканамічнага быту, матэрыяльнай культуры, вытворчага быту, абрадаў і юрыдычных звычаяў і г. д. У гэтых нарысах ён рашуча выступаў супраць паклёпаў на годнасць беларуса і з вялікай цеплынёй і любоўю ахарактарызаваў простага беларускага селяніна.

Але ў апісаннях быту народа Доўнар-Запольскі скатваўся да ідэалізацыі яго, ён заплюшчваў вочы на цяжкае эканамічнае становішча асноўнай масы беларускага сялянства, ігнараваў класавы антаганізм і класавую барацьбу, якія ў эпоху капіталізму асабліва яскрава праяўляліся ў вёсцы. Вось як, напрыклад, характарызуе ён сялян Піншчыны: "Знешні выгляд насельніцтва адпавядае тым эканамічным умовам, у якія яно пастаўлена. Жанчыны і мужчыны апрануты чыста, маюць бадзёры выгляд; аб праслаўтай загнанасці Беларусі тут не можа быць і гутаркі. Уваходзячы да вас, селянін вольна падае руку, сядае і г. д. Усюды і ва ўсім селянін адчувае сябе гаспадаром і чалавекам самастойным, незалежным"[116].

І толькі ў паасобных месцах сваёй працы Доўнар-Запольскі падкрэслівае цяжкую эканамічную прыгнечанасць народа. У гэтых выпадках ён стаіць на баку народа. Так, эпіграфам да аднаго з артыкулаў "Заметак" Доўнар-Запольскі прыводзіць урывак з паэмы Н. Д. "Палессе" (відаць, рукапіснай), у якім гучыць смутак з прычыны цяжкага лёсу народа і любоў да яго:

> Здесь невесело живется,
> Но средь бедного народа
> Нет ни праздных, ни ленивых...
> Он в мечтах своих правдивых
> Ценит дивным даром неба
> Драгоценною свободой
> И куском насущным хлеба,
> Данным мачехой-природой.[117]

У канцы "Заметак" даюцца прыклады капіталістычнай эксплуатацыі сялян, якія наймаюцца на плытагонныя промыслы. Прамыслоўцы, карыстаючыся цяжкім эканамічным станам сялян, шляхам крэдыту закабаляюць іх яшчэ зімою. "Я думаю, — пісаў Доўнар-Запольскі, — цяжка каму-небудзь паверыць, каб у нас, амаль у дваццатым стагоддзі, мог існаваць гандаль людзьмі; а між тым гэты гандаль існуе ў самых шырокіх памерах. Справа вядзецца вельмі проста і на цалкам законных асновах"[118].

"Заметкі з падарожжа па Беларусі" ляглі ў аснову многіх пазнейшых прац Доўнар-Запольскага і ў першую чаргу ў аснову агульнаэтнаграфічнага нарыса "Беларусы"[119]. Нарыс вельмі яскрава характарызуе быт беларусаў (жыллё, адзенне, ежу, сямейныя звычаі і абрады, вытворчы быт, вераванні і забабоны вясковых жыхароў Беларусі).

Да апісальных прац Доўнар-Запольскага па этнаграфіі Беларусі належаць таксама "Заметкі па беларускай этнаграфіі"[120], "Сялянскія гульні ў Мінскай губерні"[121] і інш.

---

[115] Запольский М. Заметки из путешествия по Белоруссии. № 202, 206, 210, 211, 217, 219, 220, 225, 232, 264, 265; 1891, № 9, 18, 22, 23, 25, 27, 28.

[116] Там жа. № 220.

[117] Запольский М. Заметки из путешествия по Белоруссии. № 220.

[118] Там жа. 1891. № 25.

[119] Россия: Полное географическое описание нашего отечества / Под ред. В. П. Семенова. СПб., 1905. Т. IX. С. 135—227.

[120] Живая старина. 1893. № 2, 3; 1894. № 1.

[121] Там жа. 1891. № 4.

Асабліва вялікая колькасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў была сабрана Доўнар-Запольскім у час летніх этнаграфічных экспедыцый 1890—1891 гг. у Мінскую губерню. Этнаграфічны аддзел Таварыства ў 1891 г. пачаў друкаванне фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, сабраных Доўнар-Запольскім у час гэтых экспедыцый. Аднак з выпадку пажару, які здарыўся ў тыпаграфіі ў маі 1892 г., надрукаваная частка зборніка была знішчана і далейшае друкаванне яго было спынена. Таму Доўнар-Запольскі вымушаны быў шукаць іншыя шляхі для апублікавання сваіх зборнікаў.

У 1895 г. частку фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў пад назвай "Песні пінчукоў" Доўнар-Запольскі выдае ў Кіеве асобным зборнікам. Аднак большасць матэрыялаў, сабраных М. В. Доўнар-Запольскім, засталася неапублікаванай. Яны раскіданы па розных архівах ці загінулі. Так, у Архіве Геаграфічнага таварыства Расіі ў Ленінградзе захоўваецца рукапісны зборнік беларускіх казак, які быў дасланы Доўнар-Запольскім у РГТ у 1897 г.[122] Зборнік складаецца з 82 казак, запісаных самім збіральнікам і яго карэспандэнтам настаўнікам Мінскай губерні П. Дземідовічам. У гэтым жа архіве захоўваюцца і матэрыялы аб вераваннях беларусаў з уступным артыкулам "Заметкі па беларускай этнаграфіі"[123], таксама дасланыя Доўнар-Запольскім у гэтым жа годзе. Невялікая колькасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў захоўваецца ў Кіеве[124]. У пісьме ад 19 студзеня 1897 г. у Этнаграфічны аддзел РГТ Доўнар-Запольскі паведамляў, што ў яго ёсць вялікі збор беларускіх песень з запісамі абрадаў. "Гэты збор я з найвялікшай


М. Довнаромъ-Запольскимъ.
Вып. 1.

ПѢСНИ ПИНЧУКОВЪ.

Съ приложеніемъ карты сѣв. части уѣзда и статьи о говорѣ.

КІЕВЪ.
Типографія Императорскаго Университета Св. Владиміра.
В. І. Завадзкаго, Б.-Васильковская, д. № 29—31.

35. Вокладка кнігі М. В. Доўнар-Запольскага

гатоўнасцю перадаў бы ў распараджэнне Этнаграфічнага аддзела, калі б Аддзяленне знайшло магчымасць выкарыстаць іх для выдання"[125]. Лёс гэтых матэрыялаў нам невядомы.

Такім чынам, спадчына Доўнар-Запольскага ў галіне беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі даволі багатая і разнастайная. Яго навукова-даследчыя працы і публікацыі матэрыялаў адыгралі немалаважную ролю ў справе далейшага развіцця беларускай этнаграфічнай навукі і фалькларыстыкі.

Разам з тым Доўнар-Запольскі пільна сачыў за развіццём культуры ў Беларусі, прымаў удзел у стварэнні навуковых таварыстваў, нярэдка быў ініцыятарам новых пачынанняў, клапаціўся аб стварэнні спрыяльных умоў для раз-

[122] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, разр. 54, воп. 1, № 12.

[123] Там жа. № 14.

[124] ЦДГА Украіны, ф. 262.

[125] Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, разр. 54, воп. 1, № 12, л. 1, 2.

віцця беларускай культуры, навукі і літаратуры. Так, напрыклад, ён першы ўзняў пытанне аб стварэнні ў Віцебску гісторыка-археалагічнага таварыства, клапаціўся аб выданні вершаў Я. Лучыны і г. д. Праўда, гэта дзейнасць яго не выходзіла за рамкі існуючага ў той час сацыяльна-эканамічнага ладу.

Нягледзячы на тое што па роду сваёй дзейнасці Доўнар-Запольскі вымушаны быў знаходзіцца за межамі Беларусі, ён ніколі не парываў сувязі з беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй. У архівах нашай краіны і зараз захоўваецца яго перапіска з беларускімі этнографамі, археолагамі, гісторыкамі і пісьменнікамі. Так, у ЦДГА Украіны ёсць лісты да Доўнар-Запольскага ад Нікіфароўскага, Раманава, Неслухоўскага, Дземідовіча, Сапунова, Стукаліча, Крачкоўскага і інш.[126]

Доўнар-Запольскі высока цаніў літаратурную спадчыну В. Дуніна-Марцінкевіча, творчасць песняра беларускага народа Янкі Купалы, навуковую дзейнасць Я. Ф. Карскага і многіх іншых выдатных прадстаўнікоў беларускага народа.

[126] ЦДГА Украіны, ф. 262, № 162 а, 166, 167, 169, 181, 182.

## А. Я. БАГДАНОВІЧ

Адам Ягоравіч Багдановіч (1862—1940) нарадзіўся ў м. Халопенічы Мінскай губерні ў сялянскай сям'і[127]. З малых год хлапчук стаў зарабляць на пражыццё — пасвіў свіней, даглядаў панскі агарод, націраў паркет у панскіх пакоях.

Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1882) працаваў настаўнікам розных народных школ у Мінскай губерні і ў Мінску.

Яшчэ ў час навучання ў Нясвіжскай семінарыі Багдановіч у 1880 г. уступае ў партыю “Народная воля”. З 1885 па 1892 г. ён быў адным з кіраўнікоў Мінскага гуртка гэтай партыі. Асабліва актыўную палітычную дзейнасць Багдановіч разгарнуў у Мінску. Пазней аб гэтым ён пісаў: “Круг знаёмства ў мяне быў як у Мінску, так і ў Гродна шырокі і складаўся з адборных людзей, цвету інтэлігенцыі, у Мінску — пераважна рэвалюцыйнай... Часта ў нас збіралася моладзь, асабліва ў Мінску. Спевы, дэкламацыі, чытанні, размовы, спрэчкі...”[128] А. Багдановіч належаў да ўмеранага крыла народніцтва. Ён больш займаўся культурна-асветніцкай работай, бачачы ў гэтым адзін з галоўных сродкаў паляпшэння становішча народа.

У пачатку 90-х гадоў у сувязі з хваробай (адкрыты працэс туберкулёзу лёгкіх) Багдановічу было забаронена працаваць у школе. У пошуках работы ён пераязджае ў Гродна, дзе працуе памочнікам бухгалтара Гродзенскага аддзялення сялянскага банка і адначасова ўдзельнічае ў рабоце неафіцыйнай часткі “Гродненских губернских ведомостей” і мясцовага Таварыства “драматычных пісьменнікаў і оперных кампазітараў”.

Пасля смерці жонкі ў 1896 г. Багдановіч пераязджае ў Ніжні Ноўгарад на

[127] Архіў А. Я. Багдановіча захоўваецца ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, спр. № 13.

[128] Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1960. С. 177, 180, 181.



36. А. Я. Багдановіч (1862—1940)

работу ў пазямельны сялянскі банк, а з 1908 г. і да канца свайго жыцця ён жыў у Яраслаўлі.

У Ніжнім Ноўгарадзе Багдановіч знаёміцца з А. М. Горкім. Знаёмства гэта, якое пазней перайшло "ў прыхільнасць і затым у цесную і сардэчную дружбу", працягвалася многа год. "Мы, — пісаў Багдановіч, — неяк адразу спадабаліся адзін аднаму як агульнасцю сваіх поглядаў, што выявілася ў размовах, так і некаторымі рознагалоссямі ў ацэнцы прадметаў і грамадскіх з'яў, якія, аднак, не стаялі ў непрымірымых супярэчнасцях"[129].

Гады жыцця Багдановіча ў Ніжнім Ноўгарадзе (1896—1908) былі гадамі сумеснай творчай і грамадскай дзейнасці і задушэўнай дружбы з М. Горкім, тым больш, што іх збліжалі яшчэ і сваяцкія адносіны. У 1899 г. А. Багдановіч уступіў у шлюб з сястрой жонкі А. М. Горкага Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай. "Я, — успамінаў пазней Багдановіч, — звычайна бываў у Пяшковых кожны вечар. Гэта былі незабыўныя вечары па той сяброўскай і любоўнай атмасферы, якая трывала ўсталявалася ў нашай маленькай сям'і, што так добра склалася"[130].

Дзякуючы А. Багдановічу, у бібліятэцы якога была сабрана вялікая колькасць прац па беларускай этнаграфіі, Горкі так блізка пазнаёміўся з культурай беларускага народа, зацікавіўся яго вуснапаэтычнай творчасцю. У бібліятэцы Горкага пазней з'явіліся важнейшыя беларускія фальклорна-этнаграфічныя зборнікі і даследаванні па беларускай этнаграфіі А. Я. Багдановіча, П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, П. А. Бяссонава, У. М. Дабравольскага, А. М. Семянтоўскага, А. М. Пыпіна і інш.[131] Асаблівую цікавасць у Горкага выклікала праца А. Багдановіча "Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў", на старонках якой пісьменнік зрабіў многа арыгінальных паметак[132].

Навуковая дзейнасць А. Я. Багдановіча пачынаецца ў 1880 г., калі ўлетку, відаць, як нарадаволец у час сваіх хаджэнняў па вёсках ён пачаў запісваць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Ужо ў гэтым годзе ён перадаў П. В. Шэйну сшытак запісаў казак, песень, абрадаў. У далейшым ён становіцца адным з самых актыўных карэспандэнтаў

[129] Богданович А. Е. Воспоминания о Максиме Горьком // Советская Отчизна. Мн., 1959. № 3. С. 109.

[130] Богданович А. Е. Страницы из жизни Максима Горького. Мн., 1965.

[131] Гл.: Ивашин В. В. М. Горький и белорусская литература начала XX века. Мн., 1956.

[132] Там жа. С. 52—55.

Шэйна. Супрацоўніцтва яго з Шэйнам працягвалася да 1893 г.[133]

У зборніках Шэйна "Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю" зьмешчаны фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, дасланыя Багдановічам: у першай частцы першага тома 21 песня, у другой даецца падрабязнае апісанне вясельнага абраду з м. Халопенічы Мінскай губерні з прывядзеннем 36 вясельных песень; у другім томе апублікавана 10 казак, 11 легенд і паданняў, 13 запісаў праклёнаў, адна замова, звесткі аб беларускіх жабраках і два духоўныя вершы; у трэцім — апісанні гульняў, сродкаў народнай медыцыны, вераванняў, забабонаў, прыкмет і замоў. Амаль усе фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы запісаны Багдановічам у Барысаўскім павеце Мінскай губерні. Сярод пералічаных матэрыялаў некалькі казак і песень з сацыяльным зместам (напрыклад, казкі "Вялікі грэшнік", "Ня люба, ня слухай" і інш.).

Асаблівай увагі заслугоўвае апісанне Багдановічам вясельнай абраднасці м. Халопенічы Барысаўскага павета. Даючы навукова правільнае вызначэнне, што "са зменай бытавых умоў народа мяняюцца і яго абрады", і адзначаючы змены, якія адбыліся пасля рэформы 1861 г., Багдановіч тым не менш верны сваім народніцкім поглядам на гісторыю Расіі, выказвае сваё незадавальненне пранікненнем у вёску культуры прамысловых цэнтраў. Носьбітамі гарадской культуры ў вёсцы былі так званыя "лішнія людзі" — бяззямельныя сяляне, былая памешчыцкая дворня і мноства асобных членаў малазямельных сялянскіх гаспадарак, вымушаных ісці на заработкі ў горад, на фабрыкі, заводы і чыгункі. У культуры горада Багдановіч бачыў толькі адмоўныя бакі яе і зусім не заўважаў, што разам з пранікненнем у вёску культуры прамысловых цэнтраў і разлажэннем старых, патрыярхальных устояў быту вясковага сялянства ішоў працэс складвання новых адносін.

Сярод аджыўшых абрадаў і звычаяў ён называе прымусовае прывядзенне да шлюбу без згоды маладых, гаспадарчы разлік памешчыка і інш. "У цяперашні час, — з задавальненнем адзначаў А. Багдановіч, — на маёй радзіме пры сватаўстве не апошняе месца займаюць узаемныя прыхільнасць і несімпатыя жаніха і нявесты, ва ўсякім разе згода ці нязгода прымаюцца бацькамі ў разлік"[134].

А. Багдановіч вызначае чатыры тыпы вяселля, якія маюць месца ў яго мясцовасці: а) вяселле, калі нявеста ідзе ў сям'ю мужа; б) прымацкае вяселле, калі жаніх прымаецца ў дом бацькоў нявесты ў якасці прымака; в) сіроцкае вяселле, калі ў нявесты ці жаніха памерлі бацькі; г) удавецкае вяселле, калі ўступаюць у шлюб удавец ці ўдава. Апошні тып вяселля мае яшчэ некалькі варыянтаў. Так, калі ў шлюб уступаюць удавец і ўдава, то вяселле наогул не спраўляецца, калі ж адзін з іх раней у шлюбе не быў, то вяселле спраўляецца толькі тым бокам, які ўпершыню ўступае ў шлюб. Кожнаму тыпу вяселля даецца кароткая характарыстыка.

У 1886 г. у газеце "Минский листок" Багдановіч друкуе першае сваё этнаграфічнае даследаванне — "Нарыс становішча жанчыны ў сялянскім асяроддзі

---

[133] У Архіве РАН (ф. 104, воп. 2, № 22) захоўваецца вялікая колькасць пісем Багдановіча да Шэйна, у якіх адлюстоўваюцца складаныя ўзаемаадносіны гэтых розных па сваіх поглядах супрацоўнікаў.

[134] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. II. С. 152.

Беларускага краю". Эпіграфам да артыкула ён узяў наступныя радкі з верша Някрасава "В полном разгаре страда деревенская": "Доля ты! Русская долюшка женская! Вряд ли труднее сыскать..."[135]

У гэтай працы Багдановіч выказвае разуменне грамадскіх і сямейных адносін людзей і залежнасць гэтых адносін ад канкрэтна-гістарычных умоў. У прыватнасці, ён адзначае, што "светапогляд беларускага селяніна, увесь яго разумовы склад, яго сімпатыі і антыпатыі, сямейныя адносіны і інш. галоўным чынам абумоўліваліся яго мінулым і сучасным, эканамічным і грамадскім становішчам, патрабаваннямі земляробчага і сельскагаспадарчага быту, словам — уладай зямлі"[136]. Спасылаючыся на свае назіранні, на беларускія народныя песні, Багдановіч наступным чынам малюе становішча народа, і ў прыватнасці становішча жанчыны: "Безвыходнае народнае гора, цяжкасць сялянскай працы і пераважна горкая доля жаноцкая.

Холадам і голадам вее ад гэтых песень... У іх нязменна фігуруе жанчына, над якою здзекуецца муж, свякруха-гадзіна, змеі-залоўкі, свёкар — люты звер... І дарэмна моліць няшчасная ахвяра аб дапамозе — няма для яе абаронцы"[137].

Даючы глыбокі аналіз народных песень, падкрэсліваючы, што "песня-быль" улоўлівае і перадае ў гуках і словах бытавыя адносіны, падзеі рэчаіснасці, народны светапогляд і інш.", Багдановіч адзначае, што змест "большасці беларускіх народных песень абумоўліваецца існуючым сямейным і грамадскім становішчам беларускай сялянкі"[138]. Апісанне становішча беларускай жанчыны ён ілюструе ўрыўкамі з народных песень.

Наступную сваю працу — "Педагагічныя погляды беларускага народа" Багдановіч прысвячае паказу духоўнага прыгнечання народа. Як змагар за народную асвету Багдановіч дае глыбокі аналіз прычын таго, чаму народ быў непісьменны і трымаўся ў цемры. Ускрываючы глыбока рэакцыйную сутнасць існуючага ладу, сацыяльную несправядлівасць, ён паказвае вынікі такой палітыкі: "Агульнымі намаганнямі прыгоннікаў і паслужлівага духавенства народная маса атуплялася і падаўлялася; асобы з яе асяроддзя, якія крытычна мыслілі, і наогул людзі, якія разумова ўзвышаліся над ёю, бязлітасна сістэматычна вырываліся з яе.

Народ, пазбаўлены сваёй сапраўднай інтэлігенцыі, вымушаны быў жыць па звычаю, па руціне, як жылі яго продкі, пакорліва падпарадкоўваючыся знешнім умовам, а не пануючы над імі"[139]. Ва ўмовах панскай няволі імкненні сялян да адукацыі, як падкрэслівае Багдановіч, "знішчаліся панскай уладай, і пры гэтым у такой адчувальнай форме і такімі радыкальнымі сродкамі, якія ахалоджвалі самы гарачы запал і надоўга спынялі і заглушалі спробы такога роду. Вялікая колькасць бізуноў і аддача ў салдаты былі найбольш ужывальнымі і патэнтаванымі мерамі з боку паноў у адносінах да неспакойных і ненадзейных, на іх думку, асоб.

Зразумелыя стымулы, якія кіравалі панамі ў іх рэпрэсіўных мерах у адносінах да народнай адукацыі: давіць і эксплуатаваць цёмную, непісьменную

[135] А. Б. Очерк положения женщины в крестьянской среде Белорусского края // Минский листок. 1886. № 39.

[136] Там жа.

[137] Там жа.

[138] Там жа.

[139] А. Б. Педагогические воззрения белорусского народа // Минский листок. 1886. № 61.

масу сялян было, безумоўна, лягчэй, чым у тым выпадку, калі б яна прыйшла да разумення сваёй чалавечай годнасці, да разумення сваёй сілы, як эканамічнай, так і палітычнай"[140].

Ведучы размову непасрэдна аб педагагічных поглядах народа, спасылаючыся на ягоназіранні і на вуснапаэтычную творчасць, аўтар прыходзіць да вываду, што асноўным у выхаванні дзяцей сялян з'яўляецца дэвіз: "Усе павінны працаваць"[141].

Характарыстыка цяжкага становішча народа даецца ў працы Багдановіча "Пра паншчыну"[142]. Звяртаючыся да горкага мінулага жыцця народа, аўтар выклікае пачуцці гневу да ўсялякага прыгнёту, ён абвяргае довады прыхільнікаў прыгонніцтва, што нібыта сяляне шкадуюць аб адмене прыгоннага права.

На канкрэтным фальклорным і бытавым матэрыяле Багдановіч паказвае не толькі жорсткасць прыгону, але і пратэст народа супраць прыгнятальнікаў. У прыватнасці, ён прыводзіць легенду "Вялікі грэшнік", у якой выкрываецца пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту. "Колькі нянавісці і злосці назбіралася ў душы селяніна супраць гэтых векавых прыгнятальнікаў прыгоннага люду — ясна паказвае запісаная мной легенда аб "Вялікім грэшніку"[143]. Сутнасць легенды заключаецца ў тым, што вялікі грэшнік атрымлівае прашчэнне сваіх грахоў толькі пасля таго, як забівае жорсткага войта. "Толькі ў жорсткі час, — пісаў Багдановіч, — магла скласціся падобная легенда. Шмат трэба было выпакутаваць беларускаму селяніну, па натуры дабрадушнаму, каб нарадзілася ў яго такая жорсткая ідэя"[144].

Большая частка артыкула "Пра паншчыну" прысвечана перадачы расказу былога прыгоннага селяніна Кузьмы аб здзекаваннях пана над ім і яго жонкай. Апавяданне скалечанага жорсткімі катаваннямі селяніна выклікае ў чытача нянавісць да прыгнятальнікаў і глыбокі смутак з прычыны цяжкага становішча народных мас.

Погляды Багдановіча як народніка добра адлюстраваліся і ў іншых яго этнаграфічных працах. Амаль ва ўсіх іх змяшчаюцца матэрыялы, якія паказваюць цяжкі прыгнёт селяніна, эканамічнае і духоўнае рабства працоўнага люду, жорсткасць, бязлітасную расправу і здзекі памешчыкаў над сялянамі. Гэтым самым Багдановіч будзіў у народзе нянавісць да прыгнятальнікаў, заклікаў да расплаты з імі.

Багатым этнаграфічнымі матэрыяламі з'яўляецца даследаванне А. Я. Багдановіча "Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў"[145]. Матэрыялы для гэтай кнігі аўтар збіраў у Барысаўскім, Ігуменскім, Мінскім, Слуцкім і Навагрудскім паветах Мінскай губерні, Сенненскім і Аршанскім паветах Магілёўскай і Лепельскім павеце Віцебскай губерні. Тут, як і ў многіх іншых працах, выкладанне матэрыялу пачынаецца з агульнай характарыстыкі становішча народных мас. Паказваючы прычыны захавання ў быце і свядомасці народа перажыткаў, Багдановіч у першую чаргу звяртае ўвагу на тое, што ў цяжкіх умовах нацыянальнага, сацыяльнага і духоўнага прыгнёту народ быў пазбаўлены сваёй інтэлігенцыі, якая з'яўляецца

[140] А. Б. Педагогические воззрения белорусского народа // Минский листок. 1886. № 61.

[141] Там жа.

[142] Богданович А. Про панщину // Гродненские губернские ведомости. 1894. № 10, 11, 16.

[143] Там жа. № 10. У 1893 г. легенда была надрукавана ў "Матэрыялах" Шэйна (Т. II. С. 371—373). Даслана Шэйну А. Багдановічам.

[144] Там жа.

[145] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.



ПЕРЕЖИТКИ
ДРЕВНЯГО МІРОСОЗЕРЦАНІЯ
У БѢЛОРУССОВЪ.

Этнографическій очеркъ
А. Е. Богдановича.

ГРОДНА.
Губернская Типографія.
—
1895.

37. Вокладка кнігі А. Я. Багдановіча

"праваднiцай і распаўсюджвальніцай новых ідэй у масах". "Але гэта яшчэ паўбяды, — працягвае ён, — пры спрыяльных умовах народ мог высунуць са свайго асяроддзя новых носьбітаў скарбаў свайго духу, — новую інтэлігенцыю, мабыць, яшчэ больш натуральную... Але бяда ў тым, што ён быў пастаўлены ў такія ўмовы, пры якіх гэта было зусім немагчыма"[146]. Разам з тым Багдановіч папярэджвае, што "калі рашуча не змяніць умовы жыцця, калі не будзе штуршкоў звонку моцных настолькі, каб абудзіць мысленне і накіраваць яго на крытычную перапрацоўку ўсталяваных форм думкі і жыцця, то яно рызыкуе скарчанець у гэтых формах..."[147] Для таго ж каб абудзіць розум народа, трэба, на яго думку, перш за ўсё святло навукі, святло сапраўднага пазнання, "каб рассеяць усе гэтыя прывіды, усё гэта царства цемры"[148].

Увесь фактычны матэрыял, што датычыць перажыткаў старажытнасці ў светапоглядзе народа, Багдановіч выкладае ў наступных раздзелах гэтай працы: перажыткі фетышызму; перажыткі анімізму; перажыткі ўвасабленняў; перажыткі сонечнага культу; увасабленне зла; саўдзельнікі нячыстай сілы; спосабы лячэння, заснаваныя на забабонных уяўленнях; чараўніцтва.

Фетышызм Багдановіч характарызуе як адну з першапачатковых ступеней рэлігійных уяўленняў. Першабытны чалавек у сваім імкненні растлумачыць асяроддзе, якое яго акружае, і асобныя з'явы надзяляў "усе прадметы ўласцівасцямі і здольнасцямі, характэрнымі для жывога чалавека"[149]. Багдановіч паказвае, што гэта і з'явілася прычынай пакланення чалавека асобным з'явам і прадметам, ад якіх залежаў яго лёс. На канкрэтным этнаграфічным матэрыяле ён паказвае, якія рэшткі гэтых старажытных вераванняў дайшлі да яго дзён. Прыводзяцца прыклады пакланення агню, вадзе, зямлі, хлебу, каменням, гарам, лясам, раслінам, жывёлам. Асобна аўтар гаворыць аб тым, што наданне слову магічнай сілы прывяло да стварэння малітваў, шэптаў, вераванняў і забабонаў. З фетышызмам Багдановіч цесна звязвае і такую форму першабытнай рэлігіі, як татэмізм, аднак не раскрывае яго сутнасці.

---

[146] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 6.

[147] Там жа. С. 8—9.

[148] Там жа. С. 180.

[149] Там жа. С. 13, 14.

Адной з форм першабытнай рэлігіі Багдановіч правільна лічыць анімізм, якому ён дае наступнае вызначэнне: “Сутнасць анімізму заключаецца ў тым, што чалавек і ўсе адчувальныя прадметы дваістыя, што яны складаюцца з бачнай, адчувальнай абалонкі, за якой хаваецца нешта няўлоўнае, тонкае, нематэрыяльнае”[150]. Да анімістычных уяўленняў чалавек прыйшоў у выніку “няўмення растлумачыць такія з’явы, як рух воблакаў, ветру, назіранні за ценямі, рэхам, адлюстраваннем у вадзе і г. д., а галоўнае дзякуючы снам”. “Сны — гэта бачанні душы ў час яе вандраванняў”[151] — да такога вываду прыйшоў неадукаваны чалавек. Таму Багдановіч падрабязна спыняецца на гэтай з’яве. Адсюль выводзіцца вера ў замагільнае жыццё.

Адзначаючы, што язычніцкія абрады пастунова адыходзяць у нябыт, Багдановіч разам з тым паведамляе, што яшчэ і ў яго час “кладуць у кішэню нябожчыку-курцу люльку з тытунём, а нюхальшчыку табакерку. У нядаўні ж час клалі нажы, грэбні, а майстрам некаторыя іх прылады, а тым, хто любіў выпіць, і гарэлку ставілі ў бутэлечках ці гляках”[152].

Больш высокай ступенню першабытнай рэлігіі А. Багдановіч заканамерна лічыць політэізм — мнагабожжа. Спасылаючыся на англійскага вучонага Бокля, ён гаворыць, што характар політэізму залежыць ад акаляючага чалавека асяроддзя — ад прыродных умоў. Багдановіч прыходзіць да матэрыялістычных вывадаў пры вызначэнні адной з прычын узнікнення рэлігійных перажыткаў: “Страх і бяссілле чалавека перад грознымі сіламі прыроды, з аднаго боку, і, з другога, неразуменне іх, няўменне растлумачыць сутнасць акаляючай яго стыхіі, няўменне падпарадкаваць сілы прыроды сваёй уладзе”[153].

Уяўленні аб старажытных боствах беларусаў Багдановіч правільна звязвае з мясцовымі прыроднымі і бытавымі ўмовамі. Беларус пасяляў звышнатуральныя сілы ў балоты, лясы, палі, жыллё і гаспадарчыя пабудовы. Гэта рознага роду хатнікі, еўнікі, хлеўнікі, нячысцікі, вадзянікі, русалкі, лесавікі і г. д.

Асобны раздзел працы Багдановіч прысвячае перажыткам сонечнага культу. З гэтым культам ён звязвае такія святы і абрады гадавога кола, як Каляды, Масленіца, закліканне вясны, Вялікдзень, Купалле і інш. Пры апісанні іх (асабліва Каляд і Купалля) ён прыводзіць значныя фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Астатняя частка працы змяшчае апісанні рознага роду дэманічных сіл, вядзьмарства, знахарства, сродкаў народнай медыцыны, прыкмет, замоў і г. д.

Да аналізу ўсіх гэтых перажыткаў Багдановіч падыходзіць з прагрэсіўных пазіцый, выкарыстоўваючы перадавыя дасягненні навукі таго часу. Ён вывучыў працы па першабытнай культуры і сацыялогіі Тэйлара, Бокля, Л. Мечнікава і інш., крытычна пераасэнсаваў іх змест і прымяніў асноўныя палажэнні і вывады гэтых вучоных пры разглядзе канкрэтнага беларускага этнаграфічнага матэрыялу.

Праца Багдановіча “Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў” была першым буйным даследаваннем у галіне вывучэння беларускай этнаграфіі, якое наносіла рашучы ўдар па міфалагічнай тэорыі ў вывучэнні вераванняў, абрадаў і рознага роду забабонаў глыбокай старасветчыны. Аднак узнікненне рэлігіі Багдановіч зводзіць у асноўным да псіхалагічных з’яў. Ён не змог асэн-

---

[150] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 45.

[151] Там жа. С. 48.

[152] Там жа. С. 53.

[153] Там жа. С. 62.

саваць галоўныя карані рэлігійнай ідэалогіі — сацыяльны прыгнёт чалавека. Даючы ў асноўным аб'ектыўны малюнак зняволенага, прыгнечанага жыцця народа, Багдановіч часта не бачыў парасткаў новага, прагрэсіўнага, не заўважаў росту нацыянальнай і палітычнай самасвядомасці народных мас. Недаацэньваў ён і вуснапаэтычную творчасць беларускага народа, ставячы яе значна ніжэй творчасці братніх рускага і ўкраінскага народаў. Вядома, напрыклад, што беларуская казка па свайму сюжэту, вобразнасці і ўзлёту фантазіі наўрад ці ўступае казачнаму фальклору іншых народаў.

Зразумела, што ў такім падыходзе да справы А. Багдановіч кіраваўся добразычлівымі меркаваннямі — даказаць неабходнасць уздыму асветы, культуры і дабрабыту народа. Рашучае ўскрыццё адмоўных з'яў быту і культуры народа, з тым каб ліквідаваць іх, заслугоўвае адабрэння. Аднак такі падыход да характарыстыкі аблічча народа аднабаковы. Не паказваючы дасягненняў, прагрэсіўных элементаў і багацця культурнай спадчыны народа, аўтар мімаволі прыніжаў чалавечую годнасць беларускага селяніна. Аднак, нягледзячы на гэта, А. Багдановіч сваімі працамі ўнёс значны ўклад у вывучэнне духоўнай культуры беларускага народа; у гэтым яго вялікая заслуга перад этнаграфіяй Беларусі.

## ПУБЛІКАЦЫІ П. В. ШЭЙНА І ІНШЫХ БЕЛАРУСКІХ ЭТНОГРАФАЎ

У 80—90-х гадах актыўную дзейнасць па збіранню і публікацыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў працягваў П. В. Шэйн, пачатак навуковай дзейнасці якога разглядаўся вышэй. Асноўныя бытавыя матэрыялы па Беларусі ён апублікаваў у працы "Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю"[154] у трох тамах. Па насычанасці і шматграннасці бытавых матэрыялаў гэта праца займае адно з пачэсных месц у этнаграфічнай літаратуры канца XIX ст.

Першы том — "Бытавое і сямейнае жыццё беларуса ў абрадах і песнях" складаецца з дзвюх частак. У першай частцы прыведзены апісанні хрэсьбін, калядных, масленічных, купальскіх і жніўных абрадаў. Усе апісанні гэтых абрадаў суправаджаюцца песнямі. У асобны раздзел вылучаны песні любоўныя, сямейныя, рэкруцкія, салдацкія, жартоўныя, застольныя, танцавальныя, сабраныя з розных месц Беларусі. У якасці дадатку да першай часткі тома прыкладаюцца нотныя запісы да 17 песень, з іх два — запісы М. А. Рымскага-Корсакава, зробленыя з голасу П. В. Шэйна.

Другая частка першага тома поўнасцю прысвечана апісанню вясельных і пахавальных абрадаў з прывядзеннем фальклорных тэкстаў. Матэрыялы сабраны ў Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гродзенскай, Смаленскай, Віленскай і Цвярской губернях.

У другі том Шэйн уключыў апавядальныя жанры беларускага фальклору — казкі (аб жывёлах, міфалагічныя, бытавыя), анекдоты, легенды, паданні, успаміны і расказы аб былым, прыказкі і прымаўкі, загадкі, прывітанні і пажаданні і г. д.

[154] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1887. Т. I; СПб., 1893. Т. II; СПб., 1902. Т. III.


СБОРНИКЪ
ОТДѢЛЕНІЯ РУССКАГО ЯЗЫКА И СЛОВЕСНОСТИ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ
Томъ LXXII, № 4.

МАТЕРІАЛЫ
ДЛЯ ИЗУЧЕНІЯ
БЫТА И ЯЗЫКА РУССКАГО НАСЕЛЕНІЯ
СѢВЕРО-ЗАПАДНАГО КРАЯ.

СОБРАННЫЕ И ПРИВЕДЕННЫЕ ВЪ ПОРЯДОКЪ
П. В. ШЕЙНОМЪ.

ТОМЪ III.
ОПИСАНІЕ ЖИЛИЩА, ОДЕЖДЫ, ПИЩИ, ЗАНЯТІЙ; ПРЕПРОВОЖДЕНІЕ ВРЕМЕНИ, ИГРЫ, ВѢРОВАНІЯ, ОБЫЧНОЕ ПРАВО; ЧАРОДѢЙСТВО, КОЛДОВСТВО, ЗНАХАРСТВО, ЛѢЧЕНІЕ БОЛѢЗНЕЙ, СРЕДСТВА ОТЪ НАПАСТЕЙ, ПОВѢРЬЯ, СУЕВѢРЬЯ, ПРИМѢТЫ И Т. Д.

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.
ТИПОГРАФІЯ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ.
1902.

38. Вокладка 3-га тома "Матэрыялаў..." П. В. Шэйна

Фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы для першага і другога тамоў "Матэрыялаў..." Шэйна былі дасланы яго карэспандэнтамі А. Багдановічам, М. Нікіфароўскім, Я. Карскім, І. Карскім, Л. Кандратовічам, З. Радчанка, Ю. Крачкоўскім і інш. Частка матэрыялаў перадрукавана з раней апублікаваных прац А. Кіркора, М. Дзмітрыева, Я. Тышкевіча, П. Баброўскага і інш. Так, у другі том Шэйнам поўнасцю перадрукаваны вялікі артыкул Шыдлоўскага аб вясельным абрадзе ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні з працы Я. Тышкевіча.

Збіранне матэрыялаў для трэцяга тома "Матэрыялаў..." было завершана Шэйнам у канцы 90-х гадоў, аднак выдаць яго ён не паспеў. Работу па завяршэнню друкавання тома ўзялі на сябе акадэмік У. І. Ламанскі і прафесар Я. Ф. Карскі. Трэці том "Матэрыялаў..." найбольш багаты бытавымі звесткамі. Упершыню ў працах Шэйна ў гэтым томе з'яўляюцца паведамленні па матэрыяльнай культуры беларусаў — жыллю, адзенню, ежы.

Такую велізарную колькасць матэрыялаў Шэйн змог сабраць толькі дзякуючы вялікай сетцы мясцовых карэспандэнтаў, створанай яго ўпартымі намаганнямі. У архіве Расійскай акадэміі навук і Рускага геаграфічнага таварыства захоўваюцца пісьмы карэспандэнтаў да Шэйна і разнастайная перапіска яго з вядомымі рускімі вучонымі і навуковымі ўстановамі[155]. Гэтыя матэрыялы сведчаць аб нястомнай паўсядзённай карпатлівай і напружанай працы этнографа па збіранню і падрыхтоўцы да друку вуснапаэтычных твораў і звестак па быту беларускага народа. Разам з тым трэба адзначыць, што выкарыстанне матэрыялаў шматлікіх карэспандэнтаў (часта вучняў школ, чыноўнікаў, пісараў і г. д.) і звядзенне іх у адзіную працу адмоўна адбіліся на зборніках Шэйна[156]. Якасць матэрыялаў залежала ад ступені падрыхтаванасці карэспандэнтаў. Сам жа Шэйн

---

[155] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 157; ф. 104, воп. 2, № 22; Архіў Геаграфічнага таварыства Расіі, ф. 38, № 15 і інш.

[156] Для характарыстыкі метадаў збірання матэрыялаў Шэйнам можа служыць наступная вытрымка з яго пісьма ад 1 кастрычніка 1898 г. да Я. Ф. Карскага: "Мне хочацца ўказаць Вам і некаторыя шляхі і сродкі, якія б Вы маглі паспрабаваць на карысць маёй справе. Вось яны: 1. Пастарацца спісацца з некаторымі настаўнікамі духоўнага вучылішча і семінарыі і папрасіць іх, каб яны прапанавалі больш здольным са сваіх вучняў напісаць што-небудзь з таго, што яны цвёрда ведаюць і памятаюць з народных звычаяў, абрадаў, павер'яў... 3. Зацікаўце сваіх знаёмых, каб яны вызваліся самі на запісванне даных, што датычаць гэтай галіны, з вуснаў сваіх прыслужнікаў і прыслужніц" (Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 157, л. 11, 12).

слаба быў знаёмы з бытам і культурай беларускага народа. Таму зусім не выпадкова, напрыклад, што ў некаторых апісаннях анекдатычныя выпадкі і сатырычныя творы выдаюцца за сапраўдныя падзеі.

Аднак, нягледзячы на гэта, пры крытычным падыходзе матэрыялы, змешчаныя ў зборніках Шэйна, даюць багатыя і каштоўныя звесткі па быту і культуры беларусаў другой паловы XIX ст.

Акрамя этнаграфічных прац найбольш вядомых беларускіх этнографаў Нікіфароўскага, Раманава, Шэйна, Доўнар-Запольскага, Багдановіча, Янчука і Дабравольскага ў 80—90-х гадах з'яўляюцца даволі ёмістыя зборнікі беларускіх фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Радчанка, Булгакоўскага і інш.

У 1882—1884 гг. выйшаў з друку трохтомнік "Вопыт апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных, прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах", матэрыялы для якога афіцыйна збіраліся праз статыстычныя камітэты і іншыя губернскія і павятовыя органы ўлады. Праца была апублікавана пад рэдакцыяй губернатара Магілёўскай губерні А. С. Дамбавецкага. У апрацоўцы сабраных матэрыялаў і ў напісанні паасобных раздзелаў прымаў удзел шматлікі калектыў аўтараў, спецыялістаў па розных галінах гаспадаркі, быту і культуры беларусаў. Этнаграфічныя звесткі аб беларусах для першага тома сабраў і апрацаваў рэдактар "Могилевских губернских ведомостей" І. Рубаноўскі. Пры характарыстыцы маральных якасцей беларуса Рубаноўскі прытрымліваецца хадзячых версій аб непаўнацэннасці гэтага народа. Пры гэтым нярэдка ён прыводзіць супярэчлівыя матэрыялы ці звесткі, якія не адпавядаюць сапраўднасці, напрыклад надзяляе беларуса глыбокай рэлігійнасцю, недахопам працалюбства і г. д.

І. Рубаноўскі дае агульную і даволі сціслую характарыстыку жылля, гаспадарчых пабудоў і адзення беларусаў Магілёўскай губерні, прыводзіць кароткія звесткі аб занятках беларускіх сялян і іх ежы.

Гэтымі кароткімі нататкамі і абмяжоўваецца апісанне матэрыяльнай культуры. Затое апісанню абрадаў, вераванняў і забабонаў адведзена асноўнае месца. Найбольш поўна апісана вяселле. Да нарыса прыкладаецца 509 беларускіх песень, большасць з якіх абрадавыя, у асноўным вясельныя. Усе песні маюць пашпартызацыю.

Другі том "Вопыту апісання Магілёўскай губерні" дае каштоўныя звесткі па вытворчаму быту беларусаў. У раздзелах аб прамысловасці, сельскай гаспадарцы, саматужных промыслах, рамёствах, рыбалоўстве, паляванні, пчалярстве ёсць цікавыя звесткі аб распаўсюджанасці той ці іншай формы заняткаў насельніцтва і ўдзельнай вазе іх у гаспадарцы. Прыводзяцца статыстычныя даныя аб колькасці насельніцтва, якое займаецца пэўнай вытворчай дзейнасцю, і звесткі аб прыбытках ад гэтых заняткаў. Амаль ва ўсіх раздзелах даецца апісанне прылад працы і спосабаў вытворчасці тавараў і прадуктаў. Нярэдка сустракаюцца матэрыялы і аб сацыяльным становішчы розных слаёў насельніцтва.

Нямала цікавых і каштоўных звестак па этнаграфіі Беларусі можна ўзяць і са статыстычных табліц, якія змешчаны ў трэцім томе "Вопыту апісання Магілёўскай губерні".

Аднак у цэлым трохтомнік у пытаннях этнаграфіі не адпавядаў патрабаванням навукі свайго часу. Ён хутчэй быў складзены па праграме, выпрацаванай у 50—60-х гадах для выдання

прац афіцэраў Генеральнага штаба. Таму ён носіць агульнадаведачны характар.

З трох зборнікаў "Гомельскія народныя песні", выдадзеных гомельскай памешчыцай Зінаідай Фёдараўнай Радчанка, этнаграфічныя звесткі па быту беларусаў змешчаны ў другім, які быў надрукаваны ў 1888 г.[157] Матэрыялы ўсіх трох зборнікаў збіраліся ёю ў Дзятлавіцкай воласці Гомельскага павета. Правёўшы дзіцячыя гады сярод вясковых жыхароў, З. Радчанка добра пазнаёмілася з бытам народа, з яго мовай і вуснапаэтычнай творчасцю.

Ва ўводзінах да другога зборніка "Гомельскія народныя песні" Радчанка дае агульную характарыстыку матэрыяльнага быту (асабліва падрабязна спыняецца на апісанні адзення сялян), бытавых абрадаў і каляндарных свят. Яна адзначае працавітасць і дадатныя маральныя якасці сялян: "Яны гордыя; гордасць іх праяўляецца ў тым, што яны не пабіраюцца. Бедныя сем'і дрэнна апрануты, дрэнна ядзяць, але ніколі не просяць міласціну, усе працуюць, пакуль ёсць сілы, жабрачаць толькі сляпыя"[158].

Разам з тым аўтар імкнецца даказаць, што беларусы пакорлівыя свайму лёсу. Падкрэсліваючы класавую дыферэнцыяцыю вёскі, Радчанка між іншым хоча запэўніць, што, хоць "побач жывуць адны ў галечы, а другія ў так званай імі раскошы, г. зн. сытыя і апранутыя, паміж імі няма "злоснай зайздрасці"[159]. Такім чынам, яна прапаведуе класавы мір.

Радчанка дае даволі поўнае апісанне вяселля, вясковых вячорак, юр'еўскіх, купальскіх і калядных абрадаў, харагодаў, абжынак і талакі. Яна прыводзіць цікавыя бытавыя факты, характэрныя і для іншых мясцовасцей Беларусі. Так, у час вясенне-юр'еўскай абраднасці на Гомельшчыне існаваў звычай "юрыцца". "Дзяўчаты і нават дзеці ідуць за вёску ў поле ці ў лясок і пад бярозкай гатуюць яешню; у гэты час дзяўчаты выбіраюць сабе сяброўку на ўвесь год, прычым абменьваюцца паясамі і хусткамі, пасля чаго і гавораць: мы з ёй паюрыліся; звычай гэты суправаджаецца спяваннем вяснянак"[160].

Асабліва падрабязна спыняецца Радчанка на характарыстыцы беларускіх песень Гомельшчыны. Пры гэтым яна прытрымліваецца таго сцвярджэння, што нібыта беларускія песні ў значнай меры прадстаўляюць сабою пераробкі ўкраінскіх і рускіх. Ставячы беларускую мелодыю ніжэй рускай і ўкраінскай, Радчанка тым не менш характарызуе і яе дадатныя якасці. "Наогул, — піша яна, — чуецца мелодыя бедная, але грацыёзная, манатонна-тужлівая, але мілая і цалкам гарманіруе са словамі, дзе ўсё гаворыць аб горкай долі пакорлівай, няшчаснай маладзіцы"[161]. У адрозненне ад многіх іншых аўтараў таго часу Радчанка сцвярджае, што беларусы спяваюць свае песні не ва ўнісон, а ў два галасы.

У гэтым зборніку змешчана 676 народных песень і 84 прыказкі. Характарызуючы прыказкі і прымаўкі, Радчанка выяўляе сваё неразуменне класавых супярэчнасцей у вёсцы. Прыводзячы некалькі антыпапоўскіх прымавак, яна заўважае: "Але незразумела, як магла скласціся пры ўсёй павазе беларусаў да духавенства такая прыказка "Няўжо ж я дурней за папа?"[162]

Паўднёвай ускраіне Беларусі пры-

[157] Радченко З. Гомельские народные песни (белорусские и малорусские) / Записаны в Дятловицкой волости Гомельского уезда Могилевской губернии Зинаидой Радченко. СПб., 1888.

[158] Там жа. С. 111.

[159] Там жа.

[160] Там жа. С. XXII.

[161] Там жа. С. XVIII.

[162] Там жа.

свечаны і фальклорна-этнаграфічны зборнік "Пінчукі" Д. Г. Булгакоўскага, аднаго з прадстаўнікоў той часткі мясцовага духавенства, якая блізка стаяла да народа, прыхільна адносілася да яго патрэб, вывучала яго быт і культуру.

Матэрыялы для гэтай працы былі сабраны яшчэ ў 70-х гадах, аднак апублікаванне іх надоўга зацягнулася. Таму на зборніку ў значнай ступені ляжыць адбітак тых часоў. Ён складзены зыходзячы з патрабаванняў міфалагічнай школы і поўнасцю прысвечаны духоўнай культуры народа, вераванням, абрадам, звычаям і вуснапаэтычнай творчасці. Асноўнае месца ў зборніку займаюць песні, якія Булгакоўскі разглядае як матэрыял для характарыстыкі народа, яго быту і культуры. "Песні, — адзначае ён, — ёсць увасабленне народнага духу. Гэта не выдуманы славесны твор, а як бы выклік, які раптам вырваўся з грудзей, гэта люстра народнага жыцця, у якім адбіваюцца разуменні і адчуванні народа пры розных абставінах яго жыцця"[163]. Недахопам працы з'яўляецца тое, што яе матэрыялы не маюць канкрэтнай пашпартызацыі.

З 80-х гадоў разгортвае навуковую дзейнасць (пераважна ў галіне беларускага мовазнаўства) Я. Ф. Карскі. У 1884—1885 гг. ён публікуе сваю першую працу — зборнік беларускіх народных песень пад назвай "Беларускія песні сяла Беразавец Навагрудскага павета Мінскай губерні"[164]. У 1889 г. у тым жа часопісе публікуе яшчэ адзін збор песень — "Беларускія песні вёскі Навасёлкі-Затрокскія Віленскай губерні Трокскага павета"[165], а ў 1897—1907 гг. па складзенай ім з іншымі беларускімі этнографамі "Праграме для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак" выйшла з друку пяць выпускаў "Матэрыялаў для вывучэння беларускіх гаворак"[166]. У апошніх побач з фальклорнымі матэрыяламі змешчаны і звесткі па быту беларускага народа. Аднак росквіт даследчыцкай працы Я. Карскага прыпадае на пачатак XX ст.

У 80—90-х гадах з'яўляецца мноства дробных прац, прысвечаных этнаграфічнаму апісанню асобных мясцовасцей ці асобных галін быту і культуры беларусаў. Сярод іх адзначым наступныя: Гнядоўскі І. Некалькі слоў да пытання аб этнаграфічнай мяжы паміж літоўскім і беларускім насельніцтвам у Нова-Аляксандраўскім павеце Ковенскай губерні (Коўна, 1890); Гукоўскі К. Нова-Аляксандраўскі павет (Коўна, 1895); Вяселле ў літоўскіх беларусаў (Коўна, 1894); Гарбачэўскі. І. Д. Лепельскі павет Віцебскай губерні (Віцебск, 1895); Фрыдман Б. А. Юрыдычныя погляды і звычаі сялян Паўночна-Заходняга краю, пераважна Ковенскай губерні (Вільна, 1890); Занкевіч А. Абрады беларускія вясельныя і песні ў параўнанні з велікарускімі (СПб., 1897) і інш.

У канцы XIX ст. працягвалі выходзіць этнаграфічныя нарысы па Беларусі папулярызатарскага характару. Яны былі разлічаны на шырокае кола чытачоў і выкарыстоўваліся як дапаможнікі па геаграфіі ў навучальных установах. У гэтых нарысах звычайна даваўся агульны агляд краіны, паведамляліся геаграфічныя ўмовы, гістарычныя звесткі і на аснове друкаваных прац даваўся бытавы нарыс па розных галінах жыцця

[163] Булгаковский Д. Г. Пинчуки: Этнографический сборник. СПб., 1890. С. 3.

[164] Русский филологический вестник. Варшава, 1884. Т. XII; 1885. Т. XIII.

[165] Там жа. 1889. Т. XXI.

[166] У 1897—1900 гг. былі апублікаваны I—III вып. у "Известиях Отделения русского языка и словесности Академии наук" (СПб., 1897, 1898. 1900).

насельніцтва. Так, у 1898 г. выходзіць з друку том "Рускай зямлі" (зборнік для народнага чытання), прысвечаны Беларуска-Літоўскаму Палессю[167]. Складальнік тома Я. І. Руднеў нічога новага ў параўнанні з апублікаванымі раней працамі не ўносіць. Штучнае звядзенне асобных урыўкаў з іншых прац не магло даць ні правільнага агульнага малюнку, ні дэталей быту беларусаў. Таму гэту працу нельга выкарыстаць як крыніцу для вывучэння быту народа.

Такі ж характар маюць і працы А. Ф. Сакалова "Беларускі край" (СПб., 1906, выд. 2-е), К. Гамалія "Зямля і людзі ў Расіі. V: Беларусь і Літва" (Кіеў, 1883), М. Гуленкі "Сярод балот і лясоў" (М., 1899), серыя альбомаў пад назвай "Народы Расіі"[168], календары[169] і інш.

Нарэшце ў гэты перыяд выходзіць першая бібліяграфія краязнаўчых прац па Беларускаму Палессю[170]. Складальнікі З. М. Пенкіна і вядомы бібліёграф У. І. Мяжоў побач з іншай літаратурай па Беларускаму Палессю зрабілі першы звод і этнаграфічных прац, што ў значнай ступені аблегчыла работу даследчыкаў быту і культуры беларусаў.

[167] Русская земля (природа страны, население и его промыслы): Сборник для народного чтения. Т. VII: Белорусско-Литовское Полесье / Сост. Я. И. Руднев. СПб., 1898.

[168] Живописный альбом: Народы России. СПб., 1880; Народы России, 24 художественно исполненные таблицы в красках / Издано под ред. Н. А. Янчука. М., 1905 і інш.

[169] Иллюстрированный календарь для домашнего обихода и справок на 1889 год с приложением иллюстрированной статьи "Народы России". Бесплатное приложение иллюстрированного литературного журнала и политической общественной газеты "Родина" (СПб., 1889).

[170] Полесье: Библиографические материалы по истории, географии, статистике и этнографическому состоянию Полесья. СПб., 1883.

## А. М. ПЫПІН

На 80—90-я гады прыпадае росквіт навуковай дзейнасці А. М. Пыпіна ў галіне гісторыі этнаграфіі.

Аляксандр Мікалаевіч Пыпін (1833—1904) нарадзіўся ў Саратаве ў дваранскай сям'і. У 1842 г., на дзесятым годзе жыцця, паступіў у гімназію, пасля заканчэння якой у 1849 г. быў прыняты ў Казанскі універсітэт. Праз год Пыпін пераведуся ў Пецярбургскі універсітэт, які і скончыў у 1853 г.[171]

У 1857 г. ён абараняе магістарскую дысертацыю ("Нарысы літаратурнай гісторыі старадаўніх аповесцей і казак рускіх") і атрымлівае камандзіроўку за мяжу для ўдасканалення ведаў. За мяжой Пыпін слухаў лекцыі вядомых у той час вучоных Рытэра, Ранке, Гнейста, Эрдмана, сустракаўся з Герцэнам, Аненкавым, Боткіным, Тургеневым і Агаровым.

Пасля вяртання на радзіму Пыпін займае пасаду экстра-ардынарнага прафесара Пецярбургскага універсітэта. Аднак ужо ў 1859 г. разам са Стасюлевічам, Кавеліным, Уціным і Спасовічам ён падае ў адстаўку ў знак пратэсту супраць урадавых мер па падаўленню студэнцкіх хваляванняў. Да 1897 г. Пыпін не займаў ніякай афіцыйнай пасады, "час ад часу адчуваючы на сабе яўную нядобразычлівасць адміністрацыйных сфер"[172], асабліва ў сувязі з першым выбраннем яго ў Акадэмію навук. Пастанова аб выбранні Пыпіна акадэмікам не была зацверджана. Міністр народнай асветы Талстой змог пераканаць цара,

[171] Пыпин А. Н. Мои заметки. М., 1910.

[172] Сакулин П. А. Н. Пыпин. М., 1905. С. 17.

што працы Пыпіна "маюць характар эфемерных твораў... і прытым з тэндэнцыйным напрамкам, якія выяўляюць у пісьменніка палітычныя погляды і думкі, што далёка не адпавядаюць нашаму дзяржаўнаму ладу"[173]. Пыпін быў абраны акадэмікам толькі ў 1897 г.

Да 1866 г. Пыпін супрацоўнічаў у "Отечественных записках" і "Современнике", а пасля закрыцця апошняга стаў актыўным супрацоўнікам ліберальнага часопіса "Вестник Европы", у якім працаваў да апошніх год свайго жыцця.

Навуковыя, грамадска-палітычныя і філасофскія погляды А. М. Пыпіна сталі складвацца вельмі рана. Фарміраванне іх ішло пад непасрэдным уплывам рэвалюцыйных дэмакратаў і ў першую чаргу пад уплывам М. Г. Чарнышэўскага, які быў дваюрадным братам А. М. Пыпіна. У час вучобы ў Пецярбургу Пыпін быў у Чарнышэўскага. Чарнышэўскі пазнаёміў яго з літаратурнымі коламі "Отечественных записок", а потым і "Современника". Праз яго Пыпін блізка знаёміцца з М. А. Дабралюбавым[174].

Чарнышэўскі абудзіў у Пыпіна вялікую цікавасць да публіцыстычнай дзейнасці В. Р. Бялінскага. Аднак складанасць грамадска-палітычнага жыцця, грамадскай думкі і навуковых плыняў, супярэчлівасць у іх развіцці плюс класавая абмежаванасць не далі магчымасці Пыпіну адразу стаць на пазіцыі рэвалюцыйных дэмакратаў. Захапіўшыся міфалогіяй і ўспрыняўшы ідэалістычныя асновы міфалагічнай тэорыі, якая панавала ў фалькларыстыцы і этнаграфіі ў той час, Пыпін у першых сваіх працах быў верным паслядоўнікам акадэмічнай школы. Супрацоўніцтва ў часопісе "Современник" паступова прыводзіць яго да крытычных адносін да палажэнняў міфалагічнай школы.

Перыяд навуковай дзейнасці Пыпіна да 1861 г. адзначаны ваганнямі яго паміж рэвалюцыйнымі дэмакратамі і лібераламі. У 60-х гадах ён рашуча пераходзіць у лагер рэвалюцыйных дэмакратаў. Новы рэвалюцыйны ўздым у перыяд правядзення рэформы, пад'ём грамадска-палітычнай актыўнасці мас прыводзіць да рэзкага разрыву паміж лібераламі і дэмакратамі. На арэне гэтай барацьбы Пыпін аказаўся на баку "Современника", у лагеры рэвалюцыйных дэмакратаў[175].

Цесныя сувязі і супрацоўніцтва Пыпіна з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі зрабілі вялікі ўплыў на яго навуковыя погляды. Ён успрымае дыялектычны метад мыслення і гістарычны падыход да з'яў грамадскага жыцця. Так, у артыкуле "Наконт даследаванняў п. Буслаева аб рускай старыне", які быў надрукаваны ў 1861 г. у "Современнике", Пыпін рэзка крытыкуе навуковыя працы Буслаева, заснавальніка міфалагічнай школы ў Расіі. Ён абураецца тым, што ў працы Буслаева адсутнічае гістарычны падыход да тлумачэння вуснапаэтычнай творчасці, вераванняў і абрадаў народа. Пыпін кпіць з Буслаева за тое, што ён у сваіх даследаваннях змешвае з'явы жыцця народа розных гістарычных перыядаў і падае іх у статыцы. У процілегласць Буслаеву Пыпін падкрэслівае, што "паняцці народа не заставаліся на адным месцы, але ўвесь час змяняліся... Тое, што было раней вольным паэтычным уяўленнем, іншы раз робіцца цяжкімі забабонамі, што было раней свяшчэнным абрадам, становіцца пустой, незразумелай цырымоніяй, што раней

---

[173] Сакулин П. А. Н. Пыпин. С. 17. Гл. таксама: Селивский В. Памяти А. Н. Пыпина // Русская мысль. М., 1904. Кн. XII. С. 169.

[174] Гл.: Пыпин А. Н. Мои заметки.

[175] Гл.: Егоров Б. Ф. К вопросу о месте А. Н. Пыпина-фольклориста в общественной борьбе 1860-х годов // Русский фольклор. М.; Л., 1959. Т. IV. С. 168—173.

было непарушным законам у разуменні ўсяго народа, тое адкінута потым цэлымі масамі яго"[176]. Пыпін далей паказвае, што Буслаеў, ідэалізуючы народныя забабоны і вераванні, захапляючыся іх "паэтычнай знешнасцю", не бачыў іх сапраўднага жыццёвага сэнсу.

У артыкулах "Гістарычная аб'ектыўнасць"[177] і "Старыя непаразуменні"[178] Пыпін яшчэ больш рашуча і прама паказвае рэакцыйную сутнасць метадалогіі Буслаева.

У артыкуле "Некалькі слоў аб "народных пачатках" і аб "цывілізацыі", палемізуючы з Мілерам, Пыпін заяўляе, што гістарычная роля належыць не ўмераным, а рашучым. Ён крытыкуе Мілера таксама за адсутнасць гістарычнага падыходу да грамадскага жыцця: "Я цалкам адмаўляюся лічыць народны пачатак нечым нерухомым... — пісаў ён, — я адмаўляюся лічыць для народа абавязковымі яго старыя ідэі, быццам ён не можа стварыць для сябе зусім новых, да якіх ён можа дадумвацца сам ці якія ён можа пазнаць ад другіх"[179]. Задачы вывучэння народнага быту Пыпін цесна звязвае з задачамі сацыяльнага вызвалення народа. Вывучэнне народа, сялянскае пытанне ў Расіі і рабочае пытанне на Захадзе ён лічыць з'явамі не толькі паралельнымі, але і з'явамі аднаго парадку.

У артыкуле "Як разумець этнаграфію" Пыпін, выступаючы ад імя рэдакцыі часопіса "Современник", дае арыгінальнае вызначэнне этнаграфіі як навукі і акрэслівае асноўныя яе задачы. Этнаграфію ён разглядае як навуку аб бытавых асаблівасцях народа. Асноўнай задачай яе Пыпін лічыў вывучэнне "сучасных з'яў народнага быту"[180]. Гэты артыкул яскрава адлюстроўваў погляды рэвалюцыйных дэмакратаў на этнаграфію.

Аднак пазней Пыпін перайшоў на пазіцыі буржуазна-ліберальнага асветніцтва. Гэта тлумачыцца аслабленнем рэвалюцыйнага руху народных мас у Расіі ў 70—80-х гадах. Разам з тым трэба адзначыць, што і ў гэты перыяд у поглядах Пыпіна на рад пытанняў грамадскага развіцця мелі месца дэмакратычныя элементы. Прызнаючы права народа на сацыяльнае вызваленне, Пыпін усе свае надзеі ўскладае на павышэнне адукацыі народа, з дапамогаю якой ён утапічна марыў стварыць адзінае грамадства, дзе не будзе саслоўнага дзялення, прапагандаваў "ідэю цэлага народа, вольнага і раўнапраўнага"[181].

Пыпін рэкамендуе наступны шлях ліквідацыі сацыяльнай няроўнасці народа: "Пытанне аб знішчэнні гэтага раздзялення вырашаецца тым, што нельга пакідаць народ у стане напаўдзікай цемнаты; і толькі выйшаўшы з гэтага стану хоць трохі, народ можа падаць свой голас у гэтай справе, і раздзяленню, як яно ёсць да гэтага часу, можа быць пакладзены канец"[182]. Адсюль зразумела, чаму ў сваёй навуковай дзейнасці пры разглядзе грамадскага руху розных эпох у Расіі, гісторыі літаратуры і этнаграфіі Пыпін з вялікай сімпатыяй адносіцца да такіх выдатных прадстаўнікоў грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, як Радзішчаў, Пушкін, Лермантаў, Бялінскі, Дабралюбаў, Герцэн, Чарнышэўскі, Ня-

---

[176] Пыпин А. Н. По поводу исследований г. Буслаева о русской старине // Современник. Т. XXXV. 1861. С. 16.

[177] Ён жа. Историческая объективность // Там жа. 1863. № 4.

[178] Ён жа. Старые недоразумения // Там жа. № 7.

[179] Ён жа. Несколько слов о "народных началах" и о "цивилизации" // Там жа. 1865. № 6. С. 153, 154.

[180] Ён жа. Как понимать этнографию // Там жа. № 2.

[181] Ён жа. История русской этнографии. СПб., 1890. Т. I. С. 4.

[182] Там жа. С. 19.

красаў і многіх іншых[183], як да прыхільнікаў рэвалюцыйнага шляху пераўтварэння грамадства, так і да прыхільнікаў прагрэсіўнага крыла ліберальнага напрамку. Бялінскаму, Грыбаедаву, Салтыкову-Шчадрыну ён, напрыклад, прысвячае асобныя працы, якія ў свой час мелі прагрэсіўнае значэнне. Кнігу Радзішчава "Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву" Пыпін характарызуе як "помнік такога разумення самай цяжкай народнай бяды, на які з прыемнасцю можа ўказаць гісторык, як на чэсны голас сярод ліслівых і нізкапаклонніцкіх дыфірамбаў"[184].

Аднак у тлумачэнні гістарычнага працэсу Пыпін стаяў на ідэалістычных пазіцыях. Ён не разумеў класавай сутнасці грамадства і палітычнай эканоміі. Успрыняўшы ідэі заходнееўрапейскага і айчыннага асветніцтва, ён цвёрда быў упэўнены, што светам кіруюць ідэі.

Такім чынам, грамадска-палітычныя, філасофскія і навуковыя погляды Пыпіна былі супярэчлівымі. Даволі трапную характарыстыку Пыпіну даў М. Глаголеў[185]: "У асобе Пыпіна мы маем ліберальнага дэмакрата, нарадалюбца з поўнасцю шчырымі разважаннямі аб народнай карысці і спачуваннем да народных пакут, але разам з тым і з поўнай няздольнасцю да выразнай рэвалюцыйнай пастаноўкі ўсіх вострых пытанняў, з заўсёдашнім затушоўваннем супярэчнасцей паміж класамі рускага грамадства, з няздольнасцю да рэвалюцыйных метадаў барацьбы"[186].

Асноўная заслуга Пыпіна перад этнаграфічнай навукай нашай краіны — яго чатырохтомная праца "Гісторыя рускай этнаграфіі". Першы і другі тамы гэтай працы прысвечаны агляду этнаграфічнага вывучэння рускіх, трэці — украінцаў, чацвёрты — беларусаў і народаў Сібіры. Частка чацвёртага тома, прысвечаная Беларусі, складаецца з сямі раздзелаў, у якіх на агульным гістарычным фоне даецца агляд важнейшых прац польскіх, рускіх і беларускіх этнографаў па быту і культуры беларускага народа з канца XVIII ст. да канца 90 гадоў XIX ст.

Агляд гісторыі этнаграфічнага вывучэння Беларусі Пыпін робіць у цеснай сувязі з аглядам развіцця яе культуры. Этнаграфічную навуку і літаратуру ён разглядае як форму выражэння самасвядомасці народа. У процівагу вялікадзяржаўнай нацыянальнай палітыцы царызму, які адмаўляў права беларускага народа на нацыянальнае існаванне, Пыпін даказвае, што "існаванне такога "племя" не падлягае сумненню"[187]. Ён правільна тлумачыць працэс складвання рускай, украінскай і беларускай народнасцей, падкрэсліваючы, што адзіным коранем іх з'яўляецца старажытнаруская народнасць.

Даючы кароткую характарыстыку гістарычнага і культурнага развіцця Беларусі як пад уладай Польшчы, так і пасля ўз'яднання з Расіяй, Пыпін паказвае цяжкі панска-каталіцкі прыгнёт і ролю брацтваў у барацьбе супраць дэнацыяналізацыі беларускага народа, бічуе нацыянальную палітыку царызму, якую той праводзіў у Беларусі пасля ўз'яд-

---

[183] Пыпин А. Н. Общественное движение в России при Александре I. СПб., 1872, 1885, 1990; Ён жа. Характеристика литературных мыслей от 20-х годов до 50-х. СПб., 1873, 1890; Ён жа. Белинский, его жизнь и переписка. СПб., 1874. Т. I—II; Ён жа. История русской литературы. 2-е изд. СПб., 1902—1908. Т. I—IV; История русской этнографии. СПб., 1890—1892. Т. I—IV і інш.

[184] Ён жа. История русской этнографии. Т. I. С. 25.

[185] Глаголев Н. К критике историко-культурной школы (Пыпин, Геттнер, Тэн) // Русский язык в советской школе. 1931. № 4. С. 3—19; № 5. С. 3—15.

[186] Там жа. № 5. С. 12.

[187] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 4.

нання і асабліва пасля падаўлення паўстання 1863 г. У гэты апошні перыяд царызм інтэнсіўна праводзіў палітыку русіфікацыі краю. "Вядома, — пісаў Пыпін, — што для гэтай справы на месцы выкарыстаны былі людзі, выкліканыя з Пецярбурга і ўнутраных губерняў, звычайна раней незнаёмыя з краем, непадрыхтаваныя зразумець яго асаблівасці і якія, нарэшце, знішчаючы польскае, жадалі знішчыць і мясцовае рускае, дзе яно было не падобна на рускі быт унутранай Расіі — тая ж старая рыса ўзаемнага неразумення і няўвага да этнаграфічных асаблівасцей Заходняга краю"[188].

Асобна разглядае Пыпін працы 30—50-х гадоў аб беларусах, аднак без аналізу канкрэтнага бытавога матэрыялу. Самую высокую ацэнку ён дае кнізе Я. Тышкевіча "Апісанне Барысаўскага павета". "Кніга, — адзначае Пыпін, — дае падрабязнае і грунтоўнае апісанне па тых прадметах, якія ўказваліся тагачаснымі статыстычнымі праграмамі, а ў некаторых выпадках, напрыклад у аддзеле этнаграфічным, мабыць, давала нават больш, чым тады патрабавалася гэтымі праграмамі"[189].

Характарызуючы працы польскіх этнографаў па быту і культуры беларусаў, ён адзначае, што аўтарамі іх з'яўляюцца прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, пераважна выхадцы з апалячанага беларускага дваранства і інтэлігенцыі, ці тыя прадстаўнікі польскай шляхты, якія ўжо даўно жывуць у Беларусі. Пыпін слушна падмеціў, што аўтары многіх прац нярэдка выказваюць спачуванне працоўнаму чалавеку, даюць яму парады, як можна палепшыць становішча, і нават звяртаюцца да паноў, каб яны клапаціліся аб народзе. Гэтыя тэндэнцыі ў вывучэнні быту беларусаў польскімі этнографамі ён тлумачыў наступным чынам: "Была любоў да сваёй мясцовай радзімы, да яе гістарычнай і бытавой абстаноўкі, да народнага звычаю, знаёмага з дзяцінства і ў панскім асяроддзі; у гэтым асяроддзі не чужой была народная (у дадзеным выпадку беларуская) мова, да якой прывыклі ад нянек, хатняй прыслугі і ад вясковых рабочых; многія з паноў самі беларусы, здаецца, да даволі позняга часу не былі канчаткова паланізаваны, і мова беларуская часткова трымалася і ў гэтым асяроддзі як родная; у мясцовай "засцянковай", "ваколічнай" шляхты — тым больш. Народнарамантычны напрамак літаратуры супадаў і з прыхільнасцю да яго ў самім жыцці"[190].

Аднак усю літаратуру першай паловы XIX ст. аб Беларусі на польскай мове Пыпін абвінавачваў у нацыяналізме. Ён аднолькава падыходзіў да прац ліберальнага і прагрэсіўнага напрамку (Чачот, Зянькевіч, Тышкевіч) і да прац рэакцыйна-нацыяналістычнага напрамку (Галамбёўскі, Рыпінскі), і да літаратурнай дзейнасці Дуніна-Марцінкевіча. Такім чынам, Пыпін не змог правільна разгледзець розныя плыні і напрамкі ў культурным развіцці Беларусі і ў першай палове XIX ст.

Значную частку чацвёртага тома "Гісторыі рускай этнаграфіі" Пыпін прысвячае працам рускіх вучоных па беларускай этнаграфіі і агляду этнаграфічных прац мясцовых даследчыкаў. Ён адзначае, што да 60-х гадоў рускія даследчыкі быту народа не звярталі патрэбнай увагі на вывучэнне Беларусі. Першыя этнаграфічныя звесткі былі выпадковымі і не заўсёды адлюстроўвалі сапраўдны малюнак жыцця беларусаў. Гэта былі падарожныя заметкі розных

[188] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 23.

[189] Там жа. С. 64.

[190] Там жа. С. 59.

вандроўнікаў па Беларусі. На першае месца Пыпін ставіць падарожжа па Беларусі Екацярыны II у 1780 г.[191], адзначаючы, аднак, што яе заметкі змяшчаюць пераважна "знешнія этнаграфічныя і гістарычныя даведкі", што аўтар іх мала спыняецца на пытаннях быту народа[192].

Крытычна ставіцца Пыпін да "Запісак" акадэміка Севергіна аб паездцы ў 1802 г. па Беларусі[193], мімаходам упамінае аб іншых вандроўніках і чамусьці нічога не гаворыць аб экспедыцыі па Беларусі Ляпёхіна.

Пыпін дае высокую ацэнку працам мясцовых даследчыкаў І. Грыгаровіча, П. Шпілеўскага, П. Баброўскага і І. Насовіча, а таксама коратка характарызуе працы Рускага геаграфічнага таварыства і афіцэраў Генеральнага штаба, якія друкаваліся ці рыхтаваліся да друку ў 50-х гадах.

Перыяд да 60-х гадоў для этнаграфіі Беларусі Пыпін характарызуе як першапачатковы. Беднасць этнаграфічнай літаратуры аб Беларусі на рускай мове ён тлумачыць радам прычын, адной з якіх лічыць вялікадзяржаўную палітыку царскага ўрада. "Цікавасць грамадства, — пісаў Пыпін, — да заходнерускага пытання не была і не магла быць поўнай: па сутнасці яно было пастаўлена толькі з вузка палітычнага пункту погляду, амаль выключна ў сэнсе антыпольскіх рэпрэсій, і ўласна народнаграмадскі бок справы не знайшоў у той час, ды і пасля, адлюстравання..."[194]

Другой важнейшай прычынай, якая стрымлівала развіццё этнаграфіі ў дарэформенны перыяд, было прыгонніцтва. Пыпін вельмі ўдала паказвае гэту залежнасць: "Гаварыць аб "народзе" ў колькі-небудзь шырокім і сур'ёзным сэнсе слова не было магчымасці да таго часу, пакуль нельга было закрануць грамадскі бок яго быту — прыгоннае права... Пытанне заставалася недаступным для грамадскай думкі, а разам для літаратуры: гаварыць аб беларускім народзе, як і прымаць надта блізка да сэрца інтарэсы народа рускага (велікарускага), азначала б перш за ўсё гаварыць аб вызваленні, аб праве народа на лепшае грамадскае палажэнне, на школу і г. д."[195]

Пачаткам новага этапа ў этнаграфічным вывучэнні Беларусі Пыпін лічыць 60-я гады XIX ст., звязваючы гэта з рэформай 1861 г. і з палітычнымі падзеямі 1863 г. Даследчык паказвае, што амаль уся руская літаратура аб Беларусі ў гэты перыяд мела антыпольскую накіраванасць. З вялікадзяржаўным русіфікатарскім падыходам былі выдадзены атласы Беларусі Эркертам і Рыціхам, працы Каяловіча і фальклорны зборнік Гільтэбранта. З гэтай жа мэтай планавалася этнаграфічная экспедыцыя РГТ у Беларусь.

Разам з тым Пыпін адзначае, што ў гэты час пачынаюць з'яўляцца і этнаграфічныя працы, у якіх на першы план выстаўляліся навуковыя мэты. Да такіх прац ён правамерна адносіць зборнікі Рубяроўскага, Дзмітрыева і Крачкоўскага (артыкулы 60-х гадоў).

70-я гады характарызуюцца Пыпіным як перыяд далейшага развіцця апошняй тэндэнцыі ў вывучэнні народа, хоць яшчэ і працягвалася ганенне "элементаў краю нярускіх і нават элементаў

[191] Топографические применения на знатнейшие места путешествия ее императорского величества в белорусские наместничества. СПб., 1780.

[192] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 67.

[193] Записки путешествия по западным провинциям Российского государства... СПб., 1803; Продолжение записок... СПб., 1804.

[194] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 65.

[195] Там жа. С. 66.

мясцова беларускіх, калі яны былі не зусім падобнымі да чыноўнцікага ўяўлення аб рускай народнасці"[196].

70—80-я гады XIX ст. у этнаграфічнай навуцы Беларусі Пыпін называе "навейшым часам". Яго радуе тое, што ў гэты час колькасць літаратуры па быту і культуры беларусаў значна павялічылася, і асабліва тое, што навуковыя мэты ў ёй ставіліся на першы план. "Навука, — пісаў ён, — не мае месца ў ваяўнічых, поўных нецярплівасці і варожасці настроях грамадства, і сапраўды, наколькі мізэрныя былі фальшыва-навуковыя даследаванні папярэдняга перыяду, настолькі багатыя вынікі даследаванняў, што былі задуманы з непасрэднай любоўю да народа і з адным імкненнем знайсці гістарычную ісціну"[197].

З этнографаў, якія працавалі ў 70—80-х гадах, Пыпін характарызуе толькі найбольш відных — Насовіча, Шэйна, Раманава, Дамбавецкага, Крачкоўскага, крыху закранае Нікіфароўскага і Доўнар-Запольскага. Некаторае месца адводзіцца разгляду зборніка песень П. Бяссонава і характарыстыцы этнаграфічнага выдання "Жывапісная Расія". Пыпін паказвае, што дзейнасць пералічаных рускіх этнографаў адкрыла новы этап у развіцці этнаграфічнай навукі Беларусі. Асабліва высока ацэньвае ён зборнікі Шэйна і Раманава. Раманава ён вылучае асобна, паколькі той у адрозненне ад іншых збіраў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы сам. Пыпін называе яго "руплівым дзеячам беларускай этнаграфіі"[198].

[196] Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. IV. С. 124.

[197] Там жа. С. 125.

[198] Там жа. С. 162.

Крытычныя заўвагі Пыпіна ў адносінах да этнаграфічных прац 70—80-х гадоў носяць ужо больш прадметны характар, чым раней. Ён займаецца пытаннямі методыкі збірання і класіфікацыі сабраных матэрыялаў. Так, зборнікі Насовіча і Бяссонава крытыкуе за адсутнасць ці недастатковасць пашпартызацыі сабраных матэрыялаў, ставіць пад сумненне тлумачэнні беларускіх абрадаў Бяссонава, "дзе аўтар не ўтрымаўся ад сваіх звычайных "навуковых" дзівацтваў"[199]. Раманава, напрыклад, крытыкуе за недакладную класіфікацыю фальклорных матэрыялаў і за адсутнасць у яго зборніках 80-х гадоў апісанняў звычаяў і абрадаў.

Пыпін адзначае недахопы выдання "Жывапісная Расія", асабліва прац Кіркора аб Беларусі, які, "даўно выехаўшы за мяжу..., проста мала быў знаёмы з тым, што рабілася ў нас"[200]. Тут жа Пыпін называе некалькі прац польскіх этнографаў, якія выйшлі ў 70—80-х гадах, але не раскрывае іх сутнасці.

Звяртаючыся да агульнай характарыстыкі працы Пыпіна па гісторыі беларускай этнаграфіі, трэба адзначыць, што яна мела для свайго часу вялікае значэнне як першы вопыт абагульнення тых дасягненняў, якія былі зроблены ў этнаграфічным вывучэнні беларускага народа. Гэта праца адыграла вялікую ролю ў папулярызацыі этнаграфічнай навукі і ў актывізацыі новых сіл на высакародную справу вывучэння быту і культуры народа.

[199] Там жа. С. 146.

[200] Там жа. С. 170.

# ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯДЫЧНЫМ ДРУКУ

80—90-я гады XIX ст. у грамадска-палітычным жыцці і рэвалюцыйным руху ў Расіі і Беларусі былі пераходнымі ад разначыннага этапа да пралетарскага. Пераломны перыяд гэтага часу ў значнай меры адлюстраваўся ў перыядычным друку, што можна было прасачыць на этнаграфічных матэрыялах. Ад таго, колькі і якой якасці на старонках яго змяшчалася матэрыялаў па быту і культуры народа, у значнай ступені залежалі характар і палітычная накіраванасць таго ці іншага выдання.

Значныя матэрыялы па быту беларусаў з'явіліся ў гэты час у выданнях навуковых таварыстваў і ўстаноў — Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, Рускага геаграфічнага таварыства, Акадэміі навук і інш. Вядучая роля сярод органаў друку навуковых таварыстваў належала часопісам "Этнографическое обозрение" (Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі) і "Живая старина" (РГТ).

"Этнографическое обозрение" пачало выходзіць у 1889 г. Да канца 90-х гадоў у часопісе было надрукавана каля 70 артыкулаў па быту, культуры і фальклору Беларусі, а таксама рэцэнзіі на работы беларускіх этнографаў. Фактычным кіраўніком часопіса быў М. А. Янчук. На старонках "Этнографического обозрения" друкаваліся такія буйныя працы беларускіх этнографаў, як "Нарысы Віцебскай Беларусі" Нікіфароўскага, "Нарысы сямейнага звычаёвага права сялян Мінскай губерні" і "Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках" Доўнар-Запольскага, шматлікія артыкулы Ляцкага, Дземідовіча і Раманава.

Этнаграфічныя матэрыялы па Беларусі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі працягвала друкаваць і ў "Працах этнаграфічнага аддзела". Яны былі апублікаваны ў шасці кніжках з 14, якія выходзілі на працягу 1870—1900 гг.[201]

Вялікая колькасць этнаграфічных прац па Беларусі была апублікавана ў перыядычных выданнях РГТ. Шматлікія і разнародныя матэрыялы былі змешчаны ў часопісе "Живая старина", які пачаў выходзіць у 1891 г. Сярод артыкулаў найбольш значнымі з'яўляюцца "Сялянскія гульні ў Мінскай губерні", "Заметкі аб беларускіх гаворках", "Заметкі па беларускай этнаграфіі" Доўнар-Запольскага; "Народныя казанні аб самазабойцах", "Кісялёўскія цыганы", "Звесткі для народнага календара Смаленскай губерні", "Расказы з жыцця палех Жыздрынскага Палесся" Дабравольскага; "Катрушніцкі лемязень" Раманава і інш.

У "Записках" РГТ па Аддзяленню этнаграфіі былі змешчаны вядомыя зборнікі Радчанка, Булгакоўскага і Дабравольскага.

Што датычыць беларускай этнаграфіі ў выданнях Акадэміі навук, то трэба адзначыць, што самай буйной і амаль што адзінай працай, апублікаванай там, быў трохтомнік "Матэрыялаў..." Шэйна. Акрамя таго, у выданнях Акадэміі навук публікаваліся рэцэнзіі і дробныя артыкулы.

Некаторыя этнаграфічныя звесткі па Беларусі змяшчаліся ў іншых органах перыядычнага друку Масквы, Пецярбур-

---

[201] Гл., напрыклад: Известия Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. 1900. Т. XCVII (Труды этнографического отдела. Кн. VII, IX, XIV).

га, а таксама Кіева, Варшавы, Чарнігава і іншых гарадоў Расіі. У часопісах "Русская мысль", "Северный вестник" і "Русская беседа" з'яўляліся апісальныя матэрыялы па быту беларусаў А. Яфіменкі[202], Д. Анучына[203], А. Занкевіча[204] і інш.

Паасобныя заметкі публіцыстычнага характару друкаваліся ў іншых часопісах і газетах — "Биржевые ведомости", "Мировые отголоски", "Наша пища", "Правительственный вестник" і інш. Рэцэнзіі і водзывы на працы беларускіх этнографаў з'яўляліся пераважна ў часопісах "Исторический вестник" (СПб.), "Журнал Министерства народного просвещения" (СПб.), "Русский филологический вестник" (Варшава), "Киевская старина" (Кіеў) і інш.

У этнаграфічных матэрыялах перыядычных выданняў у асноўным адлюстроўваліся грамадскі і сямейны быт, вераванні, абрады і звычаёвае права беларускага сялянства. Такая накіраванасць часопісаў вызначалася агульным кірункам этнаграфічнай навукі таго часу і, у прыватнасці, задачамі, якія ставілі перад сабою навуковыя таварыствы і Акадэмія ў галіне этнаграфіі.

Тым не менш навуковая каштоўнасць змешчаных у гэтых перыядычных выданнях этнаграфічных прац і артыкулаў выключна вялікая. Побач з сырымі добра пашпартызаванымі матэрыяламі ў іх змяшчаліся і навукова-даследчыя па адзначаных галінах быту і культуры беларусаў.

Што ж датычыць палітычнай накіраванасці апублікаваных прац у 80—90-х гадах, то ў параўнанні з 60—70-мі гадамі губляецца ранейшая антыпольская тэндэнцыйнасць, а ў радзе выпадкаў з'яўляюцца нават дружалюбныя выказванні ў адносінах да паасобных дзеячаў польскай культуры, якія займаліся і этнаграфічным вывучэннем беларусаў.

Прэса Пецярбурга, Масквы, Кіева і іншых гарадоў у значнай меры змяніла і падыход да агульнай ацэнкі беларускага народа. Гэта можна вытлумачыць, па-першае, тым, што навуковыя даследаванні ўзнімаюцца на новы ўзровень, становяцца больш аб'ектыўнымі і грунтоўнымі, па-другое, царызму ўжо нявыгадна было паказваць забітасць беларусаў, таму што з часу далучэння Беларусі да Расіі прайшло звыш стагоддзя, а дабрабыт асноўнай масы народа не паляпшаўся.

Параўнальна вялікія матэрыялы па быту беларусаў у 80—90-х гадах змяшчаў мясцовы перыядычны друк. Характар матэрыялаў і іх накіраванасць у значнай ступені залежалі ад палітычных поглядаў рэдактараў перыядычнага друку.

Прагрэсіўныя перадавыя настроі ў паказе быту і культуры беларусаў у большай ступені адлюстроўваліся на старонках "Минского листка" (на працягу ўсяго часу яго існавання), "Могилевских губернских ведомостей" (у 1897—1903 гг., калі рэдактарам іх быў Е. Р. Раманаў), "Гродненских губернских ведомостей" (у 1891—1895 гг., калі супрацоўнікам іх з'яўляўся А. Багдановіч) і "Витебских губернских ведомостей" (у 90-я гады, калі ў іх супрацоўнічаў М. Я. Нікіфароўскі).

Акрамя пералічаных перыядычных выданняў, значныя матэрыялы змяшчаліся і ў іншых мясцовых выданнях — у "Виленском вестнике", "Смоленском

---

[202] Ефименко А. Народный суд в Западной Руси // Русская мысль. М., 1893. № 8. С. 1—20; № 9. С. 21—40.

[203] Анучин Д. Из поездки к истокам Днепра, Западной Двины и Волги // Северный вестник. СПб., 1891. № 8. С. 119—162.

[204] Занкевич А. Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими // Русская беседа. СПб., 1896, октябрь. С. 104—154; ноябрь. С. 41—101.

вестнике", "Памятных книжках" губерняў, календарах ("Северо-Западном календаре" і "Виленском календаре") і, нарэшце, у "Епархиальных ведомостях".

Усяго ў перыядычным друку, як мясцовым, так і цэнтральным, было апублікавана звыш 500 этнаграфічных прац і артыкулаў, якія ў агульнай сваёй масе даюць багатыя матэрыялы па самых розных галінах быту і культуры беларусаў.

Трэба адзначыць, што ў параўнанні з 60—70-мі гадамі ў гэты час у мясцовым перыядычным друку стала з'яўляцца большая колькасць прац па вытворчаму і асабліва матэрыяльнаму быту народа, а таксама па звычаёваму праву і сямейнаму быту. Побач з гэтым значнае месца займаюць гісторыка-этнаграфічныя працы аб паасобных населеных пунктах або раёнах Беларусі. Аднак і ў гэты перыяд па-ранейшаму большая частка матэрыялаў адлюстроўвала духоўны быт народа, вераванні, абрады, забабоны і звычаі.

На старонках "Минского листка" выступаў са сваімі артыкуламі прагрэсіўны беларускі этнограф М. Янчук. Газета адвяла вялікае месца для яго заметак з экспедыцыйных паездак па Беларусі, у якіх даецца яскравая карціна быту беларускай вёскі. Быту сялян былі прысвечаны і артыкулы Е. Ляцкага[205], Д. Мейчыка[206] і іншых беларускіх этнографаў.

"Минский листок" змясціў таксама некалькі артыкулаў, прысвечаных быту рабочых чыгуначнікаў, плытагонаў і фабрычных рабочых[207]. Вось, напрыклад, што паведамлялася ў адной з карэспандэнцый аб быце фабрычных рабочых г. Мінска: "Становішча рабочых на мінскіх фабрыках і заводах наогул і гільзавых фабрыках у прыватнасці вельмі цяжкае і сумнае ва ўсіх адносінах. Рабочы час на гэтых фабрыках і заводах вельмі працяглы, а заработная плата рабочых вельмі мізэрная. Заработак дарослага работніка раўняецца 3—4 руб., а дарослай работніцы — 1,5 руб. у тыдзень. На некаторых мясцовых гільзавых фабрыках большую частку рабочых складаюць падлеткі, праца якіх эксплуатуецца іх гаспадарамі самым страшэнным і бессаромным чынам. За надзвычай цяжкую і знясільваючую працу малалетняму рабочаму плоцяць ад 30 да 50 капеек у тыдзень, не больш. Гэта — неверагодны, але дакладны факт, які можа засведчыць той, хто піша гэтыя радкі. Няшчасныя дзеці-працаўнікі знясільваюцца пры работах на гільзавых фабрыках, дзе яны праводзяць па 17—18 гадзін у суткі... Сэрца абліваецца крывёй, калі бачыш "малыя сілы", на якіх насычаная міязмамі фабрычная атмасфера адбіваецца самым страшэнным чынам ва ўсіх адносінах"[208].

Аўтар артыкула "Аб грамадска-палітычнай пазіцыі газеты "Минский листок" Т. Фёдарава нават сцвярджае, што гэта газета "ў асноўным стаяла на пазіцыях рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі, абараняла і прапагандавала яе прынцыпы — крытычны рэалізм, ідэйнасць і народнасць"[209]. Не абвяргаючы гэтых сцвярджэнняў Фёдаравай, заўважым толькі, што больш правільна было б гаварыць аб гуманістычных і прагрэсіўных поглядах рэдактараў газеты, якія, змяшчаючы выкрывальныя матэрыялы аб цяжкім становішчы народных мас і крытыкуючы рэакцыйную палітыку

[205] Ляцкий Е. Ольховецкие письма // Минский листок. 1890. № 47 і наступныя; Ён жа. Из области заговоров // Там жа. 1892. № 95.

[206] Мейчик Д. Об источниках местного обычного права // Там жа. 1886. № 17, 18.

[207] Гл.: Минский листок. 1886. № 67, 68; 1895. № 7, 12; 1896. № 39 і інш.

[208] Минский листок. 1896. № 39.

[209] Коммунист Белоруссии. 1962. № 6. С. 62.

царызму, аб'ектыўна садзейнічалі рэвалюцыйна-дэмакратычнаму напрамку ў барацьбе грамадска-палітычных плыняў апошніх двух дзесяцігоддзяў XIX ст.

Значныя этнаграфічныя матэрыялы былі змешчаны на старонках "Витебских губернских ведомостей". На працягу 1894—1895 гг. газета публікавала самую вялікую працу таго часу па матэрыяльнай культуры беларусаў — "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі" М. Я. Нікіфароўскага"[210]. У наступныя два гады была апублікавана другая буйная яго праца "Простанародныя прыкметы і павер'і, забабонныя абрады і звычаі, легендарныя казанні аб асобах і месцах"[211]. Акрамя таго, Нікіфароўскі змясціў тут артыкулы "Старонкі з нядаўняй старыны горада Віцебска"[212], "На глебе прастаты веры"[213] і інш. Наогул супрацоўніцтва Нікіфароўскага ў газеце надало ёй краязнаўчы характар, этнаграфізавала яе.

Побач з Нікіфароўскім у "Витебских губернских ведомостях" друкавалі свае матэрыялы краязнаўцы і этнографы Е. Раманаў, І. Гарбачэўскі, В. Стукаліч, І. Далгоў і інш. Артыкулы гэтых аўтараў давалі каштоўныя і аб'ектыўныя матэрыялы па быту беларусаў, яны падкрэслівалі высокую самабытную культуру беларусаў. Прыкладам можа служыць артыкул Гарбачэўскага "Старажытнасць беларускіх песень і іх напеваў"[214]. Тут аўтар спыняецца на беларускіх песнях, "каб насуперак ганьбавальнікам даказаць старажытнае багацце іх зместу, глыбокапаэтычнае выражэнне пачуццяў і думак і своеасаблівую прыгажосць напеваў". "Трэба да іх прыслухацца чуйным вухам, і яны вельмі многае скажуць нашаму сэрцу"[215]. Гарбачэўскі даказвае, што беларусы маюць тонкі музыкальны слых. Аднак як паслядоўнік буржуазных поглядаў на вуснапаэтычную творчасць народа, ён смуткуе, што ў вёску пранікае гарадская песня. Мала верыць ён і ў магчымасць нацыянальнага развіцця беларускага народа.

"Гродненские губернские ведомости" актывізавалі сваю дзейнасць у галіне публікацыі матэрыялаў па быту з пачатку 90-х гадоў, калі ў Гродна пераехаў беларускі этнограф А. Я. Багдановіч. Супрацоўніцтва яго ў газеце на працягу пяці год (1891—1895), а ў 1895 г. і Е. Р. Раманава змяніла яе змест і прывяло да таго, што на старонках газеты публікавалася вялікая колькасць этнаграфічных матэрыялаў. Так, у прыватнасці, газета змясціла вялікую працу А. Багдановіча "Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў"[216].

У "Гродненских губернских ведомостях" больш, чым у іншых газетах, якія выходзілі ў Беларусі ў той час, было змешчана гісторыка-бытавых нарысаў па паасобных мясцовасцях губерні і канкрэтных населеных пунктах, важнейшымі з якіх з'яўляюцца "Кароткае апісанне Ятвеска Гродзенскай губерні,

[210] Никифоровский Н. Я. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии // Витебские губернские ведомости. 1894. № 42—46, 48—52, 54—56, 59, 60, 65—74, 76, 77, 79—85, 88, 89, 92, 98, 100—102, 104; 1895. № 2—5, 8, 10, 11, 14—18, 20—22, 28—35, 38.

[211] Ён жа. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах // Там жа. 1896. № 36, 42, 45—61, 77—87, 89—103; 1897. № 1—6, 8, 10, 11, 13, 14, 16, 17, 19—21, 23—26.

[212] Витебские губернские ведомости. 1900. № 231, 232.

[213] Там жа. 1898. № 11, 12.

[214] Горбачевский И. Древность белорусских песен и их напевов // Витебские губернские ведомости. 1896. № 83—85, 87, 89.

[215] Там жа.

[216] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов // Гродненские губернские ведомости. 1895. № 11, 12, 14, 18, 19, 20, 22—26, 31, 32, 34, 37, 38, 42, 44, 45.

Ваўкавыскі павет"[217] М. Раманоўскага, "Сяло Ляхавіцы Гродзенскага павета"[218], "Сяло Дружылавічы Кобрынскага павета"[219] без подпісу аўтара, "Лосінская воласць Бельскага павета"[220], "Да этнаграфіі Кобрынскага павета"[221] Блізняца, "Мельнік — заштатны горад Гродзенскай губерні (умовы жыцця і заняткі)"[222] А. Г. Да ўсёй Гродзенскай губерні адносяцца артыкулы "Кароткае апісанне Гродзенскай губерні"[223] К. В. Бірулі, "Да этнаграфічнага мінулага Гродзенскай губерні"[224] П. М.-на. Нарэшце, вялікая колькасць артыкулаў і заметак па быту народа, галоўным чынам па вераваннях, абрадах, народнай медыцыне, паасобных баках сямейнага быту, друкавалася пад рубрыкай — карэспандэнцыі не маюць подпісаў ці падпісаны ініцыяламі. Назавём некаторыя з іх: С. "Сёе-тое аб патрыярхальнасці сярод нашага сялянства"[225]; М. Г. "Мясцовыя народныя звычаі на калядныя святы"[226]; "З Кобрынскага павета (талака)"[227]; В. Н. "Куст"[228]; М. Р. "Сёе-тое аб знахарстве"[229]; "Вясельныя абрады"[230]; Ф. Л.-віч "Цёмныя сілы вёскі (знахарства ў Слонімскім павеце)"[231].

"Виленский вестник" — старэйшая газета на Беларусі — мела ўжо вялікі вопыт у публікацыі краязнаўчых матэрыялаў, але ў 80—90-х гадах яе перавага перад іншымі газетамі губляецца. У "Виленском вестнике" друкаваліся нарысы М. В. Доўнар-Запольскага, артыкулы С. Карскага аб сямейным і вытворчым быце беларусаў і П. Дземідовіча аб вераваннях, К. Сіроткі "Аб быце беларусаў"[232], К. "Вясковыя рабочыя Свянцянскага павета"[233], "Сёе-тое аб пчалярстве на Палессі"[234], Аскарэўскага "Пісьмы з беларускай вёскі"[235], "З галіны народных паданняў"[236], "Сіла забабонаў"[237], А. Валынца "Вялікдзень у Беларусі"[238] і зборнік беларускіх песень А. М. Булгакова "Помнікі народнай творчасці"[239].

Спробай даць апісанне многіх галін быту беларусаў з'яўляюцца артыкулы, змешчаныя ў "Виленском вестнике" мясцовым дзеячам Сяргеем Карскім. У артыкуле "Эканамічны быт беларусаў Віленскай губерні" асноўным заняткам беларусаў Віленскай губерні ён называе земляробства, якому селянін аддае ўсе свае сілы. "Цяжкую і настойлівую барацьбу вядзе ён з прыродай-мачыхай, пры самых неспрыяльных атмасферных з'явах праводзіць ён барозны на беднай сваёй ніве, якая вельмі дрэнна ўзнагароджвае яго настойлівую працу"[240]. Для паляпшэння становішча сялян Карскі прапануе ўвесці ўдасканаленыя сельскагаспадрчыя прылады працы, палепшыць пароды жывёлы, сортнасць насення і ўгнаенне глебы. А пакуль гэта не будзе

[217] Гродненские губернские ведомости. 1891. № 15—17, 21—24.
[218] Там жа. № 73, 75, 77.
[219] Там жа. 1892. № 3, 4, 7.
[220] Там жа. 1894. № 3, 4.
[221] Там жа. 1895. № 68, 69.
[222] Там жа. 1897. № 74.
[223] Там жа. 1897. № 20.
[224] Там жа. 1895. № 99.
[225] Там жа, 1894. № 6.
[226] Там жа. 1892. № 2.
[227] Там жа. 1893. № 51.
[228] Там жа. 1894. № 47.
[229] Там жа. № 46.
[230] Там жа. 1895. № 1.
[231] Там жа. 1897. № 66.
[232] Виленский вестник. 1889. № 70.
[233] Там жа. 1893. № 36.
[234] Там жа. 1890. № 60, 61.
[235] Там жа. 1893. № 33.
[236] Там жа. № 3.
[237] Там жа. № 178.
[238] Карский С. Экономический быт белорусов Виленской губернии // Виленский вестник. 1891. № 64.
[239] Там жа. 1881. № 144—146, 148, 149, 151.
[240] Там жа. 1891. № 64.

зроблена, то "не можа быць прагрэсу, ніякіх лепшых вынікаў".

Даючы агляд іншых заняткаў, Карскі характарызуе іх як падсобныя. Рыбалоўства, напрыклад, служыць для таго, каб здабыць грошы для выплаты налогаў. "Нягледзячы на тое, — піша ён, — што наш беларус з такім задавальненнем займаецца рыбнай лоўляй, ён рыбы амаль не есць, а імкнецца яе прадаць"[241].

Артыкул "Знешні быт беларусаў у Віленскай губерні"[242] Карскі прысвячае апісанню матэрыяльнай культуры беларусаў. Ён дае агульную характарыстыку жылля, паказваючы пры гэтым тыя змены, якія адбыліся ў быце сялян у перыяд капіталізму. Аўтар падкрэслівае, што ў сувязі з правядзеннем чыгункі і ўзмацненнем гандлёвага значэння рэк Нёмана і Віліі "ў быце беларусаў паявіліся прызнакі прагрэсу"[243]. На яго думку, гэта відаць у збудаванні жылля і гаспадарчых пабудоў. Пры характарыстыцы адзення беларускіх сялян Карскі адзначае, што ў вёсцы, асабліва ў моладзі, з'явіліся прадметы адзення з фабрычнай тканіны, якія "сваёй формай набліжаюцца да інтэлігенцкай вопраткі. Сюртукі, паліто мужчынскія і жаночыя, пінжакі і кофтачкі не з'яўляюцца рэдкасцю ў адзенні беларусаў"[244].

У артыкуле "Сямейны быт беларусаў Віленскай губерні" Карскі адзначае, што ў яго часы сямейны быт беларусаў у значнай меры яшчэ рэгламентаваўся нормамі звычаёвага права. На працягу ўсяго артыкула ён падкрэслівае станоўчыя маральныя якасці ва ўзаемаадносінах паміж членамі сям'і. С. Карскі яскрава паказвае маёмасныя ўзаемаадносіны членаў сям'і, характарызуе ролю гаспадара і гаспадыні, дзяцей і састарэлых членаў сям'і. Адзначаючы, што большасць жанчын непісьменныя, Карскі прапануе павялічыць колькасць жаночых школ. "Вельмі пажадана, — пісаў ён, — каб нашы школы як мага энергічней праводзілі б ідэю жаночай народнай асветы, ва ўсякім разе ў беларускіх губернях. Адукаваць беларускую жанчыну раўназначна таму, што ўзняць мараль народа"[245].

Як і многія іншыя этнографы, С. Карскі шкадуе аб тым, што ў вёсцы рушацца старыя, патрыярхальныя ўстоі сям'і, асабліва непакоіцца з прычыны ўзмацніўшыхся сямейных раздзелаў, якія, на яго думку, былі галоўнай прычынай збяднення сялянскіх гаспадарак.

Сямейнаму быту беларусаў С. Карскі прысвячае вялікі артыкул "Народныя беларускія вяселлі ў Ашмянскім павеце Віленскай губерні"[246], у якім паведамляе, што ён блізка знаёмы з бытам простага народа і ўсё, што публікуе, запісваў сам. Даючы падрабязнае апісанне вясельных абрадаў, гульняў і танцаў, якія адбываюцца ў час вяселля, Карскі паказвае багацце народнай творчасці, бадзёрасці і жыццярадаснасці, якія праяўляюцца ва ўрачыстых выпадках жыцця беларуса. Але разам з тым ён падкрэслівае, што нельга меркаваць аб становішчы народа па гэтых момантах яго жыцця, паколькі "вяселле па сваёй урачыстасці вельмі рэзка і рэльефна, як нейкі дысананс і ненармальная з'ява, выдзяляецца з масы паўсядзённых праяў жыцця. На вяселлі беларус забывае ўсё сваё гора і стараецца, так сказаць,

[241] Карский С. Экономический быт белорусов Виленской губернии // Виленский вестник. 1891. № 64.

[242] Ён жа. Внешний быт белорусов в Виленской губернии // Там жа. № 78.

[243] Там жа.

[244] Там жа.

[245] Ён жа. Семейный быт белорусов Виленской губернии // Там жа. № 12.

[246] Ён жа. Народные белорусские свадьбы в Ошмянском уезде Виленской губернии // Там жа. 1888. № 104, 106, 110, 112 і інш. і асобна: Вільна, 1888.

адгуляць за ўсе журботныя і цяжкія дні"[247].

Апісанню каляндарных свят беларусаў Карскі прысвяціў артыкулы "Калядныя святы ў беларусаў Віленскай губерні"[248], "Вялікдзень у беларусаў Віленскай губерні"[249]. У іх даецца даволі падрабязная характарыстыка народных гульняў, абрадаў хаджэння калядоўшчыкаў (шчадровак), валачобнікаў, упамінаецца аб батлеечных прадстаўленнях і прыводзіцца некалькі народных песень і духоўных вершаў.

У сваіх артыкулах С. Карскі выступае як гуманіст-асветнік, які не разумеў сутнасці глыбінных працэсаў развіцця капіталістычнага грамадства таго часу.

Прыкладна такім жа чынам падыходзілі да апісання быту беларусаў і іншыя аўтары этнаграфічных прац, што друкаваліся ў газеце "Виленский вестник".

"Могилевские губернские ведомости" шырока разгарнулі вывучэнне Беларусі толькі з 1897 г., калі рэдактарам неафіцыйнай часткі газеты стаў беларускі этнограф Е. Р. Раманаў. Краязнаўчыя задачы газеты ён вызначаў наступным чынам: "З'яўляючыся органам пераважна мясцовага жыцця, "Могилевские губернские ведомости" імкнуцца да таго, каб адлюстраваць яго як у багатым гістарычным мінулым, так і ў сучасным, з магчымай паўнатой і грунтоўнасцю"[250]. Праграма газеты ўключала ў сябе, пісаў Раманаў, "кіруючыя артыкулы, даследаванні і матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, статыстыцы і геаграфіі Магілёўскай губерні і Заходне-Рускага краю"[251].

Праз газету даследчык заклікаў мясцовыя сілы да актыўнага вывучэння роднага краю, а з боку рэдакцыі газеты абяцаў дапамогу ў арганізацыі гэтай работы. З гэтай мэтай газета друкуе рад праграм і метадычных указанняў па збіранню этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў.

Толькі ў пачатку 1898 г. у "Могилевских губернских ведомостях" было змешчана пяць праграм: "Праграма для збірання пісанак" (№ 21), "Праграма для збірання звестак аб лялечным народным тэатры" (№ 22), "Аб неабходнасці збірання казак" (№ 23), "Збіранне вестак аб жабрацтве" (№ 45), "Аб неабходнасці збірання звестак аб саматужных промыслах у Магілёўскай губерні" (№ 49). У гэтым жа годзе Раманаў пад псеўданімам Е. Радзіміч надрукаваў артыкул "Што зроблена па вывучэнню Магілёўскай губерні і што яшчэ трэба зрабіць", у якім даў аналіз работы газеты па вывучэнню роднага краю і вызначыў асноўныя яе напрамкі і задачы.

У выніку намаганняў Раманава газета сапраўды ператварылася ў трыбуну аматараў краязнаўства. На яе старонках ён апублікаваў адну з ранніх краязнаўчых прац — "Апісанне Крычаўскага графства 1786 г." Андрэя Меера і многа сваіх артыкулаў[252].

З ліку этнаграфічных матэрыялаў, апублікаваных у "Смоленском вестнике", прадстаўляюць цікавасць арыткулы

---

[247] Карский С. Народные белорусские свадьбы в Ошмянском уезде Виленской губернии // Виленский вестник. 1888. С. 71, 72.

[248] Ён жа. Рождественские святки у белорусов Виленской губернии // Там жа. 1891. № 277, 278.

[249] Ён жа. Пасха у белорусов Виленской губернии // Там жа. № 86.

[250] Могилевские губернские ведомости. 1900. № 1—10.

[251] Там жа.

[252] Радимич Е. Из записной книжки этнографа // Могилевские губернские ведомости. 1897. № 97, 98, 101; Романов Е. Катрушницкий леменезь // Там жа. 1899. № 83—102; Ён жа. Шейн П. В. (некролог) // Там жа. 1900. № 67; Ён жа. Культурные переживания // Там жа. 1900. № 17; Ён жа. Нищенство в Могилевской губернии // Там жа. 1899. № 39 і інш.

Ю. Гарбатоўскага[253], А. Шчукіна[254], В. Грачова[255], серыя артыкулаў, падпісаных словамі "Вясковы жыхар"[256] і інш. Некаторыя з іх прысвечаны беларускаму насельніцтву не толькі Смаленшчыны, але і суседніх беларускіх губерняў. Так, артыкулы Ю. Гарбатоўскага даюць цікавыя замалёўкі быту сялян Магілёўскай губерні. Яны характарызуюць самыя бедныя слаі "гарамычных" — абяздоленых бабылак і бабылёў, пагарэльцаў, калек, жабракоў, адыходнікаў. Напрыклад, у нарысе "Бедны "канец" аўтар паказвае вынікі жорсткай эксплуатацыі беднаты. "Бедным "канцом" звалася частка сяла, дзе жыло абяздоленае сялянства, "аблытанае моцнымі ланцугамі кулацтва"[257].

Зусім іншы характар насілі "Минские губернские ведомости" і "Епархиальные ведомости". На старонках гэтых выданняў друкаваліся адзінкавыя артыкулы па быту беларусаў, але яны мелі рэакцыйны характар, прыніжалі чалавечую годнасць беларуса[258].

Такім чынам, большасць перыядычных выданняў дае разнастайныя матэрыялы па этнаграфіі Беларусі, якія ў той ці іншай меры дапаўняюць звесткі па быту і культуры беларускага народа.

[253] Горбатовский Ю. Горемычные: I. Бобылки и бобыли. II. Калеки и погорельцы. III. Бедный "конец". IV. Возчики // Смоленский вестник. 1892. № 105, 111, 139.

[254] Щукин А. Этнографические очерки Смоленской губ.: I. Хоровые игры в г. Рославе. II. Народный календарь, обычаи, поверья // Смоленский вестник. 1890. № 59, 61; Ён жа. Краснинский уезд. Крестьянские игры // Там жа. 1891. № 118; 1892. № 43, 45, 49; Ён жа. Обычаи и поверья Приднепровья Краснинского уезда // Там жа. 1891. № 68, 73 і інш.

[255] Грачев В. Обычаи и поверья на благовещение в Смоленской губ. // Смоленский вестник. 1890. № 35; Ён жа. Обычаи при зажинании в Духовщинском уезде // Там жа. 1890. № 78 і інш.

[256] Деревенский житель. Дневник сельского обывателя // Смоленский вестник. 1892. № 133, 136, 143, 147; 1893, № 10, 15, 20; 1894, № 111, 123, 124, 126, 128, 146; 1895, № 3, 15, 17 і інш.

[257] Горбатовский Ю. Горемычные: III. Бедный "конец" // Смоленский вестник. 1892. № 116.

[258] Гл.: Минские губернские ведомости. 1891. № 1, 4—6.

## ДЗЕЙНАСЦЬ ВІДНЕЙШЫХ ПОЛЬСКІХ ЭТНОГРАФАЎ

З канца 70-х і на працягу 80—90-х гадоў XIX ст. павялічваецца колькасць прац аб Беларусі польскіх даследчыкаў. Кракаўская акадэмія навук пачала выдаваць часопіс "Zbiór wiadomósci do antropologii krajowej"[259]. Значныя матэрыялы па этнаграфіі і фальклору Беларусі сталі з'яўляцца ў варшаўскім часопісе "Wisła", у львоўскім часопісе "Kwartalnik Historyczny", а з 1895 г. — у выданні Львоўскага этнаграфічнага таварыства "Lud" і ў інш. Выходзяць і асобныя працы.

Пераважная большасць прац польскіх даследчыкаў аб Беларусі напісана з ліберальных пазіцый і ў асноўным дае каштоўны матэрыял па этнаграфіі і фальклору беларусаў. Большасць польскіх этнографаў 80—90-х гадоў у вырашэнні пытанняў гістарычнага лёсу беларускага народа робіць значныя крокі наперад. За беларусамі яны прызнавалі права на нацыянальнае існаванне і лічылі іх адгалінаваннем усходнеславянскіх народаў.

[259] У 1896 г. часопіс быў перайменаваны ў "Materyały antropologiczne-archeologiczne i etnograficzne".

Аднак у гэты час з'яўляюцца таксама працы, напісаныя з рэакцыйных, нацыяналістычных пазіцый.

З шавіністычных пазіцый у 1895 г. выступіў львоўскі часопіс "Przewodnik Naukowy i Literacki", змясціўшы артыкул невядомага аўтара пад назвай "Беларусь і Белаляхія"[260]. Аўтар артыкула намагаецца даказаць, што беларусы не належаць да ўсходнеславянскіх народаў, а з'яўляюцца адгалінаваннем палякаў. Для пацвярджэння сваіх доказаў ён імкнецца прыцягнуць гістарычныя і моўныя звесткі і робіць вывад: "Нашчадкі дрыгавічоў і радзімічаў з'яўляюцца адвечнымі ляхамі"[261]. Нарэшце, ён прапануе назву "беларусы" замяніць назвай "белаляхі". Такая назва, на яго думку, была б "самай правільнай і пры гэтым не парушала б існуючага адрознення сучаснай мовы белаляхаў ад польскай"[262].

З крайне рэакцыйных пазіцый па пытаннях беларускай этнаграфіі выступіў у друку Карл Мат'яс з бытавым нарысам "Мужыцкае сэрца"[263]. Тэндэнцыйна падабраўшы матэрыялы, аўтар пісаў, што быццам бы беларускаму селяніну не ўласцівы высокія маральныя якасці, што нібыта ён не можа так кахаць, быць чулым да сям'і і блізкіх, як паны і шляхта. Мат'яс поўнасцю салідарызуецца з хадзячымі ў той час сцвярджэннямі, што "ў мужыка няма сэрца", што ў яго "сэрца цвёрдае, як камень"[264] і г. д. Чаму ж аўтар нарыса так ганьбуе "мужыцкае сэрца"? На гэта пытанне адказ знаходзім у яго ж. Справа ў тым, што "верыць у сэрца мужыка", адзначае Мат'яс, таксама ж нельга, "як у яго пакорлівасць"[265]. Класавая нянавісць селяніна да пана — вось дзе крыніца незадаволенасці панскага ідэолага "мужыцкім срэцам". Гэта ідэя лаканічна выказваецца і ў наступных яго словах: "Сцеражыся, каб яшчэ цябе кіем не пачаставаў"[266].

З рэакцыйных пазіцый выступалі і іншыя польскія этнографы. Адны з іх падыходзілі да разгляду быту і культуры беларусаў з нацыяналістычных і клерыкальных пазіцый, другія — з пазіцый саслоўных адрозненняў ахайвалі народ.

Разам з тым у 80—90-х гадах з ліку польскіх даследчыкаў і пісьменнікаў вылучаецца група прагрэсіўна настроеных асоб, якія выступалі ў абарону народа, яго культуры і быту і рэзка крытыкавалі рэакцыйных этнографаў. Так, вядомая польская пісьменніца і этнограф Э. Ажэшка (1841—1910) у сваёй працы "Ludzie i kwiaty..."[267], прысвечанай, як і артыкул Мат'яса, Гродзеншчыне, да апісання быту беларусаў падыходзіць зусім з іншых пазіцый. Яна з вялікай прыхільнасцю і любоўю ставіцца да простага селяніна, дае аб'ектыўную характарыстыку яго быту і культуры. Адзначаючы адмоўныя рысы ў жыцці народа, Ажэшка тлумачыць іх не "прыродай мужыка", не каставымі і саслоўнымі адрозненнямі паміж людзьмі, а сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі.

Ажэшка на канкрэтным бытавым матэрыяле абвяргае довады Мат'яса аб тым, быццам бы селяніну не ўласцівы тыя ж пачуцці, што і прадстаўнікам пануючых класаў. Яна адзначае, што не на знешніх уяўленнях трэба будаваць свае навуковыя вывады, а на глыбокім вывучэнні народнага жыцця. Пад зне-

[260] Białoruś a Białolechia // Przewodnik Naukowy i Literacki. Lwów, 1895. S. 281—287.

[261] Там жа. 7.

[262] Там жа. С. 286.

[263] Там жа.

[264] Matyas. Chłopskie serce. Studium etnograficzne // Wisła. Warszawa. 1889. T. 3. S. 25—30.

[265] Там жа. С. 30.

[266] Там жа.

[267] Orzeszkowa E. Ludzie i kwiaty nad Niemnem // Wisła. 1888. T. 2. S. 1—15, 675—703; 1890. T. 4. S. 1—31; 1891. T. 5. S. 235—250.



39. Элаіза Ажэшка (1841—1910)

шняй панурасцю, апатычнасцю і забітасцю, гаворыць аўтар, "крыецца цэлы рад выпрацаваных вякамі ўяўленняў, цэлы кодэкс правоў, якія вынікаюць з гэтых уяўленняў. Многа таксама самастойнасці і смеласці ў характарах і думках"[268]. Ажэшка звяртае ўвагу чытача на тое, што калі глыбока заглянуць у душу народа, то можна там знайсці многае, што "належыць да разумовай і пачуццёвай вобласці", што пад знешняй абалонкай крыецца дарагое зерне. "І хто ведае, — заяўляе яна, — якія неспадзяванасці для нашых ведаў і для нашых лёсаў рыхтуе нам аналіз гэтага зерня"[269].

Звяртаючыся да даследчыкаў быту і культуры народа, Ажэшка заклікае іх вывучаць быт народа "ў гісторыі, у песні, у народных паданнях, у сялянскай мове, у гісторыі судовых штогоднікаў... нарэшце, у вялікай, вельмі вялікай колькасці сабраных, добра выбраных і пацверджаных назіранняў над жыццём і характарамі сялян"[270]. А для гэтага вучоныя "павінны сумленна працаваць і як мага прадуктыўней над тым, каб сапраўды пазнаць і па-сапраўднаму ацаніць гэты фундаментальны грамадскі клас і гэтыя мільёны людскіх істот, якія носяць назву вясковага люду"[271].

Праца Ажэшкі носіць прыродазнаўча-этнаграфічны характар з лірычнымі літаратурнымі адступленнямі. Апісанні прыроды і расліннага свету тут цесна звязаны з жыццём народа. Ажэшка падрабязна характарызуе народныя веды аб раслінах, сродках народнай медыцыны, паказвае бытавыя ўмовы жыцця, сямейныя адносіны, жыллё беларускіх сялян, становішча жанчыны і г. д.; прыводзіць значную колькасць фальклорных твораў (прыказкі, загадкі, паданні, апісанні вераванняў і г. д.).

Выступленні Ажэшкі ў абарону простага народа ад нападкаў ідэолагаў-памешчыкаў былі прыхільна сустрэты многімі прагрэсіўнымі этнографамі Беларусі — Е. Р. Раманавым, М. В. Доўнар-Запольскім і інш.

Прыхільна да беларускага народа ставіліся і іншыя польскія этнографы. Так, у працы "Люд Палесся Літоўскага" З. Пяткевіч адзначаў наступнае: "Палескі люд, нягледзячы на цяжкую жыццёвую прозу, вызначаецца паэтычным успрыманнем, асабліва маладыя дзяўчаты. Многія з мужчын маюць вялікае замілаванне і здольнасці да музыкі. Ведаю аднаго селяніна, які, нягледзячы на тое што мае згрубелыя ад працы рукі, дасягнуў у ігры на скрыпцы віртуознасці,

---

[268] Orzeszkowa E. Ludzie i kwiaty nad Niemnem. T. 2. S. 3.

[269] Там жа.

[270] Там жа. 1890. T. 4. C. 31.

[271] Там жа.



„Wisła". r. 1888

LUDZIE I KWIATY

NAD NIEMNEM.*)

Jedną ze znamiennych i oryginalnych cech życia nadniemeńskiego jest bardzo ożywiony ruch, który co roku, w ostatnich dniach lipca i pierwszych sierpnia, panuje na rzece i jej wybrzeżach, wszczyna się codziennie wraz z zapadnięciem zmroku wieczornego, a trwa do późnej, nocnej godziny. Pierwszą przyczyną tego niezwykłego ruchu i ożywienia stanowi czynność, zwana w mowie miejscowej, tak rusińskiej jak polskiej, łowieniem *jaciey*. Jaką nazwę owad ten nosi w języku naukowym, a nawet czy naturaliści nasi zwrócili

40. 1-я старонка кнігі Э. Ажэшка

умее здабываць чыстыя, прыемныя тоны, нават з пэўным адценнем"[272].

З прыхільнасцю да простага народа, але з яўнай ідэалізацыяй яго быту і пропаведзямі класавага міру выступілі ў сваіх этнаграфічных працах аб Беларусі Бірута і Е. Яленьская. У артыкуле "Дажынкі на Літве" Бірута, даючы апісанне дажынак у Лідскім павеце Віленскай губерні, ідэалізуе адносіны паміж панамі і сялянамі. Паноў называе "ласкавымі гаспадарамі", якія нібыта клапоцяцца аб сваіх сялянах, лагодна адчыняюць перад імі дзверы свайго дому, знаходзяць для іх "мілае слова і кілішак гарэлкі"[273].

Такую ж згоду пана з селянінам і пакорлівасць апошняга прапагандуе і Яленьская ў сваёй працы "Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце"[274]. Як ідэолаг памешчыкаў-прыгоннікаў яна са смуткам успамінае аб адмене прыгонніцтва: "Даўней пры існаванні прыгоннага права былі тут вялікія, сапраўдныя панскія багацці. Сёння становішча змянілася; вялікая тэрыторыя застаецца без дастатковай колькасці рук для працы, з высечанымі лясамі, з фатальна праведзеным распрыгоньваннем сялян належна не выкарыстоўваецца, часта зусім пакінутая гаспадарамі, яна сведчыць толькі аб былой шляхецкай заможнасці ў гэтых краях"[275]. Яленьская сцвярджае, быццам бы сяляне таксама шкадуюць аб адмене прыгонніцтва. Аднак разам з тым вымушана прызнаць, што сяляне глядзяць на пана, як на "непатрэбнае на свеце племя"[276]. Яны пры гэтым параўноўваюць пана з пустым коласам, які не дае ніякай карысці чалавеку.

Гэта праца Яленьскай мае вялікую каштоўнасць для этнографа. Яна надзвычай багата апісаннямі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускіх сялян Мазыршчыны. Найбольш багатым этнаграфічнымі матэрыяламі з'яўляецца раздзел, у якім даецца разгорнутая характарыстыка матэрыяльнай культуры в. Камаровічы. Асабліва дэталёва апісваюцца сялянская хата, хатняе начынне, упрыгожванне жылля, прылад працы, аздабленне прадметаў адзення, тканін і г. д.

---

[272] Pietkiewicz. Lud Polesia Litewskiego // Tygodnik Powszechny. Warszawa, 1884. № 22. S. 346, 347.

[273] Biruta. Dożynki na Litwie // Wisła. 1889. T. 3, кп. 1. S. 93, 94.

[274] Jeleńska E. Wieś Komarowicze w powiecie Mozyrskim // Wisła. 1891. T. 5, кп. 1. S. 290—331; кп. 2. S. 479—520.

[275] Там жа. С. 293.

[276] Там жа. С. 489.

Даволі грунтоўна разглядаецца адзенне сялян в. Камаровічы, працэс ткання і ткацкія ўзоры. Пры гэтым аўтар заўважае, што "ўборы палескага люду вельмі прыгожыя. Пануе вялікая разнастайнасць у спосабе вязання хустак, крою сукенак і карсетаў, амаль кожная вёска мае свае асаблівыя рысы"[277].

Асобны раздзел працы прысвечаны апісанню становішча вясковай жанчыны. Яленьская адзначае нераўнапраўнае становішча яе ў сям'і. Прыводзячы ў сувязі з гэтым апісанне вясельнага абраду, яна паказвае, што "ў прадстаўленні сялян царкоўны шлюб яшчэ поўнасцю не ўзаконьвае саюз двух людзей... Найчасцей здараецца, што з царквы маладыя разыходзяцца кожны да сябе і застаюцца чужымі пэўны час, да дня, прызначанага да вяселля. Гэта, — падкрэслівае Яленьская, — можа служыць доказам таго, як мала да гэтага часу наш люд пранікнуўся царкоўным духам"[278]. Народна-бытавая абраднасць адыгрывала большую ролю ў жыцці народа, чым афіцыйная рэлігія.

Вялікае месца ў працы адводзіцца апісанню разнастайных вераванняў, абрадаў, сродкаў народнай медыцыны і свят. Пры апісанні свят даецца характарыстыка абрадавай і святочнай ежы.

Матэрыяльная культура беларусаў атрымала некаторае адлюстраванне і ў працах іншых польскіх этнографаў. Тыматэвуш Лунеўскі ў 1899 г. апублікаваў каштоўны артыкул, у якім даў падрабязнае апісанне палескай сахі, якую ён называе літоўскай. Адзначаючы ўменне і кемлівасць народа ў стварэнні прылад працы, Лунеўскі ідэалізуе патрыярхальны быт народа. "Думаю, — піша ён, — што такая геніяльна абдуманая, каштоўная прылада, якая выкарміла сотні пакаленняў, заслугоўвае таго, каб аб ёй застаўся поўны след у нашай сельскагаспадарчай літаратуры"[279].

Быту беларусаў прысвечаны артыкул "З жыцця люду беларускага"[280] Аляксандра Лянтоўскага. У ім даецца апісанне беларускай вёскі, сялянскага двара і хаты, гаспадарчых пабудоў. Асабліва падрабязна характарызуецца ўнутранае ўбранне, мэбліроўка і прадметы начыння сялянскай хаты.

Аналагічныя апісанні дае ў сваёй працы Мар'ян Куч[281]. Асобныя заўвагі аб пасяленнях, ежы і харчаванні робіць Аляксандр Ельскі ў сваіх шматлікіх карэспандэнцыях, змешчаных у пецярбургскім часопісе "Kraj"[282] і інш.

Трэба, аднак, адзначыць, што асноўная колькасць прац ліберальнага напрамку польскіх даследчыкаў быту беларускага народа 80—90-х гадоў прысвечана духоўнай культуры народа — запісу фальклорных твораў, апісанню вераванняў і абрадаў, сродкаў народнай медыцыны, забабонаў і прыкмет.

Асаблівай увагі сярод іх заслугоўваюць працы Яна Карловіча (1836—1903)[283], доктара філалогіі. Ён быў прызнаным ідэйным кіраўніком многіх польскіх этнографаў, з некаторымі з іх праводзіў вялікую арганізацыйную работу па збіранню і публікацыі фальклорнаэтнаграфічных матэрыялаў, асабліва калі быў рэдактарам часопіса "Wisła".

[277] Jeleńska E. Wieś Komarowicze w powiecie Mozyrskim // Wisła. 1891. T. 5, kn. 1. S. 319.

[278] Там жа.

[279] Łuniewski Tymoteusz. Socha Litewska v. podlaska. Warszawa, 1899. Odbitka z "Gazety Rolniczej". S. 15.

[280] Letowski Aleksander. Z życia ludu białoruskiego // Wisła. 1895. T. 9. S. 514—521.

[281] Przysłowia ludowe z okolic Witebska, Mohylewa, Smoleńska i Orła dotyczące niektórych miejscowości w cesarstwie Rosyjskiem / Zebrał Maryan Kurz // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1900. № 4. S. 217—225.

[282] Гл., напрыклад, у раздзеле "Лісты з правінцыі" (Kraj. 1889. № 5).

[283] Гл.:Życie i prace Jana Karłowicza. Warszawa, 1904.



41. Ян Карловіч (1836—1903)

Навуковыя погляды Карловіча склаліся пад уплывам міфалагічнай школы. Доўгі час ён быў прыхільнікам тэорый Макса Мюлера і Куна. Аднак з канца 80-х гадоў ужо выступае з крытыкай гэтай школы.

Асноўныя працы Карловіча прысвечаны польскай філалогіі, гісторыі і этнаграфіі. Паралельна з гэтым ён запісваў і беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, публікацыю якіх пачаў яшчэ ў 70-х гадах у часопісе "Zbiór wiadomości..." Самы вялікі збор беларускіх казак і паданняў, якія былі запісаны ў Навагрудскім, Лідскім і Свянцянскім паветах, Карловіч апублікаваў у 1887—1888 гг. у сваёй працы "Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве"[284].

[284] Podania i bajki ludowe, zebrane na Litwie staraniem Jana Karłowicza // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1887. T. XI. S. 229—293; 1888. T. XII. S. 1—59.

Свае погляды на беларускі народ і яго культуру Карловіч яскрава выказвае ў прадмове да зборніка беларускіх казак У. Вярыгі[285]. Ён па сутнасці прызнае за беларусамі права на самастойнае развіццё, якое "ў першую чаргу будзе залежаць ад здольнасцей і волі саміх беларусаў"[286]. Адначасова Карловіч гаворыць аб тым, што ў будучым Беларусі можа быць яшчэ два шляхі: або яна прымкне "да братняга польскага элемента", або аб'яднаецца з пераважаючым палітычна і колькасна велікарускім племем"[287].

У сваіх разважаннях аб тым, што сабою ўяўляе беларуская мова, Карловіч не згаджаецца як з тымі, хто яе лічыць дыялектам рускай мовы (Сразнеўскі, Патэбня), так і з тымі, хто яе лічыць дыялектам украінскай мовы (Міклошыч). Карловіч салідарызуецца з Максімовічам і Надзеждзіным, якія за беларускай мовай прызнавалі самастойнасць.

Для таго каб зрабіць навукова абгрунтаваныя вывады па ўсіх гэтых пытаннях, Карловіч заклікае вучоных бліжэй даследаваць быт беларусаў, вывучаць беларускую мову, запісваць беларускія казкі, песні, паданні, прыказкі і загадкі.

У працах польскіх этнографаў робяцца спробы даць тлумачэнне паходжання старажытных дахрысціянскіх вераванняў і абрадаў. Пры гэтым нярэдка выказваюцца процілеглыя і супярэчлівыя меркаванні. Адны на аснове палажэнняў міфалагічнай школы доказвалі, што ў аснове старажытнаязычніцкіх вераванняў ляжыць міфалогія

[285] Podania białoruskie, zebrane przez Władysława Weryhę poprzedzone wstępem przez Jana Karłowicza. Lwów, 1889.

[286] Там жа. С. 3.

[287] Там жа.

прародзічаў еўрапейцаў — арыйцаў. З гэтых пазіцый напісаны працы Яна Вітарта.

У артыкуле "Куцця на Літве"[288] Вітарт, выводзячы ўзнікненне старажытных культаў славян з індыйскай міфалогіі, разам з тым выказвае і слушныя меркаванні аб іх сутнасці. Першапрычынай з'яўлення вераванняў ён правільна лічыць надзяленне чалавекам незразумелых і грозных сіл прыроды звышнатуральнай сілай. У выніку такога адухаўлення ўзнік, напрыклад, культ Сонца. У гонар яго і выконваліся асноўныя абрады гадавога кола. Разглядаючы свята Каляд і абрадавую сжу — куццю, Вітарт гаворыць, што хрысціянскае духавенства прыстасавала сваё свята нараджэння Хрыста да старажытнага снежаньскага свята ў гонар Сонца, калі пачынаў павялічвацца дзень. Ён гаворыць, што першыя тры стагоддзі царква нават не адзначала свята нараджэння Хрыста.

З абвяржэннем доказаў Вітарта аб тым, што ў аснове язычніцкіх вераванняў славянскіх народаў ляжыць старажытнаарыйская міфалогія, выступіў са сваім артыкулам Л. Млынак[289]. Правільна заяўляючы, што славянскія звычаі, абрады і вераванні з'яўляюцца "кроўным здабыткам" славянскіх народаў, Млынак, аднак, памылкова абвяргае ўсе тлумачэнні Вітарта аб сутнасці калядных свят. Гэта свята ён звязвае не з культам Сонца (у прыватнасці, не з перыядам зімовага сонцастаяння), а з культам мядзведзя. Штучна звязваючы калядныя абрадавыя стравы і іх колькасць з ежай мядзведзя і колькасцю яго дарадчыкаў (іх нібыта таксама 12 — воўк, ліса і інш.), Млынак не дае абгрунтаваных навуковых доказаў гэтага. Зразумела, што такія яго довады з'яўляюцца надуманымі.

Больш глыбокія меркаванні аб сутнасці бытаваўшых у той час вераванняў і абрадаў некалькі раней выказваў Зыгмунт Глогер у сваёй працы "Юрый"[290]. Даючы апісанне старажытнага свята Юр'я і прыводзячы 25 беларускіх песень, Глогер адзначыў, што "звычай хаджэння дзяўчат з песнямі і віншаваннямі ў дзень свята Юр'я належыць да адвечных славянскіх абрадаў, якімі прабацькі нашы з радасцю і ўрачыстасцю віталі прыход кожнай вясны"[291]. Глогер замілоўваецца хараством беларускіх песень-вяснянак і заклікае этнографаў да збірання падобных матэрыялаў. "Калі ва ўсіх кутках краю, — пісаў ён, — будуць сабраны і апублікаваны рэшткі веснавых звычаяў і песень, што маглі б і павінны зрабіць найбольш адукаваныя жыхары правінцый, то тады навука, абапіраючыся на больш багаты, чым сёння, матэрыял, зможа растлумачыць гэты забыты і адзін з найпрыгажэйшых вобразаў быту нашых даўнейшых продкаў"[292].

Канкрэтны матэрыял па вераваннях і забабонах у ваколіцах Крывічоў Вілейскага павета сабраў Я. Кібарт[293]. Ва ўступе да сваёй працы "Народныя вераванні ў ваколіцах Крывічоў Вілейскага павета" Кібарт імкнецца растлумачыць бытаванне старажытных вераванняў, забабонаў і абрадаў малой колькасцю цэркваў і касцёлаў. Ён канстатуе факты, што многія сяляне з прычыны значнай адлегласці наведва-

[288] Witort J. Kucja na Litwie // Lud. Lwów, 1897. T. 3. S. 1—6.

[289] Młynek L. Uwagi do artykułu J. Witorta: Kucja na Litwie // Lud. 1897. T. 3. S. 171—175.

[290] Gloger Z. Jurej (Swięty Jerzy) // Pamiętnik Fizyograficzny. 1883. T. 3. S. 491—499.

[291] Там жа. С. 499.

[292] Там жа.

[293] Kibort J. Wierzenia ludowe w okolicach Krzywicz w powiecie Wilejskim. Wisła. T. XIII. S. 321—337, 389—408.

юць царкву толькі адзін раз у год, а іншыя па некалькі год запар не бываюць там. Рэлігійныя прадстаўленні сялян Вілейскага павета Кібарт характарызуе, як "блытаніну рэшткаў ідалапаклонніцтва са знешнім бокам хрысціянства"[294].

Заслугоўваюць увагі разважанні аўтара гэтай працы аб тым, што ўсе вераванні і забабоны селяніна звязаны з яго жыццём. "Колькі можа быць камбінацый жыццёвых палажэнняў і акалічнасцей, столькі існуе і забабонаў"[295], — пісаў ён. Кібарт прыводзіць вялікую колькасць апісанняў вераванняў, забабонаў, "сродкаў" супраць хвароб, замоў і малітваў, а ў канцы працы заклікае больш актыўна запісваць народныя матэрыялы, якія даюць магчымасць вызначэння "разумовага і маральнага стану нашых сялян"[296].

Самай вялікай працай аб знахарстве, вераваннях, забабонах, прыкметах, звязаных з хваробай чалавека, і аб сродках народнай медыцыны гэтага часу з'яўляецца зборнік Ф. Вярэнькі "Аб народных леках"[297]. Матэрыялы для гэтай працы збіраліся аўтарам у паўночнай частцы Барысаўскага і заходняй частцы Лепельскага паветаў.

Адзначаючы цемру і забітасць народных мас, Вярэнька падрабязна расказвае аб адносінах селяніна да знахарства, паказвае, што хваробы і смерць ва ўяўленні сялян выступалі ў персаніфікаваным выглядзе, як жывыя істоты. Адсюль і ўсе знахарскія метады "лячэння" зводзіліся да прыёмаў, з дапамогай якіх можна было б "выгнаць" хваробу з чалавека. Усяго Вярэнька прыводзіць каля 1000 апісанняў знахарскіх прыёмаў, замоў, прыкмет, забабонаў, вераванняў і сродкаў народнай медыцыны. Асобна да працы прыкладзены дадаткі "З народнай ветэрынарыі. Знішчэнне паразітаў". Гэта праца сведчыць аб глыбокім веданні аўтарам народнага быту і сумленным вывучэнні яго.

Невялікую групу складаюць працы польскіх этнографаў, якія прысвечаны апісанню сямейных абрадаў, пераважна вясельных. Асаблівай увагі сярод іх заслугоўвае "Вяселле ў Рудску" Гелены Чахоўскай[298]. Праца прысвечана апісанню вясельнага абраду беларускіх сялян в. Рудск Пінскага павета. У прадмове да апісання аўтар высока ставіць кемлівасць і дапытлівасць беларускага селяніна, які "над усім задумваецца... імкнецца ўсё сабе растлумачыць, а калі што не можа зразумець, стварае міфічныя паданні і легенды"[299].

Апісанне вяселля даецца Чахоўскай з вялікімі падрабязнасцямі, дэталёвым разглядам кожнага этапа і ілюструецца песнямі, якіх яна прыводзіць 74 (з запісам тыповых мелодый). Усе песні друкуюцца лацінкай на беларускай мове з захаваннем асноўных фанетычных асаблівасцей.

Заслугоўвае ўвагі апісанне вясельных абрадаў беларусаў Палесся, якое даў у 1889 г. Оскар Кольберг[300]. Абрады і песні (звыш 20) запісаны ў в. Любяшчова Пінскага павета. Кольберг падрабязна апісвае такія элементы белару-

---

[294] Kiborl J. Wierzenia ludowe... S. 324.

[295] Там жа. С. 389.

[296] Там жа. С. 408.

[297] Przyczynek do lecznictwa ludowego / Podał F. Wereńko // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1896. T. 1. S. 99—229.

[298] Wesele w Rudzku / Przez Helene Czechowska // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1896. T. 2.S. 17—48.

[299] Там жа. С. 18.

[300] Kolbierg Oskar. Zwyczaje i obzędy weselie z Polesia // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1889. T. 13. S. 209—245.



42. Оскар Кольберг (1814—1890)

скага вяселля, як запоіны, вечар у маладога, снеданне і абед, выезд, пярэзвы і інш. Пры гэтым аўтар паведамляе цікавыя звесткі аб абрадавай ежы. У дадатак прыводзіцца 70 вясельных песень з вёсак Дубовае, Барова і Пагост Пінскага павета.

У гэтай працы Кольберг, акрамя вяселля, дае апісанне і некаторых абрадаў гадавога кола (Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Купалле і інш.) з прывядзеннем звыш 30 песень, а таксама вераванняў і забабонаў. У канцы працы даецца звыш 30 прымавак і прыказак. Рад прац Кольберга па быту беларусаў і ўкраінцаў застаўся неапублікаваным. У сучасны момант у Рэспубліцы Польшча вядзецца работа па падрыхтоўцы іх да друку. Матэрыялы аб беларусах і ўкраінцах будуць выдадзены двума паасобнымі тамамі[301].

Значная колькасць прац польскіх вучоных 80—90-х гадоў прысвечана фальклорным творам, пераважна запісам песень. Большасць фальклорных прац публікавалася на старонках кракаўскага часопіса "Zbiór wiadomości do antropologii krajowej". У ім надрукаваны наступныя вуснапаэтычныя творы: 43 беларускія песні ў 1889 г. апублікаваны У. Вярыгам[302], 25 — у 1892 г. Бірутай[303], 15 беларускіх песень з запісам мелодый — у 1892—1895 гг. Бадуэнам дэ Куртэнэ[304]; 179 песень і прыпевак і 37 загадак — у 1893 г. А. Гурыновічам[305], 55 песень з нотамі — у 1895 г. чэшскім вучоным Адольфам Чэрным[306], 746 прыказак і прымавак і 112 загадак — у 1881, 1886 гг. У. Дыбоўскім[307].

Некаторыя фальклорныя творы беларусаў былі апублікаваны ў часопісе "Materyały antropologiczno-archeologiczne

---

[301] Рукапісы захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Кракаве, сігнатура 3202—3205.

[302] Weryha Władysław. Dumki białoruskie ze wsi Głębokiego w powiecie Lidzkim gubernii Wileńskiej w. r. 1885 spisane // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1889. T. 13. S. 84—103.

[303] Pieśni białoruskie z powiatu Lidzkiego / Zapisała Biruta // Там жа. 1892. T. 16. S. 239—251.

[304] Pieśni białorusko-polskie z powiatu Sokólskiego gubernii Grodzieńskiej / Zapisane przez prof. J. Baudouin de Courtenay // Там жа. 1892. T. 16. S. 219—238; 1895. T. 18. S. 225—231.

[305] Zbiór rzeczy białoruskich (z gminy Wiszniewskiej, parafii Żodziskiej, pow. Swieciańskiego, gubernii Wileńskiej) / Zebrał i ułożył A. Hurynowicz // Там жа. 1893. T. 17. S. 136—200.

[306] Pieśni białoruskie z powiatu Dziśnieńskiego gubernii Wileńskiej / Zapisał Adolf Černy // Там жа. 1895. T. 18. S. 192—224.

[307] Zagadki białoruskie z guberni Minskiej / Zebrał Dr. Władysław Dybowski // Там жа. 1886. T. 10. S. 157—168; Przysłowia białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. 1881. T. 5. S. 3—23.

і etnograficzne". У другім томе гэтага часопіса ўжо ў 1897 г. быў надрукаваны значны збор беларускіх загадак (128)[308] з розных губерняў Беларусі, а ў 1900 г. — 71 прыказка і прымаўка з беларускіх і рускіх губерняў[309].

Сярод вуснапаэтычных твораў беларусаў, апублікаваных у польскіх выданнях, асноўнае месца займаюць песні, асабліва абрадавыя і сямейныя. Але побач з імі сустракаюцца і песні, у якіх адлюстроўваецца цяжкі сацыяльны прыгнёт, нялёгкая доля сіраты, капіталістычная эксплуатацыя.

Вось, напрыклад, што гаворыцца ў песні аб будаўніцтве чыгункі:

Хто не быў на чыгунке,
Той гора не знае,
А мы былі, пражывалі,
Мы ўсё гора знаем...

Мы канавушку капалі,
Яе праклінали,
Будзь ты гэтая чыгунка,
Будзь ты праклятая.[310]

У большасці выпадкаў збіральнікі беларускага фальклору абмяжоўваюцца кароткімі заўвагамі да запісаных твораў, пазбягаючы разважанняў па гістарычна-этнічных, сацыяльных і палітычных пытаннях, рэдка выказваюць свае адносіны да народа.



43. Міхал Федароўскі (1853—1923)

Самай плённай па збіранню фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у 80—90-х гадах сярод польскіх даследчыкаў Беларусі была дзейнасць М. Федароўскага.

Міхаіл Федароўскі (1853—1923) нарадзіўся ў Варшаве. З малых год выхоўваўся без бацькі, які пасля паўстання 1863 г. вымушаны быў эмігрыраваць. Ён скончыў агранамічны факультэт Пятроўска-Разумоўскай земляробчай акадэміі (цяпер Маскоўская сельскагаспадарчая акадэмія імя Ціміразева). Некаторы час працаваў аграномам у маёнтках польскіх магнатаў пад Варшавай. У 1877 г. Федароўскі пераехаў у Пружанскі павет Гродзенскай губерні. На Беларусі ён жыў каля 30 год (да 1905 г.), пасля чаго зноў пераехаў у Варшаву, дзе працаваў у розных навуковых установах.

[308] Zagadki białoruskie zebrał Leon Wasilewski // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1897. T. 2. S. 5—13.

[309] Przysłowia ludowe z okolic Witebska, Mohylewa, Smoleńska i Orła, dotyczące niektórych miejscowości w cesarstwie Rosyjskiem / Zebrał Maryan Kucz // Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. 1900. T. 4, dział 2. S. 217—225.

[310] Pieśni białoruskie z powiatu Lidzkiego / Zapisała Biruta // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1892. T. 16. S. 241.

Навуковыя інтарэсы М. Федароўскага склаліся пад уплывам вядомых польскіх этнографаў Я. Тышкевіча, Я. Карловіча і інш., якія ў той час займаліся збіраннем фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у Беларусі.

З пераездам у Беларусь Федароўскі задумаў стварыць капітальную працу аб быце і культуры беларусаў. Каля 30 год ён займаўся збіраннем фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і археалагічнымі раскопкамі ў Пружанскім, Беластоцкім, Бельскім, Ваўкавыскім, Гродзенскім, Слонімскім паветах Гродзенскай губерні, у Вілейскім і Лідскім паветах Віленскай і ў Навагрудскім і Слуцкім паветах Мінскай губерняў. За гэты час ім было зроблена звыш 200 тысяч запісаў па мове, фальклору і быту беларускага народа, сярод якіх асноўнае месца займаюць вуснапаэтычныя творы.

Публікацыю сабраных матэрыялаў Федароўскі пачаў у 1897 г. З 14 тамоў, якія ён меркаваў выдаць, пры яго жыцці выйшлі толькі тры пад назвай "Люд беларускі" (Кракаў, Варшава, 1897—1903), у якіх апублікавана 2835 фальклорных твораў, тэкстаў з матэрыяламі па вераваннях, забабонах, сродках народнай медыцыны, у тым ліку 410 беларускіх народных казак, 571 запіс розных паданняў і расказаў з сямейнага жыцця, анекдотаў і г. д. Чацвёрты том (1935) змяшчае 13 230 прыказак, прымавак, крылатых выразаў, жартаў і г. д., а пяты (1958) і шосты (1960) тамы — 4171 беларускую песню з 1500 запісамі мелодый. Чыста этнаграфічныя матэрыялы яшчэ не апублікаваны. У архівах Варшавы і Вроцлава захоўваецца вялікая колькасць рукапісных матэрыялаў Федароўскага па быту беларусаў. Сярод іх апісанні матэрыяльнай і духоўнай культуры, пераважна абрадаў гадавога кола, вясельных абрадаў, сродкаў народнай медыцыны і г. д.[311]

Трэба адзначыць, што апублікаваныя Федароўскім фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы пры іх аналізе патрабуюць крытычнага падыходу. Матэрыялы апавядальнага жанру, асабліва анекдоты, паданні і расказы, падабраны некалькі тэндэнцыйна. Яны ў значнай меры разлічаны на знешні эфект — з мэтай павесяліць чытача. Збіральнік занадта вялікую ўвагу звярнуў на запіс тых твораў, у якіх падкрэсліваюцца адмоўныя, анекдатычныя бакі жыцця народа.

У агульнай сваёй масе апублікаваныя польскімі вучонымі ў 80—90-х гадах беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы прыкметна ўзбагацілі літаратуру па быту і культуры беларускага народа, яго вуснапаэтычнай творчасці. Як і ў працах беларускіх этнографаў, у іх асноўнае месца займаюць звесткі па духоўнай культуры — вераваннях, абрадах і фальклору. Пры гэтым пераважаюць ліберальныя тэндэнцыі і аб'ектыўны паказ асаблівасцей хатняга быту народа, хоць і з затушоўваннем сацыяльных супярэчнасцей.

У 80—90-я гады XIX ст. у параўнанні з 60—70-мі гадамі этнаграфічнае вывучэнне Беларусі набывае больш шырокі размах. Намаганнямі вялікай колькасці збіральнікаў і даследчыкаў быту беларускага народа былі апублікаваны ці падрыхтаваны да друку шматлікія фальклорна-этнаграфічныя зборнікі. Большасць іх дае аб'ектыўны малюнак жыцця беларусаў, асабліва працы

[311] Гл.: Рукапісны аддзел бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, фонд М. Федароўскага; Архіў Польскага этнаграфічнага таварыства ў Вроцлаве, сігнатура 1378—1384.

прагрэсіўных этнографаў. На новы ўзровень, асабліва з 90-х гадоў, узнімаецца методыка збірання і вывучэння этнаграфічных звестак. З усталяваннем у гістарычнай навуцы эвалюцыянісцкага напрамку і развіццём буржуазнай сацыялогіі, а таксама пад прыкметным уплывам марксізма этнаграфічная навука з 90-х гадоў робіць значны крок у бок вывучэння матэрыяльнага і вытворчага быту народа. Побач з накапленнем сырых матэрыялаў робяцца значныя спробы навуковага аналізу іх.



## АСНОЎНЫЯ НАПРАМКІ РАЗВІЦЦЯ

У этнаграфічным вывучэнні Беларусі пачатку XX ст. даволі выразна акрэсліваліся дзве супрацьлеглыя тэндэнцыі — прагрэсіўная, якая змыкалася з рэвалюцыйна-дэмакратычным рухам у краіне, і рэакцыйная, што стаяла на службе пануючых класаў і царскага самадзяржаўя. Гісторыка-этнаграфічныя працы прагрэсіўных вучоных, у якіх адлюстроўваліся найважнейшыя працэсы, што адбываліся ў быце і культуры беларускага народа ў пачатку XX ст., адыгралі немалаважную ролю ў раскрыцці асноўных заканамернасцей фарміравання беларускай нацыі, у разуменні сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця Беларусі напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дзякуючы этнаграфічным даследаванням шырокае асвятленне ў друку атрымалі нацыянальныя асаблівасці быту і культуры беларускага народа, пытанні яго этнагенезу і этнічнай тэрыторыі.

Прагрэсіўныя вучоныя раз і назаўсёды абверглі рознага роду антынавуковыя тэорыі паходжання беларускай народнасці і нацыі і даказалі, што разам з братнімі рускім і ўкраінскім народамі беларусы складалі ўсходнеславянскую групу славян і выйшлі з адзінай старажытнарускай народнасці.

Этнаграфічная навука аказвала дабратворны ўплыў на культурнае жыццё Беларусі, садзейнічала развіццю беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі і наогул спрыяла росту самасвядомасці беларускага народа. На глебе этнаграфічнага вывучэння ўмацоўваліся агульнаславянскія культурныя сувязі, і ў прыватнасці руска-беларуска-польскія.

Пануючай у этнаграфіі гэтага часу з'яўлялася эвалюцыйная тэорыя. Прадстаўнікамі яе ў рускай этнаграфіі былі М. М. Кавалеўскі, М. І. Кулішэр, Э. Ю. Петры, Міхаіл, Аляксей, Мікалай і Вера Харузіны, Л. Я. Штэнберг і інш. У беларускай этнаграфіі палажэнні эвалюцыянізму атрымалі адлюстраванне ў працах М. В. Доўнар-Запольскага, А. М. Харузіна, А. К. Сержпутоўскага. У пэўнай ступені гэта тэорыя зрабіла ўплыў на Я. Ф. Карскага, Е. Р. Раманава і іншых беларускіх этнографаў.

Эвалюцыяністы імкнуліся да аб'ектыўнага пазнання з'яў прыроды і грамадскага жыцця, разглядалі іх у развіцці. Аднак эвалюцыю яны ўяўлялі як простае, паступовае, колькаснае змяненне асобных з'яў быту і культуры, але не разумелі дыялектыкі іх развіцця і ўзаемасувязі.

Пэўны ўплыў на развіццё этнаграфіі зрабіла і сацыялогія. Намаганні сацыёлагаў вызначыць заканамернасці развіцця чалавечага грамадства паступова прыводзілі да разумення таго, што ўзровень духоўнай культуры грамадства залежыць ад стану яго эканамічнага развіцця, што матэрыяльны быт з'яўляецца фактарам, які абумоўлівае духоўную культуру чалавека.

У пачатку XX ст. завяршаўся працэс фарміравання беларускай нацыі, таму рэвалюцыйная і нацыянальна-вызвален-

чая барацьба беларускага народа злівалася з рэвалюцыйнай барацьбой рускага і іншых народаў Расіі і сваім вастрыём была накіравана супраць агульнага ворага працоўных мас краіны — царскага самадзяржаўя і памешчыцка-капіталістычнага ладу.

Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905—1907 гг., аслабіўшы нацыянальныя путы, зняўшы забарону з беларускага друкаванага слова, стварыла пэўныя ўмовы для выяўлення народных талентаў у галіне літаратуры, мастацтва і навукі. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі створаныя ў Беларусі і за яе межамі культурна-асветніцкія гурткі, выдавецкія таварыствы, бібліятэкі.

У пачатку XX ст. з'явіліся нацыянальна-адраджэнскія арганізацыі за межамі Беларусі. Першая з іх — гурток для вывучэння Гродзенскай губерніі, створаны са студэнтаў-беларусаў С.-Пецярбургскага універсітэта ў 1907 г.

Дзейнасць гэтага гуртка працягваў Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў гэтага ж універсітэта, створаны ў 1912 г. Мэтай гуртка было "навуковае азнаямленне з духоўным (мова, літаратура, народная творчасць) і грамадскім (этнаграфія, статыстыка, народная гаспадарка) жыццём беларускага народа"[1].

Душой адзначаных гурткоў быў прафесар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла, які ў 1885 г. закончыў гэты універсітэт і працаваў у ім з 1891 па 1925 г. бібліятэкарам. Ураджэнец фальварка Будзькаўшчына Лепельскага павета Віцебскай губерні, ён быў сябрам Янкі Купалы, які ў сваім вершы "Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам" пісаў:

За ўсю ж працу ні палацаў
Ані скарбаў не чакай;
Толькі будзе славы ў людзе,
Славіць будзе родны край![2]

Янка Купала радаваўся дзейнасці гурткоўцаў Пецярбургскага універсітэта і прыслаў ім свой верш "Прарок", які пачынаўся радкамі:

Сярод маны, сярод насмешкаў,
Знак нейкі тулячы к грудзям,
Ішоў прарок пясчанай сцежкай
З навукай новаю к людзям...

І напрыканцы:

За мной, за мной, забраны людзе!
Я добрай доляй послан к вам
І знаю, што было, што будзе,
І вас у крыўду не аддам.[3]

На запытанні студэнтаў гуртка да Я. Ф. Карскага і Е. Раманава ў 1912 г. апошнія шчыра віталі іх і далі пісьмовыя адказы, у якіх была выкладзена праграма для дзейнасці гуртка.

У 1906 г. у Пецярбургу адкрылася беларускае выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца", якое выдала першыя кніжкі для чытання, календары і мастацкія творы на роднай мове.

У верасні 1906 г. заснавана першая беларуская газета "Наша доля", аднак на шостым нумары яна была закрыта. Замест яе стала выходзіць дэмакратычная газета "Наша ніва" (1906—1915), якая шырока выкарыстоўвалася дэмакратычнай інтэлігенцыяй для прапаганды перадавых ідэй. У газеце актыўна выступалі са сваімі творамі беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны і інш. "Наша ніва" адыграла вялікую ролю не толькі ў прапагандзе, але і ў арганізацыі краязнаўчага руху на Беларусі. Газета не абмяжоўвалася заклікамі да краязнаўцаў,

[1] Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета. СПб., 1913.

[2] Купала Янка. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1973. Т. 2. С. 161.

[3] Там жа. Т. 3. С. 126, 128.

але і публікавала канкрэтныя матэрыялы, што паступалі з розных месцаў, змяшчала падрабязныя інструкцыі і нават давала парады па рэстаўрацыі тых ці іншых экспанатаў. Мала таго, "Наша ніва" праводзіла выстаўкі сабраных калекцый, пераважна этнаграфічных, што пазней папоўнілі музей Яна Луцкевіча ў Вільні.

Супрацоўнікі "Нашай нівы" сістэматычна прымалі ўдзел у мясцовых выстаўках у розных рэгіёнах Беларусі. Газета аб'яўляла і конкурсы на лепшы экспанат, што дасылаўся рэдакцыі. Так, у 1911 г. быў праведзены Конкурс беларускіх дзявочых вопратак, на якім прысуджаліся ўзнагароды пераможцам[4]. Некалькі пазней у Вільні адкрываецца выдавецтва "Наша хата" (1908). Распачынаюць сваю дзейнасць выдавецтвы "Вясёлка", "Палачанін", "Мінчук", "Саха", выдаюцца штомесячнікі і альманахі. З канца 1913 г. для моладзі выходзіць з друку часопіс "Лучынка".

Краязнаўства ў пачатку XX ст. ахоплівае ўсё больш шырокія колы мясцовай інтэлігенцыі. Беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, Цётка (А. Пашкевіч), Ц. Гартны і многія іншыя бралі матэрыялы для сваіх твораў непасрэдна з жыцця народа. Яны збіралі і запісвалі фальклор і этнаграфічныя матэрыялы, а ў сваіх творах характарызавалі асаблівасці быту і культуры беларусаў, паказвалі цяжкае становішча працоўных, заклікалі народ на барацьбу за сацыяльнае разняволенне.

Пэўны ўплыў на развіццё беларускай этнаграфіі аказваў мясцовы перыядычны друк. У пачатку XX ст. ва ўмовах уздыму нацыянальна-вызваленчага і культурнага руху ў Беларусі розныя органы мясцовага друку занялі розныя пазіцыі. Афіцыйныя органы ("Губернские ведомости", "Виленский вестник", "Витебский вестник", "Северо-Западное слово" і інш.) значна паправелі і адкрыта праводзілі антынародную палітыку, якая дыктавалася рускім самадзяржаўем, накіроўваючы свае намаганні на ўдушэнне ўсялякіх праяўленняў вызваленчага руху, у тым ліку і нацыянальнага. Нацыянальна-вызваленчы рух у Беларусі яны называлі новым відам сепаратызму ў Расіі — беларусафільствам.

Газета "Витебские губернские ведомости", напрыклад, спрабавала пераканаць чытачоў, "што ў "вызваленстве" гаворка ідзе не аб пераўтварэнні Расіі, не аб паляпшэнні форм і ўмоў яе жыцця і быту народаў, якія яе насяляюць, а зусім аб іншым: Расію трэба разбурыць, разлажыць, знішчыць самыя асновы форм яе жыцця, парваць звязваючыя пачаткі яе частак"[5]. Газета адмаўляла існаванне беларускай мовы і катэгарычна заяўляла, што ў Беларусі "асвета можа быць толькі руская на ўсіх ступенях, пачынаючы з самай нізкай і пачатковай"[6].

Аднак, нягледзячы на рэакцыйную накіраванасць афіцыйных органаў друку, час ад часу і на іх старонках успыхвалі дыскусіі па тых ці іншых пытаннях з жыцця мясцовага краю. Так, "Витебские губернские ведомости" ў 1903 г. змясцілі некалькі артыкулаў аб промыслах у Віцебскай губерні. У адным з іх ("Промыслы ў Віцебскай губерні") невядомы аўтар, адзначаючы, што "факт узрастання абеззямельвання сялян" не выклікае сумненняў, тлумачыць гэтым узмацненне руху сялян Віцебскай губерні па перасяленню ў Сібір. На думку аўтара, абеззямельванне сялян адначасова прыводзіць і да развіцця мясцовых і адыходных промыслаў. Сялянства "пастаўлена перад неабходнасцю шукаць пабочных за-

[4] Наша ніва. 1911. № 47—48.

[5] Витебские губернские ведомости. 1909. № 158.

[6] Там жа.

робкаў, каб з іх дапамогай папоўніць свой бедны бюджэт"[7]. Аўтар падкрэслівае, што растучае абеззямельванне і галеча гоняць у горад не толькі мужчыну, але і жанчыну, "якая кідае сваю сям'ю і гаспадарку толькі ў выпадку крайняй неабходнасці".

Разам з тым у артыкуле сцвярджаецца, што промыслы адыгрываюць ролю не толькі ў эканоміцы селяніна, але, "несумненна, павінны адбіцца і на псіхіцы яго, прыносячы ў вёску новыя густы, прывычкі, патрэбы, ствараючы ў ёй новы строй пачуццяў, думак і жаданняў"[8]. Насельніцтва мясцовасцей з найбольш развітым адыходніцтвам, працягвае аўтар, з'яўляецца звычайна і больш пісьменным, кемлівым, развітым.

Такім чынам, у артыкуле яскрава паказаны некаторыя бакі капіталістычнага развіцця беларускай вёскі, хоць аўтар і не раскрывае асноўнай прычыны пралетарызацыі вёскі — класавай дыферэнцыяцыі сялянства.

Прагрэсіўныя і дэмакратычныя погляды аўтара разглядаемага артыкула былі адразу ж падвергнуты рэзкай крытыцы з боку рэакцыйнага этнографа А. Пшчолкі. У сваіх артыкулах "З поваду артыкула "Промыслы ў Віцебскай губерні" і "Аб адыходных промыслах і ўплыве іх на жыццё вёскі" з застарэлых народніцкіх пазіцый Пшчолка робіць спробу абвергнуць асноўныя палажэнні артыкула "Промыслы ў Віцебскай губерні". Ён не разумее сутнасці працэсаў, якія адбываюцца ў вёсцы. Вынік прымае за прычыну і лічыць адыходніцтва асноўным ліхам, якое прыносіць сельскай гаспадарцы разбурэнне: сяляне, маўляў, шукаюць лёгкага жыцця і адбіваюцца ад зямлі.

Яшчэ больш вострая палеміка разгарнулася на старонках газеты "Витебские губернские ведомости" паміж А. Пшчолкам і прагрэсіўным беларускім этнографам Е. Р. Раманавым.

У сваіх літаратурных, публіцыстычных і этнаграфічных працах А. Пшчолка зняважліва ставіўся да беларускага народа, паказваў яго ў карыкатурным выглядзе. Асноўнай прычынай беднасці беларускага сялянства ён лічыў гультайства, п'янства і бяздзейнасць. Для доказу гэтага Пшчолка тэндэнцыйна падбіраў тыя матэрыялы з быту беларусаў, якія адносіліся да правядзення вольнага часу. Таму невыпадкова, што ўсе яго артыкулы прысвечаны розным беларускім святам. Вось некаторыя з іх: "Вясковыя святы", "Пісьмы з вёскі", "Іван Дудка", "Бяздзейнасць". Матэрыялы гэтых артыкулаў ствараюць уражанне, быццам бы беларускі селянін толькі і робіць, што п'е ды гуляе.

З рашучай, знішчальнай крытыкай гэтых антынавуковых і рэакцыйных поглядаў Пшчолкі выступаў Е. Раманаў. Як верны сын свайго народа ён ненавідзеў тых, хто зневажаў беларускі народ.

У артыкулах "Беларускі вечар у Вільні" і "З поваду адказу Пшчолкі" Раманаў падахвочвае арганізацыю беларускіх вечароў, якія праводзіліся ў Вільні і іншых месцах, але адначасова рэзка выступае супраць тэндэнцыі некаторай часткі беларускай інтэлігенцыі "паказваць беларусаў у карыкатурным выглядзе". Абураючыся ідэалагічным напрамкам творчасці Пшчолкі, Раманаў падкрэслівае, што беларускі народ перажыў складаную гісторыю, вымушаны быў весці многавяковую барацьбу супраць панска-каталіцкага прыгнёту. У гэтай барацьбе ён адстаяў сваю нацыянальную культуру і мову. Такі гераічны народ заслугоўвае глыбокай павагі, "а не таннага выскалення і не рабскага таптання яго ў гразь". "Свету яму дайце, больш свету, — працягвае Раманаў, — і вы тады ўбачы-

---

[7] Витебские губернские ведомости. 1903. № 127.
[8] Там жа.

це, што беларусы зусім не такія напаўжывёліны, якімі вы іх паказваеце ў сваіх творах"[9].

Зразумела, што цяжкія гістарычныя ўмовы, адзначае Раманаў, не маглі не накласці пэўнага адбітку на розныя бакі быту і культуры народа. І калі ў жыцці яго можна адшукаць нейкія негатыўныя моманты, то не народ у гэтым вінаваты. Аб'ектыўнае, глыбокае вывучэнне быту беларускага народа паказвае, што за сваю гісторыю ён стварыў выдатныя творы мастацтва і вуснапаэтычнай творчасці.

Высока ацэньваючы беларускую народную паэзію і абвяргаючы довады Пшчолкі, Е. Раманаў піша: "Дзякуючы беларускім зборнікам рада збіральнікаў (Шэйн, Нікіфароўскі, Дабравольскі, Ляцкі, Раманаў, Д.-Запольскі, Косіч і мн. інш.) беларуская народная славеснасць шырокай хваляю ўвайшла ў сусветны навуковы ўжытак, нароўні са славеснасцю ўсіх іншых народаў, і заняла там пачэснае месца дзякуючы вялікаму багаццю свайго зместу". І далей у пацвярджэнне сваёй думкі Раманаў прыводзіць выказванне А. С. Пушкіна аб казках Апочацкага павета (населенага, на думку Раманава, русеючымі беларусамі): "Што за хараство гэтыя казкі. Кожная ёсць паэма!"[10]

У заключэнне Раманаў раіць Пшчолку па-сапраўднаму вывучаць быт і культуру беларускага народа і правільна адлюстроўваць яго жыццё ў сваіх працах.

Своеасаблівую пазіцыю займала беларуская газета "Наша ніва". Выдаўцы яе адлюстроўвалі рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, патрабавалі навучання ў школах на роднай мове, свабоды слова і друку, права на саюзы, забастоўкі, дэмакратызацыю мясцовага кіравання і г. д. Шырока прапагандавалася газетай ідэя неабходнасці ўздыму народнай асветы і культуры. На яе старонках з'яўляліся невялікія артыкулы аб быце народа і фальклорныя творы.

У пачатку XX ст. у Расіі і Беларусі з ажыўленнем цікавасці да быту і культуры народа ствараюцца мясцовыя этнаграфічныя цэнтры, разгортваецца краязнаўчы рух.

У 1901—1902 гг. беларускія навуковыя сілы прымаюць захады да аднаўлення Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства. Аднак царскі ўрад гэта зрабіць не дазволіў, і адкрыццё Аддзела надоўга зацягнулася. У красавіку 1902 г. па ініцыятыве Раманава ў Магілёве былі створаны Таварыства па вывучэнню Беларускага краю (у 1913 г. рэарганізуецца ў Таварыства па вывучэнню Магілёўскай губерні) і Гісторыка-этнаграфічны музей, задачай якіх з'яўляецца вывучэнне прыроды, гісторыі і этнаграфіі Магілёўскай губерні.

Віленскае таварыства аматараў прыродазнаўства ўзнікла ў 1909 г. У гэтым жа годзе створана Віцебская археаграфічная камісія. У Мінску быў арганізаваны царкоўны гісторыка-археалагічны камітэт, які выдаваў працы пад назвай "Мінская старына". У 1912 г. заснавана Мінскае таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі. Асноўную колькасць членаў таварыства звычайна складалі прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі — настаўнікі, урачы і дробныя чыноўнікі, якія ў большасці сваёй стаялі на прагрэсіўных пазіцыях. Аб'ектыўнае апісанне імі жыцця народа, яго быту і культуры само па сабе ўступала ў супярэчнасць з рэакцыйнай палітыкай царызму і пануючых класаў. Прывядзём прыклад з дзейнасці Рускага геаграфічнага таварыства. У пачатку XX ст. этнографы былі ўцягнуты ў палеміку па

[9] Витебские губернские ведомости. 1908. № 25.
[10] Там жа. № 35.

нявырашанаму і поўнаму супярэчнасцей аграрна-сялянскаму пытанню. Рэшткі прыгонніцтва (памешчыцкае і абшчыннае землеўладанне, бяспраўе сялян) скоўвалі развіццё сельскай гаспадаркі. Актуальным было пытанне аб тым, як спыніць заняпад сельскай гаспадаркі. Часопіс "Живая старина" ў 1902 г. заклікаў этнографаў вывучаць пытанні абшчыннага землеўладання і землекарыстання. Часопіс прасіў этнографаў паведамляць "аб абшчыне, яе парадках і ладзе, перадаваць па магчымасці дакладна меркаванні і думкі сялян аб выгадах ці нявыгадах абшчыннага землеўладання"[11].

У змешчаных у тым жа нумары "Живой старины" першых адказах на пастаўленыя пытанні паказваўся глыбокі заняпад сельскай гаспадаркі і выкрываліся яго прычыны. Так, мясцовы аматар этнаграфіі селянін Каўроўскага павятовага камітэта Ф. І. Наскоў пісаў, што сельская гаспадарка за апошнія 10 год знізіла сваю прадукцыйнасць у два разы і знізіць яшчэ ў два. Ён бачыў прычыну заняпаду сельскай гаспадаркі ў тым "душыцельным" становішчы, у якім знаходзілася сялянства. "Калі ўнікнуць у сялянскае становішча, — піша Наскоў, — паглядзець на жыццё селяніна, асабліва ў зімовы час: чорная хата, голад, то гэта такое гора, якое нельга словамі апісаць. Становішча сялянства з'яўляецца ў нас самым нізкім"[12].

Зразумела, што абмеркаванне надзённых пытанняў у такім плане было не ў інтарэсах кіруючых колаў. Таму палеміка была адразу ж спынена. У дадзеным выпадку шчырае жаданне этнографаў у вырашэнні наспеўшага пытання выйшла за рамкі, патрэбныя царызму. Пазней этнаграфічныя даныя прыцягваліся для ўсхвалення хутарской сістэмы землеўладання[13].

З усіх створаных у Беларусі навуковых таварыстваў і камісій самы вялікі аб'ём этнаграфічнай работы выканаў Паўночна-Заходні аддзел РГТ. Ён быў створаны ў Вільні 16 студзеня 1910 г. пад кіраўніцтвам папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі доктара астраноміі Г. В. Лявіцкага. У склад кіраўніцтва Аддзела, акрамя афіцыйных асоб (губернатара, пратаіерэя і інш.), уваходзілі вядомы беларускі этнограф Е. Р. Раманаў, археолаг А. В. Жыркевіч, археограф Ф. М. Дабранскі, мясцовыя аматары па вывучэнню Беларусі — настаўнік М. М. Собалеў (старшыня Віленскага таварыства аматараў прыродазнаўства) і А. С. Уруцэвіч.

У кастрычніку 1910 г. Паўночна-Заходні аддзел у сваім складзе меў 219 членаў. Асноўную масу іх складалі настаўнікі. Важна адзначыць, што большасць з іх знаходзілася на перыферыі. К канцу 1911 г. колькасць членаў Аддзела павялічылася да 305 чалавек. Пры Аддзеле былі створаны чатыры секцыі: а) геаграфіі і статыстыкі (кіраўнік А. С. Уруцэвіч); б) археалогіі і этнаграфіі (Е. Р. Раманаў); в) археаграфіі (Ф. М. Дабранскі); г) гісторыі (А. В. Жыркевіч). Секцыя археалогіі і этнаграфіі распрацавала план работы, згодна з якім намячалася выданне ў бліжэйшы час чарговых выпускаў "Беларускага зборніка" Раманава, а таксама матэрыялаў па звычаёваму праву, народнай музыцы і ўмоўных гаворках, што бытавалі на Беларусі, планавалася выданне археалагічных карт Віцебскай і Магілёўскай губерняў, матэрыялаў раскопак Семянтоўскага, Кусцінскага, Шапялевіча, Раманава, Сізава, Турбіна, Антановіча, Авенарыуса і інш.

[11] Живая старина. 1902. Вып. I. С. 245.

[12] Там жа. С. 255—256.

[13] Гл.: Кофод А. А. Крестьянские хутора на надельной земле. СПб., 1905.

Адначасова секцыя археалогіі і этнаграфіі разгарнула экспедыцыйную работу па вывучэнню Беларусі і збіранню фальклорна-этнаграфічных і археалагічных матэрыялаў. На працягу 1910—1912 гг. была праведзена значная колькасць экспедыцый. Настаўнік Віленскай мужчынскай гімназіі М. М. Чуркін (вядомы беларускі кампазітар) запісваў беларускія народныя мелодыі ў Ашмянскім, Віленскім, Трокскім, Свянцянскім і Дзісенскім паветах. Толькі ў час экспедыцыі 1912 г. ім было запісана 110 мелодый.

Вельмі актыўна вёў экспедыцыйныя даследаванні Е. Р. Раманаў. Ён зрабіў дзве паездкі па Гродзенскай і дзве па Віленскай губерні з мэтай збірання і зверкі этнаграфічных матэрыялаў і вывучэння археалагічных помнікаў. У экспедыцыях па Гродзенскай губерні галоўную ўвагу Раманаў звярнуў на зверку запісаў фальклору і дадатковы збор бытавых звестак. Гэта патрэбна было для падрыхтоўкі да друку кнігі "Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні". Для абследавання археалагічных помнікаў Раманавым былі наладжаны экспедыцыі ў м. Здзітава Слонімскага павета, в. Камена Вілейскага павета, а таксама ў Віленскі павет.

Да вывучэння Беларускага краю Секцыя археалогіі і этнаграфіі прыцягвала вучняў школ. У прыватнасці, адабрэнне атрымала правядзенне археалагічных раскопак вучнямі Клімавіцкай школы пад кіраўніцтвам настаўнікаў Яраслаўцава і Локаця.

Паўночна-Заходні аддзел правёў значную работу па збіранню дакументаў аб Айчыннай вайне 1812 г. у сувязі са 100-гадовым юбілеем гэтай падзеі.

У Аддзел былі дасланы значныя фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы з розных месц Беларусі, у тым ліку запісы Ф. А. Кудрынскага з Мінскай губерні (апісанні прыкмет, вераванняў, запісы прымавак, песень і апавяданняў). Настаўнікі А. І. Мілавідаў, А. В. Шчарбіцкі даслалі фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя вучнямі ў Гродзенскай губерні.

Заслугоўваюць увагі і экспедыцыі настаўніка Другога гарадскога вучылішча Мінска І. А. Сербава, наладжаныя ў Ігуменскі і Бабруйскі паветы Мінскай і Чавускі павет Магілёўскай губерні ў 1911 г. "На працягу ліпеня месяца, — пісаў Сербаў, — я скалясіў усю гэту паласу, склаў каштоўную, на мой погляд, этнаграфічную калекцыю фатаграфічных здымкаў"[14]. Вынікі экспедыцыі былі апісаны Сербавым у працы "Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1911 г." (Вільна).

У наступным годзе Сербаў правёў экспедыцыю на поўдзень Беларусі (Бабруйскі, Ігуменскі, Мазырскі і Слуцкі паветы Мінскай губерні). За два месяцы даследчык сабраў "багаты этнаграфічны і фальклорны матэрыял, а таксама фатаграфічную калекцыю здымкаў з жыцця і быту малаабследаванага Палесся ў дадатак да тых збораў, якія ім былі зроблены ў папярэднім 1911 г. Ім запісана да 300 народных твораў — песень, казак, загадак, прымавак, замоў, паданняў і легенд. Больш за 80 мелодый пакладзена на ноты, фатаграфічных здымкаў зроблена да 600"[15]. Да здымкаў дадзены падрабязныя тлумачэнні.

М. М. Чуркін па заданню Паўночна-Заходняга аддзела ў 1912 г. працягваў збіранне народных мелодый.

Паўночна-Заходнім аддзелам былі распрацаваны праграмы для этнаграфічнага і археалагічнага вывучэння Беларусі. Так, Е. Р. Раманаў разаслаў складзе-

---

[14] Записки Северо-Западного отдела РГО. Кн. 3. С. 392.

[15] Отчет Северо-Западного отдела РГО за 1912 г. // Записки Северо-Западного отдела. 1913. Кн. 4. С. 264.

ную ім "Запіску з указаннямі для правядзення археалагічных экскурсій сярэднімі навучальнымі ўстановамі Віленскай вучэбнай акругі"; памочнік архіварыуса Віленскага цэнтральнага архіва А. Ф. Бычкоў падрыхтаваў праграмы па збіранню пісанак і вывучэнню жабрацтва; выкладчык гісторыі Віленскай гімназіі А. А. Здраеўскі распрацаваў "Праграму для этнаграфічнага даследавання насельніцтва Паўночна-Заходняга краю". Асаблівай увагі заслугоўвае апошняя праграма, якая была складзена ў адпаведнасці з дасягненнямі этнаграфічнай навукі таго часу. На першае месца ў ёй пастаўлены раздзел матэрыяльнага быту і культуры беларускага народа — жыллё, адзенне, ежа і інш. Далей ішлі раздзелы па сямейнаму быту (шлюб, вяселле, радзіны, хрэсьбіны і догляд дзяцей), па занятках і "житейскому быту", вераваннях, пахавальных абрадах, рэлігіі і інш. Найбольш распрацаваны раздзелы па народных вераваннях і абрадах.


ЗАПИСКИ
СѢВЕРО-ЗАПАДНАГО ОТДѢЛА
ИМПЕРАТОРСКАГО
РУССКАГО ГЕОГРАФИЧЕСКАГО ОБЩЕСТВА.
Книжка 2.
1911 г.
ВИЛЬНА.
Типографія А. Г. Сыркина, Большая ул., собств. домъ.
1911.

44. Тытульны ліст кнігі

Акрамя таго, Аддзелам была распачата работа па складанню бібліяграфіі этнаграфічнай і фальклорнай літаратуры, што датычыла Беларусі.

Нарэшце, трэба адзначыць вельмі важную работу Паўночна-Заходняга аддзела — яго выдавецкую дзейнасць. Ужо ў 1910 г. адразу ж пасля стварэння Аддзела ўзнікла пытанне аб стварэнні органа друку. У сувязі з недахопам сродкаў было вырашана стварыць адзіны перыядычны орган друку для двух таварыстваў — Віленскага таварыства аматараў прыродазнаўства і мясцовага аддзела РГТ. У выніку быў створаны часопіс, які атрымаў назву "Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества".

За час існавання Аддзела выйшлі з друку 4 кніжкі "Записок". Побач з аддзеламі геаграфіі, геалогіі, археалогіі, гісторыі і археаграфіі ў першых трох кніжках значнае месца займае аддзел этнаграфіі, які ўключае і матэрыялы па фальклору. Усяго ў "Записках" было апублікавана 12 прац і некалькі нататак па быту, культуры і вуснапаэтычнай творчасці беларусаў. Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць працы "Знешні быт быхаўскага беларуса", "Па Гродзенскаму Палессю", "Старажытныя рускія прымаўкі па зборніку XVIII ст." Е. Р. Раманава; "Сялянскае вяселле ў паўднёвым Палессі" Б. Сцепанца; "Напаўпрымаўкі і напаўпрыказкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі" М. Я. Нікіфароўскага; "Жніўныя песні ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні" М. Я. Белацаркоўца; "Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1911 г.", "Паездка па Палессю летам 1912 г." І. А. Сербава; "М. Я. Нікіфароўскі, 1845—1910 гг." В. К. Стукаліча.

Характарызуючы дзейнасць Паўночна-Заходняга аддзела, нельга не адзначыць, што больш-менш плённай яна была толькі ў першыя два гады. З абвастрэннем класавай барацьбы і асабліва пасля Ленскага расстрэлу ўзмацнілася рэакцыйная палітыка царызму. Жорсткаму кантролю падвергліся навуковыя ўстановы і таварыствы, а ў іх выданнях усё менш друкаваліся аб'ектыўныя звесткі па быту народа, якія б раскрывалі сапраўдную карціну жыцця. Царызму было нявыгадна, каб этнаграфічная літаратура паказвала цяжкае становішча шырокіх працоўных мас, якія ўсё актыўней уключаліся ў класавую барацьбу пралетарыяту Расіі і Беларусі.

Адсюль зразумелыя прычыны, якія прывялі да замірання дзейнасці Паўночна-Заходняга аддзела. К канцу 1912 г. змяншаецца колькасць членаў таварыства, а ў апошніх кніжках "Записок" этнаграфічныя матэрыялы амаль зусім не друкуюцца.

Нельга не адзначыць і тое, што па сваіх поглядах члены навуковых таварыстваў былі неаднародныя. Побач з прыхільнікамі царскіх парадкаў у іх было нямала прагрэсіўных дзеячаў, такіх, як Е. Р. Раманаў, М. Я. Нікіфароўскі, І. А. Сербаў і інш. Але нават і дзейнасць многіх прадстаўнікоў ліберальнага і кансерватыўнага напрамкаў незалежна ад іх жадання садзейнічала развіццю беларускай этнаграфіі і ўцягненню ў вывучэнне быту дэмакратычных колаў грамадства. Вось адзін з прыкладаў. Член Паўночна-Заходняга аддзела настаўнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Ф. А. Кудрынскі стаяў на кансерватыўных пазіцыях і ў сваіх этнаграфічных працах абыякава і з пагардай ставіўся да быту і культуры беларускага народа. Аднак, прыцягваючы да гэтай працы вучняў Нясвіжскай семінарыі, ён рабіў добрую справу. У хуткім часе вучні перараслі настаўніка. Так здарылася з яго вучнем Канстанцінам Міцкевічам (будучым паэтам і пісьменнікам Якубам Коласам). Яшчэ ў час навучання ў семінарыі (1898—1902) ён распачаў вывучэнне быту і культуры беларускага народа. Прайшло дзесяцігоддзе. Настаўнік застаўся на старых, кансерватыўных пазіцыях, а яго вучань сталеў ад адной[16] этнаграфічнай працы да другой, а потым у сваёй літаратурнай творчасці вырас у рэвалюцыйнага дэмакрата.

Акрамя мясцовых афіцыйных цэнтраў, да этнаграфіі Беларусі ў пачатку XX ст. звяртаюцца вядучыя навуковыя цэнтры Расіі — Акадэмія навук, Маскоўскі і Пецярбургскі універсітэты, у якіх працавалі такія відныя знаўцы культуры і быту беларусаў, як А. А. Шахматаў, Д. М. Анучын, А. І. Сабалеўскі, М. А. Янчук. Выходзіць з друку рад іх прац, у якіх разглядаюцца пытанні этнагенезу, мовы, антрапалогіі і этнаграфіі беларусаў.

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што ў 1907 г. на пасяджэнні Аддзялення рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук была зачытана запіска М. А. Янчука аб выданні "Помнікаў беларускай мовы і славеснасці"[17]. Янчук ставіў перад вучонымі задачу перавыдання беларускіх фальклорных твораў і твораў мастацкай літаратуры, якія былі апублікаваны раней і раскіданы па розных выданнях. З вялікай любоўю да вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа абгрунтоўвае даследчык неабходнасць перавыдання тых запісаў розных збіральнікаў, якія не былі выдадзены асобнымі тамамі (падобна зборнікам Раманава, Шэйна і інш.). "Усё гэта сабранае

[16] У 1900 г. Я. Колас, будучы вучнем трэцяга класа Нясвіжскай семінарыі, напісаў першую сваю этнаграфічную працу "З беларускага жыцця" (рукапіс захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа ў Мінску). Гл.: Сабаленка Э. Р. Этнаграфічная спадчына Якуба Коласа. Мн., 1969.

[17] Известия Академии наук. СПб., 1907. № 9. С. 225—232.

разам, — піша Янчук, — складзе значны том і разам з тым дасць вялікі запас навуковага матэрыялу, які ў сучасны перыяд выпадае з-пад увагі даследчыка і застаецца невядомым, у выніку чаго новыя даследчыкі рызыкуюць паўтараць работу, якая даўно зроблена іншымі"[18].

Акадэмія падтрымала Янчука і даручыла яму скласці план першага тома, у які меркавалася ўключыць этнаграфічныя працы. У другі том Янчук прапануе ўключыць творы беларускай мастацкай літаратуры і называе імёны такіх беларускіх і польскіх пісьменнікаў, як Дунін-Марцінкевіч, Манькоўскі, Лада-Заблоцкі, Баршчэўскі, Рыпінскі, Дарэўскі, Янка Лучына, Багушэвіч і інш.

Як літаратурны крытык і даследчык гісторыі беларускай літаратуры Янчук высока ацэньвае творчасць М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў. Свой нарыс "Некалькі слоў аб беларускай літаратуры" ён заканчвае так: "На шчасце, беларускі народ насуперак усім нягодам паказаў сваю жывучасць, дажыў да новай эры, і мы можам з радасцю ўсклікнуць разам са спеваком Беларусі Янкам Купалам:

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе, —
Не згіне край забраны,
Покі будуць людзі.
Ночка цёмная на свеце
Вечна не начуе.
Зерне, кінутае ў ніву,
Усходзе ды красуе...
Беларускаю рукою
Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыне мілай.
Зацвіце яна, як сонца
Пасля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
Між усіх народаў".[19]

---

[18] Известия Академии наук. № 9. С. 228.

[19] Янчук Н. А. Несколько слов о новейшей белорусской литературе // Известия общества славянской культуры. М., 1912. Кн. I. С. 91. (Гэты верш Янкі Купалы Янчук пераклаў на музыку.)

У апошнія гады XIX — пачатку XX ст. пашыраецца збіральніцкая дзейнасць беларускіх вучоных, глыбей вывучаюцца розныя бакі быту народа. Этнаграфічная літаратура ўзбагачаецца вялікімі працамі ў галіне матэрыяльнай і духоўнай культуры народа.

Пачатак у вывучэнні матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці народаў Расіі быў пакладзены яшчэ ў канцы XIX ст. працай В. Ф. Мілера "Сістэматычнае апісанне калекцый Дашкоўскага этнаграфічнага музея" (у 4 тамах, 1887—1895 ). У Беларусі ў тыя гады пытанням матэрыяльнага і вытворчага быту прысвяціў свае працы М. Я. Нікіфароўскі. У пачатку XX ст. гэтым пытанням прысвечаны працы рускіх, украінскіх і беларускіх этнографаў: А. М. Харузіна, Д. К. Зяленіна, В. Багданава, М. Ф. Якаўлева, М. Венявіцінава, А. Шарко, М. Русава, М. В. Эдамскага, М. Косіч, Е. Р. Раманава, А. К. Сержпутоўскага і інш.

Вялікую ролю ў збіранні звестак па матэрыяльнай культуры беларусаў адыгралі праграмы рускіх навуковых таварыстваў і асабліва праграмы, распрацаваныя створанай у 1910 г. пры РГТ Камісіяй па складанню этнаграфічных карт Расіі. Работа гэтай Камісіі заслугоўвае асаблівай увагі. Была задумана грандыёзная справа — стварыць этнаграфічны атлас па самых разнастайных галінах быту і культуры ўсіх народаў, якія насялялі Расійскую імперыю. У першую чаргу трэба было закартаграфаваць матэрыяльную культуру і вытворчую дзейнасць народа.

З самага пачатку Камісія разгарнула актыўную дзейнасць. Аддзелы Камісіі склалі і разаслалі вялікую колькасць праграм для збірання звестак па матэрыяльнаму быту і народнаму мастацтву народаў Расіі. Адзначым, што актыўны ўдзел у рабоце прыняў вядомы беларускі

этнограф А. К. Сержпутоўскі, які быў абраны ва ўсе яе аддзелы. Па даручэнню Аддзела Камісіі Сержпутоўскім былі складзены наступныя праграмы: "Праграма па адзенню, галаўных уборах і ўпрыгожаннях беларусаў" (1911), такая ж праграма па быту палякаў (1912), "Праграма па жыллю і пабудовах беларусаў" (1912), "Праграма па гаспадарчаму быту беларусаў" (1913) і такія ж праграмы па велікарусах і паляках. У гаспадарчы быт уключалася, акрамя народнай тэхнікі, промыслаў, рамёстваў і сродкаў перасоўвання, таксама ежа народа.

Адначасова са складаннем праграм Камісія распачала падрыхтоўку бібліяграфіі літаратуры, якую можна выкарыстаць пры складанні этнаграфічных карт. Гэта праца была выканана ўжо вядомым у той час этнографам Д. К. Зяленіным і атрымала назву "Бібліяграфічны ўказальнік рускай этнаграфічнай літаратуры аб знешнім быце народаў Расіі. 1700—1910 гг. (Жыллё. Адзенне. Музыка. Мастацтва. Гаспадарчы быт)"[20]. Структура "Бібліяграфічнага ўказальніка" была падпарадкавана задачам Камісіі па складанню этнаграфічных карт. Матэрыялы размеркаваны па тэматычнаму прынцыпу, што відаць з падзагалоўка, а ў кожным раздзеле — яшчэ па губернях і народах. У дадатках да "Бібліяграфічнага ўказальніка" Д. К. Зяленін дае "Алфавітны ўказальнік губерняў і абласцей", "Алфавіт народнасцей і плямянных груп", "Указальнік этнаграфічных карт", "Алфавітны ўказальнік аўтараў" і інш., па якіх можна хутка знайсці неабходныя звесткі.

У далейшым Д. К. Зяленін узяўся за апісанне рукапісаў, якія знаходзіліся ў архіве РГТ. У 1914—1916 гг. ім было выдадзена тры выпускі "Апісання рукапісаў вучонага архіва Рускага геаграфічнага таварыства" (выданне не закончана), матэрыялы ў якіх размешчаны ў адпаведнасці з існуючым у той час адміністрацыйным падзелам (па губернях). Гэта праца таксама была падпарадкавана задачам Камісіі па складанню этнаграфічных карт Расіі.

"Бібліяграфічны ўказальнік" і "Апісанне рукапісаў", складзеныя Д. К. Зяленіным, у значнай ступені аблегчылі працу наступных даследчыкаў быту народаў нашай краіны, у тым ліку і даследчыкаў быту беларускага народа.

Імперыялістычная вайна прыпыніла работу Камісіі па складанню этнаграфічных карт Расіі. Аднак матэрыялы, сабраныя Камісіяй, былі выкарыстаны ў першыя гады савецкай улады пры вырашэнні праблем нацыянальнага раяніравання тэрыторыі Савецкага Саюза. Што ж датычыць складання этнаграфічных атласаў народаў Савецкага Саюза, то над гэтай праблемай паспяхова вялі работу шматлікія этнаграфічныя цэнтры.

Побач з даследаваннем матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці народаў Расіі ў пачатку XX ст. даволі шырока вывучаліся і іншыя аспекты быту. З'явіліся працы па сямейным быце, вераваннях, абрадах, звычаёвым праве, народных ведах, народным мастацтве і вуснапаэтычнай творчасці.

Аднак развіццё этнаграфіі, як і іншых навук і не толькі навук, але і ў цэлым грамадзянскага жыцця краіны, ішло нераўнамерна. Ужо напярэдадні першай сусветнай вайны ва ўмовах агульнага крызісу капіталізму наогул і ўзмацнення рэакцыйнай палітыкі царызму ў прыватнасці развіццё этнаграфіі не толькі замаруджваецца, але ў радзе навуковых цэнтраў прыпыняецца. У Расіі разам з крызісам капіталізму наступае і крызіс

---

[20] Записки РГО по Отделению этнографии. Т. XL, вып. 1. Библиографический указатель русской этнографической литературы о внешнем быте народов России. 1700—1910 // Труды Комиссии по составлению этнографических карт России. СПб., 1913.

буржуазнай этнаграфіі. У гэты час назіраецца тэндэнцыя адрыву этнаграфіі ад вывучэння жыцця народа, ад актуальных пытанняў сучаснасці. Робяцца спробы ўтрымаць гэту навуку ў рамках сухога акадэмізму. Больш таго, назіраецца імкненне выключыць этнаграфію з галіны грамадскіх навук, звесці яе толькі да вузкаантрапалагічных ці этнагеаграфічных інтарэсаў. Гэтыя тэндэнцыі асабліва ярка выявіліся пры абмеркаванні прадмета і задач рускай этнаграфіі 4 сакавіка 1916 г. Старшыня этнаграфічнага аддзела Рускага музея М. М. Магілянскі на пасяджэнні Аддзялення этнаграфіі РГТ прачытаў даволі блытаны даклад "Прадмет і задачы этнаграфіі"[21], які выклікаў бурныя спрэчкі.

В. П. Сямёнаў Цянь-Шанскі ў сваёй крытыцы даклада пайшоў яшчэ далей: этнаграфія павінна быць падпарадкавана геаграфіі, а этнаграфічны аддзел РГТ трэба перайменаваць у аддзел антрапагеаграфіі. У. І. Іохельсон хоць і не адмаўляў прыналежнасці этнаграфіі да гуманітарных навук, але прапанаваў замяніць тэрмін "этнаграфія" на "этналогія", разумеючы пад этнаграфіяй навуку аб першабытнай культуры. І толькі Л. Я. Штэрнберг цвёрда выступіў у абарону этнаграфіі як навукі гуманітарнай. Сувязь этнаграфіі з антрапалогіяй не азначае, што яна павінна быць аднесена да прыродазнаўчых навук. "Этнаграфія, — гаварыў ён, — перш за ўсё навука адзіная, і, далей, як гуманітарная навука яна аднолькава патрэбна і географу, і гісторыку, і слухачу ўсходняга факультэта, і юрысту ў той ці іншай ступені"[22].

Такая неразбярыха ў разуменні задач навукі ў гэты час назіралася не толькі ў этнаграфіі, але і ў іншых галінах грамадскіх навук.

Аналагічны працэс назіраўся і ў беларускай этнаграфіі. Гэта добра паказана ў пісьме прагрэсіўнага беларускага этнографа Е. Р. Раманава да акадэміка А. А. Шахматава: "Навука тут зараз не ў авантажы. Пн.-Зах. аддзел трымаецца пакуль толькі на плячах п. Даўгялы, і пайдзі ён — Аддзел адразу спыніць сваё існаванне. Этнаграфія ледзь церпіцца, і ў "Записках" Таварыства забаронена друкаваць творы беларускай народнай славеснасці, а выдатны беларускі этнограф за свой апошні том названы сепаратыстам (маецца на ўвазе, напэўна, другі том "Беларусаў" Я. Ф. Карскага. — *В. Б.*). Да археалогіі ж адносяцца з непрытоенай пагардай"[23].

Вайна і акупацыя прыпынілі этнаграфічнае вывучэнне Беларусі. Толькі найбольш прагрэсіўныя вучоныя ў эвакуацыі працягвалі апрацоўваць раней сабраныя матэрыялы (Е. Раманаў, Я. Карскі і інш.).

У пачатку XX ст. пад уплывам ажыўлення грамадска-палітычнага і нацыянальнага руху ўзмацнілася дзейнасць па этнаграфічнаму вывучэнню Беларусі. Асабліва актыўна працягвалася збіральніцкая работа. У параўнанні з папярэднім часам вывучэнне быту і культуры беларусаў насіла больш мэтанакіраваны характар. Яно праходзіла пад кіраўніцтвам навуковых установаў (таварыстваў) і самадзейных краязнаўчых арганізацый. Разам з вядомымі беларускімі даследчыкамі Е. Р. Раманавым, Я. Ф. Карскім, М. Я. Нікіфароўскім, М. В. Доўнар-Запольскім, М. А. Янчуком, У. М. Дабравольскім і інш., дзейнасць якіх разгарнулася яшчэ ў 2-й палове XIX ст., з'яўляюцца маладыя вучоныя і краязнаўцы:

---

[21] Могилянский Н. М. Предмет и задачи этнографии // Живая старина. 1916. Вып. I. С. 1—22. Прения // Там жа. Вып. II—III. С. 1—2.

[22] Живая старина. 1916. Вып. II—III. С. 10.

[23] Архіў РАН, ф. 134, воп. 3, спр. 1308, л. 16—17.

А. К. Сержпутоўскі, І. А. Сербаў, К. Т. Анікіевіч і інш.

У гэты час у значнай ступені захаваўся ранейшы напрамак у вывучэнні культуры беларускага народа. Увага ўсё яшчэ пераважна звярталася на збіранне твораў вуснапаэтычнай творчасці і апісанне абрадаў народа. Працягвалі выходзіць таксама і працы агульнаэтнаграфічнага зместу, якія адносіліся як да асобных раёнаў Беларусі (працы Раманава, Анікіевіча, Сержпутоўскага, Сербава, Косіч, Здраеўскага, Камінскага, Білецкага і інш.), так і да ўсёй тэрыторыі ці вялікіх частак яе (працы Карскага, Доўнар-Запольскага, Янчука, А. Харузіна і інш.). Значная ўвага ў беларускай этнаграфічнай літаратуры пачатку XX ст. удзяляецца пытанням этнагенезу, этнічнага складу насельніцтва і этнаграфічных граніц. З'яўляюцца серыя этнаграфічных карт рассялення ўсходнеславянскіх народаў (працы М. П. Пешціча, А. Ф. Рыціха, Т. Д. Фларынскага, Я. Ф. Карскага) і даследаванні аб паходжанні беларускай народнасці (працы Я. Ф. Карскага). Цікавасць да гэтых пытанняў была выклікана ажыўленнем нацыянальна-вызваленчага руху ў Расіі і Польшчы. У большасці выпадкаў працы па пытаннях этнічнага складу і этнаграфічных межаў мелі на ўвазе палітычныя мэты.

Новай плынню ў беларускай этнаграфіі гэтага перыяду было вывучэнне матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларусаў. Калі ў канцы XIX ст. гэтаму пытанню прысвячаліся працы толькі некаторых этнографаў (М. Я. Нікіфароўскі), то ў пачатку XX ст. з'яўляецца цэлая серыя даследаванняў і апісанняў (працы А. Харузіна, М. Косіч, Е. Раманава, М. Скалон, П. Сергіеўскага, А. Сержпутоўскага, Д. Свяцкага і інш.). Навуковыя таварыствы і асобныя этнографы складаюць і рассылаюць шматлікія праграмы для збірання матэрыялаў, якія характарызуюць жыллё, адзенне, прылады працы і вытворчую дзейнасць насельніцтва.

Вывучаліся таксама сямейны і грамадскі быт, народныя веды і народнае мастацтва (працы Е. Раманава, Б. Сцепанца, В. Іванова, У. Дабравольскага, П. Мезярніцкага і інш.).

Працягвалася этнаграфічнае вывучэнне Беларусі польскімі вучонымі: М. Федароўскім, Я. Булгаком, У. Дыбоўскім, У. Шукевічам, П. Зубовічам, М. Кучам і інш. Шматлікія матэрыялы па быту і культуры беларусаў друкаваліся ў перыядычных выданнях навуковых таварыстваў і ўстаноў, а таксама ў перыядычным друку. Па-ранейшаму вядучая роля ў гэтым належала Рускаму геаграфічнаму таварыству, Таварыству аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі.

У пачатку XX ст. робяцца першыя значныя спробы навуковага аналізу, абагульнення сабраных матэрыялаў і больш глыбокага вывучэння асобных бакоў матэрыяльнай і духоўнай культуры (А. Харузін, М. Косіч, Е. Раманаў і інш.). Усё гэта ўзнімала этнаграфічную навуку на новы ўзровень.

Аднак у агульных рысах беларуская этнаграфія пачатку XX ст. з'ўлялася навукай апісальнай. Этнографы звярталіся галоўным чынам да вывучэння традыцыйных форм народнага быту. У дадзеным выпадку навуковая каштоўнасць этнаграфічных даследаванняў зводзілася да таго, што своечасова фіксаваліся ў асноўным тыя элементы быту і культуры народаў, якія беззваротна адыходзілі ў мінулае. І ў гэтых адносінах этнографамі было зроблена вельмі шмат.

Вядучае месца ў этнаграфічным вывучэнні Беларусі пачатку XX ст. належала Е. Р. Раманаву, А. К. Сержпутоўскаму, І. А. Сербаву, Я. Ф. Карскаму.

# Е. Р. РАМАНАЎ

У канцы XIX — пачатку XX ст. вельмі плённай была дзейнасць Еўдакіма Раманавіча Раманава[24].

На працягу 1895—1906 гг. Раманаў служыць інспектарам народных вучылішчаў Магілёўскай губерні. У гэты перыяд ён займаецца ў асноўным навукова-даследчай работай і працуе над выданнем прац і артыкулаў па этнаграфіі, гісторыі, археалогіі, тапаніміцы і мове. На працягу шасці год (з 15 лістапада 1897 па 1 кастрычніка 1903 г.) Раманаў быў рэдактарам неафіцыйнай часткі газеты "Могилевские губернские ведомости". У яго руках неафіцыйная частка газеты ператварылася ў сродак шырокай прапаганды этнаграфічнага, гістарычнага, археалагічнага і геаграфічнага вывучэння Беларусі. Раманаў выказваў радасць з выпадку таго, што ў ліку карэспандэнтаў і чытачоў ёсць сяляне: "Днямі некаторыя з такіх чытачоў прыслалі нам ужо і свае вясковыя песні... Няма чаго і казаць, што ўчынак быхаўскай сялянскай моладзі заслугоўвае поўнай пахвалы і перайманця"[25].

Раманаў распрацаваў новую праграму газеты, якая ўключала "артыкулы, даследаванні і матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, статыстыцы і геаграфіі Магілёўскай губерні Заходне-Рускага краю".

За час работы на пасадзе рэдактара Раманаў прыцягнуў да ўдзелу ў газеце вялікую колькасць супрацоўнікаў. У выніку на яе старонках друкавалася шмат матэрыялаў па розных пытаннях мінулага і сучаснага беларускага народа. У рэдакцыю ў вялікай колькасці пачалі паступаць фальклорна-этнаграфічныя і іншыя краязнаўчыя матэрыялы. Газета стала трыбунай мясцовых краязнаўцаў — гісторыкаў, археолагаў, этнографаў. М. Доўнар-Запольскі ў пісьме да Раманава ад 8 студзеня 1898 г. павіншаваў яго з паспяховым рэдагаваннем і выказаў надзею, што газета пад кіраўніцтвам такога знаўцы мясцовага краю дапаможа ў вывучэнні Беларусі.

Ва ўмовах паліцэйска-бюракратычнага рэжыму, класавай барацьбы і жорсткай царскай цэнзуры Раманаву даводзілася пераадольваць вялікія цяжкасці ў ажыццяўленні новай праграмы. "Гэта былі гады, — пісаў ён, — упартай нястомнай працы... На нас сыпаліся скаргі, лаянка, паклёп; нам рабіліся нізкія авансы; на нас пасылаліся службовыя даносы вышэйшаму начальству — нават прапаведнікамі любві і міру (відавочна, духавенствам. — *В. Б.*) ... Нас праз падстаўных асоб прыцягвалі да суда; нам, нарэшце, пагражалі "надыходзячым грозным днём..."[26]

Не меншыя цяжкасці сустракаў Раманаў і пры публікацыі сваіх навуковых прац. Так, друкаванне шостага выпуску "Беларускага зборніка" цягнулася каля дзесяці год. Раманаў пачаў друкаваць яго яшчэ ў 1893 г. у Віцебску, але раптоўны і неабгрунтаваны перавод яго папячыцелем Віленскай вучэбнай акругі ў Гродзенскую, а затым у Магілёўскую губерню прымусіў спыніць друкаванне выпуску. У 1895 г. друкаванне аднавілася, але хутка друкарня была закрыта. Шосты выпуск "Беларускага зборніка" выйшаў з друку толькі ў 1901 г.

З дзевяці выпускаў "Беларускага зборніка" тры (III, IV, VI) прысвечаны беларускай казцы. Гэты жанр вуснапаэ-

---

[24] Падрабязней аб жыцці і навуковай дзейнасці Е. Р. Раманава ў гэты перыяд гл. у кн.: Бандарчык В. К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1962.

[25] Могилевские губернские ведомости. 1901. № 50.

[26] Там жа.

тычнай творчасці Раманаў асабліва цаніў і ўслед за А. С. Пушкіным называў беларускія казкі народнымі паэмамі. З выхадам у свет шостага выпуску Раманаў у асноўным завяршыў друкаванне казак (а іх усяго ім было апублікавана 462), але збіранне казак працягваў і пазней. У рукапісных XI—XIV выпусках "Беларускага зборніка" было падрыхтавана да друку яшчэ 319 бытавых казак і апавяданняў.

Як ужо адзначалася, значнай працай Раманава гэтага часу з'яўляюцца "Матэрыялы па гістарычнай тапаграфіі Віцебскай губерні. Павет Веліжскі". Асаблівую цікавасць выклікае першая частка кнігі — "Агульны нарыс Віцебскай губерні", якая ўяўляе сабою навуковае даследаванне. Тут Раманаў падагульняе ўжо вядомыя, а таксама сабраныя ім звесткі па гісторыі Віцебскай губерні. Ён смела выступае супраць антынавуковых поглядаў дваранскіх і буржуазных гісторыкаў на беларускі народ, да глыбіні душы абураецца тым, што многія айчынныя і замежныя "публіцысты" па свайму невуцтву характарызуюць беларускі народ "пазбаўленым усіх добрых якасцей, і фізічных, і маральных, і разумовых: і хілы ён, і слабы, і злодзей, і п'яніца, і разбойнік, і тупы, і неразвіты і г. д."[27] Усю сілу свайго абурэння і гневу Раманаў накіроўвае на палітыку царызму, які не разумее і не цэніць гістарычнай ролі беларускага народа, што выцерпеў "такую жудасную гісторыю" і адстаяў у векавой барацьбе сваю мову і культуру, спыніўшы каланізацыю рускіх зямель з захаду. "Нічога таму няма дзіўнага, — адзначае Раманаў, — што для "абрусення" гэтага — здаецца, рускага? — краю да гэтага часу запрашаюцца немцы, латышы і інш. з выдачай ім пад'ёмных, прагонных, працэнтных, з прывілеямі, якіх пазбаўлены мясцовыя ўраджэнцы, што асмеліліся вынесці на сваіх плячах шматвяковы каталіцка-польскі прыгнёт, адстаяць сваю веру і народнасць ад напору пальшчызны і саслужылі для Расіі тую вялікую гістарычную службу, якую саслужыла Расія для Еўропы, вынесшы на сабе мангольскае ярмо..."[28]

Палітыку царызму ў Беларусі Раманаў тлумачыць няведаннем рускай грамадскасцю беларускага народа і яго гераічнай гісторыі. Людзі, якія блізка вывучаюць жыццё беларуса, сцвярджаюць, што "гэта самабытнае рускае племя не страціла сваёй сілы, а толькі пад уплывам неспрыяльных гістарычных умоў схавала яе"[29]. Падобныя думкі выказвае Раманаў і ў іншых працах.

Мае цікавасць заметка Раманава "Культурныя перажыванні"[30], з'яўленне якой было выклікана рэпрэсіямі ўлад супраць жыхароў г. Новыя Юркавічы за выконваемыя імі радзінныя, вясельныя, пахавальныя і памінальныя абрады і за знішчэнне крыжоў, намаляваных святарамі на дамах у час царкоўнага свята Хрышчэння (6 студзеня). Аўтар выступае ў абарону сялян і растлумачвае, што з адсталасцю народа трэба змагацца не пакараннямі, а распаўсюджваннем адукацыі.

У артыкуле "Вымушаны адказ "Московским ведомостям"[31] Раманаў спыняецца на значэнні мясцовых сіл у вывучэнні роднага краю. Ён крытыкуе газету за артыкул "Дзе быць старажытнасцям?", у якім сцвярджаецца, што помнікі патрэбна перадаць з мясцовых музеяў

[27] Романов Е. Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский // Памятная книжка Витебской губернии за 1898 г. Витебск, 1898. С. 119.

[28] Там жа.

[29] Там жа.

[30] Могилевские губернские ведомости. 1900. № 17.

[31] Там жа. 1901. № 20.

у "цэнтр", таму што ў правінцыі быццам бы няма талентаў, здольных пасляхова займацца вывучэннем гісторыі. Людзей звычайных, зазначае ён, якія свой вольны час рады аддаць служэнню рускай навуцы, многа ў правінцыі. Яны сумленна працуюць, уносячы ў агульную скарбонку рускай навукі "кроплю і свайго мёду".

Заслугоўвае ўвагі артыкул Е. Раманава "Што зроблена па вывучэнню Магілёўскай губерні і што яшчэ трэба зрабіць". У ім аўтар дае шырокую праграму даследавання гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, геаграфіі і эканомікі Магілёўшчыны. Ён прапануе стварыць таварыства аматараў вывучэння Магілёўскай губерні. Тут жа змешчаны праект палажэння і статута таварыства[32].

У Магілёве Раманаў друкуе працы "Катрушніцкі лемязень, умоўная гаворка дрыбінскіх шапавалаў" (1890), "Са стараверскай літаратуры" (1901), тры выпускі зборніка артыкулаў "Магілёўская старына" (1900—1903) і інш. Выпускі "Магілёўскай старыны" складаюцца з артыкулаў розных аўтараў, што друкаваліся ў "Могилевских губернских ведомостях" у 1897—1903 гг. Сярод іх заслугоўваюць увагі "Апісанне Крычаўскага графства 1786 года" А. Меера, а таксама артыкулы Раманава "Зборнік беларускіх замоў пачатку XIX ст." (вып. II), "Арыгінальны помнік старыны" (вып. II), "Матэрыялы для вывучэння гаворак Магілёўскай губерні" (вып. III), "З галіны беларускай народнай медыцыны" (вып. III), "Дзіцячыя гульні беларусаў с. Хонава Быхаўскага павета" (вып. III), "Са свету народных легенд" (вып. III) і інш.

Вялікая заслуга належыць Раманаву таксама ў распаўсюджанні і папулярызацыі лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў — В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і ананімных твораў. У 1900 г. Раманаў друкуе кнігу "Тарас на Парнасе" і іншыя беларускія вершы", у якой, акрамя ананімнай паэмы, змяшчае вершы "Панскае ігрышча", "Жаніцьба Сапрона" і "Вясна гола перапала". У сувязі з вялікім попытам на гэту кнігу ён выпускае ў 1902 г. новае выданне, дапоўніўшы яго вершамі Ф. Багушэвіча "Адказ на панскае ігрышча" і В. Дуніна-Марцінкевіча "Шум, крык, гоман у карчме" і "У Магілёўскім прыёме".

У канцы XIX — пачатку XX ст. назіраецца найбольш актыўнае супрацоўніцтва Раманава з Я. Ф. Карскім і А. М. Весялоўскім. Ён удзельнічае ў складанні "Праграмы для збірання асаблівасцей гаворак беларускай мовы", асноўным складальнікам якой быў Карскі, і ў 1897 г. высылае ў Аддзяленне ру-




45. Вокладка кнігі

[32] Могилевские губернские ведомости. 1898. № 35.

скай мовы і славеснасці Акадэміі навук матэрыялы для вывучэння беларускіх гаворак, якія друкуюцца пад назвай "Назіранні прыроднага беларуса, які большую частку жыцця правёў у Магілёўскай губерні, але жыў таксама доўгі час у Віцебскай, Гродзенскай і іншых губернях (паведамленне Е. Р. Раманава)"[33]. У пісьме Карскаму ад 15 снежня 1901 г. Раманаў прапануе яму сваю дапамогу ў працы над "Беларусамі".

Пачатак навуковых сувязей Е. Раманава з А. М. Весялоўскім адносіцца да 1888 г. У 1893—1897 гг. Раманаў высылае яму значную колькасць матэрыялаў аб беларускіх народных легендах (галоўным чынам пра волатаў) і апісанні абрадаў Купалля, кумавання, провадаў русалкі і інш.

Гісторыка-этнаграфічныя працы Раманава за 1898—1901 гг. ("Беларускі зборнік", вып. IV; "Матэрыялы па гістарычнай тапаграфіі Віцебскай губерні. Павет Веліжскі"; "Магілёўская старына", вып. I—II; "Беларускія тэксты вяртэпнага дзейства" і інш.) былі прадстаўлены ў Акадэмію навук на атрыманне прэміі П. М. Бацюшкава. Карскі даў ім высокую ацэнку. Працы былі ўдастоены прэміі (28 снежня 1902 г.), аднак "з-за адсутнасці сродкаў" прэміяльная сума аўтару не была выдадзена.

Напярэдадні і ў гады рэвалюцыі 1905—1907 гг. Е. Р. Раманаў за прагрэсіўныя погляды падвяргаецца праследаванню з боку царскіх улад. У 1903 г. яго звальняюць з пасады рэдактара неафіцыйнай часткі "Могилевских губернских ведомостей", а ў 1906 г. — з пасады інспектара народных вучылішчаў Магілёўскай губерні.

У 1906 г. Раманаў пакідае Магілёў і пераязджае ў Вільню. Мясцовая навуковая грамадскасць цёпла праводзіла яго. "Могилевский вестник" змясціў артыкул "Да ад'езду з Магілёва Е. Р. Раманава", у якім ён характарызуецца "чалавекам вялікага таленту, кіпучай энергіі і непахіснай волі". "Гэта імя павінна быць асабліва дорага магілёўцам таму, што Е. Р. Раманаў лепшыя свае сілы аддаў роднай губерні і пры сваёй здзіўляючай энергіі зрабіў для яе так многа, як ніхто іншы"[34].

Віленскі перыяд жыцця і дзейнасці Раманава працякаў у абстаноўцы, калі царызм пасля крывавай расправы з рэвалюцыяй 1905 г. перайшоў у наступленне на правы працоўных. Царызм помсціў не толькі сваім адкрытым ворагам, але і тым, хто прама ці ўскосна садзейнічаў разгортванню рэвалюцыйнага руху.

Еўдакім Раманавіч Раманаў апынуўся ў цяжкім становішчы. Пасада члена Камісіі па стварэнню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея, на якую ён уладкаваўся, яго не задавальняла. У сувязі з гэтым Раманаў пісаў Карскаму: "Прагнаны з ганьбай са службы ганебным Вольфам і Фляроўскім, я сяк-так, служачы па найму ў бібліятэцы, перабіваючыся з хлеба на квас і з квасу на ваду, зусім забыты. Прычына да звальнення — неабходнасць стварыць у Вільні абласны этнаграфічны музей. Але потым і музей быў забыты, і я асуджаны на галаданне і павінен зарабляць сабе і дзецям сродкі... парадковай платай за газетныя карэспандэнцыі"[35].

Аднак, нягледзячы на цяжкім умовы працы, Раманаў разгортвае актыўную дзейнасць па стварэнню ў Вільні этнаграфічнага музея. У пісьме на імя папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі ён выкладае асноўныя прынцыпы, якія павінны быць пакладзены ў аснову стварэння музея, і прад'яўляе свае патра-

---

[33] Известия ОРЯС Академии наук. СПб., 1897. Т. II, кн. 2. С. 563—565.

[34] Могилевский вестник. 1906. № 139.

[35] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 124, л. 18—19.

баванні для паспяховага завяршэння справы.

Е. Раманаў правёў рад мерапрыемстваў па збіранню этнаграфічных экспанатаў для музея. Аднак падрыхтоўчая работа па распараджэнню фон Вольфа была спынена, і пра музей хутка забыліся.

Пазней, у студзені 1910 г., у Вільні быў адкрыты царкоўна-археалагічны музей. У “Записках Северо-Западного отдела Русского географического общества” адзначалася, што душой музея з'яўляўся першы яго хавальнік Е. Р. Раманаў. Па яго планах і пад яго наглядам зроблена музейная мэбля. Першыя і наступныя паступленні ў музей былі ад яго самога.

З аднаўленнем дзейнасці Паўночна-Заходняга аддзела Раманаў друкуе артыкул “Вільна” (1910), у якім расказвае аб гісторыі першага перыяду існавання Паўночна-Заходняга аддзела (1867—1876). Абвінавачваючы царскія ўлады ў спыненні ў канцы 70-х гадоў XIX ст. дзейнасці Аддзела, Раманаў крытыкуе ўрадавы цыркуляр, які пагражаў “найстражэйшымі спагнаннямі” служачым, што займаюцца навуковай і літаратурнай дзейнасцю ў Беларусі. “Зразумела, што пры такіх настроях мясцовых вышэйшых улад, — зазначае Раманаў, — усякая літаратурная работа ў існуючых таварыствах павінна была спыніцца, а самі таварыствы павінны былі закрыцца. Гэта здарылася і з Паўночна-Заходнім аддзелам Геаграфічнага таварыства”[36].

Раманаў прыняў вялікі ўдзел у аднаўленні Паўночна-Заходняга аддзела. Ён заклікаў “асоб, якія блізка стаяць да народа і ведаюць яго быт”, дапамагаць у рабоце Аддзела па вывучэнню Беларусі. На першым пасяджэнні (16 студзеня 1910 г.) Раманаў быў абраны членам савета Аддзела і старшынёй секцыі этнаграфіі і археалогіі; на далейшых пасяджэннях ён уводзіцца ў Камісію па стварэнню органа друку Аддзела (13 лютага 1910 г.) і ў Камісію па перагляду праграмы для збірання звестак па этнаграфіі, сельскай гаспадарцы і прамысловасці (26 красавіка 1910 г.).

Па даручэнню Аддзела Раманаў зрабіў дзве экспедыцыі ў Гродзенскую губерню для праверкі перададзеных яму для выдання этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў, якія ўвайшлі пазней у “Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні”. Акрамя таго, ён выязджаў у м. Здзітаў для абследавання археалагічных знаходак, у Віленскі павет для агляду царкоўна-археалагічных старажытнасцей і ў в. Камена Вілейскага павета для апісання і фатаграфавання каменя-пісанкі. Вынікі экспедыцыі былі апублікаваны ў яго працах “Вілейскі камень” (1911), “Па Гродзенскаму Палессю” (1911), “Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні” (1911—1912) і інш.

Матэрыяльныя цяжкасці прымусілі Е. Раманава пакінуць Вільню. У верасні 1910 г. ён дабіваецца назначэння на пасаду інспектара народных вучылішчаў у Петракоўскую губерню Варшаўскай вучэбнай акругі і пераязджае ў г. Петракоў. “З сумам у сэрцы, — пісаў ён А. А. Шахматаву, — я пакінуў сваю шматпакутную радзіму, якой служыў бесперапынна з 1872 г. Прычынай была тая здзіўляючая бяздушнасць, з якой упраўленне Віленскай вучэбнай акругі трымала мяне апошнія чатыры гады на 80 рублях месячнага жалавання, ведаючы, што ў мяне вучацца студэнт, курсістка і дзве гімназісткі”[37].

На новай пасадзе Раманаву не давялося доўга працаваць, ён цяжка захварэў (кровазліццё ў мозг з паралічам ног).

[36] Витебские губернские ведомости. 1910. № 17.

[37] Архіў РАН, ф. 134, воп. 3, спр. 1208, л. 6—7.

У верасні 1911 г. ён вярнуўся ў Вільню і заняў сваю ранейшую пасаду члена Часовай камісіі па стварэнню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея.

У сувязі з хваробай Раманаў напісаў заяву ў Аддзел РГТ, у якой адмаўляўся ад пасады старшыні секцыі археалогіі і этнаграфіі Паўночна-Заходняга аддзела. Але ён не спыняе сваёй навуковай работы: рыхтуе да выдання VIII і IX выпускі "Беларускага зборніка", "Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні" і іншыя працы.

Цяжкае матэрыяльнае становішча прымусіла Раманава хадайнічаць перад міністэрствам фінансаў аб павелічэнні пенсіі. Аднак міністр фінансаў адмовіў яму. З гэтай прычыны Раманаў пісаў А. А. Шахматаву: "Расійская бюракратыя яшчэ не дарасла да разумення і ацэнкі заслуг тых правінцыяльных фанатыкаў навукі, якія ў самым літаральным сэнсе ахвяруюць жыццём ў імя яе інтарэсаў. Ім патрэбна "служба!"[38] У гэты цяжкі перыяд жыцця Рускае геаграфічнае таварыства аказвае яму матэрыяльную дапамогу. Па ініцыятыве А. А. Шахматава ў 1911 г. Е. Раманаў узнагароджваецца Вялікім залатым медалём Аддзялення этнаграфіі за працы аб беларусах і Беларусі.

У віленскі перыяд Раманаў надрукаваў 34 працы па этнаграфіі, фальклору, археалогіі і гісторыі Беларусі; сярод іх асабліва вызначаюцца фальклорна-этнаграфічныя: "Беларускі зборнік" (вып. VII—IX), "Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні" (вып. I—II), "Знікаючы інструмент", "Старадаўнія рускія прыказкі па зборніку XVIII стагоддзя" і інш.

Выпуск VII "Беларускага зборніка" (1910) быў першым буйным зборнікам беларускага музычнага фальклору. Ён змяшчае 41 песню і 12 танцавальных прыпевак з нотамі. Выданне беларускіх народных мелодый было даўняй марай Е. Раманава. Хоць спробы збірання і выдання запісаў мелодый рабіліся і раней, ажыццявіць свой намер Раманаў змог толькі пасля сустрэчы з выкладчыкам спеваў у віленскіх навучальных установах М. М. Чуркіным. Запісаныя Чуркіным мелодыі да тэкстаў песень, сабраных Раманавым, былі апублікаваны ў гэтым выпуску. Супрацоўніцтва з Раманавым павялічыла цікавасць Чуркіна да беларускай народнай песні, збіранню якой ён прысвяціў доўгія гады свайго жыцця.

Найбольш багаты этнаграфічным матэрыялам VIII выпуск "Беларускага зборніка". У ім змешчаны апісанні быту, матэрыяльнай культуры, абрадаў і вераванняў беларусаў. Матэрыялы такога характару неаднаразова публікаваліся і раней іншымі беларускімі этнографамі, напрыклад Нікіфароўскім, Шэйнам і інш. Аднак гэты выпуск адрозніваецца ад аналагічных прац сваёй кампактнасцю і больш строгай сістэматызацыяй матэрыялаў. Ён уключае пяць раздзелаў: "Знешні быт беларуса" (жыллё, адзенне, сродкі перамяшчэння, ежа, заняткі), "Народны каляндар", "Народныя вераванні", "Сямейны быт", "Гульні і забавы".

Першы раздзел спачатку быў надрукаваны ў выглядзе артыкула "Знешні быт быхаўскага беларуса"[39], а затым у некалькі змененым і дапоўненым выглядзе ўвайшоў у VIII выпуск "Беларускага зборніка". Раманаў звяртае ўвагу чытача на тое, што патрыярхальны дагэтуль быт беларуса з неймавернай хуткасцю пачаў паддавацца зменам. Прычыну гэтага ён правільна бачыць у развіцці таварна-грашовых адносін. "Гэта акалічнасць, — працягвае даследчык, — аба-

[38] Архіў РАН, ф. 134, воп. 3, спр. 1208, л. 11.

[39] Записки Северо-Западного отдела РГО. 1911. Кн. 2. С. 75—141.

вязвае этнографаў спяшацца з апісаннем народнага быту, знікаючага ўкладу, пакуль ніверіруючая рука часу яшчэ не канчаткова згладзіла ўсе асаблівасці народнага жыцця"[40].

Характарыстыку "знешняга быту" беларуса Раманаў пачынае з разгляду жылля. Намаляваўшы агульную карціну беларускай вёскі Быхаўскага павета, ён апісвае сялянскую хату, тэхніку яе пабудовы, канструкцыю, дае назвы яе асобных частак — печы, вокан, дзвярэй, падлогі, столі і г. д., характарызуе знешні выгляд хаты, хатняга начыння і прылад працы. Асобна спыняецца на планіроўцы сялянскага двара, гаспадарчых і падсобных пабудоў (асеці, лазні, свірна, хлява, павеці, склепа, млына, суквавальні, загарадак і г. д.).

Пры апісанні жылля Раманаў падкрэслівае класавую дыферэнцыяцыю сялянства. Хоць у самой "будове жылля асаблівага адрознення паміж багатымі і беднымі тут не існуе", аднак маёмасная няроўнасць праяўляецца ў размерах і добраўпарадкаванасці жылля. Так, хата заможнага селяніна лепшая і большая памерам, а "некаторыя заможныя гаспадары замест адной сялянскай хаты робяць дзве, прычым гэтыя хаты злучаюцца або халоднымі сенцамі, або непасрэдна". Дамы заможных сялян мелі цагляную печ з дымаходам, драўляную падлогу, аканіцы на вокнах, у той час як у беднякоў хаты часта яшчэ былі курнымі, з земляной падлогай, глінабітнай печчу.

Апісанне адзення дадзена сцісла, але акрэслена і ясна. Асобна разглядаюцца адзенне дзяцей і дарослых, мужчын і жанчын, упрыгожанні, абутак, галаўныя ўборы. Тут жа дадзена апісанне апрацоўкі лёну, канапель і воўны, вырабу сукна.

Раманаў адзначае ўплыў капіталістычнага горада на змяненне традыцыйнага адзення беларусаў. У пачатку XX ст. у вёсках, размешчаных недалёка ад горада, прыкметна мяняецца святочнае адзенне. Яно шыецца з пакупной тканіны і часта па гарадскому пакрою. Разам з тым у працы падкрэсліваецца, што адзенне сялян розных раёнаў Беларусі адрозніваецца колерам і ўзорамі ўпрыгожанняў. "Гледзячы па ўзорах абшыўкі, — піша ён, — знаўца можа амаль дакладна ўгадваць, з якой мясцовасці паходзіць той ці іншы беларус, хоць бы сустрэць яго давялося і не ў беларускай губерні".

Больш падрабязна характарызуецца ежа беларусаў — будзённая, святочная і абрадавая (посная і скаромная). Пры гэтым Раманаў паказвае розніцу ў меню беднаты і заможнай часткі сялянства. Беднякам даводзілася, асабліва ў неўраджайныя гады, есці хлеб, у якім мукі было мала, але затое ў вялікай колькасці дабаўляліся вотруб'е, мякіна, тоўчаныя жалуды, лісце лебяды, ліпы, маладой папараці і інш.

У першым раздзеле змешчаны таксама матэрыял, які датычыць вытворчай дзейнасці сялян: жывёлагадоўлі, земляробства і саматужных промыслаў. Найбольшую каштоўнасць маюць апісанні земляробчых прылад, спосабаў стагавання сена, укладкі снапоў і г. д. Значнае месца адводзіцца розным прыкметам і заклінанням у пачатку гэтых работ і ў іншых выпадках вытворчай дзейнасці сялян. Даволі поўна характарызуецца рыбалоўны промысел. Указаны спосабы і час лоўлі рыбы, апісаны розныя рыбалоўныя прылады. Пры разглядзе пчалярства асаблівая ўвага ўдзяляецца найбольш старадаўняму яго віду — бортніцтву.

Раздзел "Знешні быт беларуса" заканчваецца апісаннем народных мер вагі, даўжыні і лічэння. Каштоўны ён тым,

[40] Романов Е. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. VIII. С. 3.

што тут сабраны і абагульнены вялікі матэрыял, які ўсебакова характарызуе матэрыяльны і вытворчы быт беларусаў. Гэта сведчыць аб глыбокім веданні Раманавым не толькі духоўнай, але і матэрыяльнай культуры беларусаў, якой большасць дарэвалюцыйных этнографаў аддавалі вельмі мала ўвагі.

Другі раздзел VIII выпуска "Беларускага зборніка" прысвечаны народнаму календару. У храналагічным парадку тут падрабязна апісваецца правядзенне народных каляндарных свят і абрадаў, такіх, як Масленіца, Гуканне вясны, Вялікдзень, Радаўніца, Юр'я, Сёмуха, Купалле, Провады русалкі, кумаванне і г. д., і падаюцца тэксты песень да іх (звыш 570). У раздзеле ёсць шмат каштоўных звестак аб светапоглядзе народа, яго рэлігійных уяўленнях.

Блізкі па зместу да другога раздзела трэці ("Народныя вераванні"), прысвечаны поглядам народа на прыроду, міфалагічным прадстаўленням, прыкметам і забабонам. Матэрыялы гэтага раздзела паказваюць цемру і адсталасць беларускага сялянства таго часу, што з'явілася вынікам цяжкага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту і нізкага ўзроўню адукацыі. "З болем душэўным за беларускі народ, — пісаў Раманаў, — прыходзіцца чытаць гэты нарыс, але не народ тут вінаваты"[41].

У чацвёртым раздзеле даецца апісанне сямейнага быту, галоўным чынам, абрадаў — радзінных, хрысцінных, вясельных, пахавальных і памінальных — з песеннымі тэкстамі і галашэннямі. Асноўнае месца адведзена вясельнаму абраду, якому аўтар надаваў асаблівае значэнне пры характарыстыцы сямейнага быту беларусаў: "Хто прысутнічаў на народным вяселлі ва ўсіх яго складаных архаічных падрабязнасцях, той з такім жа правам можа сказаць, што кожнае народнае вяселле ёсць своеасаблівая опера"[42].

Пяты, апошні, раздзел VIII выпуску "Беларускага зборніка" ўключае апісанні гульняў і забаў беларускіх дзяцей. Тут змешчаны апісанні 70 дзіцячых гульняў і забаў і некаторых цацак. Гульні запісаны галоўным чынам ад вучняў школ, а таксама па асабістых успамінах аўтара. Дзіцячыя гульні і забавы Раманаў падзяляе на інтэлектуальныя і фізічныя. Адны з іх развіваюць у дзяцей назіральнасць, кемлівасць, удумлівасць, знаходлівасць, вытрымку, пачуццё справядлівасці і г. д., другія — сілу, лоўкасць, спрытнасць, вастрыню зроку і слыху.

Характарызуючы гульні з этнаграфічнага боку, даследчык адзначае, што як па прадмету і зместу, так і па знешніх прыкметах вясковыя гульні блізка сутыкаюцца з бытам сельскіх жыхароў і з іх хатняй абстаноўкай... Некаторыя гульні — рэшткі глыбокай старыны, калі яны злучаліся з пэўнымі абрадамі культу, прыстасоўваючыся да святкаванняў, пор года і інш. Раманаў спачувае бедняку, дзеці якога часта пазбаўлены радасці гульняў і забаў, бо ўжо з пяцігадовага ўзросту іх прымушаюць дапамагаць па гаспадарцы.

VIII выпуск "Беларускага зборніка" Е. Раманава змяшчае багаты і шматгранны матэрыял па быту і культуры беларускага народа. У ім асветлены такія бакі жыцця народа, якія найбольш ярка адлюстроўваюць яго этнічнае аблічча на рубяжы XIX і XX стст. У гэтых адносінах VIII выпуску належыць адно з першых месц у этнаграфічнай літаратуры дарэвалюцыйнай Беларусі.

IX выпуск уключае матэрыялы ўмоўных (тайных) гаворак, якія бытавалі на Беларусі. Гэта першая праца, у якой

---

[41] Романов Е. Белорусский сборник. Вып. VIII. С. VI.

[42] Там жа.

зведзены ў адно месца ўмоўныя гаворкі беларускіх рамеснікаў і жабракоў.

Вялікі і разнастайны матэрыял, які характарызуе розныя бакі быту і народную творчасць беларусаў, змешчаны ў I—II выпусках "Матэрыялаў па этнаграфіі Гродзенскай губерні" (1911—1912). Асноўныя матэрыялы для гэтай працы былі сабраны настаўнікамі і вучнямі Гродзенскай губерні ў 1904—1909 гг. і захоўваліся ў настаўніка Р. Рамановіча, які ў 1909 г. перадаў іх папячыцелю Віленскай вучэбнай акругі. У 1910 г. Раманаву было даручана рэдагаванне і выданне гэтых матэрыялаў. У працэсе падрыхтоўкі іх да друку яму прыйшлося прарабіць значную даследчую работу. Раманаў некалькі разоў выязджаў у Гродзенскую губерню для зверкі і дапаўнення наяўных матэрыялаў. Да атрыманых ён далучыў свае запісы, зробленыя яшчэ ў 1894 г. у час службы ў гэтай губерні.

Да I выпуску "Матэрыялаў..." Раманавым напісаны грунтоўны гісторыка-этнаграфічны нарыс, які ўключае наступныя раздзелы: I. Геаграфічны агляд Гродзенскай губерні; II. Гістарычны агляд; III. Насельніцтва; IV. Этнаграфічныя граніцы; V. Знешні быт насельніцтва; VI. Жыллё; VII. Адзенне; VIII. Ежа; IX. Заняткі; X. Сям'я; XI—XIII. Вераванні, забабоны, прыкметы.

У I—V раздзелах побач з геаграфічным і гістарычным аглядам губерні аўтар паказвае, што вызначыць этнаграфічныя межы Гродзенскай губерні цяжка з-за этнічнай стракатасці насельніцтва. Гэта тлумачыцца размяшчэннем яе на стыку Беларусі, Украіны і Польшчы. Раманаў уносіць папраўкі ў этнаграфічную карту Беларусі, складзеную Карскім, які ўстанавіў этнаграфічныя межы на падставе сваіх маршрутных экспедыцый. Ён падкрэслівае, што, каб устанавіць тут дакладныя этнаграфічныя межы і таксама беспамылкова вызначыць старажытны карэнны склад і ступень уплыву пазнейшых насельнікаў, трэба пражыць у дадзенай мясцовасці працяглы час, вывучыць да дробязей быт і мову насельніцтва[43].




46. Тытульны ліст кнігі Е. Р. Раманава

Далей Раманаў характарызуе цяжкае становішча сялян губерні ў перыяд прыгону. Сяляне, за рэдкім выключэннем, яшчэ ў 60-х гадах жылі ў курных хатах, нават у паветах з параўнальна высокай ураджайнасцю (Бельскім, Кобрынскім, Пружанскім). "Хлеба свайго ў большасці выпадкаў не хапала, насельніцтва харчавалася мякінным хлебам з прымессю льняной макухі, бульбы і да т. п. сурагатаў". Мала было коней, у сельскай

[43] Гл.: Романов Е. Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вильна, 1911. С. 10. Вып. I.

гаспадарцы панавалі прымітыўныя прылады, амаль зусім не была развіта прамысловасць. Яшчэ ў 70-х гадах "нярэдкія былі цэлыя воласці, дзе не было ніводнага млына. Сяляне малолі свой хлеб выключна на ручных жорнах, якія былі ў кожнай хаце".

Асаблівае значэнне маюць VI—XIII раздзелы I выпуску "Матэрыялаў...", дзе змешчаны канкрэтныя звесткі па матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. У іх характарызуецца планіроўка сялянскага двара, жылых і гаспадарчых пабудоў у розных этнаграфічных раёнах. Матэрыялы па жыллю даюць уяўленне аб гісторыі яго развіцця, аб зменах планіроўкі двара, будаўнічай тэхнікі і аб маёмаснай няроўнасці сялян. Раздзелы змяшчаюць таксама каштоўныя звесткі аб адзенні і ежы, апісанні заняткаў сялян і некаторых саматужных промыслаў, характарыстыку ўнутрысямейных адносін, абавязкаў членаў сям'і, падзелу працы.

Вялікае месца ў I выпуску "Матэрыялаў..." адводзіцца духоўнай культуры сялян Гродзенскай губерні, асабліва старадаўнім рэлігійным уяўленням (XI—XIII раздзелы). Тут мы знаходзім цікавыя звесткі аб народным календары, абрадах, вераваннях, забабонах і інш.

Астатняя частка I выпуску і ўвесь II выпуск "Матэрыялаў..." прысвечаны народнай творчасці: прыказкам і прымаўкам, загадкам, абрадавым песням — калядным, велікодным, вясеннім, юр'еўскім, купальскім, сенакосным, зажыначным, жніўным, дажыначным, хрысцінным і вясельным. Да кожнай катэгорыі абрадавых песень дадзена кароткае апісанне абраду. Асноўнае месца займаюць вясельныя песні з больш падрабязнымі апісаннямі абрадаў. Усяго ў I—II выпусках змешчана 1527 фальклорных твораў.

Гэта праца атрымала высокую ацэнку навуковай грамадскасці і перыядычнага друку. "Заслугоўваючымі ўвагі вучоных" прызнаны "Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні" Я. Ф. Карскім. У сваю чаргу "Исторический вестник", адзначаючы багацце этнаграфічных матэрыялаў у новай працы Раманава, пісаў: "Матэрыял адрэгаваны вядомым беларускім этнографам Е. Раманавым, які даў рускай навуцы некалькі тамоў у вышэйшай ступені каштоўных матэрыялаў па Беларусі"[44].

Сярод прац па археалогіі, надрукаваных Раманавым у віленскі перыяд, трэба адзначыць наступныя: "Старына дагістарычная Паўночна-Заходняга краю" (1908), "Кароткія ўказанні для правядзення археалагічных экскурсій сярэднімі навучальнымі ўстановамі Віленскай вучэбнай акругі" (1909), "Археалагічны нарыс Гомельскага павета" (1910), "Па Гродзенскаму Палессю", "Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай губерні" (1912). Пералічаныя працы даюць багатыя звесткі па археалогіі Беларусі, ёсць у іх і этнаграфічныя матэрыялы.

У віленскі перыяд Раманаў праяўляе вялікія клопаты аб далейшым этнаграфічным вывучэнні Беларусі. Яго цікавяць у першую чаргу пытанні арганізацыі вывучэння. Маюць цікавасць два пісьмы Раманава — папячыцелю Віленскай вучэбнай акругі аб конкурснай праграме і прэміях за навуковыя даследаванні Беларусі і членам Беларускага навукова-літаратурнага гуртка Санкт-Пецярбургскага універсітэта (1912). У першым Раманаў прапануе расшырыць праграму конкурсу, маючы на ўвазе і тую акалічнасць, што ў Беларусі цэлыя галіны культуры не толькі не вывучаны, але і не закрануты. Адбылося гэта выключна па матэрыяльнай незабяспечанасці нашых вучоных. "Вазьміце, напрыклад, народныя мелодыі. Тут бездань нявывучаных фактаў першаступеннай

[44] Исторический вестник. 1912. № 9. С. 1085.

важнасці для сусветнай навукі... Затым наша заходнерускае мастацтва ў самым шырокім сэнсе: архітэктура нашых драўляных храмаў, жывапіс свецкі і царкоўны, наша разная арнаментыка — у будынках, рэчах, прыладах, посудзе, экіпажах і да т. п., арнамент тканін — ручнікі, абрусы, набожнікі і да т. п., арнаментыка рукапісаў — віньеткі, застаўкі, лінейкі або, нарэшце, нашы царкоўныя старажытнасці. Усё гэта мае свой уласны стыль, але ўсё гэта зусім не закранута, шмат чаго нават у стадыі збірання"[45].

Пісьмо Беларускаму навукова-літаратурнаму гуртку Санкт-Пецярбургскага універсітэта было адказам на прысланыя Раманаву віншаванні і просьбу параіць, з чаго пачынаць вывучэнне Беларусі. Раманаў вітае студэнтаў, якія выказалі жаданне прысвяціць сябе вывучэнню роднага краю.

Ён пасылае студэнтам разгорнутую праграму вывучэння Беларусі, дзе ў першую чаргу прапануе заняцца збіраннем фальклору — "твораў душы роднага народа". Далей змяшчае пералік мала або зусім нявывучаных бакоў культуры свайго народа: "Паспрабуйце скласці навукова-сістэматычны ўказальнік да беларускіх выданняў твораў народнай славеснасці; зрабіце звод матываў народных казак; вельмі мала і вельмі дрэнна запісаны нашы мелодыі: бярыце фанографы і запісвайце. Вызначце межы нашых гаворак, хоць бы буйнейшых. Тут патрэбны іменна намаганні многіх людзей, таму што беларуская мова драбніцца на мноства рэк, рэчак, ручайкоў, крынічак. Збірайце матэрыялы для слоўніка, якога ў нас яшчэ няма, для гістарычнай тапаграфіі краіны... каб зменшыць пыл вялікіх вучоных, якія адбіраюць у беларусаў ледзь не палавіну слоў і аддаюць іх літоўцам, латышам, палякам, нават фінам. Нічога не зроблена ў нас па вывучэнню нашага найстаражытнага арнаменту ў шырокім сэнсе. Не пачата вывучэнне нашага звычаёвага права. Вазьміце кнігі рашэнняў валасных судоў за 60—70-я гады, калі пісары яшчэ не мудрагелілі, і сістэматызуйце рашэнні. Пры гэтым само па сабе і вырашыцца пытанне аб "літоўскім" (?) статуце"[46].

Е. Раманаў папярэджвае маладое пакаленне вучоных, каб яно не абмяжоўвалася толькі акадэмічным бокам справы, а выступала "на абарону роднага народа": "Працуйце і ў securityнамічнай галіне. Ратуючы народ ад эканамічнай залежнасці, ад яго ворагаў, вы выратуеце яго і ад духоўнага прыгнёту"[47]. Аднак вызваленне народа ад эканамічнай залежнасці ён бачыць у арганізацыі кааператываў, кас узаемадапамогі, устаноў дробнага крэдыту і г. д. у рамках існуючага ладу.

Класавая абмежаванасць Раманава, неразуменне законаў гістарычнага развіцця чалавечага грамадства прывялі яго да глыбока памылковых поглядаў на новы, перадавы клас грамадства — пралетарыят. Адсюль вынікаюць яго рэзка адмоўныя адносіны да творчасці "фабрыкі, казармы, горада, адыходных промыслаў", якую ён называе пошлай, разбэшчваючай народ і ад якой засцерагае студэнтаў у сваім пісьме.

У 1913 г., спрабуючы знайсці сродкі для выдання сваіх прац, Раманаў прадстаўляе ў Акадэмію навук на адшуканне навуковай прэміі наступныя працы: "Беларускі зборнік" (вып. VI), "Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні" (вып. I—II), "Варкалабаўскі летапіс", "Знікаючы інструмент", "Старына дагістары-

[45] Фундаментальная бібліятэка АН Літвы, рукапісны аддзел, В-487, л. 9.

[46] Белорусский научно-литературный кружок студентов С.-Петербургского университета. С. 13.

[47] Там жа. С. 14.

чная Паўночна-Заходняга краю", "Барысаў камень у в. Высокім Гарадку Сенненскага павета Магілёўскай губерні", "Да археалогіі Паўночна-Заходняга краю Расіі", "Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай губерні", "Археалагічны нарыс Гомельскага павета", "Кароткія ўказанні для правядзення археалагічных экскурсій сярэднімі навучальнымі ўстановамі Віленскай вучэбнай акругі", "Святкаванне двухсотгоддзя перамогі Пятра над шведамі пры в. Лясной 28 верасня (1708—1908)", "Бой пры Лясной 28 верасня 1708 г." і інш.

Разгляд гэтых прац быў даручаны А. Шахматаву. "Вялікія заслугі Е. Р. Раманава ў галіне археалогіі і этнаграфіі, — пісаў ён, — яго шматгадовая праца па збіранню беларускага фальклору ў сувязі з той значнай навуковай цікавасцю, якую прадстаўляюць апошнія яго працы, што паступілі на конкурс, прымушаюць рэцэнзента хадатайнічаць аб узнагароджанні Е. Р. Раманава адной з Макар'еўскіх прэмій"[48]. Аднак і на гэты раз прэмію Раманаў не атрымаў. Царызму патрэбны былі не навуковыя працы, а літаратура, якая дапамагала б падаўляць узрастаючы рэвалюцыйны рух народаў Расіі. Для Раманава, у якога не было сродкаў надрукаваць X выпуск "Беларускага зборніка", гэта было вялікай нечаканасцю. "Гэта для мяне страшэнны ўдар, — пісаў ён Шахматаву. — Але ці ж мне, самавуку, прывыкаць да ўдараў? Праф. Венгераў прасіў мяне напісаць маю біяграфію для яго слоўніка. Я накідаў толькі схему, і яна заняла каля 60 старонак. Вядома, я не паслаў яе Венгераву, але яна прымусіла мяне задумацца над сваім жыццём, і я з жахам убачыў, што ўсё яно амаль скразны ланцуг удараў, уніжэнняў, здзекаў"[49].

Наступіў апошні (1915—1922) перыяд жыцця і дзейнасці Е. Р. Раманава. Вялікія цяжкасці давялося яму перажыць у сувязі з першай сусветнай вайной. У лістападзе 1914 г. у яго адбылося паўторнае кровазліццё ў мозг, у выніку чаго была паралізавана левая палова цела. Цяжкахворага Раманава перавезлі ў Магілёў. Але ў хуткім часе, крыху паправіўшыся, ён зноў пераехаў у Вільню і заняў ранейшую пасаду. Раманаў пачаў дабівацца дапамогі ад Акадэміі навук, каб паехаць лячыцца ў Пяцігорск. Аднак становішча на фронце прымусіла яго разам са штатам Віленскай бібліятэкі эвакуіравацца ў 1915 г. у Магілёў, затым у Адэсу, куды пераехала і кіраўніцтва Таварыства па вывучэнню Магілёўскай губерні, намеснікам старшыні якога быў Раманаў. У Адэсе выйшла яго праца "Першакрыніцы для гісторыі Магілёўскага краю" (вып. 1, 1916), якая ўключала "Варкалабаўскі летапіс" і "Падарожныя заметкі стольніка П. А. Талстога аб Магілёўскай губерні (1697—1699)". Тут жа вучоны падрыхтаваў да друку даследаванне "Вопыт характарыстыкі Магілёва і яго насельнікаў у канцы XVI стагоддзя (па актах Магілёўскага магістрата 1578—1580 гг.)"[50]. Гэту працу ён збіраўся апублікаваць у чарговым выпуску "Магілёўскай старыны". Аднак яна засталася нявыдадзенай.

У Адэсе Раманава спасцігла новая непрыемнасць. У пачатку 1916 г. яго звольнілі з пасады члена Камісіі па стварэнню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея. Апынуўшыся ў выключна цяжкім матэрыяльным становішчы, Е. Раманаў летам 1916 г. пераязджае ў Віцебск і

---

[48] Отчет о пятнадцатом присуждении Академией наук премий митрополита Макария в 1913 году. Пг., 1915. С. 63.

[49] Архіў РАН, ф. 134, воп. 3, спр. 1308, л. 19—20.

[50] Там жа, л. 25—26.

спрабуе знайсці там работу, але дарэмна. Некаторую маральную падтрымку аказала яму віцебская навуковая грамадскасць, абраўшы старшынёй Віцебскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага таварыства. Тут Раманаў рыхтуе да друку X выпуск "Беларускага зборніка", у які ён уключыў 157 тэкстаў бытавых казак, нягледзячы на тое, што да гэтага віду казак не меў асаблівых сімпатый.

Ваенная абстаноўка прымушае Раманава ў сакавіку 1917 г. зноў пераехаць у Магілёў. Дзякуючы клопатам Шахматава ён атрымлівае прызначэнне наранейшую пасаду члена Камісіі па стварэнню Віленскай публічнай бібліятэкі і музея з прыкамандзіраваннем да бібліятэкі Акадэміі навук. Да яго паступаюць новыя матэрыялы па этнаграфіі і фальклору Беларусі ад былога яго супрацоўніка К. Т. Анікіевіча, і Раманаў пачынае апрацоўваць іх, аднак набліжэнне фронта вымушае яго эвакуіравацца. Дзякуючы Шахматаву Раманаў атрымлівае камандзіроўку ад Акадэміі навук на Паўночны Каўказ "для этнаграфічных даследаванняў" і ў кастрычніку 1917 г. пераязджае ў Стаўрапаль. Тут яго і заспела Кастрычніцкая рэвалюцыя. Раманаў застаўся ў баку ад рэвалюцыйных падзей. Сваіх адносін да рэвалюцыі ён не выказаў і ў апошніх сваіх працах. З урыўкавых яго заўваг можа бачыць, што ён не зразумеў гэтых падзей. Памёр Е. Р. Раманаў 20 студзеня 1922 г. у Стаўрапалі.

Е. Р. Раманаў быў не толькі выдатным збіральнікам і выдаўцом вуснапаэтычных твораў і даследчыкам быту беларускага народа, але калекцыянерам і стваральнікам музеяў этнаграфіі і археалогіі Беларусі. Зараз у радзе айчынных і замежных музеяў захоўваюцца археалагічныя і этнаграфічныя калекцыі Раманава. Так, у Эрмітажы ў С.-Пецярбургу знаходзіцца 1017 прадметаў з Люцынскага і іншых могільнікаў, раскапаных Раманавым. У Музеі антрапалогіі і этнаграфіі АН Расіі ў С.-Пецярбургу ёсць 1007 прадметаў з даследаваных Раманавым могільнікаў і курганоў каля вёсак Рэлінгі, Маслабоева і Ясмуйта Дзвінскага павета Віцебскай губерні. У Гісторыка-этнаграфічным музеі Акадэміі навук Літвы налічваецца 242 археалагічных прадметы з раскопак у Люцыне, Дзвінску і іншых месцах. Ён з'яўляецца заснавальнікам трох гісторыка-этнаграфічных музеяў — Віцебскага, Магілёўскага і Віленскага.

Асабліва важным для этнаграфічнага вывучэння Беларусі быў удзел Раманава ў стварэнні Этнаграфічнага аддзела пры Рускім музеі ў С.-Пецярбургу. Яму было даручана таксама дасылаць у музей этнаграфічныя матэрыялы па Беларусі.

У Рускі музей Раманаў перадаў больш 1100 этнаграфічных прадметаў. Пераважная большасць экспанатаў была ў арыгіналах. Толькі жыллё, гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы, некаторыя прылады працы, транспартныя сродкі і рыбалоўныя прылады музей атрымаў у мадэлях. На жаль, мадэлі не захаваліся. Да наяўных прадметаў ёсць апісанні, зробленыя Раманавым, у большасці выпадкаў падрабязныя і грунтоўныя, якія маюць навуковую цікавасць.

Даследчыкі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа знойдуць у музейных калекцыях і апісаннях Раманава багатыя матэрыялы для вывучэння беларускага сялянскага жыцця, адзення, прадметаў хатняга начыння, ежы. Яны знойдуць таксама каштоўныя звесткі па сельскай гаспадарцы, промыслах, прыладах працы і, нарэшце, па духоўнай культуры беларусаў.

Такім чынам, калекцыйная і музейная работа Е. Раманава значна дапаўняе тую багатую спадчыну, якую ён пакінуў у выглядзе прац па этнаграфіі Беларусі.

Жыццё і навуковая дзейнасць выдатнага беларускага этнографа Еўдакіма Раманавіча Раманава ахоплівае вялікі і багаты падзеямі гістарычны перыяд. Бурнае развіццё капіталістычных адносін, працэс класавага расслаення вёскі, пераход капіталізму ў апошнюю яго стадыю — усё гэта з'явілася той глебай, на якой фарміраваўся светапогляд вучонага.

Е. Раманаў належыць да той часткі беларускай інтэлігенцыі, што выйшла з гушчы народа і, перажываючы матэрыяльныя нястачы, не змагла атрымаць адукацыю, нягледзячы на багатыя прыродныя дараванні. Не падпаўшы пад непасрэдны ўплыў рэвалюцыйных дэмакратаў, Раманаў у сваім разуменні сацыяльна-гістарычных працэсаў застаўся на пазіцыях ідэолага сялянскай беднаты. Бачачы сацыяльную несправядлівасць існуючага ладу і асуджаючы яго ў сваіх працах, вучоны, аднак, не здолеў узняцца да разумення неабходнасці звяржэння гэтага ладу рэвалюцыйным шляхам, а шукаў магчымасці паляпшэння становішча народа шляхам рэформ.

Больш перадавымі былі погляды Раманава на пытанні нацыянальнага развіцця Беларусі. Але і тут, рэзка выступаючы супраць палітыкі царызму ў адносінах да беларускага народа, называючы "пецярбургскую бюракратыю" "пераемніцай Кунцэвіча", ён нацыянальнае самавызначэнне Беларусі не звязваў з сацыяльным вызваленнем.

Аднак як выхадзец з народа і палымяны патрыёт сваёй Радзімы Е. Раманаў да канца жыцця шчыра любіў свой шматпакутны народ і яго гісторыю і горача выступаў у яго абарону.

Услед за М. А. Дабралюбавым, які ў 60-х гадах XIX ст. выступіў гарачым абаронцам беларускага народа ад нападкаў з боку ідэолагаў прыгоннікаў-памешчыкаў, Е. Раманаў у радзе сваіх прац 90-х гадоў XIX — пачатку XX ст. рэзка выступае супраць новых паклёпнікаў — буржуазных лакеяў царызму. Нібы адказваючы на словы Дабралюбава "паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы", Е. Раманаў у 1908 г. пісаў: "Я таксама не ідэалізую "мужычка", але я ведаю, што ён вынес шматвяковы духоўны і матэрыяльны прыгнёт іншаверцаў і іншапляменнікаў, значна больш цяжкі, чым татарскае ярмо. Я ведаю, што гэты прыгнёт не мог не адбіцца на душы беларуса. Але калі ён тым не менш здолеў пранесці праз усе пакуты і захаваць у чысціні сваё славянскае аблічча, і сваю праваслаўную веру, і сваю стараславянскую мову, і цудоўныя творы сваёй вуснай славеснасці, то найглыбейшай павагі заслугоўвае гэты стойкі народ, які падае багатыя надзеі"[51].

Е. Раманаў высока цаніў гістарычную ролю беларускага народа, параўноўваючы яго барацьбу з іншаземнымі захопнікамі з барацьбой рускага народа з татара-мангольскім нашэсцем. Сваёй навуковай дзейнасцю Е. Раманаў абвяргаў рэакцыйныя буржуазныя тэорыі і погляды на беларускі народ. Ён нястомна падкрэсліваў самабытнасць беларускай культуры і яе агульныя з рускай культурай гістарычныя вытокі. Вучоны ганарыўся тым, што, нягледзячы на шматвяковы панска-каталіцкі прыгнёт, беларускі народ не толькі захаваў сваю культуру, але і многа зрабіў для яе развіцця. Е. Раманаў падкрэсліваў, што нават тая нешматлікая частка беларусаў, якія, перайшоўшы ў каталіцтва, лічылі сябе "палякамі", не страціла свайго нацыянальнага аблічча. "...Варта толькі падзеям жыцця кранудь струны душы народнай, — піша ён, — і з глыбіні яе вырываюцца тысячы гукаў, тысячы песень, якія з'яўляюцца добрым сведчаннем, што здрада веры не змяніла народнага

[51] Витебские губернские ведомости. 1908. № 25.

аблічча і амаль не зрабіла ўплыву на народную душу"[52].

Буржуазныя нацыяналісты выставілі і абаранялі антынародную тэорыю "адзінага патоку", "бяскласавага" і "безбуржуазнага" складу беларускага народа. У супрацьлегласць гэтаму ў працах Е. Раманава выразна выступае класавая дыферэнцыяцыя беларускай вёскі эпохі капіталізму і гучыць заклік да абароны беднаты ад жорсткай эксплуатацыі з боку кулацтва і гарадской буржуазіі.

Працаваць, "каб адкрыць свету душу беларуса, абуджаць яго нацыянальную самасвядомасць", — у гэтым быў галоўны сэнс навуковай дзейнасці Е. Р. Раманава.

Прагрэсіўнай і дэмакратычнай з'яўляецца прапаганда Раманавым права беларускага народа на развіццё нацыянальнай культуры, мовы, навукі, літаратуры. Самастойнае культурнае развіццё беларускага народа ён разумеў толькі ва ўмовах цеснага яднання са старэйшым братам — вялікім рускім народам.

У беларускай навуцы Е. Раманаў выступае як самавук. Знаёмства з яго біяграфіяй дае магчымасць ахарактарызаваць яго як самародка, што выйшаў з глыбінь народа. Круг яго навуковых інтарэсаў быў вельмі шырокі. Этнаграфія, фальклор, археалогія, гісторыя і мова беларускага народа — усё гэта знайшло шырокае адлюстраванне ў яго працах. Навуковая дзейнасць Раманава адыграла вялікую ролю ў далейшым развіцці этнаграфічнай навукі ў нашай краіне. Пад уплывам Раманава ў беларускай этнаграфіі выступае цэлая плеяда даследчыкаў роднага краю. Сярод іх пастаянны яго супрацоўнік па "Беларускаму зборніку" К. Т. Анікіевіч, які пазней выступіў з самастойнай працай "Сенненскі павет Магілёўскай губерні"; П. Ф. Альхімовіч, які склаў фальклорна-этнаграфічную працу "Зборнік беларускіх легенд, былін і песень... Себежскага павета Віцебскай губерні" (рукапіс, 284 стар.)[53]. Збіраннем і выданнем беларускага фальклору пад уплывам Е. Раманава займаліся С. Малевіч[54], І. Бычко-Машко[55] і інш. Многія карэспандэнты Раманава працягвалі збіраць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы і пасля яго смерці. Так, Ануфрыеў высылаў матэрыялы ў Інстытут беларускай культуры к канцу 20-х гадоў.

Беларускі паэт Максім Багдановіч сваю паэму "Страцім-лебедзь" і камічную паэму "Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык" напісаў па матывах беларускіх народных казак і песень, змешчаных у зборніках Е. Раманава і П. Шэйна. Фальклорнымі зборнікамі Раманава карысталіся ў сваёй літаратурнай дзейнасці выдатныя беларускія паэты і пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва і інш.

Беларускія этнаграфічныя зборнікі Е. Раманава выклікалі вялікую цікавасць Максіма Горкага, які ў артыкуле "Аб казках" пісаў: "Праз год пятнаццаць-дваццаць (90-я гады XIX ст. — *В. Б.*) я перажыў вялікую радасць, прачытаўшы некаторыя з казак нянькі пра Бога ў зборніку "Беларускія казкі Раманава"[56].

Навуковыя працы, выдадзеныя Е. Р. Раманавым, шырока выкарыстоўваліся Я. Ф. Карскім, А. М. Весялоўскім, Ю. Поўлікам, М. М. Нікольскім і інш. Гэтымі працамі карыстаюцца і цяпер даследчыкі быту і культуры беларускага народа, яго мовы, літаратуры і фальклору.

[52] Романов Е. Белорусский сборник. Вильна, 1910. Вып. VII. С. IV.

[53] Захоўваецца ў архіве Геаграфічнага таварыства СССР. Гл.: Зеленин Д. К. Описание рукописей Ученого архива РГО. Пг., 1914. Вып. I. С. 134—140.

[54] Малевич С. Белорусские народные песни. СПб., 1907.

[55] Бычко-Машко И. Сборник народных песен, записанных в поселке Калюга-Камарно Рогозянской вол. Кобринского у. Гродненской губернии. СПб., 1911.

[56] Горький М. О литературе. М., 1961. С. 469.

# А. К. СЕРЖПУТОЎСКІ

Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі нарадзіўся 21 чэрвеня 1864 г. у в. Бялевічы Чапліцкай воласці Слуцкага павета Мінскай губерні ў сям'і беззямельнага беларускага селяніна[57]. Бацька яго служыў лесніком, таму часта мяняў месца жыхарства. Праз шэсць месяцаў пасля нараджэння сына сям'я Сержпутоўскіх пераехала на хутар Дарагацішча, а затым у Пераналокі (каля в. Чудзін Слуцкага павета).

Здольны і дасціпны, Аляксандр у пяцігадовым узросце навучыўся чытаць. Пасля заканчэння народнага вучылішча ў в. Вызна ён паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў у 1884 г. З гэтага года А. К. Сержпутоўскі працуе настаўнікам народных вучылішчаў у школах Мазырскага і Слуцкага паветаў. У 1893 г. пераязджае ў Мінск і ўладкоўваецца на працу пісарам Мінскага аддзялення сялянскага пазямельнага банка, а пазней працуе ў Мінскім паштова-тэлеграфным ведамстве. Восенню 1896 г. пераязджае ў Пецярбург, дзе працуе на паштамце. Тут ён адначасова працягвае вучобу ў Пецярбургскім археалагічным інстытуце і на вышэйшых юрыдычных курсах. У 1904 г. паспяхова заканчвае інстытут, а ў 1906 г. пераходзіць у Рускі музей і займае пасаду рэгістратара этнаграфічнага аддзела[58], дзе працуе да выхаду на пенсію (1930). Памёр А. К. Сержпутоўскі 5 сакавіка 1940 г.[59]

Уся працоўная дзейнасць Сержпутоўскага звязана з вывучэннем быту і культуры беларускага народа.



47. А. К. Сержпутоўскі (1864—1940)

У час працы настаўнікам у глухіх вёсках Палесся Сержпутоўскі блізка сутыкаўся з народам, меў магчымасць добра вывучыць быт і культуру беларусаў. "Пражываючы доўгі час на Палессі, — пісаў ён, — і маючы непасрэдныя зносіны з народам, мне прыйшлося ўнікаць ва ўсе бакі яго жыцця. Такім шляхам я рабіў свае назіранні спакваля, пры ўсякім зручным выпадку і знаёміўся з рознымі прымхамі і забабонамі, якімі так багатыя жыхары гэтага глухога кутка Беларусі"[60]. У 1885 г. ім былі апісаны абрады Купалля ў в. Заполле Мазырскага павета, а ў 1890 г. ён па сваіх назіраннях і расказах жонкі вядомага беларускага казачніка Азёмшы апісвае вясельныя абрады в. Лучыцы гэтага ж павета. Першая

[57] Архіў НАН Беларусі, ф. 1, № 19, л. 77—79. У анкетах А. К. Сержпутоўскага ў графе "нацыянальнасць" адзначана — беларус, у графе "родная мова" — беларуская.

[58] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 194, л. 84.

[59] Падрабязней аб ім гл. у кн.: Бандарчык В., Фядосік А. А. К. Сержпутоўскі. Мн., 1966.

[60] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 2, воп. 2, спр. 289, л. 2.

друкаваная карэспандэнцыя даследчыка з'яўляецца ў 1891 г. у "Минских губернских ведомостях" (№ 43) пад назвай "Голас з глушы", у якой даюцца замалёўкі з жыцця насельніцтва в. Лучыцы. У нарысе "Заліто" (1894) ён характарызуе павер'і, якія бытавалі ў в. Чудзін Слуцкага павета.

Спачатку як аматар, а потым як сталы даследчык культуры і быту свайго народа Сержпутоўскі запісваў, сістэматызаваў і вывучаў усё, што датычыла жыцця беларускага селяніна, яго быту і культуры. Частка сабраных у пачатку XX ст. матэрыялаў ім была перададзена этнографу Я. А. Ляцкаму. Некаторыя з іх захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі этнаграфіі народаў Расіі.

Прафесійным этнографам-фалькларыстам Сержпутоўскі становіцца ў пачатку XX ст. К гэтаму часу складваюцца яго філасофскія і грамадска-палітычныя погляды, якія вызначаюць асноўны напрамак навуковай дзейнасці даследчыка. У архіве захоўваюцца запісы Сержпутоўскага, якія адносяцца да 1901—1908 гг. З іх відаць, што вучоны захапляўся ў гэты час чытаннем кніг сацыяльна-палітычнага і філасофскага зместу. Найбольш арыгінальныя выказванні і думкі ён запісваў у сшытак пад назвай "Афарызмы"[61].

У пытаннях паходжання жыцця на зямлі Сержпутоўскі стаяў на матэрыялістычных пазіцыях. Аб гэтым сведчаць яго шматлікія запісы. "Чалавек, — піша ён, — з'явіўся на зямлі такім жа шляхам, як каменні, расліны, жывёлы. Ён прычынная часціна сусветнай матэрыі і яе энергіі". Вучоны выказвае арыгінальныя думкі аб паходжанні рэлігіі і яе сутнасці. Ён сцвярджае, што Бога стварыў чалавек, а вера ў Бога — цяжкая памылка: "Усё, што абапіраецца на веру, — ілжывая легенда"; "Ад веры нават ісціны цямнеюць і зацягваюцца туманам"; "Агульнымі намаганнямі людзі стварылі куміраў, аднаму чалавеку цяжка іх разбурыць"[62] і г. д.

Прагрэсіўнымі былі і грамадска-палітычныя погляды Сержпутоўскага. Ён адмоўна ставіўся да існаваўшых у той час парадкаў. "Усякі захоп, — пісаў Сержпутоўскі, — ёсць насілле, якое супярэчыць справядлівасці. Зямля, святло, паветра і ўся прырода належаць усім без выключэння... Кожны мае права на жыццё. Для жыцця неабходны зямля, паветра, сонца, хлеб, вада, адзенне, жыллё і інш. Калі ж нас пазбаўляюць гэтых каштоўнасцей, то гэта не права, а насілле".

Капіталістычную дзяржаву Сержпутоўскі называе "агіднай пачварай", а народ у гэтай дзяржаве — "гэта цэгла, з якой пабудаваны раскошны палац, каб у ім тыраны займаліся оргіямі"[63].

Ён верыць у вызваленне працоўных ад путаў капіталу: "Рана ці позна, а людзі ўсвядомяць цягу матэрыяльнай залежнасці ад нязначнай меншасці, аб'ядноюцца агульнымі адзінымі інтарэсамі і скінуць ненавіснае ярмо рабства". І далей: "Энергія накопліваецца непрыкметна, але пры напружанні дастаткова адной іскры, нязначнага поваду, каб адбыўся выбух... Таму вялікія палітычныя падзеі з'яўляюцца так нечакана"[64].

А. К. Сержпутоўскі разумеў, што толькі ў новым, свабодным грамадстве, дзе не будзе насілля і грабяжу, эксплуатацыі чалавека чалавекам, народ зажыве шчасліва. "Камунізм, — пісаў ён, — знішчае панаванне золата, стварае для ўсіх матэрыяльнае дабро..."

З глыбока прагрэсіўных і дэмакратычных пазіцый А. К. Сержпутоўскі падыходзіць да вывучэння матэрыяльных

[61] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 570.

[62] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 570.

[63] Там жа.

[64] Там жа.

умоў жыцця народа, яго быту і культуры. Яго пяру, акрамя навуковых даследаванняў, належыць серыя нарысаў, у якіх паказваюцца цяжкае, бяспраўнае жыццё працоўных мас, здзекі паноў над сялянамі. Так, у нарысе "У вёсцы" (1911) расказваецца аб трагедыі сялянскай сям'і. Вось кароткі змест гэтага нарыса.

У сям'і Макара і Ноны вялікае гора. Сын Вася ў перадсмяротнай агоніі пасля здзекаў над ім панскага прыказчыка. Макар едзе у валасць па лекара. У адсутнасць бацькі ў хату заходзіць убогая адзінокая жанчына. Даведаўшыся аб прычыне хваробы Васі, яна расказвае пра аналагічную трагедыю, што адбылася з яе сынам: памешчык узяў яго на паляванне і там застрэліў. Старая маці засталася адна і пайшла жабраваць. Наступны дыялог добра перадае сэнс нарыса.

"— Гэта што ж такое, бабуля? — пытае Нона. — Жывога чалавека страляць, як жывёлу, па якому праву?

— Эх, мая кралечка, якое ў паноў права! Здзекуюцца над людзьмі ды і толькі. Ну, вось хоць бы Ванюху... Пану ахвота, забава. Ну ён і паліць у чалавека. Якая яму справа, што ён у мяне адзін, адзін, як каласок. Прапала я бедная! Хто мне хлеба заробіць? Хто вады падасць?.. Старая пачала прычытаць, а слёзы з яе вачэй так і ліліся, і ліліся..."

"Эй вы, чалавечыя слёзы, — усклікае аўтар, — калі б вас сабраць у адно месца, то ўтварылася б цэлае мора. У тым моры ўсе няшчасныя, усе пакутнікі амыліся б ад грахоў"[65].

Далей расказваецца, што старшыня валасці, замест таго каб дапамагчы Макару, за недаплату налогаў у тры рублі пасадзіў яго ў арыштанцкую. Толькі на другі дзень яго выпусцілі. Небарака ўпрасіў фельчара ехаць да хворага... Але якое было гора Макара, калі ён паспешна ўбег у хату і ўбачыў Васю ў труне. Не вынес небарака і як сноп паваліўся на зямлю.

Пасля смерці сына Нона захварэла. "Да гэтага часу памёр і другі сын Макара, а Нона зусім страціла розум. Макар пачаў піць усё больш і больш, каб у віне ўтапіць сваё гора. Але, відаць, сялянскае гора не патоне і ў моры... А колькі такіх няшчасных на Русі?", — такім пытаннем заканчваецца нарыс [66].

Гады працы А. К. Сержпутоўскага ў Этнаграфічным аддзеле Рускага музея былі вельмі напружанымі. У 1906 г. ён двойчы наладжвае экспедыцыі ў паўднёвую частку Мінскай губерні (Слуцкі і Мазырскі паветы). Там збірае вялікую колькасць этнаграфічных экспанатаў, запісвае вуснапаэтычныя творы, робіць апісанне быту. Часопіс "Живая старина" так характарызаваў гэту экспедыцыю: "А. К. Сержпутоўскі на працягу зімовых і летніх месяцаў 1906 г. даследаваў маладаступную палескую частку Беларусі па левых прытоках ракі Прыпяці і ў раскіданых сярод вялікіх лясоў і багністых непраходных балот пасяленнях палешукоў сабраў этнаграфічную калекцыю". Калекцыя складалася з прадметаў адзення, земляробчых прылад, цяслярскіх і бандарных інструментаў, прылад для курэння, здабывання агню, палявання, рыбнай лоўлі і пчалярства, прадметаў хатняга ўжытку, посуду, узораў вышыўкі і г. д. Усяго ў музей даслана каля 1000 экспанатаў. Акрамя гэтага, Сержпутоўскім былі зроблены фатаграфічныя здымкі, планы сялянскіх двароў і чарцяжы прылад працы[67].

Вынікі гэтай экспедыцыі Сержпутоўскі выклаў у працы "Беларусы-палешукі (Этнаграфічны нарыс): Пабудовы,

[65] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 579, л. 5.

[66] Там жа.

[67] Живая старина. 1907. Вып. III. С. 37.

заняткі і павер'і сялян паўночнай палавіны Мазырскага і паўднёвай часткі Слуцкага паветаў Мінскай губерні (38 чарцяжоў і рысункаў)"[68]. Гэта праца была прадстаўлена ў Этнаграфічны аддзел Рускага музея ў якасці дадатку да сабраных у 1906 г. калекцый. Яна захоўваецца ў рукапісу.

"Жадаючы па магчымасці больш поўна прадставіць быт палешукоў-беларусаў, — пісаў Сержпутоўскі, — я зрабіў падрабязнае апісанне будынкаў і іншых збудаванняў, заняткаў і рамяства, звычаяў і вераванняў сялян паўночнай палавіны Мазырскага і паўднёвай часткі Слуцкага паветаў Мінскай губерні як цэнтральнай часткі Беларускага Палесся"[69].

У пачатку рукапісу аўтар дае кароткую геаграфічную і гісторыка-бытавую характарыстыку даследаванай тэрыторыі, адзначае, што на Палессі з прычыны прыродна-гістарычных умоў насельніцтва розных вёсак жыве ізалявана, і таму ў яго быце ў значнай ступені захаваліся перажыткі феадальнай эпохі.

У першым раздзеле "Жыллёвыя і службовыя будынкі і іншыя збудаванні" падрабязна характарызуюцца сельскія пасяленні, сядзібы, жыллё і гаспадарчыя збудаванні Беларускага Палесся. Апісанні ілюструюцца чарцяжамі.

Адзначаючы традыцыйную ўстойлівасць у планіроўцы і тэхніцы забудоў, аўтар акцэнтуе ўвагу на сацыяльных адрозненнях, якія з'яўляліся ў сялянскім жыллі ў капіталістычны перыяд. Хаты і іншыя памяшканні ў заможных сялян вялікія па памеры і зроблены з тоўстых бярвенняў, двор мае многа падсобных і гаспадарчых памяшканняў. У беднякоў убогія хаціны і нешматлікія гаспадарчыя пабудовы.

Размяшчэнне паселішчаў і іх планіроўку аўтар звязвае з мясцовымі прыроднымі ўмовамі. Па берагах рэк сядзібы звычайна ставяць у адзін рад, вуліцай служыць пакаты бераг ракі. Часта па адзін бок вуліцы размяшчаюць жылыя і гаспадарчыя пабудовы, а па другі — агароды і гумны. Асаблівая ўвага ўдзяляецца апісанню жылога памяшкання. Падрабязна характарызуюцца ўнутраная планіроўка і інтэр'ер, а таксама падсобныя памяшканні — сенцы, клець, камора, варыўня і г. д.

А. К. Сержпутоўскі падкрэслівае спецыфіку ў забудове розных гаспадарчых і падсобных памяшканняў на Палессі. У канцы XIX ст. тут часта можна было ўбачыць курную хату. Сержпутоўскі адзначае адну асаблівасць, уласцівую некаторым курным хатам Палесся: тут зрэдку ставілі печ так, каб яе вусце выходзіла ў сенцы. Так ставілі печы звычайна сяляне, якія займаліся ганчарствам. Асаблівасцю свірна, напрыклад, з'яўлялася тое, што ён узводзіўся на чатырох стаўбах. Паміж ніжнім вянком і стаўбамі пракладваліся засцерагальныя драўляныя кругі, якія не давалі магчымасці пранікаць у свіран пацукам. Такі тып забудовы не цярпеў ад навадненння, а свабодная цыркуляцыя паветра пад падлогай спрыяла захаванню збожжа. Адзначае Сержпутоўскі і асаблівасць палескага гумна. Яно будавалася меншага памеру, чым у бязлеснай частцы Беларусі, і прызначалася толькі для абмалоту збожжавых. Неабмалочаны хлеб захоўваўся ў сціртах.

Характарызуючы кузні, Сержпутоўскі адзначае, што на Палессі яны ў той час з'яўляліся ўласнасцю жыхароў усёй вёскі. Кавалі абслугоўвалі насельніцтва толькі дадзенай вёскі. Выконваць без дазволу грамады заказы сялян суседніх вёсак кавалю не дазвалялася. Калі ж ён парушаў гэтыя правілы, яго па-

[68] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 574.
[69] Там жа.

збаўлялі права быць кавалём. Сяляне-заказчыкі за паслугі адраблялі ў гаспадарцы каваля ці плацілі яму натурай: хлебам, соллю і іншымі прадуктамі. Пазней з'явіліся прыватныя кузні, у якіх выраблялiся тавары за грошы і на рынак, што Сержпутоўскі растлумачвае пранікненнем у вёску капіталістычных адносін, развіццём абмену і ажыўленнем гандлю.

Даволі падрабязна апісвае Сержпутоўскі ўзвядзенне пераходаў праз рэкі і будаўніцтва дарог праз балоты. На Палессі рэкі вельмі часта перагароджваліся ёзамі. Гэтыя збудаванні служылі прыстасаваннямі для лоўлі рыбы і пераходамі праз рэчкі. "Жудасна глядзець, — пісаў Сержпутоўскі, — калі іншая жанчына з пакладзеным у калыску за плячыма грудным дзіцем ідзе па такім мосце. Пад нагамі гудзе і клякоча вада, "ёз" хістаецца, колле трашчыць, а маці з нейкім акамянелым бясстрашным выразам твару павольна рухаецца наперад, робячы рукамі нейкія магічныя рухі. Страшна. Міжволі думаецца, што вось-вось адзін памылковы крок ці нялоўкі рух і няшчасная жанчына разам з дзіцем рынецца ў вір. Сапраўды, няшчасныя выпадкі тут бываюць часта"[70].

У раздзеле "Заняткі і промыслы" даецца характарыстыка спосабаў вядзення земляробства, апісваюцца сельскагаспадарчыя прылады працы, жывёлагадоўля, лясныя промыслы, бортніцтва, збіранне грыбоў, ягад, арэхаў і г. д., а таксама хатнія промыслы — бандарны, апрацоўка лёну і ткацтва.

Земляробства і жывёлагадоўлю аўтар лічыў адзіным заняткам, раздзельнае існаванне якіх ва ўмовах Палесся немагчыма. Амаль круглы год працаваў селянін на сваёй гаспадарцы. "З прычыны неўрадлівасці глебы, — пісаў Сержпутоўскі, — і першабытнага вядзення гаспадаркі, на якое трацішча шмат часу, для заняткаў іншымі промысламі застаецца вельмі мала часу". З сельскагаспадарчых культур найбольш ураджайнымі былі проса, грэчка і бульба. Паляшук ніколі не еў чыстага хлеба. Звычайна ў хлеб падмешвалі мякіну, пырнік, а зрэдку і кару дрэў.

Селянін ад снегу ад снегу працаваў на зямлі, аднак не мог забяспечыць сябе самым неабходным. Таму ён пратэставаў супраць таго, што памешчыкі прысвоілі сабе прыродныя багацці, якія селянін лічыў агульнадаступным здабыткам, "божым дарам", якім можна карыстацца ўсім людзям, падобна таму як яны карыстаюцца паветрам, сонцам і інш. Незадаволенасць сялянства няправільным размеркаваннем матэрыяльных каштоўнасцей і незаконным прысваеннем іх памешчыкамі часта прыводзіла да самавольных захопаў сялянамі зямельных і лясных угоддзяў, якія належалі памешчыкам і прамыслоўцам.

Асаблівую ўвагу Сержпутоўскі звяртае на цяжкае становішча жанчыны ў сям'і. "Яна таўчэ ў ступе крупы, меле на ручных жорнах зерне на хлеб, пячэ хлеб, гатуе страву, прыбірае хату, корміць свіней, гусей, качак, цялят, няньчыць дзяцей, ходзіць па ваду, часта сама сячэ дровы, доіць карову, выганяе на пашу і сустракае скаціну, авечак і свіней, працуе ў агародзе і на ніве ці на сенакосе — словам, не мае ніколі вольнага часу. Але гэта яшчэ не ўсё. Ёй трэба вырасціць лён, каноплі, прыгатаваць кудзелю, напрасці, наткаць і пашыць бялізну, вырабіць сукно для верхняй вопраткі і г. д. Калі сюды дадаць грубыя адносіны мужа, нараджэнне дзяцей, хваробы і іншыя жыццёвыя нягоды, то трэба здзіўляцца, як палеская жанчына выносіць такое

[70] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 574, л. 82—83.

жыццё і як некаторыя з іх дажываюць да глыбокай старасці"[71].

Далей характарызуюцца змены ў быце жыхароў Палесся, што адбыліся ў пасляірэформенны час. У сувязі з драпежніцкім знішчэннем лесу, на якім прадпрымальныя лесапрамыслоўцы за кароткі тэрмін нажылі вялікія капіталы, сюды хлынула хваля прышлых рабочых, прыказчыкаў, камісіянераў і г. д. Значная частка насельніцтва Палесся закінула сваю гаспадарку і занялася лесараспрацоўкамі. На Палессі з'явіліся прадстаўнікі розных нацыянальнасцей — рускія, украінцы, латышы, эстонцы і інш. "Гэты прышлы элемент, — пісаў Сержпутоўскі, — зрабіў вялікі ўплыў на ўвесь уклад прымітыўнага гаспадарчага жыцця палешукоў і прыўнёс новыя рысы". Адбылася поўная ломка натуральнай гаспадаркі і старога быту.

Аднак к пачатку XX ст., калі будаўнічы лес быў па-драпежніцку знішчаны і лесараспрацоўкі спынены, сяляне вымушаны былі зноў вярнуцца на сваю гаспадарку, якая раней была закінута і заняпала. Гэта выклікала зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва Палесся. Прычын пагоршання становішча сялян даследчык не раскрывае, але дае даволі ясны намёк на несправядлівасць існуючага сацыяльна-палітычнага ладу. Выйсце з цяжкага становішча ён бачыць у "карэнным пераўтварэнні ўсяго гаспадарчага жыцця".

Прагрэсіўныя грамадска-палітычныя погляды А. К. Сержпутоўскага перашкаджалі ў тых умовах яго прасоўванню па службе. Увесь час у дарэвалюцыйны перыяд ён заставаўся на пасадзе хавальніка Этнаграфічнага аддзела Рускага музея. Свае веды і сілы ён аддае вывучэнню быту і культуры Расіі і ў першую чаргу сваёй радзімы — Беларускага Палесся.

А. К. Сержпутоўскі распрацоўвае "Кароткую праграму для збірання этнаграфічных прадметаў на Беларусі", у якой высоўвае вельмі важнае патрабаванне да збіральнікаў этнаграфічных матэрыялаў: "Пры збіранні этнаграфічных калекцый прадметаў, якія могуць служыць дакументамі, што характарызуюць з таго ці іншага боку дадзены народ, яго быт і творчасць, вельмі пажадана прыкласці падрабязнае апісанне той мясцовасці і жыцця таго народа, дзе сабраны калекцыі. Толькі пры падрабязным апісанні як матэрыяльнага, так і духоўнага боку перад нашымі вачыма адкрыецца поўная і жывая карціна дадзенага народа"[72].

Даследчык прапанаваў у праграме рабіць апісанне мясцовасці, пасяленняў, жылля, спосабу вырабу адзення, запісваць паданні, легенды, даваць характарыстыку заняткаў насельніцтва, прылад працы, народнай кулінарыі, сямейнага быту, народнай медыцыны і г. д.

У 1907 г. (чэрвень — жнівень) Сержпутоўскі зрабіў экспедыцыю ў Мінскую, Гродзенскую і Валынскую губерні (палескую іх частку), за час якой набыў звыш 800 этнаграфічных прадметаў, зрабіў больш 200 фотаздымкаў, а таксама сабраў багаты матэрыял для вывучэння звычаёвага права, творчасці і быту беларускіх і ўкраінскіх сялян. На працягу 1910—1914 гг. ён наладжвае яшчэ тры экспедыцыі па Беларусі, у час якіх вывучае Мінскую, Віцебскую, Магілёўскую і Гродзенскую губерні. Усяго па даручэнню Этнаграфічнага аддзела Рускага музея А. К. Сержпутоўскі на працягу 1907—1917 гг. правёў трынаццаць экспедыцый, за час якіх, акрамя Беларусі, наведаў Украіну, Літву, Польшчу, Ма-

[71] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 1, спр. 574, л. 154—155.

[72] Архіў ДМЭН Расіі, ф. 1, воп. 2, спр. 193.

скоўскую, Пермскую, Курскую, Вяцкую, Уфімскую губерні і Каўказ. У час гэтых экспедыцый даследчык сабраў звыш 2000 прадметаў быту, зрабіў больш 700 фотаздымкаў сялянскага жылля, адзення, прылад працы і інш., запісаў сотні фальклорных твораў, выканаў замалёўкі і чарцяжы і г. д.

Па матэрыялах этнаграфічных экспедыцый Сержпутоўскі напісаў і апублікаваў некалькі прац па духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў і іншых народаў Расіі. Найбольш раннія яго працы (1907—1909) прысвечаны даследаванню тых старажытных народных традыцый, у якіх каларытна адлюстраваны высокія маральныя якасці простага чалавека — пачуцці калектывізму, дружбы і ўзаемадапамогі (нарысы "Сябрына", "Бонда", "Талака"). Старажытныя звычаі "сябрын", "сябравання" і ўзаемнай дапамогі асабліва жывучымі былі на поўдні Беларусі. "Кожны прадбачлівы беларус пры зручным выпадку стараецца як мага больш набыць сяброў як у сваёй вёсцы, так і ў суседніх"[73]. Духоўная роднасць, дружба ўстанаўліваліся як паміж родзічамі і сваякамі, так і паміж асобамі, не звязанымі роднасцю і сваяцтвам.

Такую сутнасць мае і другі старадаўні народны звычай — "бонда", звычай дзяліцца з блізкімі і наогул з аднасяльчанамі ўсім, што набываецца. "Бонда" даецца суседзям у тых выпадках, калі забіваюць на мяса кабана, цялё, авечку, збіраюць ураджай у садах, выбіраюць з вулляў мёд і г. д. З'яўленне гэтага звычаю Сержпутоўскі не без падстаў адносіць да абшчынна-родавага ладу, "калі мела месца агульнасць маёмасці цэлай абшчыны ці роду".

Па-новаму ў параўнанні з данымі этнаграфічнай літаратуры таго часу Сержпутоўскі апісвае талаку. Талака — старадаўні народны звычай, шырока распаўсюджаны на Беларусі. Талака збіралася ў выпадках, калі адной сям'і не пад сілу было справіцца з вялікай цяжкай працай ці стыхійнымі бедствамі. Народны звычай патрабуе не адмаўляцца ад запрашэння на талаку. "Хто ўхіляецца ад дапамогі другім, таму і грамадства не дапаможа ў бядзе"[74].

А. К. Сержпутоўскі падкрэслівае, што гэты старадаўні звычай выкарыстоўвалі эксплуататарскія класы ў сваіх інтарэсах. Паны даволі часта збіралі талаку, калі па якой-небудзь прычыне нельга было наняць рабочых ці непажадана плаціць за работу вялікія грошы.

Некалькі прац Сержпутоўскага прысвечана вераванням, павер'ям, прыкметам, а таксама старадаўнім звычаям і абрадам, якія захоўваліся ў быце народа дарэвалюцыйнай Беларусі. У процівагу рэакцыйным этнографам, якія выкарыстоўвалі гэтыя матэрыялы для паклёпу на беларускі народ, яго культуру і апраўдвалі існаваўшы сацыяльны лад, Сержпутоўскі кіраваўся супрацьлеглымі прынцыпамі. Веданне светапогляду і вераванняў людзей, на яго думку, неабходна кожнаму даследчыку гісторыі народнай культуры. "Каб ясна зразумець сучаснае жыццё, — пісаў ён, — трэба аглянуцца назад, у глыбіню вякоў, падгледзець і падслухаць, як даўней жыў, думаў і верыў старажытны чалавек"[75].

Аўтар правільна характарызуе прычыны захавання вераванняў і забабонаў у народзе — яго цемру і забітасць, паказвае ролю царквы і духавенства ў падтрыманні забабонаў у народзе. Раскры-

[73] Сержпутовский А. Очерки Белоруссии. I: Сябрына. Бонда // Живая старина. 1907. Вып. III. С. 150.

[74] Живая старина. 1907. Вып. IV. С. 211.

[75] Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930. С. 1.

ваючы, напрыклад, сутнасць веравання ў "завіткі", ён піша: "Падтрымлівалі гэтыя забабоныя жахі, апрача ведзьмароў, мясцовыя свяшчэннікі", якія выходзілі ў поле для знішчэння "заломаў" і "завіткоў". "Зразумела, што такія адносіны свяшчэнніка да заломкі ўзмацняюць народныя забабоны"[76].

Вялікая заслуга належыць А. К. Сержпутоўскаму і ў вывучэнні матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларусаў. Гэтым пытанням даследчык прысвяціў некалькі навуковых публікацый. У працы "Земляробчыя прылады беларускага Палесся"[77] ён апісвае сельскагаспадарчыя прылады працы, падрабязна характарызуе іх канструкцыю і спосабы выкарыстання, а таксама паказвае гісторыю іх узнікнення і развіцця. Усе сельскагаспадарчыя прылады вучоны падзяляе на пяць груп. Самымі старажытнымі лічыць матыгу і вершаліну, за якімі, на яго думку, пазней з'явілася саха. Вершалінай узрыхлялі і баранавалі глебу. Гэта прылада выкарыстоўвалася на падлесных глебах пры падсечна-агнявым спосабе земляробства. Сержпутоўскі сцвярджае, што вершаліна "хутчэй нагадвае сошку ці саху, а не барану, як гэта думаюць некаторыя апісальнікі быту".

У асобныя групы выдзелены прылады, якія выкарыстоўваюцца пры ўнясенні ўгнаення ў глебу (сахор, крук, граблі, калёсы), пры сяўбе (сявок, сеўнік, каробка), касьбе і жніве (серп, каса, граблі), для абмалоту і веяння зерня (цэп, валёк, малатарня, веялка, шуфлі, апалушкі).

Даволі падрабязна Сержпутоўскі вывучыў адзін са старажытных заняткаў беларусаў — бортніцтва. Гэтаму пытанню ён прысвяціў цэлую працу — "Бортніцтва ў Беларусі"[78]. Даследчык адзначае, што на Палессі з яго балотамі і пясчанымі глебамі, якія давалі дрэнны ўраджай, былі распаўсюджаны розныя промыслы і рамёствы, пры дапамозе якіх беларус-паляшук вымушаны быў здабываць дадатковыя сродкі для існавання.

У канцы XIX — пачатку XX ст. бортніцтва прыходзіць у заняпад. Гэта Сержпутоўскі тлумачыць, па-першае, узмацненнем эксплуатацыі і ўціску сялян. Па-другое, у больш позні час у сувязі са спробамі асушэння балот і прамысловага выкарыстання драўніны на Палессе пачалі пранікаць капіталістычныя адносіны і жорсткія законы прыватнай уласнасці, у выніку чаго борцевы спосаб замяняецца пасечным, які пад сілу быў толькі багатым і заможным сялянам.

Вытворчаму быту беларускага сялянства прысвечаны і нарыс "Лоўля ўюноў"[79]. А. К. Сержпутоўскі дае яркі малюнак знясільваючай працы палескага рыбака: "Нялёгкая гэта праца: цэлы дзень на адной назе ў няўстойлівым чаўне, рызыкуючы кожную мінуту зваліцца ў ціну, харчуецца толькі аднымі ўюнамі, спіць на голай зямлі, пад адкрытым небам у любое надвор'е, а тут мірыяды камароў і мошак смокчуць кроў, залазяць у нос, вочы і вушы і дастаўляюць невыносныя мукі"[80].

Добрае веданне жыцця свайго народа, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры Сержпутоўскі паказаў і ў шматлікіх рэцэнзіях на працы іншых этнографаў Беларусі. Рэцэнзіі яго носяць крытычны і строгі характар. Так, напрыклад, даючы агульную станоўчую ацэнку працы А. Харузіна "Славянскае жыллё ў Паўночна-Заходнім краі", Сержпутоўскі адзначае непаўнату і памылковасць яе

[76] Сержпутовский А. К. О завитках в Белоруссии // Живая старина. 1907. Вып. I. С. 37.

[77] Материалы по этнографии России. СПб., 1910. Т. 1.

[78] Там жа. Пг., 1914. Т. 2.

[79] Живая старина. 1907. Вып. IV. С. 207—209.

[80] Там жа. С. 208—209.



СКАЗКИ и РАЗСКАЗЫ

БѢЛОРУССОВЪ-ПОЛѢШУКОВЪ

(Матеріалы къ изученію творчества бѣлоруссовъ и ихъ говора).

А. К. Сержпутовскій.

Изданіе Отдѣленія Русскаго языка и словесности Императорской Академіи Наукъ.

С.-ПЕТЕРБУРГЪ.

Типо-Литографія К. Л. Пентковскаго, Большая Подъяческая, 22.

1911.

48. Тытульны ліст кнігі А. К. Сержпутоўскага

некаторых палажэнняў[81]. Харузіным, заўважае Сержпутоўскі, для даследавання жылля беларусаў узята толькі заходняя частка Беларусі, якая мяжуе з Польшчай і Літвой, а з Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў (карэннай Беларусі) прыводзіцца толькі невялікі параўнальны матэрыял. З гэтай прычыны ў рэцэнзуемай працы не знайшлі адлюстравання многія асаблівасці жылля і гаспадарчых пабудоў беларусаў. У прыватнасці, Сержпутоўскі абгрунтавана выказвае сваю нязгоду з меркаваннем Харузіна аб тым, што аднакамернай хаце беларусаў у сучасным яе выглядзе папярэднічала клець.

[81] Живая старина. 1907. Вып. III. С. 37.

А. К. Сержпутоўскі многа зрабіў для развіцця беларускай фалькларыстыкі і мовазнаўства. З вялікай любоўю да радзімы, свайго народа ён па крупінцы збіраў жамчужыны народнай мудрасці, беражліва запісваў шэдэўры народнага мастацкага слова, вывучаў асаблівасці гаворак сялян роднага яму Беларускага Палесся.

Сабраныя Сержпутоўскім вуснапаэтычныя творы беларускага народа часткова апублікаваны ў зборніках і іншых выданнях[82]. Ім падрыхтаваны былі да друку зборнік беларускіх прыказак і прымавак (няпоўны экземпляр рукапісу якога захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі), зборнік “Песні Магілёўшчыны”, у які ўключана каля 250 тэкстаў, 75 нотных запісаў беларускіх народных песень. Зборнік не захаваўся. Загінула і самая вялікая праца вучонага — “Быт беларусаў”.

Нястомная навуковая дзейнасць, прагрэсіўныя погляды, бязмежная любоў да свайго народа дазволілі А. К. Сержпутоўскаму стаць у першыя шэрагі лепшых прадстаўнікоў этнаграфічнай навукі. Этнаграфічныя і фальклорныя працы Сержпутоўскага не страцілі сваёй пазнавальнай навуковай вартасці і ў наш час. Яны з’яўляюцца невычэрпнай крыніцай для даследчыкаў, якія вывучаюць быт і культуру беларускага народа.

[82] Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков // Материалы по изучению творчества белорусов и их говора. СПб., 1911; Ён жа. Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета // Матэрыялы да вывучэння беларускай мовы, этнаграфіі і літаратуры. Л., 1926; Ён жа. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930; Ён жа. Отчет о поездке в Гомельскую губернию в 1926 году. Мн., 1926; Ён жа. Грамматический очерк белорусского наречия дер. Чудина Слуцкого уезда Минской губернии. СПб., 1911.

# І. А. СЕРБАЎ



49. І. А. Сербаў (1871—1943)

Ісак Аўрамавіч Сербаў нарадзіўся 27 мая 1871 г. у в. Кульшычы Быхаўскага павета Магілёўскай губерні ў сям'і малазямельнага селяніна-беларуса[83]. Пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі і Маскоўскага археалагічнага інстытута І. Сербаў многа год працаваў настаўнікам у Мінску, Гомелі і сельскіх школах Беларусі.

У час працы настаўнікам (з 1900 г.) ён пачынае збіраць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. З адкрыццём у Вільні ў 1910 г. Паўночна-Заходняга аддзела РГТ Сербаў прымае актыўны ўдзел у дзейнасці археалагічна-этнаграфічнай секцыі Аддзела, кіраўніком якой быў Е. Р. Раманаў. Па даручэнню Аддзела ў 1911—1912 гг. і Аддзялення рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук у 1913 г. Сербаў наладжвае некалькі этнаграфічных экспедыцый на поўдзень Беларусі.

У дарэвалюцыйны час Сербаў друкуе некалькі сваіх прац — "Сяло Вялікас. Малюнкі з жыцця Беларусі" (Мн., 1910), "Беларусы-сакуны" (Пг., 1915) і рад артыкулаў — "Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1911 г.", "Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1912 г."[84] і інш.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён прымае актыўны ўдзел у культурным будаўніцтве рэспублікі. Працуе ў органах народнай асветы на пасадзе загадчыка Магілёўскага губернскага аддзела народнай асветы, у Надзвычайнай камісіі па ліквідацыі непісьменнасці і іншых установах. З арганізацыяй Інстытута беларускай культуры І. А. Сербаў у 1922 г. абіраецца правадзейным членам і працуе ў радзе камісій інстытута — фальклорна-дыялекталагічнай, народнай музыкі, гісторыі старажытнага Мінска і інш. Адначасова (з 1922 па 1928 г.) узначальвае кафедру этнаграфіі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Пазней, пасля стварэння Акадэміі навук БССР (1929), займае пасаду вучонага сакратара кафедры этнаграфіі (да 1930 г.), а затым працуе старшым навуковым супрацоўнікам сектара этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР. У 1934 г. Сербаву за навуковыя працы была прысуджана вучоная ступень кандыдата навук.

[83] Гл. артыкул аб І. А. Сербаве ў газеце "Літаратура і мастацтва", 25 студзеня 1958 г.

[84] Артыкулы былі надрукаваны ў "Записках Северо-Западного отдела РГО" асобнымі брашурамі, а таксама зведзены ў адну брашуру: Сербов И. А. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. Вильна, 1914.

Побач з актыўнай педагагічнай дзейнасцю Сербаў праводзіў вялікую навукова-даследчую работу ў галіне этнаграфіі і археалогіі Беларусі, па ахове помнікаў старажытнасці.

У 20—30-я гады І. А. Сербаў шырока вывучаў быт беларускага народа, пераважна яго матэрыяльную культуру. Ён выдаў даследаванне "Вічынскія паляне" (1928) і падрыхтаваў да друку манаграфіі аб беларускім народным адзенні, галаўных уборах і прычосках, аб працы і быце беларускіх лесарубаў і плытагонаў. Побач з вывучэннем матэрыяльнага і вытворчага быту Сербаў даследаваў народнае мастацтва, у выніку чаго ім былі падрыхтаваны да друку два тамы альбома "Беларускае народнае мастацтва". Друкаванне першага тома было пачата перад Вялікай Айчыннай вайной, аднак убачыў свет ён толькі ў 1951 г.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны Сербаў эвакуіраваўся ў Тамбоў, дзе працаваў у педагагічным інстытуце і разам са студэнтамі прымаў актыўны ўдзел у лесараспрацоўках. У час аднаго з выездаў са студэнтамі ён цяжка захварэў на запаленне лёгкіх і 21 студзеня 1943 г. памёр. Пахаваны ў Тамбове.

Большасць этнаграфічных прац Сербава з'явілася ў выніку асабістых даследаванняў аўтара. У артыкуле "Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1911 г." даследчык характарызуе асноўныя рысы быту і культуры паўднёвай Беларусі. Тэрмінам "Дрыгавіцкая вобласць" ён называе тэрыторыю вярхоўяў Нёмана і Заходняга Буга, верхняга цячэння Дняпра і яго прытокаў Бярэзіны і Прыпяці. Зразумела, гэта назва ўмоўная. Сербаў сам зазначае, што "дрыгавічы" — "гісторыка-літаратурнае слова. У народнай гаворцы яно не сустракаецца"[85]. Ужыванне аўтарам назваў старажытных славянскіх плямёнаў звязана з тым, што ён успрыняў памылковую тэорыю этнагенезу беларусаў непасрэдна ад старажытных усходнеславянскіх плямёнаў. Вядома, што ў перыяд Старажытнарускай дзяржавы гэтыя плямёны перамяшаліся, а іх племянная адасобленасць размывалася. Недакладным і некалькі ўмоўным трэба лічыць і далейшы падзел Сербавым дрыгавічоў на палешукоў, палян і сакуноў. Так, калі палешукі і паляне выдзелены па геаграфічных прызнаках (першыя займаюць балоцістую і лясную часткі Палесся, другія "жывуць на слуцка-капыльскіх палях"), то сакуны выдзелены па асаблівасцях мовы (зваротныя дзеясловы на -ся заканчваюцца на -са: напіўса). Тут яўная блытаніна, таму што так званыя паляне якраз і валодаюць гэтай моўнай прыкметай.

Кіруючыся тэорыяй паходжання беларускай народнасці, выкладзенай А. А. Шахматавым і іншымі вучонымі, І. А. Сербаў шукае рэшткі старажытнай "дрыгавіцкай" культуры ў быце жыхароў Палесся. Аднак, нягледзячы на прыкметную надуманасць у характарыстыцы і класіфікацыі паўднёвых беларусаў, Сербаў дае багатыя звесткі па быту і культуры насельніцтва гэтай часткі Беларусі. З вялікай сімпатыяй апісвае ён знешні выгляд дрыгавічоў: "Дрыгавічы моцны, здаровы народ. Яны пераважна смуглявыя шатэны, сярэдняга росту, стройныя, але хударлявыя, як мужчыны, так і жанчыны. Галава прадаўгаватая з прамым высокім ілбом. Твар чысты, адкрыты з правільнымі рысамі і ласкавай усмешкай на тонкіх губах"[86].

Далей Сербаў дае кароткую характарыстыку матэрыяльнага быту насельніцтва, яго заняткаў (ткацтва, пчаляр-

[85] Сербов И. А. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. С. 1.

[86] Сербов И. А. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. С. 2.

ства, рыбалоўства і інш.), апісвае абрады і звычаі, якія “вядуць свой пачатак ад часоў вельмі далёкіх”. У заключэнне даследчык адзначае, што “паблізу культурных цэнтраў і чыгунак дрыгавічы страцілі свае індывідуальныя рысы, іх першабытнае жыццё набыло зусім іншы характар”[87].

У артыкуле “Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1912 г.”[88] Сербаў апублікаваў вынікі экспедыцыі 1912 г., якая працягвалася два месяцы. Сербаў аб’ехаў Беларускае Палессе і сабраў багаты фальклорна-этнаграфічны матэрыял, у тым ліку запісаў каля 300 фальклорных твораў, 80 песенных мелодый і зрабіў каля 600 фотаздымкаў з быту беларускіх сялян. Ён дае кароткую характарыстыку быту насельніцтва наведаных населеных пунктаў. Асноўную ўвагу аўтар звяртае на асаблівасці матэрыяльнай культуры (адзенне і жыллё). Вобласць на поўдзень ад Мінска (20 км) ён, напрыклад, характарызуе наступным чынам: “Пачынаюцца тыповыя пасяленні з доўгімі вузкімі дварамі і азяродамі. Пажылыя жыхары добра захавалі свае нацыянальныя рысы і старажытны касцюм: белую доўгую сарочку з прамым рукавом і вялікім адкладным каўняром, белыя порты на ачкуры, “зрачыя” лазовыя лапці з раменнымі ці пяньковымі аборамі і шырокі стракаты пояс, на якім нярэдка вісіць каліта і шабета з красалам. Амаль усе жанчыны носяць каляровы галаўны ўбор, пераважна чырвоны каптур накшталт капара, які называецца тут жартам “дзятлам”[89]. Разам з тым у гэтай мясцовасці наглядаюцца вялікія змены ў традыцыйным быце. Маладое пакаленне, адзначае даследчык, хутка пераймае звычкі гараджан.

Пэўныя змены Сербаў адзначае ў быце сялян, якія жылі каля гарадоў, рачных партоў і фабрычных прадпрыемстваў. Інакш справы ідуць у глухіх месцах Палесся. Там пераважаюць традыцыйныя формы быту і культуры.

Закранаюцца ў артыкуле і асобныя рысы грамадскага быту жыхароў Палесся. Пры гэтым Сербаў яскрава характарызуе адносіны сялян да царквы і рэлігіі. “Да рэлігіі яны адносяцца зусім абыякава, — піша Сербаў аб сялянах в. Хатынічы, — і выконваюць толькі самыя неабходныя абрады... Царкву наведваюць неахвотна. 24 чэрвеня, у нядзелю, мне давялося назіраць цікавую з’яву. Была цудоўная летняя раніца... Прыгожа апранутыя натоўпы народу былі відны ўсюды на вуліцы, каля двароў і на “прызбах”. У царкве адпраўлялася набажэнства. Але палешукі заставаліся абыякавымі да голасу царквы... Яны па-ранейшаму заставаліся на вуліцы, а набажэнства як пачалося, так і закончылася пры пустой царкве”[90]. Аналагічную карціну Сербаў назіраў і ў в. Выганашчы. У час царкоўнага свята Пятра і Паўла сяляне “разгульвалі па беразе Агінскага канала, а набажэнства ў храме адбывалася пры 2—3 бабульках, якія маліліся”[91]. І ў гэтай працы Сербаў дае станоўчую характарыстыку беларусам-палешукам.

Пэўныя звесткі ў разглядаемай працы Сербава прыводзяцца па быту рабочых Палесся. Так, на Цяханскім шклоплавільным заводзе рабочыя падвяргаліся зняважлівай працэдуры “абмацвання і абшуквання” пры выхадзе з прадпрыемства. Сербаў адзначае, што “заводчыкі” не маглі прыдумаць нічога больш га-

[87] Сербов И. А. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. С. 17.

[88] Там жа. С. 19—51.

[89] Там жа. С. 19—20.

[90] Сербов И. А. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. С. 15—51.

[91] Там жа. С. 34.

небнага і амаральнага... Рабочыя ў душы страшэнна абураюцца такім абыходжаннем з імі. Паказваецца таксама малюнак цяжкога жыцця рабочых на лесараспрацоўчых заводах. На заводзе каля в. Буда (бліз Ганцавіч) рабочыя вельмі пакутуюць, жывуць у бараках, спяць на голых нарах.

У 1913 г. па даручэнню Аддзялення рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук І. А. Сербаў наведаў паўночную частку Пінскага Палесся (поўнач Пінскага і паўночна-заходняя частка Мазырскага паветаў), а таксама Кобрынскі, Пружанскі і Слонімскі паветы Гродзенскай губерні. Галоўнай мэтай гэтай экспедыцыі было вывучэнне асаблівасцей мовы. Паралельна Сербаў збіраў і этнаграфічныя матэрыялы. У справаздачы аб гэтай паездцы ён пісаў, што ўжо закончыў кароткі нарыс “Прыкметы старажытнаславянскага родавага быту на Палессі”, які “ўвойдзе ў якасці прадмовы да “вічынцаў”, а таксама складзе асобны “Зборнік беларускіх песень”[92].


СБОРНИКЪ
ОТДѢЛЕНІЯ РУССКАГО ЯЗЫКА И СЛОВЕСНОСТИ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ.
Томъ XCIV, № 1.

И. А. Сербовъ.

БѢЛОРУССЫ-САКУНЫ

Краткій этнографическій очеркъ.

ПЕТРОГРАДЪ.
ТИПОГРАФІЯ ИМПЕРАТОРСКОЙ АКАДЕМІИ НАУКЪ.
Вас. Остр., 9 лин., № 12.
1915.

50. Вокладка кнігі І. А. Сербава

І. А. Сербаў задумаў напісаць серыю прац па быту і культуры асобных этнаграфічных груп жыхароў Палесся: “Беларусы-сакуны”, “Вічынскія паляне”, “Дзятлаўцы-палешукі” і г. д. У дарэвалюцыйны час ён паспеў выдаць толькі працу “Беларусы-сакуны”. Яна прысвечана этнаграфіі невялікага раёна паміж Слуцкам і Асіповічамі (паабапал ракі Пціч), які вызначаўся аднатыпнасцю ў быце, культуры і мове акрэсленай мясцовасці.

Праца ўключае пяць раздзелаў: “Кароткі этнаграфічны нарыс”, “Гаворка сакуноў”, “Песні сакуноў”, “Казкі”, “Старажытныя апавяданні”. Ва ўступе аўтар спрабуе ахарактарызаваць асноўныя рысы быту і культуры беларусаў усяго Палесся, выявіць на Палессі асаблівасці так званага абшчыннага быту. Ён выказвае меркаванне, што тут дзякуючы геаграфічным умовам і ізаляванасці асобных тэрыторый склаліся “раённыя абшчыны”, якія прадстаўляюць сабою групу вёсак, назва адной з якіх стала агульнай для ўсіх жыхароў дадзенай абшчыны. Толькі ў басейне ракі Цны Сербаў налічвае каля дзесяці такіх абшчын, цэнтрамі якіх з’яўляюцца вёскі Дзянісавічы, Макава, Бостынь, Дзятлавічы, Бараўцы, Бродніца, Вічын, Кажан-Гарадок і Лахва. Кожная з такіх абшчын, па сцвярджэнню аўтара, захавала ў пэўнай ступені сваю індывідуальную культуру, як матэрыяльную, так і духоўную. Стварэнне такіх абшчын Сербаў адносіць да далёкай мінуўшчыны, “маг-

[92] Отчет о деятельности ОРЯС Академии наук за 1913 год. Приложение. СПб., 1913. С. 21—26.



51. Дзяўчаты ў нацыянальным адзенні. Здымак А. І. Сербава

чыма, нават да тых часоў, калі палескія дрыгавічы вялі яшчэ свой пастушына-паляўнічы спосаб жыцця"[93].

Спрабуючы вызначыць асаблівасці быту асобных этнаграфічных раёнаў Палесся, Сербаў разам з тым характарызуе і агульныя культурна-бытавыя рысы яго. Так, пераважаючым тыпам забудовы палескай вёскі ён лічыць вулічны тып. Сядзібы размяшчаліся па абодва бакі вуліцы. Аднак існавала і іншая планіроўка забудоў — хаты з сенцамі і клеццю размяшчаліся па адзін бок вуліцы, а двор для жывёлы з хлявамі — па другі бок. Такі тып забудовы, зазначае Сербаў, сустракаецца пераважна к захаду ад сяла Ляхавічы Пінскага павета. Даследчык адзначае і розную планіроўку двароў (пагонная забудова ў адну і дзве лініі, вяночная і інш.).

У адзенні Сербаў адзначае яшчэ большую разнастайнасць: агульнабеларуская світка "з вусам" мае многа фасонаў па пакрою каўняра, рукавоў і клінoў. У дзятлаўцаў, напрыклад, захавалася кароткае "світно", а мотальцы (м. Моталь Гродзенскай губ.) носяць світку з нізкім каўняром. У гараджан "світно" з фалдамі, а ў суседзяў іх, вічынцаў, — з вострымі клінамі па баках і г. д. Аўтар паказвае спецыфіку розных частак Палесся і ў духоўнай культуры: абрадах, вуснапаэтычнай творчасці і мове. У заключэнне ён падкрэслівае, што "кожная амаль раённая абшчына моцна захоўвае свае старажытныя традыцыі і неахвотна паддаецца ўплыву з боку, асабліва бліжэйшых сваіх суседзяў... Усё сваё — роднае, добрае і прыгожае, а ўсё чужое — дрэннае і пачварнае. Ён хутчэй запазычыць для сябе што-небудзь новае з больш аддаленых мясцовасцей, чым у блізкіх сваіх. Такім чынам, людзі стагоддзямі жывуць побач адзін з другім і ўсё ж не зліваюцца ў адну агульную масу"[94].

На фоне агульнай карціны быту палескіх беларусаў Сербаў характарызуе беларусаў-сакуноў, якія насялялі верхняе цячэнне ракі Пцічы і яе прытока Арэсы. Вышэй ужо адзначалася, што сакунамі Сербаў называе гэту этнаграфічную групу беларусаў па асаблівасцях мовы. Аднак трэба адзначыць, што абведзены Сербавым раён сакуноў (вёскі Жыцін, Юравічы, Крамок, Церабут, Шчыткаві-

---

[93] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. Пг., 1915 // Сборник ОРЯС Академии наук. Т. XCIV. № 1. С. XVII.

[94] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. С. XV—XVI.

чы, Ляўкі, Дражын, Падарэссе, Залужжа) далёка не ахоплівае ўсіх беларусаў, у мове якіх ёсць адзначаная асаблівасць (зваротны дзеяслоў у прошлым часе мае канчатак -са). Гэта гаворка распаўсюджана ва ўсім наваколлі Слуцка. Сербаў жа выдзяляе толькі палескую групу сакуноў.

Далей у працы даецца падрабязная характарыстыка матэрыяльнай і духоўнай культуры сакуноў. Разглядаючы пасяленні і сядзібы сялян, аўтар падкрэслівае, што размешчаны яны кампактна ў выглядзе доўгага калідора па адзін бок вуліцы. Адну лінію складаюць хата, сені, клець, павець, хлявы, другую — калодзеж, свіран, аўчарня, свінарнік, істопка (варыўня) і пограб. У аддаленні за дваром размешчаны гумно і азяроды. Апісваючы ўнутраную планіроўку і мэбліроўку жылля селяніна, Сербаў адзначае, што "ў хатах сакуноў даволі ахайна і чыста"[95].

Сербаў выразна характарызуе і адзенне беларусаў-сакуноў. Белую суконную світку "з вусам" ён лічыць самым старажытным і распаўсюджаным прадметам верхняга адзення беларусаў. Апісанні быту сялян ілюструюцца вялікай колькасцю фотаздымкаў.

І. А. Сербаў падкрэслівае высокія маральныя якасці сялян, іх працавітасць, ветлівасць, сумленнасць, цікаўнасць. "Здаецца, ім няма ні дня, ні ночы. Каля трэціх пеўняў яны ўжо на нагах і застаюцца на рабоце да позняга вечара то ў полі з валом, то на поплаве з касой, то ў лесе з сякерай. Жанчыны ў працавітасці не ўступаюць мужчынам". Нягледзячы на захаванне своеасаблівых форм быту, "сакуны ў той жа час хутка пераймаюць усё лепшае і карыснае для сябе. Так, напрыклад, яны ўвялі ў карыстанне плуг, малацілку, веялку, рамачны вулей, пралку і інш."[96] Этнаграфічныя апісанні дапаўняюцца характарыстыкай вуснапаэтычнай творчасці і мовы сакуноў. Прычым песні публікуюцца ў суправаджэнні нотных запісаў.

Праца Сербава "Беларусы-сакуны" ў дарэвалюцыйнай этнаграфічнай літаратуры займае адно з пачэсных месц. Яе можна паставіць побач з восьмым выпускам "Беларускага зборніка" Е. Р. Раманава.

Спадчына І. А. Сербава даволі багатая і разнастайная. Яго публікацыі даюць каштоўныя, а нярэдка і унікальныя матэрыялы для характарыстыкі дарэвалюцыйнага быту беларускага народа.

[95] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. С. 12.

[96] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. С. 41.

## Я. Ф. КАРСКІ

Яўфім Фёдаравіч Карскі (1861—1931) нарадзіўся ў сяле Лаша Гродзенскай губерні ў сям'і настаўніка пачатковай школы. Атрыманыя ў спадчыну з дзяцінства працавітасць, а таксама вялікія разумовыя здольнасці адыгралі рашаючую ролю ў паспяховай вучобе Карскага і яго навуковай дзейнасці. Акадэмік Б. М. Ляпуноў, які блізка ведаў Карскага, пісаў аб ім: "Вырасшы ў вельмі цяжкіх матэрыяльных умовах, як сын бедных бацькоў, Яўфім Фёдаравіч з дзяцінства прывык да настойлівай, уседлівай працы, якой вызначаўся на працягу ўсяго свайго жыцця. Адрозніваючыся працавітасцю, Я. Ф. валодаў надзвычайнай здольнасцю хутка арыентавацца ў вялікім сабраным матэрыяле і прыводзіць яго ў сістэму, і гэта дало яму магчымасць заўсёды даводзіць да канца ка-

ласальныя па размерах працы, якія пры іншых тэмпах былі б пад сілу толькі калектыву працаўнікоў"[97].

Пачатковую адукацыю Карскі атрымаў у Ятранскім народным вучылішчы Навагрудскага павета, а сярэднюю — у Мінску. У жніўні 1881 г. ён паступіў на славяна-рускае аддзяленне Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута, які скончыў са званнем настаўніка гімназіі. Паспяховае заканчэнне інстытута адкрывала перад Карскім магчымасць рыхтавацца да прафесарскага звання ў гэтым жа інстытуце, але неабходнасць дапамагаць сям'і вымусіла яго паступіць на работу. З сярэдзіны 1885 г. па студзень 1893 г. ён працаваў настаўнікам Другой гімназіі ў Вільні.

Аднак цяга да навуковай працы не пакідала Карскага. У 1893 г. па асабістай просьбе Карскі быў пераведзены ў Варшаўскі універсітэт выкладчыкам рускай мовы. Тут ён ужо к канцу года абараніў магістэрскую дысертацыю, якая складалася з дзвюх частак ("Агляд гукаў і форм беларускай мовы" і "Да гісторыі гукаў і форм беларускай мовы"). У наступным годзе Рускае геаграфічнае таварыства за гэту працу прысудзіла Карскаму залаты медаль[98].

У чэрвені 1894 г. Карскі быў назначаны экстраардынарным прафесарам Варшаўскага універсітэта, а ў 1896 г. абараніў доктарскую дысертацыю ("Заходнерускія пераклады XV—XVII стст."). Са снежня 1902 г. ён стаў дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта, а з верасня 1905 г. — рэктарам Варшаўскага універсітэта. У 1910 г. у знак пратэсту супраць рэакцыйнай палітыкі міністра Касо Карскі выйшаў у адстаўку і працаваў тут жа пазаштатным прафесарам. У 1915 г. у сувязі з першай імперыялістычнай вайной ён разам з універсітэтам эвакуіраваўся ў Растоў-на-Доне, а праз год пераехаў у Петраград, дзе з невялікім перапынкам працаваў да апошніх дзён свайго жыцця ў Акадэміі навук і універсітэце[99].



52. Фармулярны спісак аб службе Я. Ф. Карскага

За вялікія навуковыя заслугі Я. Ф. Карскі быў абраны акадэмікам Акадэміі навук СССР, правадзейным членам Чэшскай акадэміі навук, членам ці ганаровым членам буйнейшых навуковых таварыстваў нашай краіны (Геаграфічнае таварыства, Таварыства пісьменнасці і мастацтва і інш.).

Цікавасць да вывучэння быту і культуры беларускага народа ў Я. Ф. Карска-

[97] Архіў РАН, ф. 752, воп. 1, № 344, л. 29—30.

[98] Адзначым, што ў далейшым Я. Ф. Карскаму за навуковыя працы неаднаразова прысуджаліся прэміі і медалі (у 1898, 1902, 1910 гг. ён атрымаў прэміі і медалі П. М. Бацюшкава, у 1901 г. — Малую Ламаносаўскую прэмію).

[99] Архіў РАН, ф. 752, воп. 1, № 44, л. 29—30.

рскага прабудзілася вельмі рана. Ужо ў год паступлення ў Нежынскі інстытут Карскі знаёміцца з беларускімі фальклорна-этнаграфічнымі зборнікамі і прыступае да збірання матэрыялаў па беларускай мове і вуснапаэтычнай творчасці.

Будучы студэнтам Нежынскага інстытута, Карскі друкуе першую сваю працу — "Беларускія песні с. Бярозавец Навагрудскага павета Мінскай губерні"[100]. Гэта публікацыя налічвала 59 песень, запіс якіх быў зроблены з захаваннем асаблівасцей беларускай мовы.

Збіраннем і публікацыяй фальклору Карскі займаўся, будучы настаўнікам гімназіі і прафесарам універсітэта. У 1889 г. ён апублікаваў яшчэ 24 тэксты беларускіх песень вёскі Навасёлкі-Затрокскія Віленскай губерні[101], а ў 1897—1907 гг. па складзенай ім разам з іншымі беларускімі этнографамі "Праграме для збірання асаблівасцей беларускай гаворкі" Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук было надрукавана пяць выпускаў "Матэрыялаў для вывучэння беларускай гаворкі"[102].

Першыя фальклорна-этнаграфічныя працы Карскага звярнулі на сябе ўвагу вучоных. "На Вашы працы, — пісаў П. В. Шэйн з Пецярбурга Я. Ф. Карскаму, — спасылаюцца ва універсітэтах на публічных абаронах дысертацый, як гэта нядаўна было на дыспуце п. Уладзімірава ў тутэйшым універсітэце". У гэтым жа пісьме Шэйн прасіў яго аб прысылцы апісання пахавальных і памінальных абрадаў і запісаў галашэнняў з вёсак Бярозава і Ярэмічы: "Вы б мне аказалі і двайную паслугу: па-першае, папоўнілі колькі-небудзь прыкметную абяднеласць названых аддзелаў, па-другое, даставілі добрыя фальклорныя ўзоры мясцовай гаворкі... якая Вам добра знаёма... Асабістыя Вашы запісы сталі б выдатным пробным каменем для іх праверкі"[103].

Паралельна са збіраннем фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Карскі займаецца і навуковым аналізам. Як заснавальніка беларускай філалагічнай навукі Карскага ў першую чаргу цікавілі пытанні паходжання і развіцця беларускай мовы. З гэтага пункту погляду ён вывучаў і вуснапаэтычную творчасць і быт беларускага народа. Аднак як вучоны з шырокім кругаглядам Карскі не мог не звярнуць увагі на тыя пытанні быту і культуры народа, якія былі блізка звязаны з праблемамі беларускай філалогіі. Гэта ў першую чаргу праблемы паходжання беларускай народнасці, этнічнай тэрыторыі і этнаграфічных граніц Беларусі, а ў далейшым аналіз важнейшых момантаў духоўнай культуры народа, яго сямейнага і грамадскага быту. У выніку побач з вучоным-філолагам у асобе Карскага вырастала і магутная фігура даследчыка быту і культуры свайго народа. Ён першы сярод беларускіх вучоных так глыбока зазірнуў як у этнагенетычныя працэсы, так і ў асноўныя этнакультурныя з'явы беларускага народа.

Вынікі сваёй шматгадовай працы ў галіне беларускай лінгвістыкі, этнаграфіі і фалькларыстыкі Карскі апублікаваў у трохтомніку "Беларусы"[104], які

[100] РФВ. 1884. Т. XII; 1885. Т. XIII.

[101] Карский Е. Ф. Белорусские песни деревни Новоселки-Затрокские Виленской губернии Трокского уезда // РФВ. 1889. Т. XXI.

[102] Асобныя адбіткі: СПб., 1897. Вып. I; 1898. Вып. II; 1900. Вып. III; 1903. Вып. IV; 1907. Вып. V.

[103] Архіў РАН, ф. 292, воп. 2, № 157, л. 4—6.

[104] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903; Вильна, 1904; Т. II. Язык белорусского племени. 1. Исторический очерк звуков белорусского наречия. Варшава, 1908; 2. Исторический очерк словообразования и словоизменения в белорусском наречии. Варшава, 1911; 3. Очерки синтаксиса белорусского наречия. Дополнения и поправки. Варшава, 1912; Т. III. Очерки словесности белорусского племени. 1. Народная поэзия. М., 1916; 2. Старая западнорусская письменность. Пг., 1922; 3. Художественная литература на родном языке. Пг., 1922.

складаецца з сямі кніг. У гэтай капітальнай працы ён упершыню ў гісторыі беларускай культуры абагульніў, прывёў у пэўную сістэму вялікі, але разрознены фактычны матэрыял і паклаў пачатак навуковай філалогіі і этнаграфіі.

Распачынаючы працу над "Беларусамі", Карскі меў намер зрабіць дапаможнік для вывучэння беларускай гаворкі і народнай паэзіі. Разам з тым ён лічыў сваю кніжку карыснай і для тых, хто займаецца этнаграфічным вывучэннем Беларусі. "Быт беларуса, — піша ён, — пры ўсёй яго нескладанасці дае шмат перажыткаў глыбокай старасветчыны не толькі агульнарускай, але і агульнаславянскай. І гісторык народнага жыцця і юрыст знойдуць тут для сябе многа каштоўных і цікавых асаблівасцей"[105].

Паходжанню беларускай народнасці і яе гісторыі Карскі прысвяціў шэсць з дзевяці раздзелаў першага тома і частку першага выпуску трэцяга тома "Беларусаў".

Этнагенетычнае даследаванне Беларусі Карскі пачынае з часоў першабытнаабшчыннага ладу. Для гэтага ён у першую чаргу вывучае старажытныя крыніцы аб насельніках Беларусі ў працах Герадота, Тацыта, Пталамея, Канстанціна Багранароднага, а таксама летапісы.

Разглядаючы старажытны і пазнейшыя перыяды этнагенезу беларусаў, Карскі робіць вывад, што "рускія (усходнеславянскія. — *В. Б.*) плямёны, якія ляглі ў аснову беларускай народнасці, унаследавалі яшчэ ў часы дагістарычныя, што папярэднічалі прыняццю хрысціянства, той запас ведаў і наогул культурны ўзровень, які развіваўся ва ўсіх славян у час іх агульнага жыцця, з другога боку — на іх долю дасталіся і тыя культурныя каштоўнасці, якія былі здабыты ў час агульнага жыцця ўсіх рускіх славян"[106]. На падставе гістарычных крыніц Карскі выдзяляе з культурнай спадчыны праіндаеўрапейскага і праславянскага перыядаў тыя элементы культуры, якія сталі здабыткам усходнеславянскіх плямёнаў, што жылі на тэрыторыі Беларусі. Ён разглядае старажытны матэрыяльны быт, сямейныя адносіны, грамадскі лад і рэлігію.

Асаблівую цікавасць маюць даследаванні пытанняў узнікнення рэлігійнага светапогляду. Нельга не адзначыць, што пры гэтым Карскі стаіць на матэрыялістычных пазіцыях і прытрымліваецца анімістычнай тэорыі паходжання рэлігіі. Ён піша: "Яшчэ ў часы агульнага жыцця з іншымі індаеўрапейцамі рускія, як частка славянскага племя, перажылі першапачатковую стадыю ў развіцці рэлігіі — пакланенне перад сіламі і з'явамі прыроды, асабліва перад грознымі. Уяўленне сіл прыроды як нечага жывога, якое пачалося ў тую ж эпоху, асабліва развілося ў час агульнаславянскага жыцця... Славянін, як і ўсякі іншы чалавек, які знаходзіцца на ніжэйшай ступені развіцця, па аналогіі і з уласнай прыродай надзяляў душою і ўсе прадметы і з'явы акаляючага яго знешняга свету. Гэты анімізм распаўсюдзіўся рашуча на ўсю прыроду неадухоўленую (каменні, расліны, ручайкі, ваду, зямлю)"[107].

Падводзячы вынікі сваім развежанням, Карскі, нарэшце, робіць вывад, што ў аснове язычніцкай рэлігіі рускіх славян ляжаць адухаўленне і абагаўленне прадметаў, сіл і з'яў прыроды, а таксама культ продкаў.

Не менш каштоўныя і выказванні Карскага адносна ўзнікнення і развіцця

[105] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I. С. IV.

[106] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III, вып. 1. С. 3—4.

[107] Там жа. С. 29—30.

народнай паэзіі. Ён правільна лічыць, што вуснапаэтычная творчасць народа зарадзілася яшчэ ў глыбокай старажытнасці разам з мовай; моцна прасунулася яна ў агульнаславянскую эпоху, калі ўжо ясна выявіліся шматлікія сюжэты і тэмы, якія існуюць у ёй да гэтай пары. Адзначаючы ўплыў хрысціянства на народную паэзію, Карскі падкрэслівае, што вялікую ролю ў развіцці вуснапаэтычнай творчасці адыгралі палітычныя падзеі і эканамічныя змены ў жыцці народа.

Побач з пісьмовымі крыніцамі Карскі лічыць важнымі пры этнагенетычных даследаваннях даныя мовы, этнаграфіі і археалогіі. Аднак, на думку Карскага, звесткі, "якія даюцца матэрыяльнай археалогіяй (могільнікамі, гарадзішчамі — рознымі прадметамі, якія раскопваюцца ў іх), а таксама народным бытам і павер'ямі (пабудова жылля, прыгатаванне адзення і ежы, размеркаванне работ, абрады пры нараджэнні, вяселлях, пахаваннях, святы і да таго падобнае), пры сучасным стане навукі яшчэ не могуць лічыцца поўнасцю надзейнымі для меркавання аб старажытнейшым быце, таму што многае ў іх магло ўзнікнуць у параўнальна новы час". Таму на першае месца ён ставіць даныя мовы, далей якой "не прасціраецца ні адна крыніца"[108].

Прарадзімай славян Карскі, як і некаторыя іншыя вучоныя, лічыць Палессе (басейны Прыпяці, верхняга Нёмана і ніжняй Бярэзіны), пацвярджаючы гэты вывад тапанімічнымі данымі і ў першую чаргу назвамі дрэў, якія растуць на Палессі і якія вядомы ўсім славянам.

Звяртаючыся да перыяду, калі ўсходнія славяне выдзеліліся ў асобную групу, і да часоў Старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве, Карскі адзначае вялікія зрухі ў развіцці культуры, асабліва ў перыяд росквіту Кіеўскай Русі. На яго думку, культурны ўздым усходніх славян у гэту эпоху тлумачыцца з'яўленнем моцнай княжацкай улады і пранікненнем хрысціянскіх ідэй. Аднак Карскі даваў даволі спрошчанае тлумачэнне гэтых з'яў. Ён на першы план выстаўляў не сацыяльна-эканамічныя і палітычныя фактары жыцця народа, а суб'ектыўныя. "Княжацкае жыццё, — піша Карскі, — зрабіла такое моцнае ўражанне на народ, што ён усе абставіны гэтага жыцця выстаўляў як ідэал шчасця. У адным відзе старажытных абрадавых песень, якімі з'яўляюцца вясельныя, усюды паказваюцца абставіны княжацкія: жаніх заўсёды называецца князем, а нявеста — княгіняй. У жаніха ёсць дружына, тое ж і ў нявесты — дружкі. У той і другой дружыне ёсць баяры, баяркі, падбаяры. Апранаюцца яны, па народных песнях, па-княжацку"[109]. Зразумела, што пры вызначэнні прычын культурнага развіцця народа на першы план трэба ставіць не акалічнасці пераймання, а ўнутраныя працэсы развіцця грамадства на пэўным гістарычным адрэзку часу.

Наступны пасля распаду Старажытнарускай дзяржавы перыяд Карскі правільна характарызуе як час утварэння рускай, украінскай і беларускай народнасцей. Ён у асноўным правільна вызначае час фарміравання беларускай народнасці: XIII—XV стст. Абапіраючыся на лінгвістычныя, гістарычныя, археалагічныя і антрапалагічныя даныя, ён прыходзіць да вываду, што беларусы з'яўляюцца "аўтахтонамі ў сваёй краіне: у большасці сваёй яны сядзяць на прарускай і праславянскай тэрыторыі"[110]. Разам з тым ён адзначае, што "на паўночным захадзе яны (беларусы. — *В. Б.*) сям-там прасунуліся ў вобласць латышоў і літоўцаў"[111].

[108] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III, вып. 1. С. 6.

[109] Там жа. С. 25.

[110] Там жа. Т. I. С. 80.

[111] Там жа.

Сцвярджэнне Карскага аб тым, што беларуская народнасць склалася непасрэдна са старарускіх плямёнаў — дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў, не падтрымана сучаснай навукай, але разам з тым ён здолеў паказваць, што яшчэ да перыяду фарміравання беларускай народнасці працякалі працэсы збліжэння паміж усходнеславянскімі плямёнамі і асіміляцыя адных з другімі, у выніку чаго разбуралася племянная замкнёнасць. Аналагічныя працэсы адбываліся ва ўзаемаадносінах паміж усходнеславянскімі плямёнамі і суседнімі плямёнамі як неславянскага, так і славянскага паходжання. Карскі адзначае: "Магчыма, што ў некаторых месцах беларусы асімілявалі сабе севяран, вяцічаў і нават некаторыя літоўскія плямёны, напрыклад яцвягаў і голядзь"[112]. Аднак пры гэтым ён амаль не звяртае ўвагі на тую важную акалічнасць, што фарміраванню беларускай народнасці папярэднічала агульнарускае адзінства ўсходнеславянскіх плямёнаў, племянная замкнёнасць якіх была размыта ўжо ў перыяд існавання Старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве.

Такім чынам, беларуская народнасць склалася не з першасных усходнеславянскіх плямёнаў, а прайшла стадыю старажытнарускай народнасці. Гэты важны момант Карскі не змог паказаць ва ўсёй яго паўнаце. Аднак у параўнанні з існуючымі ў той час тэорыямі паходжання рускай, беларускай і ўкраінскай народнасцей Карскі зрабіў значны крок наперад.

Пачатак літоўскага панавання Карскі акрэслівае як перыяд утварэння беларускай народнасці і яе мовы. Пад уплывам больш высокай культуры ўсходніх славян літоўскія князі вымушаны былі карыстацца іх мовай. "Беларуская гаворка канчаткова перамагла мову літоўскую, стаўшы не толькі гутарковай мовай у рускіх (беларусаў. — *В. Б.*), але і афіцыйнай у літоўцаў. Нават просты літоўскі народ запазычвае з яе шмат слоў, некаторыя суфіксы і нават фанетычныя асаблівасці"[113]. І пазней, калі Літва разам з Беларуссю падпала пад уладу Польшчы, "перамагаючая сіла ўсё ж заставалася за мовай беларускай".

Карскі падкрэслівае, што панаванне Літвы і асабліва Польшчы ў Беларусі не змагло заглушыць у беларускім народзе пачуцця роднасці з рускім народам. "Духоўныя сувязі, а іншы раз і знешнія адносіны хоць і ў слабай ступені, але падтрымліваліся. Аб узаемнай роднасці напаміналі нават, як гэта ні дзіўна, войны... З самага ж пачатку ўтварэння Літоўскай дзяржавы сюды нярэдка накіроўваліся рускія перасяленцы..."[114]

Адзначым, што этнагенетычная тэорыя Я. Ф. Карскага лягла ў аснову пазнейшых даследаванняў праблемы паходжання беларускай народнасці (У. І. Пічэта, А. П. П'янкоў і інш.).

Пэўную каштоўнасць маюць і звесткі Карскага аб межах рассялення беларусаў. Першая спроба вызначэння этнаграфічных межаў беларусаў была зроблена Карскім ужо ў пачатку яго дзейнасці ў працы "Агляд гукаў і форм беларускай мовы" (1885). Будучы выкладчыкам Віленскай гімназіі, Карскі выязджаў у розныя месцы Беларусі для вывучэння мясцовых гаворак, а пазней зрабіў спецыяльныя паездкі ў заходнюю частку Гродзенскай губерні (1899) і ў Аўгустоўскі павет Сувалкаўскай губерні (1901) для вызначэння этнаграфічных межаў беларусаў. На падставе сабраных матэрыялаў ён у 1902 г. напісаў артыкул

---

[112] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I. С. 80.

[113] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I. С. 123—124.

[114] Там жа. С. 181—182.

“Да пытання аб этнаграфічнай карце беларускага племені”[115].

У 1903 г. Карскі на сродкі Акадэміі навук аб’ехаў межы распаўсюджання беларускіх гаворак, што дало яму магчымасць змясціць у першым томе “Беларусаў” “Этнаграфічную карту беларускага племені”. З невялікімі папраўкамі гэта карта была надрукавана ў 1917 г.

Этнаграфічная карта, складзеная Карскім па моўных прызнаках, мела вялікія недакладнасці. “Абведзеная ніжэй вобласць, — пісаў сам Карскі, — хутчэй належыць беларускай мове, чым племені”[116]. З прычыны таго што ў аснову прынцыпаў складання карты Карскім былі пакладзены толькі некаторыя моўныя прызнакі, значная тэрыторыя паўднёва-заходняй часткі Беларусі была аднесена да Украіны, а ўсходнія межы адсунуты за Смаленск да лініі Ржэў—Бранск—Ноўгарад-Северскі, больш дакладна былі вызначаны заходнія межы Беларусі.

Многа зроблена Карскім у навуковым аналізе этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў. Да канца XIX ст. у Беларусі былі сабраны дзесяткі тамоў фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, якія чакалі сваіх даследчыкаў, патрабавалі абагульненняў. Ужо ў 1897 г. Карскі ставіў перад вучонымі задачу: “Час прыступіць да розных тэарэтычных вывадаў у гэтай галіне”.

Навуковаму аналізу фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў прысвечаны амаль увесь першы выпуск трэцяга тома “Беларусаў”. У сваім аналізе фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Карскі не закранае матэрыяльнай культуры народа (калі не лічыць некаторых заўваг па найстаражытных перыядах). У гэтым выявіўся агульны недахоп этнаграфічнай навукі ў дарэвалюцыйны час. Затое ён падрабязна разглядае духоўную культуру беларускага народа.

Карскі паказвае, што вуснапаэтычная творчасць народа зарадзілася ў глыбокай старажытнасці разам з мовай і прайшла доўгі шлях развіцця. У процівагу міфолагам, якія лічылі сучасную ім народную творчасць рэшткамі ўзвышаных паэтычных поглядаў людзей старажытнага перыяду, Карскі гаворыць аб эвалюцыі яе ад ніжэйшых форм да вышэйшых. У агульнаславянскую эпоху, адзначае ён, вусная паэзія атрымала далейшае развіццё, “ужо ясна вызначаліся многія сюжэты і тэмы, якія існуюць у ёй да гэтага часу. Далейшае жыццё народа пасля прыняцця хрысціянства ўзбагацілася новым зместам, які паступова імкнецца выціснуць ранейшы светапогляд. Спачатку хрысціянскія ідэі слаба пранікаюць у народную масу, затым яны доўга ўжываюцца разам з язычніцтвам і толькі ў рэшце рэшт атрымліваюць верх (і то не заўсёды) над язычніцтвам”[117].

Даследчык падкрэслівае, што на развіццё фальклору вялікі ўплыў аказвалі змены, якія адбываліся ў працэсе гістарычнага развіцця беларускага народа. Таму ў творах вуснай народнай паэзіі, якія захаваліся да нашага часу, патрэбна адрозніваць старое і новае, першапачатковыя асновы і пазнейшыя напластаванні.

Пры аналізе асобных жанраў беларускага фальклору найбольш старажытнымі Карскі лічыў замовы. Чалавек перш за ўсё сутыкаўся з рознага роду з’явамі і сіламі прыроды і імкнуўся выкарыстаць іх у сваіх мэтах. Узнікненне першапачатковых замоў адносіцца да

[115] Артыкул быў амаль адначасова надрукаваны ў “Гродненских губернских ведомостях” (№ 17). “Могилевских губернских ведомостях” (№ 89) і найбольш поўны варыянт у “Известиях ОРЯС”. 1902. Т. VII, кн. 3. С. 219—234.

[116] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. I. С. 4.

[117] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III, вып. 1. С. 45.

глыбокай старажытнасці, да таго часу, калі першабытны чалавек глядзеў на ўсю прыроду так, як і на сябе, лічачы яе жывою, разумна дзейнічаючай. Не аддзяляючы сябе ад прыроды, ён лічыў натуральным умешвацца ў яе дзеянне, станавіцца на бок светлых сіл у барацьбе з цёмнымі. Для гэтага ён выкарыстоўваў розныя сродкі: слова, якое ён абагаўляў і лічыў "прадметам адчувальным, матэрыяльным", магічныя дзеянні, пры дапамозе якіх разлічваў выклікаць ці спыніць тое ці іншае дзеянне прыроды, і інш. "Першабытны чалавек, — пісаў Карскі, — жадаючы, напрыклад, выклікаць вядомую нябесную з'яву, рабіў падобнае на зямлі. Так, у час засухі стараўся "адкрыць ваду", г. зн. выкапаць крыніцу на зямлі, мяркуючы, што гэтым самым адкрыецца вада і на небе"[118].

На падставе вывучэння замоў Карскі дае азначэнне гэтага жанру народнай творчасці: замовы — гэта выражанае словамі пажаданне, часта падмацаванае абрадам і дзеяннямі, а таксама пажаданнем, якое абавязкова павінна здзейсніцца. Спачатку замовамі карысталіся ўсе члены племені, а пазней у асноўным знахары і ведзьмары. Рудыменты гэтай з'явы існуюць і сёння.

Карскі паказвае і далейшы лёс замоў. Напрыклад, з увядзеннем хрысціянства замовы як адзін з атрыбутаў язычніцкай рэлігіі не толькі захаваліся ў барацьбе з хрысціянствам, хоць і былі ў значнай ступені ахрысціянізаваны, але і сталі ўзнікаць новыя "ўжо ў чыста хрысціянскім і наогул біблейскім духу; прычым асновай для іх паслужылі розныя апакрыфічныя сказанні аб святых і іх цудах". Таму, зазначае даследчык, цяжка выявіць, якія з замоў узніклі ў старажытнасці, а якія ў хрысціянскі перыяд. "Толькі параўнальнае вывучэнне кожнай асобнай замовы магло б некалькі асвятліць гэта цьмянае пытанне"[119]. Аналізуючы спробы вывучэння замоў, Карскі засцерагае даследчыкаў ад памылак, якія рабіліся пры вывучэнні замоў прадстаўнікамі міфалагічнай школы, і ў прыватнасці Афанасьевым.

Пэўную цікавасць мае і класіфікацыя замоў, прынятая Карскім. Усе замовы ён падзяляе на 8 груп: 1) каханне, 2) шлюб, 3) здароўе і хваробы, 4) уласны быт чалавека, 5) промыслы і заняткі, 6) грамадскія адносіны, 7) адносіны да прыроды, 8) адносіны да звышнатуральных сіл. Зразумела, гэту класіфікацыю нельга лічыць дасканалай, але ў ёй намечаны асноўныя прынцыпы класіфікацыі замоў.

Блізкімі да замоў Карскі зусім правільна лічыць рознага роду забабоны, вераванні, прыкметы, абярэгі, магічныя абрады, якія ў той час яшчэ шырока бытавалі ў народзе. Гэты матэрыял пэўным чынам дапамагае высветліць сутнасць і паходжанне замоў.

Блізкімі да замоў Карскі лічыць абрады і абрадавыя песні. Абрадавыя песні ён ставіць у залежнасць ад абраду. У сувязі з гэтым значнае месца аддае высвятленню паходжання і сутнасці самога абраду. Карскі падкрэслівае, што абрады ўзніклі, як наогул першабытная рэлігія, у выніку пакланення чалавека сілам прыроды. Далей ён паказвае, што з увядзеннем хрысціянства многія язычніцкія абрады пачалі губляць сваё першапачатковае значэнне і сутнасць і нярэдка ператвараліся ў простыя звычаі. Пэўная частка найбольш значных язычніцкіх свят была прыўрочана да хрысціянскіх: Каляды — да нараджэння Хрыста, Купала — да дня Іаана Хрысціцеля (24 чэрвеня), вясеннія святы (Вялікдзень, Сёмуха) — да Пасхі і Тройцы.

[118] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. вып. 1. С. 59.

[119] Там жа. С. 68.

Пасля распаду Старажытнарускай дзяржавы і ў працэсе фарміравання рускай, украінскай і беларускай народнасцей абрады і святы ва ўсходніх славян развіваліся па-рознаму ў залежнасці ад канкрэтных сацыяльна-палітычных умоў. На працягу стагоддзяў скలаліся спецыфічныя рысы абрадавага быту ў кожным з усходнеславянскіх народаў. Карскі выяўляе наступныя адрозненні ў вераваннях рускіх, украінцаў і беларусаў: "Велікарускае племя ведае мала калядак, у той час як маларусы і часткова беларусы маюць іх багата. Песень купальскіх амаль няма ў велікарусаў; не такія паэтычныя ў іх і вяснянкі, як у маларусаў і беларусаў, але ў апошніх няма старын ("былін")".

Усе абрады і абрадавыя песні Карскі падзяляе на дзве вялікія групы: 1) песні і абрады, якія прыўрочаны да розных язычніцкіх свят; 2) песні, якія суправаджаюць розныя падзеі ў жыцці чалавека. Некалькі ўдакладненая гэта класіфікацыя існуе і сёння: першая група — каляндарныя, а другая — сямейныя песні і абрады.

Пры аналізе генезісу абрадаў і свят Карскі па-свойму ўлічвае і сацыяльныя адрозненні. Ён прымае ў разлік "разнастайнасць жыцця розных пластоў грамадства, асабліва вышэйшага і ніжэйшага, і ўплыў на ніжэйшы клас у забавах вышэйшага класа, які многае запазычыў у іншых народаў..." Праўда, у апошнім Карскі раіць быць асцярожным, "каб не бачыць... запазычанае там, дзе толькі выпадковае супадзенне, якое тлумачыцца або дагістарычнай блізкасцю народаў, або агульнасцю псіхічных прыёмаў народнай творчасці"[120].

Абрадавыя песні, адзначае Карскі, суправаджалі абрады, дапаўнялі і тлумачылі іх. Разам з тым яны давалі "багаты матэрыял і для характарыстыкі народнага быту".

Даволі падрабязна Карскі аналізуе пазаабрадавыя песні, прымаўкі і прыказкі, загадкі, казкі, апавяданні і легенды, духоўныя вершы. Ён падкрэслівае значэнне фальклору для вывучэння быту народа. Так, унутраны змест бытавых песень дае каштоўныя звесткі для характарыстыкі сямейных адносін, адносін паміж рознымі сацыяльнымі групамі насельніцтва, грамадскіх адносін, адносін да дзяржаўных павіннасцей і г. д. Асобна разглядае Карскі прымаўкі і прыказкі. Даследчык звяртае ўвагу на тое, што яны не толькі адлюстроўвалі сабою народную мудрасць, але і паказвалі "ўнутраныя і знешнія ўмовы беларускага жыцця, іх прыроду, норавы, паняцці, быт"[121].

Асабліва вялікую ўвагу Карскі ўдзяляе разгляду беларускай казкі. Ён падкрэслівае багацце казачнага эпасу беларусаў. Звяртаючыся да рознага роду тэорый паходжання народнай творчасці, у тым ліку і беларускай казкі, Карскі адзначае аднабаковы падыход да гэтага пытання прадстаўнікоў дзвюх супрацьлеглых тэорый — тэорыі самазараджэння аднатыпных сюжэтаў і тэорыі запазычання, або тэорыі "вандруючых сюжэтаў". Ён падкрэслівае, што пры разглядзе генезісу беларускай казкі нельга захапляцца адной якой-небудзь тэорыяй: патрэбны шматбаковы падыход, крытычнае выкарыстанне існуючых у навуцы меркаванняў аб узнікненні і развіцці казачных сюжэтаў. У дадзеным выпадку нельга не адзначыць дыялектычнага разумення Карскім паходжання розных з'яў жыцця народа і яго творчасці.

Дапускаючы магчымасць запазычання казачных сюжэтаў адным народам у другога, Карскі разам з тым перакананы,

[120] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III, вып. 1. С. 95.

[121] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III, вып. 1. С. 405.

што аднатыпныя сюжэты маглі ўзнікнуць з прычыны "ўнутранага падабенства чалавечай прыроды ва ўсіх народаў, у выніку чаго з'яўляецца падабенства або нават тоеснасць псіхічных працэсаў, асабліва пры аднатыпных бытавых умовах. Дзякуючы адзінству законаў чалавечага мыслення і наогул тоеснасці псіхічных працэсаў у розных народаў маглі ўзнікнуць самі сабою падобныя матывы..."[122]

Карскі ўпершыню выказвае вельмі важнае палажэнне аб нацыянальным характары казак. Незалежна ад таго, якім шляхам узнік той ці іншы сюжэт казкі, у пэўных канкрэтных умовах, "якія адпавядаюць норавам і быту дадзенага народа", казка "становіцца нацыянальным яго здабыткам".

Дыялектычнае разуменне жыцця народа прыводзіць Карскага да разумення ролі вуснапаэтычнай творчасці як сродку выхавання пэўных маральна-этычных норм народнай псіхалогіі. "Казкі, — піша ён, — як і прымаўкі, — гэта свайго роду народная мудрасць, на якую ён (народ. — *В. Б.*) спасылаецца ў сваім паўсядзённым жыцці; па казках ён нават вучыцца маральнасці. Расказваючы іх, ён жывіць бязмежны прастор народнай фантазіі, хоць у стварэнні свайго ўяўлення ўносіцца ў лепшы свет у параўнанні з цяжкаю падчас сапраўднасцю. Казкамі новымі, якія складаюцца з анекдотаў і сатырычных расказаў, ён задавальняе сваю дасціпнасць"[123].

Аднак Карскі не ўзняўся да разумення сацыяльна-палітычнай функцыі вуснапаэтычнай творчасці народа. Адлюстроўваючы сацыяльны змест вуснапаэтычнай творчасці (паказ долі жанчыны, прыгонніцтва, рэкрутчыны і інш.), ён разам з тым імкнецца пераканаць чытача, што нібыта ў беларускіх казках і легендах "сацыяльна-эканамічныя пытанні вырашаюцца.ў духу хрысціянскай любві і пакорлівасці"[124]. Трэба адзначыць і тое, што Карскі канцэнтруе ўвагу галоўным чынам на абрадавым баку вуснапаэтычнай творчасці народа, мала звяртаючы ўвагі на сацыяльна-эканамічныя і палітычныя ўмовы, у якіх жыў беларускі народ.

Тым не менш разгляд канкрэтнага матэрыялу Карскім мае вялікую каштоўнасць як першы вопыт сістэматызаванага аналізу фальклору і старажытных абрадаў беларусаў. Навуковы аналіз розных жанраў беларускага фальклору, праведзены Карскім, для свайго часу быў новым словам у навуцы. Асаблівую каштоўнасць для этнаграфічнага вывучэння Беларусі мае тое, што фальклорныя жанры Карскі разглядае ў цеснай сувязі з жыццём беларускага народа, яго культурай, з гісторыяй абрадаў, вераванняў і іншых перажыткаў старажытнага светапогляду беларусаў.

Нямала зроблена Карскім і ў галіне беларускай гістарыяграфіі. Гэтаму прысвечаны сёмы раздзел першага тома "Беларусаў" ("Нарыс вывучэння жывой беларускай мовы і народнай паэзіі"), які па сутнасці з'яўляецца і нарысам гісторыі беларускай этнаграфіі. У ім Карскі абагульніў усё тое, што было зроблена ў вывучэнні мовы, фальклору і быту беларусаў рускімі, беларускімі і польскімі вучонымі на працягу XIX ст.

---

[122] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III, вып. 1. С. 427.
[123] Там жа. С. 431.
[124] Там жа. С. 475.

# ВАЖНЕЙШЫЯ ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ ІНШЫХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ

У пачатку XX ст., акрамя прац Раманава, Карскага, Сержпутоўскага і Сербава, з'яўляецца значная колькасць публікацый па быту і культуры беларусаў іншых даследчыкаў, як агульнавядомых (П. В. Шэйн, М. Я. Нікіфароўскі, У. М. Дабравольскі, М. А. Янчук, М. В. Доўнар-Запольскі, М. Федароўскі), так і мала або зусім невядомых нашаму чытачу (М. М. Косіч, К. Т. Анікіевіч, А. М. Харузін, В. Камінскі, В. Шукевіч, П. Зубовіч, Ю. Смалінскі, У. Савіцкая, У. Янкоўскі і інш.).

Для зручнасці разгляду звядзём працы гэтых і іншых даследчыкаў у тры групы: а) агульнаэтнаграфічныя працы, у якіх закранаюцца розныя бакі быту і культуры беларусаў; б) працы па матэрыяльнай культуры; в) працы па духоўнай культуры.

Па багаццю матэрыялаў сярод агульнаэтнаграфічных прац пачатку XX ст. на першае месца трэба паставіць III том "Матэрыялаў..."[125] вядомага збіральніка рускага і беларускага фальклору П. В. Шэйна. Друкаванне гэтага тома Шэйн пачаў яшчэ ў 1893 г. Том выйшаў у свет пасля смерці складальніка. Завяршыў работу па яго апублікаванню Я. Ф. Карскі: ён адрэдагаваў апошнія старонкі тома (481—518), склаў прадметны ўказальнік і напісаў невялікую прадмову.

Матэрыялы ў томе не сістэматызаваны. Шэйн імкнуўся выдзеліць у асобныя раздзелы звесткі па матэрыяльнай, духоўнай культуры і грамадскаму быту. Аднак у сувязі з тым, што ён захаваў запісы сваіх карэспандэнтаў у тым выглядзе, у якім яны прысылаліся, а таксама з прычыны паступлення новых матэрыялаў у час друкавання, гэты прынцып яму правесці не ўдалося.

Навуковая вартасць і ідэалагічная накіраванасць "Матэрыялаў..." залежалі ад падрыхтоўкі і ідэйна-палітычных поглядаў карэспандэнтаў. Таму матэрыялы патрабуюць пры іх выкарыстанні крытычнага і кваліфікаванага падыходу.

Высокую ацэнку III тому "Матэрыялаў..." даў Я. Ф. Карскі: "Гэты том змяшчае вельмі каштоўныя этнаграфічныя матэрыялы, што датычыць народнага быту, і з'яўляецца натуральным завяршэннем папярэдніх двух тамоў (у 3 кніжках)"[126].

Сярод прац агульнаэтнаграфічнага зместу вялікую цікавасць мае IX том папулярнага выдання "Расія"[127], якое выходзіла пад рэдакцыяй В. П. Сяменава. Гэта "настольная і дарожная кніга рускіх людзей" змяшчае абагульняючыя звесткі аб геаграфічных, геалагічных і кліматычных умовах Беларусі, дае характарыстыку насельніцтва, заняткаў, эканомікі, шляхоў зносін і буйнейшых населеных пунктаў.

Гісторыка-этнаграфічныя раздзелы працы напісаны М. В. Доўнар-Запольскім і Д. З. Шэндрыкам. Даючы гістарычны агляд Беларусі, аўтары спрабуюць вызначыць асноўныя этапы фарміравання беларускай народнасці. Як і Я. Ф. Карскі, яны выводзяць беларускую народнасць не са старажытнарускай народнасці, а лічаць, што яна стварылася ў выніку зліцця "зямель крывічоў, полацкіх і смаленскіх, дрыгавічоў і радзімічаў", якія пасля распаду Старажытнарускай дзяржавы ўвайшлі ў склад Вялі-

[125] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1902. Т. III.

[126] Шейн П. В. Материалы. Т. III. С. III—IV.

[127] Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. IX: Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905.


РОССІЯ.
ПОЛНОЕ ГЕОГРАФИЧЕСКОЕ ОПИСА[НІЕ]
НАШЕГО ОТЕЧЕСТВА.
НАСТОЛЬНАЯ и ДОРОЖНАЯ КНИГА
ДЛЯ РУССКИХЪ ЛЮДЕЙ.
подъ редакціей
В. П. Семенова
и подъ общимъ руководствомъ
П. П. Семенова и акад. В. И. Ламанска
ТОМЪ ДЕВЯТЫЙ.
ВЕРХНЕЕ ПОДНѢПРОВЬЕ и БѢЛОРУССІЯ.
СОСТАВИЛИ:
С. ПЕТЕРБУРГЪ
Изданіе А. Ф. ДЕВРІЕНА
1905

53. Тытульны ліст кнігі В. П. Сямёнава

кага княства Літоўскага. Доўнар-Запольскі і Шэндрык правільна сцвярджаюць, што ўжо ў XV ст. можна гаварыць аб адзінай беларускай народнасці.

Характарыстыка быту і культуры беларусаў належыць Доўнар-Запольскаму. На падставе ранейшых сваіх прац, якія адносяцца да 80—90-х гадоў XIX ст., аўтар дае сціслае, але дастаткова яскравае апісанне быту беларусаў, іх жылля, сямейных адносін, абрадаў, звычаяў, вераванняў і забабонаў. Гэтыя звесткі змешчаны ў главе "Размеркаванне насельніцтва Верхняга Падняпроўя і Беларусі па тэрыторыі, яго этнаграфічны склад, быт і культура".

Звяртаючыся да агульнай характарыстыкі беларускага сялянства, даследчык адзначае, што беларус адрозніваецца "ашчаднасцю, амаль скупасцю, разважлівым вядзеннем гаспадаркі. На рабоце ён вызначаецца надзвычайнай вынослівасцю, якая так мала гарманіруе з яго фізічнай слабасцю. Ад таго беларусы — выдатныя працаўнікі на такіх цяжкіх работах, як гонка плытоў, баржаў, на земляных і маставых работах. Беларус адрозніваецца гасціннасцю, схільнасцю да весялосці і даверлівасцю, хоць яе можна і не адразу выклікаць. Адсутнасць злапомнасці ў беларуса рэзка кідаецца ў вочы ўсякаму, хто з ім сутыкаўся"[128]. Доўнар-Запольскі піша, што духоўнае жыццё беларуса багатае і цікавае. Асабліва высокую ацэнку ён дае беларускаму фальклору: "У песнях беларусаў многа прыгажосці і грацыі. Калі беларуская дзяўчына дзе-небудзь у лесе ці на паляне зацягне вяснянку, у яе песні адбіваецца радасць веснавой прыроды, ціхая радасць абуджанай вясны; любоў і пяшчота нястрымна льюцца ў голасе спявачкі. Гэта — гімн вясне. У полі ў час жніва чуецца ціхая, сумная мелодыя, здольная выклікаць шчырыя слёзы: гэта маладуха аплаквае свой горкі лёс"[129]. Даволі падрабязна Доўнар-Запольскі апісвае сямейны быт, абрады і вераванні беларускага сялянства, характарызуе звычаёвае, сямейнае права, становішча жанчыны ў сям'і, асобна вывучае пытанні шлюбу і вяселля. Паказваючы адносіны селяніна да абраду вянчання, Доўнар-Запольскі падкрэслівае, што яно мае другараднае значэнне. "У вачах сялян актам, які замацоўвае шлюб, з'яўляецца ўся працэдура вясельнага рытуалу"[130].

Доўнар-Запольскі адзначае павелічэнне раздзелаў сем'яў, прычыну якіх ён правільна бачыць "не ў змене звычаёва-прававых поглядаў сялянства, а ў тых эканамічных умовах, у якія яно пастаў-

---

[128] Россия. С. 156.
[129] Там жа. С. 189.
[130] Там жа. С. 153.

лена". Аднак нельга згадзіцца з Доўнар-Запольскім, калі ён заяўляе, што пануючай формай сям'і ў беларусаў пачатку XX ст. была вялікая сям'я, "г. зн. такая, якую складаюць бацька з жанатымі сынамі ці замужнімі дочкамі, ці сямейная абшчына, г. зн. сям'я, якая складаецца з нераздзеленых братоў, дзядзькоў з пляменнікамі, здольнікаў і інш."[131] Вядома, што ўжо па перапісу 1897 г. пераважаючай у Беларусі была так званая малая сям'я, якая склалася ў выніку капіталістычных пераўтварэнняў у вёсцы. Сярэдняя колькасць яе складала 5—7 чалавек.

Вялікія памылкі дапусцілі Доўнар-Запольскі і Шэндрык пры вызначэнні этнаграфічных межаў беларусаў. Іх карта была складзена на падставе этнаграфічных карт Карскага і Рыціха. У новую карту былі перанесены памылкі Рыціха, які пры вызначэнні нацыянальнага складу насельніцтва Расіі кіраваўся прыкметай веравызнання (беларусаў-католікаў Рыціх адносіў да палякаў), а таксама памылкі Карскага, які да беларускіх адносіў сумежныя тэрыторыі рускіх, у мове якіх мелі месца некаторыя асаблівасці беларускіх гаворак. Такое няўдалае спалучэнне гэтых дзвюх прыкмет (моўнай і веравызнання) прывяло да таго, што Доўнар-Запольскі і Шэндрык выключылі са складу Беларусі ўсю Гродзенскую губерню, а на ўсходзе і поўначы межы Беларусі адсунулі на тэрыторыю рускага насельніцтва. На поўдні ж Беларусі тэрыторыю Пінскага і Мазырскага Палесся яны аднеслі да Украіны. Такім чынам, этнаграфічная карта, змешчаная ў IX томе "Расіі", у параўнанні з існуючымі ў той час картамі ўносіла блытаніну ў пытанне аб этнаграфічных межах Беларусі.

Звесткі па быце беларускага народа ёсць таксама ў раздзеле "Промыслы і заняткі насельніцтва" (напісаны Д. З. Шэндрыкам) і часткова ў раздзеле "Шляхі зносін" (напісаны А. П. Сапуновым і Д. З. Шэндрыкам). У абодвух раздзелах даецца характарыстыка асноўных заняткаў насельніцтва — жывёлагадоўлі, розных промыслаў і рамёстваў, транспартных сродкаў. Пэўнае месца адводзіцца апісанню прылад працы, спосабаў вядзення гаспадаркі, прамысловых заняткаў і інш.

У цэлым фактычны матэрыял IX тома "Расіі" не страціў сваёй каштоўнасці і ў нашы дні.

З іншых агульнаэтнаграфічных прац пачатку XX ст. заслугоўвае ўвагі "Сенненскі павет Магілёўскай губерні" К. Т. Анікіевіча, народнага настаўніка, былога вучня і пастаяннага карэспандэнта Е. Р. Раманава па "Беларускаму зборніку". У апошняга ён прайшоў школу этнографа-збіральніка. Пры непасрэдным садзейнічанні і дапамозе Раманава была напісана гэта праца.

У параўнальна невялікай працы Анікіевіч спрабуе даць усебаковую характарыстыку Сенненшчыны — геаграфічную, гістарычную, эканамічную і этнаграфічную. "Хто не хоча ведаць сваёй айчыны, той не заслугоўвае называцца яе сынам", — такі дэвіз кнігі Анікіевіча.

Этнаграфічныя матэрыялы згрупаваны аўтарам у трэцім раздзеле кнігі. Анікіевіч прыводзіць падрабязныя звесткі аб колькасці насельніцтва павета па саслоўнаму складу, веравызнанню і нацыянальнаму прызнаку, а таксама каратка апісвае жыллё, адзенне, сямейны і грамадскі быт сялян. Характарызуючы пасяленні і жыллё, ён выдзяляе наступныя іх тыпы: горад, слабада, фальварак, сяло, вёска, пасёлак, аколіца, хутар, выселак, засценак, пасад і інш. Аўтар паказвае і змены, якія адбыліся ў развіцці жылля. Ён сцвярджае, што ў пачатку XX ст. у павеце курныя хаты амаль знік-

[131] Россия. С. 147.


СѢННЕНСКІЙ УѢЗДЪ

Могилевской губерніи

Опытъ описанія въ географическомъ, историческомъ, этнографическомъ, бытовомъ, промышленномъ и статистическомъ отношеніяхъ, съ картою уѣзда, схемою двухъ озеръ и рисунками въ текстѣ.

Изданіе Могилевскаго Губернскаго Статистическаго Комитета

133
113
скаго озеръ 30
119

МОГИЛЕВЪ ГУБ
Губернская Типограф
1907.

54. Тытульны ліст кнігі К. Т. Анікіевіча

лі, пачалі з'яўляцца каменныя фундаменты, а ў больш заможных сялян саламяныя пакрыцці, хоць і ў рэдкіх выпадках, ужо сталі замяняцца драніцай. Значныя змены адзначае аўтар у адзенні беларусаў. "Арыгінальнага пакрою белага армяка, — піша ён, — абшытага чырвонымі і сінімі шнурочкамі — "ірхамі", ужо няма ў павеце, яго замяніў армяк са свайго ж сукна, але ўжо шэрага колеру з вялікім адкладным каўняром... Кажух цяпер усюды жоўтага колеру замест былога белага"[132]. Анікіевіч адзначае, што ў сялянскі быт усё больш пранікаюць фабрычныя вырабы.

Звяртаючыся да пытанняў сямейнага быту, Анікіевіч не змог раскрыць сапраўдных прычын збяднення сялян. Драбленне зямельных участкаў, у сувязі з раздзеламі вялікіх сем'яў, на яго погляд, з'яўлялася галоўнай прычынай заняпаду сельскай гаспадаркі. З сямейных абрадаў даследчык закранае толькі абрады, звязаныя з нараджэннем дзіцяці і вяселлем. Пры гэтым ён заўважае значныя змены ў вясельных абрадах. Многія абрады адышлі ў нябыт ці былі уніфікаваны.

Больш падрабязна аўтар спыняецца на характарыстыцы заняткаў і эканомікі сялян Сенненскага павета. Ён адзначае, што земляробства ў павеце з'яўляецца пераважаючым, аднак яно "стаіць на нізкай ступені развіцця", і сялянскія надзелы ў многіх выпадках не могуць задаволіць патрэбы сям'і, асабліва пры сучасных спосабах вядзення гаспадаркі. Таму сяляне вымушаны "шукаць сабе пабочных заняткаў, працаваць на фабрыках і заводах, займацца рознымі промысламі". Такім чынам, ён спачувае селяніну, аднак выйсце са склаўшагася становішча бачыць у павышэнні адукацыі народа і ў правядзенні зямельных рэформ у рамках існуючага ладу.

К. Т. Анікіевіч прыхільна ставіцца да народа. "Тутэйшы беларус, — піша ён, — адрозніваецца многімі сімпатычнымі рысамі ў характары"[133]. Селянін сумленны, працавіты, кемлівы і здольны. "Селянскія дзеці ў школах робяць добрыя поспехі, нягледзячы на неспрыяльныя хатнія ўмовы"[134].

Значную цікавасць мае артыкул М. М. Косіч "Ліцвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх быт і норавы", у якім разглядаюцца розныя бакі быту і культу-

[132] Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907. С. 106.

[133] Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. С. 108.

[134] Там жа. С. 109.

ры беларусаў Чарнігаўшчыны. Па паведамленню Косіч, беларусы насялялі Суражскі, Мглінскі, Старадубскі, Навазыбкаўскі і частку Гараднянскага паветаў Чарнігаўскай губерні.

Мясцовая памешчыца М. М. Косіч (нарадзілася каля 1850 г.) пачала этнаграфічную дзейнасць у 1897 г. Да вывучэння быту народа яна падыходзіла з пазіцый ліберала-памешчыка. Беларус, на яе думку, бесклапотны і працуе толькі пры нястачы. У гэтым Косіч і бачыць прычыну цяжкага становішча народа.

Косіч у сваёй працы разглядае адзенне беларускіх сялян. "Беларус, — адзначае яна, — носіць свой улюблёны кажух" і суконную світку, пашытую "свабодна, не ў талію, а на манер старажытнага ферэзя". У свята жанчыны нярэдка апранаюць "як снег бела выраблены аўчынкі, пашытыя з перахватам у таліі і ўпрыгожаныя на спінных швах каля пояса дзвюма чырвонымі латкамі". Галаўны ўбор — брыль і магерка, абутак — лапці. "За апошняе дзесяцігоддзе (канец XIX — пачатак XX ст. — *В. Б.*) адбыліся наступныя змены: летам замест белых суконных тканін вёска застракацела разнастайнымі паркалямі, мультанамі, крэптонамі ... хоць фасон і пакрой захаваліся ранейшымі"[135].

Аб ежы М. Косіч гаворыць вельмі коратка і адзначае яе беднасць і аднастайнасць. Чысты хлеб лічыўся раскошай, прызнакам багацця. Асноўнае месца ў артыкуле "Ліцвіны-беларусы..." займае апісанне вясельных абрадаў і абрадаў каляндарнага цыкла.

У пачатку XX ст. было апублікавана некалькі папулярных гісторыка-этнаграфічных нарысаў, якія прызначаліся для шырокага кола чытачоў. Сярод іх брашуры А. Сокалава "Беларускі край" (СПб., 1906), М. Янчука "Кароткія тлумачальныя нарысы да мастацка-этнаграфічнага альбома" (М., 1905), Е. дэ Віттэ "Беларусы і літоўцы" (Пачаеў, 1910), Ф. Кудрынскага "Беларусы" (Вільня, 1905). Па-рознаму падыходзяць аўтары пералічаных прац да характарыстыкі беларускага народа, яго быту і культуры. У іх добра прасочваюцца дзве тэндэнцыі — рэакцыйная, якая прыніжае беларусаў (брашура Ф. Кудрынскага), і аб'ектыўны паказ асаблівасцей народнай культуры (праца М. Янчука).

Да гісторыка-этнаграфічных прац прымыкаюць і даследаванні, у якіх разглядаюцца пытанні этнагенезу і этнічнай тэрыторыі беларусаў: этнаграфічныя карты, статыстычныя працы, якія характарызуюць этнічны склад насельніцтва Беларусі, і працы, у якіх закранаюцца пытанні паходжання беларускай народнасці. Гэта працы М. П. Пешціча "Народнасці Расіі па губернях і абласцях. Схематычная карта складзена па паведамленнях аб роднай мове пры Першым усеагульным перапісу 1897 г." (СПб., 1905), А. Ф. Рыціха "Заходнеруская граніца і руская народнасць" (з картаю) (СПб., 1907), "Пакрыўджаны край" (з картаю Заходне-Рускага краю) (СПб., 1911), Т. Д. Фларынскага "Славянскае племя. Статыстычна-этнаграфічны агляд сучаснага славянства" (з дадаткам дзвюх этнаграфічных карт) (Кіеў, 1907), "Этнаграфічная карта заходняга славянства і Заходняй Русі" (Кіеў, 1911), "Этнаграфічная карта заходняга славянства і Заходняй Русі па навейшых даных" (Кіеў, 1911). Найбольш каштоўнымі з'яўляюцца даследаванні Т. Д. Фларынскага, які абагульніў дасягненні ўсіх папярэднікаў у пытаннях статыстыкі і картаграфавання беларускага насельніцтва.

У пачатку XX ст. з'явіліся значныя працы па матэрыяльнай культуры беларусаў. Сярод іх на першае месца трэба

[135] Живая старина. 1901. Вып. II. С. 227.


Ал. Харузинъ.

СЛАВЯНСКОЕ ЖИЛИЩЕ

ВЪ

Сѣверо-Западномъ краѣ.

Изъ матеріаловъ по исторіи развитія славянскихъ жилищъ.

ВИЛЬНА.

1907

55. Тытульны ліст кнігі А. Харузіна

паставіць працу А. Харузіна “Славянскае жыллё ў Паўночна-Заходнім краі”[136].

Аляксей Мікалаевіч Харузін — брат вядомых рускіх этнографаў Міхаіла, Мікалая і Веры Харузіных — служыў у канцылярыі віленскага генерал-губернатара і рэдагаваў “Виленский временник”. Ён сабраў вялікі матэрыял па жыллю беларускага сялянства як шляхам асабістага вывучэння, так і з дапамогай распрацаванай ім і апублікаванай Рускім геаграфічным таварыствам праграмы[137]. Аўтар сабраў вялікі матэрыял па жыллю не толькі рускіх і ўкраінцаў (пераважна збіраўся пры дапамозе праграмы), але і паўднёвых і заходніх славян (друкаваныя крыніцы). Ён выкарыстаў і значныя матэрыялы па жыллю, якія засталіся пасля смерці яго брата М. М. Харузіна.

Як прадстаўнік эвалюцыянізму ў этнаграфіі Харузін разглядае жыллё беларусаў у развіцці і сувязі з жыллём іншых славянскіх народаў. Адзначаючы, што жыллё беларусаў на ўсёй тэрыторыі ў асноўным аднатыпнае, Харузін разам з тым заўважае ў ім і некаторыя мясцовыя адрозненні, якія склаліся пад уплывам суседніх народаў. Гэта датычыць раёнаў Беларусі, якія прылягаюць да Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Латвіі.

У сваім даследаванні А. Харузін ідзе ад характарыстыкі асобных пабудоў да іх комплексаў і да пытанняў генезісу і сувязі з суседнімі народамі.

Прыступаючы да даследавання асобных сялянскіх пабудоў і ў першую чаргу жылога дома, аўтар паказвае іх ролю ў жыцці селяніна. Селянін праяўляў максімум клопату аб сваім жыллі. Закладка і збудаванне хаты былі абстаўлены цэлай сістэмай абрадаў і забабонаў, што ўяўлялі сабою перапляценне старажытнаязычніцкіх і хрысціянскіх вераванняў, большасць якіх насіла сімвалічны характар (закладванне манет у першы вянок чырвонага кута, заклінанні, “абмыванне” першага вянка, асвячэнне дома і інш.).

Пры апісанні жылога дома і гаспадарчых пабудоў Харузін паказвае змены, якія адбываліся ў іх. Ён заўважае паступовую замену чатырохскатных стрэх двухскатнымі ў хатах і захаванне першых у гаспадарчых пабудовах, знікненне валакавых вокнаў, скляпеністых столяў, пабудову хаты ў чысты вугал (замок) і ашалёўку вугла, з’яўленне каменных фундаментаў, павелічэнне колькасці і памеру вокнаў, павелічэнне аб’ёму самога жылля і змену яго ўнутранай планіроўкі. Многа месца ў працы Харузіна адводзіцца пытанням тэрміналогіі жылля, пахо-

[136] Виленский временник. Вильна, 1907. Кн. II.

[137] Руководство для собирания сведений о крестьянских постройках. СПб., 1902.

джанню назваў, параўнанню назваў жылля розных славянскіх народаў.

Аднак у працы Харузіна многія пытанні, што датычаць беларускага жылля, паказаны слаба. У аснову даследавання ўзяты толькі раёны Гродзенскай, Віленскай і суседняй Ковенскай губерняў. Матэрыялы ж з цэнтральнай, паўночнай і паўночна-ўсходняй Беларусі аўтар прыводзіць спарадычна і ў якасці параўнання. Адсюль і непаўната даследавання. Харузін не ўнікае і ў тэхнічны бок беларускага жылля.

Вывады Харузіна як па пытаннях агульнага генезісу славянскага жылля, так і развіцця жылля беларусаў у радзе выпадкаў памылковыя і слаба абгрунтаваныя. Аўтар, напрыклад, сцвярджае, што жылое памяшканне беларусаў (хата) развівалася з клеці, нежылога памяшкання.

Нягледзячы на непаўнату ў характарыстыцы жылля беларуса і спрэчнасць некаторых вывадаў, праца Харузіна з'явілася значным укладам у этнаграфічную літаратуру дарэвалюцыйнага часу.

Разам з працай Харузіна ў "Виленском временнике" былі змешчаны два артыкулы, прысвечаныя беларускаму жыллю, — "Звесткі аб беларускіх сялянскіх пабудовах, сабраныя летам 1903 г. у вёсках Маладзечанскай воласці Віленскага павета Віленскай губерні" П. Сергіеўскага і "Апісанне сялянскага жылога дома ў вёсцы Загор'е Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні" М. Скалон. Гэтыя артыкулы дапаўняюць працу Харузіна канкрэтным матэрыялам і з'яўляюцца нібы ілюстрацыяй да яе.

Жыллю беларусаў прысвечана праца М. Косіч "Аб пабудовах беларускага селяніна Чарнігаўскай губерні Мглінскага павета сяла Расухі, вёскі Барадзінкі і Амелькіна хутара"[138]. Гэта праца з'явілася адказам на праграму РГТ, спецыяльна прысвечаную жыллю (разаслана ў 1901 г.). Праграма патрабавала дыферэнцыраванага падыходу да вывучэння жылля. "Для вывучэння пабудоў наогул, — гаварылася ў праграме, — назіранні над усімі разнавіднасцямі: багатымі і беднымі, старымі і новымі, складанымі і першабытнымі з'яўляюцца аднолькава каштоўнымі"[139].


ЖИВАЯ СТАРИНА

ПЕРІОДИЧЕСКОЕ ИЗДАНІЕ

ОТДѢЛЕНІЯ ЭТНОГРАФІИ

ИМПЕРАТОРСКАГО РУССКАГО ГЕОГРАФИЧЕСКАГО ОБЩЕСТВА

Подъ редакціею Предсѣдателя Этнографическаго Отдѣленія

В. И. Ламанскаго

Секретаря Отдѣленія Ѳ. И. Щербатскаго и помощника редактора

члена-сотрудника Н. Н. Виноградова

Выпускъ I Годъ XV

1906

С.-ПЕТЕРБУРГЪ

Тип. М. П. С. (Т-ва И. Н. Кушнеревъ и Ко), Фонтанка, 117

1906

56. Тытульны ліст часопіса

З улікам гэтых патрабаванняў Косіч і складае сваё апісанне пабудоў трох населеных пунктаў беларусаў Чарнігаўшчыны. Звяртаючыся да гісторыі пы-

[138] Живая старина. 1906. Вып. I. С. 74—93.

[139] Руководство для собирания сведений о крестьянских постройках.

тання, аўтар выказвае меркаванне, што "рубленая хата" выцесніла сабою больш прымітыўнае збудаванне. Такім папярэднікам магло быць жыллё, якое будавалася спосабам "закідкі ў шулакі". Гэта аўтар абгрунтоўвае тым, што і ў яе час гаспадарчыя пабудовы будаваліся такім спосабам.

М. Косіч апісвае жыллё заможных, сярэдніх і бедных сялян. Жыллё заможнага селяніна складаецца з дзвюх хат, злучаных паміж сабою сенцамі, клеці і шматлікіх гаспадарчых пабудоў (свіран, пуня, кароўнік, цялятнік, свінарнік, аўчарня, пограб, павець і інш.). Жыллё сярэдняга селяніна меншае памерамі і колькасцю гаспадарчых пабудоў. У бедных жа сялян жыллё было непрыгляднае. Велічыня хаты вельмі малая — 4—5 аршын, не больш. "Замест сенцаў "прыпяты" — жэрдкі, прыкрытыя "сувалокай" ... Унутры... усё зроблена з "ламачча", лаўкі вузкія, замест стала ўкапаныя ў зямлю 4 слупкі і на іх пакладзены дзве збітыя дошкі. Замест склепа пад "палом" (палаткамі для спання) выкапана аршыны ў паўтара яма для захавання зімой бульбы і буракоў"[140].

М. Косіч адзначае традыцыйную ўстойлівасць унутранай планіроўкі жылля і тую асаблівасць ранейшай забудовы яго ў апісваемых населеных пунктах, калі жылое памяшканне хавалася ў глыбіні двара, а к вуліцы ставіліся павеці. Аднак пазней маладыя гаспадары пачалі будаваць хаты з вокнамі на вуліцу. У артыкуле даецца падрабязная характарыстыка планіроўкі жылля і тэхнікі будаўніцтва. Змешчаны чарцяжы розных тыпаў жылля і іх планіроўкі.

Адказам на праграму РГТ з'явіўся і невялікі артыкул у "Живой старине" А. К. Васільева "Гайна — Слабадская воласць Барысаўскага павета Мінскай


А. Бульба.

Колькі слоу аб дзявочай апратцы на Беларусі.

ВІЛЬНЯ

Друкарня Марціна Кухты, Татарская д. № 20.

1911.

57. Вокладка кнігі А. Бульбы

губерні"[141]. Аўтар расказвае аб планіроўцы жылля, мэбліроўцы і хатнім начынні і прыводзіць тры планы жылля. Некалькі артыкулаў было прысвечана і іншым галінам матэрыяльнай культуры беларусаў — прыладам працы і адзенню.

У 1902 г. У. М. Дабравольскі апублікаваў артыкул "Кросны"[142], у якім упершыню дадзена дэталёвае апісанне ткацкага стана, працэсу ткацтва і ткацкіх узораў беларусаў і рускіх Смаленшчыны.

Адзенне характарызуецца ў артыкулах Д. Свяцкага "Сялянскія касцюмы ў вобласці стыку Арлоўскай, Курскай і Чарнігаўскай губерняў"[143], Э. Вальтэра-

[140] Живая старина. 1906. Вып. I. С. 87.

[141] Там жа. 1902. Вып. I—II. С. 246—249.

[142] Этнографическое обозрение. М., 1902. № 1. С. 77—87.

[143] Живая старина. 1910. Вып. I—II. С. 3—17.

"Да пытання аб "саянах"[144] і невялічкай брашуры А. Бульбы "Колькі слоў аб дзявочай вопратцы на Беларусі" (Вільня, 1911). Свяцкі ўстанаўлівае мяжу распаўсюджання беларускага касцюма (рака Дзісна) і паказвае, што ад украінскага касцюма ён адрозніваецца ў апісваемай мясцовасці перавагай белага колеру. Вальтэр прасочвае распаўсюджанне саяна ў Беларусі і Літве.

Духоўнай культуры ў пачатку XX ст., як і ў папярэднія часы, было прысвечана больш прац. Асабліва прыкметна павялічылася колькасць фальклорных зборнікаў. У гэты час выходзяць з друку IV частка "Смаленскага этнаграфічнага зборніка" (1903) У. М. Дабравольскага, унікальны зборнік "Беларускія песні-частушкі" М. Я. Нікіфароўскага (1911, змяшчае 2356 частушак), "Зборнік народных песень, запісаных у пасёлку Калюга-Мамарно Рагазанскай воласці Кобрынскага павета Гродзенскай губерні" (1911) І. Е. Бычко-Машко, "Беларускія народныя песні" (1907) С. Малевіча, "Зборнік малярускіх і беларускіх народных песень Магілёўскай губерні Гомельскага павета Дзятлавіцкай воласці (1911) З. Радчанка, "Маларасійскія і беларускія песні" (1903) П. П. Сакольскага, "Беларускія народныя песні" (1904) А. Розенфельда, "Беларуская частушка" В. Астаповіча і інш.

У гэты час друкуецца таксама некалькі зборнікаў прыказак і прымавак (М. Я. Нікіфароўскага, І. І. Ілюстрава, А. Ельскага). Беларуская казка, акрамя Я. Карскага, даследуецца С. В. Саўчанкам, А. М. Смірновым і інш.

У галіне вывучэння вераванняў, абрадаў і забабонаў важнейшымі працамі былі "Нячысцікі: Збор простанародных у Віцебскай Беларусі сказанняў аб нячыстай сіле" (1907) М. Я. Нікіфароўскага, "Замовы. Вопыт даследавання паходжання і развіцця замоўных формул" (1917) М. Пазнанскага, "Нарысы рускай міфалогіі" (1916) Д. К. Зяленіна і інш.

Некалькі часопісных і газетных артыкулаў было прысвечана сямейнаму праву і грамадскаму жыццю беларускага народа. Сярод іх "Адрозненні ў вераваннях і звычаях беларусаў і велікарусаў Смаленскай губерні" У. Дабравольскага. Дабравольскі адзначае, што рускія і беларусы Смаленшчыны адрозніваюцца паміж сабою "вонкавым выглядам, мовай, звычаямі, вераваннямі і паэтычнымі паданнямі". Аўтар паказвае, што ў беларусаў найбольш захаваліся розныя абрады і песні. "Толькі ў беларусаў, — піша ён, — ёсць правільнае размеркаванне вясновых песень"[145]. На прыкладзе шматлікіх свят і абрадаў Дабравольскі паказвае адрозненні паміж рускімі і беларусамі ў абрадавым быце. Большая ступень захавання ў беларусаў старажытных абрадаў тлумачыцца гістарычнымі ўмовамі, у прыватнасці польска-каталіцкім прыгнётам.

Значную цікавасць аб вераваннях мае артыкул В. А. Машкова "Труба ў народных вераваннях". Аўтар упершыню на вялікім параўнальным матэрыяле з быту розных народаў свету даследаваў пытанне аб вераваннях і павер'ях, звязаных з народным інструментам — трубой. Зыходзячы з палажэнняў эвалюцыйнага вучэння, ён звязвае вераванні з пэўным узроўнем развіцця розных народаў і іх заняткаў, але тым не менш у канцы артыкула схіляецца да тэорыі запазычанняў.

У гады рэвалюцыі 1905—1907 гг. і напярэдадні першай сусветнай вайны вялікую цікавасць да лёсу беларускага народа праявіла польская прэса. Гэта бы-

[144] Известия ОРЯС Российской академии наук; 1917. Т. XXII, кн. 1. С. 117—126.

[145] Живая старина. 1903. Вып. IV. С. 474.

ло выклікана як агульнапалітычным і грамадскім рухам у Расіі, так і нацыянальна-вызваленчым рухам у Польшчы і Беларусі.

На старонках польскіх часопісаў "Kwartalnik Litewski", "Przegłęd Narodowy", "Prawda", "Ziemia", "Nowe Życie" і іншых актыўна абмяркоўвалася пытанне аб тым, па якому шляху пойдзе нацыянальнае развіццё Беларусі, які гістарычны лёс напаткае гэты народ. Аб'ектыўна па гэтаму пытанню выступілі ў друку Міхал Федароўскі, Вандалін Шукевіч, Міхаіл Ромер, Пётр Зубовіч і Рубер.

М. Федароўскі[146] многія гады свайго жыцця аддаў вывучэнню быту і культуры беларусаў. У дарэвалюцыйны час ім апублікавана тры тамы шматтомніка "Люд беларускі..." (1897—1903), у якім змешчана 2835 фальклорных твораў і матэрыялаў аб вераваннях і забабонах беларусаў. У пачатку XX ст. Федароўскі выдаў гісторыка-этнаграфічнае даследаванне "Віцебск і Віцебшчына", у якім змешчаны каларытныя замалёўкі быту беларускіх сялян: "Спакойны, разважлівы беларус, — піша Федароўскі, — заўсёды крытычна глядзіць на свет, на людзей, на самога Бога". Ён адзначае, што беларуская жанчына верная ў каханні і добрая клапатлівая маці. Федароўскі бачыць вялікае будучае гэтага народа: "Хоць пасіўны, улюблёны ў спакой народ беларускі не змог ні ў добрым, ні ў дрэнным узняцца да вяршынь і хоць ён не даў асветнікаў веры, герояў, святых мучанікаў, але ў яго прыродзе столькі творчых сіл, такая сіла духоўнага імкнення да маральных і разумовых спраў, што на іх аснове можна, напэўна, дапусціць, што Беларусь у далёкім ці блізкім будучым праславіцца сярод славян як радзіма вялікіх мысліцеляў, вучоных і спевакоў"[147]. Аднак у сваіх грамадска-палітычных поглядах Федароўскі не ўзняўся вышэй буржуазнага ліберала.

В. Шукевіч, адзначаючы параўнальна пазнейшае ўступленне Беларусі "на шлях самастойнага развіцця", тлумачыць гэта гістарычным лёсам народа. У перыяд, калі Беларусь знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы, "грамадскі лад былой Рэчы Паспалітай асноўваўся на прывілеях толькі аднаго класа", беларускі народ быў зведзены "да становішча нявольнікаў". І гэта дало свой вынік. Народ, застаўшыся сам па сабе, не маючы магчымасці карыстацца здабыткамі асветы, развіваць сваё эканамічнае становішча, адстаў... і замкнуўся ў цесных рамках свайго быту. Палемізуючы з рэдакцыяй часопіса "Kwartalnik Litewski", якая абвінавачвала Шукевіча ў тым, што ён тлумачыць нізкі ўзровень развіцця Беларусі грамадскім ладам Польшчы, аўтар далей адзначае, што "... мы былі ў адносінах да нашых братоў-сялян несправядлівымі, прызнаемся ў гэтым"[148]. Шукевіч дае недвухсэнсоўны адказ, што развіццё Беларусі павінна ісці ў напрамку збліжэння з Польшчай.

У артыкулах Ромера і Зубовіча робіцца спроба вызначыць ступень і граніцы распаўсюджання польскага і рускага ўплыву ў Беларусі. Для гэтага аўтарамі выкарыстоўваюцца статыстычныя даныя, і ў прыватнасці перапіс 1897 г., які даваў магчымасць вызначыць склад насельніцтва Беларусі па нацыянальнаму прызнаку і веравызнанню. Аўтары выдзяляюць тры раёны: "Беларусь усходняя з пераважна рускім уплывам. Беларусь сярэдняя — з найбольш яркай

[146] Падрабязней гл.: Саламевіч Янка. Міхал Федароўскі. Мн., 1972.

[147] F[e d e r o w s k i] M. Witebsk i witebszczyzna // Ziemia. 1912. S. 661, 763—764.

[148] S z u k i e w i c z W a n d a l i n. Niektóre wierzenia, przesądy i zabobony ludu naszego, legendy i podania // Kwartalnik Litewski. Petersburg. 1910. T. II. S. 85—91.



WYDAWNICTWO KOMISYI ANTROPOLOGICZNEJ
Akademii Umiejętności w Krakowie.

# LUD BIAŁORUSKI

## NA RUSI LITEWSKIEJ.

MATERYAŁY DO ETNOGRAFII SŁOWIAŃSKIEJ
ZGROMADZONE W LATACH 1877—1891.

PRZEZ

MICHAŁA FEDEROWSKIEGO.

TOM III.

**Baśnie, przypowieści i podania ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy, Nowogródka i Sokółki.**

CZĘŚĆ II.

**Tradycye historyczno-miejscowe, oraz powieści obyczajowo-moralne.**

W KRAKOWIE.
NAKŁADEM AKADEMII UMIEJĘTNOŚCI
SKŁAD GŁÓWNY W KSIĘGARNI SPÓŁKI WYDAWNICZEJ POLSKIEJ.
1903.

58. Тытульны ліст кнігі М. Федароўскага

этнаграфічнай самабытнасцю і Беларусь літоўская ў значнай меры апалячаная"[149].

Зыходзячы з такога дзялення, П. Зубовіч у артыкуле "Беларусь і беларусы" разглядае кожную губерню Беларусі. Самі па сабе этнаграфічныя даныя, якія прыводзіць аўтар па кожнай губерні, не пазбаўлены значнай долі аб'ектыўнасці. Аднак пры вызначэнні шляхоў і метадаў распаўсюджання польскага ўплыву аўтар спрабуе даказаць, быццам бы апалячанне заходняй часткі Беларусі не было прымусовым.

Аўтар далей выказвае сваё незадавальненне тым, што пасля далучэння Беларусі да Расіі тут "наглядаецца пастаяннае адступленне ад польскай культуры". Ён рэзка крытыкуе русіфікатарскую палітыку царскага ўрада, які "імкнуўся і імкнецца да нівеліроўкі і ліквідацыі польскага ўплыву, насаджэння замест яго ўнутраных непасрэдна рускіх уплываў праз школу, мясцовае праўленне, апеку дзяржаўнай рэлігіі і г. д. пры безумоўным выкараненні ўсялякіх праяў беларускай індывідуальнасці"[150].

У артыкуле "Беларусь і беларусы" Зубовіч прасочвае развіццё беларускай культуры ў апошнія дзесяцігоддзі XIX ст. і робіць вывад, што народнае ўсведамленне зрабіла пэўны крок наперад. Аўтар заклікае мясцовыя сілы да ўздыму культурна-эканамічнага ўзроўню, "бо эканамічны дабрабыт з'яўляецца першай і абавязковай умовай усякага развіцця, а задавальненне эканамічных патрэб будзе прыродным стымулам да абуджэння ў народзе народнага самаўсведамлення"[151].

З адкрыта рэакцыйных пазіцый па пытаннях развіцця беларускага народа выступілі польскія публіцысты і этнографы Стэфан Гурскі, Нарцыз Агоньчык, Ян Булгак, Юзэф Жыскар і інш. Яны паўтаралі даўно абвергнутыя навукай довады сваіх папярэднікаў аб тым, што быццам беларусы складаюць частку польскай нацыі.

Антынавуковасць такога роду довадаў у пачатку XX ст. была відавочнай. Таму многія польскія нацыяналісты, спрабуючы адарваць беларускі народ ад рускага, выдавалі сябе за "сапраўдных абаронцаў" беларускага народа. Яны заяўлялі, што імкнуцца "захаваць народную самабытнасць беларусаў у паўнаце гістарычных традыцый, даючы адпор русіфікацыі народа". Беларусы, на іх погляд, маюць значна менш агульных рыс з рускімі, "чым з намі, палякамі, якія стагоддзямі славяцца больш моцнай заходняй культурай".

Мелі месца і іншыя адценні польскага шавінізму. Польскія нацыяналісты імкнуліся даказаць, што беларускі народ па сваіх нацыянальных асаблівасцях, быту, культуры і мове стаіць бліжэй да польскага, чым да рускага. Асабліва ярка праявілася фальшывасць такіх заяў пры спробе пераканаць чытача, што беларускі народ "зросся з польскай мовай" і што беларуская мова бліжэй да польскай, чым да рускай. У сувязі з гэтым аўтары такіх артыкулаў (Н. Агоньчык, С. Гурскі і інш.) нават раілі ўвесці для беларусаў польскі алфавіт[152].

Польская этнаграфічная літаратура пачатку XX ст. аб беларусах была нешматлікай. Яна адлюстроўвала толькі некаторыя бакі быту беларусаў. Пры гэтым па-ранейшаму аддавалася перавага вывучэнню абрадавага боку быту наро-

---

[149] Z u b o w i c z P. Białorusiny // Prawda. Warszawa, 1909. № 26. S. 5; Гл. таксама: Romer M. Zagadnienia narodowe białoruskie // Там жа. 1907. С. 374—375, 387—388, 400—401, 413, 424—425.

[150] Z u b o w i c z P. Białoruś i białorusiny // Biblioteka Warszawka. Warszawa, 1910. T. I, zesz. 1. S. 3—4.

[151] Там жа. Zesz. 2. S. 19.

[152] Гл.: G ó r s k i S t e f a n. Lud białoruski // Tygodnik Illustrowany. 1906. T. II. S. 657; O g o ń c z y k N a r c y z. Stosunki etnograficzne na Litwie // Przegląd Narodowy. Warszawa; Lwów, 1910. T. V. № 2. S. 139—152.

да. У ёй закраналіся таксама пытанні матэрыяльнай культуры і сямейнага быту народа. Гэтыя пытанні знайшлі адлюстраванне як у агульнаэтнаграфічных, так і спецыяльных артыкулах М. Федароўскага, В. Шукевіча, У. Загорскага, Ю. Смалінскага і інш.

Апісанне матэрыяльнай культуры беларусаў даецца ў працах М. Федароўскага "Віцебск і Віцебшчына", М. Федароўскага і У. Р. "Пружаны і іх ваколіцы", Ю. Смалінскага "Каптур і наметка ў Беларусі літоўскай", У. Загорскага "З віленскай выстаўкі", В. Шукевіча "Заметкі з Беларусі", "Звычаі пры выпечцы хлеба ў Лідскім павеце", Б. Дыбоўскага "Дзве Свіцязі" і інш. Усе яны былі надрукаваны ў варшаўскім часопісе "Ziemia". Гэтыя працы ў асноўным даюць аб'ектыўны малюнак жыцця беларусаў.

Вераванням і абрадам беларусаў прысвяцілі некалькі сваіх артыкулаў В. Шукевіч[153], І. Савіцкая[154] і У. Янкоўскі[155]. Апісанні сродкаў народнай медыцыны дадзены ў артыкулах В. Шукевіча[156] і Е. О.[157], батлейкі — І. Іваноўскага[158], сямейных абрадаў — С. Кавалеўскай[159]. Некалькі прац прысвечана вуснапаэтычнай творчасці беларусаў. Гэта зборнікі Эдварда Кліха[160], Марыяна Куча[161] і інш. У працах польскіх вучоных змешчаны матэрыялы аб быце народа і запісы фальклорных твораў.

У канцы XIX — пачатку XX ст. у сувязі са станаўленнем беларускай нацыі, ростам нацыянальнай і класавай самасвядомасці і павелічэннем нацыянальнай інтэлігенцыі ажывілася развіццё беларускай культуры, літаратуры і навукі.

У пачатку XX ст. з'яўляюцца буйныя працы па матэрыяльнай культуры і вытворчаму быту беларускага народа (працы А. Харузіна, Е. Раманава, А. Сержпутоўскага, І. Сербава і інш.). Робяцца значныя крокі па сістэматызацыі і аналізу сабраных фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў. Галоўнае месца ў гэтым належыць працам Я. Карскага.

Сваёй дзейнасцю этнографы Беларусі прапагандавалі культуру свайго народа. Яны адлюстроўвалі шматграннае яго жыццё, багацце народнай вуснапаэтычнай творчасці і гэтым абвяргалі антынавуковыя погляды на беларуса, ставілі яго ў адзін рад з іншымі народамі свету.

---

[153] S z u k i e w i c z W. Wierzenia i praktyki ludowe (zabobony, przesądy, wróżby itd.), zebrane w gub. Wileńskiej // Wisła. 1903. T. XVII. S. 265—280, 432—444; Niektóre wierzenia, przesądy i zabobony ludu naszego, legendy i podania // Kwartalnik Litewski. 1910. T. II. S. 85—102; T. IV. S. 111—124.

[154] S o w i c k a I n a. Zwyczaje dziadów w mińszczyznie // Ziemia. 1912. № 2. S. 765.

[155] J a n k o w s k i W ł a d y s ł a w. Mickiewicz a podania ludu białoruskiego // Pamiętnik Literacki. Lwów, 1904. Zesz. 2. S. 305—306.

[156] S z u k i e w i c z W. Dawne środki lecznicze // Kwartalnik Litewski. 1911. T. V. S. 125—128.

[157] J. O. Srodki lecznictwa ludu naszego (gub. Witebska) // Kwartalnik Litewski. 1910. T. I. S. 147—152.

[158] I w a n o w s k i I. "Betlejki" w powiecie lidzkim gub. Wileńskiej // Wisła. 1910. T. XV. S. 401—411.

[159] K o w a l e w s k a Z. Obchód weselny w pow. Wilejskim w okolicy Molodeczna i Radoszkowicz // Wisła. 1910. T. XIV, zesz. IV. S. 412—426.

[160] K l i c h E d w a r d. Teksty białoruskie z powiatu nowogródzkiego // Materiały i Prace Komisji Językowej Akademii Umiejętności w Krakowie. 1907. T. II, zesz. 1. S. 1—283.

[161] K u c z M a r i a n. Przysłowia ludowe z okolic Witebska, Mohylowa, Smoleńska i Orła // Materiały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1900. T. IV. S. 217—225.





# V
# ЭТНАГРАФІЧНАЕ ВЫВУЧЭННЕ БЕЛАРУСІ ў 20–90-х гадах XX ст.

# АРГАНІЗАЦЫЯ ЭТНАГРАФІЧНАЙ РАБОТЫ Ў 20-Х ГАДАХ

Адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў складзе Акадэміі навук была адноўлена дзейнасць Камісіі па вывучэнню племяннога складу насельніцтва Расіі і сумежных краін (пазней Камісія па вывучэнню племяннога складу насельніцтва СССР). У рабоце Камісіі прынялі актыўны ўдзел акадэмікі С. Ф. Ольдэнбург, Я. Ф. Карскі, Л. С. Берг. Галоўнай задачай яе было складанне этнаграфічных карт народаў Савецкага Саюза. Гэтыя карты былі пакладзены ў аснову правядзення нацыянальнага раяніравання СССР і вызначэння граніц саюзных і аўтаномных рэспублік, аўтаномных абласцей і нацыянальных акруг.

Этнаграфічныя аддзяленні ў 20-я гады былі створаны ў Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, пры Ленінградскім геаграфічным інстытуце (пазней быў зліты з геафакам Ленінградскага універсітэта) і Маскоўскім універсітэце, а таксама пры Асацыяцыі ўсходазнаўства. Усе гэтыя ўстановы, асабліва Ленінградскі універсітэт, рыхтавалі высокакваліфікаваныя кадры этнографаў. Этнаграфічныя цэнтры ўзніклі ў Мінску, Кіеве, Тбілісі, Баку, Ташкенце, Іркуцку і іншых гарадах краіны. Аднавілі сваю работу Геаграфічнае таварыства (з аддзяленнем этнаграфіі) і Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі.

У пачатку 1926 г. С. Ф. Ольдэнбург пісаў (у рэдакцыйным артыкуле ўпершыню створанага ў СССР цэнтральнага часопіса "Этнография"): "... Новае жыццё, якое высунула на першы план шырокія народныя масы, настойліва патрабуе вывучэння творчасці гэтых мас як у галіне матэрыяльнай культуры, так і ў вобласці культуры духоўнай. Такім чынам, этнаграфія стала на парадак дня"[1].

Паказальным з'яўляецца таксама выказванне буйнейшага рускага этнографа Д. К. Зяленіна, які вывучаў і быт беларускага народа. Ён адзначае новую з'яву ў развіцці этнаграфіі — зблiжэнне яе з сацыяльна-эканамічнымі навукамі. "Тут, — піша Д. К. Зяленін, — адбілася выкліканая сацыяльнай рэвалюцыяй рэзкая перавага ў грамадстве цікавасці да сацыяльна-эканамічных пытанняў.

Не здзіўляе, што і быт вёскі вывучаецца цяпер перш за ўсё з сацыяльна-эканамічнага яго боку і толькі часткова з пункту гледжання змены форм быту"[2].

Д. К. Зяленін паказвае, што да сярэдзіны 20-х гадоў у гэтым напрамку савецкай этнаграфіі "на глебе зліцця этнаграфічнага вывучэння вёскі з сацыяльна-эканамічным вывучэннем з'явіліся тры

---

[1] Этнография. 1926. № 1—2. С. 5.
[2] Там жа. С. 134—135.

тыпы работ: а) краязнаўчыя, у якіх этнаграфічнае вывучэнне з'яўляецца толькі часткай усебаковага вывучэння чалавека і прыроды мясцовага краю; б) абследаванні сучаснай вёскі, якія праводзяць партыйныя арганізацыі; тыповы ўзор — кнігі Я. Якаўлева; в) публіцыстычныя і паўбелетрыстычныя апісанні сучаснай вёскі і працэсаў, якія ў ёй праходзяць"[3].

Зразумела, што большасць этнографаў дарэвалюцыйнай школы ды і сам Зяленін вялі свае даследаванні ў так званым акадэмічным плане. Эталонам "чыстай", акадэмічнай, этнаграфіі былі ў большасці выпадкаў класічныя фармуліроўкі задач этнаграфічнай навукі, вызначаныя заходнімі і рускімі вучонымі дарэвалюцыйнага часу.

Сутнасць гэтых фармуліровак раскрылі ў сваіх артыкулах Л. Я. Штэрнберг і Я. Г. Кагараў. Этнаграфія ў іх разуменні — навука аб традыцыйных формах быту і культуры, яе аб"ект вывучэння — найбольш адсталыя народы ці перажыткі першасных форм быту і культуры ў сучасным быце. Для Кагарава, напрыклад, канчатковай мэтай этнаграфіі з'яўлялася "вывучэнне марфалогіі і дынамікі першабытнай культуры чалавецтва"[4].

Л. Я. Штэрнберг нават сам тэрмін "этнаграфія" прапануе замяніць тэрмінам "этналогія". У артыкуле "Сучасная этналогія" ён характарызуе метады і навуковыя школы ў сусветнай этнаграфіі. Штэрнберг крытыкуе прадстаўнікоў амерыканскай этнаграфіі, якія адмовіліся ад пытанняў генезісу і развіцця культурных інстытутаў, лічачы адзінай мэтай этналогіі класіфікацыю этнаграфічных з'яў, шляхоў іх распаўсюджання, забываючы, што гісторыя культуры ёсць і "працэс творчасці і працэс заканамернага развіцця"[5]. У дадзеным выпадку аўтар шчыльна падыходзіць да дыялектычнага разумення гістарычнага працэсу.

На погляд жа Кагарава, галоўныя задачы этнаграфіі зводзяцца, па-першае, да вывучэння культур у папярочным разрэзе. Усё насельніцтва зямнога шара распадаецца, па Кагараву, на рад "этнаграфічных фармацый": вывучэнне арэалаў культур гэтых "фармацый", "іх эканамічных і псіхалагічных кампанентаў і ўзаемаадносін паміж культурнымі арэаламі складае першую задачу этнаграфіі"[6]. Другая задача этнаграфіі — вывучэнне культур у падоўжным разрэзе, г. зн. у паслядоўным развіцці ў часе, пачынаючы са старажытных стадый і канчаючы іх перажыткамі ў сучасным быце.

Асноўныя палажэнні канцэпцыі Кагарава ляглі ў аснову так званага эвалюцыйна-тыпалагічнага метаду, які меў пашырэнне ў савецкай этнаграфіі і асабліва ў музейнай справе 20-х гадоў. Пазней у аснову класіфікацыі культур народаў быў пакладзены прынцып формы гаспадарання (паляванне, збіральніцтва, першабытнае рыбалоўства, жывёлагадоўля, земляробства). Аднак і гэты метад не мог задаволіць патрабаванні савецкай этнаграфіі.

Аналагічнае становішча ў разуменні задач этнаграфіі існавала і ў Беларусі.

У першыя паслярэвалюцыйныя гады пытаннямі беларускай этнаграфіі займаліся навуковыя ўстановы Масквы і Ленінграда. У самой Беларусі этнаграфічныя даследаванні не маглі разгарнуцца, таму што да 1920 г. яна была арэнай ваенных дзеянняў.

13 кастрычніка 1918 г. у Петраградзе ствараецца Беларускае вольна-эканамічнае таварыства, у рабоце якога

[3] Этнография. 1926. № 1—2. С. 134—135.
[4] Там жа. 1928. № 1. С. 20.
[5] Там жа. 1926. № 1—2. С. 16.
[6] Там жа. 1928. № 1. С. 19.



БЕЛОРУССКИЙ П ОТДЕЛ
ОТДЕЛА ПРОСВЕЩЕНИЯ НАЦИОНАЛЬНЫХ МЕНЬШИНСТВ
Н. К. П.

КУРС
Белоруссоведения.

ЛЕКЦИИ, ЧИТАННЫЕ В БЕЛОРУССКОМ НАРОДНОМ УНИВЕРСИТЕТЕ В МОСКВЕ ЛЕТОМ 1918 ГОДА:

В. И. Пичета—История белорусского народа.
Д. Н. Анучин—К вопросу о белорусской территории.
Н. П. [illegible]—Географический очерк Белоруссии.
А. Ф. Фортунатов—Из сельскохозяйств. статистики пяти белорусских губ.
Е. М. Чепурковский—Антропология белоруссов.
Н. А. Янчук—Этнографический очерк Белоруссии.
П. А. Расторгуев—Белорусская речь в ее современном и прошлом состоянии.
Д. Ф. Жилунович—Белорусская литература.
М. И. [illegible]—К вопросу о [illegible]

С БИБЛИОГРАФИЧЕСКИМ УКАЗАТЕЛЕМ ПО КАЖДОМУ ВОПРОСУ И С ПРИЛОЖЕНИЕМ ЭТНОГРАФИЧЕСКОЙ КАРТЫ БЕЛОРУССКОГО ПЛЕМЕНИ АКАД. Е. Ф. КАРСКОГО.

1918—1920 г.г.
МОСКВА

Москва. [illegible]

59. Тытульны ліст кнігі

прымае актыўны ўдзел старэйшы беларускі этнограф А. К. Сержпутоўскі. У газеце “Чырвоны шлях”, якую выдавала ў Петраградзе беларускае зямляцтва, у 1918 г. А. К. Сержпутоўскі друкуе два артыкулы, у якіх выказвае свае думкі па пытаннях нацыянальнага і культурнага развіцця Беларусі[7].

У Маскве ў тым жа 1918 г. ствараецца Беларускі народны універсітэт, у якім Д. М. Анучын, М. А. Янчук і У. І. Пічэта прачыталі курс лекцый па этнаграфіі і гісторыі Беларусі. Гэтыя лекцыі былі апублікаваны ў кнізе “Курс беларусазнаўства. Лекцыі, прачытаныя ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве летам 1918 года” (1918—1920).

Адразу ж пасля вызвалення Беларусі віднейшыя беларускія этнографы Я. Ф. Карскі, У. М. Дабравольскі, М. А. Янчук, А. К. Сержпутоўскі аддалі сябе справе арганізацыі навукі маладой Беларускай рэспублікі.

У 1920 г. па даручэнню этнаграфічнага аддзела Рускага музея А. К. Сержпутоўскі правёў экспедыцыю на поўдзень Беларусі. Справаздача аб гэтай экспедыцыі не захавалася. Аднак у архіве Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР маюцца багатыя запісы А. К. Сержпутоўскага, зробленыя ім у экспедыцыі. Гэта тры запісныя кніжкі і асобны альбом замалёвак. У першай — замалёўкі прылад працы, жылля, хатняга начыння, нататкі аб адзенні з вёсак Вызна і Семежава, у другой і ў трэцяй — апісанне вераванняў, прыкмет, а таксама замалёўкі жылля, начыння, прылад працы з Рэчыцкага і Пінскага паветаў[8].

У архіве захавалася, акрамя таго, нямала фальклорных твораў, апісанняў сямейнага быту, народных музычных інструментаў, ежы, гульняў, забаў, зборнік беларускіх павер'яў і забабонаў — усяго запісаў больш чым на 200 лістах[9].

Віднейшы беларускі вучоны ў галіне філалогіі і этнаграфіі Я. Ф. Карскі ў першыя гады разгарнуў актыўную дзейнасць па арганізацыі і збіранню навуковых сіл у Беларусі. Па яго ініцыятыве былі зроблены спробы перавезці ў Мінск са Стаўрапаля вядомага этнографа Е. Р. Раманава, які да апошніх дзён свайго жыцця самаахвярна працаваў над падрыхтоўкай да друку новых XI—XV выпускаў свайго “Беларускага зборніка”.

Апошнія гады свайго жыцця прысвяцілі беларускай этнаграфіі У. М. Дабравольскі, які пасля рэвалюцыі чытаў

[7] Сержпутовский А. К. Белорусский народ и религия // Чырвоны шлях. 1918. № 9—10; Ён жа. К вопросу о белорусской орфографии // Там жа.

[8] Архіў Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў Расіі, ф. 2, воп. 2, № 286, 290.

[9] Там жа. № 185, 287, 288.

лекцыі па этнаграфіі ў Беларускім народным універсітэце, Віцебскім інстытуце народнай асветы (у Маскве) і Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута, а таксама М. А. Янчук, які працаваў выкладчыкам гісторыі беларускай літаратуры і этнаграфіі ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве (1918), а пазней прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пасля вызвалення Беларусі ў Мінску пры Наркамаце асветы быў створаны Акадэмічны цэнтр, які пачаў збіраць кадры навуковых супрацоўнікаў.

27 студзеня 1921 г. на сходзе працаўнікоў навукі і культуры, які быў скліканы Наркаматам асветы Беларусі, паўстала пытанне аб стварэнні Інстытута беларускай культуры. Аднак гэта ідэя не была тады здзейснена. СНК БССР 10 лютага 1921 г. прыняў рашэнне аб арганізацыі Навукова-тэрміналагічнай камісіі, якая з'явілася першым навуковым цэнтрам Беларусі. Камісія складалася з трох секцый: матэматычнай, прыродазнаўчай і гуманітарнай. Навукова-тэрміналагічная камісія была выклікана да жыцця вострай неабходнасцю нацыянальнага будаўніцтва рэспублікі. З увядзеннем у школах выкладання на беларускай мове неабходна было скласці падручнікі для пачатковых і сярэдніх школ. За кароткі час камісія выканала вялікую працу. Ужо напачатку 1921 г. было распрацавана 2270 тэрмінаў.

У гэтым жа годзе было ўзнята пытанне аб рэарганізацыі камісіі ў інстытут. Карскі, Пічэта, Дыла распрацавалі статут, і ў пачатку 1922 г. быў створаны Інстытут беларускай культуры. Інбелкульт уключаў у сябе дзве секцыі — гуманітарную і прыродазнаўчую. Гуманітарная секцыя была раздзелена на камісіі: слоўнікавую, тэрміналагічную і літаратуразнаўчую. Гэтыя камісіі займаліся побач з філалагічнымі і некаторымі этнаграфічнымі пытаннямі.

У сакавіку 1924 г. у Інбелкульце былі створаны новыя секцыі: прыродна-геаграфічная, мастацтва, права, педагогікі, сацыяльна-эканамічная і інш.

Асноўная частка этнографаў уваходзіла ў прыродна-геаграфічную секцыю Інбелкульта, што супярэчыла задачам этнаграфіі як грамадскай навукі. Таму ў пачатку чэрвеня 1924 г. група этнографаў гэтай секцыі на чале з І. А. Сербавым на сваёй нарадзе ўнесла прапанову аб стварэнні асобнай этнаграфічнай секцыі Інбелкульта. У пастанове гэтай нарады адзначалася: "Прымаючы пад увагу, што этнаграфія па сутнасці сваіх заданняў знаходзіцца ў большай сувязі з сацыяльна-гістарычнымі навукамі, увайсці ў гісторыка-археалагічную секцыю для распрацоўкі пытанняў этнаграфіі Беларусі"[10].

На гэтай нарадзе ўпершыню былі зроблены сур'ёзныя крокі па арганізацыі навуковых сіл і разгортванню навуковай работы ў галіне этнаграфіі. У пунктах пастановы аб чарговых задачах этнаграфічнай працы нарада намеціла меры "па выяўленню і падліку беларускіх працаўнікоў у галіне этнаграфіі Беларусі"[11] і па разгортванню этнаграфічнай працы на ўсёй тэрыторыі Беларусі. У прыватнасці, М. Е. Каршукову было даручана арганізаваць этнаграфічную секцыю пры навуковым гуртку па вывучэнню Гомельшчыны, І. А. Сербаву — наладзіць этнаграфічную працу на Магілёўшчыне, М. В. Мялешку — на Віцебшчыне, С. М. Мялешку — арганізаваць групу этнографаў пры Мінскім калектыве настаўнікаў-беларусазнаўцаў, П. В. Харламповічу — распрацаваць праект плана этнаграфічнага аддзела

[10] Архіў НАН Беларусі, ф. 18, спр. 7, арх. № 8, л. 47.

[11] Там жа.



60. Гістарычна-археалагічная секцыя Інбелкульта. Сядзяць З. І. Даўгяла, М. В. Доўнар-Запольскі, І. А. Сербаў. Стаяць С. А. Дубінскі, Папоў, П. В. Харлампoвіч, Аніхоўскі.

Дзяржаўнага музея. Акрамя гэтага, нарада даручыла І. А. Сербаву распрацаваць план і метады працы па збіранню этнаграфічнага матэрыялу, а М. В. Мялешку — праграму па вывучэнню матэрыяльнага быту Беларусі. Былі таксама прыняты меры па разгортванню папулярызатарскай работы ў галіне этнаграфіі. Для гэтага выкарыстоўваўся ў першую чаргу мясцовы друк.

16 чэрвеня 1924 г. на пасяджэнні гісторыка-археалагічнай секцыі была прынята пастанова аб далучэнні этнографаў да гэтай секцыі. Сумесная праца этнографаў з членамі гісторыка-археалагічнай секцыі працягвалася нядоўга. Па новаму статуту Інбелкульта (1927) была створана самастойная этнаграфічная секцыя. Яна зацверджана 30 сакавіка 1925 г.[12] Старшынёй секцыі з'яўляўся С. З. Кацэнбоген, сакратаром І. А. Сербаў, членамі секцыі — А. К. Сержпутоўскі, П. П. Дземідовіч, А. Палес, А. Грыневіч, К. Кернажыцкі, Н. Ціхановіч і інш.

На агульным сходзе этнаграфічнай секцыі 3 чэрвеня 1925 г. былі заслуханы даклады С. З. Кацэнбогена "Значэнне этнаграфіі як самастойнай даследчай навукі", М. В. Мялешкі "Этнаграфія ў культурным і савецкім будаўніцтве БССР", П. А. Аляксеева "Расава-біялагічны індэкс беларуса" і абмеркаваны план працы секцыі, складзены І. А. Сербавым.

[12] Архіў НАН Беларусі, ф. 18, спр. 25, арх. № 6, л. 106.

Даклад Кацэнбогена не захаваўся ў архіве, але, мяркуючы па пратаколу, ён выклікаў спрэчкі, змест якіх сведчыць аб тым, як разумеліся этнаграфія і яе задачы ў той час.

І. А. Сербаў, выступаючы ў дыскусіі, падкрэсліваў, што не трэба этнаграфію зводзіць толькі да апісальніцтва ці лічыць яе часткай іншых навук: "Этнаграфія — самастойная навука, яна павінна ахапіць усебаковае вывучэнне народа, яго фізічнай прыроды, быту і культуры духоўнай і матэрыяльнай"[13]. Іншыя выступаючыя падкрэслівалі асобныя задачы этнаграфіі (вывучэнне новага быту вёскі, барацьба з рэлігійнымі забабонамі), ролю этнаграфіі ў сацыялістычным будаўніцтве.

Апошняму пытанню быў прысвечаны даклад М. Мялешкі. "Перад этнографамі Беларусі, — адзначаў ён, — стаіць новае заданне, якое высоўваецца самім жыццём, — паставіць этнаграфічную працу ў такія каляіны, каб яна мела ўхіл больш жыццёвы, каб этнаграфія не замыкалася толькі ў тэарэтычных развагах, а магла прынесці практычную карысць савецкаму будаўніцтву. У стары напрамак працы мы павінны ўнесці пэўныя карэктывы і папраўкі"[14].

Этнаграфічныя веды М. Мялешка падзяліў на тры раздзелы: народнае мастацтва, духоўная творчасць (фальклор. — *В. Б.*) і матэрыяльны быт народа. Аналізуючы гэту трыяду ў плане сучасных задач, аўтар даклада падкрэсліваў, што кожная з гэтых галін этнаграфіі можа садзейнічаць будаўніцтву новага жыцця. Знаўцы народнага мастацтва могуць дапамагчы развіццю тэатральнага, музычнага, выяўленчага мастацтва. Фалькларысты павінны падняць на пэўны ўзровень выкладанне вуснапаэтычнай творчасці ў вучэбных установах. Вывучэнне народных вераванняў, светапогляду дапаможа барацьбе з рэлігійнымі перажыткамі. Але самай вялікай задачай этнаграфіі з'яўляецца вывучэнне матэрыяльнага быту народа. У дарэвалюцыйны час на гэты бок быту народа звярталася параўнальна мала ўвагі з прычыны, што ў той час "нельга было адчыняць заслону на сапраўды бедны стан эксплуатуемага народа..." Займацца матэрыяльным бытам беларускага народа было б справай рызыкоўнай для этнографаў[15].

Раскрываючы прыкладныя задачы этнаграфіі, Мялешка падкрэсліваў, што, вывучаючы працэсы і прылады працы, дамашні быт, жыллё, ежу, землеўпарадкаванне, этнографы могуць даць дзяржаўным і гаспадарчым арганізацыям усе неабходныя звесткі, якія дапамогуць перабудове быту на новы лад. "Толькі ведаючы дасканала ўвесь уклад матэрыяльнага быту вёскі і яго вытворчыя дасягненні ў прымяненні тых прымітыўных прылад працы і рэчаў ужытку, якія скарыстоўваюцца цяпер, можна з найбольшым поспехам і з найменшымі затратамі часу і сродкаў увесці ў нашу вёску больш палепшаныя спосабы працы і замяніць стары быт новым"[16].

Этнаграфічная секцыя разгарнула актыўную працу. Члены секцыі займаліся вывучэннем разнастайных пытанняў беларускай этнаграфіі і фальклору. У прыватнасці, пад кіраўніцтвам членаў секцыі студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта падрыхтавалі даклады "Факты перажыткаў першабытнай культуры ў абрадах беларусаў", "Купалле", "Беларускія Дзяды і Прадзедкі", "Галаў-

[13] Архіў НАН Беларусі, ф. 18, спр. 25, арх. № 6, л. 109.

[14] Там жа, л. 112. Даклад у скарачэнні быў апублікаваны ў газеце "Савецкая Беларусь" 7, 9, 10 чэрвеня 1925 г.

[15] Там жа, № 6, л. 112.

[16] Там жа, л. 113.

ныя ўборы беларускай жанчыны" і інш. Вывучэннем беларускай казкі займалася Ю. Бібіла. Асобна трэба адзначыць работу І. А. Сербава, які к канцу 1925 г. закончыў манаграфічную працу "Вічынскія паляне. Этнаграфічны нарыс басейна р. Цны". Ён жа вёў работу па вывучэнню антрапалагічных асаблівасцей беларусаў у раёне Мінска і сярэдняга Сожа, зрабіў этнаграфічныя здымкі тыпаў касцюмаў, жаночых убораў і розных прадметаў быту і народнага мастацтва, запісаў на фанограф бытавыя песні вясны, лета, восені і зімы. Такім жа спосабам запісаны мелодыі беларускіх народных танцаў, выкананыя на дудцы, свірэлі і пастуховай трубе. Акрамя гэтага, Сербаў сабраў калекцыю прадметаў (звыш 200) беларускага нацыянальнага адзення, галаўных убораў, тканін і ўзораў на іх.[17]

За кароткі тэрмін была праведзена вялікая работа па назапашванню матэрыялаў, з якімі можна было выконваць у далейшым намечаныя планы і задачы.

Для больш поўнага ўяўлення таго, як разглядалася этнаграфічная навука ў Беларусі ў гэтыя гады, прааналізуем план работы секцыі этнаграфіі на 1925/26 акадэмічны год, які быў складзены І. А. Сербавым.

Першачарговай задачай секцыі ставіўся збор этнаграфічных матэрыялаў па матэрыяльнаму быту (заняткі, жыллё, прылады працы, адзенне, упрыгожанні, ежа і напіткі), па духоўнай культуры (вывучэнне светапогляду народа, яго псіхалогіі, звычаяў, абрадаў і вераванняў), па старажытных грамадскіх установах і звычаёваму праву, жывой беларускай мове, вывучэнне народных свят і прывядзенне ў парадак сабраных матэрыялаў па беларускаму фальклору.

[17] Архіў НАН Беларусі, ф. 18, спр. 25, № 6, л. 106—116.

Асобнымі пунктамі ў плане былі вылучаны прыкладное мастацтва і распрацоўка пытанняў этнаграфіі іншых народаў Беларусі — яўрэяў, палякаў, літоўцаў, латышоў, татар, цыган. Акрамя гэтага, планам прадугледжваліся і антрапалагічныя даследаванні насельніцтва Беларусі.

Такім чынам, прыведзеныя вышэй выказванні і план работы этнаграфічнай секцыі паказваюць, што ў той час этнаграфія ўключала ў сябе акрамя чыста этнаграфічных пытанняў яшчэ і антрапалогію, фалькларыстыку, народнае мастацтва ў шырокім сэнсе (выяўленчае, песеннае, тэатральнае і інш.).

Аб'ектам вывучэння этнографаў параней шаму было сельскае насельніцтва. Аб вывучэнні быту рабочага класа размова пачала весціся некалькі пазней, у 1926 г.

Адзначым, што некаторыя пытанні этнаграфіі ў той час распрацоўваліся іншымі секцыямі Інбелкульта. У прыватнасці, пры сельскагаспадарчай секцыі была створана падсекцыя па вывучэнню хатніх промыслаў і рамёстваў.

Толькі за адзін год (з мая 1926 па май 1927 г.) гэтай падсекцыяй была распрацавана анкета па вывучэнню хатніх рамёстваў, прачытаны даклады аб ткацтве Бабруйскай акругі, ганчарстве паўднёва-ўсходняй Беларусі; распрацавана праграма па вывучэнню промыслаў; наладжаны дзве экспедыцыі па вывучэнню хатніх рамёстваў (адна ў Бабруйскую акругу, другая ў паўднёва-ўсходнюю Беларусь), у час якіх набыта для музеяў 60 экспанатаў па ткацтву і 45 па ганчарству; зроблены выезд для агляду Бабруйскай акруговай саматужнай выстаўкі; разаслана ўсім сельсаветам Беларусі і краязнаўчым арганізацыям 1500 анкет, распрацаваны і разасланы да іх інструкцыі; зроблены дзве інфармацыі аб стане вывучэння

хатніх рамёстваў і промыслаў — адна на Другім Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе, другая на Першым пленуме краязнаўчых арганізацый Мінскай акругі[18].

У 1926 г. секцыя этнаграфіі была ўключана ў склад сацыяльна-гістарычнай секцыі, якая аб'яднала гісторыкаў, археолагаў, этнографаў.

У 1927 г. быў прыняты новы статут Інбелкульта. Усе камісіі секцыі былі згрупаваны ў два аддзелы: аддзел прыроды і гаспадаркі і аддзел гуманітарных навук. Акрамя гэтага, створаны два нацыянальныя сектары — яўрэйскі і польскі. Аддзелы інстытута аб'ядноўвалі 17 кафедр і 23 пастаянныя камісіі. У тым ліку была выдзелена кафедра этнаграфіі.

Пры кафедры этнаграфіі працавалі дзве камісіі: Камісія па вывучэнню быту і матэрыяльнай культуры на чале з І. А. Сербавым і Камісія па вывучэнню фальклору на чале з М. М. Піятуховічам. На 1928 г. намячалася стварэнне яшчэ дзвюх камісій: для вывучэння народнай песні і музыкі і народнага мастацтва.

Інстытут беларускай культуры праіснаваў да канца 1928 г. У кастрычніку 1928 г. пастановай Урада БССР Інбелкульт быў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук, афіцыйнае адкрыццё якой адбылося 1 студзеня 1929 г. Адкрыццё АН БССР было вялікім святам не толькі для вучоных рэспублікі, але і для ўсяго народа.

Структура Акадэміі навук у пачатку прынцыпова мала чым адрознівалася ад структуры Інбелкульта (па статуту 1927 г.). Этнаграфія па-ранейшаму была прадстаўлена кафедрай, якая падраздзялялася на камісіі.

У 20-я гады ў Беларусі была разгорнута вялікая збіральніцкая работа.

Яшчэ ў 1921 г. пастановай ЦК ССРБ была арганізавана першая этнаграфічная экспедыцыя на чале з мастаком Д. І. Полазавым, якая абследавала Слуцкі павет. Экспедыцыяй было сабрана каля 150 прадметаў (узоры ткацтва, народныя касцюмы, ручнікі, посцілкі і інш.), зроблены фатаграфіі і замалёўкі прадметаў быту, старажытнага мастацтва[19].

Вялікая работа па збору этнаграфічных калекцый у Беларусі была праведзена ў 1923 г. у сувязі з падрыхтоўкай і арганізацыяй Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве. У гэтым годзе было праведзена 5 экспедыцый па абследаванню Ігуменскага, Слуцкага, Лагойскага, Бабруйскага паветаў, у якіх прынялі ўдзел А. Шлюбскі, М. Мялешка, А. Азбукіна, Д. Жылуновіч, Л. Дашкевіч (фатограф), Н. Азбукін. Экспедыцыі сабралі сотні этнаграфічных экспанатаў, пераважна прадметы адзення, узоры тканін, прылады ткацтва, прадметы хатняга начыння. Былі таксама сабраны прылады працы па апрацоўцы льну, рыбалоўныя снасці, сродкі народнай медыцыны і інш. Адначасова было зроблена некалькі соцень фатаграфій.

Значная колькасць прадметаў быту (адзенне, прадметы хатняга ўжытку і мэбліроўкі, прылады працы і інш.) для беларускага этнаграфічнага аддзела Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве была сабрана павятовымі аддзеламі народнай асветы (настаўнікамі і вучнямі). Беларускі этнаграфічны аддзел па выстаўцы быў адзін з багацейшых і атрымаў вышэйшую прэмію.

Шматлікія этнаграфічныя калекцыі, сабраныя для Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, пасля яе закрыцця папоўнілі этнаграфічныя аддзелы музеяў Мінска, Віцебска, Магілёва.

---

[18] Архіў НАН Беларусі, ф. 18, спр. 23, № 23, л. 196—200.

[19] Веселовская К. В. Обзор этнографической работы в Белоруссии за период 1917—1925 гг. // Этнография. 1926. № 1—2.

У 1924 г. А. К. Сержпутоўскі і кампазітар Я. В. Прохараў правялі экспедыцыю ў Горацкі, Чавускі, Мсціслаўскі, Клімавіцкі паветы з мэтай вывучэння вуснапаэтычнай і народна-музычнай творчасці беларусаў. Акрамя вялікай колькасці фальклорных матэрыялаў, яны сабралі да 50 прадметаў быту[20].

У наступным 1925 г. І. А. Сербаў правёў вялікую этнографа-археалагічную экспедыцыю на Магілёўшчыну, у вобласць сярэдняга Дняпра і Сожа. Акрамя прадметаў з курганоў, ім было сабрана да 200 этнаграфічных экспанатаў (адзенне, галаўныя ўборы, мастацкае рукадзелле) і пры дапамозе фанографа запісана 50 бытавых песень. У гэтым жа годзе мастаком Беларускага дзяржаўнага музея М. М. Філіповічам была праведзена экспедыцыйная паездка па Мазырска-Тураўскаму Палессю, у час якой было закуплена да 200 прадметаў (сохі, касцюмы, прадметы ўпрыгожання, ганчарны станок і інш.) і зроблены дзесяткі замалёвак і фатаграфій. Адначасова ў гэтым жа годзе збіраліся экспанаты для пасылкі на Парыжскую выстаўку прадметаў дэкаратыўнага мастацтва. Узоры мастацкіх тканін, дываноў, ручнікоў былі сабраны ў Слуцкім і Віцебскім раёнах, узоры народнай набойкі — у м. Чашнікі.

У 1926 г. секцыяй этнаграфіі былі арганізаваны дзве буйныя экспедыцыі: пад кіраўніцтвам І. А. Сербава — для вывучэння паўночнай мяжы рассялення беларусаў і пад кіраўніцтвам А. К. Сержпутоўскага — для даследавання паўднёва-ўсходняй мяжы. Вынікі экспедыцыі А. К. Сержпутоўскага былі апублікаваны ў асобнай брашуры[21], у якой даецца кароткая характарыстыка быту і асаблівасцей мовы паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі.

Этнаграфічныя экспедыцыі сістэматычна праводзіліся і ў наступныя гады (звестак аб іх выніках знайсці не ўдалося).

Экспедыцыйныя даследаванні Беларусі праводзіліся і музеямі Ленінграда і Масквы. У прыватнасці, Цэнтральны музей народазнаўства ў 1927 г. накіраваў у Беларусь этнаграфічную экспедыцыю на чале з Н. І. Лебедзевай. Паведамляючы аб выніках яе экспедыцыі, часопіс "Этнография" пісаў: "Асноўны маршрут гэтай экспедыцыйнай групы ахапіў левы бераг Прыпяці, Князь-Возера, р. Пціч, Засохльскае балота і частку цячэння р. Случы — маршрут працягласцю да 300 вёрст. Экспедыцыя распрацавала рад асноўных этналагічных тэм па жыллю, адзенню, ткацтву, сельскагаспадарчых прыладах, саматужных рамёствах, сродках перасоўвання, рыбалоўству, пчалярству, начынню, музычных інструментах, абрадах, пераважна аграрных, а таксама сабрала матэрыялы па гісторыі і эканоміцы населеных пунктаў"[22]. Калекцыя, якую набыла экспедыцыя, паслужыла асновай для стваранага ў Цэнтральным музеі народазнаўства вясной 1928 г. беларускага аддзела.

Шырокая музейная праца была разгорнута краязнаўчымі арганізацыямі. У 1931 г. у Беларусі было 20 гісторыка-краязнаўчых і 32 школьныя музеі краязнаўства, у якіх налічвалася 16 735 экспанатаў[23].

Цэнтрамі этнаграфічнай работы ў Беларусі, акрамя Мінска, былі Віцебск, Полацк, Магілёў, Слуцк, Бабруйск. У 1922 г. пры Віцебскім аддзяленні

---

[20] Веселовская К. В. Обзор этнографической работы в Белоруссии за период 1917—1925 гг. // Этнография. 1926. № 1—2.

[21] Сержпутоўскі А. К. Справаздача аб паездцы ў Гомельскую губернію летам 1926 г. Мн., 1926.

[22] Шиллинг Е. Хроника. Москва. Государственный центральный музей этнографии // Этнография. 1928. № 2. С. 134.

[23] Наш край. 1930. № 2. С. 55.

Маскоўскага археалагічнага інстытута была створана этнаграфічная камісія, якая выдала два нумары часопіса “Беларускі этнограф”. Гісторыка-этнаграфічнае таварыства ўзнікла ў Полацку, этнаграфічныя ячэйкі былі створаны пры музеях у Мінску, Віцебску, Магілёве, Бабруйску і іншых гарадах. Дзякуючы актыўнай рабоце ўсіх гэтых цэнтраў у 20-я гады сабрана вялікая колькасць прадметаў быту, этнаграфічных апісанняў і фальклорных твораў. У выніку былі ўкамплектаваны этнаграфічныя аддзелы музеяў Беларусі і створана надзейная база для вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Паралельна са збіральніцкай у гэтыя гады разгортваецца і навукова-даследчая работа па этнаграфіі Беларусі.

## ЭТНАГРАФІЯ І КРАЯЗНАЎСТВА

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі па ўсёй краіне разгортваецца краязнаўчы рух. Ломка старых форм быту народа і будаўніцтва новага жыцця паставілі задачу ўсебаковага вывучэння ўсяго комплексу грамадскага і эканамічнага стану краіны, прыродных умоў, сацыяльнай структуры грамадства, гісторыі народа, яго мовы, быту і культуры.

У пачатку 20-х гадоў у розных месцах СССР функцыяніравала звыш 500 краязнаўчых арганізацый і музеяў. К 1927 г. іх колькасць павялічылася да 2400 [24].

Першыя краязнаўчыя арганізацыі ў Беларусі з’явіліся адразу пасля рэвалюцыі. У 1918 г. быў створаны гурток краязнаўства ў м. Смалярск Ігуменскага павета, у 1922 г. — Слуцкая павятовая камісія краязнаўства, у 1923 г. — краязнаўчыя арганізацыі ў Гомелі і Віцебску[25]. У канцы 1923 г. Інбелкульт стварыў камісію, якая павінна была правесці рэгістрацыю краязнаўчых арганізацый. Гэта камісія і стала зародкам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце.

1924 год з’явіўся годам масавага стварэння краязнаўчых арганізацый у Беларусі, сярод якіх паступова вызначыліся тры тыпы: акруговыя, раённыя і гурткі краязнаўства.

Расшырэнне сеткі краязнаўства прывяло да склікання ў лістападзе 1924 г. І Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, якая і аформіла арганізацыйна краязнаўчае таварыства і Цэнтральнае бюро краязнаўства Беларусі (ЦБК).

Найбольшую актыўнасць у гэтыя гады праявіла Віцебская краязнаўчая арганізацыя, старшынёю якой быў М. Каспяровіч. У 1925 г. колькасць яе членаў дасягнула 500 чалавек. У гэтым жа годзе Віцебская арганізацыя выдала першы выпуск зборніка “Віцебшчына”.

Па прапанове І Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі ў Мінску быў створаны друкаваны перыядычны орган — часопіс “Наш край”. Першы нумар часопіса выйшаў у 1925 г. У рэдакцыйным артыкуле былі наступным чынам вызначаны задачы краязнаўства: “Сучаснае краязнаўства цікавіцца не чыста гістарычнымі, этнаграфічнымі ці прыродазнаўчымі пытаннямі, яно арыентуецца на сучаснасць і выкарыстоўвае мінулае як матэрыял для будучага... Сучаснае краязнаўства павінна выявіць гэта новае ў старым, павінна разабрацца ў гісторыі

---

[24] Козаченко А. И. Великое семилетие и задачи краеведения. М., 1961. С. 6.

[25] Наш край. 1928. № 2. С. 16.



НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 1 Кастрычнік 1925

ВЫДАНЬНЕ

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры.

МЕНСК — 1925

61. Вокладка часопіса

новых форм быту"[26]. У артыкуле "Краязнаўства і працоўная школа" гэтыя ўстаноўкі расшыфроўваліся. Адзначаючы недахопы дарэвалюцыйнага краязнаўства, якое вялося ў плане вывучэння рэшткаў старыны, часопіс падкрэсліў актуальныя задачы этнаграфіі: "Нас, сучаснікаў рэвалюцыі, цікавіць не рэакцыйная нерухомасць старых асноў, а тыя змены, якія адбываюцца навокал нас, здольнасць мясцовага грамадства перайсці ў працэсе свайго эканамічнага развіцця ад старога быту да новага"[27].

Далей былі змешчаны дзве праграмы работы: агульная, якая ахоплівала ўсе пытанні краязнаўства, і прыватная — "Праграма апісання паселішчаў гарадскога тыпу (гарадоў, мястэчак, пасадаў, гандлёвых вёсак і інш.)".

Агульная праграма патрабавала ўсебаковага вывучэння населеных пунктаў і асобных тэрытарыяльных адзінак. Яна ўключала характарыстыку прыродна-геаграфічных умоў, вывучэнне археалогіі і гісторыі краю, апісанне сучаснага складу насельніцтва, становішча транспарту, сувязі, асветы, кіравання і г. д.

Асобны пункт праграмы даваў рэкамендацыі па этнаграфічнаму вывучэнню роднага краю. У расшыфроўцы да гэтага пункта падрабязна пералічваліся ўсе важнейшыя пытанні вывучэння быту насельніцтва. На першае месца ставілася вывучэнне адзення (мужчынскага, жаночага, дзіцячага, паўсядзённага і святочнага), далей — вывучэнне жылля і паселішчаў, ежы, сям'і і сямейных адносін, выхавання дзяцей, грамадскіх адносін. Пры вывучэнні абрадаў, звычаяў, вераванняў і фальклору рэкамендавалася звяртаць увагу на новы быт вёскі, новыя звычаі і песні. Праграма патрабавала таксама вывучэння звычаёвага права, народнай медыцыны, народнага мастацтва (музыка, танцы, музычныя інструменты). Падрабязна распрацаваны і раздзел гаспадаркі, вытворчай дзейнасці насельніцтва. Тут звярталася ўвага на вывучэнне землекарыстання і сучаснага землеўладкавання, на апісанне саўгасаў, промыслаў і рамёстваў, прылад працы і інш. Рэкамендавалася таксама вывучаць фабрыкі, іх прадукцыю, быт рабочых, а таксама ўплыў фабрыкі на быт сялян навакольных вёсак.

Паказальнай з'яўляецца і другая, прыватная, праграма, распрацаваная геаграфічнай секцыяй Інбелкульта. Яна патрабавала комплекснага вывучэння населеных пунктаў гарадскога тыпу. Значнае месца ў праграме займалі і пытанні этнаграфіі (вывучэнне жылля і

[26] Наш край. 1925. № 1. С. 3—4.

[27] Там жа. С. 13.

гаспадарчых пабудоў, складу насельніцтва па занятках, мове, нацыянальнасці, па адносінах да рэлігіі і сацыяльнаму становішчу, быту насельніцтва розных груп, асабліва быту рабочых, і шэраг іншых пытанняў).

У сувязі з развіццём сацыялогіі ў абедзвюх праграмах высоўвалася патрабаванне сацыялагічнага падыходу да вывучэння быту, збірання статыстычных звестак.

У наступных нумарах часопіс даваў серыю праграм па самых розных пытаннях краязнаўства, этнаграфіі і фальклору, якія былі складзены з улікам патрабаванняў разгледжаных праграм. Такім чынам, краязнаўчыя праграмы ахоплівалі амаль што ўсе пытанні этнаграфіі Беларусі. Характэрнай асаблівасцю гэтых праграм з'яўлялася тое, што яны былі складзены ў адпаведнасці з задачай перабудовы бытавога ўкладу працоўных. Упершыню ў Беларусі ставіліся пытанні вывучэння этнаграфіі горада, быту рабочага класа і ўплыву гарадской культуры на сялянскі быт.

У пачатку 1926 г. з'явілася неабходнасць падвесці вынікі работы ў галіне краязнаўства і абмяняцца вопытам. З гэтай мэтай у лютым 1926 г. быў скліканы І Усебеларускі краязнаўчы з'езд.

На з'ездзе было прадстаўлена 87 краязнаўчых арганізацый (143 дэлегаты). Усяго ж у Беларусі было 167 краязнаўчых арганізацый, зарэгістраваных ЦБК. У іх налічвалася звыш 4000 чалавек. Гэта была вялікая армія культурных сіл беларускіх гарадоў і вёсак, якія актыўна ўключаліся ў вывучэнне свайго краю.

Сярод розных пытанняў краязнаўства на з'ездзе абмяркоўваліся і праблемы этнаграфічнага вывучэння Беларусі. Ім былі прысвечаны даклады М. Мялешкі "Вывучэнне народнага быту" і Ракава "Вывучэнне бюджэту часу беларускага сялянства". У значнай ступені этнаграфічны характар насіў і даклад Пятровіча "Як весці работу па вывучэнню гаспадаркі".

Асноўнае палажэнне свайго даклада Мялешка ўзяў з ранейшых сваіх выступленняў. Падкрэсліўшы актуальнасць этнаграфічных даследаванняў, ён адзначыў: "Этнаграфічныя вывады дадуць магчымасць разгледзець і ўявіць сабе працу, працэсы, бытавыя ўклады, мастацкія густы, светапогляд і г. д. Навука такія даныя зможа скарыстаць у справе аздаблення людскога жыцця, зможа выкарыстаць іх у адшуканні найкарацейшых пуцявін да скарэйшага культурнага і эканамічнага адраджэння нашай савецкай рэспублікі"[28].

У дакладзе Мялешкі даволі падрабязна гаварылася аб задачах вывучэння рабочага быту: "Трэба падыходзіць да вывучэння быту працоўнага з навуковымі запатрабаваннямі. Трэба, каб быт рабочага вывучаўся ва ўсіх сваіх праявах і ў розным стане з этнаграфічнага боку"[29]. Адзначым, што новыя аспекты этнаграфіі (вывучэння быту рабочых, удзел этнографаў у перабудове быту народа) у 20-я гады не атрымалі неабходнай распрацоўкі. Аб гэтым пакуль што гаварылася ў прамовах.

Ракаў у сваім дакладзе падкрэсліў важнасць вывучэння бюджэту часу сялянства, а Пятровіч акцэнтаваў увагу на вывучэнні прылад і тэхнікі сялянскай гаспадаркі, мясцовых промыслаў і іх арганізацыі.

ІІ Усебеларускі краязнаўчы з'езд адбыўся роўна праз год, у лютым 1927 г. К гэтаму часу ў Беларусі было ўжо 240 краязнаўчых арганізацый (12 акруговых, 98 раённых і 130 краязнаўчых гурткоў),

---

[28] Працы І Усебеларускага краязнаўчага з'езда 7—11 лютага 1926 г. Мн., 1926. С. 65.

[29] Там жа. С. 69.

у якіх налічвалася 9637 чалавек. ЦБК да пачатку з'езда атрымала ад мясцовых арганізацый наступныя матэрыялы: картак са словамі — 87230, фальклорных запісаў — 9632, калецый — 179, апісанняў — 413, запоўненых анкет — 500, другіх матэрыялаў — 796. Перад з'ездам у Беларусі было 18 музеяў, у якіх налічвалася 11239 экспанатаў[30].

Прыведзеныя лічбы сведчаць не толькі аб пашырэнні сеткі краязнаўства, але і аб велізарнай працы, праведзенай мясцовымі краязнаўцамі.

Асноўная ўвага на з'ездзе была звернута на комплекснае вывучэнне асноўнай адміністрацыйнай адзінкі — раёна. З гэтай мэтай была распрацавана праграма, якая ахоплівала не толькі прыродна-геаграфічныя ўмовы, эканоміку, гаспадарку, гісторыю, але і быт насельніцтва.

Асобна на з'ездзе разглядалася пытанне аб вывучэнні хатніх рамёстваў і промыслаў, якім надавалася немалаважнае значэнне ў задавальненні насельніцтва прадметамі шырокага ўжытку. У "Працах" з'езда апублікаваны матэрыялы па вывучэнню рамёстваў і промыслаў.

Другі краязнаўчы з'езд паслужыў значным штуршком у далейшым разгортванні краязнаўчай, у тым ліку і этнаграфічнай, працы ў Беларусі. Этнаграфія ў краязнаўстве займала ўсё большае месца.

Аб далейшым пашырэнні краязнаўчай працы ў Беларусі сведчыць III Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, якая адбылася ў студзені 1930 г. К гэтаму часу ў рэспубліцы было ўжо 333 краязнаўчыя арганізацыі, у якіх налічвалася 8819 чалавек. На канферэнцыі былі падведзены вынікі краязнаўчай работы ў рэспубліцы. У справаздачным


ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
АДДЗЕЛ V. СЭРЫЯ V. КНІГА 2.
ПРАЦЫ
ДРУГОГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КРАЯЗНАЎЧАГА ЗЬЕЗДУ
10—13 ЛЮТАГА 1927 ГОДУ.
ВЫДАНЬНЕ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
У МЕНСКУ—1927.

62. Вокладка кнігі

дакладзе ЦБК, у прыватнасці, паведамлялася аб шырокім развіцці музейнай справы. У пачатку 1930 г. у Беларусі было 4 акруговых, 15 раённых і 12 школьных краязнаўчых музеяў і 8 краязнаўчых куткоў. Лік экспанатаў ва ўсіх музеях раўняўся 16735 адзінкам захавання. Краязнаўчыя арганізацыі правялі значную працу па вывучэнню вуснапаэтычнай творчасці і мовы беларусаў. У ЦБК было даслана за ўвесь час яго існавання 46 000 фальклорных тэкстаў і 131 000 слоў жывой мовы[31].

Для ілюстрацыі росту і маштабаў краязнаўчай працы прывядзём даныя аб

[30] Працы II Усебеларускага краязнаўчага з'езда 10—13 лютага 1927 г. Мн., 1927.

[31] III Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя 25—26 студзеня 1930 г. // Наш край. 1930. № 2. С. 54—55.

выніках работы за 1929 г. За гэты год, як паведамлялася на канферэнцыі, краязнаўцамі было прачытана 50 навуковых дакладаў, праведзена 112 экскурсій і 4 экспедыцыі, сабрана 5745 экспанатаў, зроблена 232 апісанні, выдадзена 4 рукапісныя зборнікі і часопісы, 2 краязнаўчыя газеты, сабрана 847 адказаў на анкеты, 978 фальклорных твораў[32].

Нельга не адзначыць вялікую ролю ў развіцці краязнаўства часопіса "Наш край" — органа ЦБК Беларусі. Амаль у кожным нумары яго асвятляліся пытанні тэматыкі і методыкі краязнаўчай і этнаграфічнай работы.

У 1927 г. часопіс акцэнтаваў увагу на вывучэнні народнага мастацтва, звычаёвага права, на санітарна-бытавым і комплексным вывучэнні вёскі. У 1928 г. была апублікавана "Праграма для вывучэння прадзення і ткацтва". У 1929 г. звярталася ўвага на спецыфічна этнаграфічныя даследаванні, у сувязі з чым падкрэслівалася значэнне этнаграфічнага вывучэння краю (вывучэнне жылля, сямейнага быту і г. д.). Пытанні этнаграфіі займалі пэўнае месца ў краязнаўчай працы на фабрыках і заводах, у комплексным вывучэнні раёнаў і калгасаў. Па гэтых пытаннях былі змешчаны спецыяльныя праграмы[33]. У 1930 г. галоўная ўвага звярталася на вывучэнне вытворчых пытанняў народнай гаспадаркі. Зноў падкрэслівалася неабходнасць дэталёвага вывучэння быту рабочых. Гэтаму быў прысвечаны спецыяльны артыкул М. Каспяровіча "Вывучэнне быту рабочых"[34].

[32] III Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя 25—26 студзеня 1930 г. // Наш край. 1930. № 2. С. 55.

[33] Самцэвіч В. Аб арганізацыі краязнаўчай працы на фабрыках і заводах // Наш край. 1929. № 10; План агульнага даследавання і апісання раёна (сельсавета) // Наш край. № 11; Да вывучэння калгасаў // Наш край. № 12.

За час свайго існавання часопіс "Наш край" апублікаваў вялікую колькасць каштоўных матэрыялаў па этнаграфіі Беларусі. Значнае месца займаюць этнаграфічныя апісанні і ў агульнакраязнаўчых артыкулах. У часопісе атрымалі адлюстраванне ў той ці іншай меры ўсе бакі быту беларускага народа. Так, матэрыяльнай культуры, у прыватнасці жыллю беларускага селяніна, быў прысвечаны вялікі артыкул З. Магілеўчыка "Санітарна-гігіенічныя ўмовы хаты і двара беларускага сялянства"[35]. Разнастайныя пытанні матэрыяльнай культуры асветлены ў артыкулах М. Тамковіча "Да пытання аб санітарна-бытавым стане вёсак: Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчычы і Чапялі Старобінскага раёна Бабруйскай акругі"[36], М. Азбукіна "Мазырская акруга"[37], Я. Бараноўскага "Санітарна-бытавы стан вёскі Радзілавічы, Букчанскі сельсавет, Тураўскі раён, Мазырская акруга"[38], У. Жука і П. Панкова "Санітарна-бытавы нарыс вёскі Дубровы, Лельчыцкага сельсавета і раёна, Мазырскай акругі"[39], Т. П. Кулакова і М. С. Валатоўскага "Крукавіцкі сельсавет Азарыцкага раёна Мазырскай акругі"[40], М. Каспяровіча "Заметка для вывучэння сялянскага адзення Дубровеншчыны"[41], "Пра быт на Чэрвеньшчыне"[42], М. Віласевіча "Семнаццаць дзён па БССР"[43] і многіх іншых.

Шэраг артыкулаў у "Нашым краі" быў прысвечаны сямейным абрадам, вытворчаму быту, прыладам працы і

[34] Наш край. 1930. № 1.
[35] Там жа. 1926. № 6—7.
[36] Там жа. 1927. № 12.
[37] Там жа. 1928. № 8—9.
[38] Там жа.
[39] Там жа. 1929. № 2.
[40] Там жа. № 2, 11.
[41] Там жа. 1930. № 3.
[42] Там жа. № 5—6.
[43] Там жа. № 1—2.

іншым пытанням беларускай этнаграфіі.

Акрамя часопіса "Наш край" этнаграфічныя матэрыялы друкаваліся ў газеце "Савецкая Беларусь", у часопісах "Полымя", "Маладняк", у акруговых і раённых часопісах краязнаўчых арганізацый — "Віцебшчына", "Магілёўшчына", "Барысаўшчына" і інш.

Аднак трэба адзначыць, што не ўсе артыкулы часопіса "Наш край" і іншых перыядычных выданняў былі каштоўнымі. Некаторыя з іх адлюстравалі рознага роду скрыўленні і памылкі, якія мелі месца ў развіцці этнаграфіі і краязнаўства Беларусі 20-х гадоў. Як і іншыя галіны навукі і культуры, этнаграфія з'яўлялася арэнай ідэалагічнай і палітычнай барацьбы.

Звяртаючыся да агульнай ацэнкі этнаграфічнай працы ў Беларусі 20-х гадоў, трэба адзначыць, што гэта былі гады шырокага размаху збіральніцкай работы. Рабіліся пэўныя крокі і ў даследаванні сабраных матэрыялаў. Аднак развіццё навукі насіла больш колькасны характар.

## СТАН ЭТНАГРАФІЧНАГА ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСІ Ў 30-Х ГАДАХ

30-я гады можна выдзеліць у асобны перыяд развіцця як агульнасавецкай, так і беларускай этнаграфіі. Абвастрэнне класавай барацьбы ў сувязі з суцэльнай калектывізацыяй вёскі не магло не адбіцца і на ідэалагічнай барацьбе ў грамадскіх навуках.

Пэўны зрух у гэтым кірунку быў зроблены яшчэ ў 1929 г. У красавіку гэтага года ў Ленінградзе адбылося пашыранае пасяджэнне ленінградскіх і маскоўскіх этнографаў. У рэзалюцыі пасяджэння асаблівая ўвага звярталася на тое, каб вывучэнне быту і культуры народа вялося з пазіцый гістарычнага матэрыялізму[44]. У 1932 г. на Усерасійскай археолага-этнаграфічнай нарадзе ў Ленінградзе гэты тэзіс быў падкрэслены з новай сілай. Адначасова была звернута ўвага на сувязь навукі з практыкай.

Пэўны зрух у вызначэнні месца этнаграфіі сярод іншых навук быў зроблены ў 1932 г. на Усерасійскай археолага-этнаграфічнай нарадзе. З гэтага часу этнаграфія і археалогія былі аднесены да гістарычнай навукі. Аднак, вызначаючы ролю этнаграфіі, нарада адвяла ёй другараднае месца і практычна нанесла вялікую шкоду яе развіццю. У рэзалюцыі нарады, у прыватнасці, было запісана: "Этнаграфія пры ўсёй важнасці так званых этнаграфічных матэрыялаў можа мець значэнне толькі як дапаможная дысцыпліна, якая знаходзіцца на службе гістарычнага даследавання, маючы сваёй задачай палявое збіранне і першапачатковую апрацоўку непасрэдных назіранняў над жыццём і бытам цяперашніх народаў"[45]. Нарада адмаўляла за этнаграфіяй права мець свой прадмет і метады вывучэння.

Гэтыя ідэі былі прыцягнуты ў рэзалюцыю нарады М. М. Маторыным з яго даклада і ранейшых артыкулаў. Узяўшы на сябе місію заканадаўцы ў этнаграфіі, Маторын не змог адысці ад традыцыйных для буржуазных вучоных азначэнняў этнаграфіі як навукі і асэнсаваць ролю гэтай навукі ў новых умовах. Як і Тан-Багараз, ён пакідаў этнаграфіі толькі праблемы першабытнага грамадства і

[44] Этнография. 1929. № 2. С. 110.

[45] Советская этнография. 1932. № 1. С. 12.

вывучэння перажыткаў старасветчыны ў быце народаў. А як быць з сучаснасцю? Маторын не мог не заўважыць, што "цэлы рад актуальнейшых пытанняў сучаснасці ... ужо ўвайшоў у поле дзейнасці этнографаў... Такія: вывучэнне быту сучаснай вёскі, вывучэнне працы і быту ў калгасах, часткова вывучэнне рэлігійнага быту і г. д."[46] І далей аўтар разважае: "Калі нас зараз спытаюць, ці з'яўляецца гэта прадметам уласна этнаграфіі як навукі, мы адкажам, што, відаць, не ... Для мяне цяпер зразумела, што ў вывучэнні якога-небудзь калгаса ці саўгаса з высокаразвітой тэхнікай няма нічога спецыфічна "этнаграфічнага"[47]. На думку Маторына, з адміраннем старых сацыяльна-эканамічных укладаў этнографы будуць ператварацца ў звычайных гісторыкаў.

Сваю ідэю аб ролі этнаграфіі Маторын правёў і на І Усесаюзным геаграфічным з'ездзе (1933).

У 30-я гады ўсё часцей ставілася пытанне аб неабходнасці вывучэння быту рабочых. У гэтых адносінах немалаважную ролю адыграў заклік А. М. Горкага да грамадскасці разгарнуць вывучэнне гісторыі грамадзянскай вайны і гісторыі фабрык і заводаў. У 1931 г. было прынята рашэнне аб падрыхтоўцы выдання "Гісторыя фабрык і заводаў СССР". Адгукнуўся на зварот А. М. Горкага і часопіс "Советская этнография". У артыкуле С. А. "Да новых задач савецкай этнаграфіі", у прыватнасці, адзначалася: "Сам метад работы этнографаў і фалькларыстаў, метад жывога сапраўднага наглядання, цесных адносін з масай працоўных, пранікнення ў дыялектыку грамадскіх з'яў учарашняга і сённяшняга дня, дае падставу для выкарыстання гэтай катэгорыі навуковых супрацоўнікаў і краязнаўцаў у той вялікай грамадска карыснай справе, якая на нашых вачах пачынае ажыццяўляцца"[48]. Звяртаючыся непасрэдна да праблем вывучэння быту рабочых, аўтар даволі акрэслена сфармуляваў агульныя задачы вучоных у гэтай галіне этнаграфіі: "Рабочы быт — адна з бліжэйшых і асноўных тэм у рабоце савецкага этнографа, а гэта тэма ў сваю чаргу непарыўна звязана з працай над гісторыяй фабрык і заводаў"[49].

Своечасовыя і вельмі важныя палажэнні артыкула С. А. у 30-я гады не атрымалі далейшага развіцця ў дзейнасці прафесіянальных этнографаў. Аднак тое, што не было ўспрынята этнографамі, вырашалася спецыялістамі іншых грамадскіх навук — гісторыкамі, эканамістамі, краязнаўцамі.

Разам з гэтым нельга не адзначыць, што ў 30-я гады наглядаецца згортванне этнаграфічнай працы. Звужэнне задач этнаграфіі да вузкагістарычных прывяло да адмірання такіх галін яе, як картаграфія (этнаграфія). У сувязі з гэтым спыніла сваю дзейнасць Камісія па вывучэнню народаў СССР. Разуменне этнаграфіі як навукі аб першабытным грамадстве прывяло да згортвання працы і іншых навуковых устаноў як у цэнтры, так і на перыферыі.

Аналагічнае становішча ў развіцці этнаграфіі, а таксама ў разуменні яе задач наглядаецца ў гэтыя гады і ў Беларусі. Аднак тут ішла больш вострая ідэалагічная барацьба, якая прывяла да сумных вынікаў.

Ва ўмовах культу асобы Сталіна ў грамадскіх навуках разгарнулася раз'юшанае "развянчанне" так званай нацдэмаўшчыны. Гэтаму былі прысвечаны

---

[46] Маторин Н. М. Современный этап и задачи советской этнографии // Советская этнография. 1931. № 1—2. С. 20.

[47] Там жа. С. 23.

[48] Советская этнография. 1931. № 3—4. С. 1—2.

[49] Там жа. С. 2.

артыкулы М. Грынблата, М. Нікольскага, Л. Бабровіча, І. Шпілеўскага, З. Жылуновіча, В. Самцэвіча, А. Супінскага, В. Серафімава, Ф. Садоўскага і інш.[50] Многія з гэтых аўтараў і асабліва М. Нікольскі шмат у чым сказілі сапраўднае становішча ў беларускай этнаграфіі і нанеслі ёй вялікую шкоду.

Практычна адмаўлялася ўсё тое станоўчае, што было зроблена беларускімі этнографамі не толькі ў 20-я гады, але і ў дарэвалюцыйны час. Дарэвалюцыйных этнографаў Шэйна, Раманава, Крачкоўскага Нікольскі агулам залічвае да вялікадзяржаўных вучоных. "Для ўсіх этнографаў гэтай групы, — піша Нікольскі, — аб'ект іх наглядання, беларускі селянін, з'яўляецца нечым накшталт экзатычнага каланіяльнага дзікуна, на якога "асвечаны наглядальнік", прыехаўшы з "метраполіі", глядзіць з гары ўніз і апісвае яго быт, як асаблівы рэрытэт"[51]. Зусім ясна, што аўтар у той час быў слаба знаёмы з працамі Раманава і іншых дарэвалюцыйных беларускіх этнографаў. Беспадстаўна бічуе Нікольскі выдатнага беларускага этнографа А. К. Сержпутоўскага і шэраг іншых добрасумленных працаўнікоў навукі, а што датычыць навуковых цэнтраў, то ён лічыць, што "некаторыя ўстановы Інбелкульта і АН і перш за ўсё кафедра этнаграфіі і Цэнтральнае бюро краязнаўства ператварыліся ў сапраўдныя штабы кулацкай ідэалагічнай агентуры"[52]. Тэндэнцыйнасць і неразуменне калектыўнай сутнасці народнай культуры Нікольскі выявіў пры крытыцы працы І. Фурмана "Крашаніна". "Для Фурмана, — піша Нікольскі, — "народнае мастацтва" адрозніваецца "асаблівай глыбінёй і каштоўнасцю", бо "гэта не мастацтва паасобнага аўтара з уласцівымі індывідуальнымі выкрунтасамі, а гэта калектыўны твор цэлага народа"[53]. У большасці выпадкаў гэтыя артыкулы скажаюць сапраўднае становішча ў беларусазнаўстве, асобныя памылкі некаторых вучоных узводзяцца ў шматкратную ступень, а самі яны аб'яўляюцца ворагамі Савецкай дзяржавы. Напрыклад, Я. Ф. Карскі быў аб'яўлены "вялікадзяржаўным чарнасоценцам", Ф. Багушэвіч — "кулацкім паэтам", М. І. Гарэцкі, М. І. Каспяровіч — контррэвалюцыянерамі, ставілася пад сумненне дзейнасць М. Шчакаціхіна, М. В. Анцава, М. В. Мялешкі, І. А. Сербава і іншых працаўнікоў навукі.

Пачаліся рэпрэсіі, у выніку якіх былі расстраляны М. Каспяровіч, М. Мялешка і іншыя этнографы Беларусі. А. Шлюбскі захварэў на лесараспрацоўках і памёр у 1941 г., заўчасна памёр у лагеры М. Гарэцкі ў 1939 г.

Паступова спынілі сваю дзейнасць краязнаўчыя арганізацыі. Так, ужо ў 1931 г. у артыкуле Ф. П. Садоўскага "Аб недаацэнцы краязнаўства" гаварылася аб тым, што ў радзе месц зусім няма каму займацца краязнаўствам, "бо старыя краязнаўцы аддаліліся ад краязнаўства, а новыя не навербаваны. Аб поўным развале, адсутнасці краязнаўчай работы паведамляе і Віцебскі музей"[54]. Краязнаўчыя арганізацыі амаль поўнасцю спынілі этнаграфічную работу не толькі

[50] Садоўскі Ф. П. "Савецкая краіна" — барацьбіт за савецкае краязнаўства // Савецкая краіна. 1930. № 1—2 (11—12); Грынблат М. Я. Перспективы этнографической работы в Белоруссии // Там жа. 1932. № 5—6; Нікольскі М. М. Этнаграфія ў БССР пасля Кастрычніка (Тэзісы даклада) // Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук. Мн., 1932. Т. III.; Шпилевский И. Ф., Бобрович Л. А. Белорусская академия наук на пороге второй пятилетки. Мн., 1933.

[51] Нікольскі М. Устаноўкі і метады беларускай нацдэмаўскай этнаграфіі. Мн., 1933. С. 4.

[52] Нікольскі М. Устаноўкі і метады беларускай нацдэмаўскай этнаграфіі. С. 12.

[53] Там жа. С. 14.

[54] Савецкая краіна. 1931. № 6(8). С. 5.

ў Беларусі, але і наогул у СССР. У артыкуле М. М. Маторына "Пятнаццаць год савецкай этнаграфіі", у прыватнасці, адзначалася, што "ў краязнаўчых арганізацыях і музеях самі заняткі этнаграфіяй станавіліся скрозь і ўсюды ганебнай справай"[55]. Была згорнута і этнаграфічная адукацыя ў вышэйшых навучальных установах, а таксама музейная справа.

У сувязі са зменай структуры Беларускай акадэміі навук у 1931 г. этнаграфічная работа сканцэнтравалася ў Інстытуце гісторыі, пры якім была створана секцыя этнаграфіі. У 1937 г. секцыю этнаграфіі аб'ядналі з фальклорнай камісіяй у адзіную секцыю этнаграфіі і фальклору.

З 1931 г. этнаграфічную працу ў Беларусі ўзначаліў біблеіст, гісторык, які вывучаў краіны Старажытнага Усходу, акадэмік М. М. Нікольскі; ён не займаўся да гэтага спецыяльнымі этнаграфічнымі даследаваннямі і не змог правільна зарыентавацца ў гэтай навуцы. Аднабокі ўхіл агульнасавецкай этнаграфіі ў вывучэнні адсталых народаў краіны, якія знаходзіліся на дакапіталістычнай стадыі развіцця, Нікольскі слепа перанёс у этнаграфію Беларусі, забываючы аб тым, што беларускі народ ужо прайшоў гэту стадыю развіцця. Так, нельга не адзначыць, што старажытная гісторыя чалавечага грамадства была бліжэй Нікольскаму па яго навуковых інтарэсах. Таму зусім не выпадкова навуковыя даследаванні Нікольскага былі звернуты ў глыбокую старасветчыну беларускага народа. У сваіх працах "Міфалогія і абрадавасць валачобных песень" (1931), "Жывёлы ў звычаях і абрадах беларускіх сялян" (1933) і нават у апошняй працы "Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці" (1956) ён шукаў рэшткі старажытных вераванняў і абрадаў у сучасным быце беларускага народа.

Аддаючы пашану навуковай каштоўнасці гэтых прац і нават усяляк вітаючы спробы вучонага рэтраспектыўна заглянуць у сівую старыну беларусаў, трэба адзначыць, што для свайго часу такая абмежаванасць інтарэсаў кіраўніка этнаграфічнай навукі ў Беларусі не магла садзейнічаць яе паспяховаму развіццю.

І нават калі жыццём была вылучана як першачарговая праблема сацыялістычнай рэканструкцыі быту, у планах работы секцыі этнаграфіі на 1934 г. да гэтай праблемы былі прыстасаваны наступныя тэмы: "Элементы анімізму ў беларускай сялянскай магіі", "Перамаганне перажыткаў земляробчай магіі і абраднасці ў працэсе сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі", "Монатэізм і політэізм у яўрэйскай рэлігіі".

Гэтыя тэмы фігуруюць і ў планах 1935—1936 гг. У далейшым этнаграфічнай праблематыкай займаўся толькі адзін І. А. Сербаў, распрацоўваючы пытанні матэрыяльнай культуры. М. Я. Грынблат і М. М. Нікольскі пераключыліся на фалькларыстыку. У 1940 г. у план работы была ўключана тэма "Гісторыка-этнаграфічнае апісанне калгасаў", аднак яна была знята і заменена тэмай "Этнаграфічная карта Беларусі". Калі да гэтага дадаць, што І. А. Сербаў вывучаў быт лесарубаў, а М. Я. Грынблат — раёны малога рыбалоўства, то па сутнасці ўся работа этнаграфічнай секцыі ў 30-я гады амаль абмяжоўваецца вышэйназванымі тэмамі. З распрацаваных тэм убачылі свет толькі працы М. М. Нікольскага і некалькі артыкулаў М. Я. Грынблата. Што ж датычыць капітальных прац І. А. Сербава па матэрыяльнай культуры беларусаў, то яны ў час вайны былі страчаны.

---

[55] Советская этнография. 1932. № 5—6. С. 13.

Кіраўніцтва Акадэміі навук БССР у 1940 г. падвергла рэзкай крытыцы недахопы ў рабоце Інстытута гісторыі, адзначыла дрэнную працу ўсяго інстытута ў цэлым і секцыі этнаграфіі ў прыватнасці, адсутнасць высокакваліфікаваных кадраў этнографаў і г. д. "Невыкананне работ ва ўказаныя тэрміны, невыразнасць накірунку асобных тэм сведчаць аб нездавальняючай рабоце секцыі і недастатковым кіраўніцтве і кантролі працы гэтай секцыі з боку дырэкцыі і вучонага савета"[56].

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны былі прыняты канкрэтныя меры для шырокага разгортвання этнаграфічнай работы і асабліва па ўмацаванню секцыі этнаграфіі высокакваліфікаванымі спецыялістамі. Аднак вайна і акупацыя Беларусі адсунулі ажыццяўленне гэтых мерапрыемстваў на значны адрэзак часу.

Вышэйсказанае не азначае, што ўвесь перыяд 30-х гадоў характарызуецца як час поўнага заняпаду ў развіцці этнаграфіі Беларусі. Вядома, навука шмат страціла ў накапленні этнаграфічных фактаў, вывучэнні многіх галін быту.

Пэўная праца ў гэты перыяд была выканана па збіранню матэрыялаў у этнаграфічных экспедыцыях. Зразумела, што ў параўнанні з 20-мі гадамі, калі ў збіральніцкую работу былі ўключаны не толькі этнографы, а і шырокая сетка краязнаўцаў, аб'ём гэтай работы быў невялікім.

У асноўным збіранне матэрыялаў праводзілася ў час экспедыцый вузкім колам навуковых супрацоўнікаў. У той час з'явіўся новы метад экспедыцыйнай работы. Экспедыцыі сталі комплекснымі. На ўсё Аддзяленне гуманітарных навук у год фарміравалася адна экспедыцыя, у склад якой уваходзілі археолагі, этнографы, фалькларысты, моваведы, эканамісты, сацыёлагі.

Першая такая экспедыцыя была праведзена ў 1931 г. Яе ўзначальваў археолаг А. Н. Ляўданскі. Ад этнографаў і фалькларыстаў у складзе экспедыцыі працавалі І. А. Сербаў, М. Я. Грынблат. Асноўным метадам работы этнографаў быў так званы вытворчы падыход. Нават мова вывучалася "паводле вытворчага прынцыпу". Задачай этнографаў у гэтай экспедыцыі, якая атрымала назву Лепельска-Бярэзінскай, было вывучэнне лесанарыхтовак і лесасплаву, а таксама быту рабочых гэтых галін гаспадаркі[57].

Найбольш тыповай у сэнсе комплекснасці з'явілася Палеская экспедыцыя 1932 г., якая была арганізавана па ініцыятыве Беларускага сектара Інстытута па вывучэнню народаў СССР (ІПВН).

Адзначым, што пастанова аб стварэнні Беларускага сектара Інстытута па вывучэнню народаў СССР была прынята 1 красавіка 1930 г. Працу ён разгарнуў у лютым 1931 г. На чале сектара быў пастаўлены А. К. Супінскі. У 1931 г. былі пасланы ў БССР за кошт ІПВН і Рускага музея 7 чалавек (2 атрады), задачай якіх з'яўлялася вывучэнне наступных праблем: культурная рэвалюцыя ў калгасах; адміранне старога быту; праца і быт дзяцей і падлеткаў у калгасе. Атрадам было даручана арганізаваць пастаянныя даследчыя базы сектара ў інтэрнацыянальным, беларускім, яўрэйскім і латышскім калгасах, над якімі намячалася замацаваць шэфства Беларускага сектара ІПВН і этнаграфічнага аддзела Рускага музея[58].

---

[56] Архіў НАН Беларусі, ф. 1, арх. № 67. Отчет Академии наук БССР за 1940 год. С. 15.

[57] Гл.: В. Д. Лепель—Бабруйск (Комплексная экспедыцыя БАН у чэрвені — жніўні 1931 г.) // Савецкая краіна. 1931. № 2.

[58] А. Д. Институт по изучению народов СССР (ИПИН) // Советская этнография. 1931. № 1—2.

У арганізацыі і правядзенні Палескай экспедыцыі 1932 г. прынялі ўдзел таксама супрацоўнікі этнаграфічнага аддзела Рускага музея і Беларускай акадэміі навук. У склад экспедыцыі ўваходзілі 9 спецыяльных брыгад (29 супрацоўнікаў), якія былі згуртаваны ў два атрады: паўночны на чале з В. К. Шчарбаковым (маршрут Тураў — Жыткавічы — Рудня — Пухавічы) і паўднёвы на чале з А. К. Супінскім (Тураў — Тонеж — Букча — Дзяржынск — Глушкавічы — Капішча — Баравое — Лельчыцы — Петрыкаў)[59].

У параўнанні з папярэдняй экспедыцыяй былі пастаўлены яшчэ больш важныя задачы ў сэнсе расшырэння аспектаў даследавання. Акадэмік В. К. Шчарбакоў наступным чынам сфармуляваў іх: "Вывучэнне карысных выкапняў, прамысловасці, калгаснага будаўніцтва, рыбнай гаспадаркі, савецкага будаўніцтва і класавай барацьбы ў сучасны перыяд, становішча сучасных мястэчак, савецкага гандлю, культурнага будаўніцтва і работы сярод нацыянальных меншасцяў, рэлігійных настрояў і антырэлігійнай прапаганды, захворваемасці і пастаноўкі медычнай справы, пераЖыткаў старога быту і будаўніцтва новага быту, мовы насельніцтва, устаноў, у прыватнасці беларусізацыі, працоўных рэсурсаў насельніцтва, помнікаў культуры і грамадзянскай вайны ў Палессі"[60].

З інфармацыйнага артыкула А. К. Супінскага бачна, што вывучэнню быту народа ў гэтай экспедыцыі адводзілася адно з апошніх месц, прычым пытанні этнаграфіі былі раскіданы па розных раздзелах экспедыцыйнай праграмы. Апошняе адчуваецца і ў артыкуле Шчарбакова. Так, напрыклад, вывучэнне сучаснага жылля фігуруе ў раздзеле "Гісторыя матэрыяльнай вытворчасці", пад якой разумелася і археалагічная работа.

Па звестках Супінскага, у гэтай экспедыцыі, акрамя 40 чарцяжоў (планаў) і падрабязных апісанняў пабудоў, сабрана да 150 картак па жыллю і вераваннях, звязаных з ім, 450 картак з тэрмінамі будаўнічага працэсу (назвы асобных дэталяў і г. д.), 16 планаў палескіх вёсак і памешчыцкіх уладанняў і зроблена каля 100 фотаздымкаў[61]. У сувязі з падрыхтоўкай у этнаграфічным аддзеле Рускага музея выстаўкі, прысвечанай Беларускай ССР, у экспедыцыі адначасова збіраліся этнаграфічныя калекцыі.

Зусім зразумела, што экспедыцыя мала што дала для вывучэння сацыялістычнай перабудовы быту беларускай вёскі. Аднак той факт, што гэтыя пытанні ўключаліся ў задачы экспедыцыі, гаворыць сам за сябе.

Аналагічны паварот у бок вывучэння сучаснасці быў яшчэ больш прыкметным ў фальклорнай рабоце экспедыцыі. Мэты гэтай работы дэкларавалiся наступным чынам: "... Даследаваць масавы рэпертуар Беларускага Палесся ў яго класавай дыферэнцыяцыі і даць карціну сацыяльнай функцыі бытуючай палескай песні і яе змен у працэсе сацыялістычнага будаўніцтва"[62].

Наогул трэба адзначыць, што ў экспедыцыі 1932 г., а таксама ў наступныя гады этнографы ўсё большую ўвагу аддавалі фальклорнай рабоце. Супрацоўніцай Інстытута па вывучэнню народаў СССР З. В. Эвальд разам са студэнтамі

[59] Супинский А. К. Комплексная экспедиция в Белорусское Полесье (1932 г.) // Вестник Академии наук СССР. 1933. № 8—9.

[60] Шчарбакоў В. К. Савецкае Палессе // Савецкая краіна. 1932. № 9 (23). С. 24.

[61] Супинский А. К. Комплексная экспедиция в Белорусское Полесье (1932 г.) // Вестник Академии наук СССР. 1933. № 8—9.

[62] Там жа. С. 92.

Ленінградскага гісторыка-лінгвістычнага інстытута М. Л. Сулер і Ф. А. Наркевіч, а таксама М. Я. Грынблатам у экспедыцыі 1932 г. было зроблена каля 300 фоназапісаў фальклорных твораў, сфатаграфаваны ўсе выканаўцы песень. М. Я. Грынблат, у прыватнасці, збіраў фальклор рыбацкіх арцеляў і абрадавы фальклор сялян. Адначасова фатаграфаваліся тыпы адзення і жылля[63].

Комплексныя экспедыцыі праводзіліся і ў наступныя гады. Спачатку правядзенне комплексных экспедыцый, відаць, мела станоўчае значэнне і адыграла сваю ролю ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне. Аднак у далейшым ад комплекснага метаду вымушаны былі адмовіцца. З развіццём грамадскіх навук, пашырэннем і паглыбленнем тэматыкі даследавання неабходнасць у такіх экспедыцыях адпала. Этнографы і фальклярысты сталі праводзіць асобныя экспедыцыі. Так, у плане Інстытута гісторыі на 1938 г. значылася правядзенне фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі ў Чавускі, Чэрыкаўскі і Крычаўскі раёны з мэтай вывучэння беларускага адзення, фальклору грамадзянскай вайны, а таксама традыцыйнага фальклору. Адзначым, што па звестках М. Я. Грынблата, акрамя адзначаных экспедыцый, у 30-х гадах былі яшчэ праведзены Аршанска-Сенненская фальклорна-этнаграфічная экспедыцыя (1934), экспедыцыя ў Гомельскую вобласць (1935), Віцебская, Чэрвеньская (1936), Бабруйская (1938), а ў 1940 г. — Пінская і Баранавіцкая экспедыцыі[64].

Экспедыцыі 30-х гадоў некалькі папоўнілі вялікі фонд матэрыялаў, сабраных у 20-я гады. Агульны лік іх перад Айчыннай вайной складаў звыш 70 000 адзінак этнаграфічных апісанняў і фальклорных тэкстаў, да 10 000 здымкаў і 2000 этнаграфічных экспанатаў, якія былі прызначаны для будучага этнаграфічнага музея[65].

У архіве секцыі этнаграфіі і фальклору захоўваліся вельмі каштоўныя рукапісы прац выдатных беларускіх этнографаў Е. Р. Раманава (XI—XV выпускі "Беларускага зборніка"), А. К. Сержпутоўскага і І. А. Сербава (працы па матэрыяльнай культуры беларусаў), а таксама рукапісы М. В. Доўнар-Запольскага, М. М. Чуркіна і інш. Усё гэта багацце, якое збіралася на працягу 20 год савецкай улады, было па-варварску знішчана нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Акрамя секцыі этнаграфіі і фальклору, некаторыя пытанні этнаграфіі Беларусі ў 30-х гадах вывучаліся другімі навукова-даследчымі ўстановамі СССР і БССР — Інстытутам па вывучэнню народаў СССР АН СССР (з 1933 г. перайменаваны ў Інстытут антрапалогіі і этнаграфіі, а ў 1937 г. — у Інстытут этнаграфіі АН СССР), Інстытутам эканомікі АН БССР (Р. Рак), музеямі этнаграфіі Ленінграда і Масквы (Н. Лебедзева, А. К. Сержпутоўскі) і асобнымі вучонымі.

На наш погляд, у гэтыя гады фальклорная работа развівалася больш інтэнсіўна, чым этнаграфічная. Аб гэтым сведчаць такія зборнікі, як "Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песні" (1938), "Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці" (1938), "Чырвоная армія і абарона Радзімы ў беларускай народнай творчасці" (1938), "Жанчына ў беларускай народнай творчасці" (1940), "Песні беларускага народа" (1940) і інш.

---

[63] Эвальд З. Фольклорная работа в Полесской экспедиции // Советская этнография. 1934. № 1—2.

[64] Гринблат М. Я. Этнография и фольклористика в БССР за 30 лет // Наука в БССР за 30 лет. Мн., 1949.

[65] Там жа. С. 509.

# СТАНАЎЛЕННЕ НОВЫХ АСПЕКТАЎ ЭТНАГРАФІІ БЕЛАРУСІ І АРГАНІЗАЦЫЯ НАВУКОВАЙ РАБОТЫ Ў ПАСЛЯВАЕННЫ ПЕРЫЯД

Гвалтоўны напад гітлераўскай Германіі на нашу краіну перапыніў этнаграфічныя даследаванні ў Беларусі. У цяжкім становішчы апынуўся і цэнтр этнаграфічнай навукі СССР — Ленінград. Большая частка супрацоўнікаў Інстытута этнаграфіі АН СССР была эвакуіравана ў Ташкент, дзе ў 1942 г. была створана Ташкенцкая група інстытута. Паралельна было створана аддзяленне Інстытута этнаграфіі АН СССР у Маскве на чале з прафесарам С. П. Талстовым. У сувязі з ваеннымі цяжкасцямі былі згорнуты палявыя экспедыцыйныя даследаванні. Асноўная ўвага інстытута звярталася на стварэнне 9-томнага выдання "Народы свету". Адначасова вялася праца над праблемамі этнагенезу славян і гісторыка-культурных сувязей народаў СССР. Адным з вынікаў гэтай працы з'явіўся даклад У. І. Пічэты "Паходжанне беларускага народа", прачытаны на навуковай сесіі, прысвечанай пытанням этнагенезу славян (23—25 снежня 1943 г.)[66].

Гэта тэматыка, вызначаная яшчэ напярэдадні вайны, сведчыла аб павароце савецкай этнаграфічнай навукі ад вывучэння патрыярхальнага быту пераважна адсталых народаў да новых праблем, якія ахоплівалі розныя бакі быту і культуры ўсіх народаў СССР, а таксама народаў свету.

Пасля разгрому гітлераўскай Германіі і імперыялістычнай Японіі былі створаны ўмовы для далейшага развіцця этнаграфічнай навукі.

У 1946 г. аднавілася выданне часопіса "Советская этнография" (не выходзіў з 1937 г.). У першым нумары часопіса быў змешчаны праграмны артыкул С. П. Талстова "Этнаграфія і сучаснасць", які характарызаваў новы этап у разуменні прадмета і задач этнаграфічнай навукі. "Этнаграфія, — пісаў С. П. Талстоў, — галіна гісторыі, якая даследуе культурна-бытавыя асаблівасці розных народаў свету ў іх гістарычным развіцці, вывучае праблемы паходжання і культурна-гістарычных узаемаадносін гэтых народаў, аднаўляе гісторыю іх рассялення і перамяшчэння"[67]. Гэта фармуліроўка адлюстроўвала тэматыку Інстытута этнаграфіі ваеннага часу і першых пасляваенных гадоў. Артыкул, даючы правільнае азначэнне этнаграфіі ў шырокім плане, пакуль што не раскрываў канкрэтных задач савецкіх этнографаў па вывучэнню народаў СССР. Па гэтаму пытанню рабіліся першыя намёткі. У прыватнасці, падкрэслівалася, што рост нацыянальнай культуры народаў СССР патрабуе ўсебаковага вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры ўсіх народаў СССР. У дадзеным выпадку мелася на ўвазе вывучэнне сельскага насельніцтва краіны.

Непасрэдная рэалізацыя гэтага новага напрамку ў савецкай этнаграфіі пачалася ў 1948 г. з уключэннем у планавую тэматыку этнографаў краіны праблемы "Сацыялістычная культура і быт калгасаў народаў СССР". Далейшыя пошукі ў гэтай галіне этнаграфіі паказалі, што манаграфічнае вывучэнне калгасаў не вычэрпвае ўсёй глыбіні і сутнасці раз-

[66] Рабинович М. Институт этнографии в годы Великой Отечественной войны // Советская этнография. 1946. № 1.

[67] Советская этнография. 1946. № 1. С. 3.

віцця сацыялістычнай культуры народаў СССР.

Новым крокам у разуменні задач савецкай этнаграфіі з'явілася Усесаюзная нарада этнографаў, скліканая Інстытутам этнаграфіі АН СССР у 1951 г. Нарада падвяла вынікі развіцця савецкай этнаграфіі за першыя пасляваенныя гады і падкрэсліла, што за гэты час у савецкай этнаграфічнай навуцы адбыўся карэнны пералом, ад вывучэння выключна архаічных форм культуры і перажыткаў першабытнаабшчыннага ладу этнаграфія звярнулася да вывучэння сучаснага жыцця народаў.

Павялічваецца значэнне этнаграфіі ў агульнай сістэме гістарычных навук. З 1953 г. звяртаецца ўвага на той факт, што ў агульнагістарычных даследаваннях да апошняга часу адсутнічала характарыстыка культуры і быту народаў. У сувязі з гэтым зусім правамерна ў перадавым артыкуле "Советской этнографии" падкрэслівалася, што "гісторыя народа — гэта не толькі гісторыя дабывання сродкаў для жыцця, яна ўключае ў сябе гісторыю яго жылля, адзення, ежы, яго сямейнага ўкладу, форм быту ў шырокім сэнсе гэтага слова. Гісторыя народа — гэта не толькі гісторыя яго барацьбы за свае ідэалы, гэта разам з тым гісторыя яго светапогляду, народных ведаў, вераванняў, абрадаў і звычаяў"[68]. Паступова этнографы ўсё больш сталі прыцягвацца да ўдзелу ў напісанні гісторыі СССР і гісторыі асобных народаў краіны.

Кідаючы погляд на спецыяльна этнаграфічныя даследаванні пасляваеннага часу, трэба адзначыць, што ў асноўным яны канцэнтруюцца вакол наступных праблем: гісторыя першабытнага грамадства; гісторыка-этнаграфічнае вывучэнне народаў свету; этнагенез і этнічная гісторыя народаў СССР і зарубежных краін; гісторыя матэрыяльнай культуры; гісторыя абрадаў, звычаяў, рэлігійных перажыткаў, народных ведаў; сучасныя этнічныя працэсы ў народаў СССР і за рубяжом; этнаграфічнае вывучэнне сучаснай культуры і быту народаў СССР (вывучэнне матэрыяльнай і духоўнай культуры, вытворчага, грамадскага і сямейнага быту сялянства і рабочага класа, вывучэнне быту гарадскога насельніцтва і г. д.).

У беларускай этнаграфічнай навуцы пасляваеннага часу адлюстраваліся асноўныя тэндэнцыі і праблематыка агульнасавецкай этнаграфіі гэтага перыяду.

У перыяд часовай акупацыі тэрыторыі Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі супрацоўнікі сектара этнаграфіі апынуліся ў розных месцах краіны. Кіраўнік сектара М. М. Нікольскі не змог эвакуіравацца і застаўся на акупіраванай тэрыторыі. У 1943 г. ён з дапамогай патрыётаў перабраўся ў партызанскае злучэнне і там працягваў навуковую працу па праблеме паходжання і гісторыі беларускай вясельнай абраднасці. І. А. Сербаў пераехаў у Тамбоў, дзе працаваў выкладчыкам педінстытута. М. Я. Грынблат разам са штатам Акадэміі навук БССР эвакуіраваўся ў Ташкент і працаваў па праблемах этнічнай гісторыі беларусаў і па фалькларыстыцы. У 1944 г. ім была завершана праца "Этнічны склад заходніх абласцей БССР". Адначасова М. Я. Грынблат вёў работу па тэме "Выбраныя творы беларускага фальклору"[69].

Пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і пераезду АН БССР у Мінск пры Інсты-

[68] За тесное сотрудничество этнографов и историков // Советская этнография. 1953. № 3. С. 3—4.

[69] Архіў НАН Беларусі. ф. 5, спр. 6, арх. № 46, л. 18—19; ф. 5, спр. 2, арх. № 50, л. 9—10.

туце гісторыі быў адноўлены сектар этнаграфіі і фальклору. У 1945 г. сектар пачаў працу над тэмамі "Беларускі народ" (мелася на ўвазе падрыхтоўка чатырохтомніка "Этнаграфія беларусаў"), "Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці", "Паўночна-заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства і яго роля ў вывучэнні этнаграфіі Беларусі", "Мастацкая апрацоўка дрэва"[70]. З гэтых тэм завершана была толькі праца М. М. Нікольскага "Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці". Тэма "Беларускі народ" (пазней звужаная да тэмы "Нарысы гісторыі беларускай этнаграфіі") у 1949 г. была заменена тэмай "Беларусы", якая павінна была рыхтавацца да серыі "Народы свету". У гэтым жа годзе была пачата праца па вывучэнню беларускага народнага жылля і будаўнічай тэхнікі[71]. На працягу 1950—1951 гг. вялося вывучэнне быту калгаснай вёскі. Быў абследаваны калгас "Бальшавік" Хойніцкага раёна. З 1951 г. распрацоўвалася тэма "Паходжанне беларускай народнасці", а з 1952—1953 гг. пачалі вывучацца земляробчыя прылады і народнае адзенне беларусаў.

Некаторае павелічэнне складу сектара этнаграфіі і народнай творчасці дало магчымасць у 1954—1957 гг. некалькі пашырыць тэматыку даследаванняў. Распачалася праца па вывучэнню быту рабочага класа Беларусі, быту беларускіх сялян у партызанскім краі і гістарыяграфіі дарэвалюцыйнай беларускай этнаграфіі.

Адначасова ў сектары пачалася работа па падрыхтоўцы кадраў этнографаў. Аднак, нягледзячы на папаўненне сектара спецыялістамі, яшчэ адчуваўся востры недахоп кваліфікаваных кадраў, што выявілася ў працэсе працы над манаграфіяй "Беларусы".

Карэнным чынам становішча ў развіцці этнаграфічнай навукі Беларусі змянілася з утварэннем у сістэме Акадэміі навук БССР у 1957 г. Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, а ў ім асобнага сектара этнаграфіі.

За час існавання новага інстытута ў сектары этнаграфіі была падрыхтавана значная колькасць навуковых кадраў па розных профілях этнаграфічнай навукі. Сектар этнаграфіі нанава прыступіў да работы над манаграфіяй "Беларусы". Работа над гэтай манаграфіяй садзейнічала ўзняццю на новы навукова-тэарэтычны ўзровень даследаванняў у галіне этнаграфіі. У манаграфіі на шырокім гістарычным фоне ўпершыню было прааналізавана развіццё важнейшых аспектаў быту і культуры беларускага народа, пачынаючы ад крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы да пачатку 60-х гадоў. Скарочаны варыянт манаграфіі "Беларусы" апублікаваны ў шматтомным выданні Інстытута этнаграфіі АН СССР "Народы свету"[72].

Матэрыяльнай культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу прысвечана манаграфічнае даследаванне Л. А. Малчанавай[73], у якім дадзена характарыстыка асноўных асаблівасцей земляробчай тэхнікі, сялянскіх пасяленняў, сядзіб і жылля, адзення, галаўных убораў і абутку, народнай кулінарыі і хатняга начыння. Гэтым пытанням прысвечаны таксама шэраг артыкулаў Л. А. Малчанавай. Пытанні арганізацыі народнага харча-

---

[70] Архіў НАН Беларусі, ф. 6, арх. № 132, л. 12, 72; ф. 5, спр. 2, арх. № 61, л. 15—16; ф. 5, спр. 4, арх. № 54, л. 29—30.

[71] Там жа, ф. 5, спр. 4, арх. № 191, л. 12.

[72] Народы Европейской части СССР. М., 1964. Т. I.

[73] Молчанова Л. А. Материальная культура белорусов. Мн., 1968.



63. Сектар этнаграфіі ІМЭФ Беларускай акадэміі навук у 60-х гадах

вання і ежы распрацоўваў І. П. Корзун[74].

У працэсе вывучэння народнага адзення, ткацтва і жылля этнографы падрыхтавалі альбомы "Беларуская народная архітэктурная разьба" (1958, складальніца Л. А. Малчанава, замалёўкі С. Ц. Гунько), "Народнае мастацкае ткацтва Случчыны" (1959, складальніца Н. І. Камсюк, замалёўкі С. Ц. Гунько), у якіх атрымалі адлюстраванне мастацкае афармленне беларускага сялянскага жылля і лепшыя ўзоры народных мастацкіх тканін.

Вывучэнню параўнаўча новага аспекту этнаграфіі Беларусі — быту гарадскога насельніцтва былі прысвечаны даследаванні У. М. Іванова "Нарыс быту прамысловых рабочых дарэвалюцыйнай Беларусі" (1971), "Сямейны і грамадскі быт рабочага класа Беларусі" (рукапіс) і шэраг артыкулаў.

Значнае месца ў рабоце сектара этнаграфіі заняло вывучэнне такой актуальнай праблемы, як канфесійны склад насельніцтва Беларусі. Гэтаму прысвечаны некалькі брашур і артыкулаў У. М. Іванова, А. І. Залескага, В. К. Бандарчыка, Р. В. Надольскага, Л. І. Мінько, А. М. Камарова, А. М. Міцкевіча, Г. К. Мярзловай і інш., а таксама зборнік "Пытанні рэлігіі і атэізму" (1960) і зборнік "Дакументы выкрываюць" (1964).

У цеснай сувязі з адзначаным аспектам работы сектара этнаграфіі стаіць тэматыка, прысвечаная пытанням фарміравання новых звычаяў, традыцый і абрадаў у жыцці народа Беларусі. Станаўленне іх у 20-я гады асвятляюць даследаванні А. М. Камарова. Вывучэнню і прапагандзе новых звычаяў і аб-

[74] Корзун И. П. Пища и питание белорусского крестьянства: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1962.




64. Пераплёт кнігі

радаў з мэтай шырокага ўкаранення іх у жыццё прысвечаны брашуры А. І. Залескага і У. М. Іванова "Новыя звычаі і абрады ў наш быт" (1960), У. М. Іванова "Жыццё нараджае новыя абрады" (1964) і шматлікія артыкулы супрацоўнікаў сектара этнаграфіі ў часопісах і газетах.

З 1971 г. этнографы прыступілі да распрацоўкі калектыўнай тэмы "Новыя з'явы ў быце і культуры насельніцтва Беларусі". Важнае месца ў гэтай рабоце займаюць сацыялагічныя даследаванні, што дало магчымасць прымяніць новыя, перадавыя метады вывучэння сучасных працэсаў у быце і культуры народа.

У плане вывучэння змен у быце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі выканана праца І. П. Корзуна "Пераадоленне розніцы паміж горадам і вёскай у быце і культуры" (1972), а таксама працы А. І. Дулебы аб сучасным сямейным быце сялянства Беларусі.

Важнейшай крыніцай этнаграфічных даследаванняў з'явіліся палявыя матэрыялы, сабраныя ў час экспедыцый.

Пачынаючы з 1949 г. этнаграфічныя экспедыцыі праводзіліся амаль кожны год, а з 1965 г. у сувязі з работай над гісторыка-этнаграфічным атласам Беларусі, а потым над тэмай "Новыя з'явы ў быце і культуры насельніцтва Беларусі" праводзілася па дзве-тры экспедыцыі ў год, што дало магчымасць зрабіць суцэльнае абследаванне тэрыторыі рэспублікі. У час экспедыцый сабраны вялікі матэрыял амаль па ўсіх галінах быту і культуры беларускага народа. Побач з запісамі назіранняў, запаўненнем анкет і інтэрв'юіраваннем этнографы сабралі вялікі ілюстрацыйны матэрыял — фатаграфіі, замалёўкі і чарцяжы. У выніку ў сектары этнаграфіі нанава створаны багаты архіў, картатэка і фотатэка, якія з'явіліся надзейнай базай для навуковай працы. Адзначым, што ўвесь даваенны архіў з багатай картатэкай і фотатэкай быў знішчаны нямецкімі фашыстамі ў час акупацыі Беларусі.

Складванне праблематыкі і тэматыкі даследаванняў беларускіх этнографаў, выпрацоўка метадалогіі і методыкі этнаграфічнай працы ў Беларусі адбываліся ў цеснай сувязі з развіццём агульнасавецкай этнаграфічнай навукі. Гэтаму садзейнічалі агульнасаюзныя і рэгіянальныя каардынацыйныя нарады і асабліва сесіі Аддзялення гістарычных навук АН СССР, якія з пачатку 60-х гадоў праводзіліся кожны год і на якіх абмяркоўваліся вынікі этнаграфічнай, антрапалагічнай і археалагічнай працы ў СССР за мінулы год. Амаль на ўсіх нарадах і сесіях беларускія этнографы выступалі з дакладамі і паведамленнямі аб выніках даследаванняў быту і культуры беларускага народа. Стварэнне ў Беларусі буйнога этнаграфічнага цэнтра і расшырэнне этнаграфічнай тэматыкі



65. Вясельны абрад

дало магчымасць Аддзяленню гістарычных навук АН СССР правесці ў 1962 г. у Мінску выязную сесію па падвядзенню вынікаў этнаграфічных даследаванняў. На гэтай сесіі беларускімі этнографамі былі прачытаны даклады па важнейшых аспектах быту і культуры беларусаў, якія засведчылі, што беларуская этнаграфія ў пасляваенны час заняла віднае месца ў агульнасаюзнай этнаграфічнай навуцы. З распадам СССР гэтыя сувязі значна зменшыліся.

Найбольш значнымі агульнаэтнаграфічнымі ў першапачатковы перыяд існавання ІМЭФ працамі, у якіх разглядаюцца многія галіны быту народа, з'яўляліся зборнікі артыкулаў: "Беларускі этнаграфічны зборнік" (1958), "Пытанні этнаграфіі Беларусі" (1964), "Пытанні беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі" (1967), "Этнаграфічны зборнік" (1975), "Пытанні этнаграфіі і фалькларыстыкі" (1979).

Паралельна рыхтаваліся манаграфічныя даследаванні па розных аспектах быту беларусаў.

У 60-я гады значная ўвага надавалася вывучэнню праблемы паходжання і этнічнай гісторыі беларусаў. Недастатковая распрацоўка гэтай тэмы ў памянутай вышэй працы "Беларусы" вымусіла вядучага ў той час этнографа інстытута М. Я. Грынблата ўзяць на сябе выкананне гэтай тэмы. У 1968 г. была апублікавана яго праца "Беларусы: Нарысы паходжання і этнічнай гісторыі". М. Я. Грынблат падрабязна разглядзеў працы гісторыкаў, археолагаў і мовазнаўцаў па гэтай тэме і зрабіў спробу комплекснага падыходу да вырашэння праблемы. Аўтарам упершыню былі ўведзены ў навуковы зварот этналагіч-



66. Этнаграфічная экспедыцыя ў Полацку. 1965 г.

ныя звесткі па асаблівасцях матэрыяльнай і духоўнай культуры, характэрныя для часу этнаўтварэння беларускай народнасці ў XIV—XVI стст. У аснову працы М. Я. Грынблат узяў створаную яго папярэднікамі тэорыю аб старажытнарускай народнасці, якая папярэднічала фарміраванню беларускай, рускай і ўкраінскай народнасцей.

Першым вопытам манаграфічнага вывучэння калгасаў у пасляваенны час з'явілася праца М. Я. Грынблата і Л. А. Малчанавай "Новыя з'явы ў быце калгаснай вёскі" (спроба этнаграфічнага вывучэння калгаса "Бальшавік" Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці), апублікаваная ў "Беларускім этнаграфічным зборніку" (1958).

З гісторыка-этнаграфічных прац заслугоўваюць увагі кнігі і артыкулы А. І. Залескага аб патрыятычнай барацьбе савецкага народа і яго жыцці ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі: "Быт беларускіх сялян у партызанскім краі" (1960), "У партызанскіх краях і зонах" (М., 1962), "У тыле ворага" (1969), "Гераічны подзвіг мільёнаў у тыле ворага" (1970).




67. Этнаграфічная экспедыцыя на поўдзень Беларусі. 1975 г.

Асобныя галіны промыслаў і рамёстваў дарэвалюцыйнага і савецкага часу атрымалі характарыстыку ў працы Л. І. Якунінай “Слуцкія паясы” (1960), у артыкулах Н. І. Камсюк і І. М. Браіма. Л. І. Якуніна прасочвае гісторыю ўзнікнення вытворчасці шаўковых паясоў у Слуцку, дзе выраб іх дасягнуў асаблівага росквіту на аснове высокаразвітога народнага мастацкага ткацтва, у 1959 г. з'явіўся альбом “Народнае мастацкае ткацтва Случчыны”, у якім сабрана 58 узораў ручнікоў, абрусаў, посцілак, коўдраў, капаў і дываноў, вытканых пераважна ў пасляваенны перыяд.

Павелічэнне кваліфікаваных кадраў у этнаграфіі ў 70-х — пачатку 90-х гадоў стварыла магчымасці для разгортвання даследаванняў па больш шырокай у параўнанні з папярэднімі перыядамі праграме вывучэння быту і культуры насельніцтва Беларусі. Даследаваннямі былі ахоплены практычна ўсе аспекты жыццядзейнасці народа на розных адрэзках часу — ад пачатку фарміравання беларускай народнасці да нашых дзён.

У пачатку 70-х гадоў завяршылася выкананне часткі комплекснай усесаюзнай праграмы, работа над якой ішла з сярэдзіны 60-х гадоў, “Гісторыка-этнаграфічны атлас народаў СССР”. Этнографы Беларусі разам з украінцамі і малдаванамі працавалі над “Рэгіянальным гісторыка-этнаграфічным атласам Украіны, Беларусі і Малдавіі”. Па гэтай праблеме было праведзена падрабязнае паглыбленае вывучэнне трох аспектаў матэрыяльнай культуры беларусаў (жыл-



68. Сялянскі двор замкнутага тыпу, в. Рэпанава Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл.

лё, народная сельскагаспадарчая тэхніка і адзенне беларусаў). У адпаведнасці з дэталёва распрацаванай праграмай і геаграфічнай сеткай экспедыцыйным метадам была абследавана ўся тэрыторыя Беларусі (звыш 140 населеных пунктаў), вывучаны літаратурныя, архіўныя і музейныя крыніцы і праведзена картаграфаванне найбольш характэрных і паказальных у этнічных адносінах элементаў народнага жылля, сельскагаспадарчай тэхнікі і адзення. На падставе сабраных матэрыялаў складзена 120 карт, якія адлюстравалі арэалы распаўсюджання і бытавання тых ці іншых з'яў народнай культуры ў розныя гістарычныя адрэзкі часу (з сярэдзіны XIX да 60-х гадоў XX ст.), што дало магчымасць прасачыць дынаміку іх развіцця. Гэта было дасягнута шляхам картаграфавання элементаў матэрыяльнай культуры па трох перыядах: сярэдзіна XIX ст., канец XIX — пачатак XX ст. і 60-я гады XX ст.

Адным з вынікаў работы над гісторыка-этнаграфічным атласам па Беларусі з'явіўся выхад у свет трох манаграфічных даследаванняў: "Беларускае народнае жыллё" (1973), "Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў" (1973), "Беларускае народнае адзенне" (1975), выдадзеных пад рэдакцыяй В. К. Бандарчыка, які ажыццявіў навуковае і метадычнае кіраўніцтва распрацовак гэтай праблемы.

У манаграфіі "Беларускае народнае жыллё" разглядаюцца традыцыйна-гістарычныя тыпы сельскіх пасяленняў Беларусі (вёска, мястэчка, аколіца, засценак, хутар, пагост, слабада, фальварак), планіроўка сядзіб (вяночны двор, пагонны, двухрадны і інш.), канструкцыі жылля і іх асаблівасці ў розных этнаграфічных зонах, будаўнічыя матэрыя-

лы. Падрабязна аналізуецца ўнутраная планіроўка жылля, яго інтэр'ер і дэкаратыўнае афармленне. У кнізе ўпершыню ў беларускай этналагічнай літаратуры даецца характарыстыка лакальных асаблівасцей традыцыйнага жылля і гаспадарчых пабудоў, выдзяляюцца тры лакальныя тыпы народнага жылля: сярэднебеларускі, паўночна-ўсходні і заходнепалескі. Складзена 19 карт і 46 табліц.

У манаграфіі "Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў" у гісторыка-храналагічным плане даследаваны сістэмы земляробства, прасочваецца эвалюцыя развіцця сельскагаспадарчых прылад працы, дынаміка ўдасканалення спосабаў апрацоўкі глебы, вырошчвання сельскагаспадарчых культур. Па ворыўных прыладах выдзяляюцца два рэгіёны: паўночны і паўднёвы. Складзена 14 карт, 43 табліцы і ілюстрацыі.

Манаграфія "Беларускае народнае адзенне" дае разгорнутую характарыстыку беларускага народнага адзення і яго састаўных частак. Побач з гэтым паказваецца тэрытарыяльнае распаўсюджанне асаблівасцей традыцыйнага народнага касцюма на Беларусі і за яе межамі. Па лакальных асаблівасцях у адзенні на тэрыторыі Беларусі аўтары выдзяляюць наступныя этнаграфічныя раёны: паўднёва-заходнюю частку (Палессе), Падняпроўе з усходняй часткай Віцебскай вобласці, паўночна-ўсходнія раёны Беларусі, поўнач Гродзеншчыны. У кнізе даецца параўнаўчая характарыстыка нацыянальнага адзення беларусаў з адзеннем суседніх славянскіх і прыбалтыйскіх народаў. Складзена 20 карт, 64 табліцы і ілюстрацыі.

Звяртаючыся да агульнай характарыстыкі ўсіх трох манаграфій, трэба адзначыць іх каштоўнасць для вырашэння многіх этнаграфічных праблем, параўнаўчага вывучэння народнай культуры суседніх этнасаў і выяўлення этнакультурных узаемасувязей паміж імі. Усе тры манаграфіі ілюстраваны картаграфічнымі матэрыяламі, тыпалагічнымі табліцамі, малюнкамі і фотаздымкамі.

У сувязі з пастановай Савета Міністаў БССР ад 9 снежня 1976 г. "Аб стварэнні Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту" калектыў этнографаў разгарнуў актыўную дзейнасць па абследаванню тэрыторыі Беларусі з мэтай выяўлення тыповых для розных рэгіёнаў Беларусі архітэктурных помнікаў, а таксама па збіранню этнаграфічных экспанатаў. Адначасова рыхтаваліся распрацоўкі па метадалогіі і методыцы стварэння музея. Былі выдадзены дзве кнігі па гэтай праблеме[75], падрыхтаваны і перададзены музейнай групе сем тамоў праспекта музея адпаведна структуры будучага музея: 1. Цэнтральны рэгіён. 2. Панямонне. 3. Паазер'е. 4. Падняпроўе. 5. Усходняе Палессе. 6. Заходняе Палессе. 7. Мястэчка. Музей быў адчынены 18 мая 1977 г.

Вывучэнню матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці надавалася ўвага і ў далейшым. На працягу 70—80-х гадоў былі апублікаваны манаграфіі В. Цітова "Дрэваапрацоўчыя промыслы Беларусі (1917—1941 гг.)" (1976), І. Браіма "Рыбалоўства ў Беларусі" (1976), Г. Курыловіч "Беларускае народнае ткацтва" (1981), Л. А. Малчанавай "Матэрыяльная культура беларусаў эпохі феадалізму" (1981), калектыўная абагульняючая манаграфія "Промыслы і рамёствы Беларусі" (1984), С. А. Мілючэнкі "Беларускае народнае ганчарства" (1984) і інш.

Значнае месца ў праблематыцы навуковых даследаванняў гэтага часу займала распрацоўка гісторыі самой этна-

[75] Памятники народной архитектуры и быта Белоруссии. Мн., 1979; Помнікі этнаграфіі: Методыка выяўлення, апісання і збірання / Пад рэд. В. К. Бандарчыка. Мн., 1981.

лагічнай навукі ў Беларусі. Работа была пачата В. К. Бандарчыкам з вывучэння дзейнасці буйнейшых беларускіх этнографаў: Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, А. К. Сержпутоўскага, Я. Ф. Карскага, М. В. Доўнар-Запольскага, А. Я. Багдановіча, І. А. Сербава, П. М. Шпілеўскага, І. І. Насовіча і інш. Гэта дало магчымасць аўтару прыступіць да глыбокага аналізу важнейшых працэсаў развіцця беларускай этнаграфіі. У выніку вывучэння розных крыніц В. К. Бандарчык выдаў манаграфіі "Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст." (1964), "Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст." (1970), "Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі" (1972), "Развіццё беларускай этнаграфіі за гады Савецкай улады" (1979). Непасрэдна з гісторыяй беларускай этнаграфіі звязаны працы Э. Р. Сабаленкі "Этнаграфічная спадчына Я. Коласа" (1973) і К. А. Цвіркі "Слова пра Сыракомлю" (1976), у якіх аналізуюцца этнаграфічныя аспекты творчасці народнага песняра Беларусі Я. Коласа і польска-беларускага паэта Ул. Сыракомлі (Л. Кандратовіча).




Працягвалася вывучэнне праблем паходжання і этнічнай гісторыі беларусаў. Пад агульнай назвай "Этнаграфія беларусаў" (1985) апублікавана манаграфія, у якой разгледжаны пытанні гістарыяграфіі, этнагенеза і этнічнай гісторыі беларусаў з глыбокай старажытнасці да нашых дзён. Гэтай праблеме прысвечана таксама манаграфія М. Ф. Піліпенкі "Узнікненне Беларусі: Новая канцэпцыя" (1991).




Для 70—80-х гадоў новай з'явай у дзейнасці беларускіх этнографаў было даволі шырокае прымяненне этнасацыялагічных і матэматычных метадаў пры вывучэнні сучасных працэсаў у быце і культуры сельскага і гарадскога насельніцтва рэспублікі. Матэрыялы








В. К. БАНДАРЧЫК

ГІСТОРЫЯ
БЕЛАРУСКАЙ
ЭТНАГРАФІІ
XIX ст.

ВЫДАВЕЦТВА „НАВУКА І ТЭХНІКА“
МІНСК 1964






збіраліся шляхам анкетнага абследавання з дальнейшай апрацоўкай на ЭВМ. Па гэтай методыцы былі падрыхтаваны і апублікаваны манаграфіі "Змены ў быце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі" (1976), "Змены ў быце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі" (1976), "Этнічныя працэсы і лад жыцця" (1981), Т. І. Кухаронак "Радзінныя звычаі і абрады беларусаў" (1993), Г. І. Каспяровіч "Міграцыя насельніцтва ў гарады і этнічныя працэсы" (1985), а таксама калектыўныя манаграфіі "Сям'я і сямейны быт беларусаў" (1990), "Культура і быт гарадскога насельніцтва Беларусі" (1990), "Культура і быт сельскага насельніцтва Беларусі" (1991).

Працы, выдадзеныя сектарам этналогіі ў 80-я — пачатку 90-х гадоў (мал. 69, 69а—69к)



70. "Круглы стол" на X Міжнародным з'ездзе этнографаў і антраполагаў у Дэлі (Індыя). 1978 г.



71. Юбілейная сесія ў Львове. Даклад В. К. Бандарчыка па этнагенезу беларусаў. 1975 г.

Апублікаваны манаграфіі А. І. Лакоткі па народнаму дойлідству "Сцежкамі дзядоў" (1986), "Беларускае народнае дойлідства" (1991), "Пад стрэхамі прашчураў" (1995).

Значнае месца ў навуковай дзейнасці этнографаў займала распрацоўка праблем традыцыйных і сучасных абрадаў, звычаяў і свят беларускага народа. Апублікавана па гэтых праблемах больш 10 манаграфій і зборнікаў.

За 40 год дзейнасці ІМЭФ падрыхтавана звыш 30 кандыдатаў і 6 дактароў гістарычных навук па спецыяльнасці этналогія.

Беларускія этнолагі плённа супрацоўнічалі з маскоўскімі і ўкраінскімі вучонымі, вынікамі чаго былі публікацыі сумесных кніг.

Па праблеме "Народы і культуры" Інстытут этналогіі і антрапалогіі АН Расіі ў 1998 г. выдаў фундаментальную манаграфію "Беларусы", падрыхтаваную навукоўцамі ІМЭФ НАН Беларусі пад навуковым кіраўніцтвам В. К. Бандарчыка.

Актыўна ўдзельнічалі беларускія этнолагі ў міжнародных кангрэсах антрапалагічных і этналагічных навук. Так, на VII кангрэсе ў Маскве выступілі з дакладамі В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, Л. І. Мінько; на VIII (Токіо) — Л. А. Малчанава, на IX (Чыкага) — В. К. Бандарчык і Э. Р. Сабаленка, на X (Дэлі) — В. К. Бандарчык, на XI (Канада) — В. К. Бандарчык.

Са сваімі дакладамі этнолагі Беларусі выступілі на міжнародных з'ездах славістаў, а таксама на міжнародных канферэнцыях этнолагаў у Чэхаславакіі, Польшчы, Балгарыі, Югаславіі. Шэраг прац беларускіх этнолагаў апублікаваны ў замежным друку. В. К. Бандарчык з'яўляецца ганаровым членам Польскага этнаграфічнага таварыства, членам рэдкалегіі часопіса "Этналогія Славіка" (Браціслава).

## ПРАЦЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ПЫТАННЯМ ЭТНАГЕНЕЗУ І НАЦЫЯНАЛЬНАМУ РАЗВІЦЦЮ БЕЛАРУСАЎ

Беларускі народ пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўпершыню ў сваёй гісторыі атрымаў дзяржаўнасць. Аб тым, па якому шляху павінна пайсці развіццё маладой рэспублікі, і разгарнуліся вострыя палітычныя, ідэалагічныя і навуковыя спрэчкі.

Да праблем паходжання беларускай народнасці, яе развіцця і стварэння суверэннай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі звярнуліся віднейшыя этнографы таго часу — Я. Ф. Карскі, Д. М. Анучын, М. А. Янчук, А. К. Сержпутоўскі і інш.

Яшчэ ў часы, калі на Беларусі палала грамадзянская вайна, на кафедрах Беларускага народнага універсітэта ў Маскве У. І. Пічэтам, Д. М. Анучыным і М. А. Янчуком былі прачытаны лекцыі аб гісторыі, быце, культуры і будучыні беларускага народа. Яны ўпершыню на ўзроўні навукі таго часу найбольш правільна падышлі да вырашэння рада пытанняў этнагенезу беларусаў і задач нацыянальнага будаўніцтва маладой рэспублікі[76].

У артыкуле У. І. Пічэты "Гісторыя беларускага народа" для нас мае цікавасць разгляд пытанняў утварэння беларускай народнасці. У інтэрпрэтацыі гэтых пытанняў аўтар артыкула не пайшоў далей раней выказаных палажэнняў А. А. Шахматава і Я. Ф. Карскага. Беларускую народнасць ён выводзіць непасрэдна з летапісных племянных аб'яднанняў, мінуючы стадыю адзінай старажытнарускай народнасці, якая склалася ў час Старажытнарускай дзяржавы Кіеўскай Русі.

Утварэнне беларускай народнасці аўтар артыкула справядліва датуе "літоўскай эпохай", удакладняючы час стварэння самастойнай беларускай мовы — першая палова XIV ст. Дзяржаву, якая існавала на тэрыторыі беларускай і літоўскай народнасцей, Пічэта называе Літоўска-Рускай дзяржавай і правільна падкрэслівае панаванне ў ёй беларускай культуры.

Больш падрабязна пытанні паходжання беларускай народнасці разглядае Д. М. Анучын. У асноўным салідарызуючыся з тэорыяй Шахматава і Карскага, Анучын разам з тым падвяргае сумненню рад канкрэтных палажэнняў, выказаных імі. Ён піша, што "ўзамен адной беларускай народнасці на займаемай ёю цяпер тэрыторыі жыло некалькі асобных славяна-рускіх плямён, а іменна палачане (полацкія крывічы), смаленскія крывічы (паміж Прыпяццю і Зах. Дзвіной) і радзімічы (па Сожу і паміж ім і Дняпром)"[77]. У адрозненне ад Пічэты Анучын выключае з ліку плямён, якія ўвайшлі ў беларускую народнасць, дрыгавічоў, але замест іх называе радзімічаў, якія выключаюцца Пічэтам.

Выкладаючы асноўныя прынцыпы, якімі трэба кіравацца пры вызначэнні граніц вядомай нацыянальна-палітычнай тэрыторыі, Д. Анучын адзначае, што важнейшым крытэрыем з'яўляецца мова народа. Аднак ён не выключае і іншых прыкмет. "Прыналежнасць да той ці іншай народнасці, — піша Д. М. Анучын, — можа вызначацца, акрамя мовы ці гаворкі, яшчэ вядомай агульнасцю культуры і гістарычных традыцый, усім тым, што абумоўлівае нацыянальную самасвядомасць"[78]. Апошняе ён прызнае адным з важных паказчыкаў пры вырашэнні тэрытарыяльнага пытання.

Развіваючы і канкрэтызуючы гэтыя палажэнні, Анучын падкрэслівае, што "тры галіны рускага народа — велікарусы, маларусы і беларусы — таксама розняцца паміж сабою не па адной тольkі мове ці гаворцы, але і па гістарычных традыцыях і па ўсяму складу быту і культуры"[79]. Ён прыходзіць да вываду, што "Беларусь мае падставы прэтэндаваць на аўтаномію, на палітычна-нацыянальную самастойнасць"[80]. Пры гэтым у процівагу польскім і беларускім нацыяналістам, якія арыентаваліся на адрыў беларускага народа ад братняга рускага, Анучын падкрэслівае, што Беларусь павінна быць у блізкай сувязі з найбольш ёй роднай народнасцю, веліка-

[76] Лекцыі былі апублікаваны ў кнізе "Курс белорусоведения" (М., 1918—1920).

[77] Курс белорусоведения. С. 89—90.

[78] Там жа. С. 88.

[79] Там жа. С. 89.

[80] Там жа.

рускаю. Гэта абгрунтоўваецца гістарычнымі і этнаграфічнымі данымі, асаблівасцямі мовы і быту насельніцтва.

Анучын бачыць утварэнне новай Вялікай Расіі, у якой не будзе панавання адной нацыі над другімі і абмежавання правоў асобных народнасцей. Гэта будзе аб'яднанне розных народнасцей Расіі "з поўным іх раўнапраўем і са свабодай культурнага развіцця кожнай з іх пры разумным спалучэнні прыватных інтарэсаў усіх яе частак у агульных мэтах духоўнага прагрэсу і народнага блага"[81].

М. А. Янчук у артыкуле "Этнаграфічны нарыс Беларусі" больш шырока і канкрэтна разглядае комплекс пытанняў, якія адносяцца да этнаграфіі Беларусі. Па пытаннях паходжання беларускай народнасці і вызначэння яе сучаснай тэрыторыі выказванні Янчука супадаюць са сцвярджэннямі Д. М. Анучына. Янчук толькі больш увагі ўдзяляе этнічным працэсам, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі, вядзе размову аб часе сцірання племянных асаблівасцей і ўтварэнні дзяржаўна-палітычных аб'яднанняў.

Як і Анучын, Янчук карыстаецца не толькі гістарычнымі і этнаграфічнымі данымі, але і прыцягвае даныя археалогіі і антрапалогіі. Аднак агульным недахопам для ўсіх аўтараў "Курса беларусазнаўства", якія разглядалі пытанні этнагенезу беларусаў, было тое, што яны амаль зусім не звярталі ўвагі на сацыяльна-эканамічныя прадпасылкі ўтварэння народнасці.

Спыніўшыся на працэсе складвання беларускай народнасці, вызначэнні сучаснай тэрыторыі Беларусі і колькасці яе насельніцтва, Янчук пераходзіць да непасрэднай характарыстыкі быту і культуры беларусаў з мэтай даказаць права гэтага народа на нацыянальнае развіццё. Адзначаючы, што гістарычныя і сацыяльныя ўмовы наклалі адбітак на ўзровень культурнага развіцця народа і з'явіліся прычынай фарміравання некаторых негатыўных якасцей у народным характары, Янчук разам з тым не згодзен з адмоўнай характарыстыкай беларускага народа, якая выказвалася некаторымі даследчыкамі і публіцыстамі рэакцыйнага напрамку. "...Паспрабуйце, — піша аўтар, — падысці да яго (народа. — *В. Б.*) з адкрытай душой і вы сустрэнеце ў ім такую ж адкрытую душу, даверлівасць, адчуеце ўнутраную цеплыню бясхітраснага стварэння, знойдзеце ў ім кемлівасць, і наглядальнасць, і гасціннасць, і прысутнасць творчай думкі і здольнасцей"[82].

У абарону беларускага народа Янчук выступае і пры разглядзе вуснапаэтычнай творчасці. "Звычайна, — піша ён, — выказваюцца думкі, быццам паэзія беларусаў, іх песні, казкі, легенды большай часткай уяўляюць толькі пераробкі рускіх або маларускіх. Беларускі народ звычайна характарызуецца забітым, неразвітым, няздольным"[83]. І зноў, адзначаючы, што эканамічныя і палітычныя ўмовы наклалі вядомы адбітак на народную душу, Янчук падкрэслівае, што тым не менш творчыя сілы народа стварылі вялікія духоўныя багацці. Звяртаючыся да апублікаваных зборнікаў беларускага фальклору, ён піша: "Гэтыя агромністыя тамы сабраных матэрыялаў служаць не толькі помнікам старання, энергіі, працавітасці і навуковай эрудыцыі іх збіральнікаў, але, што яшчэ важней, з'яўляюцца несакрушальным манументам многавекавой творчай дзейнасці народнага духу"[84].

На падставе гэтых і іншых доказаў Янчук робіць вывад, што беларускі на-

[81] Курс белорусоведения. С. 100.

[82] Курс белорусоведения. С. 168.

[83] Там жа. С. 187.

[84] Там жа. С. 180.

род па сваёй культуры стаіць на адной вышыні з суседнімі народамі і мае права на самастойнае існаванне. Адзначаючы культурнае ажыўленне ў пачатку XX ст., Янчук радуецца таму, што ў апошні час з'явіліся "сапраўдныя беларусы, пісьменнікі — паэты з народа, якія паспелі ўжо набыць сабе трывалую літаратурную вядомасць, як, напрыклад, І. Д. Луцэвіч (пад псеўдан. Янка Купала) і некалькі іншых"[85].

Амаль што адначасова з "Курсам беларусазнаўства" друкуюцца артыкулы аб беларусах старэйшага беларускага этнографа А. К. Сержпутоўскага ў петраградскай газеце "Чырвоны шлях", якая выдавалася беларускім зямляцтвам. А. К. Сержпутоўскі горача падтрымліваў ідэю стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і клапаціўся аб правільным вызначэнні яе тэрыторыі.

У артыкуле "Беларускі народ і рэлігія" А. К. Сержпутоўскі рэзка крытыкуе дарэвалюцыйныя прынцыпы правядзення перапісу насельніцтва і вызначэння яго нацыянальнай прыналежнасці і ставіць пытанне на навуковую аснову. Ён паказвае, што царскія чыноўнікі, якія праводзілі палітыку прыгнечання, галоўным крытэрыем нацыянальнай прыналежнасці лічылі рэлігію. Беларусаў, якія спавядалі праваслаўе, адносілі да рускіх, а беларусаў-католікаў — да палякаў.

Аўтар падкрэслівае, што ва ўмовах Беларусі "тая ці іншая рэлігія не можа служыць паказчыкам прыналежнасці носьбіта гэтай рэлігіі да вядомай нацыянальнасці"[86]. Навукова правільным крытэрыем, як указвае А. К. Сержпутоўскі, павінна быць не рэлігія, а мова і сукупнасць бытавых рыс насельніцтва.

У артыкуле "Да пытання аб беларускай арфаграфіі" А. К. Сержпутоўскі заклікае да хутчэйшага стварэння граматыкі беларускай мовы.

Падкрэсліваючы, што пісьменнікі павінны шырока скарыстоўваць багатую скарбніцу жывой народнай мовы ў яе сучасным і мінулым, а таксама тое, што "ў цяперашні час адчыняюцца беларускія навуковыя ўстановы, у якіх уводзіцца выкладанне беларускай мовы"[87], А. К. Сержпутоўскі ўказвае на надзённую неабходнасць хутчэйшага стварэння адзінай граматыкі беларускай мовы. Вялікія надзеі ён ускладае на навуковыя і літаратурныя сілы адкрытага ў Петраградзе ў 1918 г. Беларускага вольнаэканамічнага таварыства, якое ўжо прыступіла да арганізацыі ў Петраградзе беларускіх вучылішчаў, бібліятэк і іншых асветніцкіх і культурных устаноў.

Пэўны ўклад у распрацоўку праблемы этнагенезу славян унеслі археолагі. Міграцыю славян на сярэдняй і верхняй частках Падняпроўя археолагі звязваюць з вырашэннем праблемы этнічнай прыналежнасці мілаградскай і наступнай за ёю зарубянецкай культуры. В. Н. Даніленка[88] і Л. Д. Побаль[89] лічаць, што плямёны мілаградскай культуры выдзеліліся ў асобную групу праславян пасля распаду балта-славянскай супольнасці. Зарубянецкую культуру многія археолагі характарызуюць як славянскую — П. Н. Трацякоў[90],

[85] Курс белорусоведения. С. 184.

[86] Чырвоны шлях. 1918. № 9—10. С. 25.

[87] Там жа. С. 26.

[88] Даниленко В. Н. Памятники ранней поры железного века в Южной части Полесья УССР // Доклады VI научной конференции. К., 1953.

[89] Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии. Мн., 1971. Ч. 1; Мн., 1973. Ч. 2.

[90] Третьяков П. Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Л., 1966; Ён жа. У истоков древнерусской народности // Материалы исследования по археологии СССР. Л., 1970. Вып. 179; Ён жа. Восточные славяне и балтийский субстрат // Советская этнография. 1967. № 4; Раннесредневековые славянские древности / Под ред. П. Н. Третьякова. М., 1970.

Л. Д. Побаль[91], Е. В. Максімаў[92] і інш.

Зусім з іншых пазіцый да вырашэння праблем этнагенезу і нацыянальнага развіцця беларусаў падыходзілі беларускія нацыяналісты. Бацька беларускіх нацыяналістаў Ластоўскі яшчэ ў 1910 г. сцвярджаў, што нібыта беларускія плямёны (маюцца на ўвазе крывічы, радзімічы, драўляне, яцвягі (?!). — *В. Б.*) даўно зліліся ў адзін беларускі народ, жылі асобным сваім жыццём і рэдка мяшаліся ў справы агульнарускія. Працягваючы абгрунтаванне ідэі адрыву беларускага народа ад рускага, Ластоўскі ў 1915 г. у адным з артыкулаў імкнуўся запэўніць чытача, што беларусы нібыта паходзяць ад Пталамеевых велетаў, а ў 1923 г. у часопісе "Крывіч" выклаў сваю крывіцка-волатаўскую тэорыю паходжання беларускай народнасці. Па Ластоўскаму, яшчэ да IX ст. на сучаснай тэрыторыі Беларусі нібыта існавала самастойная дзяржава крывічоў. Дзіўна, што ў наш час гэты тэзіс атрымаў падтрымку ў першай частцы "Нарысаў гісторыі Беларусі" (1994).

Часопіс "Крывіч", які ў 20-х гадах выдаваўся ў Коўне, поўнасцю стаяў на нацыяналістычных пазіцыях. Амаль усе артыкулы часопіса былі накіраваны на адрыў Беларусі ад Савецкага Саюза. Нацыяналізм падносіўся часопісам у самых розных варыянтах. Так, факт блізкасці беларускай мовы з рускай Ластоўскі тлумачыў запазычаннямі велікарусаў у беларусаў і рабіў "вывад", што "не беларусы галіна велікарусаў, а наадварот".

У далейшым у "Крывічы" наогул адмаўлялася славянскае паходжанне рускага народа, маўляў, "маскалі" маюць толькі прымесь крывічоў і ўкраінцаў, а ў астатнім гэта "мешаніна" розных неславянскіх народаў (варагаў, фінаў і татараў).

Асноўная "навуковая" мэта Ластоўскага — даказаць, што беларусы ў сваім паходжанні нічога агульнага не маюць з рускім народам і не адносяцца да ўсходніх славян. З гэтай мэтай ім была прыдумана крывіцка-волатаўская тэорыя паходжання беларускай народнасці.

Гэту тэорыю ў 20-я гады па-свойму трактаваў Язэп Лёсік. Тэндэнцыйна выкарыстоўваючы тэрміны "волаты", "велеты", "вількі", "люцічы", "лютва", "літва", ён аб'яўляе літоўцаў славянскім племенем, якое ўвайшло ў склад беларускага народа, а племя радзімічаў, якое, па Лёсіку, склала аснову беларускай народнасці, лічыць заходнеславянскім ("ляцкім").

Следам за Ластоўскім і Лёсікам агульнасць паходжання беларусаў з рускімі і ўкраінцамі адмаўлялі іншыя беларускія нацыяналісты, як у самой Беларусі, так і за яе межамі (А. Цвікевіч, Я. Станкевіч, К. Езавітаў). Кожны з іх па-свойму праводзіў ідэю адрыву беларусаў ад братняга рускага і ўкраінскага народаў. Так, А. Цвікевіч намагаўся даказаць, што для беларусаў нібыта больш выгадна аб'яднанне з Польшчай, чым з Расіяй. Ён сцвярджаў, што ў блізкасці беларускай мовы да рускай схавана небяспека для адраджэння беларускай культуры. Таму, маўляў, небяспека дэнацыяналізацыі беларусаў будзе меншай, калі яны будуць далучаны да Польшчы, бо беларуская культура далей ад польскай, чым ад рускай.

Я. Станкевіч, праводзячы тую ж палітыку адрыву беларускага народа ад братняга яму рускага народа, даводзіў, што беларуская мова нібыта вылучалася ў самастойную яшчэ з праславянскай

[91] Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии. Ч. I.

[92] Максимов Е. В. Среднее Поднепровье на рубеже нашей эры. К., 1972.

мовы і таму не мае нічога агульнага з мовамі ўсходнеславянскіх народаў. Такім чынам, ён, як і Цвікевіч, ігнаруе гістарычную ісціну аб адзінстве паходжання рускіх, украінцаў і беларусаў.

Дзейнасць нацыяналістаў за межамі Беларусі і на яе тэрыторыі аказала адмоўны ўплыў на некаторых беларускіх этнографаў, якія ў асноўным даволі плённа працавалі ў галіне вывучэння быту і культуры народа. Сярод іх адзначым беларускага этнографа А. Шлюбскага, які апублікаваў некалькі артыкулаў у часопісе "Крывіч". Трапіўшы пад уплыў Ластоўскага, Шлюбскі ўсё больш і больш схіляўся да крывічанскай тэорыі паходжання беларускай народнасці. Сваё крэда па гэтаму пытанню ён акрэслена выказаў у рэцэнзіі на артыкул Н. Зорына "Пытанне аб этнаграфічным складзе насельніцтва Невельскага павета"[93]. Шлюбскі, у прыватнасці, піша, што Зорын "трымаецца дарэвалюцыйнай тэорыі, якая была абаснавана для рускіх палітычных і вялікадзяржаўных мэт, што ў грунце ўсіх усходнеславянскіх моваў ляжыць "общерусский язык", што беларуская мова пачынае з'яўляцца толькі з XIV ст.; з гэтай прычыны ён не хоча ведаць новага асвятлення моўных і нацыянальных фактаў, якія адмаўляюць існаванне "общерусского языка", якія высоўваюць пытанне аб самастойным развіцці беларускай і ўкраінскай моваў і залежнасць ад іх афармлення пазнейшай — велікарускай мовы; аўтар не хоча ведаць, што галоўным славянскім племенем, якое лягло ў аснову сучасных беларусаў, і былі якраз крывічы, патомкаў якіх ён не хоча назваць беларусамі; ён не ведае таго, што ў некаторай частцы беларускай літаратуры да назваў "беларус", "Беларусь", "беларускі" ўводзяцца раўналежныя назвы "крывіч", "крывічанскі", "Крывія" як гістарычна больш падыходзячыя для народа"[94].

У некаторай ступені нацыяналістычныя тэндэнцыі праглядваюць і ў каштоўных па фактычнаму матэрыялу працах А. Шлюбскага аб беларускай набойцы[95]. І ў гэтых працах Шлюбскі выкладае ідэю залежнасці развіцця культуры рускага народа ад культуры беларусаў.

Ажыўленне нацыяналізму ў беларускай этнаграфіі адбылося ў канцы 20-х гадоў у сувязі з запрашэннем Ластоўскага і Лёсіка ў Інбелкульт (1927), а пазней у Беларускую акадэмію навук (1929—1930). Трапіўшы на высокія пасады (дырэктар Дзяржаўнага музея, неадменны сакратар Беларускай акадэміі навук і загадчык кафедры этнаграфіі), Ластоўскі прыняў захады для абгрунтавання волатаўскай тэорыі паходжання беларускай народнасці. З гэтай мэтай ён даручыў М. І. Касяровічу распрацоўку гэтай "праблемы". У 1928 г. была разаслана выпрацаваная Касяровічам анкета-апытальнік аб "волатах, люцічах і ваўках".

Папярэднія вынікі гэтага даследавання Каспяровіч паведаміў на II Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, якая адбылася 7—12 студзеня 1929 г. У дакладзе, канстатуючы той факт, што на тэрыторыі паміж Дняпром, Нёманам, Дзвіной і Прыпяццю ёсць надзвычайна шмат курганоў, якія беларусы са старадаўніх часоў завуць валатоўкамі, Каспяровіч сцвярджае, што гэта назва нагадвае народ волатаў. Гэта меркаванне аўтар падмацоўвае геаграфічнымі і анамастычнымі назвамі з асновай "волат",

[93] Познай свой край // Сборник Псковского общества краеведения. Псков, 1927. Вып. 3.

[94] Наш край. 1927. № 11. С. 56.

[95] Шлюбскі А. Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1926; Ён жа. Аб беларускай набойцы // Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Мн., 1928. Кн. 4; Ён жа. Вывучэнне друкавання тканіны // Наш край. 1927. № 6—7.

"люты" і "воўк", а таксама багаццем баечнага матэрыялу аб волатах, асілках і ваўкалаках[96].

У наступных сваіх працах "Вывучэнне валатовак на Чэрвеньшчыне"[97] і "Волаты"[98] Каспяровіч развівае волатаўскую тэорыю паходжання беларускай народнасці і намагаецца падмацаваць яе фактычным матэрыялам, які па сваёй сутнасці нічога агульнага не мае з вывадамі аўтара. Сам па сабе гэты матэрыял мае каштоўнасць пераважна для фальклярыстыкі і не толькі не пацвярджае волатаўскую тэорыю паходжання беларусаў, а, наадварот, уступае ў супярэчнасць з ёю.

Справа ў тым, што Каспяровіч слепа, на веру прыняў тэорыю Ластоўскага і штучна прыстасаваў беларускі фальклорны, тапанімічны і анамастычны матэрыял да Пталамеевых і Шафарыкавых велетаў і люцічаў, старажытных плямён, якія не мелі ніякіх адносін да фарміравання беларускай народнасці.

Характэрна, што беспадстаўнасць волатаўскай тэорыі ў гэтым жа 1929 г. выкрываецца (пакуль што ў асцярожнай форме) радам беларускіх вучоных. Ужо ў водзыве на рукапіс II тома "Прац кафедры этнаграфіі" адзін з іх пісаў: "Праца М. І. Каспяровіча "Волаты" пабудавана на анкетных даных і розных даследаваннях шматлікіх старых і сучасных немарксісцкіх даследчыкаў-этнографаў. У гэтай працы Каспяровіч, зыходзячы з існаваўшых і існуючых цяпер у беларускага сялянства розных паданняў, казак пра волатаў і ваўкалакаў, а таксама розных геаграфічных назваў, прозвішчаў і мянушак людзей, якія маюць параўнанні ад слова "волат" або "ваўкалак", хоча зрабіць вывад, што продкамі беларусаў з'яўляўся якісьці народ ці племя — волаты"[99].

Тэорыя волатаўскага паходжання беларусаў выклікала пярэчанні і з боку беларускага гісторыка А. Ясінскага. У апублікаванай ім у 1929 г. працы "Два словы аб волатах. Да пытання першапачатковага насельніцтва Беларусі"[100] А. Ясінскі падкрэслівае, што гэта тэорыя не мае пад сабою "пэўных гістарычных падстаў". У выніку аналізу і крытычнага разгляду літаратурных крыніц (прац П. Шафарыка, А. Патабні, Ф. Буслаева, А. Весялоўскага, Л. Нідарле, М. Пагодзіна і інш.) аўтар прыходзіць да вываду, што "ў склад Пталамеевых велетаў, якія жылі на рубяжы славянскага і літоўскага свету, павінны былі ўваходзіць літоўцы", а ад спроб зблізіць "народныя вераванні аб волатах" з "якімісь велетамі, або вількамі, або хаця б сапраўднымі люцічамі" даўно настаў час адмовіцца[101].

А. Ясінскі прыводзіць канкрэтны матэрыял, які сведчыць аб тым, што аналагічныя з беларускімі геаграфічныя назвы і фальклорныя творы сустракаюцца на Украіне, у Расіі і на іншых тэрыторыях. Гэтым самым абвяргаецца сцвярджэнне М. Каспяровіча, што нібыта тэрміналогія з асновай "волат" абмежавана толькі тэрыторыяй Беларусі. Такім чынам, А. Ясінскі ў сваім артыкуле абгрунтаваў беспадстаўнасць вола-

---

[96] Наш край. 1929. № 1.

[97] Там жа. № 4.

[98] Працы кафедры этнаграфіі Беларускай акадэміі навук. 1929. Т. 2.

[99] Архіў НАН Беларусі, ф. 18, спр. 144, арх. № 35, л. 170.

[100] Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Кн. 8: Працы класа гісторыі. 1929. Т. 3.

[101] Запіскі Аддзела гуманітарных навук Беларускай акадэміі навук. Кн. 8: Працы класа гісторыі. Т. 3. С. 215—216. Адзначым, што А. Ясінскі памылкова адносіў велетаў (люцічаў) да літоўскіх плямён. На самай справе люцічы (велеты) — існаваўшы ў VIII—XII стст. саюз заходнеславянскіх плямён, якія жылі паміж Одарам і Эльбай на пабярэжжы Балтыйскага мора. У пачатку XII ст. яны былі заваяваны немцамі і падвергліся асіміляцыі.

таўскай тэорыі паходжання беларусаў.

Нацыяналістычныя антынавуковыя тэорыі паходжання беларускай народнасці 20—30-х гадоў у перыяд фашысцкай акупацыі Беларусі былі падхоплены здраднікамі і ваеннымі злачынцамі, прыхваснямі і халуямі гітлераўскіх захопнікаў. Гэта рознага роду станкевічы і аўрамчыкі, якія і раней трымалі курс на адрыў беларускага народа ад братніх рускага і ўкраінскага народаў.

Тое ж самае можна сказаць і аб "даследчыках" Беларусі, якія заселі ў замежных рэакцыйных эмігранцкіх цэнтрах. Адным з прадстаўнікоў іх з'яўляецца Н. Вакар, які ў сваёй гісторыі Беларусі з рэакцыйных пазіцый намагаецца паказаць этнагенез беларусаў.

Якасна новым перыядам у распрацоўцы пытанняў этнагенезу беларусаў з'явіўся пасляваенны час. У 40—50-х гадах быў апублікаваны цэлы шэраг прац гісторыкаў[102], якія ў параўнанні з Шахматавым і Карскім зрабілі новы крок у вырашэнні гэтай праблемы.

Аўтары гэтых прац канчаткова разбілі нацыяналістычныя тэорыі, меўшыя месца ва ўкраінскай і беларускай этнаграфіі, пацвердзілі вывады Шахматава і Карскага аб агульнасці паходжання рускага, украінскага і беларускага народаў. Разам з тым яны ўнеслі ў гэта пытанне прынцыпова новае палажэнне аб тым, што асноўным фактарам утварэння народнасці з'яўляюцца сацыяльна-эканамічныя ўмовы.

Агульным недахопам прац Н. Дзяржавіна, У. Пічэты, Ф. Канстанцінава,




72. Вокладка кнігі М. Я. Грынблата

А. П'янкова і іншых гісторыкаў у гэты перыяд было тое, што ўсе яны выводзілі беларускую народнасць з першасных усходнеславянскіх плямён.

Асноўныя палажэнні названых прац з акцэнтам на сацыяльна-палітычныя і эканамічныя ўмовы фарміравання рускай, украінскай і беларускай народнасцей увайшлі ў выданні курсаў гісторыі СССР і гісторыі БССР.

Зусім зразумела, што гісторыкі пры даследаванні адзначанай праблемы могуць вызначыць толькі агульную схему, гістарычныя ўмовы і этапы этнагенезу народа. Для поўнага вырашэння гэтай праблемы і дастаткова грунтоўнай аргументацыі неабходна прыцягнуць даныя іншых навук — мовазнаўства, этнаграфіі, археалогіі і антрапалогіі. Вопыт выкарыстання мовазнаўчых крыніц у этнагенетычных працах меў

[102] Державин Н. С. Происхождение русского народа. М., 1944; Пичета В. Образование белорусского народа // Вопросы истории. 1946. № 5—6; Канстанцінаў Ф. Аб паходжанні беларускага народа. Мн., 1946; Пьянков А. П. Происхождение белорусского народа. Мн., 1948; Черепнин Л. В. Исторические условия формирования русской народности до конца XV в. // Вопросы формирования русской народности и нации. М.; Л., 1958.

месца яшчэ ў дарэвалюцыйны час (працы Карскага, Шахматава). Што ж датычыць этнаграфічных, фальклорных, археалагічных, антрапалагічных, тапанімічных і анамастычных даных, то іх з прычыны слабай распрацаванасці савецкія вучоныя пачалі выкарыстоўваць толькі ў 60-я гады.

Найбольш значнай працай 60-х гадоў, у якой разглядаюцца пытанні этнагенезу беларускай народнасці, з'яўляецца кніга М. Я. Грынблата "Беларусы. Нарысы паходжання і этнічнай гісторыі" (1968).

Зусім зразумела, што як задача комплекснага вырашэння праблемы, так і глыбокае даследаванне пастаўленых аўтарам вузлавых пытанняў пад сілу толькі калектыву вучоных, якія прадстаўлялі б розныя галіны навукі. Аднак спроба аўтара сваімі сіламі разгледзець пытанні этнагенезу беларусаў заслугоўвае ўвагі. Адразу ж заўважым, што ў сувязі з адзначаным вышэй, праца М. Я. Грынблата далёка не вычэрпвае праблему, многія пытанні толькі ставяцца ці закранаюцца. Тым не менш гэта праца з'явілася пэўным укладам у вырашэнне праблемы паходжання і этнічнай гісторыі беларускай народнасці.

М. Я. Грынблат у агульных рысах змог аб'яднаць асноўныя дасягненні гісторыкаў, філолагаў, антраполагаў, археолагаў і іншых спецыялістаў па пытаннях узнятай праблемы. У кнізе накідана больш-менш стройная схема этнічнай гісторыі беларускай народнасці. Перыядызацыя этнагенезу беларусаў атрымала наступны выгляд: VI—VIII стст. — перыяд асваення будучай тэрыторыі Беларусі ўсходнеславянскімі плямёнамі; IX—XIII стст. — перыяд старажытнарускай народнасці, якая з'явілася адзіным коранем рускай, украінскай і беларускай народнасцей; XIV—XVI стст. — перыяд фарміравання беларускай народнасці; XVII — канец XVIII ст. — перыяд далейшага развіцця беларускай народнасці; канец XVIII ст. (ад уз'яднання Беларусі з Расіяй) да рэформы 1861 г. — перыяд складвання перадумоў для ператварэння беларускай народнасці ў нацыю.

Аўтар на падставе літаратурных крыніц дае сціслую характарыстыку кожнага з гэтых перыядаў і спыняе ўвагу на перадгісторыі ўтварэння беларускай народнасці — рассяленні ўсходнеславянскіх плямён на тэрыторыі Беларусі з мэтай разгледзець пытанне ўтварэння этнічнай тэрыторыі, на якой пазней сфарміравалася беларуская народнасць. Увесь час падкрэсліваючы, што пры сваім фарміраванні беларуская народнасць прайшла стадыю адзінай старажытнарускай народнасці, аўтар тым не менш лічыць, што ў аснову беларускай народнасці ляглі летапісныя плямёны дрыгавічоў, радзімічаў, а таксама дняпроўска-дзвінскіх крывічоў і палачан. У дадзеным выпадку закранута вельмі складаная праблема, па якой увесь час вядуцца сур'ёзныя дыскусіі і выказваюцца розныя пункты погляду.

У савецкай гістарыяграфіі этнагенезу ўсходнеславянскіх народаў (рускіх, украінцаў, беларусаў) пануючым з'яўляецца той пункт погляду, што ўжо ў рамках Старажытнарускай дзяржавы (Кіеўскай Русі) племянныя адрозненні былі размыты. С. А. Токараў, напрыклад, піша: "Ужо ў XI ст. знікаюць са старонак летапісаў назвы амаль усіх ранейшых плямён... К гэтаму часу замест плямён існавалі абласныя групы, якія адпавядалі феадальным княствам: чарнігаўцы, пераяслаўцы, смаляне, куране, галічане, уладзімірцы... Паміж асобнымі старажытнаўсходнеславянскімі плямёнамі IX ст. і сучаснымі нам усходнеславянскімі народамі няма прамой пераемнасці, таму што ўжо ў эпоху

Кіеўскай Русі старыя племянныя сувязі зніклі"[103].

М. Я. Грынблат стаіць на іншых пазіцыях. Ён зыходзіць з цвёрдага перакакання, што многія культурна-бытавыя і моўныя асаблівасці плямён заходняй часткі Старажытнай Русі маглі ўтрымацца не толькі ў перыяд існавання адзінай старажытнарускай народнасці, але захаваліся і пазней, у рамках беларускай народнасці, атрымаўшы там нярэдка далейшае развіццё. Таму, на погляд аўтара, "межы рассялення старажытных плямёнаў могуць дапамагчы высветліць не толькі ўтварэнне этнічнай тэрыторыі беларускай народнасці, але і складванне многіх рыс яе культуры, узнікненне абласных адрозненняў"[104].

Асобна М. Я. Грынблат разглядае пытанні аб удзеле ў этнагенезе беларусаў іншамоўных этнічных элементаў, і ў прыватнасці літоўскіх. Крытыкуючы В. В. Сядова, М. Я. Грынблат прыходзіць да наступнага вываду: "Калі ў якой-небудзь ступені можна гаварыць аб уплыве балтыйскага субстрата на этнакультурны воблік усходнеславянскіх плямён, то ў пытанні ўтварэння беларускай народнасці размова можа весціся аб яе сувязях ужо з літоўскай народнасцю ў больш пазнейшую эпоху і ў іншых гістарычных умовах"[105].

Няма сумнення ў тым, што праца М. Я. Грынблата "Беларусы" далёка не вычэрпвае праблему этнагенезу беларусаў. Зроблены першыя крокі.

Новым крокам у вывучэнні праблемы этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў з'явілася манаграфічнае даследаванне калектыву этнографаў В. К. Бандарчыка, І. У. Чаквіна, П. У. Церашковіча і Г. І. Каспяровіч[106]. Манаграфия была падрыхтавана пад навуковым кіраўніцтвам В. К. Бандарчыка. Раздзел "Гістарыяграфія" напісаны В. К. Бандарчыкам і І. У. Чаквіным, якія глыбока вывучылі амаль усе працы рускіх, беларускіх, украінскіх, польскіх, чэшскіх і іншых вучоных, у якіх разглядаюцца ці закранаюцца пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў. Крытычны аналіз іх даў магчымасць прасачыць гісторыю поглядаў на праблему паходжання беларускага этнасу, што дало магчымасць выказаць аб'ектыўны погляд на гэтую праблему. Непасрэдна пытанні фарміравання беларускай народнасці ў XIV—XVI стст. разгледзеў у асобным раздзеле І. У. Чаквін, а таксама яе




73. Вокладка кнігі

[103] Токарев С. А. Этнография народов СССР. С. 25—26.

[104] Гринблат М. Я. Белорусы. С. 58.

[105] Там жа. С. 144.

[106] Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985.

стан у XVII—XVIII стст., якія былі неспрыяльнымі для развіцця беларускага этнасу[107].

Эпоха знаходжання беларусаў у складзе Расійскай імперыі разгледжана В. К. Бандарчыкам і П. У. Церашковічам. Гэта быў час паступовага перарастання беларускай народнасці ў нацыю.

Працэсы завяршэння і стабілізацыі беларускай нацыі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі разгледжаны Г. І. Каспяровіч.

Калектыўная манаграфія беларускіх этнолагаў атрымала высокую ацэнку ў навуковых часопісах[108].

Значным дапаўненнем да разгледжанай вышэй манаграфіі з'явілася даследаванне Т. М. Мікуліч "Мова і этнічная самасвядомасць" (1996), у якой аўтар разглядае этнамоўныя працэсы ў Беларусі ў цеснай сувязі з эвалюцыяй этнічнай самасвядомасці ў розных нацыянальных групах насельніцтва рэспублікі (беларусаў, рускіх, палякаў, украінцаў, літоўцаў). Узаемадзеянне гэтых важнейшых кампанентаў этнасу ў значнай ступені вызначае характар этнічных працэсаў пэўнага этнасу[109]. Кніга напісана на матэрыялах сацыялагічных даследаванняў і перапісаў насельніцтва 1970, 1979 і 1989 гадоў.

У 1981 г. М. Ф. Піліпенкам распрацаваны цыкл лекцый, якія былі апублікаваны ў вучэбным дапаможніку[110]. Гэта праца сцісла ахоплівае амаль усе аспекты этнаграфічнай навукі, у тым ліку гісторыі этнаграфічнага вывучэння Беларусі, этнічнай гісторыі, гаспадаркі і матэрыяльнай культуры, грамадскага і сямейнага быту, а таксама духоўнай культуры беларусаў.

У 1991 г. М. Ф. Піліпенка апублікаваў новае даследаванне "Узнікненне Беларусі: Новая канцэпцыя". У гэтай кнізе ён выказаў свае погляды на этнагенез і этнічную гісторыю беларусаў. Новым у названай працы М. Піліпенкі з'яўляецца палажэнне, што ў IX—X стст. крывічы, дрыгавічы, радзімічы і іншыя плямёны былі ўцягнуты ў працэс фарміравання "этнічнага ўтварэння — агульнаўсходнеславянскай народнасці, этнічная тэрыторыя якой атрымала назву "Русь"[111]. Гэтым самым ён адмаўляе палажэнне аб стварэнні беларускай народнасці з першасных плямёнаў.

Значным дасягненнем аўтара з'яўляецца крытычны разгляд прац В. Сядова і М. Грынблата. М. Піліпенка поўнасцю адмаўляе палажэнні так званай тэорыі "балацкага субстрата", якая была ў 60-х гадах XX ст. высунута і распрацавана В. Сядовым. Катэгарычна адмаўляе "крывічанскую" тэорыю, крытыкуе палажэнні аб этнагенезе беларусаў, выказаныя Я. Карскім, У. Пічэтам, М. Грынблатам і іншымі даследчыкамі, якія выводзілі беларускую народнасць непасрэдна з пярвічных плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Правамерна адмаўляе М. Піліпенка выдумку М. Ермаловіча, які лічыў палачан асобным этнічным фарміраваннем, што нібыта ўзнікла "ў выніку змешвання крывічоў, дрыгавічоў і балтаў" і сцвярджае, што "яны фактычна з'явіліся першай па часе мадэллю беларусаў"[112].

У палеміцы з рознага роду скажэн-

---

[107] Па гэтай тэме І. У. Чаквін абараніў доктарскую дысертацыю: "Этнічная гісторыя беларусаў у эпоху феадалізму" (Мн., 1995) (аўтарэферат).

[108] Петриков П. Т. Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез і этнічная гісторыя. Мн., 1985 (гл. рэцэнзію ў "Советской этнографии".1988. № 3. С. 154—157).

[109] Мікуліч Т. М. Мова і этнічная самасвядомасць. Мн., 1996. С. 130.

[110] Піліпенка М. Ф. Этнаграфія Беларусі. Мн., 1981.

[111] Ён жа. Возникновение Белоруссии. Мн., 1991. С. 45.

[112] Там жа. С. 63.



74. Сектар этнаграфіі ў 1986 г.

нямі М. Піліпенка прыводзіць вялікую колькасць доказаў з арсенала культуры, мовы і гісторыі беларускага этнасу.

Раскрыццю рэакцыйнай нацыяналістычнай дзейнасці ў Беларусі ў значнай ступені прысвечана кніга А. І. Залескага і П. Н. Кабрынца[113].

Пасля распаду Савецкага Саюза ў Беларусі ажывілася цікавасць да праблем этнагенезу і этнічнай гісторыі беларускага этнасу. З'явіліся публікацыі, якія ў шэрагу выпадкаў скажаюць сапраўдную гісторыю беларускага этнасу. Рэаніміруюцца нацыянал-радыкальныя погляды мінулых гадоў. Разгляду іх прысвечаны артыкулы В. К. Бандарчыка[114], у якіх ён піша, што сёння сярод вучоных існуюць розныя гіпотэзы аб накірунках засялення славянамі тэрыторыі Старажытнай Русі — міграцыйныя патокі з поўдня, захаду і ўсходу. Але незалежна ад таго, якімі шляхамі славянскія плямёны прыйшлі на гэтую тэрыторыю, яны, з'явіўшыся тут, сталіся ўсходнімі славянамі ў адрозненне ад заходніх (палякаў, чэхаў, славакаў, сербаў і лужычан), якія знаходзяцца на захадзе, а таксама ад паўднёвых (сербаў, славенаў, балгараў, македонцаў, харватаў і інш.). Аднак гэта не толькі геаграфічнае размяшчэнне розных груп славян, але і іх спецыфіка ў розных аспектах жыццядзейнасці і культуры, якая складвалася на працягу некалькіх стагоддзяў.

На пачатку XX ст. з'явіліся розныя па сваіх канцэпцыях тэорыі паходжання беларусаў. Перш чым звяртацца да іх характарыстыкі, нагадаем, што гэтым тэорыям папярэднічалі дзве супрацьлеглыя, так бы мовіць, "генеральныя"

[113] Залесский А. И., Кобринец П. Н. О национальных отношениях в Советской Белоруссии: Исторический очерк. Гродно, 1992.

[114] Бандарчык Васіль. Адкуль мы. Да пытання аб этнагенезе беларусаў // Беларуская думка. 1994. № 3. С. 49—53; Ён жа. Еще раз об этногенезе белорусов! // Славянский набат. 1998. № 6 (39).

тэндэнцыі ў навуковай літаратуры XIX — пачатку XX ст. Першая — вялікадзяржаўная руская, якая не прызнавала беларусаў за асобны этнас, лічыла іх рускім племенем. Другая — польскашавіністычная, якая таксама адмаўляла права беларусаў на самастойнае існаванне і лічыла тэрыторыю беларусаў часткай Польшчы (Рэчы Паспалітай).

Існаванне гэтых дзвюх "генеральных", па сутнасці антынавуковых, тэорый парадзіла і шэраг ультрапатрыятычных беларускіх тэорый паходжання беларусаў. Яны з'явіліся як пратэст супраць палітыкі абрусення беларусаў, што праводзілася рускім царызмам. Пра працэсы паланізацыі беларусаў, калі яны знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай, у гэтых тэорыях размовы няма. На гэтыя працэсы яны нібы "забыліся", таму што актуальнасць іх была значна меншая, чым русіфікацыя, якая існавала на той час і была ўжо большай пагрозай для дээтнізацыі беларусаў.

Кожны народ і яго вучоныя могуць шукаць свае карані ў розных эпохах развіцця чалавецтва, у тым ліку і ў індаеўрапейскай, і ў праславянскай, і ў славянскай. Аднак нельга забываць, што фарміраванне паасобных этнасаў, што існуюць сёння, адносіцца да больш позніх часоў. У прыватнасці, фарміраванне беларусаў, рускіх і ўкраінцаў у самастойныя этнасы пачалося пасля распаду дзяржавы ўсходніх славян (Кіеўскай Русі) і завяршылася ў XV—XVI стст. Кожны з гэтых этнасаў меў свае карані, якімі, напрыклад, для беларусаў з'яўляюцца ўсходнеславянскія плямёны крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Іх трэба лічыць протабеларусамі.

У 60-х гадах маскоўскім археолагам В. Сядовым была высунута яшчэ адна тэорыя этнагенезу беларусаў, якая атрымала назву як тэорыя "балцкага субстрату"[115]. Гэтая тэорыя пабудавана на недакладных крыніцах або іх фальсіфікацыі. Такую фальсіфікацыю бачым, калі Сядоў спасылаецца на аўтарытэт Я. Ф. Карскага, які нібыта даказаў, што беларусы асімілявалі балтаў[116]. Гэты тэзіс Сядова ніяк не стасуецца з поглядамі Карскага на этнагенез беларусаў. Наадварот, Карскі, як і многія іншыя беларускія этнографы, сцвярджаў, што беларусы з'яўляюцца самым чыстым славянскім племенем, і толькі дапускаў, што сям-там на захадзе беларусы прасунуліся ў вобласць літоўцаў і латышоў[117].

Крытыкуючы І. П. Сахарава, які назваў беларускую мову "літоўска-рускай"[118], Е. Карскі заўважаў, што калі прыняць гэту назву, то "можна падумаць, што беларуская гаворка ўспрыняла ў сябе элементы літоўскай мовы, што з ім у сапраўднасці не адбылося"[119].

В. Сядоў памылкова разглядае балцкае насельніцтва як нейкі аднародны маналіт, які нібыта аб'яднаў на сваёй тэрыторыі прышлых славян. А між іншым балцкія плямёны былі ў большай ступені разналікімі па сваёй культуры і мове. Пры гэтым В. Сядоў не ўлічвае тую акалічнасць, што ў гэты перыяд усходнія славяне знаходзіліся на больш высокай стадыі грамадска-эканамічнага і культурнага развіцця, мелі сваю дзяржаву, а балцкія плямёны жылі на стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу. Крытыцы тэорыі балцкага субстрату

---

[115] Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.

[116] Ён жа. Арнология и проблемы формирования белорусов // Этногенез белорусов. Мн., 1973. С. 8.

[117] Карский Е. Ф. Белорусы. Варшава, 1903. Т. 1. С. 80.

[118] Сахаров И. П. Сказания русского народа. СПб., 1849. Т. 2, кн. 5.

[119] Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3, ч. 2. С. 411.

прысвечаны артыкулы П. М. Трацякова[120], В. А. Жучкевіча[121], М. Я. Грынблата[122] і В. К. Бандарчыка[123]. Я. Карскі адзначыў, што пад уплывам больш высокай культуры ўсходніх славян літоўскія князі вымушаны былі карыстацца іх мовай. "Беларуская гаворка, — піша Карскі, — канчаткова перамагла мову літоўскую, стаўшы не толькі гутарковай мовай у рускіх (беларусаў. — *В. Б.*), але і афіцыйнай у літоўцаў. Нават просты літоўскі народ запазычвае з яе масу слоў, некаторыя суфіксы і нават фанетычныя асаблівасці"[124]. І нават пазней, калі Літва разам з Беларуссю падпала пад уладу Польшчы, "перамагаючая сіла ўсё-такі заставалася за мовай беларускай"[125].

М. Ермаловіч ідзе далей за В. Сядова і І. Сахарава. Адказваючы на пытанне, хто такія беларусы, ён піша: "Беларусы з'яўляюцца не збалтназаванымі славянамі, а аславяненымі балтамі"[126]. Гэта азначае, што беларусы з'яўляюцца балтамі, толькі аславяненымі.

У сувязі з гэтым нельга не адзначыць наступную акалічнасць. У 60-х гадах некаторыя маскоўскія антраполагі і археолагі пачалі выводзіць рознага роду субстраты і суперстраты для народаў былога СССР. Для рускіх гэта быў фінаугорскі субстрат, для ўкраінцаў — скіфска-сармацкі, а для беларусаў — балцкі субстрат.

Няма ніякіх сумненняў у тым, што на працягу стагоддзяў ішоў пастаянны інтэграцыйны працэс паміж этнасамі, які наклаў адбітак не толькі на фізічны воблік чалавека і наогул пэўнага этнасу, а таксама на яго культурны стан. Аднак вышукванне ў інтэграцыйных працэсах нейкіх субстаратаў, а другімі словамі падасноў, — не навуковы падыход, таму што інтэграцыйныя працэсы — узаемныя паміж інтэгрыруючымі этнасамі. І балты, і угра-фіны існуюць сёння побач са славянамі. І нікуды яны не зніклі.

Навукай даказана, што чыстых этнасаў у нашы дні няма, асабліва калі мы будзем мець на ўвазе еўрапеоідаў. Галоўнае ў вызначэнні этнічнай прыналежнасці канкрэтнай асобы не яго фізічны тып, а яго этнічная самасвядомасць, якая грунтуецца на нацыянальнай культуры, і найперш на мове.

Рэанімацыя ўсіх вышэйпамянёных тэорый у нашы дні адбываецца на фоне новай, больш магутнай хвалі нацыянальнага адраджэння. Стымул для ўзнаўлення далейшага развіцця іх — працэсы абрусення беларусаў, што асабліва хутка сталі адбывацца з сярэдзіны 50-х гадоў у сувязі з неапраўданымі імкненнямі глабальнай інтэрнацыяналізацыі ўсіх галін жыццядзейнасці чалавека і грамадства, усіх сфер яго функцыяніравання. Прычым гэтая інтэрнацыяналізацыя часта ў свядомасці людзей атаясамлівалася з русіфікацыяй.

Што ж канкрэтна рэаніміруецца? Найперш адмаўленне адзінства ўсходніх славян у складзе Старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. Робяцца спробы пераканаць сучасніка ў тым, што ў гэтай для таго часу магутнай дзяржаве Еўропы

---

[120] Третьяков П. М. Восточные славяне и балтийский субстрат // Советская этнография. 1967. № 4. С. 110—118.

[121] Жучкевич В. А. К вопросу о балтийском субстрате в этногенезе белорусов // Советская этнография. 1968. № 1. С. 107—118.

[122] Гринблат М. Я. К происхождению белорусской народности (по поводу балтского субстрата) // Советская этнография. 1968. № 5. С. 79—92.

[123] Бондарчик В. К. К проблеме этногенеза белорусов и критика теории балтского субстрата // Доповіді навукової конференции до 100-риччя Музею этнографії та художнього промислу. Київ, 1976. С. 21—31.

[124] Карский Е. Ф. Белорусы. Кн. 1: Введение к изучению языка и народной словесности. Вильна, 1904. С. 123—124.

[125] Там жа. С. 114.

[126] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990.

нібыта не было агульнай пісьмовай мовы, культуры, агульных дасягненняў у горадабудаўніцтве, рамёствах, духоўным жыцці.

Нельга адмаўляць той факт, што ў Кіеўскай Русі існавала ўсходнеславянскае адзінства і стольным горадам усіх усходніх славян быў Кіеў. Што ж да міжкняжацкай барацьбы, то гэта заканамернасць характэрная для ўсіх дзяржаў феадальнай Еўропы ранняга сярэднявечча, у тым ліку і для монаэтнічных.

Сёння пры напісанні гісторыі Беларусі старажытнага часу асноўная ўвага надаецца ваенным падзеям, услаўленню князёў. І, зразумела, на першае месца ставіцца незалежнасць Полацкага княства ад Кіева, якое падаецца як першая беларуская дзяржава. Папярэднікі Ермаловіча называлі яе крывіцкай дзяржавай, хаця, як вядома, на крывіцкай зямлі ў той час існавалі яшчэ Пскоўскае і Смаленскае княствы, а пасля распаду Полацкага княства іх колькасць павялічылася ў некалькі разоў.

Так, кожнае княства, якой магутнасці яно ні было б, з'яўлялася свайго роду дзяржавай, бо мела ўсе атрыбуты ўлады. Толькі на беларускай зямлі іх можна налічыць звыш дзесяці. Аднак у той час усе княствы Кіеўскай Русі як унутры яе, так і яе суседзямі ўспрымаліся як адзіная Русь, з якою вымушаны былі лічыцца суседнія дзяржавы.

Па ўвядзенні хрысціянства ў X ст. у Кіеўскай Русі функцыяніравала адзіная праваслаўная вера, якая і да нашых дзён беларусамі завецца як руская. Практычна адзіным быў агульны тып горада, яго планіроўка, знешні і ўнутраны выгляд, лад жыцця. Адзінай для ўсіх княстваў была пісьмовая мова. Дастаткова параўнаць пісьмовыя помнікі Кіева, Полацка, Ноўгарада, Турава і іншых гарадоў Русі часоў Ефрасінні Полацкай, каб упэўніцца ў гэтым. А хіба мала пра гэтую акалічнасць сведчаць тры Сафіі — храмы ў Кіеве, Ноўгарадзе і Полацку. Пералік падобных агульнасцей можна працягваць бясконца. Для кожнага, хто крыху вывучаў гісторыю Старажытнай Русі, не будзе адкрыццём, што ў той час яшчэ не існавала такіх адметных рыс самасвядомасці, як беларус, украінец і рускі.

Насельніцтва Кіеўскай Русі ў суседніх краінах называлі русінамі, русічамі, русамі, а самі русіны зваліся людзьмі рускае веры або пэўнымі мясцовымі назвамі — этнонімамі (палачанін, туравец, пінянін і г. д.). Між іншым адзначым, што частка ўкраінскіх зямель, якія пасля распаду Кіеўскай Русі апынуліся за межамі Украіны (маюцца на ўвазе бойкі, лемкі і гуцулы), яшчэ і сёння лічаць сябе русінамі. А хіба назва "Белая Русь" не паходзіць ад агульнай назвы "Русь"?

Іншая справа, калі распавядаецца пра нашых продкаў. Зразумела, што мы, беларусы, як адзначалася вышэй, будзем шукаць сваіх далёкіх прашчураў перш за ўсё ва ўсходнеславянскіх плямёнах крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Калі ж мы звернемся да наступнага часу, то свае карані мы будзем знаходзіць у такіх землях, як, напрыклад, Полацкая, Віцебская, Аршанская, Тураўская, Друцкая, Слуцкая, Берасцейская, Навагрудская і інш. Гэта быў час, калі племянная арганізацыя насельніцтва змянілася на тэрытарыяльную ў выніку ўзнікнення княстваў і інтэграцыйных працэсаў між імі.

Кіеўская Русь спыніла сваё існаванне ў выніку развіцця феадалізму і ўзмацнення цэнтрабежных сіл, якія прывялі да яе распаду на асобныя феадальныя княствы і якія паасобку не вытрымалі націску татара-манголаў. На яе тэрыторыі паступова пачалі фарміравацца тры ўсходнеславянскія этнасы — беларусаў, украінцаў і рускіх.

Для беларусаў гэта быў перыяд існавання самастойнай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага, у якім паступова пануючымі станавіліся дзяржаўна-юрыдычныя, культурныя, лінгвістычныя асаблівасці заходняй часткі ўсходніх славян.

Разам з тым нельга забывацца, што Вялікае княства Літоўскае было поліэтнічным і з'яўлялася не толькі беларускай, але і літоўскай і ўкраінскай дзяржавай. Праўда, для ўкраінцаў да 1569 г., калі іх землі былі анексаваныя Рэччу Паспалітай.

"Узнікла Вялікае княства Літоўскае ва ўмовах, калі ніводнае ўсходнеславянскае княства ўжо не магло ўзяць на сябе місію аб'яднання, таму што імі быў страчаны энергетычны патэнцыял аб'яднальных працэсаў. На гістарычную арэну выйшлі літоўскія князі, якія ўзначалілі аб'яднанне не толькі літоўскіх, але і беларускіх і ўкраінскіх зямель у адзіную дзяржаву, якая займала тэрыторыю ад Балтыйскага да Чорнага мора. Справа ў тым, што ў другой палове XIII ст. пачаўся актыўны працэс унутрыэтнічнай кансалідацыі літоўскіх плямёнаў, якія ў той час знаходзіліся на першай стадыі пераходу да дзяржаўнасці — перыяд ваеннай дэмакратыі з магутным энергетычным патэнцыялам аб'яднальных працэсаў, які для ўсходніх славян быў характэрны ў IX—XI стст., а для XII—XIII стст. ужо быў вычарпаны"[127].

Завяршаючы кароткую характарыстыку першага перыяду фарміравання беларускага этнасу, нельга не адзначыць наступныя акалічнасці.

Вялікае княства Літоўскае было заснавана на землях Чорнай Русі, сталіцай якой быў Навагрудак. У ім у 1253 г. літоўскі князь Міндоўг прыняў ад папы Рымскага тытул караля. Чорная Русь уперамешку была заселена славянамі і літоўцамі. Пачынаючы з 40-х гадоў XIII ст. літоўскія князі да канца XIV ст. уключылі ў склад сваёй дзяржавы ўсходнеславянскія землі пазнейшай Беларусі, Украіны і часткова Расіі.

З'яўленне Вялікага княства Літоўскага як аб'яднанай дзяржавы было выклікана складанымі міжнароднымі абставінамі таго часу. З захаду на землі балтаў і славян сталі прэтэндаваць нямецкія ордэны. Немцы пасля захопу зямель балцкіх плямёнаў прусаў і г. Рыгі выходзілі на аператыўны прастор на ўсход. З другога боку, татара-манголы пачалі распраўляцца з раздробленымі княствамі былой Кіеўскай Русі.

У гэтых умовах стварэнне Вялікага княства Літоўскага было знамянальнай з'явай не толькі для балтаў, але і для ўсходніх славян — беларусаў і ўкраінцаў. Асноўная кансалідацыя беларускага этнасу адбылася прынамсі ў гэтай дзяржаве. Знішчэнне перашкод у эканамічных і культурных зносінах, ліквідацыя суверэннасці раздробленых княстваў унутры дзяржавы, выпрацоўка і прыняцце адзінага заканадаўства для ўсёй дзяржавы, панаванне старажытнабеларускай мовы і культуры, узнікненне назвы "Белая Русь" — усё гэта прывяло да ўтварэння беларускай народнасці. Уся ж папярэдняя гісторыя асобных беларускіх зямель — перадгісторыя беларускага этнасу.

Кансалідацыя беларускага этнасу адбывалася на грунце высокіх дасягненняў усходніх славян у галіне эканомікі, культуры, дзяржаўна-прававых традыцый. Гэтыя фактары рашуча паўплывалі і на літоўскі этнас, які ў той час знаходзіўся на больш нізкім узроўні. Пісьмовая мова ў літоўцаў пачала зараджацца толькі ў XV ст. А для нармальнага функцыяніравання дзяржаўных

---

[127] Бандарчык Васіль. Адкуль мы. Да пытання аб этнагенезе беларусаў // Беларуская думка. 1994. № 3. С. 49—53.

структур літоўскія князі вымушаны былі карыстацца старажытнабеларускай мовай, якая ў той час стала дзяржаўнай і разам з тым выконвала такую ж інтэграцыйную функцыю, як лацінская мова ў заходняй Еўропе.

Час існавання Вялікага княства Літоўскага канца XIII—XVI стст. — гэта і быў час аславянення верхніх эшалонаў літоўскага этнасу, чаму садзейнічалі дынастычныя шлюбы літоўскіх і славянскіх князёў не толькі на тэрыторыі гэтай дзяржавы, але і за яе межамі. Так, у маскоўскага вялікага князя Васіля І (1371—1425) жонкай была дачка Вітаўта Соф'я. Жонкай серпухаўскага князя Уладзіміра Андрэевіча (1353—1410) была дачка вялікага князя літоўскага Альгерда Алена, у князя ўладзімірскага і маскоўскага Сімяона Гордага (1316—1353) жонка дачка Гедыміна Аўгуста Анастасся. Сястра Васіля І Марыя — жонка літоўскага князя Лугвяна Альгердавіча. Маці Ягайлы Ульяна была дачкой цвярскога князя, а бацька — унук Гедыміна.

Сцвярджэнне М. Ермаловіча, што ў той час, як Кіеўская Русь у пачатку XII ст. распалася на ўдзельныя княствы, Полацкае княства нібыта ўсё XII ст. было адзіным і маналітным, не мае пад сабой сур'ёзных падстаў. Агульнавядома, што пасля смерці Усяслава Брачыслававіча ў 1101 г. Полацкае княства распалася на дробныя княствы: Мінскае, Лагойскае, Віцебскае, Аршанскае, Друцкае, Ізяслаўскае і інш. Яно, як і ўся Кіеўская Русь, не мінула феадальнай раздробленасці.

Магутным і вялікім Полацкае княства было толькі ў другой палове XI ст. І сталася яно такім дзякуючы мудрай і шматгадовай дзейнасці князя Усяслава (1044—1101), які княжыў больш за паўстагоддзя (57 гадоў), — рэдкі выпадак даўгалецця на пасадзе князя. Ад свайго бацькі Усяслаў атрымаў толькі Полацк, Віцебск, Браслаў і Усвяты.

Не менш магутнымі ў той час былі Кіеўскае і Наўгародскае княствы, а ў XII — пачатку XIII ст. Растова-Суздальскае і Галіцка-Валынскае. Апошняе ў канцы XII — пачатку XIII ст. прэтэндавала на беларускія землі.

Свайго роду водападзелам двух перыядаў гісторыі Беларусі з'яўлялася XVII ст. Гэтае і XVIII стст. былі часам, на працягу якога адбываўся працэс паланізацыі беларусаў. Афіцыйна гэты працэс пачаўся з заключэння Люблінскай уніі (1569) паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Згодна гэтай уніі, абедзве дзяржавы былі аб'яднаны ў адзіную Рэч Паспалітую пад уладай польскага караля. Вялікае княства Літоўскае, захаваўшы сваю назву, па сутнасці губляла самастойнасць, хоць і атрымлівала ў адпаведнасці з Люблінскай уніяй пэўную аўтаномію.

Аднак фактычна падспудная паланізацыя Вялікага княства Літоўскага пачалася яшчэ з часу заключэння дынастычнай уніі 1385 г. паміж вялікім князем літоўскім Ягайлам і польскай каралевай Ядзвігай. Стаўшы польскім каралём, Ягайла ў 1386 г. прыняў каталіцтва (да гэтага ён быў праваслаўным) і ў наступным 1387 г. выдаў прывілей, па якому каталіцкія феадалы і шляхта атрымлівалі дадатковыя правы ў параўнанні з праваслаўнымі.

Барацьба праваслаўных беларускіх і літоўскіх феадалаў з каталіцкімі працягвалася ў наступных XV і XVI стст. і завяршылася перамогай каталіцкіх феадалаў і ксяндзоў. Гэтая перамога была аформлена Брэсцкай царкоўнай уніяй 1596 г., па якой праваслаўнае насельніцтва і духавенства павінна было падпарадкавацца папе Рымскаму — галаве каталіцкага духавенства. Праваслаўныя

цэрквы і манастыры, якія не падпарадкаваліся уніі, па сутнасці дзейнічалі ў падполлі. Імі ствараліся праваслаўныя брацтвы, якія праводзілі вялікую асветніцкую работу.

Наступ каталіцызму праводзіўся ў паступовым выцясненні беларускай мовы. У 1696 г. справаводства ў ВКЛ было пераведзена на польскую мову.

Нельга не адзначыць, што уніяцтва распаўсюджвалася ў Беларусі і на Украіне ва ўмовах знаходжання іх у складзе Рэчы Паспалітай і наступу каталіцызму і далёка не мірным шляхам, ды і не адразу пасля заключэння уніі. Вядома нямала паўстанняў, якія адбываліся ў Беларусі і на Украіне на працягу XVII ст. супраць увядзення уніі не толькі сярод гараджан і сялян, але і праваслаўных феадалаў.

Уніяцтва не змагло ўнесці прыкметных змен у свядомасць, культуру і быт беларускага народа. Аб гэтым сведчыць той факт, што адмена яго ў 1839 г. прайшла без ніякіх ускладненняў. Засталіся толькі невялічкія астраўкі уніятаў. Спробы даказаць, што уніяцтва з'яўлялася нейкім грунтам для фарміравання беларускай культуры, не мае пад сабою ніякай асновы.

Калі весці размову аб нейкіх уплывах і зменах, дык яны тычацца пераважна культавых пабудоў і іх інтэр'еру, а таксама чытання пропаведзей на мясцовай мове. Ва уніяцкіх цэрквах паступова сталі з'яўляцца скульптурныя выявы Хрыста і іншых святых, а ў некаторых — арганы, што было нехарактэрным для праваслаўных храмаў. Нельга выдаваць за нацыянальную культуру беларусаў адзначаныя вышэй моманты, якія характэрны для уніяцкіх храмаў.

У заключэнне спынімся на хібах, якія маюць месца ў першай частцы "Нарысаў гісторыі Беларусі".

Супрацоўнікі Інстытута гісторыі павінны былі ведаць аб змене працэсаў арганізацыі насельніцтва ад першабытна-племяннной структуры да тэрытарыяльна-княжацкай былых плямёнаў крывічоў-палачан, радзімічаў і дрыгавічоў. Былыя межы плямёнаў былі размыты і замяняліся ў IX—X стст. на новыя межы самастойных міні-дзяржаў (княстваў), якія былі аб'яднаны ў магутную для таго часу Старажытнарускую дзяржаву — Кіеўскую Русь.

Аўтары "Нарысаў гісторыі Беларусі" слепа пайшлі за "тэорыяй" балцкага субстрату В. Сядова.

Здзіўляе чытача вось такая каламбурная тырада: "...у выніку славянізацыі балцкага насельніцтва і змешвання з ім прышлых носьбітаў славянскай мовы намецілася аддзяленне часткі ўсходнеславянскай народнасці, што садзейнічала затым станаўленню беларускай мовы і народнасці"[128] са спасылкай на Сядова. Узнікае пытанне: хто славянізаваў балтаў, а потым адбылося змешванне з ім (балцкім субстратам?) прышлых носьбітаў славянскай мовы? А што, хіба славянізацыя балтаў была зроблена не прышлымі славянамі? І далей чытаем: "Адбывалася гэта на працягу доўгага часу ад рубяжа XII—XIII ст. да канца XIII ст."[129]

А далей чытаем на той жа старонцы: "Крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы паступова ўцягваліся ў працэсы фарміравання беларускай народнасці"[130].

На ст. 74: "У выніку развіцця тых асаблівасцей, якія мелі месца ў старажытных землях Беларусі і паглыбляліся ў XII ст. пасля палітычнага распаду Кіеўскай Русі складваўся беларускі народ (этнас)".

---

[128] Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. 1. С. 71.

[129] Там жа.

[130] Там жа.

Няўжо гісторыкі не ведаюць, што ў Кіеўскай Русі насельніцтва карысталася старажытнарускай мовай, на якой напісана многа дакументаў і твораў.

Фарміраванне беларускага этнасу і старажытнабеларускай мовы адбывалася з канца XIII да XVI ст. у новых сацыяльна-эканамічных, этнічных і палітычных стасунках Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Беларуская мова, як руская і ўкраінская, сфарміравалася на базе старажытнарускай мовы. Весці размову аб фарміраванні беларускай мовы і этнасу з XII па XIII ст. неправамерна.

У першай частцы "Нарысаў гісторыі Беларусі" практычна адсутнічае навуковы раздзел аб этнагенезе беларусаў.

## ВЫВУЧЭННЕ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ І ВЫТВОРЧАГА БЫТУ БЕЛАРУСАЎ

Вывучэнне матэрыяльнай культуры і вытворчага быту беларускага народа разгортваецца ў пачатку 20-х гадоў у сувязі з развіццём краязнаўчага руху і арганізацыяй музеяў. Значны штуршок у гэтым кірунку быў зроблены падрыхтоўчай работай да I Усесаюзнай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўкі 1923 г., якая адбылася ў Маскве (15 жніўня — 15 кастрычніка).

Задачы выстаўкі ў пэўнай меры вызначалі і задачы вывучэння матэрыяльнай культуры народаў СССР у аднаўленчы перыяд. Выстаўка 1923 г., арганізаваная ў адпаведнасці з пастановай IX з'езда Саветаў, павінна была выявіць сучасны стан сельскай гаспадаркі і саматужных промыслаў і магчымасці далейшага іх развіцця, даць наглядны вучэбны дапаможнік для сялян і ўстанавіць сувязі з замежным рынкам.

Выставачны камітэт Беларусі быў створаны 16 студзеня 1923 г.

У павільёне Беларусі былі арганізаваны аддзелы быту і дамаводства, саматужнай прамысловасці, лясной гаспадаркі, аградапамогі і земляробства, меліярацыі, сельскай гаспадаркі, адукацыі, жывёлагадоўлі, перапрацоўкі сыравіны і інш.

Агульны каталог выстаўкі наступным чынам характарызаваў беларускія этнаграфічныя экспанаты: "У аддзеле быту прадстаўлены мадэлі тыповых сядзіб Беларусі, тут жа шырока паказана і адзенне беларуса, яго ўклад жыцця, яго хатняе начынне. Перад самым уваходам у павільён знаходзяцца сені, напоўненыя прадметамі дамашняга ўжытку. Налева бачна ўнутраная частка хаты беларускага селяніна, а направа і налева ад цэнтральнага праходу маляўніча размешчаны беларускія тканіны, ручнікі, абрусы, вышыўкі і хусткі. Тут жа знаходзіцца багатая калекцыя 120 паясоў"[131]. На выстаўцы найбольш поўна быў прадстаўлены быт беларусаў Барысаўскага, Мазырскага і Мінскага паветаў. Аддзел быту беларусаў на выстаўцы атрымаў першую прэмію. Экспанаты выстаўкі пазней былі перададзены ў Дзяржаўны музей БССР.

У ходзе падрыхтоўкі да I Усесаюзнай выстаўкі ў Беларусі актыўна вялася экспедыцыйная работа, узмацніўся краязнаўчы рух, разгарнулася музейная справа. Падрыхтоўка і вынікі выстаўкі шырока абмяркоўваліся ў беларускай

[131] I Всесоюзная сельскохозяйственная и кустарно-промышленная выставка с иностранным отделом. Общий каталог выставки. М., 1923. С. 151.

прэсе[132]. Усё гэта адыграла вялікую ролю ў расшырэнні этнаграфічнага вывучэння Беларусі, і ў прыватнасці ў вывучэнні матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці народа. Аналагічную ролю адыграла І Усебеларуская выстаўка (1929—1930) і іншыя выстаўкі, на якіх функцыяніравалі этнаграфічныя аддзелы.

На працягу 20-х гадоў у Беларусі ствараецца шырокая сетка музеяў. У 1924 г. адбылася рэарганізацыя музеяў БССР. Мастацкія і гісторыка-археалагічныя музеі ў Мінску, Віцебску і Магілёве былі аб'яўлены дзяржаўнымі музеямі. У іх павінны былі канцэнтравацца гістарычныя, культурныя і мастацкія экспанаты агульнарэспубліканскага значэння. Гэтыя музеі адначасова з'яўляліся і цэнтральнымі краязнаўчымі музеямі. Экспанаты для музеяў у Мінску, Віцебску і Магілёве збіраліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Пазней замест Магілёўскага дзяржаўным стаў Гомельскі музей.

Астатнія музеі рэспублікі (у акружных гарадах, раённых цэнтрах і сельсаветах) па свайму характару павінны былі стаць мясцовымі краязнаўчымі музеямі і служыць сховішчам культурных, прыродных і гістарычных каштоўнасцей, якія маюць дачыненне толькі да дадзенай адміністрацыйнай адзінкі[133]. К пачатку 1927 г. у рэспубліцы функцыяніравалі Беларускі дзяржаўны музей у Мінску, Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей, Гомельскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей і каля 20 акруговых, раённых і іншых музеяў у Оршы, Магілёве, Полацку, Слуцку, Бабруйску, Клімавічах, Мазыры і іншых гарадах. У іх захоўвалася звыш 100 000 экспанатаў, сярод якіх значная частка этнаграфічных.

Беларускі дзяржаўны музей у Мінску адкрыўся ў жніўні 1923 г. У ім былі наступныя аддзелы: гісторыка-археалагічны, этнаграфічны, нумізматыкі, мастацтва і інш. Агульны лік экспанатаў музея к канцу 1928 г. перавышаў 30 000 адзінак захоўвання. Даволі багатым быў этнаграфічны аддзел. Часопіс "Наш край" наступным чынам характарызаваў яго: "Этнаграфічны аддзел у сучасны момант мае вялікую колькасць выключнага па характву, паўнаце і рэдкасці матэрыялу — тканіны і вопраткі, узоры якіх ужо не часта сустракаюцца на вёсцы, і наогул ёсць значная колькасць прадметаў быту, характарызуючых беларуса. Этнаграфічны аддзел з'яўляецца безумоўна буйнейшым у Беларусі і можа канкурыраваць з падобнымі аддзеламі цэнтральных музеяў, нягледзячы на кароткі час свайго існавання"[134].

Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей узнік у 1925 г. (па звестках Каспяровіча — у 1924 г.). Музей быў створаны на базе ўласных калекцый А. Р. Бродаўскага і В. Федаровіча і былога царкоўна-археалагічнага музея. У ім налічвалася таксама звыш 30 000 экспанатаў. Магілёўскі (заснаваны ў 1924 г.) і Гомельскі (заснаваны ў 1927 г.) музеі налічвалі па 10 000 экспанатаў кожны. Даволі багатымі былі Аршанскі, Бабруйскі, Клімавіцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Полацкі і Слуцкі краязнаўчыя музеі.

У 20-я гады інтэнсіўна папаўняліся этнаграфічныя аддзелы Беларусі ў музеях Ленінграда (збіраннем займаліся

[132] Этнаграфічная падрыхтоўка да агульнарасійскай выстаўкі // Савецкая Беларусь. 20 красавіка 1923 г.; М. Мялешка. Быт беларуса на с.-г. выстаўцы // Там жа, 29 чэрвеня 1923 г.; М. Беларускі быт на выстаўцы (узнагароджаны першай прэміяй) // Там жа, 7 кастрычніка 1923 г. і інш.

[133] Архіў НАН Беларусі, спр. № 16, арх. № 4, л. 280.

[134] Харламповіч П. Пяцігоддзе Беларускага дзяржаўнага музея // Наш край. 1928. № 1. С. 12.

А. К. Сержпутоўскі, А. К. Супінскі, Дуісбург і інш.) і Масквы (Н. І. Лебедзева і інш.).

Створаныя ў Беларусі і за яе межамі музеі з'яўляліся каштоўнай крыніцай для вывучэння матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларускага народа.

Побач са збіральніцкай у Беларусі разгарнулася і даволі актыўная даследча-апісальніцкая праца, асабліва ў 20-я гады.

Апублікаваныя ў даваенны перыяд працы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларусаў ствараліся і этнографамі (І. А. Сербаў, А. К. Сержпутоўскі, А. К. Супінскі, Н. І. Лебедзева), і іншымі спецыялістамі — медыкамі, эканамістамі, гісторыкамі, краязнаўцамі. Яны носяць розны характар як у адносінах метадалогіі і методыкі, так і па тэматыцы. Адны з іх асвятляюць толькі пэўную галіну матэрыяльнай культуры і вытворчага быту, іншыя ахопліваюць амаль усе пытанні быту народа.

Самай грунтоўнай працай з ліку апублікаваных у 20-я гады з'яўляецца этнаграфічны нарыс І. А. Сербава "Вічынскія паляне" (1928). Матэрыял для яго збіраўся і апрацоўваўся аўтарам яшчэ ў дарэвалюцыйны час. Выканана праца ў плане дарэвалюцыйнай методыкі і метадалогіі прагрэсіўнага крыла этнографаў.

У гэтым нарысе І. А. Сербаў разглядае ці закранае амаль увесь комплекс пытанняў, звязаных з матэрыяльнай культурай і вытворчай дзейнасцю беларускага сялянства невялікага этнаграфічнага раёна — так званай Вічынскай зямлі. Гэта назва ўмоўная. У Вічынскую зямлю Сербаў вылучае групу вёсак, што размясціліся вакол в. Вічына на левым беразе сярэдняга цячэння ракі Прыпяць, — Ячэўкі, Язвінкі, Дварэц, Цна, Дрэбск. Гэтыя вёскі размешчаны на бязлеснай роўнай паляне, адкуль і жыхары іх называюць сябе палявымі людзьмі, або палянамі, у адрозненне ад палешукоў, жыхароў лясной часткі Палесся.

Згодна з характарыстыкай Сербава, насельніцтва названых вышэй вёсак вызначаецца аднастайнасцю культуры і складае асобны этнаграфічны раён Беларусі.

Пасля кароткай агульнай характарыстыкі кожнай вёскі (знешняга выгляду і планіроўкі) І. А. Сербаў пераходзіць да падрабязнага разгляду сядзіб, жылля і гаспадарчых пабудоў. Для гэтай групы вёсак характэрна аднавулічная забудова з двухбаковым размяшчэннем сядзіб. Планіроўка пераважнай большасці сядзіб — трохбаковы вянок. Аднак гэты тып планіроўкі сядзібы Сербаў лічыць пазнейшым. Яму папярэднічаў пагонны тып — аднарадная і двухрадная забудова пад агульнай страхой. Аўтар падрабязна разглядае тыпы сядзібы, яе планіроўку і месца кожнай пабудовы (хаты, сенцаў, свірана, хлявоў, клуні). З добрым веданнем справы Сербаў характарызуе матэрыял і будаўнічую тэхніку, планіроўку і прызначэнне кожнай пабудовы.

Некалькі больш сцісла, але даволі выразна апісвае І. А. Сербаў адзенне, галаўныя ўборы і абутак вічынскіх палян. У сваім асноўным комплексе адзенне ў вывучаных вёсках аднатыпнае з адзеннем іншых месц Беларусі. Адрозненні наглядаюцца ў асобных дэталях і назвах. Так, у жанчыны вічынскіх палян бытавала белая палатняная спадніца з затканым на падоле ўзорам. Але яе выцесніў аднакаляровы суконны андарак. Лапці насіліся лазовыя — "пасталы" (назва, характэрная для паўночна-ўсходняй Віцебшчыны), якія яшчэ зваліся зрачымі. Тыповая беларуская світа тут мела назву "світно".

Вытворчай дзейнасці сялян Сербаў прысвячае раздзел "Сельскагаспадарчы быт", у якім разглядае размеры зямель-

ных надзелаў, земляробства, жывёлагадоўлю, садаводства, рыбную лоўлю, пчалярства, а таксама саматужныя промыслы. У гэтым жа раздзеле аўтар апісвае сялянскую ежу.

У розных месцах працы Сербаў дае характарыстыку маральна-этычных якасцей вічынскіх палян. Не забываючы аб адмоўных момантах, аўтар у першую чаргу акцэнтуе ўвагу на станоўчых рысах характару селяніна, падкрэсліваючы, што гэта людзі глыбокага розуму і высокай жыццёвай мудрасці. Паляне адрозніваюцца сваёй працавітасцю і стараннасцю. Працавітасць прывівалася з маленства. Хлопчык у 12 гадоў ужо ходзіць за сахой або бараной, а з 16 гадоў бярэцца за касу і не адстае ад дарослых. Дзяўчынка з 6 гадоў пачынае прасці, а з 13—15 гадоў садзіцца за кросны і ходзіць з сярпом на жніво. Старыя жанчыны працуюць да таго часу, пакуль трымаюцца на нагах.

Адзначаючы момант хітрасці, недаверлівасці і скрытнасці народа ў дарэвалюцыйны час, Сербаў тлумачыць, што гэтыя рысы характару ў вічынскіх палян праяўляліся ў адносінах да паноў і іх служак, а таксама да розных "наезных эксплуататараў", якія "ўсё толькі нарозяць як-небудзь ашукаць" беднага селяніна.

Праца І. А. Сербава "Вічынскія паляне" багата ілюстравана фотаздымкамі вёсак, жыхароў, жылля і гаспадарчых пабудоў, планамі і чарцяжамі.

Значныя звесткі па матэрыяльнай культуры беларусаў змешчаны ў даследаваннях Д. К. Зяленіна "Рускае (усходнеславянскае) народазнаўства"[135], "Руская саха, яе гісторыя і віды. Нарыс гісторыі земляробчай культуры" (Вятка, 1908), "Жаночыя галаўныя ўборы ўсходніх (рускіх) славян"[136]. У гэтых працах беларускі матэрыял прыводзіцца для параўнання з рускім і ўкраінскім.

Наступнай значнай працай, выкананай на высокім прафесійным узроўні, з'яўляецца кніга Н. І. Лебедзевай "Жыллё і гаспадарчыя пабудовы Беларускай ССР" (М., 1929).

Н. І. Лебедзева, супрацоўніца Цэнтральнага музея народазнаўства, летам 1927 г. на працягу 1,5 месяца па заданню музея праводзіла экспедыцыйнае вывучэнне паўднёвай часткі Беларусі — тэрыторыі паміж Слуцкам і Мазыром.

З дапамогай супрацоўніцы таго ж музея В. П. Нікольскай і настаўніка малявання г. Мазыра А. Ф. Пудана Н. І. Лебедзева сабрала вялікі матэрыял па жыллю, адзенню, вытворчаму і грамадскаму быту, а таксама 203 экспанаты для Цэнтральнага музея народазнаўства (адзенне, прылады працы, узоры тканін, начынне, прадметы абрадавага быту і інш.) і 130 этнаграфічных фотаздымкаў.

З сабраных матэрыялаў Н. І. Лебедзевай апублікаваны толькі звесткі аб жыллі і гаспадарчых пабудовах адзначанага вышэй раёна[137].

У працы Н. І. Лебедзевай "Жыллё і гаспадарчыя пабудовы Беларускай ССР" падрабязна, з добрым веданнем прадмета даследавання аналізуюцца ўсе элементы хаты і сенцаў, клеці, істопкі, хлявоў, павеці і іншых гаспадарчых пабудоў. Закранаюцца таксама тыпы пасяленняў і двароў.

Адзначым, што Н. І. Лебедзева не абмежавалася простым апісаннем жылля і гаспадарчых пабудоў, а выявіла мясцовыя асаблівасці вывучаемых вёсак, змены, якія адбыліся ў выніку этнакультурных узаемасувязей, паляпшэння эканамічных і сацыяльных умоў жыцця.

---

135 Zelenin D. Russieche (Ostslavische) Volkskunde. Leipzig, 1927.

136 Slavia. 1926. № 2; 1927, № 3.

137 Астатнія матэрыялы захоўваюцца ў Маскоўскім літаратурным архіве.




75. Вокладка кнігі Н. І. Лебедзевай

Вывучэнне матэрыяльнай культуры акрэсленай часткі Палесся прывяло аўтара да вываду, што гэты раён не з'яўляецца аднастайным і адзначаецца рознахарактарнымі элементамі культуры. Лебедзева лічыць яго стыкам культур славянскіх і літоўскіх плямён, а таксама стыкам паміж старажытнымі ўсходнеславянскімі плямёнамі драўлян, севяран і дрыгавічоў. "Пазней, — піша Лебедзева, — вывучаная тэрыторыя дзялілася паміж асобнымі княствамі, вярхоўе р. Пцічы было мяжою паміж Кіеўскім і Смаленскім княствамі"[138].

Зыходзячы з аналізу жылля і гаспадарчых пабудоў у вывучаным раёне, Лебедзева выдзяляе пяць паасобных этнаграфічных раёнаў — Князь-Возерскі, Мазырскі, Валасовіцкі, Загальскі і Слуцкі.

Для выяўлення агульных і спецыфічных асаблівасцей гэтых раёнаў і параўнання іх з пагранічнымі рускімі і ўкраінскімі Н. І. Лебедзева склала спецыяльную табліцу асноўных элементаў жылля і гаспадарчых пабудоў. Каменціруючы складзеную табліцу, аўтар піша: "Канчатковай мэтай такой нагляднай перадачы асобных класіфікацыйных элементаў было пастаўлена прасачыць іх адносіны да іншых рускіх тэрыторый, каб высветліць, якія часткі з вывучанай тэрыторыі, у якіх элементах і з якімі тэрыторыямі маюць сувязь"[139]. Н. І. Лебедзева далей падрабязна разглядае, якія рысы жылля і гаспадарчых пабудоў з'яўляюцца агульнымі ў вывучаным раёне, агульнымі з іншымі раёнамі Беларусі і суседнімі рускімі і ўкраінскімі раёнамі. Беларускі матэрыял параўноўваецца з наступнымі тыпамі культуры: паўночнарускім, паўднёва-рускім і ўкраінскім.

У заключэнне аўтар прыходзіць да наступнага агульнага вываду, правамернасць якога пакуль што не аспрэчвалася ў спецыяльнай літаратуры: "Разглядаючы ўсе элементы пабудоў па сувязі з іншымі групамі ўсходніх славян, неабходна адзначыць, што ў рысах, агульных для ўсёй тэрыторыі, пераважаюць рысы, агульныя з украінскімі, у рысах жа, якія сустракаюцца ў асобных раёнах, адчуваюцца дзве хвалі: адна, агульная з паўночна-велікарусамі, а другая, агульная з Чарнігаўшчынай і Донам. Апошняя асабліва ярка захоплівае паўднёва-ўсходнюю частку тэрыторыі.

[138] Лебедева Н. И. Жилище и хозяйственные постройки Белорусской ССР. М., 1929. С. 80.

[139] Там жа.

Разглядаючы ўсе элементы па ступені іх распаўсюджанасці, даводзіцца іх раздзяляць на дзве групы: па-першае, элементы, шырока распаўсюджаныя па раду тэрыторый, напрыклад план хаты, гумно на сохах і інш., і элементы, пакуль толькі зарэгістраваныя ў вельмі нязначнай колькасці, — гэта гумны з лісічкамі, страха чубам, многавугольныя зрубы, скляпеністыя столі; гэта будуць элементы, найбольш каштоўныя як архаізмы; будучы ўскрыты на іншых тэрыторыях, яны памогуць зразумець далёкае мінулае вывучанай тэрыторыі, лёс асобных этнічных груп, а таксама могуць паслужыць звязваючым рэальным звяном у гісторыі развіцця асобных канструкцыйных асаблівасцей пабудоў"[140].

Такім чынам, Н. І. Лебедзева ў сваёй працы ўзнялася да шырокіх вывадаў і ў першую чаргу ў пытаннях ўзаемасувязей культуры суседніх народаў.

У 20-х гадах з'явіўся рад прац па матэрыяльнай культуры ў сувязі з абследаваннем санітарна-бытавых умоў насельніцтва медыцынскай секцыяй Інстытута беларускай культуры. У распрацаванай секцыяй праграме вялікае месца адводзілася характарыстыцы населеных пунктаў, двароў, жылля, адзення і санітарна-гігіенічных умоў жылля.

Працы гэтыга тыпу з'явіліся адказам на задачы, якія былі пастаўлены савецкай уладай перад навукай, — садзейнічаць хутчэйшай перабудове быту народа на сацыялістычнай аснове, падняць дабрабыт і культурны ўзровень працоўных у першую чаргу ў вёсцы.

Сярод гэтых прац найбольшую этнаграфічную каштоўнасць уяўляе нарыс З. К. Магілёўчыка "Санітарна-гігіенічныя ўмовы хаты і двара беларускага сялянства"[141]. Урач па спецыяльнасці і актыўны дзеяч краязнаўства, З. К. Магілёўчык прыцягнуў да гэтай працы студэнтаў БДУ, якім было раздадзена 1500 экземпляраў праграм-анкет. З гэтага ліку было запоўнена 1170 анкет, з іх на высокім узроўні — 1052 анкеты. Абследавана была амаль уся тэрыторыя Беларусі, прынамсі, матэрыялы паступілі з усіх акруг рэспублікі, акрамя Полацкай.

Двары для абследавання ў вёсках браліся праз адзін. Такім чынам, у кожнай вёсцы было абследавана 50% двароў.

Сабраныя матэрыялы пры аналізе далі даволі яскравы малюнак стану жыллёвых умоў беларускай вёскі сярэдзіны 20-х гадоў, а таксама паказалі тыя змены, якія адбыліся ў жыллі за чатыры гады (1923—1926). Параўноўваючы звесткі дзяржстрахавання 1923 г. з матэрыяламі, сабранымі ў 1926 г., аўтар выяўляе, што за гэты час некалькі палепшыліся жыллёвыя ўмовы сялян. Колькасць хат-пяцісценак павялічылася з 5,58% да 24%, а колькасць чатырохсценных хат зменшылася з 88,79% да 71%.

З. К. Магілёўчык падрабязна разглядае планіроўку двара, яго санітарна-бытавыя ўмовы, тыпы жылля, унутраную будову і памеры хаты, плошчу акон і г. д. Асобна разглядаецца колькасны склад сям'і, плошча і кубатура памяшкання на адну душу. Усё гэта робіцца для выяўлення недахопаў з мэтай паляпшэння жыллёвых умоў жыхароў беларускай вёскі. У заключэнне аўтар дае канкрэтныя прапановы для дасягнення пастаўленай мэты.

З. К. Магілёўчыку належыць яшчэ

[140] Лебедева Н. И. Жилище и хозяйственные постройки Белорусской ССР. С. 80—81.

[141] Наш край. 1926. № 6—7.

некалькі прац па матэрыяльнай культуры народа[142].

Багаты матэрыял па жыллю, адзенню, ежы і г. д. змешчаны і ў іншых працах, выкананых па праграме вывучэння санітарна-бытавых умоў вёскі. Гэтыя працы ў адрозненне ад нарыса Магілёўчыка, які прысвечаны ўсёй Беларусі, давалі характарыстыку асобных вёсак ці некалькіх населеных пунктаў рэспублікі. Прыкладам могуць служыць артыкулы М. Тамковіча "Да пытання аб санітарна-бытавым стане вёсак Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчычы і Чапялі Старобінскага раёна Бабруйскай акругі"[143], Я. Бараноўскага "Санітарна-бытавы стан вёскі Радзілавічы, Букчанскі сельсавет, Тураўскі раён, Мазырская акруга"[144], У. Жука і П. Панкова "Санітарна-бытавы нарыс вёскі Дубровы Лельчыцкага сельсавета і раёна Мазырскай акругі"[145], М. Войткі "На беразе Усяжыракі (санітарна-бытавы нарыс в. Мглё Юраўскага с/с Смалявіцкага раёна на Міншчыне)"[146]. У адпаведнасці з праграмай гэтыя працы давалі характарыстыку наступных пытанняў: гісторыя і геаграфія мясцовасці, планіроўка вёскі, забеспячэнне вадою, эканоміка вёскі, тыпы двароў, плошча сядзібы, характарыстыка гаспадарчых будынкаў, тыпы хат, размяшчэнне іх адносна вуліцы і двара, планіроўка хаты, асвятленне і ацяпленне яе, харчаванне насельніцтва, посуд, мэбліроўка і хатнія рэчы, санітарнае становішча, хваробы і медыцынская дапамога, шлюб і сям'я, культурны ўзровень насельніцтва. Самая вялікая ўвага ў названых працах адводзілася характарыстыцы жылля і жыллёвых умоў селяніна.

З прац, прысвечаных санітарна-бытавым умовам вёскі, адзначым яшчэ артыкул В. Казанскай "Быт і санітарнае становішча сялянства Беларусі"[147], які з'явіўся ў выніку статыстычнай апрацоўкі анкетных звестак па 135 населеных пунктах. В. Казанская прыводзіць вялікую колькасць працэнтных паказчыкаў, якія характарызуюць эканоміку селяніна, дэмаграфію, жыллё, санітарна-гігіенічныя ўмовы двара і хаты, харчаванне і стан здароўя насельніцтва.

Значныя звесткі па розных аспектах матэрыяльнага быту змяшчаюць апісанні раёнаў, сельсаветаў і асобных населеных пунктаў. Такія працы ў вялікай колькасці публікаваліся часопісам "Наш край" і іншымі перыядычнымі выданнямі рэспублікі. Назавём найбольш важныя з іх. Матэрыялы па жыллю, адзенню, ежы і прыладах працы прыводзяцца ў артыкуле А. Немцава "Замосцкі сельсавет Асінавіцкага раёна Бабруйскай акругі"[148], па прыладах працы, жыллю, ежы і посуду — у артыкуле Т. П. Кулакова і М. С. Валатоўскага "Крукавіцкі сельсавет Азарыцкага раёна Мазырскай акругі"[149], па жыллю, адзенню і ежы — у артыкуле С. Шаўковіча "Некаторыя звесткі аб Танескім сельсавеце Тураўскага раёна"[150], аб паселішчах, сядзібах жыллі, гаспадарчых пабудовах, адзенню і ежы — у артыкуле М. Каспяровіча "Пра быт на Чэрвеньшчыне"[151]. Сельска-

---

[142] Магілёўчык З. К. Да пытання сучаснага стану гарадоў БССР // Наш край. 1927. № 6—7; Ён жа. Зрухі і задачы санітарнага аздараўлення вёскі ў сувязі з сацыяльнай яе рэканструкцыяй // Савецкая краіна. 1931. № 7; Ён жа. Общественное питание в г. Минске и перспективы его развития // Труды X Всесоюзного съезда бактериологов, эпидемиологов и санитарных врачей 5—11 сентября 1926 г. в Одессе. Харьков. 1927. Т. 2.

[143] Наш край. 1927. № 12.

[144] Там жа. 1928. № 8—9.

[145] Там жа. 1929. № 2.

[146] Там жа. 1930. № 3.

[147] Беларуская медычная думка. 1925. Т. II. № 3.

[148] Наш край. 1927. № 6—7.

[149] Там жа. 1929. № 2, 11.

[150] Там жа. 1930. № 2.

[151] Там жа. № 5—6.

гаспадарчая тэхніка характарызуецца ў артыкуле В. Самцэвіча "Вёска Дакудава (Крупскі р. Аршанскай акругі)"[152], рыбалоўныя прылады — у артыкуле Л. Ганжэўскага і Н. Канавальніка "Аб прыладах да лову рыбы ў ваколіцах Рагачова"[153].

Звесткі па матэрыяльнай культуры і вытворчаму быту змяшчаліся ў паведамленнях з экспедыцый[154], у геаграфічных і гістарычных нарысах пра населеныя пункты[155].

Побач з агульнаэтнаграфічнымі працамі, у якіх характарызаваліся многія аспекты матэрыяльнай культуры і вытворчага быту, у даваенны перыяд з'явіўся шэраг прац, прысвечаных аднаму якому-небудзь аспекту быту.

Перш за ўсё звяртаюць на сябе ўвагу працы па харчаванню і ежы сельскага і гарадскога насельніцтва рэспублікі. Яны былі напісаны супрацоўнікамі ЦСУ, якія ў 20-х гадах праводзілі выбарачнае абследаванне асобных населеных пунктаў. Мэтай гэтых абследаванняў з'яўлялася выяўленне якасці харчавання розных груп насельніцтва і задавальнення патрабаванняў фізіялогіі і гігіены чалавека існуючым рацыёнам, а таксама выяўленне такіх змен, якія адбываюцца ў харчаванні за пэўныя прамежкі часу.

Адной з задач гэтых абследаванняў з'яўлялася ўстанаўленне правільных норм харчавання рабочых і служачых. Вось чаму асноўная ўвага была звернута на харчаванне гарадскога насельніцтва. Пачынаючы з 1919 г. у БССР кожны год праводзіліся анкетныя абследаванні гарадскога, а з 1920 г. і сельскага насельніцтва. У горадзе выбіралася каля 100 сем'яў па трох катэгорыях — рабочыя, служачыя, іншыя (у асноўным расмеснікі). Выбраныя сем'і з дапамогай супрацоўнікаў статыстычных упраўленняў запаўнялі на працягу тыдня спецыяльныя анкеты сутачнага рацыёну харчавання сям'і.

Сабраныя матэрыялы давалі прыблізную, але даволі цікавую і рознабаковую характарыстыку харчавання насельніцтва як з боку рацыёну і асартыменту прадуктаў, так і па розных сацыяльных групах. Гэтыя звесткі мелі вялікае навуковае і практычнае значэнне.

У выніку апрацоўкі і аналізу сабраных звестак з'явіўся рад прац, прысвечаных пытанням харчавання насельніцтва Беларусі ў 1920—1927 гг. Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць артыкулы А. В. Каляды "Харчаванне насельніцтва Беларусі"[156], А. Соркіна "На шляхах да новага быту (к абследаванню грамадскага харчавання)"[157], А. Папялышкі "Харчаванне насельніцтва г. Мінска ў 1924 г."[158], П. Парцыенкі "Харчаванне гарадскога насельніцтва БССР у 1925 годзе"[159], Л. Мазелева "Грамадскае харчаванне і прафсаюзы"[160], Эк-стата "Харчаванне сельскага насельніцтва ў Беларусі"[161]. Аналіз гэтых прац прыводзіць да вываду, што пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі становішча працоўных з кожным годам паляпшалася. Так, ужо ў 1924 г., як сведчыць артыкул А. Па-

[152] Наш край. 1927. № 6—7.

[153] Там жа. 1928. № 6—7.

[154] Мікіцінскі У., Пяцэвіч Р., Ажэўскі П. Падарожжы па Случчыне // Наш край. 1928. № 2, 3; Ён жа. Дванаццаць дзён краязнаўчага вандравання (Матэрыялы з падарожжа па Слуцкім, Грэскім, Пухавіцкім, Старадарожскім раёнах) // Там жа. 1929. № 1, 2, 3; Васілеўскі Д. Экскурсійныя аб'екты Аршаншчыны // Там жа. 1929. № 4.

[155] Азбукін М. Мазырская акруга // Там жа. 1928. № 8—9; Кулакоў Т. Мястэчка Азарычы Мазырскай акругі // Там жа. 1928. № 8—9 і інш.

[156] Народное хозяйство Белоруссии. 1923. № 7.

[157] Известия Гомельского губернского комитета Российской Коммунистической партии. 1924. № 11.

[158] Бюллетень Центрального статистического управления. Вып. 1. Январь—февраль 1925 г.

[159] Там жа. Январь—март. 1926 г.

[160] Прафсаюзны рух Беларусі. 1927. № 1.

[161] Народное хозяйство Белоруссии. 1922. № 1.

пялышкі, нормы харчавання насельніцтва г. Мінска далёка абагналі не толькі нормы цяжкіх у забеспячэнні прадуктамі першых гадоў савецкай улады, але і нормы дарэвалюцыйнага часу[162].

З іншых прац, прысвечаных асобным галінам матэрыяльнай культуры, адзначым артыкулы па адзенню М. К. "Заметка да вывучэння сялянскага адзення Дубровеншчыны"[163], А. К. Супінскага "Панева" і "ўстаўка" ў беларускім жаночым адзенні"[164], артыкул па жыллю М. Азбукіна "Да пытання аб вывучэнні сялянскіх будынкаў"[165], а таксама артыкул А. Г. Даніліна "Прыстасаванні для снаповай сушкі хлеба ва ўсходніх славян і іх суседзяў"[166]. У гэтых артыкулах закранаюцца асобныя пытанні матэрыяльнай культуры беларусаў.

У 1929 г. у сувязі з масавай калектывізацыяй сельскай гаспадаркі пачынаецца вывучэнне калгаснага быту. У часопісе "Наш край" (№ 11) друкуюцца "План краязнаўчага папярэдняга даследавання і апісання калгаснага руху ў раёне" і "План (прыкладны) краязнаўчага абследавання і апісання калектыўнай гаспадаркі". У апошнім плане побач з характарыстыкай эканомікі патрабавалася падрабязнае апісанне і матэрыяльнай культуры калгаснай вёскі. Крыху пазней была апублікавана "Кароткая праграма даследавання калгасаў", складзеная В. Самцэвічам[167]. З 21 раздзела праграмы адзін пад назвай "Культурна-бытавыя ўмовы" адведзены пытанням этнаграфіі. У ім ахопліваліся наступныя галіны быту: жыллё, ежа і харчаванне, санітарна-гігіенічныя ўмовы і лячэнне, сямейныя і грамадскія ўзаемаадносіны, культурна-асветныя і выхаваўчыя ўстановы, барацьбы з рэлігійнымі забабонамі. Асаблівая ўвага звярталася на ўплыў калгаснага руху на змены ў быце сялянства.

У гэтым жа годзе ЦБК атрымала першыя карэспандэнцыі, у прыватнасці "Па калгасах Койданаўскага раёна" З. Бядулі, а ў 1930 г. часопіс "Наш край" апублікаваў артыкулы В. Самцэвіча "Калгаснае будаўніцтва і краязнаўства"[168] і А. Шашалевіча "Арганізацыя працы і быту ў калгасах Чачэрскага раёна"[169]. Названыя вышэй і іншыя артыкулы[170] давалі самыя агульныя звесткі аб быце калгаснікаў і членаў камун. Аднак у іх падкрэслівалася, што калгасы з'яўляюцца апорнымі пунктамі ў барацьбе за новы быт. Адной з задач гэтых артыкулаў было выяўленне недахопаў у калгасным будаўніцтве, эканоміцы і быце сельгасарцелей з мэтай іх ліквідацыі.

Некалькі прац даваеннага перыяду прысвечана жаночай долі. Аб становішчы жанчыны ў сям'і і яе ролі ў грамадстве гаварылася ў многіх агульна-этнаграфічных працах, якія былі названы намі вышэй. У 1929 г. у "Нашым краі" (№ 3) быў апублікаваны спецыяльны артыкул А. Д. Гарбача "Рысы старога быту ў жыцці беларускіх сялян у вёсках Шалавічы і Новыя Наборкі Бабруйскай акругі, у вёсках Дразды і Малішава Мазырскай акругі", у якім паказана жыццё беларускай жанчыны-сялянкі ад нараджэння да смерці. Ста-

[162] Бюллетень Центрального статистического управления. Вып. 1. Январь—февраль 1925 г. С. 35.

[163] Наш край. 1930. № 3.

[164] Советская этнография. 1932. № 2.

[165] Наш край. 1929. № 6—7.

[166] Этнография. 1927. № 1.

[167] Наш край. 1929. № 12.

[168] Наш край. 1930. № 4.

[169] Там жа.

[170] Войтка М. Блакітныя далі (саўгас Косіна, Лагойскі р-н) // Наш край. 1930. № 2; Калгас "Чырвоны сцяг" Смалявіцкага р-на // Савецкая краіна. 1931. № 9; Калгас "Камсамолец" // Там жа. 1931. № 11; Сярмяжка А. М. Саўгас Рачкавічы. Мн., 1931; Кароль К. Я. Калгас "Алзор" // Там жа. 1932. № 2.

новішчу беларускай жанчыны ў дарэвалюцыйны і савецкі час прысвечаны і фальклорны зборнік "Жанчына ў беларускай народнай творчасці" (1940).

Адной з першых у СССР асобнай працай аб быце і культуры калгаснай вёскі была брашура Рубільніка "Некаторыя даныя аб культуры і быце калгасаў БССР" (1931).

Брашура Рубільніка была напісана на падставе экспедыцыйных абследаванняў 1929—1930 гг., праведзеных кафедрай кааперацыі і калектывізацыі Беларускай акадэміі навук (у 1929 г. абследавана 112 калгасаў, у 1930 г. — 50), а таксама на падставе абследавання велізарнай колькасці калгасаў (2762), якое было праведзена Калгасцэнтрам БССР у 1930 г.

У сваёй працы Рубільнік характарызуе асноўныя аспекты культуры і быту беларускіх калгаснікаў і камунараў на рубяжы 20—30-х гадоў. Прывёўшы агульныя звесткі аб стане калектывізацыі ў БССР (к пачатку 1930 г. было ахоплена калектывізацыяй 16% сялянскіх гаспадарак), аўтар разглядае стан пісьменнасці членаў арцелей і камун, школьнай справы, работу грамадскіх арганізацый, палітасветную працу і арганізацыю быту ў калгасах. Апошняму пытанню прысвячаецца палова ўсёй брашуры. Тут ахопліваюцца асноўныя моманты быту і культуры калгаснага сялянства — жыллёвыя ўмовы, харчаванне, выхаванне дзяцей, санітарна-гігіенічныя ўмовы і медыцынскае абслугоўванне, а таксама становішча жанчыны. У канцы брашуры закранаюцца пытанні сямейнага быту, рэлігіі і атэізму. Паказваючы цяжкасці жыллёвых умоў калгаснікаў і камунараў, Рубільнік адзначае зрухі ў жыллёвым будаўніцтве. Так, калі ў 1929 г. у сярэднім на адзін калгас было па 4 жылыя дамы, то ў 1930 г. іх было ўжо па 16.

"Рэвалюцыя ў сельскай гаспадарцы, — піша Рубільнік, — цягне за сабою і рэвалюцыю быту"[171]. У будучым у сельскай мясцовасці павінны вырасці аграгарады, дзе будуць сканцэнтраваны не толькі жылыя памяшканні, але і склады, рамонтныя майстэрні, школы, бальніцы, клубы, заводы. Таму трэба новае будаўніцтва весці з такім разлікам, "каб новыя будынкі, новыя жылыя памяшканні і новыя культурна-бытавыя ўстановы з'яўляліся часткай будучых сельскіх гарадоў, якія павінны ствараць калгаснікам аптымальныя ўмовы для развіцця новага пакалення ўсебакова развітых людзей"[172].

Пры разглядзе пытанняў харчавання насельніцтва аўтар акцэнтуе ўвагу на грамадскім харчаванні, прыводзіць адмоўныя і станоўчыя прыклады работы сталовых у калгасах і саўгасах. Сяляне-экскурсанты, якія прыехалі ў камуну імя Карла Лібкнехта былой Магілёўскай акругі, былі вельмі задаволены новым бытам. "Больш за ўсё экскурсантаў здзівіла на кухні і ў сталоўцы ўзорная чысціня. Далей з асаблівай увагай разглядалі яны вадаправод, які камунары пабудавалі сваімі ўласнымі рукамі"[173].

Такім чынам, праца Рубільніка дае агульнае ўяўленне аб зменах у матэрыяльным быце сялянства ў пачатку 30-х гадоў, хаця аўтар і не робіць прафесійнага этнаграфічнага аналізу беларускай вёскі.

У вывучэнні выторчай дзейнасці і матэрыяльнай культуры беларусаў у даваенны час значнае месца займаюць працы па хатніх промыслах і саматужнай прамысловасці.

Вывучэнне дробнарамесніцкай прамысловасці, хатніх рамёстваў мела

---

[171] Рубільнік. Некаторыя даныя аб культуры і быце калгасаў БССР. Мн., 1931. С. 25.

[172] Там жа.

[173] Там жа.

вялікае практычнае значэнне, таму што ва ўмовах 20-х гадоў саматужная прамысловасць і рамёствы адыгрывалі значную ролю ў забеспячэнні насельніцтва таварамі шырокага ўжытку. Вялікая ўвага гэтаму пытанню была ўдзелена на XVI з'ездзе ВКП(б). У дакладзе В. Куйбышава, у прыватнасці, адзначалася: "Мы павінны разглядаць саматужную прамысловасць як сур'ёзнага памочніка нашай буйной і лёгкай індустрыі ў справе павелічэння тэмпаў для задавальнення запатрабаванняў шырокіх мас насельніцтва"[174].

У 1924—1925 гг. падсекцыяй хатніх рамёстваў сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта была распрацавана і разаслана па сельсаветах "Анкета для вывучэння промыслаў і хатніх рамёстваў Беларусі". Анкета мела на мэце выяўленне промыслаў і рамёстваў на тэрыторыі Беларусі і іх кароткую характарыстыку. Яна патрабавала звесткі аб тым, у якіх населеных пунктах бытуюць рамёствы і промыслы, як і адкуль здабываецца сыравіна, куды і як збываюцца вырабы, колькі прадукцыі выраблена рамеснікамі кожнага паселішча за 1925 г., аб арганізацыі працы (арцелі ці адзіночкі), ліку занятых асоб, гісторыі рамяства, назве на мясцовай гаворцы сыравіны, вырабаў, інструментаў і прылад працы.

У 1925—1926 гг. ЦСУ Беларусі па прыкладу ЦСУ СССР правяло перапіс саматужна-рамесніцкай прамысловасці рэспублікі. Перапіс паказаў, што ў 1926 г. у дробнарамесніцкай прамысловасці БССР было занята 100 374 чалавекі, якія давалі прадукцыю на 192 821 747 руб.[175]

Анкета Інбелкульта і перапіс ЦСУ паказалі неабходнасць вывучэння рамёстваў і промыслаў Беларусі. Пачынаючы з 1926 г. гэта работа расшыраецца. Складаюцца і рассылаюцца новыя праграмы і інструкцыі. Атрыманыя матэрыялы разглядаюцца не толькі ў спецыяльных працах, але і ў манаграфічных апісаннях раёнаў, сельсаветаў і асобных населеных пунктаў.

З апублікаваных прац па хатніх рамёствах і саматужных промыслах адзначым артыкулы і асобныя даследаванні Каракіна "Стружачная вытворчасць у мястэчку Глуск Бабруйскай акругі"[176], Р. Рака "Рамеснік г. Мінска да рэвалюцыі 1917 г. (1866—1916)"[177], "Народнае ткацтва Бабруйскай акругі"[178] і "Да пытання аб геаграфічным размяшчэнні дробнарамесніцкай прымысловасці па БССР" (1932), С. Руткоўскага "Шляхі развіцця саматужнага ткацтва ў БССР"[179], І. Гершэнбаўма "Саматужніцкае мястэчка (Падабранка, Цярэхаўскага раёна)"[180], М. Я. Грынблата "Вывучэнне раёнаў малога рыбалоўства і рыбацкіх арцеляў"[181], А. Н. Ляўданскага "Да гісторыі жалезнага промыслу на Палессі" (1933).

З названых прац спынімся на даследаванні Р. Рака "Да пытання аб геаграфічным размяшчэнні дробнарамесніцкай прамысловасці БССР", якое з'яўляецца абагульняючым і прысвечана выяўленю важнейшых гнёзд і канцэнтрацыі розных рамёстваў і промыслаў як па ўсёй тэрыторыі рэспублікі, так і ў маштабе раёнаў. Р. Рак аналізуе стан промыслаў і рамёстваў па форме ўлас-

---

[174] XVI съезд ВКП(б). Стенографический отчет. М.; Л., 1931. С. 486.

[175] Рак Р. Да пытання геаграфічнага размяшчэння дробнарамесніцкай прамысловасці па БССР: Матэрыялы раяніравання. Мн., 1932. С. 6.

[176] Наш край. 1926. № 2—3.

[177] Там жа. 1927. № 4.

[178] Запіскі аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Беларускай акадэміі навук. Мн., 1929. Т. II.

[179] Там жа.

[180] Савецкая краіна. 1931. № 8.

[181] Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук. Мн., 1932. Т. III.




76. Вокладка кнігі Р. Рака

насці (дзяржаўныя, кааператыўныя, прыватныя), па сацыяльнаму і нацыянальнаму складу асоб, якія заняты ў іх, а таксама па галінах вытворчасці. На першым месцы па ліку занятых асоб і па валавой прадукцыі стаяць промыслы па вырабу прадуктаў харчавання, далей ідуць вытворчасць адзення, апрацоўка дрэва, апрацоўка скур і футры, воўны, металаў, мінералаў і, нарэшце, хімічныя промыслы.

Аўтар выяўляе нераўнамернасць размяшчэння промыслаў і рамёстваў на тэрыторыі Беларусі. Большая канцэнтрацыя наглядаецца на поўдні (20,3—21,6 рамеснікаў на 1000 жыхароў), меншая — у Полацкай і Аршанскай акругах (15,2—16,4 рамеснікаў на 1000 жыхароў). Вызначана і тая заканамернасць, што ў раёнах з вялікімі па памеру населенымі пунктамі колькасць асоб, што займаюцца рамёствамі і промысламі, прапарцыянальна большая. Работа Р. Рака насычана вялікай колькасцю статыстычных даных, параўнаннямі, а таксама картамі размяшчэння рамёстваў і промыслаў у Беларусі, што асабліва павялічвае каштоўнасць гэтага даследавання.

Блізкімі да прац аб промыслах і рамёствах з'яўляюцца даследаванні па народнаму мастацтву, і ў прыватнасці па мастацкаму афармленню тканін і народнай архітэктуры.

Беларуская набойка (крашаніна) даволі шырокае апісанне атрымала ў працах І. П. Фурмана[182], А. А. Шлюбскага[183] і А. К. Супінскага[184].

У працах гэтых аўтараў паказана гісторыя ўзнікнення набойкі ў Беларусі і змешчаны багаты ілюстрацыйны матэрыял. Аднак не ўсе яны метадалагічна і навукова вытрыманыя. У прыватнасці, працы А. Шлюбскага маюць налёт нацыяналістычнай тэндэнцыйнасці.

А. Шлюбскі пры разглядзе беларускай набойкі, і асабліва гісторыі яе ўзнікнення, ігнаруючы вядомыя яму факты аб тым, што набойка была запазычана ўсходнімі славянамі з Усходу і з'явілася ўпершыню ў XII ст. у Хутынску (каля Ноўгарада), тым не менш сцвярджае: "Друкаванне тканіны ва ўсходніх славян перш за ўсё ўзнікла ў беларускіх пляменаў, а потым перайшло да іх суседзяў — маскоўцаў, як, напрыклад, друкаванне кніжак, бо гандаль у

[182] Фурман І. П. Крышаніна (Матэрыялы па гісторыі яе ў Віцебшчыне) // Віцебшчына. 1925. Т. І; Ён жа. Крашаніна. Віцебск, 1925. Вып. II.

[183] Шлюбскі А. Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1926; Ён жа. Вывучэнне друкавання тканіны // Наш край. 1927. № 8—9; Ён жа. Аб беларускай набойцы // Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Кн. 4: Працы кафедры этнаграфіі. Т. І. 1928.

[184] Супінскі А. К. Да пытання аб некаторых усходніх элементах у беларускім народным мастацтве фарбавання // Наш край. 1930. № 4.

X—XII стст. адбываўся паміж беларусамі і ўсходнімі народамі, а не паміж маскоўцамі і Усходам"[185].

Тэндэнцыйнасць працы Шлюбскага аб набойцы вельмі ўдала падмеціў у тым жа годзе Д. Даўгяла[186]. У рэцэнзіі на гэту працу ён пісаў, што Шлюбскі ігнаруе ўжо даказаныя вучонымі палажэнні аб пранікненні набойкі ў Беларусь ад рускіх і паўтарае нацыяналістычныя канцэпцыі аб залежнасці культуры рускага народа ад культуры беларусаў. І нават той факт, што ў XVII—XIX стст. друкаванне тканіны ажывілася ў Беларусі, а Віцебшчына атрымлівала дошкі з малюнкамі для друкавання з Цвярской губерні, для Шлюбскага не можа сведчыць аб цесных сувязях беларусаў з рускім народам, а звязваецца з французскімі кальвіністамі.

Падобная нацыяналістычная тэндэнцыйнасць прысутнічае і ў працах М. Каспяровіча па гісторыі беларускага мастацтва, у прыватнасці народнай архітэктуры і арнаменту[187], хоць гэтыя працы, як і працы А. Шлюбскага, уяўляюць каштоўнасць змешчаным у іх фактычным матэрыялам.

Адзначаная тэндэнцыйнасць у вывучэнні народнага мастацтва поўнасцю знікла ў пасляваенны перыяд.

Такім чынам, у даваенны перыяд наметіліся важнейшыя аспекты вывучэння матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларускага народа. Аднак большасць прац гэтага перыяду была выканана або прадстаўнікамі сумежных навук, або краязнаўцамі.




77. Вокладка кнігі

З сярэдзіны 30-х гадоў аж да пасляваеннага перыяду ў друку не з'явілася ніводнай колькі-небудзь значнай працы па промыслах і рамёствах, як і наогул па этнаграфіі Беларусі.

У пасляваенны перыяд актыўную дзейнасць па вывучэнню матэрыяльнай культуры беларусаў разгарнуў Інстытут этнаграфіі АН СССР. Паралельна пачаліся даследаванні і ў Беларусі.

Першай буйной працай пасляваеннага часу па матэрыяльнай культуры ўсходніх славян, выкананай на высокім прафесійным узроўні, з'явілася кніга "Усходнеславянскі этнаграфічны зборнік. Нарысы народнай матэрыяльнай культуры рускіх, украінцаў і беларусаў у XIX — пачатку XX ст." (М., 1956). Кніга падрыхтавана супрацоўнікамі

[185] Шлюбскі А. Крашаніна (набіванка). С. 12—13.

[186] Даўгяла З. Крашаніна, набойка, выбайка // Наш край. 1926. № 6—7.

[187] Каспяровіч М. Беларускае малярства ў Польшчы // Маладняк. 1925. № 6; Ён жа. Народны арнамент // Віцебшчына. 1925. Т. I; Ён жа. Асноўныя моманты беларускага дойлідства // Полымя. 1927. № 5.

Інстытута этнаграфіі імя М. М. Міклухі-Маклая АН СССР Я. Э. Бломквіст ("Славянскія пабудовы рускіх, украінцаў і беларусаў"), Н. І. Лебедзевай ("Прадзенне і ткацтва ўсходніх славян у XIX — пачатку XX ст.") і Г. С. Маславай ("Народнае адзенне рускіх, украінцаў і беларусаў у XIX — пачатку XX ст."). Кожная з названых прац уяўляе сабою самастойнае манаграфічнае даследаванне, напісанае на падставе вялікай колькасці разнастайных крыніц.

Найбольш капітальным з'яўляецца даследаванне Я. Э. Бломквіст аб пабудовах і жыллі ўсходнеславянскіх народаў. Для сваёй працы яна выкарыстала самыя разнастайныя крыніцы — літаратуру археалагічную, этнаграфічную, па выяўленчаму мастацтву і архітэктуры, фотаархівы і музейныя калекцыі, а таксама экспедыцыйныя матэрыялы. Наколькі дазвалялі матэрыялы, Я. Э. Бломквіст імкнулася пранікнуць у глыбіню вякоў, каб са старажытных часоў прасачыць развіццё сялянскіх пасяленняў, сядзіб, гаспадарчых пабудоў, будаўнічай тэхнікі. І хоць беларускі матэрыял у працы Я. Э. Бломквіст значна бяднейшы, чым рускі і ўкраінскі, умелае выкарыстанне яго ў плане параўнання і ўзаемасувязі дае цікавую і даволі ясную карціну асаблівасцей і агульных рыс славянскіх пабудоў беларусаў.

Асаблівая каштоўнасць гэтай працы заключаецца ў тым, што ў ёй праводзіцца класіфікацыя і тыпізацыя розных элементаў сялянскага будаўніцтва, у сувязі з чым аўтар змяшчае вялікую колькасць карт, схем, табліц, чарцяжоў, фатаграфій і г. д. Зазначым, што распрацаваная Я. Э. Бломквіст класіфікацыя планіроўкі пасяленняў, сядзіб і жылля была прынята пры складанні гісторыка-этнаграфічнага атласа "Рускія".

Зусім зразумела, што ў выніку назапашвання новых матэрыялаў і суцэльнага абследавання тэрыторыі Беларусі ў апошні час класіфікацыя Бломквіст ужо не заўсёды адпавядае сучаснаму стану навукі і патрабуе значных удакладненняў і дапаўненняў. Аднак у той час гэта класіфікацыя дапамагла прывесці ў пэўную сістэму сабраныя матэрыялы па сялянскаму будаўніцтву рускіх, беларусаў і ўкраінцаў, а таксама паслужыла адпраўным пунктам для далейшай распрацоўкі гэтага пытання.

Значную цікавасць уяўляе сабою праца Н. І. Лебедзевай "Прадзенне і ткацтва ўсходніх славян у XIX — пачатку XX ст." Яна выканана з добрым веданнем прадмета даследавання і прысвечана падрабязнаму апісанню працэсаў падрыхтоўкі пражы, прадзення і ткацтва, прылад працы і тэхналогіі працэсаў.

Прасачыўшы гістарычны шлях развіцця прадзення і ткацтва, Н. І. Лебедзева вызначае тыя элементы ў прыладах прадзення і ткацтва і ў вытворчых працэсах, якія са старажытных часоў дайшлі да пачатку XX ст. На погляд аўтара, арганізацыя працы пры прадзенні і ткацтве, магчыма, "з'яўляецца адгалоскам тых вытворчых адносін, якія існавалі ў родавым матрыярхальным грамадстве"[188]. Н. І. Лебедзева выдзяляе асаблівасці, якія характэрны для паўднёва-заходняй Беларусі, Правабярэжнай і паўднёва-заходняй Украіны: палкаабразныя пралкі, круглыя грэбні, закладная тэхніка ткання. Спасылаючыся на працы археолага А. А. Спіцына, яна далучаецца да думкі, што гэты арэал з'яўляецца зонай рассялення валынян.

Аўтар працы прыходзіць да наступнага агульнага вываду: "Усе разгледжаныя вышэй прылады і тэхнічныя навыкі прадзення і ткацтва складаюць агульны культурны адбітак усходніх славян. Тканіны ж з'яўляюцца адным з элементаў

[188] Восточнославянский этнографический сборник. С. 535.

культуры і быту, якія адрозніваюць адну нацыянальнасць ад другой, прычым спецыфіка тканін выражаецца пераважна ў іх арнаменце і расфарбоўцы, выпрацаваных рускім, украінскім і беларускім народамі"[189].

Больш капітальным у параўнанні з працай Лебедзевай з'яўляецца даследаванне народнага адзення рускіх, украінцаў і беларусаў, выкананае Г. С. Маславай. Аўтарам надзвычай скрупулёзна і падрабязна разглядаецца адзенне па яго тыпах, матэрыялу, асноўных частках, палавому і ўзроставаму прызнаках. Акрамя гэтага, у працы апісваюцца таксама абутак, галаўныя ўборы, паясы, упрыгожванні і інш. Аналіз дэталяў і комплексаў адзення рускіх, беларусаў і ўкраінцаў дае магчымасць аўтару выдзеліць асноўныя традыцыйныя тыпы адзення гэтых народаў. У прыватнасці, у Беларусі Г. С. Маслава выдзяляе два буйныя этнаграфічныя раёны: паўночна-заходні і паўднёва-ўсходні. Многа агульнага аўтар знаходзіць у адзенні насельніцтва Беларускага Палесся, Валыні і поўначы Чарнігаўшчыны. У заключнай частцы Г. С. Маслава на падставе аналізу матэрыялаў па адзенню характарызуе ўнутраныя гісторыка-культурныя сувязі ўсходніх славян, а таксама прыводзіць звесткі па ўзаемасувязях адзення славянскіх і неславянскіх народаў.

Зусім не выклікае пярэчання вывад аўтара, што "адзенне рускіх, украінцаў і беларусаў уяўляе разнастайную і каштоўную крыніцу для вывучэння гісторыі матэрыяльнай культуры і разам з прыцягненнем даных лінгвістыкі, археалогіі, гісторыі і антрапалогіі дае магчымасць глыбей асвятліць складаныя пытанні этнагенезу і гісторыі матэрыяльнай культуры ўсходніх славян"[190].

Як і папярэднія працы, даследаванне Г. С. Маславай багата ілюстравана картамі, замалёўкамі і фатаграфіямі.

Найбольш значнымі агульнаэтнаграфічнымі працамі, у якіх разглядаюцца многія галіны быту народа, з'яўляюцца "Беларускі этнаграфічны зборнік" (1958), нарыс "Беларусы" ў першым томе кнігі "Народы Еўрапейскай часткі СССР" (1964), працы аб быце сялян у партызанскіх краях і зонах і зборнікі "Пытанні этнаграфіі Беларусі" (1964), "Пытанні беларускай этнаграфіі, фальклярыстыкі і тапанімікі" (1967).

Першым вопытам манаграфічнага вывучэння калгасаў у пасляваенны час з'явілася праца М. Я. Грынблата і Л. А. Малчанавай "Новыя з'явы ў быце калгаснай вёскі (спроба этнаграфічнага вывучэння калгаса "Бальшавік" Хойніц-



Труды Института искусствоведения, этнографии и фольклора Министерства культуры БССР

Вопросы этнографии Белоруссии

Издательство „Наука и техника"
Минск 1964

78. Вокладка кнігі

---

[189] Восточнославянский этнографический сборник. С. 535.

[190] Там жа. С. 756.

кага раёна Гомельскай вобласці)", апублікаваная ў "Беларускім этнаграфічным зборніку". Яна з'явілася як вынік новага кірунку ў савецкай этнаграфіі — звароту да вывучэння сучасных працэсаў у быце народаў СССР. Мэта гэтай работы, як адзначаюць яе аўтары, — "на аснове этнаграфічнага вывучэння насельніцтва аднаго тыповага калгаса вывучыць тыя новыя рысы, якія характарызуюць рост матэрыяльнага дабрабыту і сацыялістычную перабудову быту і культуры беларускага калгаснага сялянства"[191]. У пэўны перыяд развіцця савецкай этнаграфіі манаграфічнае вывучэнне асобных калгасаў было апраўданым. У далейшым этнографы перайшлі да тэматычнага вывучэння асобных аспектаў быту і культуры насельніцтва краіны, што давала магчымасць прыходзіць да больш шырокіх вывадаў і абагульненняў пры вывучэнні працэсаў, якія адбываюцца ў сучасным быце і культуры насельніцтва краіны. Пры вывучэнні асобных аспектаў быту (матэрыяльнага, сямейнага, грамадскага і г. д.), але на больш шырокім матэрыяле заўсёды ёсць магчымасць глыбей пранікнуць у сутнасць з'яў жыцця народа, выявіць заканамернасці і перспектывы яго развіцця.

У рабоце "Новыя з'явы ў быце калгаснай вёскі..." аўтары на матэрыяле аднаго калгаса разглядаюць змены ў вытворчым і матэрыяльным быце (вытворчыя працэсы, пасяленні, сядзібы, жыллё і гаспадарчыя пабудовы, адзенне, ежа і хатняе начынне), грамадскі, сямейны быт, рост культуры і адукацыі калгаснай вёскі, народную творчасць і народнае мастацтва. У большасці выпадкаў апісанне сучаснага быту падаецца ў параўнанні са станам дарэвалюцыйнай беларускай вёскі. Аўтары пераканаўча паказалі перавагу новага, сацыялістычнага ладу, які вывеў беларускую вёску з галечы і цемры. Аднак у цэлым у працы пераважае апісальніцтва.

На больш высокім навуковым і метадычным узроўні была выканана праца "Беларусы", у якой прааналізаваны важнейшыя аспекты быту і культуры беларускага народа — матэрыяльная і духоўная культура, сямейны і грамадскі быт, фальклор і народнае матсацтва. Усе гэтыя аспекты этнаграфіі беларусаў дадзены ў развіцці і ахопліваюць перыяды капіталізму і сацыялізма. Асноўная ўвага ў манаграфіі звернута на аналіз карэнных змен у жыцці, быце і культуры беларускага народа ў савецкі час. Упершыню побач з этнаграфіяй сельскага насельніцтва ў працы паказаны быт і культура горада, рабочага класа Беларусі.

Фарміраванню новага быту сельскага насельніцтва Беларусі і сціранню розніцы ў галіне быту паміж горадам і вёскай прысвечана гісторыка-этнаграфічнае даследаванне І. П. Корзуна "Пераадоленне розніцы паміж горадам і вёскай у быце і культуры" (1972). Аўтар на падставе этнаграфічных і статыстычных даных, матэрыялаў, апублікаваных галоўным чынам у перыядычнай прэсе, разглядае змены ў жыцці беларускага сялянства, якія адбыліся ў апошнія два дзесяцігоддзі. І. П. Корзун на канкрэтным матэрыяле паказвае, што рост матэрыяльнага дабрабыту сельскага насельніцтва, выкліканы сацыяльна-эканамічнымі пераўтварэннямі ў вёсцы, прывёў да змены вобліку беларускай вёскі і жылля калгаснікаў, ніве́ліроўкі адзення і інш. Павышэнне адукацыі і культуры сельскага насельніцтва наблізіла вёску да горада ў галіне грамадскага і сямейнага быту.

З гісторыка-этнаграфічных прац пасляваеннага часу заслугоўваюць увагі кнігі і артыкулы А. І. Залескага аб

---

[191] Беларускі этнаграфічны зборнік. С. 5.

патрыятычнай барацьбе савецкага народа і яго жыцці ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі. Спачатку А. І. Залескім быў узяты невялікі раён — пяць вёсак Загальскага сельсавета Любанскага раёна Мінскай вобласці, якія ў час вайны знаходзіліся ў партызанскім краі. Шляхам экспедыцыйных даследаванняў, вывучэння архіваў і ўспамінаў сведак падзей ён з дапамогай супрацоўнікаў сектара этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР сабраў багаты матэрыял аб барацьбе, жыцці і быце беларускага народа ў тыле ворага.

У 1960 г. выйшла з друку першая яго кніга пад назвай "Быт беларускіх сялян у партызанскім краі", якая асвятляла важнейшыя бакі жыцця, быту і вытворчай дзейнасці беларускіх сялян адзначанай вышэй мясцовасці. А. І. Залескі паказаў высокі патрыятызм беларускага народа, які праявіўся не толькі ў гераічнай барацьбе з ворагам, але і ў захаванні савецкіх тардыцый.

У далейшым экспедыцыйнымі даследаваннямі былі ахоплены іншыя раёны Беларусі, а таксама вывучаны крыніцы па праблеме, што адносяцца да тых раёнаў СССР, якія былі часова акупіраваны нямецкімі фашыстамі. У выніку з'явілася праца "У партызанскіх краях і зонах" (М., 1962), у якой аўтар на фоне ўзброенай барацьбы савецкіх людзей у тыле ворага аналізуе жыццё народа ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі. Аўтар даследуе такія вузлавыя пытанні патрыятычнай барацьбы і жыцця народа, як барацьба калгаснікаў супраць разрабавання і знішчэння гітлераўцамі сацыялістычнай маёмасці ў вёсцы, вытворчая дзейнасць, грамадскі і дамашні быт насельніцтва і дапамога мясцовага насельніцтва партызанам і Чырвонай Арміі. У гэтай кнізе А. І. Залескі ўлічыў крытыку кнігі "Быт беларускіх сялян у партызанскім краі", у якой аўтар не змог асвятліць сутнасць аграрных мерапрыемстваў гітлераўцаў і іх спробы выкарыстаць у сваіх інтарэсах калектыўную сістэму гаспадаркі.

Пазней выйшлі з друку яшчэ дзве кнігі А. І. Залескага "У тыле ворага" (1969) і "Гераічны подзвіг мільёнаў у тыле ворага" (1970), прысвечаныя больш шырокаму асвятленню асобных пытанняў, што разглядаліся ў папярэдніх працах. У прыватнасці, тут больш падрабязна разглядаецца аграрная палітыка гітлераўцаў у беларускай вёсцы і барацьба беларускага народа супраць аграрных мерапрыемстваў нямецкіх фашыстаў. Акрамя гэтага, у кнізе характарызуюцца вядомыя ўжо чытачу па папярэдніх працах А. І. Залескага пытанні аб захаванні сацыялістычных традыцый у вытворчай дзейнасці калгаснікаў, аб матэрыяльных умовах жыцця, медыка-санітарным абслугоўванні і іншыя ва ўмовах часовай акупацыі Беларусі ворагам.

Нельга не адзначыць, што ўсе кнігі А. І. Залескага ў значнай ступені паўтараюць адна другую. Пры прынятым аўтарам прынцыпе публікацыі пазбегнуць такога дубліравання адных і тых жа палажэнняў і вывадаў вельмі цяжка.

У пасляваенны перыяд публікуецца шэраг артыкулаў і прац, прысвечаных асобным пытанням матэрыяльнай культуры беларусаў (земляробчая тэхніка, жыллё, адзенне, промыслы і рамёствы), і абагульняючых прац, якія ахопліваюць многія аспекты матэрыяльнай культуры.

Характарыстыку вытворчай дзейнасці і сельскагаспадарчай тэхнікі беларусаў у дарэвалюцыйны час даюць артыкулы Л. А. Малчанавай "Да гісторыі земляробчых прылад беларусаў"[192],

[192] Краткие сообщения Института этнографии АН СССР. 1957. Т. XXVIII.

"Спосаб апрацоўкі зямлі"[193], "Прылады ўборкі збожжавых і вытворчыя пабудовы беларусаў у канцы XIX — пачатку XX ст."[194], М. М. Улашчыка "Прылады вытворчасці і сістэмы землеўладання ў памешчыцкай гаспадарцы Літвы і Заходняй Беларусі ў перыяд разлажэння феадальна-прыгонніцкага ладу"[195].

У гэтых публікацыях разглядаюцца сістэмы земляробства, традыцыйныя спосабы апрацоўкі зямлі, агратэхніка і асноўныя тыпы традыцыйных сельскагаспадарчых прылад. У прыватнасці, устаноўлены межы распаўсюджання на тэрыторыі Беларусі двух тыпаў сахі — перакладной і палескай, паказаны змены ў сістэмах земляробства і агратэхніцы беларусаў, што адбыліся ў капіталістычную эпоху.

Развіццю беларускага сялянскага жылля, сельскіх пасяленняў і сядзіб прысвечана некалькі артыкулаў Л. А. Малчанавай[196], У. С. Гуркова[197] і Д. Д. Супруна[198]. У гэтых працах разглядаецца стан і змены пасяленняў, сядзіб і жылля на працягу трох гістарычных эпох — феадальнай, капіталістычнай і сацыялістычнай.

[193] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1959. № 4.

[194] Советская этнография. 1968. № 3.

[195] Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1959. М., 1961.

[196] Молчанова Л. А. История развития сельских поселений и усадеб белорусов // Советская этнография. 1956. № 1; Яна ж. Беларускае сялянскае жыллё феадальнай эпохі // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1956. № 4; Яна ж. К вопросу о развитии белорусского сельского крестьянского жилища // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Яна ж. Планування сучаснага житла білоруського колгоспника // Народна творчісць та етнографія. 1964. № 3 і інш.

[197] Гуркоў У. С. Да пытання аб развіцці сялянскіх сядзіб Віцебшчыны // Пытанні беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі. Мн., 1967.

[198] Супрун Д. Д. Да пытання аб сялянскім жыллі на Нясвіжчыне // Пытанні беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі. Мн., 1967.

Вялікая ўвага ў пасляваенны перыяд надавалася вывучэнню традыцыйнага і сучаснага адзення насельніцтва Беларусі. Гэтаму прысвечаны артыкулы Л. А. Малчанавай "Комплекс жаночага адзення беларускіх сялян XIX ст."[199], "Характэрныя асаблівасці сучаснага сялянскага адзення ў Беларусі"[200], "Галаўныя ўборы беларускіх сялян (XIX — пачатак XX ст.)"[201], а таксама артыкул А. І. Дулебы "Адзенне беларусаў"[202].

Харчаванню і народнай кулінарыі беларусаў прысвечаны артыкулы І. П. Корзуна "З гісторыі беларускай народнай кухні"[203], "Асаблівасці харчавання беларускага калгаснага сялянства"[204]. Разглядаючы асаблівасці беларускай народнай кулінарыі, аўтар характарызуе асноўныя народныя блюды, арганізацыю харчавання і тыя змены, якія адбыліся за гады савецкай улады ў гэтай галіне матэрыяльнай культуры беларусаў. У прыватнасці, падкрэсліваецца, што лепшыя традыцыйныя блюды вёскі сталі сёння здабыткам горада, а вясковая кулінарыя ўзбагацілася стравамі гарадской кухні. У працах І. П. Корзуна паказаны і міжнацыянальныя сувязі ў галіне народнай кулінарыі.

З 90-х гадоў вывучэннем народнага харчавання займаецца Т. А. Навагродскі[205].

Працягвалася вывучэнне промыслаў і рамёстваў. Дарэвалюцыйнаму іх стану прысвечаны артыкул М. Я. Грынблата

[199] Вопросы этнографии Белоруссии. Мн., 1964.

[200] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1965. № 3.

[201] Народна творчість та етнографія. 1969. № 6.

[202] Там жа. 1971. № 2.

[203] Беларусь. 1959. № 7.

[204] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1960. № 4; Гл. таксама: Корзун И. П. Пища и питание белорусского крестьянства: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1965.

[205] Навагродскі Т. А. Беларуская народная кулінарыя XIX — пачатку XX ст. Мн., 1995.



79. Пасля вяртання з экспедыцыі. Справаздача Г. М. Курыловіч

"Сялянскія промыслы і рамёствы ў XIX — пачатку XX ст."[206]. Асобныя галіны промыслаў і рамёстваў дарэвалюцыйнага і савецкага часу атрымалі характарыстыку ў працы Л. І. Якунінай "Слуцкія паясы" (1960), у артыкулах Н. І. Камсюк і В. С. Цітова[207], І. М. Браіма[208].

Л. І. Якуніна прасочвае гісторыю ўзнікнення вытворчасці шаўковых паясоў у Слуцку, дзе выраб іх дасягнуў асаблівага росквіту на аснове высокаразвітога народнага мастацкага ткацтва.

На падставе багатых этнаграфічных і гістарычных крыніц аўтар кнігі аналізуе не толькі сам прадмет даследавання — слуцкі пояс, тэхніку яго вырабу, арнамент, але разглядае і такія важныя пытанні, як уплыў Слуцкай фабрыкі на вытворчасць паясоў у Рэчы Паспалітай, ужыванне слуцкіх паясоў як тканін і, нарэшце, збіранне іх і месцы захавання. У канцы працы Якуніна прыводзіць некалькі дзесяткаў высокамастацкіх узораў слуцкіх паясоў у каляровых і чорна-белых ілюстрацыях.

---

[206] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1957. № 2.

[207] Цітоў В. С. Да пытання аб развіцці саматужна-рамесніцкай вытворчасці БССР у 20-я гады // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1970. № 3; Ён жа. З гісторыі дрэваапрацоўчых промыслаў у Беларусі // Там жа. 1971. № 3; Ён жа. Белорусские деревообрабатывающие промыслы довоенного времени: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1971.

[208] Браім І. М. Да пытання аб развіцці рыбалоўнага промыслу на Беларусі (другая палавіна XIX — пачатак XX ст.) // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1972. № 3.




80. Пераплёт кнігі Л. І. Якунінай

У артыкулах Н. І. Камсюк "Тэхніка сучаснага хатняга ткацтва на Случчыне"[209], "Мастацкае ткацтва Случчыны"[210] даецца характарыстыка ткацкіх прылад працы, тэхнікі вырабу мастацкіх тканін на тэрыторыі Случчыны, а выдадзены ёй у 1959 г. альбом "Народнае мастацкае ткацтва Случчыны" ілюструе лепшыя дасягненні насельніцтва гэтай тэрыторыі па вырабу мастацкіх тканін.

Адным з вынікаў вывучэння народнага ткацтва і жылля з'явіўся выхад з друку некалькіх альбомаў.

Перш за ўсё адзначым, што пасля вайны была выдадзена частка з багатай спадчыны ў галіне вывучэння народнага мастацтва, пакінутая І. А. Сербавым. Яшчэ ў даваенныя часы ён падрыхтаваў да друку два тамы альбома "Беларускае народнае мастацтва". Першы том, які пачаў друкавацца ў Ленінградзе перад вайной, быў апублікаваны ў 1951 г. у Мінску пры ўдзеле М. Я. Грынблата і Н. С. Махнача. У яго ўключаны ўзоры беларускага народнага ткацтва, дываноў, вышывання, вязання і набойкі.

У другі том павінны былі ўвайсці ўзоры народнага мастацтва па дрэву, металу, гліне, шклу, скуры, рогу і косці. Матэрыялы гэтыя загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.



Узоры ручнікоў: а) в. Гулевічы Чырвонаслабодскага р-на Мінскай вобл. Экспедыцыя 1950 г.; б) в. Пушкі Лёзненскага р-на Віцебскай вобл. Экспедыцыя 1956 г.

81. Узоры ручнікоў

Нібы працягам альбома І. А. Сербава з'явіўся альбом "Народнае мастацкае ткацтва Случчыны". У альбоме сабрана 58 узораў ручнікоў, абрусаў, посцілак, коўдраў, капаў і дываноў, якія былі вытканы пераважна ў пасляваенны перыяд і, такім чынам, адлюстроўваюць узровень мастацкага ткацтва Случчыны адзначанага часу. Пэўную цікавасць уяўляе ўступны артыкул да альбома, у якім прыводзяцца яскравыя факты з гісторыі

[209] Беларускі этнаграфічны зборнік. 1958.
[210] Декоративное искусство СССР. 1957. № 1.

і сучаснага стану мастацкага ткацтва Случчыны[211].

· Грунтоўнае вывучэнне народнага ткацтва беларусаў правяла Г. М. Курыловіч, якая выдала манаграфію "Беларускае народнае ткацтва" (Мн., 1981). Аўтар падрабязна разглядае прылады працы і ткацкія станы, а таксама ўсе працэсы ад прадзення і тэхнікі ткацтва ў розных рэгіёнах Беларусі.

Увогуле вывучэнню промыслаў і рамёстваў беларусаў удзялялася вялікая ўвага. У 1984 г. выйшла манаграфія "Промыслы і рамёствы Беларусі", у якой разгледжана 9 промыслаў і 10 рамёстваў. Некаторым з іх прысвечаны асобныя манаграфіі: "Дрэваапрацоўчыя промыслы Беларусі" (1970) В. С. Цітова, "Рыбалоўства ў Беларусі" (1976) І. М. Браіма, "Беларускае народнае ганчарства" (1984) С. Мілючэнкава, "Паляванне на Беларусі" (1986) С. Ф. Цярохіна, "Занятие издревле благородное" (1987) С. Ф. Цярохіна і В. С. Гуркова.

Мастацкае афармленне беларускага сялянскага жылля адлюстроўвае альбом Л. А. Малчанавай "Беларуская народная архітэктурная разьба". У альбоме прадстаўлена 278 узораў архітэктурнай разьбы з розных раёнаў Беларусі. Гэтыя ўзоры размешчаны па наступных раздзелах: агульны выгляд дамоў і вёскі, франтоны і карнізы, ліштвы (якія займаюць большую частку альбома), вуглы, ганкі і вароты.

Ва ўступным артыкуле Л. А. Малчанава абвяргае палажэнні, якія ўсталяваліся ў этнаграфічнай літаратуры (працы Бломквіст і інш.), аб тым, што нібыта беларусы не мелі разных і іншых упрыгожванняў у народнай архітэктуры.




82. Вокладка кнігі С. А. Мілючэнкава

Можна поўнасцю згадзіцца з аўтарам альбома, што "ў разьбе ліштваў і карнізаў, ва ўпрыгожваннях франтона і вільчака праявілася багацце фантазіі, тонкі густ і высокае майстэрства народных разьбяроў, часта невядомых, але бессмяротных у сваіх творах"[212]. Аб гэтым сведчаць змешчаныя ў альбоме замалёўкі мастацкага афармлення беларускага сялянскага жылля. Важна адзначыць, што матэрыялы, апублікаваныя ў альбоме, сабраны супрацоўнікамі сектара этнаграфіі пераважна ў пасляваенны час і таму адлюстроўваюць стан народнай архітэктурнай разьбы ў савецкі перыяд.

Падагульняючай працай пасляваеннага перыяду з'яўляецца кніга

[211] Пад тэрмінам "Случчына" аўтар альбома разумее былы Слуцкі павет Мінскай губерні. У час выканання альбома гэта Слуцкі, Чырвонаслабодскі, Капыльскі і суседнія часткі іншых раёнаў Мінскай вобласці.

[212] Беларуская народная архітэктурная разьба. С. 1.

Л. А. Малчанавай "Матэрыяльная культура беларусаў". У гэтай манаграфіі на падставе раней апублікаваных прац як самога аўтара, так і іншых даследчыкаў, а таксама на багатых матэрыялах, сабраных аўтарам і супрацоўнікамі сектара этнаграфіі на працягу 19 год у экспедыцыях, Л. А. Малчанава разглядае важнейшыя аспекты вытворчай дзейнасці беларусаў у дарэвалюцыйны час, традыцыйныя прылады працы, сялянскія пасяленні, сядзібы і жыллё, адзенне, галаўныя ўборы і абутак, ежу і хатняе начынне. У манаграфіі робяцца спробы выяўлення абласной спецыфікі і ўзаемасувязей культуры беларусаў з культурай суседніх народаў.

Л. А. Малчанава прыходзіць да вываду, што этнічная тэрыторыя беларусаў з'яўляецца адзінай гісторыка-этнаграфічнай вобласцю. Многія культурныя з'явы беларусаў з'яўляюцца агульнымі для ўсіх усходнеславянскіх народаў. Тым не менш Л. А. Малчанава выдзяляе тры этнаграфічныя раёны, якія адрозніваюцца паміж сабою асобнымі элементамі культуры.

Раён Падняпроўя (сучасная Магілёўская і ўсходняя палова Гомельскай вобл.) характарызуецца асобным тыпам сахі з пастаянна замацаванай паліцай, агнявымі сушылкамі. У жаночым адзенні пануючым з'яўляецца комплекс з суконным андаркам, а ў мужчынскім — войлачная магерка і світы з падрэзаным нізам.

Паўднёва-заходні раён, які ахоплівае ў асноўным Беларускае Палессе, мае наступныя асаблівасці: паветраная сушка снапоў, палеская саха для пары валоў, палатняны галаўны ўбор і сарочкі з палікамі ў жаночым адзенні, багатая арнаментыка геаметрычнага і расліннага характару.

Паўночна-ўсходні раён (Віцебская, поўнач Мінскай і Гродзенскай абласцей) характарызуецца наяўнасцю аднаконнай сахі з перакладной паліцай, сумяшчэннем агнявой і паветранай сушкі снапоў, вяночнай, як у Падняпроўі, планіроўкай сядзібы; у адзенні пануе тунікападобны лакрой мужчынскіх сарочак і халатападобны пакрой верхняга адзення.

Асаблівасці больш дробных раёнаў у кожным з трох вышэйназваных этнаграфічных раёнаў аўтар тлумачыць мясцовай этнічнай спецыфікай або запазычаннямі ад суседзяў. Аднак гэтыя асаблівасці засталіся мясцовымі і не атрымалі шырокага распаўсюджання.

У сувязі з распрацоўкай гісторыка-этнаграфічнага атласа Беларусі, падрабязным картаграфаваннем традыцыйных прылад працы, жылля і адзення некаторыя вывады Л. А. Малчанавай па пытаннях выдзялення этнаграфічных раёнаў Беларусі ўдакладняюцца, а ў радзе выпадкаў пераглядаюцца.

Атлас з'явіўся новым крокам у вывучэнні матэрыяльнай культуры народа. Работа над ім вялася ўсім калектывам сектара этнаграфіі на працягу 1965—1970 гг. Атлас дае багаты матэрыял для вырашэння такіх важных праблем этнаграфіі, як этнагенез і этнічная гісторыя народа, узаемасувязь і ўзаемны ўплыў культур розных народаў свету, у прыватнасці суседніх народаў.

На падставе экспедыцыйных, архіўных і літаратурных матэрыялаў супрацоўнікамі сектара этнаграфіі падрыхтавана 126 карт, у якіх наглядна паказана распаўсюджанне і ступень бытавання розных тыпаў сельскагаспадарчай тэхнікі, жылля і адзення беларусаў з сярэдзіны XIX ст. да 80-х гадоў[213].

Храналагічны прынцып вывучэння дае магчымасць прасачыць дынаміку

[213] Беларускае народнае жыллё. Мн., 1973; Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. Мн., 1974; Беларускае народнае адзенне. Мн., 1975.

развіцця матэрыяльнай культуры і змены ў арэалах распаўсюджання тых ці іншых элементаў жылля, адзення і сельскагаспадарчай тэхнікі беларусаў у адзначаны адрэзак часу.

Вялікую працу правёў па вывучэнні народнага дойлідства А. І. Лакотка[214]. Пачынаючы з разгляду пасяленняў і сядзіб, А. І. Лакотка ў далейшым пашырыў дыяпазон сваіх даследаванняў і выйшаў на ўвесь комплекс дойлідства Беларусі. У апошняй манаграфіі, якая стала другім томам васьмітомнага выдання "Беларусы", А. І. Лакотка даў шырокую панараму дойлідства: асяроддзе жыцця беларусаў (сістэма рассялення сельскіх паселішчаў, мястэчак і гарадоў); абарончa-замкавае дойлідства X — пачатку XX ст.; сакральнае дойлідства розных канфесій Беларусі і мемарыяльныя помнікі; жыллёвае дойлідства сельскага і гарадскога насельніцтва XII—XX стст. Аналіз грамадзянскага дойлідства ўключае дзесяць тыпаў збудаванняў: відовішчных, навучальных, адміністрацыйных, прамысловых і інш., а таксама манументальнай архітэктуры. Гэты том змяшчае вялікую колькасць ілюстрацый-фотаздымкаў, чарцяжоў, схем, якія дапаўняюць аналітычныя тэксты.

Такім чынам, у пасляваенны перыяд вывучэнне матэрыяльнай культуры беларусаў стала больш грунтоўным і ўсебаковым.

Усе аспекты матэрыяльнага быту і культуры насельніцтва беларуска-украінскага Палесся разгледжаны ў манаграфіі "Палессе. Матэрыяльная культура" (Кіеў, 1988).

У гэтай манаграфіі ўпершыню раз-




83. Тытульны ліст кнігі

глядаюцца наступныя аспекты Палескага рэгіёна:

1. Гісторыка-этнаграфічная і лінгвістычная характарыстыка: Палессе як гісторыка-этнаграфічная вобласць, прырода, антрапалагічная характарыстыка насельніцтва, палескія гаворкі, геаграфічныя назвы, этнічная гісторыя.

2. Гаспадарчая дзейнасць: земляробства, жывёлагадоўля, рыбалоўства, паляўніцтва, пчалярства, збіральніцтва, народныя промыслы, шляхі зносін і сродкі перамяшчэння, пасяленні, адзенне і вышыўка, ежа і хатняе начынне.

Разгляду гэтых аспектаў папярэднічае ўступ і нарыс гістарыяграфічных даследаванняў і крыніц (В. К. Бандарчык, Р. Ф. Кірчыў, Е. І. Матэйка).

З боку беларускіх даследчыкаў у аўтарскі калектыў уваходзілі В. К. Бандарчык, І. М. Браім, Н. І. Буракоўская,

---

[214] Лакотка А. И. Сцежкамі дзядоў. Мн., 1986; Белорусское народное зодчество. Мн., 1991; Сілуэты старых прадмесцяў: Нарысы драўлянай архітэктуры. Мн., 1991; Пад стрэхамі прашчураў. Мн., 1995; Беларусы. Т. II: Дойлідства. Мн., 1997.



84. В. К. Бандарчык сярод украінскіх этнографаў

У. С. Гуркоў, Г. І. Каспяровіч, А. А. Крывіцкі, Ф. Д. Клімчук, Г. М. Курыловіч, Л. А. Малчанава, С. А. Мілючэнкаў, Л. І. Мінько, І. І. Салівон, В. Я. Фадзеева, І. У. Чаквін, П. У. Цярашковіч, В. С. Цітоў, Л. І. Цягака, С. Ф. Цярохін, І. Р. Углік, М. М. Яніцкая.

Украінскіх даследчыкаў узначальвалі Ю. Р. Гошка і Р. Ф. Кірчыў. Сааўтарамі былі А. І. Горны, Т. А. Гонтар, Р. В. Захарчук-Чугай, О. А. Купчынскі, І. В. Кожан, Е. Е. Кузышын, Ю. Ф. Лашчук, М. Д. Мандэтура, М. А. Мароз, Е. І. Матэйка, А. Т. Несцер, Н. В. Ніканчук, В. Т. Скуратоўскі, Г. Г. Стальмашчук, Р. І. Федына, А. С. Шляхтоўскі, Т. П. Чагавец.

Адказнымі рэдактарамі з'яўляліся В. К. Бандарчык, Ю. Р. Гошка, Р. Ф. Кірчыў.

## ВЫВУЧЭННЕ СЯМЕЙНАГА І ГРАМАДСКАГА БЫТУ БЕЛАРУСАЎ

Пераважная большасць прац даваеннага часу аб сямейным і грамадскім быце беларускага народа насіла апісальны, фіксатарскі характар. Спробы навуковага даследавання былі вельмі рэдкімі.

Адна з такіх спроб была зроблена ў 1925—1926 гг. у галіне вывучэння бюджэту часу працоўных Беларусі. У артыкуле Бабарыкіна "Праца і адпачынак у быце рабочага і селяніна"[215]

[215] Известия Гомельского губернского комитета Российской Коммунистической партии, 15 января 1925 г.

параўноўваюцца бюджэт часу селяніна і рабочага і на падставе лічбавых даных даводзіцца, што працоўны дзень рабочай сям'і большы, чым сялянскай.

У 1926 г. Інбелкультам была распрацавана праграма па вывучэнню бюджэту часу селяніна і разаслана ў сельскія мясцовасці спецыяльная анкета, якая павінна была запаўняцца на працягу дзесяці дзён. У анкеце прадугледжвалася размеркаванне часу па наступных катэгорыях: праца абавязковая, праца вольная, адпачынак, сон. Пад "абавязковай працай" разумелася вытворчая праца селяніна (на полі, агародзе, догляд жывёлы і інш.), хатняя праца (прыгатаванне ежы, догляд памяшкання, адзення, самаабслугоўванне) і час, які траціцца на пераход да месца работы. У раздзеле "Вольная праца" трэба было даць адказ, колькі ідзе часу на самавыхаванне (чытанне газет і кніг) і грамадскую працу (сходы, мітынгі, праца ў грамадскіх арганізацыях). Раздзел "Адпачынак" улічваў час, які ідзе на харчаванне, гульні і забавы, на выкананне рэлігійных абрадаў, малітвы, наведванне царквы, а таксама бяздзейны адпачынак.

У дапаўненне да гэтай анкеты быў апублікаваны артыкул Я. Ракава "Пастаноўка падлічэння бюджэту часу беларускага селяніна"[216], у якім давалася тлумачэнне, для якой мэты і якім шляхам праводзіць вывучэнне гэтага пытання. Анкета была даволі цікавай і патрэбнай. Як зусім слушна зазначыў Я. Ракаў, "вывучаючы ўвесь бюджэт часу беларускага селяніна, інакш — яго вытворчую, хатнюю працу, грамадскую дзейнасць, формы адпачынку, забаў і г. д., мы атрымліваем пэўны малюнак сучаснага беларускага сялянскага быту, мы атрымліваем вёску такою, якою яна ёсць"[217]. На жаль, вынікі гэтых даследаванняў не былі апублікаваны.

Значнае адлюстраванне ў друку 20-х гадоў атрымаў сямейны быт беларускага сялянства. Звесткі аб шлюбным узросце, аб узаемаадносінах у сям'і і становішчы жанчыны змяшчаліся ў многіх артыкулах агульнаэтнаграфічнага плана, апісаннях санітарна-бытавога стану вёскі і г. д. Асноўная маса спецыяльных прац, прысвечаных сям'і і сямейным звычаям і абрадам, адносіцца да такіх з'яў сямейнага быту, як нараджэнне дзіцяці, уступленне ў шлюб і пахаванне. Гэтаму прысвечана праца А. Шлюбскага "Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны" (ч. II, 1928).

Фіксацыі вясельнага абраду сельскіх населеных пунктаў прысвечаны даволі жывыя і цікавыя артыкулы А. Немцава, які дае апісанне вяселля ў вёсках Смык-Слабада і Заручэўе Асіповіцкага р-на[218], і Т. С. Мікалаева аб вясельным абрадзе ў в. Дубяйцы Касцюковіцкага р-на[219]. Спробу навуковага аналізу вясельных песень і звычаяў зрабіў С. А. Баркоўскі ў артыкуле "Вясельны быт беларускага селяніна"[220].

Значна меншае адлюстраванне ў этнаграфічнай літаратуры 20-х гадоў атрымала грамадскае жыццё народа. Звесткі аб ім з'яўляліся ў некаторых працах, якія давалі агульную характарыстыку культурна-бытавых умоў вёскі, а таксама ў публіцыстычных і грамадска-палітычных артыкулах перыядычнай прэсы[221]. Гэтыя артыкулы з'явіліся ў

[216] Наш край. 1926. № 2—3.

[217] Наш край. 1926. С. 71.

[218] Там жа. 1927. № 4.

[219] Там жа. 1928. № 6—7.

[220] Маладняк. 1926. № 6.

[221] Брахман А. Культурное строительство деревни // Известия Гомельского губернского комитета Российской Коммунистической партии. 1924. № 60—61; Ён жа. Общественно-бытовая жизнь деревни // Там жа. № 62; Серман Г. Борьба за новый быт в деревне // Там жа. № 74.

сувязі з абследаваннямі вёскі рознага роду камісіямі. Яны адлюстроўвалі цяжкасці аднаўлення і перабудовы культурна-асветніцкіх і адукацыйных устаноў, савецкага і партыйнага будаўніцтва ў вёсцы.

У артыкуле Г. Сермана "Барацьба за новы быт у вёсцы" робіцца спроба выявіць унутраныя змены, якія адбываліся ў вёсцы ў першыя гады савецкай улады. Калі глянуць на вёску "з вышыні птушынага палёту, то можа стварыцца ўражанне, што ў ёй нічога не змянілася — тая ж непісьменнасць і невуцтва, п'янства і пабоі, дзеці не наведваюць школы, таму што няма падручнікаў, школы разбураны, дзяцей лечаць бабкі і г. д. Але больш сур'ёзны позірк заўважыць новыя працэсы, якія прынесла ў вёску савецкая ўлада. Расце грамадская актыўнасць людзей, асабліва жанчын. Так, адна з жанчын-дэлегатак сказала: "Старыя хай заканчваюць жыццё, як хочуць, а нам, маладым, трэба вучыцца, і калі нам перашкодзяць, мы гэтага не пацерпім"[222].




85. Вокладка кнігі С. Я. Вальфсона

20-я гады былі гадамі старанных пошукаў новых форм сямейных і грамадскіх урачыстасцей, святкаванняў і адпачынку. Складваліся новыя традыцыі і рытуалы правядзення рэвалюцыйных і інтэрнацыянальных свят працоўных усяго свету.

У грамадскім быце народа паступова ўсталяваліся святы Кастрычніцкай рэвалюцыі, 1 Мая, Міжнароднага жаночага дня і г. д. Гэты працэс атрымаў частковае адлюстраванне і ў друку[223]. Прымаліся рашучыя захады да ломкі старога грамадскага быту вёскі, але не заўсёды знаходзіліся правільныя шляхі і метады для гэтага. Нярэдка пераважала пралеткультаўская пазіцыя адмаўлення культурнай спадчыны народа, што атрымала адлюстраванне, напрыклад, у метадычнай распрацоўцы "Чырвоная сялянская вечарынка" (1927), складзенай П. Ф. Капаевічам, М. Сеўруком і С. Баркоўскім, хаця гэта праца і адыграла станоўчую ролю ў прапагандзе новых форм грамадскага быту, рэвалюцыйнай і савецкай песні. Новыя формы адпачынку сялянскай моладзі ў клубах, хатах-чытальнях і чырвоных кутках няўхільна ўсталёўваліся ў вёсцы, паступова выходзілі на першы план і адцяснялі старыя, дарэвалюцыйныя формы правядзення вольнага часу.

---

[222] Известия Гомельского губернского комитета Российской Коммунистической партии. 1924. № 74. С. 13.

[223] Гл.: Баркоўскі С. Першае мая на Беларусі // Савецкая краіна. 1931. № 4.

З прац, прысвечаных сям'і і грамадскаму жыццю народа, якія з'явіліся на працягу 30-х гадоў, адзначым брашуру Рубільніка "Некаторыя даныя аб культуры і быце калгасаў БССР" (1931) і кнігу С. Я. Вальфсона "Сям'я і шлюб у іх гістарычным развіцці" (1937).

У сваёй брашуры побач з разглядам пытанняў калгаснага будаўніцтва, жыллёвых і матэрыяльных умоў калгаснікаў Рубільнік коратка характарызуе новыя з'явы ў іх грамадскім быце. Разам з тым ён адзначае нераўнапраўнае становішча жанчыны-сялянкі ў грамадстве і быце (у 1929 г. у 30,4% калгасаў аплата працы жанчыны складала 50—75% ад аплаты працы мужчыны) і падкрэслівае, што калектывізацыя "з'яўляецца базай для распрыгонення жанчыны ... каб можна было ўцягнуць яе ў сацыялістычнае будаўніцтва, паставіць яе і ў вытворчасці і ў грамадска-палітычнай рабоце нараўне з мужчынам"[224]. Для пацвярджэння гэтага аўтар прыводзіць прыклады з жыцця камуны імя Ільіча былой Магілёўскай акругі. У гэтай камуне жанчыны атрымлівалі двухмесячны адпачынак па цяжарнасці.

Новыя рысы адзначае аўтар у адносінах да рэлігіі і царквы. Ён піша, што ў тых калгасах, дзе побач з узбуйненнем гаспадаркі, механізацыяй вытворчасці, арганізацыяй працы, паступова ствараецца новы быт, новы лад жыцця, там і жанчыны выходзяць са сваёй замкнутасці, развіваюцца, а шмат у якіх выпадках робяцца нават ініцыятарамі новага жыцця.

У навукова-папулярнай працы С. Я. Вальфсона на падставе шматлікай літаратуры паказваецца развіццё сямейна-шлюбных адносін ад першабытнаабшчыннага ладу да 30-х гадоў XX ст. Аўтар акцэнтуе ўвагу галоўным чынам на сацыяльна-эканамічных фактарах сямейна-шлюбных адносін на розных ступенях чалавечага грамадства — рабаўладальніцкай, феадальнай, капіталістычнай і сацыялістычнай. І хоць аўтар часта скатваецца да вульгарнага сацыялагізму, тым не менш гэта не закрэслівае пазнавальнае і агульнаадукацыйнае значэнне працы для свайго часу.

Асаблівую актуальнасць меў апошні раздзел кнігі — "Сям'я і сацыялізм", у якім паказвалася прынцыповае адрозненне сям'і сацыялістычнага грамадства ад сям'і перыяду капіталізму. Падкрэсліваючы тую акалічнасць, што складванне новых сямейных адносін ідзе ў барацьбе са старым сямейна-бытавым укладам, аўтар асаблівую ўвагу звяртае на мерапрыемствы дзяржавы, накіраваныя на разняволенне жанчыны. С. Я. Вальфсон, у прыватнасці, адзначае шматлікія супярэчнасці пераходнага часу. У сямейна-шлюбных адносінах "скрыжоўваліся прававая роўнасць жанчыны з яе паніжанай працоўнай кваліфікацыяй, вылучэнне дзяржавай жанчыны на палітычную арэну з масавай грамадска-палітычнай адсталасцю яе"[225]. У гэтым раздзеле Вальфсон прыводзіць некаторыя даныя з Беларусі, якія характарызуюць павышэнне грамадскай актыўнасці жанчыны і рост нараджаемасці.

У пасляваенны перыяд разгарнулася шырокае вывучэнне сямейнага і грамадскага быту сельскага і гарадскога насельніцтва Беларусі. У 1956 г. выходзіць з друку даследаванне М. М. Нікольскага "Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці". Аўтар кнігі на матэрыялах, сабраных беларускімі этнографамі ў XIX ст., паставіў задачу высвятлення такіх вузлавых пытанняў

[224] Рубільнік. Некаторыя даныя аб культуры і быце калгасаў БССР. С. 36.

[225] Вальфсон С. Я. Сям'я і шлюб у іх гістарычным развіцці. Мн., 1937. С. 231.




86. Вокладка кнігі М. М. Нікольскага

праблемы, як узнікненне, развіццё і нацыянальная спецыфіка беларускай вясельнай абраднасці, а ў апошнім пытанні і канкрэтна-гістарычных прычын стварэння нацыянальнага каларыту.

М. М. Нікольскі ў агульных рысах разглядае ранні перыяд — змены ў старажытнарускіх вясельных абрадах на мяжы пераходу ўсходніх славян ад першабытнаабшчыннага ладу да класавага. Галоўнае месца ў гэтых зменах аўтар адводзіць новай рэлігіі — хрысціянству, якое прыйшло на змену язычніцтву. Пытанне гэта вельмі складанае і ў навуцы яшчэ не вырашанае. На наш погляд, аўтар перабольшвае ролю барацьбы дзвюх рэлігійных ідэалогій на стадыі фарміравання феадалізму ў хрысціянскай абраднасці, у тым ліку і вясельнай. З поля зроку аўтара выпадае такі важны фактар, як захаванне грамадска-бытавой, стыхійна-матэрыялістычнай і рацыянальнай асновы менавіта тых абрадаў, якія дайшлі да эпохі капіталізму. Гэта акалічнасць у большай ступені, чым варожасць да новай рэлігіі, паслужыла прычынай іх устойлівасці.

Своеасаблівa і небясспрэчна падыходзіць М. М. Нікольскі і да высвятлення такога складанага пытання, як утварэнне спецыфічных рыс народнай культуры наогул і вясельнай абраднасці беларусаў у прыватнасці. Думаецца, што і тут аўтар не пазбегнуў прамалінейнасці і аднабаковасці. Прычыны ўтварэння беларускай спецыфікі ён адносіць да гістарычных умоў, "якія заключаліся ў тым, што з XIV ст. старажытнарускае насельніцтва, якое жыло на сучаснай тэрыторыі Беларусі, падпала пад іншаземнае панаванне, спачатку пад уладу літоўскага княства, а потым, з паловы XVI ст., пад уладу Польскага каралеўства"[226]. У цяжкай, упартай нацыянальнай і класавай барацьбе беларускае сялянства "адстойвала не толькі свае класавыя інтарэсы, але таксама свае традыцыйныя вераванні і звычаі, адчуваючы ва ўсіх "ноўшаствах" пагрозу свайму існаванню як асобнага народа. Адсюль і ўзнікла спецыфічная рыса беларускага народнага быту, якая захавалася яшчэ з XIX ст. і заключалася ў тым, што ў беларускім народным быце захоўваўся рад вераванняў, абрадаў і звычаяў традыцыйнага характару, якія даўно зніклі або сцёрліся да непазнавальнага ў родных (блізкіх) рускай і ўкраінскай культурах"[227].

Бясспрэчна, што гістарычныя ўмовы наклалі пэўны адбітак на характар куль-

---

[226] Никольский Н. Н. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Мн., 1956. С. 12.

[227] Там жа. С. 16.

туры беларускага народа. Аднак вышэйпрыведзеная канцэпцыя не раскрывае поўнай карціны пытання. На погляд Нікольскага, да XIV ст. існавала зусім аднародная па характару сваёй культуры старажытнаруская народнасць. І вось гэта аднароднае цела было разрэзана на кускі, беларуская частка захавала многія старажытныя атрыбуты, а ў другіх яны сцёрліся — адсюль і беларуская спецыфіка. Недасканаласць гэтай схемы відавочная. Адразу ж паўстае пытанне: адкуль жа з'явіліся ўкраінская і руская спецыфіка? Відаць, тут дзейнічалі і многія іншыя фактары. Па-першае, нельга ўяўляць сабе старажытнарускую народнасць нечым аднародным і аднатыпным па сваёй культуры. У ёй, відаць, мелі яшчэ месца калі не племянныя, то абласныя асаблівасці. Цяжка сабе ўявіць, што за якія-небудзь 3—4 стагоддзі старажытныя ўсходнеславянскія плямёны былі так перамешаны паміж сабою, што ў пачатку XIV ст. утварылі аднатыпную культуру. Кожнае ці некалькі плямён ва ўзаемадзеянні з суседнімі ўсходнеславянскімі і іншымі славянскімі плямёнамі, а таксама з плямёнамі неславянскага паходжання ў перыяд размывання племяннной замкнутасці і стварэння старажытнарускага адзінства ўваходзілі ў пэўнае тэрытарыяльнае аб'яднанне (княства), ядро якога пры панаванні агульных рыс мовы і культуры ўсёй старажытнарускай народнасці мела і сваю спецыфіку, якая ўтваралася ад змешвання ці асіміляцыі адной культуры другою. У дадзеным выпадку пэўную рацыю маюць тэорыі Траццякова і Грынблата.

Прыступаючы непасрэдна да аналізу беларускай вясельнай абраднасці, М. М. Нікольскі ставіць перад сабою наступныя канкрэтныя задачы: "Дакладна дыферэнцыраваць два асноўныя варыянты беларускага вясельнага рытуалу, затым, па меры магчымасці, высвятліць і рэканструяваць іх паходжанне і гісторыю ў сувязі з гісторыяй матэрыяльнага, сацыяльнага і культурнага быту беларускага народа"[228]. А ў першую чаргу выявіць "старажытную, яшчэ першабытнаабшчынную першааснову"[229] беларускай вясельнай абраднасці.

З 68 узятых Нікольскім для аналізу апісанняў беларускай вясельнай абраднасці ён бярэ ў аснову 20 найбольш поўных, 16 з якіх змешчаны ў зборніках П. В. Шэйна. Нельга сказаць, каб гэты адбор быў бездакорным. Ён падпарадкаваны складзенай аўтарам схеме: у беларусаў існавалі два тыпы вясельнага рытуалу — каравайны і стаўбавы. Такая класіфікацыя, як паказалі пазнейшыя даследаванні, даволі штучная.

Кніга М. М. Нікольскага "Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці", на наш погляд, мае недахопы як з боку метадалогіі, так і ў падачы фактычнага матэрыялу. Гэта, відаць, адбылося з прычыны захаплення аўтара тэорыяй татэмістычнага (па сутнасці рэлігійнага) паходжання многіх абрадаў беларускага народа, у тым ліку і вясельных. Вось адзін з паказальных прыкладаў гэтага. Прывёўшы на старонках 99 і 100 дзве вясельныя песні, у якіх нявеста параўноўваецца з мядзведзем, М. М. Нікольскі робіць вывад: "Мы маем тут справу з рэшткамі архаічнага абраду, які звязвае цырымонію заключэння шлюбу з татэмістычным культам мядзведзя"[230].

Працытуем адну з прыведзеных М. М. Нікольскім песень:

---

[228] Никольский Н. Н. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. С. 26.

[229] Там жа. С. 48.

[230] Там жа. С. 100.

Адчыні, матынька, новы двор,
Вязу табе нявесту, як явор!
Адчыні, матынька, нову клець,
Вязу табе нявесту, як мядзведзь!
Адчыні, матынька, ваконца,
Вязу табе нявесту, як сонца.[231]

Зусім зразумела, што ў дадзеным выпадку мы маем справу са звычайным паэтычным прыёмам песеннага фальклору: нявеста маладая, статная, як явар, здаровая, як мядзведзь, прыгожая, як сонца. І нічога татэмістычнага ў гэтай песні няма.

Аналагічных прыкладаў можна было б прывесці шмат. У сваім даследаванні М. М. Нікольскі занадта архаізуе быт беларускага сялянства, штучна напаўняе яго першабытнарэлігійнай сутнасцю. Аўтарам створаны цэлы пантэон боствау, якія нібы прысутнічаюць пры вясельнай абраднасці. Тут і гіпербалізацыя культу фаласа, і штучна створаныя багі каравая, саіція і да таго падобныя перабольшванні эратычных момантаў вяселля. Выклікае сур'ёзнае пярэчанне вывядзенне з матрыярхату куплі-продажу нявесты, пасаду нявесты і інш.

Але трэба падкрэсліць, што, нягледзячы на адзначаныя недахопы, кніга М. М. Нікольскага ўяўляе сабой першае сур'ёзнае даследаванне паходжання і гісторыі беларускай вясельнай абраднасці. У ім аўтар падыйшоў да вырашэння многіх пытанняў генезісу асобных абрадаў і іх элементаў. Вялікай увагі заслугоўвае спроба рэканструкцыі асобных абрадаў і рытуалаў у такім выглядзе, у якім яны маглі існаваць у старажытныя часы. Даволі аргументаваным з'яўляецца аналіз большай часткі вясельных абрадаў беларусаў.

Да нашых дзён гэта праца, нягледзячы на новыя спробы даследавання вясельнай абраднасці, застаецца пакуль што апошнім словам у этнаграфічнай навуцы.

Спробу па-новаму прасачыць гісторыю беларускай вясельнай абраднасці зрабіў у даследаванні "Сямейная абраднасць беларускага народа" А. М. Міцкевіч[232]. У гэтай працы разглядаюцца таксама радзінныя і пахавальныя абрады. А. М. Міцкевіч уносіць некаторыя карэктывы ў работу М. М. Нікольскага. У адрозненне ад Нікольскага малады даследчык пры разглядзе вясельнай абраднасці асноўную ўвагу звяртае на сацыяльны змест і грамадска-бытавы характар яе.

Аўтар правільна сцвярджае, што большасць сямейных звычаяў і абрадаў мае стыхійна-матэрыялістычную, рацыянальную аснову і што яны склаліся ў адпаведнасці з нормамі народнага звычаёвага права, маральнымі і эстэтычнымі прынцыпамі жыцця народа. Гэтым самым аўтар абвяргае ідэалістычныя тэорыі рэлігійнага паходжання сямейнай абраднасці народа. Разам з тым А. М. Міцкевіч робіць спробы высвятлення суадносін у сямейнай абраднасці рацыянальнага і фантастычна-рэлігійнага. Пры гэтым аўтар умаляе ролю рэлігіі ў дарэвалюцыйным быце народа.

Пры разглядзе звычаяў і абрадаў, якія звязаны з цяжарнасцю жанчыны і радзіннай абраднасцю, аўтар падкрэслівае высокі гуманізм народа, яго ўвагу, якой карысталася цяжарная жанчынасялянка.

Гісторыі беларускай вясельнай абраднасці, паходжанню і сацыяльнай сутнасці вясельных абрадаў і звычаяў прысвечаны таксама артыкулы М. Ф. Піліпенкі "Вясельныя звычаі і абрады ў

[231] Никольский Н. Н. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. С. 100.

[232] Гл. таксама: Мицкевич А. М. Брак гражданский и брак религиозный. Мн., 1961; Ён жа. Семейная обрядность белорусского народа (По этнографическим материалам XIX — начала XX в.): Автореф. ... канд. дис. Мн., 1966.

беларускіх сялян у другой палавіне XIX — пачатку XX ст."[233], "Паходжанне і сацыяльная сутнасць сімвалічных выкупаў у беларускай вясельнай абраднасці"[234], а таксама артыкул В. В. Іванова і В. І. Тажэрава "Да семіятычнай інтэрпрэтацыі каравая і каравайных абрадаў у беларусаў"[235].

У далейшым сямейны быт беларускага народа вывучаўся ў плане выяўлення заканамернасцей яго развіцця ў дарэвалюцыйны і савецкі час.

Гісторыі быту працоўных Беларусі ў савецкі час, першапачатковаму перыяду фарміравання новых з'яў у грамадскім і сямейным быце ў 1917—1929 гг. прысвечаны працы А. М. Камарова[236].

Характарызуючы асноўныя працэсы фарміравання новага быту ў першыя гады савецкай улады, аўтар правільна адзначае, што на першы план пры гэтым трэба ставіць прынцыпова новыя, сацыялістычныя пераўтварэнні ў эканоміцы, у вытворчых адносінах. Ён разглядае ролю ў развіцці новага грамадскага і сямейнага быту дэкрэтаў аб зямлі, аб нацыяналізацыі прамысловасці і банкаў, якія ліквідавалі прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці ў горадзе і вёсцы і, такім чынам, знішчылі асновы старога быту, а "кодэксы аб сямейным і шлюбным праве 1918 г. і іншыя акты стварылі прававыя асновы для будаўніцтва новага грамадскага быту, развіцця грамадскай ініцыятывы працоўных, росту матэрыяльнага і культурнага ўзроўню сям'і"[237].

А. Камароў разглядае рознага роду праяўленні новага грамадскага быту працоўных Беларусі, такія, як павышэнне грамадскай актыўнасці працоўных (сходы, мітынгі, канферэнцыі, "палітычныя суды", складванне новага святочнага календара, работа клубаў, роля друку, радыё і інш.). Асобна разглядаюцца структура рабочай і сялянскай сям'і, унутрысямейныя адносіны, традыцыйная і новая абраднасць, адносіны да рэлігіі і рост атэізму.

Асаблівасцям, якія склаліся ў сямейным быце сялян ва ўмовах вайны і першых пасляваенных год, прысвечаны артыкул А. І. Залескага "Аб некаторых з'явах у пасляваенным сямейным быце беларускіх калгаснікаў"[238]. Гэты артыкул напісаны на матэрыялах аднаго калгаса.

Залескі прыводзіць цікавы фактычны матэрыял, аднак ніяк нельга згадзіцца са сцверджаннем аўтара, што нібыта вайна загартавала сямейныя ўстоі, якія склаліся перад вайной. Аўтар вядзе зусім неабгрунтаваную палеміку з прадстаўнікамі юрыдычнай навукі ў адносінах да фактычных шлюбаў, усяляк імкнецца апраўдаць іх.

Вайна сваімі цяжкімі выпрабаваннямі, а фашысцкая акупацыя нечалавечымі злачынствамі прынесла народу незлічона шмат страт як фізічных, так і маральных, у тым ліку і ў сямейным

[233] У зб.: Вопросы истории БССР. 1969. Вып. 37.

[234] Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Серыя 3. 1969. № 3; Гл. таксама: Пилипенко М. Ф. Семья и брак у белорусских крестьян во второй половине XIX — начале XX века. М., 1970.

[235] Ученые записки Тартусского университета. Вып. 198. Труды по знаковым системам, 3. 1967.

[236] Комаров А. М. З історії виникнення "октябрин" и "чирвоного весілля" в Білоруській РСР // Народна творчість та етнографія. 1962. № 2; Ён жа. Свята дарагое (Старонкі гісторыі Першамая на Беларусі) // Звязда. 1 мая 1964; Ён жа. Чалавек нарадзіўся. Мн., 1967; Ён жа. Новые явления в общественном и семейном быту Советской Белоруссии (1917—1929): Автореф. ... канд. дис. Мн., 1969.

[237] Комаров А. М. Новые явления в общественном и семейном быту трудящихся Советской Белоруссии (1917—1929 гг.). С. 3.

[238] Беларускі этнаграфічны зборнік. Мн., 1958.

быце. Многія сем'і былі разрушаны, і таму нельга сцвярджаць, што вайна ўмацоўвала сямейныя і суседскія адносіны.

Сямейны і грамадскі быт беларусаў 50-х гадоў разглядаецца ў даследаванні М. Я. Грынблата і Л. А. Малчанавай "Новыя з'явы ў быце калгаснай вёскі". У ім на прыкладзе калгаса "Бальшавік" Хойніцкага раёна ў агульных рысах разглядаюцца асноўныя аспекты сямейнага быту, структуры сям'і, унутрысямейныя адносіны, змены ў становішчы жанчыны, прымака, выхаванне дзяцей, некаторыя сямейныя звычаі і абрады, пераважна радзінныя, паказваецца барацьба з адмоўнымі перажыткамі мінулага ў сямейным і грамадскім быце калгасніка.

Сямейнаму і грамадскаму быту сельскага насельніцтва Беларусі прысвечаны раздзел манаграфіі "Беларусы" і працы А. І. Дулебы[239].

Працы А. І. Дулебы напісаны на матэрыялах, сабраных у калгасах Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Ёю ўлічваліся звесткі і з іншых раёнаў рэспублікі, зафіксаваныя ў час штогодніх этнаграфічных экспедыцый. Шляхам асабістых назіранняў, работы з інфарматарамі, вывучэння падворных кніг сельсаветаў і дэталёвага абследавання 581 сям'і А. І. Дулебе ўдалося сабраць багаты матэрыял аб структуры, колькасным і ўзроставым складзе сям'і, галаве сям'і, аб адукацыі, прафесіях і занятках членаў сям'і. Анкеты далі цікавыя звесткі аб культуры сям'і, сямейных святах, абрадах і звычаях, аб выхаванні дзяцей і г. д. Так, аўтарам устаноўлена, што ў беларускай вёсцы пераважае малая сям'я з 3—5 чалавек, што сярэдні шлюбны ўзрост узняўся ў параўнанні з дарэвалюцыйным і складае для мужчын 21—26 гадоў, а для жанчын 20—25 гадоў. Раннія і познія шлюбы сталі рэдкасцю.

У пачатку 50-х гадоў у савецкай этнаграфічнай літаратуры з'яўляюцца працы па быту рабочага класа[240]. Да гэтага этнографы вывучэннем быту рабочага класа не займаліся, хаця не раз распрацоўваліся праграмы вывучэння быту рабочых Беларусі і быў нават апублікаваны спецыяльны артыкул[241]. Становішча рабочага класа ў розныя часы асвятлялася ў гістарычнай, эканамічнай, медыка-санітарнай, краязнаўчай і іншай літаратуры[242].

Вывучэнню быту рабочых прысвяціў свае працы У. М. Іваноў. У 1971 г. выйшла з друку яго брашура "Нарыс быту прамысловых рабочых дарэвалюцыйнай Беларусі", у якой на падставе вывучэння гістарычнай, эканамічнай і статыстычнай літаратуры, перыядычнай прэсы, архіўных матэрыялаў і ўспамінаў старых рабочых аўтар разглядае вузлавыя пытанні фарміравання рабочага класа Беларусі ў дарэвалюцыйны час і асноўныя аспекты яго быту: вытворчы, грамадскі і сямейны.

Асноўная ўвага ў брашуры звернута на разгляд сямейнага быту прамысловых рабочых. Аўтар прыходзіць да вываду, што, нягледзячы на цяжкі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, рабочы клас Беларусі канцэнтраваў у сваім быце лепшыя рысы беларускай нацыі.

[239] Дулеба А. І. Некаторыя рысы культурнага жыцця сучаснай вёскі // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1965. № 4; Яна ж. Современный общественный и семейный быт белорусских колхозников: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1966; Яна ж. Некаторыя рысы сучаснай сям'і і сямейнага быту беларускіх калгаснікаў // Пытанні беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі. Мн., 1967.

[240] Гл., напр.: Чебоксаров Н. Н. Этнографическое изучение культуры и быта московских рабочих // Советская этнография. 1950. № 3.

[241] Каспяровіч М. Вывучэнне быту рабочых // Наш край. 1930. № 1.

[242] Гл. па гэтаму пытанню: Іваноў У. З гісторыі вывучэння быту савецкіх рабочых // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1959. № 3.

Характарыстыцы сучаснага быту рабочага класа Беларускай ССР У. М. Іваноў прысвяціў артыкулы "Рысы новага ў быце рабочых Савецкай Беларусі"[243], "Сучасны шлюб і вяселле рабочых"[244], "Грамадскі і сямейны быт брыгад камуністычнай працы Беларускай ССР"[245], "Да пытання аб сучасным быце рабочых Беларусі"[246], у якіх асноўную ўвагу звяртае на новыя, сацыялістычныя рысы быту ў грамадскім і сямейным жыцці рабочых.

З асобных прац У. Іванова, прысвечаных быту рабочых Беларусі, найбольш значнай з'яўляецца "Новы час — новае жыццё" (1968), у якой аўтар упершыню ў беларускай этнаграфіі зрабіў сур'ёзную спробу асвятліць такія важнейшыя пытанні рабочай сям'і і сямейнага быту, як структура сям'і (колькасны і сваяцкі склад, галава рабочай сям'і, новыя ўзаемаадносіны паміж членамі сям'і), шлюб і вяселле (юрыдычныя і маральныя асновы шлюбу, рэгістрацыя шлюбу, вяселле), абрадавасць, звязаная з нараджэннем дзіцяці, дні адпачынку і бытавыя святы ў рабочай сям'і.

Вялікую цікавасць уяўляюць сабою сабраныя аўтарам анкетныя і статыстычныя даныя, якія характарызуюць колькасны, узроставы і палавы склад рабочай сям'і, яе структуру, узровень адукацыі і г. д. Падмечаны такія тэндэнцыі развіцця сям'і, як змяншэнне колькаснага складу, змяншэнне нараджаемасці. Асноўная маса рабочых сем'яў складаецца з двух пакаленняў (бацькі і дзеці).

Вельмі паказальнымі з'яўляюцца адказы рабочых на пытанні анкеты, распаўсюджанай аўтарам кнігі. Яны сведчаць аб высокім маральна-этычным узроўні беларускай сям'і. Вось адзін з тыповых адказаў: "Лічу, што наша савецкая сям'я моцная таму, што будуецца на ўзаемным пачуцці, любві мужа і жонкі, агульнасці поглядаў, імкненняў і раўнапраўі. Людзі, што ўступаюць у шлюб, абавязаны адчуваць адказнасць не толькі адзін перад другім, але і перад грамадствам, таму што савецкая сям'я — гэта часцінка нашага грамадства"[247].

Адзначаючы структурныя і сацыяльныя змены сям'і, аўтар заўважае і такую важную тэндэнцыю развіцця савецкай сям'і, як рост у яе складзе інтэлігенцыі, інжынерна-тэхнічных спецыялістаў, служачых, што адбываецца "ў выніку тэхнічнага і сацыяльнага прагрэсу, пад'ёму матэрыяльнага дабрабыту, культуры працоўных, у прыватнасці адукацыі"[248].

Многа месца ў кнізе адводзіцца характарыстыцы новай сямейнай абраднасці і яе традыцыйных момантаў.

Нарэшце, адзначым працы, прысвечаныя такой галіне грамадскага быту насельніцтва Беларусі, як народныя гульні. Калі ў даваенны час па гэтаму пытанню апублікаваны толькі адзін артыкул З. Бядулі[249], то пасля вайны з'яўляецца зборнік В. Касяровіча "Сто гульняў" (1948) і праводзіцца даследаванне беларускіх народных гульняў Я. Р. Вількіным[250].

[243] Народна творчість та етнографія. 1959. № 3.

[244] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1959. № 3.

[245] Народна творчість та етнографія. 1960. № 3.

[246] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1966. № 1.

[247] Иванов В. М. Новое время — новая жизнь. Мн., 1968. С. 44.

[248] Там жа. С. 45.

[249] Бядуля З. Як забаўляюцца дзеці ў беларускіх вёсках // Зоркі. 1921. № 5.

[250] Вилькин Я. Р. Древние игры и физические упражнения белорусского народа // Физкультурник Белоруссии, 20 марта 1959 г.; Ён жа. Беларускія народныя гульні. Мн., 1969; Ён жа. Белорусские народные игры второй половины XIX — начала XX в.: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1971.

Я. Р. Вількін разглядае пытанні паходжання народных гульняў, дае класіфікацыю іх, паказвае выхаваўчую ролю, а таксама прыводзіць падрабязнае апісанне каля 100 народных гульняў, іх інвентару.

На працягу 70—90-х гадоў этнографы Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору планамерна і на новым навуковым узроўні праводзілі вывучэнне сям'і з прымяненнем сацыялагічных метадаў даследавання. Анкетнымі абследваннямі было ахоплена звыш 10 тысяч гарадскіх і сельскіх сем'яў па наступных параметрах: структура і жыццядзейнасць сям'і, колькасны і роднасна-сваяцкі яе склад, сацыяльна-прафесійны і адукацыйны ўзровень, арыентацыя на аднанацыянальныя і змешаныя шлюбы. Са сферы ўнутрысямейных адносін разгледжаны размеркаванне абавязкаў паміж членамі сям'і ў выхаванні дзяцей, выкананні розных відаў дамашняй працы ў гарадскіх і сельскіх сем'ях. Асобны раздзел у апублікаванай манаграфіі[251] прысвечаны разгляду сямейнай абраднасці.

Упершыню зроблена спроба прасачыць гісторыю беларускай сям'і з XIV ст. да нашых дзён. Гэтаму прысвечаны асобны раздзел "З гісторыі беларускай сям'і" (с. 15—42). У прыватнасці, адзначана, што "ў XIV—XVI стст. на Беларусі яшчэ былі моцнымі пазіцыі сельскай абшчыны, якая рэгулявала і жыццядзейнасць сям'і... Першы сур'ёзны ўдар абшчыны як самастойная і своеасаблівая арганізацыя жыцця сельскага насельніцтва атрымала ў выніку правядзення рэформы "Устава на валокі" сярэдзіны XVI ст."[252]

Прасочана дынаміка змен, якія адбываліся на працягу трох эпох — феадалізму, капіталізму і савецкага часу.




87. Вокладка кнігі

Манаграфіі "Сям'я і сямейны быт беларусаў" папярэднічалі кнігі "Змяненні ў быце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі" (Мн., 1976) і "Змяненні ў быце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі" (Мн., 1976), у якіх даследаваны змены ў сям'і гарадскога і сельскага насельніцтва, якія адбываліся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі да 1970-х гадоў.

У гэтых манаграфіях этнолагі таксама прымянілі сацыялагічныя метады даследавання. Па выбарцы сярод сельскага насельніцтва па нацыянальнаму прызнаку з 1299 рэспандэнтаў беларусы складалі 96,4%, рускія — 2,4, украінцы — 0,6, палякі — 0,2, іншых нацыянальнасцей — 0,3%. Усяго быў абследаваны 51 сельскі населены пункт з 23 калгасаў і 28 саўгасаў. Былі вытрыманы і параметры па адукацыі, прафесійнаму

[251] Сям'я і сямейны быт беларусаў. Мн., 1990.
[252] Там жа. С. 250—251.




88. Вокладка кнігі




89. Вокладка кнігі

складу і па ўзросту. На ЭВМ апрацавана 1299 анкет. Акрамя гэтага запісана больш 200 інтэрв'ю.

Для напісання кнігі выкарыстоўваліся матэрыялы ЦСУ Беларусі, міністэрстваў культуры, гандлю, будаўніцтва, Белкаапсаюза і інш.

Па манаграфіі "Змяненні ў быце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі" апрацавана на ЭВМ 1523 апытальных лістоў. Акрамя гэтага, разам з рэдакцыяй газеты "Знамя юности" было сабрана 987 анкет на тэму "Ваша думка аб маладой сям'і".

Асобна праводзілася апытанне па больш шырокай праграме насельніцтва горада Мінска, якім было ахоплена 2844 мінчан.

У абедзвюх манаграфіях першыя раздзелы прысвечаны вывучэнню змен у шлюбных адносінах, функцыях сям'і і яе структуры, унутрысямейных адносінах і абраднасці.

У іншых раздзелах даецца аналіз грамадскага быту і культуры гарадскога і сельскага насельніцтва.

Наступным крокам вывучэння сучасных працэсаў, якія адбываліся ў гарадскім насельніцтве Беларусі, з'явілася даволі фундаментальная манаграфія пад назвай "Этнічныя працэсы і лад жыцця (На матэрыялах даследавання насельніцтва гарадоў БССР)". Як і папярэднія, яна падрыхтавана пад навуковым кіраўніцтвам і непасрэдным удзеле В. К. Бандарчыка. Гэтая манаграфія таксама напісана пераважна па матэрыялах этнасацыялагічнага даследавання, а таксама статыстычных даных. Выкарыстаны і іншыя крыніцы, у тым ліку перапісы насельніцтва Беларусі. Усе названыя вышэй кнігі з'яўляюцца калектыўнымі.

Выбарачная сукупнасць адлюстроўвала структуру генеральнай сукупнасці па этнічнаму складу, дэмаграфічных характарыстыках, сацыяльна-прафесійнаму складу гарадскога насельніцтва. Улічвалася і спецыфіка розных рэгіёнаў рэспублікі. Усяго было апрацавана 4147 анкет. З іх 2930 запоўнена беларусамі, 743 — рускімі, 173 — украінцамі, 114 — палякамі, 176 — яўрэямі і 11 — асобамі іншых нацыянальнасцей.

Суадносіны нацыянальнага складу насельніцтва гарадоў адпавядалі выбарачнаму з невялікімі разыходжаннямі[253]. Гэта дало магчымасць атрымаць дакладныя даныя па ўсіх аспектах ладу жыцця гарадскога насельніцтва і яго этнічных груп.

У манаграфіі "Этнічныя працэсы і лад жыцця" на больш высокім навуковым узроўні прааналізаваны вузлавыя праблемы сацыяльна-этнічнага развіцця гарадоў Беларусі, грамадскага жыцця, культуры, сямейнага быту гарадскога насельніцтва і цалкам яго ладу жыцця.

У далейшым вывучэнне грамадскага быту і культуры гарадскога насельніцтва ажыццяўлялася ў гістарычным аспекце — з XIV ст. да пачатку 90-х гадоў XX ст.[254] Аналіз гэтых аспектаў жыццядзейнасці дарэвалюцыйнага часу зроблены па наступных гістарычных перыядах: XIV — першая палова XVII ст.; другая палова XVII — канец XVIII ст.; канец XVIII — першая палова XIX ст.; другая палова XIX — пачатак XX ст.; савецкі перыяд.

Новым аспектам, які разглядаецца ў манаграфіі з'явіўся аналіз вытворчага быту і культуры вытворчасці. Гэтай праблеме прысвечана і кніга У. М. Іванова[255]. Праз тры гады выйшла новая манаграфія, прысвечаная сельскаму насельніцтву[256], якая ахоплівае два перыяды: грамадскі быт і культура ў дарэвалюцыйны час і ў паслярэвалюцыйны перыяд.




90. Вокладка кнігі Т. І. Кухаронак

У першым перыядзе разглядаюцца наступныя аспекты жыццядзейнасці сельскага насельніцтва: формы грамадскай арганізацыі і абшчынныя адносіны; сацыяльна-саслоўная структура сельскага насельніцтва; копныя суды, земляробчы каляндар, святы і абрады; народныя веды; народная школа.

[253] Этнические процессы и образ жизни. Мн., 1980. С. 26.

[254] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Мн., 1990.

[255] Иванов В. М. Очерк быта промышленных рабочих дореволюционной Белоруссии. Мн., 1971.

[256] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва. Мн., 1993.




91. Вокладка кнігі Г. І. Каспяровіч

У другім перыядзе аналізуюцца змены ў грамадскім быце і культуры: традыцыі і навацыі ў духоўнай культуры; традыцыі і навацыі ў каляндарнай абраднасці сельскага насельніцтва ў 20—80-я гады XX ст.

У 80-х гадах беларускія і ўкраінскія этнографы вывучалі быт і культуру беларуска-ўкраінскага Палесся. У выніку была выдадзена сумесная манаграфія "Грамадскі, сямейны быт і духоўная культура насельніцтва Палесся" (Мн., 1987). У кнізе на вялікім фактычным матэрыяле паказаны асаблівасці грамадскага жыцця, сямейнага быту і духоўнай культуры насельніцтва беларуска-ўкраінскага Палесся з канца XIX ст. да 80-х гадоў XX ст. У ёй разглядаюцца грамадскае жыццё, формы правядзення вольнага часу, святы, абрады, сям'я і сямейны быт, народныя веды, фальклор, мастацтва і іншыя аспекты духоўнай культуры гэтага рэгіёна Беларусі і Украіны.

З боку Беларусі аўтарамі названай манаграфіі з'яўляліся В. К. Бандарчык, Г. М. Курыловіч, Т. П. Карпушка, Т. І. Кухаронак, К. П. Кабашнікаў, Л. І. Мінько, Л. В. Ракава, Я. М. Сахута, С. Ф. Цярохін, І. Д. Назіна, З. Я. Мажэйка. З боку ўкраінскіх аўтараў — В. К. Барысенка, Л. А. Боцань, Ю. Д. Клімец, Ю. Р. Гошка, Р. І. Дзмітэрка, Р. Ф. Кірчыў, Ю. Ф. Лашчук, М. В. Лысенка-Дняструоўскі, А. Т. Несцер, А. Я. Мароз, А. А. Праўдзюк, В. І. Сяваўка, Л. С. Худаш. Навуковыя кіраўнікі і адказныя рэдактары В. К. Бандарчык і Ю. Р. Гошка.

Заслугоўвае ўвагі і кніга Т. І. Кухаронак "Радзінныя звычаі і абрады беларусаў" (Мн., 1993), а таксама манаграфія Г. І. Каспяровіч "Міграцыя насельніцтва ў гарады і этнічныя працэсы" (Мн., 1985). Быту і культуры гарадской моладзі прысвечана праца Л. В. Ракавай[257].

В. К. Бандарчык, М. Ф. Піліпенка і Л. В. Ракава прынялі ўдзел у напісанні кнігі па народнай педагогіцы[258].

Такім чынам, у 70—90-я гады этнографы Беларусі даволі поўна вывучалі сямейны, грамадскі быт і культуру сельскага і гарадскога насельніцтва Беларусі і апублікавалі вялікую колькасць навуковых прац па розных перыядах этнічнай гісторыі беларусаў.

---

[257] Ракова Л. В. Быт и культура городской молодежи. Мн., 1989.

[258] Народная педагогика беларусаў. Мн., 1996.

# ВЕРАВАННІ І АБРАДЫ. НАРОДНЫЯ ВЕДЫ І МАСТАЦТВА

У 20—30-я гады з'явілася значная колькасць прац, прысвечаных апісанню і вывучэнню вераванняў і абрадаў беларусаў. У адрозненне ад дарэвалюцыйнага перыяду вывучэнне вераванняў і абрадаў у савецкі час набывала новы сэнс. Побач са звычайнымі апісальнымі працамі сталі публікавацца працы даследчага характару.

Самай буйной працай апісальнага характару з'яўляецца фундаментальны зборнік народных верванняў і забабонаў А. К. Сержпутоўскага "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў". Па багаццю сабраных матэрыялаў яго можна параўнаць з аналагічным зборнікам М. Я. Нікіфароўскага "Простанародныя прыметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны", які быў прысвечаны Віцебшчыне. Зборнік Сержпутоўскага дапаўняў гэту працу матэрыяламі з поўдня Беларусі. Збіраліся яны ім у дарэвалюцыйны час на сваёй радзіме, у Слуцкім павеце, пераважна ў в. Чудзіна.

Матэрыялы сістэматызаваны ў наступныя раздзелы: "Прырода" — погляды людзей на свет і яго з'явы, расліны і жывёл; "Чалавек" — забабонныя ўяўленні аб існаванні жыцця наогул і аб чалавеку і яго жыцці ў прыватнасці; "Заняткі" — забабоны і прыкметы, звязаныя з вытворчай дзейнасцю селяніна; "Звычаі" — вераванні і забабоны каляндарнага цыкла і тыя, што адносяцца да грамадскага і сямейнага жыцця; "Вера" — уяўленні аб Богу і святых, антрапаморфных істотах і інш.

А. К. Сержпутоўскі паказаў адсталы ірацыянальны бок быту і светапогляду народа ў дарэвалюцыйны час. Але ў процівагу буржуазным этнографам, якія выкарыстоўвалі гэтыя матэрыялы для паклёпу на беларускі народ і яго культуру, А. К. Сержпутоўскі кіраваўся іншымі прынцыпамі. Ведаць светапогляд народа неабходна для глыбокага разумення жыцця і гісторыі культуры народа. "Каб ясна зразумець сучаснае жыццё народа, — пісаў ён, — трэба аглянуцца назад у глыбіню вякоў, паглядзець і падслухаць, як даўней жыў, думаў і верыў старажытны чалавек"[259].

Апісанню абрадаў і вераванняў беларускага сялянства прысвечана і некалькі прац іншых даследчыкаў. Гэта ў першую чаргу кніга А. Шлюбскага "Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны". У ёй А. Шлюбскі апублікаваў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, што збіраліся ім на працягу 10 год (1913—1923) пераважна ў Віцебскай і суседніх паветах Смаленскай губерні.

Пры публікацыі матэрыялаў Шлюбскі ставіў даволі цікавыя навуковыя мэты, у прыватнасці: выяўленне геаграфічнага распаўсюджання песенных сюжэтаў і параўнанне "больш-менш аднастайных песень 40—80-х гадоў мінулага стагоддзя з песнямі XX ст."[260] Для ажыццяўлення гэтай задумы А. Шлюбскі вывучыў зборнікі Быкоўскага, Дабравольскага, Доўнар-Запольскага, Карскага, Нікіфароўскага, Раманава, Сербава, Сержпутоўскага, Шэйна, Янчука і многіх іншых.

Перад кожным відам фальклору Шлюбскі дае звесткі, у якіх зборніках можна знайсці аналагічныя творы.

У першай частцы "Матэрыялаў..." А. Шлюбскі змясціў замовы, а таксама песні з апісаннем абрадаў гадавога цык-

[259] Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 1.

[260] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. I. С. 10.




92. Вокладка кнігі А. Шлюбскага

ла, пры якіх яны выконваліся. Класіфікацыя матэрыялаў першай часткі праведзена па Я. Ф. Карскаму. Як і Я. Ф. Карскі, Шлюбскі на першае месца вылучае замовы, а далей змяшчае апісанні абрадаў з прывядзеннем фальклорных твораў, размяшчаючы іх у адпаведнасці з народным календаром: калядныя, запусныя, веснавыя, русальныя, купальскія, а ў заключэнне вылучае асобна песні жніўныя і талочныя.

Ва ўступных частках да кожнага віду фальклору Шлюбскі побач з апісаннем вераванняў і абрадаў робіць вельмі каштоўныя заўвагі аб ступені той ці іншай этнаграфічнай з'явы. Асабліва шмат такіх звестак у раздзеле "Замовы". У прыватнасці, Шлюбскі паказвае тыя змены, якія адбыліся ў апошні час у светапоглядзе беларускіх сялян. Аўтар адзначае, што "ў апошнія дзесяцігоддзі, асабліва з 1917—1918 гг., калі на вёску пачалі вяртацца сяляне", што былі на вайне, "аўтарытэт знахароў вельмі пахіснуўся, значная большасць мужчын знахарам не верыць"[261]. Шлюбскі прыводзіць шмат прыкладаў, якія паказваюць узрослую свядомасць народа і рост сярод сялян атэістычных настрояў. Але ён не змог зразумець, што асноўныя прычыны гэтага працэсу былі закладзены Кастрычніцкай рэвалюцыяй. На погляд Шлюбскага, развянчанне знахарства на вёсцы адбылося таму, што сяляне, якія былі на вайне, пазнаёміліся з медыцынай і сталі "крытычна адносіцца да чараўнікоў"[262].

Шлюбскі вельмі трапна ўскрывае сацыяльную сутнасць знахарства і паказвае, што рознага роду калдуны, чараўнікі і знахары, карыстаючыся адсталасцю і цемрай вёскі, вялі паразітычны вобраз жыцця. У апошні час, калі іх аўтарытэт быў падарваны, яны "выявілі свой сапраўдны твар, стаўшы злодзеямі"[263].

Не меншую каштоўнасць для вывучэння быту беларусаў уяўляе і другая частка "Матэрыялаў..." Яна цалкам прысвечана сямейнаму быту — апісанню хрэсьбінных, вясельных і памінальных абрадаў, звычаяў і вераванняў, а таксама публікацыі адпаведных фальклорных тэкстаў. Асабліва падрабязна Шлюбскі апісвае вясельны абрад. Для паказу мясцовых асаблівасцей вясельных абрадаў розных раёнаў Віцебшчыны і суседніх раёнаў Смаленшчыны аўтар прыводзіць некалькі апісанняў вясельных абрадаў з канкрэтных населеных пунктаў, дапаўняючы іх паасобнымі дэталямі вяселля з іншых месц, каб падкрэсліць

[261] Шлюбскі А. Матэрыялы для вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. І. С. 18.

[262] Там жа. С. 26.

[263] Там жа. С. 27.

тыя моманты ў асноўных варыянтах, якія адсутнічаюць ці выконваюцца інакш.

Каштоўнасць працы Шлюбскага "Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны" не вычэрпваецца адлюстроўваннем у ёй абрадавага быту народа. У гэтай працы ёсць звесткі па матэрыяльнай культуры народа (апісанне адзення і ежы), а таксама па звычаёваму праву беларускага сялянства.

Абрадам і вуснапаэтычнай творчасці беларускага сялянства прысвечана і некалькі іншых прац Шлюбскага, з якіх найбольшую цікавасць уяўляе артыкул "Русальніца"[264]. Ён з'яўляецца першай спробай падвесці вынікі вывучэння і даць сістэматычнае апісанне русальных звычаяў і вераванняў беларусаў.

Паасобныя вераванні, абрады і звычаі народа апісваюцца ў артыкулах З. Бядулі, М. Каршукова, Я. Плашчынскага і іншых аўтараў[265].

У 20—30-я гады беларускія вучоныя пераходзяць ад апісанняў да навуковага аналізу вераванняў і абрадаў. Вывучэнню каляндарных абрадаў і звычаяў прысвечаны артыкул М. Піятуховіча "Звычаі і песні беларускага селяніна ў іх гаспадарчай аснове"[266]. Пытанні генезісу культу і абрадаў фаласа разглядаюцца ў артыкуле У. Ф. Баршчэўскага "З гісторыі фалектанізму"[267], вераванні, звязаныя з каменнямі, — у артыкуле М. Мялешкі "Камень у вераваннях і паданнях




93. Вокладка кнігі М. М. Нікольскага

беларуса"[268], уяўленні аб каўтане — у артыкуле М. Я. Грынблата "Этнаграфічнае вывучэнне каўтуна"[269].

Вывучэнню рэшткаў дахрысціянскіх вераванняў і абрадаў, якія захаваліся ў быце беларусаў у капіталістычную эпоху, прысвечаны працы М. М. Нікольскага "Міфалогія і абраднасць валачобных песень" (1931) і "Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства" (1933). У гэтых працах аўтар імкнуўся прымяніць марксісцкую метадалогію пры вывучэнні рэшткаў язычніцкіх вераванняў і абрадаў. Пошукі Нікольскага ў галіне генезісу дахрысціянскіх вераванняў, абрадаў і звычаяў беларусаў, безумоўна, заслугоўваюць

---

[264] Маладняк. 1926. № 9.

[265] Бядуля З. На сёмуху // Савецкая Беларусь. 17 красавіка 1923 г.; А. С. Справа дамавіка // Там жа. 14 ліпеня 1923 г.; Плашчынскі Я. Аб жніўных абрадах і песнях // Маладняк. 1925. № 6; Каршукоў М. Пахаванне стралы // Наш край. 1926. № 1; Васілеўскі Д. Беларускія чараўнікі і іх зелле // Там жа. 1927. № 8—9; Самцэвіч П. А. Хрэсьбіны ў в. Унталянка Барысаўскага раёна Мінскай вобласці // Там жа. 1928. № 11.

[266] Полымя. 1928. № 3.

[267] Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Працы кафедры этнаграфіі. Мн., 1928. Т. І, сш. 1.

[268] Там жа.

[269] Там жа.

вялікай увагі і не страцілі сваёй навуковай вартасці і сёння.

Аднак нельга не адзначыць і адмоўныя іх бакі. Названыя вышэй кнігі М. Нікольскага некалькі перабольшвалі адсталасць беларускага селяніна. Большасць вераванняў, абрадаў і звычаяў, аб якіх ідзе размова ў працах Нікольскага, ужо даўно не бытавала ў народзе, а аб многіх з іх аўтар робіць толькі здагадкі.

Ва ўступных частках сваіх прац Нікольскі дапускае фальсіфікацыю фактаў. Яго ацэнка многіх беларускіх этнографаў не адпавядае сапраўднаму стану справы. Так, навуковая дзейнасць выдатнага беларускага этнографа А. К. Сержпутоўскага, па Нікольскаму, з'яўляецца яскравым прыкладам контррэвалюцыйнага кірунку ў этнаграфіі. Нельга пагадзіцца з класавай інтэрпрэтацыяй М. Нікольскім некаторых з'яў быту сялянства. Канстатуючы, напрыклад, што "ў Рэчыцы і ў вёсках вакол Рэчыцы яшчэ ў 1929 г. сустракаліся на варотах жалезныя скобкі ў выглядзе вужоў і жалезныя клямкі з галовамі вужоў і бараноў, зробленыя рэчыцкімі кавалямі", М. Нікольскі робіць вывад: "Тут перад намі класавая варыяцыя старажытнага звычаю не толькі з боку тэхнікі — кованае жалеза замест разнога дрэва — але і па зместу: апатрапеі ахоўваюць дробнага гарадскога і вясковага буржуа"[270]. У дадзеным выпадку аўтар недаацэньвае майстэрства народных умельцаў, якія імкнуліся ўпрыгожыць бытавыя рэчы заморфнымі выявамі.

Даследаванню рэшткаў старажытнага светапогляду па фальклорных крыніцах прысвяціў свой артыкул "Анімістычны светапогляд беларуса па песнях" С. Баркоўскі[271].

[270] Нікольскі М. М. Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства. С. 14.

[271] Чырвоны сцяг. 1925. № 5—6.

У 20—30-х гадах з'явілася некалькі этнаграфічных прац, прысвечаных антырэлігійнай прапагандзе, атэістычнаму выхаванню і барацьбе з рэлігійнымі перажыткамі, у тым ліку і дахрысціянскімі[272]. Гэтыя працы на бытавых матэрыялах паказвалі сутнасць рэлігійных перажыткаў.

Адным з першых і найбольш плённа вывучэннем пытанняў рэлігіі і атэізму ў Беларусі займаўся ў пачатку 20-х гадоў вядомы беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля. У працы "Рэлігія і беларускае сялянства паводлуг народнай творчасці"[273], карыстаючыся фальклорнымі творамі, Змітрок Бядуля паказвае адносіны народа да рэлігіі і духавенства і ўскрывае стыхійны народны атэізм. Аднак ён некалькі перабольшвае антырэлігійныя настроі народных мас, а часам памылкова адносіць да атэістычных некаторыя дахрысціянскія абрады і рытуалы.

У далейшым Змітрок Бядуля надрукаваў яшчэ некалькі артыкулаў[274], у якіх закрануў пытанні рэлігіі і атэізму, а ў 1924 г. выдаў брашуру "Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках", у якой на шырокім бытавым і фальклорным матэрыяле паказвае адносіны беларускага народа да рэлігіі, царквы і служыцеляў культу. Аднак і тут ён

[272] Я. П. Ганіце вон шаптуноў і знахароў // Савецкая Беларусь, 3 снежня 1922 г.; Провады "вялікадня" (малюнкі быту) // Там жа. 17 красавіка 1923 г.; М. Н. Забабоны на вёсцы (Дзяды) // Там жа. 16 лютага 1923 г.; Шаптуны ды знахары вымуць душу без пары (з вясковых допісаў) // Там жа. 6 ліпеня 1924 г.; Дзесятнік. Адцураліся ад дзесятухі // Там жа. 17 чэрвеня 1924 г. і інш.

[273] Савецкая Беларусь, 14—16, 18, 20 жніўня 1922 г.

[274] Бядуля З. Паншчына ў народных песнях і казках // Савецкая Беларусь, 29 жніўня — 1 верасня 1922 г.; Ён жа. Класавыя матывы ў беларускай народнай творчасці // Там жа. 22, 24 жніўня 1922 г.; Ён жа. Народная творчасць і новы быт // Маладняк. 1924. № 2—3.

некалькі недаацэньвае рэлігійную сутнасць многіх народных звычаяў і абрадаў. "Калі ў іх (каляндарных святкаваннях. — *В. Б.*), — піша З. Бядуля, — і здараліся забабоны, як вера ў русалак, дамавікоў, лесуноў і інш., дык гэта быў толькі ўзверхні налёт, адгалосак рэлігіі і яе адваротная старана, але сутнасць гэтай "паганшчыны" фатычна была толькі праца і апяванне сялянскай штодзёншчыны"[275]. Ідэалізацыя дахрысціянскіх абрадаў і свят не дала магчымасці З. Бядулю падкрэсліць тую вельмі важную акалічнасць, што многія з іх былі ахутаны забабоннасцю. На думку аўтара, "гадавы культ прыроды служыў з веку ў век нашаму селяніну тым вогнішчам натуральнай і здаровай культуры, да якой ратай ірваўся інстынктыўна"[276]. Нягледзячы на дзейнасць царквы, на погляд Бядулі, "гушча народная ішла сваім натуральным шляхам, і тыя здаровыя і праўдзівыя погляды яе на ўсё акружаючае, якія гартаваліся і выпукляліся з роду ў род, не змяніліся ні на крок: праца ўпрашчае логіку, аздараўляе розум, а блізкасць да прыроды не дазваляе нават непісьменнаму чалавеку верыць у тое, што процiў прыроды, процiў яе назначэнняў і мэт... Гэта значыць, што працоўны люд вёскі не паддаваўся цалкам шматвяковай агітацыі духавенства і паноў. Ратай выйшаў з тысячалетняга мора здзеку і цемры яшчэ не зусім пакалечаным, і ён не такі цёмны, як шмат хто думае"[277]. Такім чынам, у цэлым правільны вывад Бядулі некалькі разыходзіцца з яго папярэднімі разважаннямі.

Спроба Бядулі супрацьпаставіць стыхійны народны атэізм афіцыйнай рэлігіі заслугоўвае вялікай увагі. Аднак залічэнне да "здаровага народнага духу" ўсёй дахрысціянскай абраднасці і святкаванняў, няўменне аддзяліць рацыянальнае ад забабоннага і прывяло аўтара да адзначаных хібаў.

Стан рэлігійнасці ў Беларусі ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў даследаваў С. Я. Вальфсон у працах "Сучасныя рэлігійныя настроі на Беларусі"[278] і "Сучасная рэлігійнасць (паводле матэрыялаў даследавання ў БССР)" (Мн., 1930).

С. Я. Вальфсон прааналізаваў вынікі двух канкрэтна-сацыялагічных абследаванняў насельніцтва Беларусі па пытаннях адносін яго да рэлігіі і атэізму, праведзеных у 1929—1930 гг. Першае абследаванне (пробнае) зроблена ім у 1929 г. пры дапамозе студэнтаў БДУ. Абследаванню былі падвергнуты 834 асобы з розных месц рэспублікі. Другое абследаванне праводзілася кафедрай марксізма-ленінізма Беларускай акадэміі навук у 1930 г. і ахоплівала 3086 чалавек.

Аналіз анкет быў праведзены аўтарам па наступнаму плану: колькасць веруючых і няверуючых у групах анкецiруемых, вылучаных па ўзросту, нацыянальнаму складу, адукацыі, сацыяльнаму становішчу, веравызнанню. Пры аналізе ўлічваўся таксама ўплыў на стан рэлігійнасці насельніцтва рознага роду сацыяльна-эканамічных, палітычных і грамадска-асветніцкіх фактараў. Быў зроблены асобны аналіз групы веруючых па пытанню іх уяўлення аб Богу.

Працы С. Я. Вальфсона даюць даволі цікавы малюнак стану рэлігійнасці ў Беларусі сярод розных катэгорый насельніцтва.

---

275 Бядуля З. Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках. С. 9—10.

276 Там жа. С. 10.

277 Там жа. С. 12—13.

278 Полымя. 1929. № 10.

У пасляваенны перыяд вывучэнне стану рэлігійнасці і атэізму насельніцтва Беларусі актыўна праводзіцца этнографамі з сярэдзіны 50-х гадоў. Першыя назіранні па гэтых пытаннях на матэрыялах аднаго калгаса зрабіў А. І. Залескі[279].

У 1960 г. супрацоўнікі сектара этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР апублікавалі кнігу "Пытанні рэлігіі і атэізму" — зборнік артыкулаў, якія з'явіліся пераважна ў выніку этнаграфічнага вывучэння пасляваеннага быту беларускага народа. Зборнік разлічаны і "на тых асоб, якія пажадаюць заняцца больш глыбокім вывучэннем гэтага пытання ў гісторыі і сучасным жыцці беларускага народа"[280]. Для гэтай мэты прызначана і бібліяграфія літаратуры аб рэлігійных вераваннях і атэізме на Беларусі, якая дадзена ў канцы кнігі.

Рад супрацоўнікаў сектара этнаграфіі праводзілі самастойныя даследаванні па пытаннях рэлігіі і атэізму ў Беларусі. Л. І. Мінько ў працэсе вывучэння народных ведаў апублікаваў шэраг прац аб знахарстве і забабонах[281]. Сярод іх найбольш значнай з'яўляецца праца "Знахарства", у якой аўтар паказвае сутнасць знахарства, характарызуе сродкі, метады і прыёмы лячэбнай магіі, выкрывае шкоднасць знахарства і прапануе метады і формы работы па пераадоленню перажыткаў знахарства.

Праца напісана на вялікім фактычным матэрыяле, сабраным аўтарам у час этнаграфічных экспедыцый, і ў выніку вывучэння літаратуры па пытанню, асабліва фальклорна-этнаграфічных зборнікаў А. Я. Багдановіча, Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, А. К. Сержпутоўскага.

Сярод навукова-даследчых прац, што выйшлі за межамі Беларусі і ў якіх закранаюцца пытанні вераванняў і абрадаў, адзначым даволі грунтоўнае даследаванне С. А. Токарава "Рэлігійныя вераванні ўсходнеславянскіх народаў XIX — пачатку XX стагоддзя".

У кнізе даследуюцца рэшткі дахрысціянскіх вераванняў, што засталіся ў быце рускіх, беларусаў і ўкраінцаў адзначанага перыяду, робяцца спробы праочыць іх генезіс і развіццё, прычыны захавання, а таксама праведзена класіфікацыя дахрысціянскіх рэлігійных уяўленняў усходніх славян.

Язычніцкія вераванні ўсходніх славян аўтар падзяляе на вераванні, якія звязаны з істотамі і прадметамі рэальнага свету: чалавекам, жывёламі, раслінамі, прадметамі нежывой прыроды — агнём, вадою, зямлёю, рознымі рэчамі; дэманалагічныя ўяўленні чалавека — лесавік, палявік, ведзьмы, русалкі, дамавікі, чэрці і г. д.; магічныя абрады і іх віды: лячэбная магія, порча, любоўная магія, гаспадарчая магія і інш.

Адной з задач даследавання С. А. Токарава з'яўляецца ўстанаўленне агульных рыс вераванняў рускіх, беларусаў і ўкраінцаў, якія выцякаюць перш за ўсё з адзінства паходжання ўсходніх славян[282].

[279] Залесский А. И. Об отношении белорусских колхозников к религии и о росте атеизма (по материалам колхоза им. П. Я. Пономаренко Загальского сельсовета Любанского р-на Минской обл.) // Советская этнография. 1957. № 2.

[280] Пытанні рэлігіі і атэізму. Мн., 1960. С. 4.

[281] Минько Л. И. Пережитки знахарства и их вред // Наука и религия. 1964. № 6; Ён жа. Методы и формы борьбы с пережитками знахарства // Фельдшер и акушерка. 1964. № 10; Ён жа. Святая вода. Мн., 1965; Ён жа. Белорусская народная медицина и вред знахарства: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1965; Ён жа. Пережитки лечебной магии и их вред // Быту и культуре села — повседневное внимание. Мн., 1969; Ён жа. Знахарство. Мн., 1971.

[282] Токарев С. А. Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX в. М., 1957. С. 147.

Нельга не адзначыць, што ў працы С. А. Токарава беларускі матэрыял прадстаўлены недастаткова. Не выкарыстаны нават такія буйныя працы беларускіх этнографаў аб вераваннях беларусаў, як "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" А. К. Сержпутоўскага і "Простанародныя прыметы і павер'і" М. Я. Нікіфароўскага. Аб гэтых кнігах няма нават упамінання ў спіску выкарыстанай аўтарам літаратуры.

Спецыяльныя даследаванні сучасным сямейным звычаям і абрадам прысвяціў А. А. Мялешка[283]. Ён паказвае, што сучасная абраднасць народжана самім жыццём.

У беларускай этнаграфічнай літаратуры пэўнае адлюстраванне атрымалі народныя веды і народнае мастацтва.

У даваенны перыяд з'явілася некалькі прац па вывучэнню народнай метэаралогіі. Так, 23 лістапада 1926 г. на Трэцяй акруговай канферэнцыі, якая была склікана Віцебскай секцыяй светазнаўства краязнаўчага таварыства быў заслуханы даклад Васкрасенскага на тэму "Народныя прыкметы аб надвор'і". У дакладзе, у прыватнасці, адзначалася, што членамі секцыі сабрана звыш 200 народных прыкмет, па якіх сяляне падчас даволі дакладна вызначаюць прагноз надвор'я, "у той час як навука б'ецца над высвятленнем гэтага пытання"[284].

Секцыя высока ацаніла даклад Васкрасенскага і вынесла пастанову аб актывізацыі работы па вывучэнню народнай метэаралогіі.

Некаторая праца вялася і па вывучэнню сродкаў народнай медыцыны. Былі распрацаваны інструкцыі па збіранню і вывучэнню іх[285]. З'яўляюцца артыкулы і нават асобныя працы па народнай медыцыне, якія можна падзяліць на два тыпы. У адных проста апісваліся народныя лекавыя сродкі і дзікарастучыя лекавыя расліны, а ў другіх аб іх гаварылася ў сувязі з выкрыццём знахарства. Прыкладам першага тыпу з'яўляюцца працы У. Уладзімірава "Лекавыя расліны ў народнай медыцыне Барысаўскай акругі"[286], В. Ф. Купрэвіча "Лекавыя сродкі ў народнай медыцыне"[287]. Народныя веды асвятляюцца ў працы Л. М. Балкаўца "Дзікарослыя лекавыя і іншыя карысныя расліны БССР" (1932). Прыкладам прац другога тыпу можа служыць артыкул А. Васілеўскага "Беларускія чараўнікі і іх зелле"[288].

У даваенны перыяд вывучалася таксама народнае мастацтва. Народнаму тэатру (батлейцы) прысвяціў рад сваіх артыкулаў Змітрок Бядуля[289], разгляд народных музычных інструментаў быў зроблены М. Прывалавым[290]. Рабіліся спробы вывучэння выяўленчага мас-

---

[283] Мелешко А. А. Семейные тадиции // Подвиг отцов — сыновьям в наследство. Мн., 1967; Ён жа. Вернутае шчасце. Мн., 1968; Ён жа. Фарміраванне новых сямейных звычаяў і абрадаў у Савецкай Беларусі // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1970. № 6; Ён жа. Современная советская семейная обрядность белорусского народа: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1971.

[284] Архіў НАН Беларусі. Фонд Інбелкульта (18), спр. № 21, арх. № 5, л. 87.

[285] Быстроў М. Кароткая інструкцыя, як сялянам-даследчыкам ставіць пачатковыя доследы з лекавымі раслінамі. Мн., 1923; Васількоў У. Г. Як збіраць расліны // Наш край. 1925. № 1.

[286] Наш край. 1927. № 11.

[287] Там жа. 1930. № 4.

[288] Там жа. 1927. № 8—9.

[289] Бядуля З. З нарысаў па гісторыі беларускага тэатра // Вольны сцяг. 1922. № 1; Ён жа. Батлейка // Вестник народного комиссариата просвещения ССРБ. 1922. Вып. 5—6; Ён жа. Беларускі тэатр: І. Пачаткі і асновы беларускага тэатра. ІІ. Жывы каляндар беларускага гадавога круга // Там жа. Вып. 9—10.

[290] Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Кн. 4. Працы кафедры этнаграфіі. Мн., 1928. Т. І, сш. 1.

тацтва[291], арнаменту[292] і музыкі[293]. Усе гэтыя працы носяць пераважна апісальны характар, за выключэннем прац М. Шчакаціхіна, які даволі падрабязна і сістэматычна разглядае гісторыю развіцця беларускага выяўленчага мастацтва ад старажытных часоў да 20-х гадоў XX ст., удзяляючы вялікую ўвагу і народнаму мастацтву.

Значную ролю ў вывучэнні народнага мастацтва адыграла Камісія па гісторыі і мастацтву (створана ў 1926 г.), якую ўзначальваў М. Шчакаціхін.

У першыя пасляваенныя гады па народнаму мастацтву з'явілася некалькі артыкулаў, прысвечаных асобным пытанням ці агляду выставак[294]. Шырокае вывучэнне беларускага народнага выяўленчага мастацтва разгортваецца ў 50-я гады. У гэты час выйшлі з друку два альбомы "Беларускі народны арнамент" (1953) і "Народнае прыкладное мастацтва Савецкай Беларусі" (1958), у якіх прадстаўлены лепшыя ўзоры беларускага народнага арнаменту.

Дзейнасць беларускіх майстроў у Маскве ў XVII ст. ахарактарызавана ў працах С. В. Бяссонава, Л. С. Абецэдарскага і Т. І. Чарняўскай[295].




94. Вокладка кнігі Л. І. Мінько

У вывучэнні беларускага народнага мастацтва ў пасляваенны перыяд многа зроблена М. С. Кацарам (народна-прыкладное і выяўленчае мастацтва)[296], І. М. Ялатамцавай і М. М. Яніцкай (кераміка і шкло)[297], В. І. Ялатавым і

[291] Шчакаціхін М. Беларускае мастацтва ў гістарычнай і археалагічнай літаратуры. Мн., 1927; Ён жа. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. Т. І; Ён жа. Сучаснае беларускае мастацтва. Мн., 1929.

[292] Каспяровіч М. І. Народны арнамент // Віцебшчына. 1923. Т. І; Астрэйка З. А. Беларускі ткацкі арнамент перабіранай і накладной тэхнікі. Мн., 1929.

[293] Бядуля З. Беларуская народная мелодыя // Вольны сцяг. 1921. № 6 (8); Дубоўка У. На шляху беларускай культуры (збіранне народных мелодый) // Савецкая Беларусь, 13 чэрвеня 1923 г.; Дрэйзін Ю. Беларуская музыка // Там жа. 2—4 мая 1925 г.

[294] Гл., напр.: Вольскі В. Слуцкія паясы // Беларусь. 1945. № 10; Абласная выстаўка народнай творчасці ў Гомелі // Літаратура і мастацтва. 1946. № 36; Маслова Г. С. Выставка "Полесское народное искусство и художественные ремесла" // Советская этнография. 1949. № 2.

[295] Бяссонаў С. В. Беларускія мастацкія майстры ў Маскве XVII стагоддзя // Весці АН БССР. Серыя гістарычная. 1947. № 1; Чарняўская Т. Аб дзейнасці беларускіх майстроў у Маскве XVII ст. // Беларускае мастацтва. 1962. Вып. III.

[296] Кацар М. У. І. Ленін у творчасці народных умельцаў // Вобраз Леніна ў беларускім мастацтве. Мн., 1970.

[297] Елатомцева И. М. Белорусская народная художественная керамика и ее традиции в современном декоративно-прикладном искусстве Белоруссии: Автореф. ... канд. дис. Мн., 1964; Яна ж. Художественная керамика Советской Белоруссии. Мн., 1966; Яніцкая М. М. Старажытнае мастацтва шкларобства Беларускага Падняпроўя і Падзвіння // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1970. № 4.



95. Аддзел этнаграфіі ў 1997 г.

З. Я. Мажэйка[298] (народная музыка), А. К. Саннікавым, Г. І. Барышавым[299] і іншымі даследчыкамі[300].

Працы гэтых аўтараў носяць навукова-даследчы характар і глыбока ўскрываюць заканамернасці развіцця беларускага народнага мастацтва.

[298] Елатов В. Ладовые основы белорусской народной музыки. Мн., 1964; Ён жа. Ритмические основы белорусской народной музыки. Мн., 1966; Ён жа. Мелодические основы белорусской народной музыки. Мн., 1970; Можейко З. Песенная культура Белорусского Полесья. Мн., 1971.

[299] Барышаў Г. І., Саннікаў А. К. Беларускі народны тэатр батлейка. Мн., 1962.

[300] Тарасиков Н. Народная деревянная скульптура Белорусской ССР (1945—1955) // Белорусское искусство. Мн., 1957; Алексеев Л. В. Художественные изделия косторезов из древних городов Белоруссии // Советская археология. 1962. № 4; Володько Ф., Леонидов В. Народная ленинниана // Неман. 1969. № 9; Лявонава А. К. Некаторыя пытанні развіцця беларускай культавай драўлянай скульптуры XVII — першай паловы XVIII ст. // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1970. № 4.

У пасляваенны перыяд вялася работа па вывучэнню народных ведаў у галіне метэаралогіі і медыцыны[301]. Найбольш плённа ў гэтай галіне працаваў і працуе Л. І. Мінько. Пачынаючы з 1962 г. з друку выходзіць некалькі яго прац: у 1962 г. — брашура "Народная медыцына і шкоднасць знахарства", у якой толькі закранаюцца народныя веды ў галіне медыцыны; у 1964 г. — брашура "Сродкі

[301] Дворкін М. М., Пёрышкін І. М. Народныя прыкметы і прадказанні надвор'я // Сельская гаспадарка Беларусі. 1959. № 1; Шкляр А. Х. Календарь природы Белоруссии. Мн., 1967; Трен М. Д. Народные способы лечения русских, украинцев, белорусов в XIX веке: Автореф. ... канд. дис. Л., 1953; Грыцкевіч В. З мінулага нашае медыцыны // Полымя. 1969. № 5.

народнай медыцыны ў беларусаў", якая з'яўляецца публікацыяй даклада Л. І. Мінько на VII Міжнародным кангрэсе антрапалагічных і этнаграфічных навук у Маскве (жнівень 1964 г.); у 1965 г. — артыкул "З гісторыі вывучэння беларускай народнай медыцыны"[302] і, нарэшце, у 1969 г. кніга "Народная медыцына Беларусі". Побач з гэтым ён надрукаваў шэраг артыкулаў у газетах і часопісах.

У гэтых працах аўтар разглядае не толькі гісторыю развіцця і вывучэння народных спосабаў лячэння, але і важнейшыя сродкі народнай медыцыны, адзначае найбольш рацыянальныя з іх, падкрэслівае багацце сродкаў і прыёмаў беларускай народнай медыцыны, яе значэнне ў жыцці народа ў мінулым. Л. І. Мінько правільна даводзіць, што "багаты арсенал сродкаў беларускага народа заслугоўвае пільнай увагі сучаснай медыцыны і патрабуе далейшага вывучэння іх як батанікамі-фармаколагамі, так і біяхімікамі і клініцыстамі"[303], а таксама, дададзім, і этнографамі.

[302] Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1965. № 1.

[303] Минько Л. И. Средства народной медицины у белорусов. М., 1964. С. 8.

Побач са сродкамі народнай медыцыны Л. І. Мінько займаецца і вывучэннем народных ведаў беларусаў у галіне аграноміі і метэаралогіі. У 1967 г. ім быў апублікаваны артыкул "Народная мэтэаралогія"[304], у якім аўтар разглядае прыкметы, па якіх народ вызначае надвор'е як на бліжэйшыя дні, так і на год. Падкрэсліваючы рацыянальнасць многіх з іх, аўтар адначасова гаворыць аб магічных прыёмах і засцярогах, звязаных з надвор'ем, якія заснаваны на скажоных, памылковых уяўленнях народа аб прыродзе.

У 70—90-х гадах супрацоўнікі мастацтвазнаўчых аддзелаў Інстытута апублікавалі значную колькасць прац па народнаму мастацтву беларусаў[305].

[304] Пытанні беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі. Мн., 1957.

[305] Леонова А. К. Народная деревянная скульптура. Мн., 1997; Сахута Я. М. Народная разьба па дрэву. Мн., 1978; Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст. Мн., 1978; Назина И. Д. Белорусские народные музыкальные инструменты. Мн., 1979; Сахута Я. М. Беларускае народнае мастацтва. М., 1980; Каладзінскі М. А. Народны тэатр. Мн., 1982; Сахута Я. М. Беларуская народная кераміка. Мн., 1987; Ён жа. Беларуская народная цацка. Мн., 1991; Фадзеева В. Я. Беларускі ручнік. Мн., 1994; Сахута Я. М. Народныя мастацкія рамёствы Беларусі. Мн., 1996.





## ЗАКЛЮЧЭННЕ

На працягу XIX — пачатку XX ст. вывучэнне быту і культуры беларускага народа прайшло складаны шлях ад першых кароткіх этнаграфічных заметак да фундаментальных прац. Калі ў першай палове XIX ст. этнаграфічнае вывучэнне Беларусі праводзілася пераважна польскімі і рускімі даследчыкамі, то на працягу другой паловы гэтага стагоддзя яно пераходзіць да мясцовых сіл.

Аналіз этнаграфічнай літаратуры перыяду крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў Беларусі паказвае, што этнаграфія выкарыстоўвалася рознымі коламі грамадска-палітычных плыняў для сваіх мэт.

Што датычыць методыкі навуковых даследаванняў, то ў гэты перыяд яна яшчэ толькі пачынала распрацоўвацца. Не былі выпрацаваны пэўныя патрабаванні да запісу фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, вялікія недахопы меліся ў этнаграфічных праграмах навуковых устаноў і таварыстваў. Працы гэтага часу ў пераважнай большасці насілі характар гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысаў. Навуковая каштоўнасць іх была крайне абмежаваная.

У першыя два дзесяцігоддзі пасля адмены прыгоннага права ва ўмовах бурнага развіцця капіталістычных адносін этнаграфія Беларусі робіць значныя крокі наперад. Павялічваецца колькасць этнаграфічных даследаванняў як з боку рускіх навуковых колаў, так і з боку мясцовых сіл. Асноўная маса прац гэтага перыяду па быту і культуры народа была напісана з пазіцый міфалагічнай школы.

Палажэнні міфалагічнай школы ў гэты час падвяргалі рэзкай крытыцы рэвалюцыйныя дэмакраты, асабліва Чарнышэўскі і Дабралюбаў. Трыбунай прапаганды рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй быў часопіс “Современник”. Іменна ў гэты час Чарнышэўскі, Дабралюбаў і Пыпін выпрацавалі асноўныя патрабаванні да этнаграфіі як навукі і далі адказ грамадству, як трэба разумець этнаграфію.

Многае каштоўнае, што з’явілася ў этнаграфічных працах было заслугай рэвалюцыйных дэмакратаў, якія дапамагалі даследчыкам быту крытычна адносіцца да палажэнняў, пануючых у той час у этнаграфіі.

У Беларусі пад уплывам палітычных і рэвалюцыйных падзей 1863 г. этнаграфічныя даследаванні мелі своеасаблівы характар. У 60-х гадах беларуская этнаграфія набывае вострую палітычную тэндэнцыйнасць. Таму побач з матэрыяламі, якія адлюстроўвалі патрабаванні міфалагічнай тэорыі, з’явіўся шэраг прац па пытаннях складу насельніцтва Беларусі і яе этнаграфічных межаў.

У 80—90-х гадах XIX — пачатку XX ст. беларуская этнаграфія ўзнімаецца на новы ўзровень. Разгортваюць навуковую дзейнасць беларускія этнографы М. Я. Нікіфроўскі, Я. Ф. Карскі, Е. Р. Раманаў, А. Я. Багдановіч, М. В. Доўнар-Запольскі, П. В. Шэйн, Е. А. Ляцкі, П. П. Дземідовіч і многія іншыя. Яны апрацавалі і выдалі багацейшыя матэрыялы па быту і культуры беларускага народа. Публікацыі вучоных-этнографаў у выданнях і перыядычным друку навуковых устаноў, а таксама ў цэнтральным і мясцовым друку ў сваёй агульнай масе стварылі надзейную базу для навуковых даследаванняў разнастайных галін быту і культуры беларусаў. У далейшым яны ляглі ў аснову навуковых даследаванняў Я. Ф. Карскага. Большасць сабраных этнаграфічных матэрыялаў не згубіла сваёй каштоўнасці і ў наш час для даследчыкаў гісторыі быту і культуры беларускага народа, для вывучэння культурнай спадчыны мінулага.




96. Супервокладка кнігі

У параўнанні з мінулымі дзесяцігоддзямі ў 80—90-х гадах этнаграфічныя працы былі выкананы на больш высокім навуковым узроўні. У гэты час робяцца першыя спробы даследавання сабраных матэрыялаў, навуковага аналізу іх, а таксама спробы стварэння гісторыі этнаграфіі. Значныя змены наглядаюцца ў вывучэнні матэрыяльнага быту народа, шырэй даследуюцца сямейныя ўзаемаадносіны, звычаёвае права, грамадскі і вытворчы быт. Па матэрыяльнаму быту з'яўляецца першая капітальная праца — "Нарысы простанароднага жыцця-быцця Віцебскай Беларусі" М. Я. Нікіфароўскага, працы Е. Р. Раманава і інш. Аднак па-ранейшаму большасць прац па этнаграфіі прысвечана духоўнай культуры народа — вераванням, абрадам, фальклору.

Працы па быту і культуры дарэвалюцыйных этнографаў у лепшым выпадку аб'ектыўна адлюстроўвалі жыццё народа, паказвалі ўзровень яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. Прагрэсіўная частка этнографаў разумела неабходнасць карэнных змен існуючых парадкаў, спачувала цяжкаму лёсу народа, але не бачыла сапраўднага шляху вызвалення ад сацыяльнага і духоўнага прыгнёту. Усе свае надзеі яны ўскладалі на асвету — у пад'ёме адукацыі і культуры народа да ўзроўню пануючых класаў яны утапічна спадзяваліся ў будучым убачыць раўнапраўных пана і селяніна.

Нягледзячы на ўсе недахопы, этнаграфічныя працы другой паловы XIX — пачатку XX ст. адыгралі вялікую ролю ў культурным развіцці Беларусі.

Этнаграфія ў дарэвалюцыйны час аб'ядноўвала некалькі навук — уласна этнаграфію (быт народа), фалькла-




97. Супервокладка кнігі

рыстыку і мовазнаўства. Яна зрабіла жыватворны ўплыў на развіццё беларускай прафесійнай літаратуры. Этнаграфічныя даследаванні садзейнічалі больш паспяховаму развіццю і іншых гуманітарных навук, што ўплывала на агульны стан культурнага развіцця Беларусі.

Сваёй плённай дзейнасцю этнографы Беларусі прапагандавалі культуру беларускага народа, шматтомныя фальклорна-этнаграфічныя зборнікі адлюстроўвалі шматграннае жыццё народа, багацце народнай вуснапаэтычнай творчасці, чым абвяргалі антынавуковыя погляды на творчыя магчымасці беларусаў, ставілі іх у адзін рад з іншымі народамі свету.

На глебе этнаграфічнага вывучэння Беларусі мацнелі агульнаславянскія культурныя сувязі. Гэтаму садзейнічалі працы прагрэсіўных і дэмакратычна настроеных этнографаў Расіі, Беларусі, Украіны і Польшчы.

Этнаграфічнае вывучэнне беларускага народа ў савецкі час прайшло два перыяды: даваенны і пасляваенны. У кожным з гэтых перыядаў у сваю чаргу можна выдзеліць два этапы. У даваенны перыяд асобнымі этапамі вызначаюцца 1917—1930 і 1931—1941 гг., у пасляваенны — 1945—1956 гг. і сучасны этап (пачынаючы з 1957 г.).

Гэтыя перыяды і этапы характарызуюцца сваімі асаблівасцямі, яны адпавядалі пэўным перыядам грамадска-палітычнага і навуковага жыцця краіны.

Сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа, якое адбылося ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, узняло да актыўнай творчай дзейнасці мільённыя масы працоўных краіны. У выніку ломкі старых сацыяльна-эканамічных, палітычных і прававых асноў і замены іх новымі перад грамадскімі навукамі, у тым ліку і перад этнаграфіяй, паўсталі актуальныя задачы. Этнографам трэба было прааналізаваць працэсы, якія адбываюцца ў быце і культуры народа.

Кастрычніцкая рэвалюцыя абудзіла ў шырокіх колах грамадства вострую цікавасць да пазнання навакольнага жыцця. Адным з паказчыкаў гэтага з'явіўся краязнаўчы рух, перад якім паўсталі задачы глыбокага вывучэння ўсяго комплексу грамадскага і эканамічнага жыцця краіны — прыродных умоў, сацыяльнай структуры грамадства, гісторыі народа, яго мовы, быту і культуры. Беларусь пакрылася шырокай сеткай краязнаўчых арганізацый і музеяў. Этнаграфічныя даследаванні займалі ў краязнаўстве адно з вядучых месц.

Вялікую ролю ў развіцці этнаграфіі адыграла стварэнне Інстытута бела-

рускай культуры, у якім побач з прадстаўнікамі іншых навук былі сканцэнтраваны кваліфікаваныя кадры этнографаў. Дзякуючы гэтаму навуковаму цэнтру ў 20-я гады апублікавана значная колькасць прац па быту і культуры беларускага народа. Інбелкульт практычна кіраваў і ўсёй працай краязнаўчых арганізацый і музеяў Беларусі. Аднак на грэбні высокай хвалі навукова-грамадскага руху паступова ўтваралася і нездаровая пена нацыяналістычнай тэндэнцыйнасці.

30-я гады не далі значных прац у галіне вывучэння быту беларускага народа. Прыкладна да сярэдзіны гэтага дзесяцігоддзя ішлі вострыя дыскусіі па пытаннях задач і месца этнаграфіі сярод іншых навук.

У даваенны перыяд склаліся асноўныя аспекты этнаграфіі Беларусі. Даволі інтэнсіўна ў 20-я гады ішло вывучэнне матэрыяльнай культуры, вытворчага, сямейнага і грамадскага быту беларускага сялянства, яго звычаяў, абрадаў, вераванняў, а таксама народных ведаў. Аднак развіццё навукі насіла больш колькасны характар.

Пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў паступова пачала наладжвацца праца ў галіне этнаграфічнай навукі. Пры Інстытуце гісторыі АН БССР быў адноўлены сектар этнаграфіі і фальклору.

З сярэдзіны 50-х гадоў разгарнулася актыўная работа па падрыхтоўцы маладых спецыялістаў. Асабліва гэта праявілася пасля стварэння ў сістэме Акадэміі навук БССР Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (1957). Стварэнне інстытута, а ў ім асобнага сектара этнаграфіі з'явілася новым этапам у развіцці беларускай этнаграфічнай навукі.

З канца 50-х гадоў разгортваецца сістэматычнае і паслядоўнае вывучэнне як этнічнай гісторыі беларускага народа, так і асноўных аспектаў яго быту і культуры. У апошні перыяд развіцця беларускай этнаграфіі выходзяць з друку найбольш значныя працы па этнагенезу беларусаў, матэрыяльнай і духоўнай культуры сельскага і гарадскога насельніцтва рэспублікі, а таксама па гісторыі беларускай этнаграфіі.

З 1991 г. этнолагі Беларусі распачалі падрыхтоўку шматтомнага абагульняючага выдання "Беларусы". Яно мае на мэце ахапіць усе бакі жыццядзейнасці беларусаў з глыбокай старажытнасці да нашых дзён. Кожны том гэтай серыі будзе прысвечаны пэўнаму аспекту этнічнай гісторыі беларускага народа, яго вытворчай дзейнасці, матэрыяльнай і духоўнай культуры, сямейнага і грамадскага побыту. Першыя два тамы "Беларусаў" ужо апублікаваны[1]. Зараз аднachасова вядзецца праца па падрыхтоўцы тамоў "Этнагенез і этнічная гісторыя", "Народная кулінарыя", "Сям'я і сямейны побыт" і інш.

---

[1] Беларусы. Т. 1: Прамысловыя і рамесныя заняткі. Мн., 1995; Т. 2: Дойлідства. Мн., 1997.

